4С(Бел)
Н30

Рэдактары:
Л. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук
Ф. Д. Клімчук, В. Б. Хацкевіч, І. В. Шадурскі

**Народная** словатворчасць. (Рэд. А. А. Крывіцкі,
Н30 І. Я. Яшкін) — Мн.: Навука і тэхніка, 1979.—336 с.

Кніга змяшчае падборкі мясцовых народных слоў з розных месц Беларусі. Слоўнічкі аформлены ў выглядзе артыкулаў, ілюстраваны цікавымі прыкладамі. Частка артыкулаў уключае тэматычныя групы мясцовых назваў прадметаў і з'яў народнага быту.
Разлічана на моваведаў, літаратараў, этнографаў і інш.

Н $\frac{70106-102}{М316-79}$ 50—79 4602020000 4С(Бел)

# АД РЭДАКТАРАЎ

У новым лексічным зборніку працягваецца публікацыя падборак рэгіянальных беларускіх слоў, характэрных для гаворак розных месц рэспублікі. Але ў адрозненне ад папярэдніх зборнікаў («З народнага слоўніка, 1975; «Народнае слова», 1976; «Народная лексіка», 1977; «Жывое слова», 1978) гэта кніга змяшчае многа матэрыялаў, якія раскрываюць шляхі і спосабы папаўнення слоўніка дыялектнай мовы (словаўтварэнне, запазычанне слоў і інш.).

Аўтарамі артыкулаў, змешчаных у гэтай кнізе, з'яўляюцца пераважна ўдзельнікі папярэдніх лексічных зборнікаў, якія працягваюць знаёміць з лексікай гаворак сваіх родных мясцін. Пятую падборку слоў, характэрных для гаворкі в. Бержна Карэліцкага раёна, дае І. І. Крамко. Лексіка гаворак Стаўбцоўшчыны мае вялікую цікавасць для вывучэння вытокаў слоўніка мовы народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Трэцюю нізку мясцовых слоў, выбраных з гаворкі в. Чамяры Слонімскага раёна, блізкай да гаворак Стаўбцоўскага раёна, змяшчае таксама І. П. Чыгрын. Асаблівыя па зместу лексічныя публікацыі Г. Ф. Юрчанкі ў зборніках. Яны раскрываюць цяжкадаступныя, калі так можна сказаць, а таму малавывучаныя пласты лексічных сродкаў народнай мовы. Пастаянным удзельнікам зборнікаў з'яўляецца М. Н. Крыўко, які працуе над дыялектным слоўнікам Міёрскага раёна. Са сваёй картатэкі для слоўніка ён зрабіў пяць вельмі цікавых лексічных выбарак. Публікавалі таксама ў папярэдніх зборніках матэрыялы па лексіцы сваіх гаворак І. І. Лучыц-Федарэц, П. А. Міхайлаў, А. М. Прышчэпчык, В. І. Рагаўцоў, М. А. Саскевіч, П. У. Сцяцко, Т. М. Трухан, А. К. Усціновіч, Г. А. Цыхун і інш.

Некаторыя ўдзельнікі гэтага і папярэдніх зборнікаў змяшчаюць свае матэрыялы па лексіцы, сабраныя імі ў

розных месцах Беларусі (у час дыялекталагічных экспедыцый і інш.). У такіх падборках словы падаюцца пераважна ў парадку дапаўнення да вядомых дыялектных слоўнікаў або іншых збораў лексікі па пэўным рэгіёне.

Большасць аўтараў артыкулаў зборніка — гэта даследчыкі беларускай мовы з Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Але прыемна адзначыць, што ўдзельнікамі яго з'яўляюцца таксама мовазнаўцы — выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, навуковыя супрацоўнікі іншых інстытутаў АН БССР, настаўнікі, аматары роднай мовы.

Кніга знаёміць з калектыўнай працай па лексіцы дыялектнай мовы; супрацоўнікі кафедры беларускай мовы Магілёўскага педінстытута М. А. Абабурка, Л. І. Аляксеенка, М. П. Луферава, У. А. Лядоўскі падаюць некаторыя матэрыялы з рыхтуемага імі выпуска абласнога слоўніка Магілёўшчыны.

Структура кнігі такая ж, як і папярэдніх зборнікаў. Артыкулы аб'яднаны ў два асноўныя раздзелы. Заключны раздзел складаюць два артыкулы пра вывучэнне рэгіянальнай лексікі. Кніга мае таксама індэкс слоў, якія разглядаюцца ў артыкулах.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

абразл. — абразлівае
адз. — адзіночны лік
асудж. — асуджальнае
безас. — безасабовы
выкл. — выклічнік
груб. — грубае
гумар. — гумарыстычнае
дзеепрым — дзеепрыметнік
дзеясл. — дзеяслоў
дзіц. — дзіцячае
ж. — жаночы род
жарт. — жартоўнае
займ. — займеннік
зак. — закончанае трыванне
зборн. — зборны
здзекл. — здзеклівае
злучн. — злучнік
зневаж. — зневажальнае
іран. — іранічнае
ласк. — ласкальнае
ліч. — лічэбнік
м. — мужчынскі род
мн. — множны лік
н. — ніякі род
наз. — назоўнік
незак. — незакончанае трыванне
непахв. — непахвальнае
павеліч. — павелічальнае
пагардл. — пагардлівае
пахв. — пахвальнае
перан. — пераноснае значэнне
прым. — прыметнік
прыназ. — прыназоўнік
прысл. — прыслоўе
рэдк. — рэдкаўжывальнае
спагадл. — спагадлівае
узмацн. — узмацняльнае
уст — устарэлае
часц. — часціца
экспр. — экспрэсіўнае

*Л. М. Салавей*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ НАВАСЁЛКІ МЯДЗЕЛЬСКАГА РАЁНА

Гаворка в. Навасёлкі фанетычна нічым не адрозніваецца ад гаворак іншых сёл Нарачанскага краю і толькі ў лексіцы заўважаюцца некаторыя разыходжанні. Найбольш прыкметнымі яе асаблівасцямі з'яўляюцца канчаткі *-ець, -эць, -іць, -ыць* у дзеясловах першага спражэння трэцяй асобы адзіночнага ліку: *пяець, бярэць, нясець, чытаіць, шыіць, пішыць;* выпадзенне *г* у пачатку слова перад *а: аспадар, аспадыня, аспадарка, актар;* форма роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду займеннікаў: *мой, твой, свой, той, ён — майга, твайга, свайга, тага, яга;* паслядоўнае ўжыванне прыстаўнога *і* ў пачатку слоў: *ісподак, ісьліва, ізруб, ізноў, ізьеў* і інш.; выпадзенне *ц* у канцы слоў пасля мяккага *с: есь, ёсь, шэсь, новась, пошась, аддась* і інш.

Лексіка в. Навасёлкі характэрна для паўночнай Мядзельшчыны, якую называюць «заполлем», у адрозненне ад другой палавіны пад назвай «бор». Паводле мясцовага падання, у бары жывуць «каралеўцы», нашчадкі дзяржаўных сялян, што не адбывалі паншчыны, належылі непасрэдна каралю. У баравых каралеўцаў захаваўся багаты фальклор, архаічныя рысы ў побыце, мове. Так, у Навасёлках кажуць *пяколак,* а ў «бары» — *прымурак* і адпаведна *пячурка — пяколак, сьвіран — клецъ, сені — прывен, варыўня — істопка, зэдлік — услон, баравікі — бярвякі, яйка — яйко, лыжка — ложка, кветы — краскі, бульбянкі* (піражкі з тоўчанай бульбы і мукі) — *куракі, хвартух — перадпік, падвей* (расліна) — *кунашка, кашуля — сарочка* (іспод.), *бабуля — баба* (унуку), *дзядуля — дзед* (унуку), *бульбу садзіць — сеіць, бульбу выбіраць — капаць* і інш. У падборку ўключана частка мясцовых слоў, якія не зафіксаваны «Беларуска-

рускім слоўнікам» (1962) або маюць у ім паметы «абласное», «простанароднае», «размоўнае».

АБЯРТНЯ′ *ж.* Луста хлеба, адрэзаная праз увесь бохан. *Абяртню хлеба ізьеў, а ўсё яму мала. Добрая скібачка, калі цэлая абяртня.*

АЖЫРГА′ЦЬ *зак.* Асядлаць. *Як былі малыя, дык коні ажыргаім і ляцім навыперадкі на начлег.*

АКЛА′ДЗІНЫ *толькі мн.* Від талакі, калі загадзя падрыхтаваны зруб перавозяць на пастаяннае месца, складаюць на падмурку, імшаць. *Радня як зьехалася ў акладзіны, як далі сілы, за дзень хату зьімшылі, толькі страху ня ўсьпелі накрыць.*

АПЯША′ЛЫ *прым.* Нядбайны чалавек. *Аспадар яе быў надта апяшалы, ніколі ўпару жыта ні пасеіў.*

АРБА′ *ж.* Аранне. *Сёлята арба лягкáя, дажджы ішлі, зямля ня ўсохла яшчэ. А прыехаў міляянькі з работкі з арбы, а я, маладзюсянька, з карчомкі з гульбы* (З нар. песні).

АРО′МЫ *прым.* Гужавы. *Прынясі хамут аромы, паеду бульбу абганяць.*

АРТА′Й *м.* Араты. *Маладзенькі яшчэ хлапчына, які зь яго артай. Артаі сабраліся, паселі на мяжы, а коні распрагліся, пайцякалі.*

АТУМЫСЛО′ВА *прысл.* Спецыяльна, толькі дзеля гэтага. *Атумыслова езьдзіла ў Мядзіла купляць боты.*

АТЫМА′ХА, АТЫ′МАЛКА *ж.* Сціркa, якой бяруць гаршкі. *Вазьмі атымаху, бульбу адцадзі, зварылася ўжо. Ці хвартух, ці атымаха — ні пазнаіш у яе, усё аднальковa.*

АШЧАРЭ′ПІЦЦА *зак.* Абхапіць рукамі што-небудзь, моцна абняць. *Унучык мой з рук ні злазіць, за шыю ашчарэпіцца — ні адарвеш.*

БА′ВІЦЬ *незак.* Апавядаць, расказваць. *Суседка мне бавіць, што ўчора на вечарынах было. «Бабуля, збаў басьню.» — «Ну, слухай: баўлю, баўлю басьню, палез кот на лазьню...»*

БА′РЗДА *прысл.* Надта, вельмі (толькі ў выразах з адмоўем *не*). *Сёлета бульба ні барзда ўрадзіла, суха было зь вясны. Дзяўчына то, як квятка, толькі да работы ні барзда рупная.*

БЕЛАЗО′РЫ *прым.* Чалавек з вялікімі светлымі вачамі. *Мой пляменнік белазоры быў, вочы вялікія і бялкі надта белыя.*

БІЖМАВА́ЦЬ *незак.* Абзываць усялякімі словамі, лаяць. *Я ўжо чаркі ў рот ні бяру, бо як дзе трапіцца, то хоць дамоў ня йдзі, цешча з жонкай як пачнуць біжмаваць.*

БРЫ́КА *ж.* Прыстасаванне ў выглядзе клеткі, якое ставяць на воз, каб зручней было вазіць сена, салому. *Брыкай лягчэй і спраўнéй вазіць, толькі кладзі і тапчы, ні вяровак ня трэба, ні парубня.*

БРЫ́НДЫ *толькі мн.* Махры. *Настольнік зарубіла, яшчэ брынды пачапáць засталося. Завяжы цёплую хустку, тую, што з бryндамі.*

БУРВА́ЛАК *м.* Сухі астравок сярод балота ці на вільготнай сенажаці. *Даўней і на балоце касілі. На бурвалку якім, дзе сушэй, зробім стажáр'я і стог зложым.*

ВАГА́Н *м.* У выразе: «Цяжкі, як ваган» (пра дзіця). Відаць, гіра.

ВАГКІ́ *прым.* Прадмет або матэрыял са значнай удзельнай вагой. *Сямення вагкоя, бо яшчэ ня сушаная. Слояк мёду хоць і ні вялікі, а ў руках вагкі.*

ВА́ДКА *ж.* Сварка. *Хоць і кажуць, што німа тэй хаткі, каб ні было вадкі, алі ж мы ні вáдзімся. А даўней усяк было, і вадка, і благата.*

ВАЗА́К *м.* Падводчык. *Надумаліся мы ў млын ехаць, нешта вазакоў зь дзесяць сабралася.*

ВАЖТА́Й *м.* Возчык у талацэ (звычайна падлетак). *Чатырнаццаць гадоў хлапцу, самы важтай. Нашы важтаі так напрацаваліся, што вячэры ні даждалі, паснулі.*

ВАРАЗГІНЯ́ЦЬ *незак.* Балбатаць абы-што (пра п'янага). *Нап'ецца, а тады варазгіняіць, слухаць абрыдаіць.*

ВАРЗГО́ЛІЦЦА *незак.* Боўтацца ў страве, неахайна есці, размазваць (пераважна пра дзяцей). *Брыдка глядзець, як гэта пястуха варзголіцца ў місцы, а ня есь.*

ВЕ́Я *ж.* Мяцеліца. *Дамоў з лесу ехалі, а тут як узнялася вея, сьнег пашоў, сьцямнела, чуць ні зблудзілі.*

ВО́ДЗАЎКІ *толькі мн.* Рэха. *У новай вялікай хаце загаворыш — водзаўкі йдуць. Станім у лесе перагукавацца — атусюль водзаўкі лятуць.*

ВО́ДРА *ж.* Адзёр. *Мае дзеці як на водру хварэлі, то ня елі нічагуткі, толькі піць увесь час прасілі.*

ВО́ТАРАП *прысл.* Не шчыльна (пра салому, сена, адзенне). *Саломы брыку вотарап наклалі, каб добра патапталі, то з паўбрыкі ці было б.*

ВУ'РВАЛКА *ж.* Цацка з костачкі і ніткі, якая пры пацягванні за канцы ніткі круціцца і вуркоча. *Мамачка, як дастаніш костачкі з квашыніны, зрабі мне вурвалку.*

ВУ'РЗНУЦЬ *зак.* Кінуць; адказаць злосна. *Вурзнула рушнік яму ў твар. Маўчыць, а тады як вурзніць слова, хоць з хаты ўцякай.*

ВУРЫ'ЦЬ *незак.* Прагавіта і хутка есці з міскі. *Выгаладаўся, капусту па поўніцы вурыць.*

ВЯ'РГАЦЬ, ВЯ'РКАЦЬ *незак.* Гаманіць (пра гаворку ці спрэчку людзей, якая чуецца здалёк, калі слоў не разабраць). *Чуў, што дзеці вяргалі на дарозя, а што там рабілася, ня ведаю. Ні вяргай там, падыдзі бліжэй, бо ні чуваць нічога.*

ГАДЗІ'ЦЬ *незак.* Дагаджаць. *Сёлята дож гадзіць: тады йдзець, як ён моцна патрэбен. Нявестка свякроўцы мусіла гадзіць.*

ГАРКАЯ'ЦЬ *ж.* Гаркота, горыч. *Далі мне зелля, такая гаркаяць, што аж страсаіць, як уздумаю піць.*

ГІ'ГІ *толькі мн., абразл.* Ногі. *Адчапіся, ато як дам, дык і гігі задзярэш!*

ГІРДО'СІЦЬ *незак.* Невыразна гаварыць (найчасцей пра малых дзяцей). *Што ён гірдосіць, пузыр гэты малы, толькі бабуля яго разбіраіць.*

ГЛУМ *м.* Насмешка. *Кажы на глум—дурань бярэць на вум* (прыказка).

ГРЭ'ЗНІЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што. *Ат, боўдзіла дурноя, грэзніць нітведама што.*

ГУ'БА *ж.* 1. Рот. *Якая пара ўжо, а я яшчэ і крышонкі ў губе ня меў.* 2. Грыб на бярозе. *Губу з попелам варылі, сушылі, трут рабілі да крэсіва.*

ГЭ'НАМ *прысл.* Там. *Гэнам каля лесу даўней хутар быў. Гэтта бульба пасаджана, а гэнам — канюшына.*

ГЭ'НЫ *займ.* Той. *Пастаў гэты кошык, ён зацяжкі, гэны вазьмі, па тваей сіля.*

ГЭ'ТТА *прысл.* Тут. *Едзь смела, гэтта лёд яшчэ моцны, а во гэнам ужо бераг пачнецца.*

ДЗЯ'ЛКА *ж.* Участак сенакосу, пасеваў. *Буракі на тваей дзялца пырнікам зарасьлі, як ты іх і апратаіш.*

ДРАБНАСЛО'Й *м.* Драўніна з тонкімі гадавымі слаямі. *Падлога добрая з драбнаслою напілавалі дошчак.*

ДРУЖА'К *м.* 1. Другі рой за лета з адной сям'і. *Гэты рой дружак, сямейка слабая будзіць.* 2. *Перан.*

Жаніх-удавец. *Жаніх ня шпэтны, адна ганьба, што дружак.*

ДУ'ДКА *ж.* 1. Пладаножка. *Шчыпалі вішні з дудкамі, а дома перабіралі.* 2. Полая сцябліна. *Пракалола нагу, ступіла босая на пянёк нейкай скошанай дудкі.*

ДУ'ЛЬКА *ж.* Пыл, які ўтвараецца пры апрацоўцы лёну. *Тры тыдні кросны тчом, хата ўжо дулькаю зарасла.*

ДУМА' *ж.* Клапатлівая думка, трывога, бяда. *Нявестка худая і хоўлі ні бярэць, усё яе нейкая дума есь.*

ДУМАЎЁ *н.* Дамавіна. *Даўней у думаўё разам зь нябошчыкам клалі люльку, крэсіва, жменьку табакі, а то і пляшку гарэлкі, каб на тым сьвеця мей тое, што й на гэтым.*

ДЫ'ЛЬГАЦЦА *незак.* Ісці няцвёрдым крокам, прытанцоўваючы. *Дыльгаўся, дыльгаўся ён на дарозе, пакуль сын у хату ні завёў.*

ДЭ'РБІНА *ж., зневаж.* Вялікая худая жывёліна. *Запрагай сваю дэрбіну і грымі ў сваты.*

ДЭ'САНЬ *м.* Узор (тканы, вышываны, зроблены кручком і інш.). *І мне мама выткала зялёны дыван, толькі ня гэткім дэсанем, як у вас.*

Е'ШЧЫ *прым.* Непераборлівы ў ядзе. *Парсючок удаўся такі ешчы, што ні дай, усё чысценька зьесь.*

ЖМА'КА *ж.* Вільготнае месца на лузе. *Думала, па суху пірайду, аж на жмаку трапіла, тапкі намачыла.*

ЖЫРГА'ЦЬ *незак.* Пераступаць праз нешта. *Нанясуць у хату галля на венікі, то надаесь жыргаць, ходзячы.*

ЗАГАБЭ'НІЦЬ *зак.* Нахабна штосьці захапіць. *Хто дужэйшы ды сьмялейшы, той і большы кус сабе загабэніць.*

ЗАДЗЕ'КА *ж.* Перашкода, турбота, клопат. *Ні ў грыбы, ні ў ягады ня сходзіш сёлята праз гэну задзеку. Сена тут на дзьве вязкі, а ўсё ж задзека, ня хочыцца, каб дож намачыў.*

ЗАЙМА'ЦЬ *незак.* Перашкаджаць. *Крэслы папрымай, каб ні займалі падлогу мыць.*

ЗАКА'ЛА *м.* і *ж.* Помслівы чалавек. *Ён такі закала, што раз ні па яго вышла, дык век помніць будзіць.*

ЗАКАЛАЦІ'ЦЬ *зак.* Падмяшаць мукі ў страву. *«Матыль, матыль, дай мукі закалаціць буракі»* (дзяціная песенька, як першы раз вясной убачаць матыля).

ЗА'СМАРГА *ж.* 1. Спосаб завязвання вузла. *Завязавай на засмаргу, ато вяроўка намокніць, ні разьвяжыш.* 2. Пятля. *Так часам ён мне дапячэць, што хоць ты засмаргай засмаргніся.*

ЗА'СЯДАК *м.* 1. Наседжанае яйка. *Крушыньку яяк знашла ў чарнобылі і ўсе свежыя, ні аднага засядка.* 2. Дзяўчына, якая доўга не выходзіць замуж. *Ажаніўся ўжо наш сусед, папаўся і яму нейкі засядак.*

ЗАТО'Н *м.* Нораў, звычка. *Карова і тая свае затоны маіць: нашай ні дай травы, дык малака ні аддась.*

ЗБАНІТАВА'ЦЬ *зак.* Зганіць, абняславіць. *Збанітавалі хлапца, а што ён вінаваты, ён бацькоў ні пірастроіць.*

ЗБЫ'ТКІ *толькі мн.* Раскоша, лішнія траты. *Нашто такія збыткі — па два грыбы ў капусту* (прымаўка).

ЗГРА'ГАЦЬ *зак.* Стаптаць у гразь, змясіць зямлю. *Коні выган так зграгалі, што ўжо і трава там ні расцець. Каровы ў бацьвіньня ўпалі, што зьелі, а што так зьмясілі, зграгалі.*

ЗНО'ДАЦЬ *зак.* Сапсаваць, знішчыць. *Усе журавіны знодалі, ня столькі пазьбіралі, колькі патапталі.*

КІ'ТКА *ж.* Снапок бабовых, звязаны з дзвюх частак, прызначаны для сушэння надзетым на жэрдку. *Сачыўку ў кіткі павязала ды на шасток пад застрэшшам пачапала.*

КЛЫША'ВЫ *прым.* Касалапы. *Ён быў трохі клышавы, хадзіў неяк няпекна, алі з яга ніхто ні сакпіў.*

КЛЯ'ТЫ *толькі мн.* Праклёны. *«Каб твае кляты ды табе ў пяты»* — праклён супраць праклёну.

КРУ'ГЛІЦА *ж.* Гаспадарчая пабудова квадратнай формы. *Зрубіў круглліцу на варыўню, аж цяпер за хату служыць яму.*

КРЫПА'ЦЬ *незак.* 1. Блытаць валасы, ніткі, валакно, збожжа. *Ня можна, дзеткі, ніткі крыпаць, гэта вам ні цацка.* 2. Плесці абы-як. *Наш дзед ні сядзіць рукі злажыўшы, то хвораст сячэць, то кошык крыпаіць.*

КУБЕ'ЛЬНІК *м.* Вясельны чын, той сват, што вязе кубел (куфар, шафу) маладой у дом маладога. *Кубельнік усягды ехаў памалу, каб дабро ні растрасці, вот і сталі казаць на тых, што памалу ехалі: «едуць, як кубельнікі».*

КУ'КА *ж.* 1. Доўбня, якой разбівалі груды на полі, утрамбоўвалі гліняную падлогу, збівалі печ. *Аспадарлі-*

вы ён быў, працавіты: дзе на пагурачку гліна ўсохне, дык ён кукай паразбіваць. 2. Скалечаная рука (абрубак). *Што ён цяпер за работнік з сваей кукай, добра, што парадку дома дагледзіць.*

КУРА'К, КУРАЧО'К *м.* Малы боханчык хлеба з паскрэбкаў цеста. Звычайна прызначаўся дзецям, давалі яго таксама жабракам. *Сабрала свайму пастушку лусты ў поля: курак свежы ладны, масла, кавалак сыру і бутэльку малака. «Я курачок смачан, у муку пакачан, сырам зьбіты, маслам зьліты, макам перабрытаны».*

КУ'ТНІК *м.* Чалавек, што жыве ў чужой хаце ў падсуседзях, займае кут. *Бацька іх бедны быў, доўга кутнікам сядзеў у сваякоў.*

ЛАДДЗЯ' *ж.* Лодка з дошак. *На ладзьдзі праз возяра навят сена перавазілі.*

ЛАЗЬБАВА'ЦЬ *незак.* 1. Падглядаць пчол. *Скора ўжо пчол будзім лазьбаваць, мёду ўволю пад'ясьцё.* 2. *Перан.* Рабаваць. *Прышлі ноччу, як нас дома ні было, ну і лазьбавалі, як хацелі.*

ЛУ'БКА *ж.* Сявенька. *Даўней як сеілі — лубку на плячо і памажы божа. Лубка пшоннай мукі спатрэбілася на пірагі к вялікадню.*

ЛУДЗІ'ЦЬ *незак.* Маніць. *Гэты чалавек маніць, лудзіць, толькі веры яму ніхто ні даець.*

ЛЫ'БАРЫЦЬ *незак.* Хлусіць, плесці нешта незразумелае, неверагоднае. *Ці варта тоя слухаць, што ён лыбарыць, зрэнкі заліўшы.*

МАКРЫЯ'ЦЬ *ж.* Макрэча (пра пагоду). *Такая макрыяць сёлята, дажджы, туманы, у агародзя, як у возяры.*

МАНІ'ЦЦА *незак.* Збірацца, планаваць. *Манілася на Мая сястру адведаць, аж яна сама прыехала.*

МАНКЕ'Т *м.* Манжэта. *Манкет у кашулі пранасіўся, залатаць трэба. Рукавы без манкетаў ні люблю, з манкетамі цяплей.*

НАВІНА' *ж.* Страва, ежа першы раз у сезоне. *Учора шчаўя зварыла, захацелася навіны. Дзяцей вучылі, што перш чым з'есці навіну, трэба прамовіць: «Навіна ў рот, здароўя у жывот, мядзьведжа сіла, заяччы паварот».*

НА'ВУЗА *ж.* Аснова для пчаліных сотаў, выробленая штучна. *Штучную навузу заставілі ў рамовік, усё ж пчолкам мені работы будзіць.*

НАДЫХА'НКА *ж.* Хлеб з цеста, замешанага грэцкай мукой на аржаной рашчыне. *Надыханку бралі на ніву, з кіслым малаком яе елі.*

НАПРАБІЦЦЁ *прысл.* Напралом. *Куры разбэсьціліся, напрабіццё ў ячмень лезуць, рады німа.*

НАРО'ШЧЫ *толькі мн.* Прыступы. *Зуб разбалеўся, учора трыма нарошчамі як уздымецца боль, вытрываць няможна.*

НАРУ'ЧНІКІ *м.* Рукавіцы без пальцаў, толькі на запясце. *Наручнікі даўней насілі каля работы, пальцы вольныя, і ў рукі ўсё ж ні так холадна.*

НАСТАЯ'ШЧА *прысл.* Досыць многа. *Грыбоў настаяшча назьбіралі, і марынавалі, і на смажонку асталося.*

НІВІРУ'ТНЫ *прым.* Несусветны. *Злодзей і гультай ён нівірутны, нідзе ў сьвеце такога німа.*

НІПРЫЛЮ'ДАК *м.* Маўклівы дзікаваты чалавек. *Хай сядзіць адзін ніпрылюдак гэты, зь людзьмі ў яго гутаркі німа.*

НІТВЕ'ДАМА *прысл.* Нямаведама. *Наплёў тут нітведама чаго і пашоў.*

ПАГАЛО'ЎШЧЫНА *ж.* Частаванне, як парсюка заколяць. *Цяпер сталі ўсе пагалоўшчыну спраўляць, мода такая ў нас.*

ПАЛ *м.* Высокая тэмпература, гарачка. *Такі мела пал у сярэдзіне, аж ад памяці адхадзіла.*

ПАМЕ'ЖАК *м.* Сухадольная сенажаць. *На пахаці дабро расцець, а на памежку — травы ды зёлкі розныя, усё людзям трэба.*

ПАРУБЕ'НЬ *м.* Тонкае бярвенца з зарубкамі на канцы для прыціскання сена, саломы. *Сена можна вазіць брыкай, а можна парубнём прыціскаць.*

ПАСТЫ'Р *м.* Галоўны пастух. *Наш пастыр на берасцянай трубе іграў, каровы яго слухалі. Як запяець пад паўдня: «Лёг-палёг, лёг-палёг — па калені мурог, было піць, было есці, а цяпер проша легчы» — дык каровы палягуць на станавішчы.*

ПАТАРТА'ЧЫНА *ж.* Доўгая жэрдка, шост. *Узяў нейкую патартачыну і спароў сарочча гняздо.*

ПЕ'КНЫ *прым.* Прыгожы. *Пекны сад вырас і на пекным месцы. Хустка пекная, уся ў ружы.*

ПІРГА'ЦЬ *незак.* Штурхаць. *Ні піргайця, дзеці, малога.*

ПО'ДЗВІГ *м.* Зрух у рабоце. *Слабыя нашы работнікі, стараюцца, а подзьвігу ні відаць.*

ПО'ЎНАТА *ж.* Поўня. *Заўтра пэўна пагода зьменіцца, поўната ўжо будзіць. Кажуць, што яблыкі надта растуць поўнатай.*

ПРАВАВА'ЦЦА *незак.* Спрачацца, даводзіць сваю рацыю. *Сойдуцца і пачнуць прававацца, абодва роўныя, кожны з гонарам.*

ПРА'ВІЦЬ *незак.* Апавядаць, расказваць. *Суседка правіла, як ад немцаў уцякала.*

ПРЫВА'ЛАК *м.* Стромы адхон. *Пастушкі селі пад прывалкам, захінуліся ад ветру ды й паснулі.*

ПРЫ'КАЛАТКА *ж.* Бульбяны суп з мукой. *Прыкалатка — першая яда вясной: укапаіш бульбы, булёнчык зварыш, падкалоціш мукой, забеліш малаком — і скора варыць, і смачна.*

ПУГА'ЦЬ *незак.* Прагавіта есці. *Наліюць яму місу бацьвіння, ён і пугаіць, аж нос гбаіцца.*

ПУРЗГО'ЛІЦЦА *незак.* Боўтацца ў місцы з ежай. *Гэтыя дзеці ні ядуць, а толькі пурзголяцца.*

ПУ'ТРА *ж.* Густы квас з саладухі. *Даўней пасты пасцілі, дык якую перапечку з путрай прынясуць на ніву і гэтаму быў рад.*

ПУШНЯ' *ж.* Механічная веялка. *Хто хацеў бялейшы хлеб есці, то правеіўшы веялкай, уручную, яшчэ праз пушню перапусціць зярняты.*

ПУШЧЭ'ЙШЫ *прым.* Крыху горшы. *У нас бульба пушчэйшая, як у суседа, яго соткі на высокім.*

ПЯРЭ'ПЛАТЫ *толькі мн.* Азярод. *Вясной ластавачка прыляціць з выраю, убачыць пустыя пярэплаты, сядзіць на вяршку і запяець: «Пірапілі, піраелі, піралушчылі-і-і, пакідала поўны пярэплаты — цяпер нічагусінькі-і-і, ніхто ні такі, як пастух праклятыя-ы-ы, дома жарэць, на пасту бярэць, прыдзіць дамоў—сквярэцца-а»* (Гукаперайманне спеву ластаўкі).

РАДАБО'ЦЬ *ж.* Рэдкае (пра палатно; пасеў, сенажаць). *Якое там жыта, радабоць адна, зямля ні закрыта.*

РАСХО'Д *м.* Прастора. *Каровам сёлята расходу хватаіць, па ўсім канюшынішчы пасуцца.*

РАЎГЕ'НЯ *ж.* Квас з саладухі. *Раўгеня з бульбай на вячэру добра.*

РАЧА'ЛІНА *ж.* Месца стоку талай і дажджавой ва-

ды, ручаіна. *Праз рачаліну з возам цяжка пераехаць, том і летам гразка.*

РУЛІ′ *толькі мн.* Малако з накрышаным хлебам, булкай (дзяцінная ежа). *Эх, рулі, рулі, булку хлеба здулі!*

РЫЗА′ВІК *м.* Посцілка, вытканая з тоўстых нітак і рыззя. *За вясну два пекныя дываны выткала і адзін рызавік адаткала.*

СКАМЛЁТЫ *толькі мн.* Тонкая жэрдка з трыма суччамі на канцы (здымаць яблыкі). *У нас яблыкі ні пабітыя, скамлётамі здымалі.*

СКЛЮ′ПІЦЦА, СУКЛЮ′ПІЦЦА *зак.* Сагнуцца. *Пара жаць ячмень, увесь склюпіўся, скорчыўся. Састарэў чалавек, суклюпіўся.*

СМАГУ′ЛА *м.* і *ж.* Працавіты, але скупаваты чалавек. *Гэты смагула ў нітку расцягніцца з-за капейкі.*

СО′МА *прысл.* Імкліва, нястрымна. *Карова, відаць, моцна ўсьмягла за дзень, сома да вады ляціць, ня зьдзержыш.*

СО′ЎКАЦЬ *незак.* 1. Трымаць дзіця на руках. *Старая ў печы паліла, а нявестка дзіця соўкала.* 2. Гадаваць. *Авечак боляй ня буду соўкаць, пасьціць німа каму, даглядаць цяжка.*

СПА′СЛЫ *прым.* Непераборлівы ў ядзе, якому ўсё ідзе на карысць. *Наш дэраш быў такі спаслы, еў ня толькі сена, а і салому, і сечку.*

СТРО′ІЦЦА *незак.* Збірацца, рыхтавацца. *Ня прыдзіць на работу, бо ў бальніцу ехаць строіцца. А ўжо сонца за лес коціцца, мая мамка дамоў строіцца* (З нар. песні).

СЫ′ЗМА *ж.* Цвёрдая няўробленая глеба. *На такой сызме буракі ня толькі ня вырастуць, алі й ня ўзойдуць.*

СВІНА′РКА *ж.* Сівец. *На балоця асака расьцець, а на буі — сьвінарка. Дзе сьвінарка, там каса ні бярэць, гэта трава сухая і цьвярдая.*

СКЕ′МКА *ж.* Палка, расшчэпленая на канцы. *Дайней на благавешчыну гадзюк у ськемку лавілі. Высушаць, стаўкуць, карове даюць зьесці, каб ні хварэла.*

СЦІ′СКЛЫ *прым.* Эканомны, скупы. *Аспадар яе сьцісклы, абы-як рубля ні змарнуіць.*

ТАРАПО′М *прысл.* Не шчыльна. *Сена ні таптали, тарапом у брыку накідалі.*

ТАРО′ЙКАЦЦА *незак.* Безвынікова мітусіцца каля

якой-небудзь справы. *Загразьлі з возам, дык пайдня таройкаліся, пакуль трактар ня выцягнуў.*

УБО'ІШЧА *м.* і *ж.* Непаслухмяны, упарты чалавек. *У горад ні пускала, усіроўна паехаў, убоішча гэна, хоць кол яму на галаве чашы.*

УВЭ'ПСЫ *прысл.* Варожа, наступальна. *Сталі на яго дома крычаць, а ён увэпсы, ні слова ня змоўчыў.*

УВЯЧА'ЦЬ *незак.* Папракаць. *Зрабі што ні так, свякроўка год увячаць будзіць.*

УТРАНЦА'ЦЦА *незак.* Умешвацца. *Я ў дзялы маладых ні ўтранцаюся, хай сваей галавой жывуць.*

ХАЛЯЙСТРА' *м.* і *ж.* Нявыхаваны чалавек, нястрыманы. *Прышоў, па хаце круціцца, за ўсё хапаіцца — вядома ж халяйстра.*

ХВАЛЕ'НДА *м* і *ж.* Хвалько. *У хваленды ягняты большыя за авечак.*

ХО'ЎЛЯ *ж.* Догляд. *Парсючок ешчы ўдаўся, скора хоўлю бярэць.*

ХУД *м.* Дамавік. Па даўніх уяўленнях гэта міфічная істота спрыяла павелічэнню набытку гаспадара, калі той з пашанай да яе ставіўся. Ставячы на гарышча любімую страву худа — яечню, прыгаворвалі: «*Худ, худ, ідзі сюды, дам яечаньку, абарачаньку*».

ЧЫ'ЛАЕ *прым.* Натуральнае, нераздзеленае (пра малако, жыта). *Малы толькі чылая малако п'ець, а падлі адгону, дык толькі пакаштуіць і назад.*

ШКІЛЯНДА' *ж.* Тоўстая каўбаса. *На палудзень узялі шкілянды кавалак і хлеба абяртню.*

ШЫЛАВА'ТЫ *прым.* Завостраны, звужаны на канцы. *Нос шылаваты, як у Бураціна. Сышліся востры з шылаватым, адзін аднаму ні пірапусьціць.*

ШАЛЬБАБО'Н *м.* Фасоля. *Ты кажаш «пасоль», а ў нас гэта завецца шальбабон. Вечарам можа якую кітку шальбабону аблушчым.*

ЯЛЕ'НЕЦ *м.* Ядловец. *Яленец да ўсяго добры: пугаўё зь яго зробіш, кавіньку, дужкі ў кошыку — усё моцная, трывалая. З ялянцовай кары даўней лапці плялі ў бары хадзіць, а з лазы — па балоця.*

*П. У. Сцяцко*

# ЛЕКСІЧНЫЯ РЭГІЯНАЛІЗМЫ ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ

Гэта падборка — дадатак да лексічных рэгіяналізмаў, зафіксаваных у працах «Дыялектны слоўнік. З гаворак Зэльвеншчыны» (Мн., 1970) і «З роднай гаворкі» (зб.: Жывое слова. Мн., 1978). Словы, якія падаюцца тут, запісаны ад мясцовых жыхароў вёскі Грабава Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці ў 1970—1977 гадах.

АБЯНДЗЕ'ЖЫЦЬ *зак., экспр.* Абрэзаць. *Так абяндзежылі гэту грушу калізуючы, што адно суке стрычаць, мо і ссохня вясною.*

БЛЯ'ХАРЧА *ж.* Жонка бляхара. *І бляхар быў, і бляхарча прыбягала наказваць на вяселё, каб найімянне прышлі.*

ВАРЭ'ННІК *м.* Кухар. *Варыш, варыш, і есці ні навaрыш. От варэннік с цябе!*

ВАРЭ'ННІЦА *ж.* Кухарка. *Хоць малая, а ўжэ капусты наварыла на палудзянь. Малайчына, варэнніца!*

ГУЛЯ'ННІК *м.* Танцор, гуляка. *Сёніка на нашум вяселі гуляннікаў ні бракуя, абы было дзе танцаваць, да месца мало.*

ГУЛЯ'ННІЦА *ж.* Танцорка. *Яшчэ адна гулянніца прышла, адно да пары гулянніка німа на кадрылю.*

ЖАНІ'ЛО *н., непахв.* Той, хто збіраецца жаніцца; жаніх. *Яшчэ ні пара табе жаніцца. Я такого жаніла качаргою ажаню.*

ЖЫГАЦЕ'ЦЬ *незак.* Інтэнсіўна гарэць, успыхваць. *Як сухі ялавец, от жыгаціць, як порах! Раз-два згарыць.*

КАЛУВА'ЦЦА *незак.* Хістацца, калыхацца. *Усе зубы хутко паўпадаюць, ужэ калуваюцца, як ясі што цвярдоё.*

КАТА'ННІК *м.* Той, хто дастае мёд на медагонцы

(«катае»). *Цэло вядро мёду нясе наш катаннік. Праўда, рукі паспухалі, як накусалі пчолы, дастаючы мёд гэты з вульяў.*

КЕ′ПЕЛЬ *м., рэдк.* Карак. *Надаваў у кепель хлопцу — і плача, бедны.*

ЛЯШЫ′ЦЬ *незак.* Рабіць разоры па засеяным полі. *Мы ляшылі бало полё па льне — рабілі загоны, разарэ, каб вада сцякала, ні замакаў лён. Цяперака ніхто ўжэ ні лешыць таго льну канём, усё трактарам.*

ЛЯШЭ′ННІК *м.* Той, хто робіць барозны па засеяным полі. *Пайшоў на полё Іваначко ляшыць лён. Трэба і нам свайго ляшэнніка слаць.*

ПАГАНЯ′ЦЬ *незак.* Захоўваць звычкі. *Табе, мой ты саколік, ужэ хутко сорак будзя, а ты ўсё маладоё паганяяш. Ужэ даўно жывеш у сяле, а паганяяш гарацкоё. Трэба забываць той горат.*

ПАКЛА′ДЫЧЫ, ПАКЛА′ДЫЧ *м.* Два палены, на якія кладуць дровы ў печы. *Трэба, каб пакладычы таўшчэйшыя былі, то ні так хутко згараць яны, і дрова ні рассыплюцца, гарэцімуць.*

ПЯЧУ′Р *м.* 1. Пячнік. *Кахлёва печка распадаяцца, і ні магу наняць пячура, каб паправіў яе.* 2. Той, хто любіць палежваць на печы. *І с печы ні згоніш пячура гэтаго. Даў бы мне трохі пагрэцца на печы.*

РАГА′ЦІНА *ж.* Развіліна, разгаціна. *Мо вілы якія выдуць з гэтае рагаціны. Давай спілуям тую рагаціну, бо вішняў на ёй ні будзя, а вецяр возьмя раздзярэ папалам.*

РАГЕ′ША *ж.* Плакса. *Адно зачапі — і плача рагеша гэта, роўгая.*

РАЗАГНА′ЦЬ *зак.* Падзяліць рой пчол. *Моцны, велькі рой, ні тоўпяцца ў вульйі пчолы, трэба разагнаць на два.*

РАЗВО′ДНІЦА$_1$ *ж.* Веснавы разліў вады, разводдзе. *У нас на хутары як разводніца, то хоць ты с хаты ні вылась: нідзе ні вылясці, моро кругом.*

РАЗВО′ДНІЦА$_2$ *ж.* Жанчына, якая ўзяла развод з мужам. *У яго жонка ўмярла, так хоча сабе за жонку адну разводніцу ўзяць, што пашла ад свайго мужыка, дзяцей пакінуўшы яму.*

РАЗГАВО′Р *м.* Размова. *Чую некі разгавор натто блізкі. Мне так і цюкнуло, што гэто ты прыехаў і гаворыш з бабаю Настуляю на дварэ.*

РАЗГАНЯ'ЦЬ *незак.* Падзяляць рой пчол. *Пайшоў пчаляр пчолы разганяць, хоча з аднаго вульля два зрабіць.*

РАЗДРАЖДЖАНЕ'ЦЬ *зак.* Набрыняць вадою, размокнуць (пра зямлю). *Пасля такого навальнаго дажджу дзе ты ўлезяш с плугам, так раздражджанело полё ў той лахціні! Чысто раздражджанела дарога: калёса па калатке валяцца, і конь ні пацягня воза.*

РАЗЗУВА'ЦЦА *незак.* Здымаць абутак, разувацца. *Тудака ўжэ глыбоко, ні пяройдзяш у чаравіках, трэба раззувацца.*

РАЗЗУ'ЦЦА *зак.* Разуцца. *Каб раззуцца, то набасяка ляхчэй было б ісці па гэтуй траве, і нагам здараво.*

РАЗЗЯ'ВІЦЬ *зак.* Раскрыць (рот), разявіць. *Хай шырай рот раззявіць, то я гэты зуп і сам вырву, ні канешня да дохтара ісці.*

РАКАВЫ' *прым.* Такі, які бывае адзін раз на год («рок»), гадавы. *Німожно сёніка рабіць: ракавоё свято — Май.*

РАНДО'ЛЯК *м.* Каструля, якая выкарыстоўваецца не для гатавання стравы. *У рандольку масло трымаям, малако, а варымо есці ў чыгунох.*

РАНЭ'ТА *ж.* Гатунак яблык, ранет. *Пасадзіў сабе на завот ранэту.*

РАПТО'ВЫ *прым.* Нечаканы, раптоўны. *Ні ўцёк і я ад дажджу таго — такі раптовы лінуў. Раптова смерць, то хоць ні мучыўсё чалавек.*

РАСТА'ЦЬ *зак., асудж., перан.* Знікнуць, згінуць. *І дзе той стары растаў, што ні дагукаюсё я яго? Кап ты ўжэ растаў саўсім, як цябе ні даклічасся, ні дагукаясся!*

РАЎГЕ'ША *ж.* Плакса. *Раўгеша гэта слімаке папуская і плача.*

РАШША'СТАЦЬ *зак., перан.* Распусціць (грошы), разматаць (набытак). *Як палучыць грошы, то за дзень рашшастая, а тагды ходзіць пазычаць. От нілюцкі чалавек!*

РО'ЖА *ж.* Від кветкі, ружа. *У тваём агарочыку натто хароша рожа расцвіла. Мо ты мне дасі адзін куст гэтых кветак?*

СА'ДЗЯЦЬ *незак.* Шчымець, пячы. *Ні зажыла яшчэ рана — садзяя. Як напёк горло перцам тым, то з гадзіну садзяло.*

САМЫ'Я *займ.* Самі. *Ні канешня табе ўзаўтры прыходзіць — самыя ўправімсё, выкапаям картоплі за дзень.*

САТЛІЖА'ЦЬ *зак.* Пацяплець (зімою) да адлігі. *Мо сатліжая, ні можа быць, кап так доўго ціснуў марос, тагды і паедзям па дрова.*

САТХА'ЦЬ *незак.* Охаць, пераржываючы страту. *І чаго ты сатхаяш? Згубіў, так згубіў — ні верняш. А будзяш жыў — нажывеш тае адзежы.*

СЕ'ДЗЯ *м.* і *ж.* Сядун, сядуха. *Само ні прыдзя да седзі такого, трэба варушыцца, дбаць. І с хаты ні паказваяцца седзя гэта.*

СІВАТА' *ж.* Сівізна. *Стары ўжэ, таму і сівата напала. Хоць бацько мой яшчэ больш сівы быў.*

СІЛЬЁ' *н.* 1. Пастка для птушак. *Даўней усё курапатак сільём лавілі.* 2. *Перан.* Сіло. *Трапіш ты да яго, павука гэтаго, у сільё.*

СІПА'ЧКА *ж.* Хвароба сіпка. *Нека сіпачка напала на хлопца, сіпая, гаварыць ні можа. Кажа, у горлі баліць.*

СКАБУ'РКА *ж.* Скарынка зямлі. *Падмерзло, то як ступіш па ралі — скабуркі пад нагамі крышацца.*

СКАЗО'К *м.* 1. Невялікая трэшчына. *Збанок ішчэ, можно сказаць, цэлы, сказок адзін у шыйцы; апляту, і ні расколяцца боляй.* 2. Невялічкі асколачак, чарапок. *Сказок атпаў ш шыйкі ў ладысцы.*

СКІПЕ'ЦЬ *зак.* 1. Ускіпець. *Як сказала яму пра тую дзеўку, то як скіпіць, думала, с хаты выжаня.* 2. *Перан.* Раптоўна памерці. *Думалі, мо яшчэ жыў будзя, але дзе вы бачылі — адразу скіпеў: ведама, нажом у само сэрцо.*

СКНЭ'РЫЦЬ *незак.* Ныць. *Зранку яшчэ сяк-так, а с палудня пагоршало, і ўжэ скнэрыць мой стары, ні дае мне нічого рабіць.*

СКО'МЛІЦЬ *незак.* Ныць, пішчаць. *Хіба я што табе памагу? Пацярпеў бы трохі, мо зара дохтар прыедзя, чаго скомліць!*

СКО'МЧЫЦЬ *зак.* Скамячыць. *Гэту адзежу ні зложыць як трэба, а здымя с сябе, скомчыць у камяк і — брась у куток дзе!*

СКО'ЧНЯ *ж.* Вышка для прыжкоў у ваду. *Скочню змайстравалі на беразе рэчкі і скачуць сабе ў воду — бултых!*

СКРЫЦІКАВА'ЦЬ *зак.* Раскрытыкаваць. *Як скры-*

*цікавалі на сабрані, то больш так ні робіць — брыткò стало.*

СКУЛЁБІЦЦА *зак., асудж.* Скурчыцца, падагнуць пад сябе ногі. *Як гэто ты спіш? Скулёбіўсё. Хіба так выспісся? Разагніся!*

СКУЛЬБА'ЧЫЦЦА *зак.* Сагнуцца ў крук, кульбаку. *Стары стаў наш бацько, сусім скульбачыўсё, ходзіць, галавы ні падымаючы, адно ў землю глядзіць, бедны.*

СКУЛЬБА'ЧЫЦЬ *зак.* Сагнуць кульбакаю. *Як малады, то і стройны, а як пастарэяш, то сагнесся, скульбачыць старасць, хвароба.*

СКУПО'ЎВАЦЬ *незак.* Скупліваць. *Гэто некі шпікулянт, што ў адных скупоўвая, а другім прадае, маючы выгоду неку ад гэтаго.*

СЛУХ *м.* Слых. *У дзеўчыны, кажуць, слуху да музыкі німа. Сабака мая добры слух — здалёк пачуя чалавека ці воўка.*

СМАКАТА' *ж., узмацн.* Смак, смачнае. *Ты адно пакаштуй, што за смаката гэто яблыко! Я такойі смакаты ні еў нігды. А морозіво гэто ні мельша смаката за твае грушы ці яблыкі!*

СМАКТУГА' *ж.* Нізкае месца на полі, дзе вымакае рунь. *У той лахціні такая смактуга, што нічого ні родзіць.*

СМА'ЛЯР *м.* 1. Той, хто смаліць кабана. *Трайіх смалілі паршука, то і хутко, гэто ні то што адзін смаляр.* 2. Смалакур. *Як у нас тут пад бокам смалярня была, то з нашаго сяла смаляроў німало было.*

СМЫРО'Д *м.* Смурод. *Ад гэтаго смыроду адно галава баліць старому.*

СМЫРО'ДЗІЦЬ *незак.* Смуродзіць. *Адно хату смыродзіць смыродам гэтым, як накурыць. Смырот с хлява гаш у хату ідзе.*

СМЫРО'ДНЫ *прым.* Смуродны. *І дым некі смыродны ат тытуню твайго.*

СНАВА'ННІЦА *ж.* Снавальшчыца. *Яшчэ адна снаванніца прышла, то хутко кросна тыя аснуем усе разам.*

СО'ВЯСНЫ *прым.* Сумленны. *Што ты зробіш, калі у чалавека бракуя совясці. Совясны так ні зрабіў бы, а гэто ж бяссовясны.*

СО'ВЯСЦЬ *ж.* Сумленне. *Совясці ні купіш у бяссовяснаго.*

СПАМАХЧЫ'СЯ *зак.* Атрымаць дапамогу. *Дзе ты*

*йім спамажэсся, гультаём гэтым. Спамахчыся можно ад добраго чалавека.*

СПАМІНА'ЦЬ *незак.* Успамінаць. *Стану спамінаць, як мы жылі даўней, то гаш валасэ дупка ўстаюць.*

СПА'САЎКА *ж.* Гатунак яблык, якія паспяваюць у жніўні, на «спаса». *Наша спасаўка ядрона ні кожан рок. На спаса яблыкі спеюць на ёй.*

СПА'СЦІ *зак.* Перайсці ў спадчыну. *Як твой дзет умёр, то Жэні той нешто спало і ад яго, бо на кнісцы грошай німало ляжало.*

СПЛЯНТАВА'ЦЬ *зак.* Здратаваць, спляжыць. *Гэты загон жыта пры выгані чысто сплянтавалі каравамі пастухе.*

СПО'ЛНІК *м.* Супольнік. *Разам гаралі полё: яго конь і мой конь. Сполнікамі былі да самае вайны. Ён мой сполнік ва ўсёй рабоці.*

СПО'ЛНЫ *прым.* Супольны. *Хамут наш таксамо сполны, купляны на двох, бярэм па калейцы, як трэба гараць ісці.*

СПО'РКА *ж.* Спрэчка. *Помню, тагды спорылі доўго, і ніхто ў той спорцы праўды ні даказаў. Спораць і спораць, а што дае спорка тая?*

СПО'РЫЦЬ *незак.* Спрачацца, адстойваць сваё. *Годзі спорыць вам!*

СПРА'ЎНІЦА *ж.* Спраўная жанчына. *Яна скрось дапне, ўсё дастаня с-пад зямлі, такая спраўніца.*

СПРУ'ТА *ж.* Смерць; халера, спрут. *І куды йіх спрута цісня, гэтых куранятаў? Нека спрута гусей пахватала, нідзе німашака йіх.*

СПУСКА'ЦЬ *незак.* Віць (вяроўкі). *Спускаць вяроўку трэба трайіх: адзін круціць за кольбу, другі трымая калодачку, каб ні скручваліся столкі, а трэйці круціць з другого боку, канца.*

СПУСТ *м.* Вялікі гэбель, спуск. *Доўгу дошку спустам габлюям, а каротку гэблікам. Спуст мая дзве ручкі, ён даўжэйшы за гэблік.*

СПУ'ЧЫЦЬ *зак.* Пацягнуць кіем, ударыць. *І ні агрызайся, а то спучу пужальням па галаве, і будзяш енчыць тагды.*

СПРЫ'ТА *ж.* Кол, пры дапамозе якога моцна сціскаюць ламачча на возе. *Як на вос кладу ламату, то звязваю ланцугом, а тагды яшчэ спрытаю заціскаю ланцух, каб ні рассоўвалася ламата на возі.*

СПРЫ′ЧВАЦЬ *незак.* Моцна звязваць з дапамогай *спрыты* (гл.). *Ні буду спрычваць: тут нідалско, ні вылязуць калэ гэтыя з воза.*

ССАПЦІ′СЯ *зак.* Аддыхацца, адсапціся. *Так ужэ спяшаўсё, што думаў дух выскачыць, ні ссапціся цяперака.*

СТАГА′Н *м., рэдк.* Насякомае макрыца. *Як сыро было ў хаці, то пад лаваю стаганоў тых процьма была.*

СТАЕ′ЛНЫ *прым.* 1. Стаенны. *Стаелны конь, таму і глаткі такі.* 2. Цяжкі, які патрабуе вялікага напружання, доўгага стаяння. *І ў нас стаелна ноч была ў том мліне, як крупу малолі: цалютку ноч ні спалі.*

СТАКАНА′ *ж., рэдк.* Клопат, турботы. *Адна стакана ў нас на хутары з гэтымі яблыкамі: німашака дзе падзець йіх, бо ніхто ні купляя.*

СТАКАНІ′ЦЦА *незак., рэдк.* Клапаціцца, турбавацца. *Некія ніўдалыя цяперака у нас парасята: есці ні ядуць, адно малако смокчуць, як увальеш у карыто; стаканіся ні стаканіся, а ўсё на глум ідзе.*

СТАРАЖАВА′ЦЬ *незак.* Вартаваць, каравуліць. *Бацько становіцца на нову работу: будзя старажаваць магазін у сяле.*

СТАРО′ЦЁ *н.* 1. Старызна, старое, падранае адзенне; рыззё. *Аддам ганучніку староцё гэто, каб ні заважало пад нагамі.* 2. *Перан.* Стары чалавек, жанчына. *Абоё староцё: і яму пат семдзясят, і ёй.*

СТО′ЛЯР *м.* Сталяр. *Даўней у нас адзін столяр быў на дзве сяле.*

СТО′ХЛІШЧО *н.* Гняздо, логава, котлішча. *Як пасатку высякалі, у гэтум лесі, казалі, воўчо стохлішчо знайшлі.*

СТО′ЯНЬ *ж.* Стаянне. *Як старому, то ўсё надаядая: і лежань, і стоянь. Як паліш у печы, то цэлы ранак на нагах — стоянь і стоянь.*

СТРУПЯНЕ′ЦЬ *зак.* Моцна спалохацца, утрупянець. *Весь у крыві той Міхасько. Як угледзяла, уся струпянела, гатова ўмярці і сама.*

СТРУ′ПЯШАЦЬ *зак.* Спарахнець, струхлець. *Лягары пат палом чысто струпяшалі, і дошкі ўгінаюцца, пагнілі недзя.*

СУКО′ВІНА *ж.* Сукаватае палена, бервяно, кій. *Я сабе глаткі кіёк выражу ў лесі, нашто мне тая суковіна. Натто сукавато палено, ты тае суковіны ні расколяш.*

СУ'ТАЧКІ *мн.* Вузкі праход паміж снапамі ў гумне. *Тут пшаніцу зложымо, а там жыто, а гэтыя сутачкі мо ячменям заложым.*

СУХАЯ'Н *м., гумар.* Сухарэбрык. *Адно выскоквая, а есці ніц ні єсць, сухаян гэты. Твой мажны хлопяц, а гэто сухаян некі, адныя рэбра.*

СХАДЗІ'ЦЦА *зак.* Падняцца, усхадзіцца. *Як схадзіўсё быў вецяр, то дзе ты на стрэху тую палезяш. Мо ўзайтры дакрыям яе.*

СХО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Падымацца, узыходзіць. *На гору сходзіш — цяшко, а з гары ногі самыя бягуць.* 2. Узыходзіць (пра сонца, месяц). *Ужэ відней становіцца, мусяць, хутко сонцо будзя сходзіць.* 3. Прарастаць, узыходзіць. *Сходзяць картоплі, хутко асыпаць трэ будзя там пад лесам.*

СХОТ *м.* 1. Усход. *Як схот сонца, выганяям скаціну, а як захот — жанем дахаты.* 2. Напрамак свету, усход. *Па правую руку схот, па левую захат, як станяш тварам да лесу нашаго.*

СЫЧ *м., рэдк.* Клін. *Гэты сыч картопяль за дзень выкапалі самыя бяс памагатараў. Зрэш сыч, каб раўнейша дошка была на том канцы.*

СВЕТ *м.* Шмат, процьма. *Тае работы свет. У горадзі людзей свет.*

СВЯНЦІЯ'ДЛО *н.* Светаянскае зелле. *Свянціядло добро ад жывата памагая, напарыўшы сушанаго.*

СЛІМАКЕ' *мн., непахв.* Сліна. *І як табе ні брытко? Плачаш, слімаке папускала па барадзе.*

СМЯЦЕ'Й *м.* Чорнае вялікае зерне ў коласе жыта, пшаніцы, аўса. *У коласі жыта велько чорно зярня — гэто смяцей. І ў пшаніцы смяцей.*

СПЕ'ЎНІЦЦА *зак.* Упэўніцца. *Хай сам сходзіць спеўніцца, як нам ні верыць; думая, мы махлюям яму.*

СЦЯ'КНУЦЬ *зак.* Сцячы. *Як вада сцякня трохі, павешу плацё, хай высыхая. Німа як касіць, вады гэдулькі на аселіцы, мо хіба як сцякня.*

СЦІ'БРЫЦЬ *зак., гумар.* Украсці. *І майго складанчыка сцібрылі гэтыя гіцлі. Сцібрыў і ні прызнаецца, думая, мы ні ведаям.*

СЦЯ'ЦЦА *зак.* Схапіцца, узяцца. *Як сцяліся біцца, як тыя баранэ.*

СЭ'РЦО *н.* 1. Стрыжань, больш светлая частка морквы. *Сэрцо ў моркві жаўцейшо і ні такоё сакаўное.*

2. Графітны стрыжань алоўка. *Як гострыш карандашэ тыя, то сют-тут і выпадзя сэрцо.*

СЯДУ'НКА *ж.* Від фасолі, расце кустам, не ўецца. *Даўней усе тычке цягалі на пасолю, а цяперака сядунка, і ні трэба тых тычкоў.*

СЯМЯНЮ'К *м.* Кветканоснае сцябло цыбулі, капусты, буракоў. *Німа буракоў, усе пагнало ў сямянюке. І цыбуля такая, адныя сямянюке.*

ТАЎШЧА'ЦЬ *незак.* Таўсцець. *Як папаходзіш цэлы дзень, так і таўшчая нага — пухня, ацякая.*

ТПРУСЬ-ТПРУСЬ! Выклічнік для падзывання кароў.

ТПРУ'СЬКА *ж., ласк.* Карова, цялушка. *Ідзі да міне, тпруська мая!*

ТПРУ'ЦКІ! Выклічнік для адгону цялят.

ТРАПА'ЦЬ *незак., непахв., перан.* Ісці. *Ні будзя ён табе трапаць гэдулькі вёрст, сядзя на самахот і прыедзя с тае Зэльвы.*

ТРУС'ІЦЦА *незак.* Церушыцца. *Недзя мяшок той дзіравы, што мякіна ўсю дарогу трусіцца.*

ТРУСІ'ЦЬ *незак.* 1. Сыпаць, церушыць. *Нашто трусіць смецё на ганку, калі можно выбіць палавіке на дварэ.* 2. Крапаць, церушыць. *От, велькаго дажджу ні будзя, хай сабе трусіць пакрысцы.* 3. Пасыпаць (соллю, прыправамі). *Хай трусіць соль, мо ні дасаліла я гэтых яец.*

ТРЫБУХЛЕ'Й *м.* Трыбухаты чалавек. *Яму і хадзіць цяшко. Ведама, трыбухлей такі, свету ні бачыць за трыбухом свайім.*

ТРЫБУХЛЕ'ЙІНА *м.* і *ж., узмацн.* Трыбухаты чалавек. *І нашто ўжэ чалавеку гэдулькі пхаць у жывот. Трыбухлейіна гэты вобжыр некі.*

ТРЭ'ЙЦІ *ліч.* Трэці. *Ужэ трэйці рас па грыбэ пайшоў на дзень.*

ТУ'ДАКА *прысл.* Тут. *Скажы, хай сюды ідуць, тудака много грыбоў.*

ТУ'ЖЫЦЦА *незак.* Напружвацца. *Гэто каняня, бедно, тужыцца, тужыцца і з месца ні зрушыць воза. Яшчэ слабы ты, ні трэба тужыцца.*

ТУ'ПЧА *ж.* Тупаніна. *Тупча кала гэтае печы гаш ногі адбірая.*

ТУ'РКНУЦЬ *зак.* Крыкнуць «тур-р-р» у вуха. *Я ні хочу, лепяй ты бацьку туркні ў вухо, хай турчыць яму.*

ТУРЧА'ЦЬ *незак.* 1. Крыкнуць «тур-р-р» у вуха. 2. Звінець у вушах. *Гаш галава ні своя ад гэтаго турчаня, усё турчыць і турчыць у вушах, ні праходзіць ніяк, як туркнуў ты мне, гіццаль.*

ТУ'ХЛЯЦЬ *незак., непахв.* Спаць, доўга ляжаць у пасцелі. *Жарты табе, да палудня тухляя, ніяк, бедны, ні выспіцца.*

ТЫШ *злучн.* Таксама. *Я тыш на кярмашы была, аля цябе ні бачыла.*

УВА'ГА *ж.* Павага. *Мо якая ўвага есцяка ў чалавека, то паслухая нас, ні аткажа, рас уважаць будзя.*

УВЫШКЕ' *прысл.* Увысь, увышыню. *Гэта хвайіна тонкая, але высокая, увышке яе гоніць, а тая пры полі ўшырке расце.*

УДУШЫ'ЦЦА *зак., асудж., перан.* Знікнуць, прапасці, згінуць. *Стары, а, стары! Дзе ты ўдушыўсё, што нідзе німашака цябе, ні чутно.*

УКВЯЛІ'ЦЬ *зак.* Давесці да плачу. *І хто гэто дзіця ўквяліў, што яно плача тудака?*

У'ЛЬГА *ж.* Аблягчэнне, льгота. *Мне, старой, ніякае ўльгі німашака. У яе ніякае ўльгі ні было, таму і больш плаціла.*

УЛЯ' *часц.* Вось, вунь. *Уля і дахаты ўжэ пара, а здэцца, адно што на кярмаш гэты прыехалі.*

УМІРА'ЦЬ *незак.* Паміраць. *Прыдзя час уміраць, то ні аткупісся.*

УМЫЛІ'ЦЦА *зак.* Страціць. *Пакуль збегаў па грошы, умыліўсё калейкі.*

УМЯРЦІ' *зак.* Памерці. *Каб ні апяраца, мог бы ўмярці наш стары.*

УПАРО'ЗІ *прысл.* Каля парога. *Тут халадно, цягня з надворку, а ты сядзіш упарозі. Уставай, а то прастудзісся, седзячы.*

УПА'СЦІ *зак.* Накінуцца, напасці. *Як упалі ў капусту чэрві, то ўсю чысто знішчылі, адныя качанэ стрычаць. Жуке ўпалі ў картоплі.*

УРАДАВУ'Ю *прысл.* У шарэнгу, у рад, побач. *І чаго вы пасталі ўрадавую, як салдаты тыя? Садзецяся і чакайця брыгадзіра.*

УТО'ЎПІЦЦА *зак.* Змясціцца. *Хоць і нідоўго дошч ліў, але як з вядра, навальны такі, што вада ні тоўпіцца ў рэццы, залівая аселіцу.*

УЦЯЦЕ'РЫЦЦА *зак., экспр.* Уставіць вочы. *Мой ста-*

*ры ўжэ нікудышны. Адно ўцяцерыцца і як слуп сядзіць на лаві.*

ФАЛЬШЫ'ВЯЦ *м.* Несумленны чалавек, махляр. *Гаворыць адно, а робіць другоё — фальшывяц, ні чалавек гэто.*

ФЯРМА'Ч *м.* Работнік фермы. *І сам робіць на фермі, і сын фярмач.*

ХАЛАСЦЯ'НКА *ж.* Халасцячка. *Яна была халасцянкаю доўго-доўго, а тагды знайшоўсё добры чалавек, бежаняц некі, і прышоў у прымы да яе.*

ХАЛО'ДНІЦА *ж.* 1. Халадзіна, халадэча. *Сёніка на дварэ халодніца такая, што хоць ты с хаты ні вылась.* 2. Халоднае памяшканне. *Наша хата такая ўжэ халодніца, што колькі ні палі, усё халадно ў ёй.*

ХАЛЯРЫ'СТЫ *прым.* Нялюдскі, шкодлівы. *От халярысты гэты кот! Дзе ні павесь каўбасы, скрось дастаня і пагрызе.*

ХАРАШЫНЯ' *ж.* Прыгажосць, хараство. *Як цвітуць яблыні — от харашыня ў садзі том.*

ХАР'ЯТЭ', ХАР'Я'Т *м.* Дрэнны абутак. *Халера йіх насіціме, хар'ятэ тыя. Куплю сабе акуратныя боты.*

ХА'ЎКАЛО *м.* і *ж.* 1. Соня, хто часта пазяхае. *Хай ужэ ідзе спаць, ні хаўкая хаўкало гэты.* 2. Задушлівы чалавек. *Трохі мацней падыдзя, так і хаўкая. Задуха бярэ хаўкало гэту.*

ХВАРУ'ТКІ *прым.* Надта хворы. *Мусяць, ні устану я сёніка ў печы паліць, нека слабасць, хварутка саўсім стала.*

ХІТРУ'СЬ *м.* Хітрун. *Ён цябе пад дурного хату раздва падвядзе, гэто добры хітрусь, мы яго ведаям ні адно сёніка.*

ХЛАПЧЫ'СКО *м., узмацн., непахв.* Хлопец, хлапчына. *І як табе ні брытко! Хлапчыско такі, а дзяцейквеліш. Гунь які хлапчыско вырас!*

ХЛЯБО'ВЫ *прым.* Прызначаны для хлеба. *Рошчына асталася ў хлябовуй дзесцы. Хлябову печ трэ паліць, тагды будзя цяпло.*

ХРАСЦІ'ЦЬ *незак.* Прарошчваць (бульбу, насенне). *Кап хуччэй пасходзілі картоплі, йіх трэба храсціць, а потум садзіць.*

ХРУШЧ *м., непахв., перан.* Малы, благі чалавек. *Сама велька, мажная, а за такого хрушча замуш пайшла, што кот за ноч ззеў бы.*

ЦЕ-ЦЕ-ЦЕ! Выклічнік для падзывання гусей.

ЦІКА'ВЫ *прым.* Цікаўны. *О, які ты цікавы, усё хочаш ведаць!*

ЦІПУ'-ЦІПУ'! Выклічнік для падзывання курэй.

ЦІ'ПЦЯ *ж., дзіц.* Ціпка, курыца. *Ціпцю паймай мне, мама!*

ЦІ'СЬКІ! Выклічнік для адгону жарабят.

ЦІШКА' *прысл.* Патаемна, ціцком, спадцішка. *Гэто хітрусь: цішка ўсё зробіць, каб ніхто ні ведаў і ні здагадваўсё нават.*

ЦЫБУЛЕ'НЁ *н.* 1. *Зборн.* Пер'е цыбулі. *У галаўке цыбуля слабо расце, а цыбуленё ні благоё.* 2. Шалупіна цыбулі. *Даўней усё яйца хварбавалі ў цыбулені: варылі яйца ў ём.*

ЦЫГАНЧУ'К *м.* Цыганя. *Цыганэ тагды былі паехалі, але вярнуліся, бо ні далічыліся аднаго цыганчука, і ўсё гукалі па лесі.*

ЦЫТРЫНО'ЎКА *ж.* Гатунак салодкіх яблык. *Цытрыноўка ядроная цяпер.*

ЦЫЦО'ХА *ж.* Карова з вялікімі саскамі. *Яна много малака дае, бо вумянё велько і цыцоха. Дайіць яе добро.*

ЦЭ'ПКА *ж.* Ланцужок для гадзінніка. *Цяперака ні рамушке да часоў купляюць, а ўсё больш цэпкі: хучэй аччапіць і зачапіць цэпку.*

ЦЮ-ЦЮ-ЦЮ! Выклічнік для падзывання сабак.

ЦЮЦЯНЯ' *н., ласк.* Сабачаня. *Вазьму на рукі я сваё цюцяня.*

ЦЯЛУ'ШК-ЦЯЛУ'ШК! Выклічнік для падзывання цялят, цялушкі.

ЦЯ'ПАЦЬ *незак., непахв.* Калоць дровы. *Будзя табе цяпаць гэтыя дрова, днём пасячэш, а цяперака ідзі вячэраць.*

ЦЯЦЬ *незак.* Каштаваць, спрабаваць. *Гэдулькі ўсяго на стол панастаўлялі, а яны і ні цялі нічого, кажуць, у адных гасцях ужэ былі.*

ЧАРСТВЫ' *прым.* Чэрствы. *Як мне, то гэты чарствы хлеп смашнейшы за той свежы, сыры, ляпняк некі, што ў році расце.*

ЧАРТО'ВІНА *ж.* Чартаўшчына. *І што, думаю, за чартовіна: туды ехаў, быў слет, назат еду, ужэ німа следу.*

ЧАТЫРА'НКА *ж.* Адно з чатырох колаў павозкі, ма-

шыны. *Чатыры чатыранкі разам бягуць і адно аднаго ні дагоняць* (загадка: колы).

ЧА'ШНІК *м., рэдк.* Удзельнік вясельнага абраду, шафер. *За чашніка Міхасю егдзіў, як жаніўсё ён.*

ЧО'РНЫ *прым.* Брудны. *Пара плацё мыць: чорно ўжэ, занасіласё.*

ЧУДА'К *м.* Выдумшчык. *І с цябе добры чудак: як станяш чудзіць.*

ЧУДА'ЧКА *ж.* Выдумшчыца. *Вы адно паслухайця яе, чудачку гэту.*

ЧУДЗІ'ЛО *м.* і *ж.* Выдумшчык, выдумшчыца. *І ён чудзіло, і яна.*

ЧУДЗІ'ЦЬ *незак.* Выдумляць. *Німа чаго чудзіць, і так усё вядомо.*

ЧУ'КІ-ЧУ'КІ! *выкл.* Так кажуць, падкідваючы дзіця ўверх, забаўляючы яго.

ЧЫ'КІ-ЧЫ'КІ! *выкл.* Чык. *Піла гострая, і мы чыкі-чыкі — і адрэжам.*

ЧЫ'ТАРЧА *ж.* 1. Чытачка. *Яшчэ малая, начытаясся за свой век, чытарча.* 2. Чытальніца. *Добро чытая на сцэні чытарча гэта.*

ШАКЕ'РА *м.* і *ж.* Балака, гаварун, гаваруха. *Годзі табе тут кашале плясці, шакера ты. Ні слухайця шакеру гэтаго, дзеці.*

ШАКЕ'РЫЦЬ *незак.* Балакаць. *Шакерыць і шакерыць, і канца яму німа, каб адно яго хто слухаў. От шакера гэта.*

ШАЛЯСТУНЭ' *мн.* Від лугавой расліны (пры паспяванні зерне шастае ў стручку). *На том грудзе добрае травы німашака нігды, адно шалястунэ растуць і пат касою шалясцяць, як косіш.*

ШАТА'НСКІ *прым., экспр.* Бязмерна вялікі, шалёны. *Шатанскі заробак маюць тыя кіншчыкі, шатанскія грошы йім плацяць.*

ШВЭ'РГАЛО *н., непахв.* Балака. *Вылась з-за стала, будзя табе швэргаць, швэргало ты староё.*

ШВЭ'РГАЦЬ *незак., непахв.* Гаварыць. *Будзя швэргаць і швэргаць, пакуль слухацімяш, і ні надаесць яму.*

ШЛАМБАКЕ', ШЛАМБА'К *м.* Шлёпанцы. *У хаці можаш і ў такіх шламбакох хадзіць, з нох ні спадуць ні бойся.*

ШЛЭ'МБАЦЬ *незак.* Шлэпаць, шлёпаць. *Абуў апоркі і шлэмбая па хаці.*

ШЛЭ'ПАР *м.* Той, хто цягне ногі, шлэпае. *Гэты шлэпар нох ні падымя.*

ШЛЭ'ПТУХ *м.* Той, хто шлэпае. *Скінь, малы шлэптух, гэтыя калошы, ні шлэпай па хаці!*

ШНАР *м.* Пісага, шрам. *З вайны ў яго на шчацэ шнар: ранілі ў шчоку тагды, і цяперака знак есцяка, ні сышоў.*

ШНЫ'РЫЦЬ *незак.* Шукаць, выпорваць, шнарыць. *Як настаня ранак, то ўсё шнырыць, каб дзе што знайсці, выпараць і ў кішэнь сабе.*

ШПІКУЛЯ'НЧЫЦЬ *незак.* Спекуляваць. *Хай ні шпікулянчыць, то ні будуць штрапаваць, а то ўсё дурняў шукая, натто сам разумны стаў.*

ШПІХНЕ'Р *м., рэдк.* Элеватар. *Даўней вазілі жыто ў Зэльву ў шпіхнер здаваць вазамі, то гаш начавалі там.*

ШПО'НКІ *мн., асудж., перан.* Вочы. *Чаго свае шпонкі вылупіў на яе?*

ШТО-ЯКО'Ё *займ.* Што-небудзь. *Трэба і мне схадзіць на кярмаш, мо і я што-якоё куплю на свято.*

ШУ'ГІ-ШУ'ГІ! *выкл.* Так кажуць пры гушканні дзіцяці. *Я сама цябе трохі пашугаю: шугі-шугі малого!*

ШУМА' *ж.* 1. Накіп. *Як закіпіць вада, здымяш шуму, каб булён чысты быў.* 2. Пена. *Гунь колькі шумы тае на камяні вада нарабіла ў рэццы!*

ШЧЭ'ЛЯПЫ *мн.* Скіўіца. *Падаў галавою ўніс, то мало шчэляпы ні вывіхнуў. Худы, адныя шчэляпы стрычаць.*

ШЫПШЫНА' *ж.* 1. Шыпшына. *Шыпшыну збіраям і сушым на лякарство.* 2. Шыпшыннік. *У гэтуй шыпшыне густой нічого ні расце больш.*

ЯГЛІ'ЦЬ *незак., непахв.* Вастрыць. *Годзі табе ягліць гэту касу.*

ЯДРО'НЫ *прым., жарт.* Дзіравы, абабіты (пра адзенне). *Скінуў бы ты гэтыя ганавіцы ядроныя, а то адныя касмачэ вісяць на йіх.*

ЯЗДА'К *м.* Яздок. *Слабы с цябе яздак, рас на кані ні трымаясся.*

ЯЧМЕ'НКА *ж.* 1. Ячменная салома. *Як вымалацімо ячмень, то ячменку на сечку зрэжам. Натто каравэ любяць сечку з ячменкі.* 2. Каша з ячменных круп. *Мо ячменкі зварыць вам на палудзянь?*

*І. П. Чыгрын*

# ЯШЧЭ З ЛЕКСІКІ НАШАЙ ВЁСКІ (ЧАМЯРЫ, СЛОНІМСКІ Р-Н)

АБМО′ЛКІ: У АБМОЛКІ. У абарот. *Як узяла жонка ў абмолкі — месца ні знаходзіў: яна ў мяне, знаяш, якая?*

АБРАБІ′ЦЦА *зак.* Абмазацца, запэцкацца. *Абробіцца ў цесто некаё і ходзіць дзень цэлы гэдак — ой!*

АБРОК *м.* Корм для каня, які бяруць у дарогу ў торбе (авёс, сечка з аўсом). *Конь ні галодны — цэлую торбу аброку з'еў гын, чорт яго ні возьмя.*

АБРЭ′НДАНКА *ж.* Неахайная жанчына. *Абрэнданку ўзяў такую ў хату, то ні самому паглядзець, ні людзям паказаць, абробіцца абы ў што і ходзіць так, як дзень цэлы.*

АБРЭ′НДАЦЦА *зак.* Запэцкацца, заляпацца брудам. *Ну і абрэндалася ты недзя — у хляве, мусіць, гразко так.*

АБЫ′ЦЦА *зак.* Прывыкнуць, асвойтацца. *Абыўся, то нічого, можно цярпець, а раней цяжко было — людзі чужыя, яда ніважная.*

АВАДЗЁН *м.* Авадзень. *Сляпы, як авадзён* (прымаўка). *Насмактаўся крыві авадзён, ледзьвя паляцеў.*

АДТУ′ХНУЦЬ *зак.* Спáсці; прысці да нормы (пра пухліну). *О, глядзі, шчака твая ўжэ адтухла, пухліны німа. Адтухла нага, спала пухліна.*

АДХА′ЯЦЬ *зак.* Адхадзіць, уратаваць. *Адхаялі тады, то пажыў яшчэ гады са два. Ледзьвя адхаялі, так стукнулі па галаве.*

АДХЛЯ′ШЧЫЦЬ *зак.* Адхлястаць, адхвастаць, папабіць. *Адхляшчыла, адхляшчыла, як сабаку якого, па мордзі ды пагнала перад сабою дахаты: баба-гром, лепш не мець такой жонкі.*

АКАЛАВЯНЕ′ЦЬ *зак.* Памерці; адранцвець. *Каб ты*

*акалавянеў* (праклён). *Ідзі палядзі, дзе ён там, мо акалавянеў пад плотым да гэтых пор — халадэча такая. Нікудышняя работа: махаяш-махаяш рукамі, рукі акалавянеюць, а знаку ніякаго.*

АКІ'ДАЦЦА *зак.* Ацяліцца, ажарабіцца, абрадзіцца і інш. *Акідалася наша кароўка, то малако мецьмем. Неўзабаві жонка акідаецца, то будзя табе піску поўная хата.*

АЛЯ'РМ *м.* Гвалт, шум. *Прышоў, нарабіў алярму на ўсю хату і наўцёкі дадому.*

АПЕРАЗА'ЦЬ *зак.* З'есці, выпіць са смакам. *Аперазаў цэлую місу капусты, як за сябе закінуў.*

АПО'ЎЗЛІК *м., абразл.* Тоўсты да ацёкаў, плюгавы чалавек. *Апоўзлік гэты пайшоў недзя — як я нінавіжу яго, усё шукая нечаго, нухтарыць і нухтарыць ля чужых платоў.*

АПО'ЎЗЛІЦА *ж.* Тоўстая, плюгавая жанчына.

АЦІ'ЦА *ж.* Лічынка насякомага, на якую ловяць рыбу. Аціцы жывуць у грудах тарфяністага прырэчнага грунту.

АШЫ'ТКА *ж.* Шыцік, лічынка ручэйніка. *На ашыткі ловяць рыбу, выцягваюць з трубкі і — на кручок; ашыткі бываюць сытыя, аж жоўтыя.*

БАСАВІ'ДЛО *н.* Свавольнік, жэўжык. *У-у, басавідло гэты, заўсюды штуку якую выкіня. Чаму каравэ не загнаў у хлеў, усе грады рэсцілі.*

БЗЫ'КІ *мн.* Капрызы, выбрыкі. *Што ты тут паказваяш мне свае бзыкі — на людзях хоць бы пасаромялася.*

БРУХІТА'ЦЬ *незак.* Таптаць, бэрсаць. *Гын вашы грады авечкі нечыя брухічуць.*

БІРО'С *м., зневаж.* Страва абы з чаго, абы-якая. *Што яна добраго наварыць? Наварыла некаго біросу, то от і ем.*

БІТО'К *м.* Яйка, спецыяльна адабранае (па моцы) для гульні (гулялі ў біткі на вялікдзень). *Іншым бітком можно много выграць яец — моцныя бываюць.*

БЛІЗНІ'ЦЫ *мн.* Нешта спаранае — два рады бульбы ў адной градцы, дзве ніткі і інш. *Блізніцы тыя заўтра дакапаю з ранніцы — от табе і па капані, па картоплях гэтых.*

БО'ЛЬМА: БОЛЬМА БАЛЕЦЬ. Болем балець. *Нека халера да рук маіх прыпала — больма баляць.*

БРО'ІЦЬ *незак.* Трызніць. *Броіў цэлую ноч — гарэў агнём.*

БРЫСЬ *м.* Ужываецца выключна ў параўнанні. Чырванашчокі, паўнатвары. *Чырвоны, як брысь; якое яму халеры — ці ён нідагледжаны, ці ён нінакормляны: добрую жонку мая.*

БУБНА', БУБНА'Ч *м.* Вечна незадаволены, буркун; балбатун. *Бубна гэты цэлы дзень гун над вухам бубніць ды бубніць.*

ВАДЫ'Р *м.* Пухір. *Намуляў такі вадыр на назе — гэдак заўсюды з цесными чаравікамі.*

ВАЛКАВА'ТЫ *прым.* Сыраваты (пра сена, збажыну). *Аўёс валкаваты, хай яшчэ з дзень пастаіць у мэндліках.*

ВАШАПРУ'ДЗІНА *ж.* Настойлівы, упарты (пра дзяцей). *Ні дзіця, вашапрудзіна — усюды яно ўлезя, усюды зашыяцца.*

ВЕЛЬЧ *ж.* Велічыня. *Якого дуба мы сёня бачылі ў лесі — а тэўшч, а вельч, мо яму пяцьсот гадоў якіх.*

ВО'ЛЁ *н.* Валлё. *А волё тугоё ў нашай курачкі, тугоё. Жыве, як пан — волё гын якое адгадаваў.*

ВЫ'БЫЦЬ *зак.* Прабыць, утрываць, выжыць. *Тут ні кажын выбудзя: такія халадэ. Дзе ты гэдакай жарой там цэлы дзень выбудзяш?*

ВЫ'ЛУПАК *м.* Той, хто нядаўна на свет паявіўся; малеча. *Вылупак усякі мазге тут будзя табе ўпраўляць!*

ВЫ'ПАЛАСКАЦЬ *зак., перан.* Пакарыстацца, не шкадуючы; узяць што можна (пра зямлю). *Выпаласкалі полё дазваня — дзе на ім будзя цяпер добраё што расці?*

ВЫ'РВА *ж.* Пралаза, праныра. *От, вырва! І ў каго толькі яна ўдалася такая — усё, што ні е на свеці, яе повінно быць, да ўсяго дапне, усё ў руках патрымая.*

ВЫ'СТУПКІ *мн.* Від абутку (лёгкі). Выступкі звычайна рабіліся са старых ботаў, чаравікаў (падэшва ды перадок), каб адзець на скорую руку пры патрэбе. *Адзела выступкі некія ды ходзіць тут па снезі — марш у хату!*

ВЭ'НГАР *м.* Канавал. *Вэнгары хадзілі раней па вёсках — коняў ляхчалі, быкоў, кнуроў.*

ВЯ'ЗНУЦЬ *незак.* Лезці, ліпнуць, прыставаць. *І чаго ён усё вязня да мяне, як смала якая? Вечно вязняш да гэтаго чалавека — то тоё ні так, то гэто ні гэдак.*

ВЯТРО′ЎКІ *мн.* Басаножкі. *Я люблю ў вятроўках хадзіць — нагам лёхко.*

ГА′МАТНЫ *прым.* Велікаваты. *Ён мне гаматны гэты твой пінжак — як на калку якім сядзіць.*

ГАРДАБЭ′ЛЯ *ж.* Няскладны, высокі чалавек, жывёліна. *І знайшоў ён сабе гардабэлю такую — ні людзям паказаць, ні самому паглядзець: от жоначка дык жоначка.*

ГАРКАЧЭ′ЧЫНА *ж.* Нешта вельмі горкае. *Што ты мне гаркачэчыну гэтую падсоваяш — сам еш яблыко такоё.*

ГВА′ГАРАНКІ *мн.* Варанніё (вароны, крумкачы, галкі і інш.). *Гвагаранкаў назлятаяцца з усяго свету, а ты ім дагаджай тут.*

ГІ′ГАВІНА *ж.* Нарасць, гуз. *Такую гігавіну наб'ю на носі, усё жыццё помніць будзяш.*

ГО′ГАЛЬ *м.* Шум, крык, гам. *Гогаль такі справілі ў хаці, хоць ты вушы затыкай: назбіраецца крыкуноў.*

ГО′ЛЬНУЦЬ *зак.* Уцячы, збегчы. *Дзе ён будзя а гэтай пары дома сядзець — недзя да хлопцаў гольнуў, у пікара як дзень цэлы гуляюць.*

ГОЦЬ: ЯК ГОЦЬ. Сама раз, якраз. *Ён той вечар як гоць прышоў, як гоць за стол садзіліся.*

ГРУЗА′ЎКА *ж.* Грудка недаваранай бульбы ў ежы. *Ні даварылі картоплі і таўчы ўзяліся — адны грузаўкі ў камяку, есці німа як.*

ГУБЕ′НЯ *м.* і *ж., абразл.* Губаты, губач. *З губеняй такім яна будзя дружыць — хаця б ні так.*

ГУ′ДЗІЦЬ *незак.* Абгаворваць. *Любіш ты гудзіць другіх, а сама якая? Згудзіць, згудзіць ды з хаты выжаня.*

ДАРАЖЫНЯ′ *ж.* Дарагоўля. *Такая даражыня на базары — нічого не дакупіцца.*

ДАШАДО′БАЦЬ *зак., экспр.* Дайсці да сэнсу, даразумецца. *Ён дашадобая, ні тут то было, каб ні дашадобаў. Нарэсці дашадобала, дайшло да яе — от баба, так баба!*

ДВАРЫ′СКО *н.* Дварышча. *Пане мой, такі дварыско, тут восім фурманак станя, ні тоё што тры.*

ДРУПІ′НА, ДРУПІ′НКА, ДРУПІ′НАЧКА *ж.* Нязначная колькасць, крышачка, крыха. *Колькі ты таго цукру ў шклянку ўкінула — друпінку адну, дзе яму быць салодкім. З'еў друпіну сала.*

ЖА'ДНЫ *прым.* Ніякі. *Жаднаго знаку ні асталося ад магілы. Жаднаго клопату ні будзяш мець ты з жонкай такой.*

ЖВІРО'ЎНЯ *ж.* Месца, адкуль бяруць жвір, пясок. *Не, нідалеко ім вазіць — жвіроўня тут жа, пры вёсцы.*

ЗАДУ'ХА *ж.* Мокрае месца на балоце, дзе трава выправае. *Якое там сено ў задусі той будзя, калі яна ніколі не высыхая.*

ЗА'ЕДЗІ *мн.* Болькі ў кутках губ ад моцнага выдзялення сліны. *У гэтаго хлопца заедзі вечно — слібізіць ды слібізіць.*

ЗА'ЙМІШЧО *н.* Рэчы, прадметы, якія толькі займаюць месца. *Паставілі тут скрыню гэтую — займішчо адно: ні прайсці, ні праехаць.*

ЗАЛЯГА'ЦЦА *незак.* Смяяцца, аж заходзіцца (ад радасці, задавальнення). *Зробіць дурноё — і аж залягаецца са смеху.*

ЗАРВА'ЦЬ *зак.* Схапіць, што пад рукі трапляе. *Ён у іх такі шалёны — што ні зарве, тым і кідая.*

ЗА'ТХЛІШЧО *н.* Спёртае, цяжкае паветра. *Затхлішчо такоё ў хаці, адчыні вокны.*

ЗАЦІКАВА'ЦЬ *зак.* Запомніць. *Яна ўжэ замужам, як зацікаваць. Калі тоё было, як зацікаваць.*

ЗАЯ'ДА *м., ж.* Упарты, учэпісты, злы чалавек. *І ўродзіцца такая заяда, от каб на сваём настаяць, на сваём і — годзі.*

ЗВІНУ'ЦЦА *зак.* Скруціцца, асунуцца. *Як даў навотлях па сківіцы, дык і звінуўся на месцы чалавек.*

ЗДУ'МАЦЬ *зак.* Дадумацца. *І чорт яго стары так здумая, як яно, малоё, зробіць.*

ЗМЫ'СЛЫ *прым.* Кемлівы. *Яна змыслая, хітрая баба.*

ЗУБА'ЦЬ *незак.* Правяраць на моц аб зубы яйкі. *Пазубай, ці моцнаё яйцо, мо расколатаё дзе.*

КАНДЗІБО'БЕРАМ *прысл.* Зігзагам, манерна, падкрэслена заносліва. *Наш сусед пайшоў дадому нек кандзібоберам. Ён заўсюды ходзіць кандзібоберам.*

КАРО'Н: КЛЯСЦІ Ў КАРОН. Праклінаць не на жыццё, а на смерць. *Кепская свякроў была: бало, калі што ні так, у карон кліне.*

КА'РЫ *ж.* Прыстасаванне для перавозкі валуноў, нешта накшталт нізкіх санак.

КЕ'ЎКНУЦЬ *зак., экспр.* Памерці. *Яны як папабілі*

*былі яго тады, ён праз некалькі дзён і кеўкнуў. Кеўкнуць ні штука, выжыць — во штука!*

КЛІША́ВЫ *прым.* Клышаногі. *Што ты тут парадзіш — такая яна ўжо клішавая ўрадзілася: не навучыш ты яе лепш хадзіць. А як яна будзя ісці — якжэбто клішавая.*

КЛІ́ШЫ *мн., здзекл.* Ногі. *Расставіць свае клішы ды сядзіць, грэяцца на сонцы.*

КНІ́ГА *ж.* Кнігаўка. *Кнігі па балоці прайсці не даюць, гэдак лятаюць, гэдак крычаць над галавою.*

КНІ́ГІ *мн.* Частка страўніка ў каровы. *Кнігі смашныя, але іх чысціць кепско.*

КУПА́НКА *ж.* Месца для купання ў рэчцы. *Дзе купаліся? У купанцы, а дзе мы можам купацца яшчэ.*

КУРНА́: ЗАГНУЦЬ КУРНУ. Спосаб жартаўлівага пакарання, пры якім у такой ступені стараюцца прыгнуць ногі да твару, каб пальцы іх дакрануліся да кончыка носа. *Ах, жэўжык, ён, бачыш, з дзедам пабратавайся, дзед табе як загне курну, як адсцябая, ты нібось тады...*

КУРЧА́К *м.* Курапя з адзнакамі пеўня і курыцы.

КУ́ХТА *ж.* Прайдзісветка, асоба лёгкіх паводзін. *Кухта тая зрабіла, хто ж яшчэ. Яна ўсюды ўлезя. Ах ты, кухта з усяго свету!..*

ЛАНТУ́Х *м.* 1. Жывот. *Каб напхаць лантух твой, многа трэба.* 2. Трыбухаты чалавек. *Лантух гэты ходзіць па балоці гын, пакліч, трэба пагаварыць.*

ЛА́ХІ *мн.* Шмаццё, барахло. *Нашто мне чужоё? У мяне самое поўны сундук лахаў. Куды іх дзяваць?*

ЛЕ́ЖЫВО *н.* Сцелішча. *Яшчэ лён на лежыві ўвесь ляжыць. Ат, які ён гаспадар — дзень і ноч ляжыць, як лён на лежыві: ніякага руху ў чалавека.*

ЛЕЦЬ: ЯК ЛЕЦЬ. Ледзь цёплы, летні. *Вада, як леиь, а ён усё дзьмухая на яе — ні апячэшся, асцярожны гэдакі.*

ЛО́ГМА: ЛОГМА ЛЯЖАЦЬ. Лежма ляжаць. *Логма ляжыць, ні паднімаецца з пасцелі.*

ЛЯГА́РА *ж.* Ляжак пад бярвенні. *А цяпер лягары пакладзем і будзям качаць штукі гэтыя памаленьку.*

ЛЯМПЕ́Х *м.* Тлусты, адкормлены чалавек. *Ні баба — лямпех. як паршук кормны.*

МАРАКАВА́ЦЬ *незак.* Наракаць, крыўдзіцца. *Німа чаго маракаваць на некаго — сама найбольш вінавата.*

МІРКІТА'ЦЬ *незак.* Паляваць (пра авечак). *Ні адна наша авечка ні міркітала, то будзям мы налето без ягнят.*

МУЗА' *ж., здзекл.* Яда, варыва. *Накарміла некаю музою — што яна лепшаё можа зварыць: нічого ні ўмея.*

МУ'МРА *м.* і *ж.* Панурысты чалавек. *З мумраю такою да ладу дайдзеш некаго — унурыўся ды стаіць: што ён думая, хто яго ведая.*

МЯ'ЛО *н., перан.* Няўклюда, непаваротлівы, неруха-вы чалавек. *Мяло некаё вырадзіласё — сядзіць цэлы вечар, з месца ні скранецца: ідзі танцаваць.*

НАРАВІ'ЦЬ *незак.* Імкнуцца, старацца. *Кажны наравіць, каб сабе лепш было, якія гэто людзі?*

НЕ'ЖЫЦЁ *н.* Ліхая доля, кепскае жыццё. *Нежыцё гэтаё з'ело мяне, гаспадынька,— столькі гора, столькі бяды глынуць прышлосё.*

НІЖ *злучн.* Чым. *Мой бацько лепшы, ніж твой. Яно лепш схадзіць у нядзелю ў горад, паглядзець на людзей, пахадзіць па базары, ніж маркоціцца дома аднаму.*

НУД *м.* Халера, зараза, нуда. *Нуд на яе некі напаў, месца ні знаходзіць дзеўка. Каб цябе нуд з'еў* (праклён).

НЯ'НЬЧЫЦЬ *незак.* Плакацца, канькаць. *Такі хлапчыско! А ён увесь дзень няньчыць ды няньчыць: то гэто яму ні так, то тоё ні гэдак.*

ПАВІХРЫ'ЦЦА *зак., экспр.* Паімчацца, пабегчы. *Дзе яна табе дома сядзець будзя ў такоё свято — у горад павіхрылася. Павіхрылася недзя таццяніна Аленка, як віхор.*

ПАДАЯ'НКА *ж.* Перадача. *Падаянку я яму назаўтра занясла — чатэры вараных яйцы, акраяц хлеба, скварку ладную: узялі, ні адказаліся перадаць.*

ПАДЦІКАВА'ЦЬ *зак.* Падпільнаваць. *Пастой, гіцаль, я цябе падцікую, калі ты ў наш сад будзяш па яблыкі лезці — ні чакай дабра.*

ПАДШПА'РАК *м.* Падлетак, падшыванец. *Падшпаркі сабраліся ды ганяюць мячык па выгані.*

ПАЎДЗЁНКА *ж.* Палова рабочага дня. *От паўдзёнку адбылі, то і другую адбудзям — зрабіць трэба работу.*

ПАШАНО'ТА *ж.* Павага, догляд. *Яна ўвесь свой век у пашаноці пражыла — дзіва што!*

ПЕРАВАЛАЧЫ′ *зак.* Сцебануць, ударыць. *Перавалачы б яго на спіне лемцінай якой, мо б розуму набраўся.*

ПЕРАПАДА′ЦЦА *незак.* Уніжацца, дагаджаць вельмі. *А ты перад ім ні перападайся, то лепяй будзя. Цэлы век перападалася перад дзецям гэтым, а яно цяпер вон як.*

ПЕ′ЧЫВО *н.* Адна выпечка хлеба. *Нідаўно печыво хлеба спякла — і зноў німа чаго есці: ні ў сябе ядуць.*

ПІДНАВА′ЦЬ *незак.* Пільнаваць. *Ні трэба табе яе піднаваць, свой розум мая, ні малая ўжэ.*

ПЛЯ′ХА *ж.*, ПЛЯ′ХІ *мн.* Ачышчаныя кароўскія трыбухі. *Пляхаў цэлы чыгун адварыла — ешча, смашныя такія.*

ПРАГЧЫ′СЯ *незак.* Хацець вельмі. *Так замуж пражэцца дачка, рады ні дам, а малоё ж яшчэ. І куды пражэшся, куды ты лезяш — ты знаяш, якія там людзі? Як яны жывуць?*

ПРАМАНУ′ЦЬ *зак.* Панадзіцца, узяць за моду. *Прамануў да нас хадзіць, от і ходзіць кажын дзень.*

ПРЫМА′ЦЦА *незак.* Перажываць. *Ні прымайся так, сынку, ні бяры да душы — у жыці ўсяк бывая.*

ПРЫШЧЫКНУ′ЦЬ *зак.* Прышчаміць. *Прышчыкнуў паляц дзвярамі, баліць, няхай яго.*

ПРЫКЛЁП: ДЗЕЛЯ ПРЫКЛЁПУ. Для бачнасці, для віду. *Ён быў там дзеля прыклёпу толькі. Прышый сабацы хвост — сядзеў дзеля прыклёпу.*

ПУ′ПІНАК *м.* Малы круглы чалавечак. *Хлопяц, як пупінак, гэдакі малы, гэдакі малы.*

ПУ′ПЯХ *м.* Пупышка. *Пупяхі панабухалі на вярбе — цяпло пачалосё.*

ПУРНУ′ЦЬ *зак.* Швырнуць, выкінуць. *Я ні буду з табой тут цацкацца, вось як пурну — носам зямлю загарэш за парогам.*

ПХІ′МКАЦЬ *незак.* Енчыць, хныкаць. *Як дзень цэлы, пхімкая ды пхімкая, скрэндзіць ды скрэндзіць.*

РАЗГАРА′КА *м.* і *ж.* Раскірака. *Ні мужчына — разгарака, горш за бабу. Ні ўмею саўсем пісаць — разгаракаў настаўлю, настаўлю, от і пісьмо маё.*

РАЗГАРА′ЧЫЦЦА *зак.* Раскірачыцца. *Разгарачылася баба на лёдзі — ні лезь, куды ні трэба.*

РАЗМО′ЗГНУЦЬ *зак.* Разварыцца, разамлець. *Мясо аж размозгло, зварыласё гэдак. Вымай саган з печы,*

*колькі можно варыць, там нічого жывого ні засталосё, усё размозгло.*

РАСЧВІРТАВА'ЦЬ *зак.* Парэзаць. *І трэба гэдак руку расчвіртаваць?*

САЛАПЯ'КА *м.* і *ж.* Чалавек, які губляе кантроль над сабой ад цікаўнасці, рот разяўляе. *Яе салапякай называлі — такая цікаўная была, заглелзіцца на што, рот раззявіць, ні скрані з месца, сама ні скранецца.*

СА'ЧЫК *м.* Жаночы жакецік. *Ні шкадуй ты гэтаго сачыка свайго — яго пара ўжэ на кажын дзень насіць, на свято ён ўжэ ні годзен.*

СВЕ'ТНІЦА *ж.* Мноства, безліч. *На базары яблыкаў светніца — дзе яны будуць дарагія? Светніца людзей назбіраласё — вядомо, свято. Светніцу льну насеялі.*

СКУПЯНДЗЯ' *м.* і *ж.* Вельмі скупы чалавек. *Скупяндзя гэтая што-небудзь дасць ёй, ні тут то было.*

СЛЯПА'К *м.* Сляпень. *Аваднёў ды сляпакоў, хоць у лес ні заязджай, заядуць каня.*

СМЭ'РГАЦЦА *незак.* Смаркацца. *Ні ўмея смэргацца — засмэргаецца дый ходзіць гэдак: колькі табе гадкоў?*

СНЯГО'ЎЦЫ *мн.* Род жаночага абутку. *Бывало, у снягоўцах зімой хадзіла, халаднавато, але нідораго.*

СНЯКА'ЦЦА *незак.* Смаркацца. *Снякацца таксамо трэба навучыцца.*

СПА'ДАЦЦА *зак.* Збегацца. *Чысто ты спадалася сёня — спала як дзень цэлы: свято ж. Спадалася за гэтымі каравамі — ледзьвя да хаты давалаклася, якжэбто стары чалавек.*

СПАДЗІВО'СЫ: НА СПАДЗІВОСЫ. Надзіва. *На спадзівосы ўдаліся дзеці ў яе — і ў каго толькі яны ўрадзіліся такія?*

СПУ'ШЫЦЬ *зак.* Уздуць. *Чысто спушыло кароеу. Але ні павінно, ні па канюшыні ж хадзіла.*

СТАБАРЧА' *прысл.* Потарч, старчма, старчаком. *Спаткнуўся дый паляцеў стабарча, хай яго.*

СТА'ПАРЧ *ж.* Нешта непрывычна вялікае, няўклюднае. *От, печ! Паставіў стапарч гэтую сярод хаты, адно месцо займая: на чорта яна такая тут.*

СТАРМА'Н *м.* Стары чалавек, старэча. *І куды гэто старман наш пайшоў — ногі ні падымя, здаецца, а ў хаці ні ўседзіць ні хвіліначкі.*

СТО'ХЛІШЧО *н., асудж.* Зборышча. *Дзе ты ў стохлішчы тым разбярэшся што — крык, гам.*

СТРЫНГЕ'ЛЬ *м.* Высокі, худы (чалавек, конь і інш.). *Твой бацько, як стрынгель, доўгі ды худы, затоё лёхкі. Які гэто конь — стрынгель некі.*

СТРЫНГЕЛЯВА'ТЫ *прым.* Хударлявы. *Конь у яго стрынгеляваты, не вельмі зграбны, затоё лёхкі на хаду, без лішняго мяса.*

СУ'ГІНКАМ *прысл.* Прыгнуўшыся. *Недзя наш сусед па-за гумнішчу (гумнамі) сугінкам пасунуўся. Ён заўсюды сугінкам ходзіць — навіну ўбачыла.*

СУК *м., перан.* Скупеча. *Сук ты гэдакі — ты вады шклянку чалавеку пашкадуяш.*

СУНО'ЗА *м.* і *ж.* Пануры чалавек. *Ат, дапытаяшся ты ў гэтай сунозы нешто?*

СЫ'СПАДУ *прысл.* Знізу. *Пaглядзі ў сундуку сыспаду, там сарачке маці кладзе.*

ТКАЛЕ' *прысл.* На ўсякі выпадак; хоць, хаця. *Каб ткале былі добрыя харчэ, то мо як выхадзілі б яго тады — ён быў моцны ад прыроды чалавек, а так... Каб ткале было тады чым плот паправіць, мо дзеці б ні так аблаташылі сад.*

ТРАШЧЫ'ЦЬ *незак.* Сукаць. *Што буду рабіць? Буду трашчыць цэлы вечар пражу — прыходзь, пагаварымо.*

ТРО'ПНУЦЬ *зак.* Ударыць, стукнуць. *Сядзі ды еш па-люцку, а то як тропну па лубе апалонікам!*

ТУ'РЗАЦЬ *незак.* Тузаць, рваць. *Падбой на назе мне так турзая, так турзая, мусіць, нарывая. Не турзай так за клямку.*

ТХНУЦЬ *незак.* Патыхаць. *І адкуль гэто так смуродам тхне?*

УДЫ'РЫЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Удырыў раптам холад, і ўсё прапало ў агародзі — памідоры, гурке.*

УКАЖАНЕ'ЦЬ *зак.* Усохнуць, змізарнець. *Каб ты ўкажанеў, каб ты, гад ты гэдакі!*

УКАРЭ'ЦЬ *зак.* Ссохнуцца. *Тваё ганучы так укарэлі — за два дні ні адатрэш.*

УКАТРУ'ПЕЦЬ *зак.* Спужацца да смерці. *Я ўкатрупяў тады, як ты закрычаў гэдак, думаў, па мне будзя.*

УКАТРУ'ПІЦЬ *зак.* Забіць, знішчыць; замардаваць. *Укатрупілі, мусіць, недзя сабаку нашаго дзеці — колькі дзён ні відаць.*

УМЫЛІ'ЦЦА *зак.* Страціць, упусціць з рук. *Умылілася такого хлопца.*

УСЕ'НЬКІ *прым.* Увесь, цалюткі. *Усенькі дзень на нагах, каб хоць на мінутку прысела.*

УТАЛО'ПІЦЦА *зак.* Утаропіцца. *Уталопіцца і ачу ні спуская: гэто ты яму, суседачка, так падабаяшся.*

УШЧАРЭ'ПІЦЦА *зак.* Узлезці, узабрацца. *І як толькі гэто дзіця ўшчарэпіласё на вярбу такую?*

ХАЛЭ'МУС *м.* Канец, каюк. *Вось як дам з усяго маху, дык і будзя табе халэмус.*

ХРАБУСТА'ЦЬ *незак.* 1. *Экспр.* Есці са смакам (што-небудзь крохкае, пругкае). *Нечые каравэ ўсю нашу капусту пахрабусталі за хлявом.* 2. *Перан.* Біць, ламаць. *Усе міскі ўчора пахрабустаў, так раз'юшыўся.*

ХРАСТО'К *м.* Расток. *Ячмень набрыняў у балеі, храсткі паказваюцца.*

ХРАСЦІ'ЦЦА *незак.* Прарастаць. *Жыто пачало храсціцца ў мэнтлях — як пабудзя такая пагода, згіня пад ліхую гадзіну.*

ЦАРАБА'НІЦЬ *незак.* Ліць, ісці без канца (пра дождж). *Як дзень цэлы царабаніць гэты дождж ды царабаніць.*

ЦЁМНАЧЫ *прысл.* Упоцемку. *Ён да нас прышоў тады цёмначы. Дабіраліся мы дадому ўжэ цёмначы.*

ЦІ'ХАЦЕ *прысл.* Цыц. *Ціхаце вы! Раскрычаліся тут.*

ЧАСНЫ'К *м.* Часнок. *І нашто цэлую граду часныку насадзіла? Бунтоў шэсць часныку звязала, а ты ўсё — нічого яна ні робіць, нічого ні ўмея.*

ЧЫКІЛДА' *м.* і *ж.* Кульгавы, няўклюдны чалавек. *Якраз з чыкілдою гэдакай прыдзяш у час.*

ШЛАПА'К *м.* і *ж.* Чалавек з пляскатым тварам. *Будзя ён на шлапака такого глядзець, што ён харошайшую сабе ні знайдзе.*

ШЛЁГАЦЬ *незак.* Сцябаць, біць. *Шлёгні хоць раз пугаю па кабылі, як яна гэто толькі ідзе?*

ШПІГА'ЦЬ *незак.* Калоць, паколваць. *У нагу так шпігало цэлую ноч, вокам ні звяла — мусіць, нарывая, падбой будзя.*

ШТЫРА'ЦЬ *незак.* Піхаць, кідаць. *Як штырну, так і духу ні ўкажаш. Гын куды палено штырнуў.*

ШУГА'НКА *ж.* Гушкалка (для дзяцей). *Шуганку зрабілі, то як дзень цэлы гойдаяцца ўсё.*

*А. К. Усціновіч*

## ТАК ГАВОРАЦЬ У КУПІСКУ

Словы, пададзеныя ў гэтым артыкуле, запісаны пераважна ў вёсцы Купіск (мясцовая назва Купіцак), што знаходзіцца за 5 км ад г. п. Любча Навагрудскага раёна.

АДЫМКА'ЦЬ *незак.* Адмыкаць. *Высоко замок вісіць, то дзеці хату ня могуць адымкаць.*

АПЦЭ'НГІ *толькі мн.* Абцугі. *Як учэпіцца за што рукамі, то як апцэнгамі.*

АТАТУ'РЫЦЦА *зак.* Адвыкнуць. *Як ён за доўгі часататурыўся ад усіх родных, ні да кога ня горняцца.*

БАЦ *м.* Пацук. *Пасьля вайны ў ямя так шмат развялось бацоў, што страшно было набіраць картоплі.*

БО'ЛБАТКА *ж.* Бурбалка. *Весь занятак для дзяцей — гэта пускаць болбаткі з мыла.*

БО'ЎДЗЯЛО *м.* Боўдзіла. *А калі ад гэтага боўдзяла можно было пачуць разумнае слово.*

БРЫ'НДА *ж.* Вельмі неакуратная ў працы жанчына. *За гэтай бryндай, як яна жне, хоць граблі прывязвай, бо колькі ў снапы зьвяжа, столькі і на зямлі ляжыць.*

БУ'КТА *ж.* Глыбокае месца ў рэчцы. *Дзеці цэлы дзень на Нёмні, хоць бы дзе ў букту ня ўсунуліcь.*

БЭ'ТКА *ж.* Любы ядомы грыб, акрамя баравіка. *Такая дабрадзея, а госцям заўсёды толькі бэткі на стол паставіць, баравікі сабе пакідая.*

ВАРАВА'ЦЦА *незак.* Паважаць, баючыся каго-небудзь. *Дзеці мусяць варавацца бацькоў, а то павырастаюць вырвусамі.*

ВАЧАВІ'ДЗЕЦ *м.* Сведка, відавочнік. *Быў я вачавідцам, як злавілі рыбакі сома трохпудовага.*

ВАШАВА'ЦЬ *незак.* Працаваць з азартам, праца-

ваць многа і старанна. *Цэлы дзень вашавалі сьнег, пакуль не расчысьцілі дарогу, кап можно было прайсьці.*

ВО'ГІР *м.* 1. Стаеннік. *Аш зямля дрыжыць пат вогірам, як ён ідзе запрэжаным у каламашцы.* 2. *Экспр.* Здаровы, дужы (пра мужчыну). *Гэтага вогіра хоць у плух запрагай, вядома спасьвіўся без работы.*

ВО'ЧАРАЦЬ *ж.* Чарга. *Паслала дзяцей заняць вочарацЬ, а цяпер сама іду.*

ВУ'МЁ *н.* Вымя. *Дзіво што гэта карова дае шмат малака, у яе ш вумё з вядро.*

ВЫ'ЖЛА *ж., груб.* Жанчына, якая ўсё ведае і выйдзе з любога становішча. *Выжла ўжо тут, ня ўспела здарыцца што, а ўсё сяло зная, усім данесла.*

ВЫ'ЛЫХВІЦЬ *зак.* Вывіжаваць. *Ты думаяш, што сусетка прыходзіла так пагаварыць, яна ш вылыхвіць хацела што.*

ВЫ'МАЛАЦЦА *зак.* Сабрацца пайсці куды-небудзь, рабіць што-небудзь. *Пакуль вымалаўся дрова пілаваць і сячы, то ўжо быў полудзянь.*

ВЫ'РВУС *м.* Непаслухмянае дзіця. *Гэто ш трэба, кап такі вырвус вырас, нікого ні баіцца, бацькоў ні ў грош ня ставіць.*

ВЫ'САТКІ *звыч. мн.* Пасаджаныя на насенне (буракі, морква, рэдзька). *Высаткі трэба аднесьці ў склеп, а то калі марозам прыхопіць, то ня ўзыдуць.*

ВЫ'ХІЛКА *ж.* Манера паводзін. *Усе крошачкі пабраў: і выхілка, і разгавор, і сьмех.*

ВЭ'ДЛУХ *прыназ.* Паводле. *Твой парсюк вэдлух майго куды лепшы.*

ВЯНО'К *м.* Нізка. *Пяць вянкоў цыбулі напляла.*

ВЯРХО'ВІЦА *ж.* Верхняя частка галавы; цемя. *Зімою ня хадзі з голай вярховіцай, то і ня прастудзішся.*

ГАВЭ'НДА *ж.* Гутарка. *Надаела гэтая гавэнда, век толькі пра грошы ды каля іх і круціцца.*

ГА'КАЦЬ *незак.* 1. Акучваць (бульбу, капусту). *Весь дзень гакала капусту.* 2. Матыкай ссякаць у агародзе пустазелле. *Ідзі ды трохі гакай зелё ў агародзе, а то вышэй капусты вырасло.*

ГАЛЯЛЁТ *м.* Галалёдзіца. *На дварэ такі галялёт, што ня ступіць.*

ГАЧКАВА'ЦЬ *незак.* 1. Акучваць агародні расліны. *Гачкаваць картоплі.* 2. Ссякаць пустазелле. *Пайду гачкаваць, а то на мяжы такое велькаё зелё вырасло.*

ГВА'ЗНУЦЦА *зак.* Моцна з размаху стукнуцца. *Стала на табурэтку, кап павесіць цюлі на акно, а яна пахілілась, і я гвазнулась ап падлогу, што ледва ўстала.*

ГОР *прысл.* Абсалютна, зусім (пра адсутнасць чагонебудзь). *Грошай гор няма, усе атдала на базары.*

ГРУМЯ'К *м.* Удар кулаком у спіну. *Каровы ў шкоду пусьціў, дак я такіх грумякоў надавала, што надоўга запомніць.*

ГЭ'ТАРАЧНІ *прым.* Сёлетні. *Гарох гэтарачні, то і разварваецца скоро.*

ДАВА'ЦЬ ВЫДРЫБА'СА. Ліха танцаваць. *Так давай на танцах выдрыбаса, што рубашка мокрая была.*

ДАЛІКТУ'СЯ *ж.* Распешчаная дзяўчына. *Гэтай даліктусі нічым ня ўнаровіш, што зробіш, усё кепско.*

ДАРМАЕ'ДЗІНА *м.* Чалавек, які гультайнічае, жыве за кошт іншых. *Старэйшы такі рабацяшчы, а малодшы — дармаедзіна, так і наровіць, кап увільнуць ад работы.*

ДЗЯ'ЖЫЦЬ *незак.* Біць дзягай. *Макарыха так дзяжыла хлопца за тое, што курыць.*

ДО'ЙЛО *н.* Вымя. *Добрую карову купіла, дойло як вядро.*

ДРА'ПЦЫ *толькі мн.* Матыка. *Драпцы новыя ў мяне ды вострыя, так вот добра агарод драпаць.*

ДЫ'ЛЯЦЬ *незак.* Рэзаць тупым нажом. *Хіба гэтым нажом атрэжаш, ім жа толькі дыліш мясо.*

ЖУДА' *ж., зборн.* Дзеці *Такрок так шмат прыходзіло жуды таптаць салому, а цяпер няма нікога.*

ЗА'ГА *ж.* 1. Скупеча. *Калі гэтая зага што зьела, усё ш на базар прэ.* 2. Пякотка. *Так мучыць зага, ня знаю, што і піць.*

ЗАЛІМО'НІЦЬ *зак.* Даць аплявуху. *Ня будзяш слухаць і весьці як хачу, то так залімоню, што іскры з вачэй пасыплюцца.*

ЗБРЭ'СКЛЫ *прым.* Пракіслы (пра малако). *Малако збрэскла, крупнік ня зварыш, бо аткіпіць.*

ЗМЭ'НЧЫЦЦА *зак.* Змучыцца, замарыцца. *Так змэнчылась за дарогу, што цэлы тыдзянь ні рук, ні ног ня чую.*

ЗНА'КУ НЯМА'. Не пакінуць ніякіх слядоў. *Яблыня так урадзіла, што знаку няма, што мы шмат сарвалі.*

ЗЬЛІВА'К *м.* Пра тлустага хлопца. *Гэты зьлівак ня паверняцца, бо цяжко сваё сало зварухнуць.*

КАНАВА'Л *м., асудж.* Дрэнны доктар. *Гэты канавал ня лечыць, а ў магілу атпраўляя.*

КАНЧА'Р *м.* Канец. *Усё дрэво пяравезьлі, засталісь толькі адны канчары і трэскі.*

КАСТРЫ'ЦА *ж.* Іголкі хвоі, якія апалі. *Добра зьбіраць грыбы, нагнешся і глядзіш, дзе голкі кастрыцы паднялісь, то там і будзя грып.*

КАЧУ'Р *м.* Качар. *Аднаго качура пакіну на зіму, другога прыдзяцца засячы.*

КІ'ЛІХ *м.* Кілішак. *Выпіў толькі тры кіліхі, а такім стаў п'яным.*

КЛЕ'ШНЯ *ж.* Ляжка. *Цэлы дзень за кроснамі, то аш клешні забаляць.*

КО'ЗЫТКІ *толькі мн.* Козыт. *Так баіцца козыткаў хлопяц, як сталі казытаць, то быў бяс памяці.*

КУ'ДЗЯРКА *ж.* Невялікі ўчастак лесу сярод сенакосу. *Трэба кудзярку высякаць, бо стаў няважны сянакос.*

КУЛЬБА'ЧКА *ж.* Падсядзёлак. *Будзяш пускаць на пашу каня, ня забуцься зьняць кульбачку.*

ЛАТРУ'ГА *ж.* Гультай (звычайна пра жанчыну). *Латруга летам у цяньку пралежыць, а зімою паглядвае, кап хто што даў.*

ЛЫГІ *звычайна мн.* Ногі. *Схавала п хоць лыгі сукенкай даўжэйшай, а то ходзіш у такой кароткай.*

ЛЫ'ХВА *ж.* Пра жанчыну, якая вывіжоўвае. *Лыхвы трэба баяцца, яна заўсёды там, дзе яе ня хочуць бачыць.*

ЛЮТАЕ'ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Лютаежлівыя дзеці ніколі поўнымі ня будуць.*

МАЛМЫ'ГІ *мн.* Вялікія ногі. *Гэтымі малмыгамі толькі балото мясіць на сянакося, а ня па асфальця хадзіць.*

МУШТЫ'К *м.* Муштук. *Цэлымі днямі муштыка з рота ня выпуская, як тое дзіця суслу.*

МЫ'ТЛЯ *ж.* Жанчына, якая разносіць плёткі. *Мытля трымая сакрэт толькі да парога, а як за парох, то і язык развязаўсь.*

МЭ'НДЗЯЛЬ *м.* Мэндлік. *За дзень нажаць копу і паставіць шэсць мэндляў, заморысься добра.*

НАДУ'ЦЬКО *м.* Пра злога, незадаволенага чалавека. *Гэты надуцько мусіць за ўсё жыццё ня засьмяяўся ніколі.*

НАКО'ПІЧ *м.* Сноп, якім накрываюць мэндлік. *Мы*

*мелісь ехаць у Загаро на фэст, а распагодзілось, то мы зьнімалі накопічы, кап прасушыць жыто ў мэндлях.*

НАКРА'СІЦЦА *зак.* Падмаляваць губы, падвесці бровы, напудрыцца. *Усе грошы аддае на памады, бо накрасіцца так, як яна робіць, то шмат трэба.*

НАНЕ'КАЛІ *прысл.* На наступны год. *Трэба ўкарміць парася, кап была скварка і нанекалі.*

НАПА'ШКУ *прысл.* Наапашкі. *Адзень кажух у рукава, а то цяпер холадно ўжо напашку.*

НАПАШЭ'ЎКУ *прысл.* На відным месцы. *Так баяўсь пажараў, што адзежу клаў каля сябе, напашэўку.*

НАРА'ВІЦЦА *незак.* Падабацца. *Я ня буду купляць табе мацерыю на сукенку, бо яна мне ня наравіцца, прыедзяш, сама зробіш, як захочаш.*

НАРЭПЯЦІ'ЦЦА *зак.* Прыгожа адзецца, напудрыцца, падмаляваць губы, падвесці бровы. *Як толькі вечар, яна нарэпяціцца, як лялька, і на танцы.*

НАСТРАПАЛІ'ЦЬ *зак.* Настроіць супраць каго-небудзь. *Як прыдзя свякроў ды настрапаліць сына, заўсёды сварка ў хаця будзя.*

НАТУ'РЫСТЫ *прым.* Упарты. *Хлопяц ён натурысты, як чаго зажадае, то і мусіць быць па яго.*

НАЧЫНЁ *н., зборн.* Сталярны інструмент. *У яго рознаё начынё есьць, можам папрасіць рубанак.*

ПАБЯГА'ЦКІ *наз.* Пра чалавека, які дома не прыпыняецца, а знаходзіцца ў руху. *Хіба гэтага пабягацкага даклічашся, ён цяпер няведама дзе апынуўся пасьля сьняданя.*

ПАГРЭ'ЙЗАЦЬ *зак.* Неакуратна, абы напісаць, нарысаваць што-небудзь. *Ён толькі паперу пагрэйзая, а глядзець і чытаць няма чаго.*

ПАДДЗЫ'Г *м.* Падскок. *Ён век гуляя з паддзыгам ці гэта полька, ці факстрот.*

ПАЗІ'МКА *ж.* Суніца. *Дзеці хадзілі па пазімкі, то прынесьлі па вядзёрку.*

ПАМЯЛЬНІ'К *м.* Сасновы венік, якім выціраюць сажу ў коміне. *Памяльнік новы, то добра і комін выцяр, так шмат сажы сабралось.*

ПАРАШЫ'НАЧКА *ж.* Крупіца, драбніца. *У роця сёдня яшчэ і парашыначкі ня было за гэтымі лётамі.*

ПАЎДУ'РАК *м., груб.* Неразумны, прыдуркаваты чалавек. *Гэтаму паўдурку цэлы дзень трэба гаварыць і ня ўложыш у голаву нічога.*

ПЕРШАЦЁЛКА *ж.* Карова першым целем. *Карова добра дае малака, хоць і першацёлка.*

ПЕ'СТА *м.* і *ж.* Выпеставаны хлапчук, дзяўчынка. *Гэта песта нічога ня есьць, толькі адны прысмакі.*

ПІ'ЛЬНАЯ ПАТРЭ'БА. Тэрміновая, неадкладная справа. *Еду ў горат, ёсць пільная патрэба, трэба конча купіць хлопцу касьцюм хадзіць у школу.*

ПЛЮХАТА' *ж.* Плюхота. *У такую плюхату і халат нічога ня паможа, будзяш мокры навылёт.*

ПО'ВЯСКІ *звычайна мн.* Чатыры тонкіх жардзіны, звязаныя разам і перакінутыя праз верх стога. *Стох не развярнуў вецяр, повяскі добра віселі і прыціскалі сено.*

ПО'ПЫРСКІ *звычайна мн.* Пырскі. *Як стукну, то аш попырьскі паляцяць у розныя бакі.*

ПО'ХВА *ж.* Футляр (для акуляраў, тэрмометра). *Дзеці закінулі похву ат градусьніка, то баюсь, кап ня разбіўсь.*

ПРАГАЛАСО'ПІЦЬ *зак.* Патраціць без патрэбы. *Гэты пустадомак прагаласопіў за адзін тыдзянь бацькаву гаспадарку.*

ПРАЛО'МКА *ж.* Палонка. *Лёт яшчэ ня моцны, глядзі ня ўвалісь у праломку.*

ПРАХАДЗІ'МЕЦ *м.* Прайдзісвет. *Дзе ён толькі ня быў, дзе ні рабіў, а цяпер прыцягнуўся сюды, ды задурыў галаву такой добрай дзяўчыня.*

ПРО'СТАЯ *прым.* Нямодная, звычайная. *Сукенку пашыла простую, дома добра будзя, гэта ш ня на фэст.*

ПРУ'ШЧЫНА *ж.* Белы паркаль. *На простыні прушчыны купіла.*

ПРЫ'МАРАСКІ *мн.* Замаразкі. *Яшчэ ня ўспела картоплі перагараць, а тут прымараскі ўзялісь.*

ПРЫЯ'ЦЬ *незак.* Спрыяць, жадаць дабра. *Ён дрэнны чалавек, і мне прыяць ня можа.*

ПУЖА'ЛЬНО *н.* Пугаўё. *Добрую ялаўчыну выразаў на пужально.*

ПЫ'РАЎ *ж.* Пырнік. *Пыраў трэба выграпці ці загараць глыбоко, бо нанекалі так падымяцца, што будзя сянакос. Гот мокры, пыраў узялась расьці, што хоць касу закладай.*

ПЭ'НКНУЦЬ *зак.* Лопнуць. *Так многа напіўсь вады, што траха ня пэнкнуў.*

ПЭ'НЦНУЦЬ *зак.* Моцна стукнуць, ударыць. *Як пэнцну па нося, то аш юхаю зальешся.*

ПЭ'НЬДЗІЦЬ *незак.* Хутка ісці, бегчы. *Куды так пэньдзіш ты, што аш валасы на галаве мокрыя.*

ПЭ'ЦКАЛО *н.* Няўмелы і неакуратны ў рабоце чалавек; пэцкаль. *Кап рабіў масьцяр, то печ бы была, што трэба, а то гэты пэцкало.*

ПЯХО'ТКА *ж.* Фасоля, якая не ўецца. *Пяхоткі пасадзіла цэлую граду, а тычкавую зьвяла.*

РАБЭ'ЙЗА *м.* і *ж.* Вяснушкаваты чалавек. *Як гэтаго рабэйзу любіць, да яго ш страшно дачапіцца.*

РАЖО'НЧЫК *м.* Драўляны пруток, на якім смажаць сала. *Як пасьвілі каровы, сало на ражончыку пяклі.*

РА'КАЧА *прысл.* Ракам. *Ракача як пастаіш на полі цэлы дзень жнучы, то вечарам ня разагнуцца.*

РАНДЭ'ЛЯК *м.* Эмаліраваная каструля з доўгай ручкай. *Рандэлек кашы маннаі зварыла.*

РАСКО'Л *м.* Свавольны, непаслухмяны хлопец. *Што гэто за раскол расце, нікого ня слухая, а правіць сваё.*

РА'ТА *ж.* Чарга пасвіць кароў. *Старыя былі на пашы, сёдня іх рата кароў пасьвіць.*

РО'СЬЛЯ *ж.* Парастак бульбы. *У склепя горача і картопля ўся ў росьлях.*

РО'ШЫНА *ж.* Крошка. *Так старалась зрабіць усё як скарэй, то да абеду нават рошыны ня было ў роцэ.*

СВАЦЕ'Я *ж.* Сваццяя. *Свацею на базары бачыла, гэта маці маёй нявесткі.*

СКУПЯНДЖА' *м.* і *ж.* Скупы чалавек. *У гэтага скупянджы ня выпрасіш пазалеташняга сьнегу, а ня то, што грошай.*

СЛАБО'ДНО *прысл.* Свабодна. *У клубя слабодна ў нядзелю, бо вучаніке цяпер ня ходзяць.*

СНО'ЎНЯ *ж.* Прыстасаванне, на якім снуюць кросны. *Снойўня вісела пат паветкай, рассохлась і кепско снаваць было.*

СПРЭС *прысл.* Усё, поўнасцю. *Купіла мацерыю сабе на копту спрэс сінюю.*

СПУ'ШЫЦЬ *зак.* Уздуць (пра карову, якая аб'елася канюшынай). *Спушыло ад канюшыны карову так, што лецъ выратавалі.*

СТАЕ'ННІК *м., экспр.* Здаровы малады мужчына, які не працуе. *Гэты стаеннік толькі на гулі здатны, а не на работу.*

СТАЎБУ'Н *м.* Пра высокага хлопца. *Ужо добры стаўбун вырас, толькі розуму мала.*

ТАКРО'К *прысл.* Летась, у мінулым годзе. *Такрок у лесе было шмат гарэхаў.*

ТУ'ПКІ *прым.* Утаптаны, цвёрды (пра грунт). *Дно ў рэчцы тупкаё, ідзі сьмело, ня бойсь.*

ТУ'ПКО *м.* Пра нерашучага чалавека. *Гэты тупко прыдзя, пастаіць і да хаты пойдзя, нічога не сказаўшы.*

ТЭ'ЛЬБУХ *м.* Мужчына з вялікім жыватом. *Хіба гэты тэльбух можа прабехчы, ён жа за сваім жватом і нох ня бачыць.*

УБО'ІНА *м.* і *ж.* Гультай. *Трэба ш было нарадзіцца такой убоіне, якую нічым ня прымусіш рабіць.*

УЗРЫ'МСЦЯЦЬ: НЯ ЎЗРЫМСЦЯ'ЦЬ. Вельмі жадаць чаго-небудзь. *Так хацела паступіць у інстытут, што як ня ўзрымсьцяла вучыць хімію.*

УМЕ'КА *м.* Пра ўдалага, умелага чалавека. *Усё гарыць у руках у гэтага ўмекі, што ня возьмя.*

УСУ'НУЦЦА *зак.* Утапіцца. *Пашлі дзеці адны на Нёман, то сусецкі хлопяц ня ўмеў плысці і ўсунуўся, камяням на дно пайшоў.*

УШЧЭ'П *м.* Прышчэпа. *Сат вялікі засадзіў, шмат ушчэпаў купіў.*

ФАЕ'РКА *ж.* Канфорка. *У пліце фаеркі толькі дзьве, вельмі кепска, як варыш есьці, то чыгун ня можна глыбока апусьціць.*

ФРА'ЯР *м.* Фарсун. *Які фраяр явіўся з горада, весь бліщчыць, на нагах лякеркі.*

ХЭ'НЬЦІЦЬ *незак.* Хацець, мець ахвоту. *Ня хэньціць ісці на вяселё, бо што там натта добраё будзя.*

ХЭНЬЦЬ *ж.* Ахвота. *Кап гэта хэньць была, дак я п скоро справілась з гэтай работай.*

ЧВЭ'РЫЦЬ *незак.* Жартаваць. *Заходзіла сусетка на вячоркі клікаць, расказвала пра гулі, як чвэрыў гэты, што ўсе за бакі трымалісь.*

ШКАРУ'ПКА *ж.* 1. Пенка. *Малако жырнаё, такая шкарупка велькая і смашная.* 2. Пра зморшчаны твар. *Вот знайшоў красавіцу, у яе ш твар, як шкарупка, зморшчаны.*

ШКІЛЁНДА *ж.* Каўбаса ў тоўстай кішцы. *Шкілёнды ў гэтым годзя паелі да лета, а тыя годы пакідалі на сянаванё, то мясо ў іх як сегодня паложанаё, сьвежаё.*

ШО'РСТАК *м.* Палка перад печчу, на якую вешаюць ручнікі. *На шорстку вісіць рушнік, а ён замест рушніка ўзяў атымач і рукі выцяр.*

*І. І. Крамко, Я. І. Крамко*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ БЕРАЖНА

Як і ў папярэдняй подборцы (Жывое слова. Мінск, 1978), тут прыводзяцца словы, запісаныя ў в. Бе́ражна Карэліцкага раёна. Загалоўнае слова падаецца ў літаратурнай арфаграфіі, а ў прыкладах захоўваюцца фанетычныя і граматычныя асаблівасці гаворкі.

АДПА'СНАЕ *н.* Гасцінец пастуху ў канцы пасьбы. *Атпаснаго даюць ні абязацяльно ў пасьледні дзень, але ўжо не́катарыя, як пастух сам ні зойдзя, то, даўшы атпаснаго, ні выганяюць больш каровы ці авечак.*

АПА'ЛІК *м.* Скавароднік. *Трохі пачакайця, пакуль сьпячэцца хоць адзін апалік, тагды сядзям сьнедаць.*

АПА'Р *м.* Паласа вады каля берага ракі або возера пры раставанні лёду. *Як апар ні велькі яшчэ, то і з саньмі мо́жно цяразь Нёман пяраяжджаць, а на канькох вазіцца саўсім ні страшно.*

АПРАСТА'ЦЬ *зак.* Вызваліцць. *Некаё гэто парася нігё́глаё, саўсім ні есьць. Няхай бы нават і здохло, хоць бы мне рукі апраста́ло.*

АХЛАБУ'ШЫЦЬ *зак.* Стукнуць, аглушыць. *Ён нікого ні просіць памагаць, сам з любым япруком справіцца. Спачатку ахлабушыць якою-нібуць даўбешкаю, а потым даколя.*

АЦАПЯНЕ'ЦЬ *н.* Анямець. *Я як убачыла, што самалёт ляціць просто на вёску, дак аш ацапянела і ні магла ўцякаць.*

АШЛА'П *м.* Верхні, завяршальны вянок у зрубе. *На ашлап падбіраяцца роўная і моцная дзяравяка, бо ён трымая стрэху.*

БАЛЭ'ХТАЦЬ *незак.* Боўтаць. *Ні балэхтай нагамі ў вадзе, а то каламута плыве і ні відно, як брысьці!*

ВУЗЁЛЧЫК *м.* Самая малая лясная птушка (у гэтай мясцовасці), гняздо робіць у нізкім кустарніку.

ВУ'СЦІШНА *прысл.* Сцішна. *Як завылі на востраві вайке, дак нек стало вўсьцішно і коні пачалі збівацца ў кучу.*

ВЫДУРНЯ'ЦЦА *незак.* Сваволіць, дурэць. *Пакіньця вы выдурняцца! Пара ўжо папраўдзі брацца за работу, бо ні ўсьпёям кончыць да заходу сонца.*

ВЫ'ТАРАПІЦЦА *зак.* Вытрашчыць вочы. *Чаго ты вытарапіўсё як баран на новыя варота, ці першы раз бачыш?*

ВЫ'ТАРАПІЦЬ *зак.*, ВЫТАРО'ПЛІВАЦЬ *незак.* Вытрашчыць, вылупіць (вочы). *Мама, а дзе мая хустка? Вытарапі добро вочы, дак убачыш!*

ВЫ'ЦЯЖКІ *мн.* Боты, у якіх халявы і перады зроблены з суцэльнага куска скуры шляхам прыдання патрэбнай формы на спецыяльных калодках. *Выцяшкі нічуць ні лепш за абыкнавенныя боты, але іх рабілі з лепшаго тавару і яны каштавалі даражэй.*

ВЯЛІ'ЗАЗНЫ *прым.* Велізарны. *Яшчэ і гром ні пачўўсё, як вялізазны слуп агню шугануў уверх і ўся будыніна пачала раптам гарэць.*

ГА'МАТ *м.* Клубок, камяк. *Ён падаў мне цэлы гамат некіх бумах, а ці была там квітанцыя, я ні ведаю.*

ГАРГА'РА *ж.* Вялікая няўклюдная жывёліна. *Гэто ні карова, а так гаргара некая, толькі много есьць і место занімая ў хляве, малака дае саўсім мало.*

ГАРКАЧЭ'ЧА *ж.* Гаркота. *Да кіслаго і горкаго ён велькі ахвотнік, нават такую гаркачэчу, як чырвоны перац, можа есьці.*

ГІЧА'ННЕ *н.* Сцяблы, бацвінне. *Бураке ссыплям у пограп на зіму, а гічáньнё трэба скарміць цяпер, да марозаў.*

ГНАЯ'НКА *ж.* Месца, дзе ляжала кучка гною. *На гнаянках вельмі добрая трава расьце, але каровы яе ні ядуць.*

ГУБІ'ЦА *ж.* Мера даўжыні асновы і палатна. *У гэтум годзі лён быў кепскі, так што палатна палучыцца толькі губіц пяць ці шэсьць.*

ДАКУМЕ'КАЦЬ *зак.* Дадумацца, зразумець. *Паварушы мазгамі і сам зможаш дакумекаць, як лепш рашыць гэту задачу.*

ДАРАЗУМЕ'ЦЦА *зак.* Дадумацца. *Гэто ш ён дара-*

*зумеўсё павязаць куранят на аборку і, прывязаўшы камянь, у Нёман укінуў, каб ні глядзець іх, а сам ходзіць па беразі і кліча, як бутто прапалі самі.*

ДРАПЧА'К *м.* Від брычкі. *Конь накормляны, дагледжаны, запрагай у драпчак і мы скоро туды заедзям.*

ЖВА'ЙКА *ж.* Жвачка. *Наша карова нешто жвайку ні жуе, мусіць, захварэла.*

ЗАБАБУ'ЛА *ж.* Балванка. *Ні папяросу ты скруціў, а забабулу некую, што і ў році трымаць кепско.*

ЗАБІ'ЦЬ ДУХ. Сперці дыханне. *Я, як быў малады, адзін такую дзяравяку на сані лажыў, а цяпер толькі нагнёсься падняць што, дак заб'е дух, што і адагнуцца цяжко.*

ЗА'КРУТКА *ж.* Прыстасаванне для закрывання, зашчэплівання дзвярэй.

ЗАМАЛЬДАВА'ЦЦА *зак.* Стаць на ўлік, адзначыцца. *Усякі, каго с цюрмы выпускалі, павінян быў адразу замальдавацца ў пастарунку.*

ЗАПА'СНАЕ *н.* Гасцінец пастуху ў пачатку сезона пасьбы. *Рас ты ў яе ўжо ўзяў запаснаго, то ні маяш права атказвацца пасьвіць яе карову.*

ЗА'ЎТРАЧЫ *прысл.* Заўтра. *Цяпер я ні маю часу, а заўтрачы прыходзь да мяне і зробім усё як трэба.*

ЗАХА'ЯЦЬ *зак.* Заганіць. *Я, здаецца, вельмі старалася рабіць як трэба, а ён захаяў усю маю работу, што больш і брацца за яе ні хочацца.*

ЗГАЛЕ'ЦЬ *зак.* Прапасці. *Дзе ты згалеў на цэлы дзень? Патходжвацца даўно пара, а цябе чорт нёдзя занёс!*

ЗЕЛЯНІ'ЦЫ *мн.* Зялёнкі. *Зяляніцы найбольш растуць у маладых хвайнікох позьняю восяньню, пад замараскі.*

КАЛО'ШЫ *мн.* Капялюхі, пласцінчатыя спажыўныя грыбы з шырокай светла-бураватай шапкай і на высокай ножцы з венчыкам.

КАНАЛУ'П *м.* Чалавек, які лічыўся спецыялістам здымаць скуру з каня. *За каналупа ў нас лічыўсё Габрусь, бо ніколі ні аткázваўсё, як клікалі каня аблупіць. Ён ні шкадаваў і жывоі скаціны.*

КАНДЗІБО'БЯРАМ (ХАДЗІЦЬ). Зухавата, з форсам. *Ён, як прадаў яблыкі, дак з гот хадзіў каньдзібóбярам, а цяпер ужо прыціх і друзей паменшало.*

КАНЧУЛЯ'НЕЦ *м.* Жыхар канца вёскі. *У нас раней*

*канчулянцы трымаліся ў класі нек аддзе́льно ад астатніх, а потым — нічого, асвойталіся.*

ҚАРЧУ'Қ *м.* Қорчык. *Я думаў, што гэто нівялікі карчук, а як пачаў выкопваць, дак паму́чыўсё над ім, наледзьвя вырваў.*

ҚАРЧУҚАВА'ТЫ *прым.* Қаржакаваты. *Ты ні глядзі, што ён малы, але затоё карчукаваты, мацнейшы за другого ве́лькаго.*

ҚАТУНО'Қ *м.* Қаток. *Зрабі ты мне катунок, а то цаганэ́ цяшко ў печ засоўваць.*

ҚЛІ'ҚАЦЦА *незак.* Падтрымліваць сувязь, мець зносіны. *Бывая, што бліскія сваякé пярастануць клікацца, а больш далёкія і ў госьці ходзяць адно да другого, і так забягаюць праведаць.*

ҚО'МІНАҚ *м.* Қамінак. *Палажы запалкі на комінку, каб ні атсыралі.*

ҚО'ШҚА *ж.* Прылада з тоўстага дроту накшталт якара, якой з глыбокіх вадаёмаў дастаюць прадметы. *Што рабіць, адарва́ласё вядро ў калодзяжы? Вазьмі на плоці кошку і прывяжы да ланцуга — павінян патчапіць яго!*

ЛА'ХТА *ж.* Пляткарка, балбатуха. *Чаго ты ўсхадзілася? Паслухала гэтаі лахты і сама меляш абы што!*

ЛЕ'ТҚІ *прым.* Шпаркі, хуткі. *Трэба было яе пачальёнам зрабіць, яна баба леткая, ні дарам дражняць маторкаю.*

ЛЁХА *ж.* Глыбокая мясціна ў старыцы, якая не зарасла водарасцямі. *Сённі будзям лавіць рыбу ў пе́ршуй лёсі.*

ЛЭ'ПСҚІ *прым.* Ніштаваты. *Сённі ты ўзяў у торбу лэпскі кусок сала, так што і косу цягаць мусіш лепш.*

МАЛЬДАВА'ЦЦА *незак.* Адзначацца. *Яго ў камяндатуры до́ўго ні дзяржалі, выпусьцілі, але павінян быў кажды дзень хадзіць мальдавацца.*

МАНІ'СА *ж.* Меліса. *Міхаль заўсюды новы вуляй пярат тым, як рой у яго заганяць, манісаю націрая, бо пчолы вельмі любяць гэты запах.*

МІНУ'ЦЦА *зак.* Здохнуць, прапасці. *У яе ўжо німа каровы. Прошлаю восяныю залезла ў гумно, наелася ячменю і мінулася.*

НАГРАЗМО'ЛІЦЬ *зак.* Неразборліва, нячыста напісаць. *Чаму ш ты гэдак награзмоліў? За такую пісаніну вучыцяльніца і тройкі ні паставіць.*

НАДЫ'БАЦЬ *зак.* Напасці, знайсці. *Як лесу ні ведаяш, то доўго можаш прахадзіць, пакуль надыбаяш на грыбнόё места.*

НАЛЕ'ДЗВЯ *прысл.* Ледзьве. *Здаецца, я трошкі пастаяў, а наледзьвя дагнаў вас.*

НА'МАНДРЫКІ *мн.* Набадры. *Бяз намандрыкаў можно ехаць толькі па роўнуй дарозі, а як з гары, то конь ні можа стрымаць воза.*

НАСО'ЎКА *ж.* Адзенне з суровага палатна, якое служыла для захавання кажуха ці бурноса ад дажджу і снегу.

НАХАЛЁСТАЦЬ *зак.* Нахвастаць. *Ты пярастань бяз большых хадзіць на Нёман, бо нахалёстаю па вушах і больш ні захочаш!*

НАШЫ'ШКАЦЦА *зак.* Налезці, набіцца. *У клуп столькі дзятвары нашышкаласё, што старэйшым і павярнуцца ні было дзе.*

НЕДАГРЫ'ЗАК *м.* Агрызак. *Ты мне прынясі цэлаё яблыко, ато суняш свой нідагрызак.*

НЕДАКУ'РАК *м.* Акурак. *Летам у лесі нідакуркаў ні трэба кідаць, толькі на дарогу, бо можа вельмі скоро да пажару дайсьці.*

НІГО'ДНЫ *прым.* Шкодны, непаслушны. *Малы ён быў нічого хлопяц, а цяпер стаў такі нігодны, што спасу німа.*

НЯМНІ'ШЧА *н.* Старое рэчышча (Нёмана). *Ні ва ўсякум нямнішчы адзінакаво рыба водзіцца, у некаторых ніколі дόбраго нічого ні зловіш.*

ПАБАЛЭ'ХТАЦЦА *зак.* Паплюхацца. *Гэтыя дзеці, як парасята, любяць у вадзе пабалэхтацца, бывая, што цэлы дзень зь Нёмна ні вылазяць.*

ПАВЫДУРНЯ'ЦЦА *зак.* Пасвavoліць, падурэць. *Трохі павыдурняліся і хваціць, садзёцяся рабіць урокі, бо ні ўсьпёяця!*

ПАДБЯРО'ЗНІК *м.* Травяністая расліна (від бярозкі). *Рві, ні разьбіраючы, і бяроску, і падбярозьнік, сьвіня яго тожа добро ядуць.*

ПАД'ЗЯЛЁНАК *м.* Радоўка (грыб). *Пад'зялёнкі растуць у тых самых мястах і ў адну пару, што і зяляніцы.*

ПАДПІНА'ЦЬ *незак.* Падвязваць, падціскаць. *Ты паска вельмі моцно ні патпінай, бо хамут будзя на горло душыць.*

ПАПРА'ЎДЗЕШНІ *прым.* Сапраўдны, не фальшывы.

*Ты, мусіць, ні папраўдзяшні табак курыш, а некі мох, бо вельмі сьмярдзіць.*

ПАРКАВА'ЦЦА *незак.* Злучацца ў пару, уступаць у сяброўства. *Гэту работу лепш аднаму зрабіць, чым паркавацца с такім гультаём , як ён.*

ПАТАНА'ЦЬ *зак.* Патануць. *Чуць-чуць ні даехалі да берага і чайка патанала, але добро, што ні глыбоко было, дак выбрылі.*

ПАТАРЧЭ'ЧА *ж.* Патарчака. *Тут касі асьцяро́жно, бо дзеці ўсялякаі патарчэчы панакідалі, вытупіш косу!*

ПАХАДНЫ' *прым.* Зручны ў дарозе, прыдатны для непрадбачанай работы. *Ты вазьмі вунь той тапорык, ён больш пахадны, чым гэтая сакера.*

ПАЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Пачысціць (рыбу). *Гэтую рыбу трэба скоро пачыніць і пасаліць, бо яна даўно злоўляна, каб ні спорцілася.*

ПЕРАЦЕ'РЦІСЯ *зак.* Не пабегаць (пра карову). *У гэтум годзі мы сваю карову на вяроўцы пасьвілі, бяз гурту, дак ні замецілі, калі бегала, а яна пярацерлася і асталася ялавіцаю.*

ПЛЮ'ХІ *мн.* Салянкі, пласцiністыя спажыўныя грыбы з светла-шэрай шапкай, якія растуць вялікімі зросткамі.

ПРАСТАПО'ЛІЦА *ж.* Не зарослае (лесам або кустамі) поле. *Наш сабака, як выжаня зайца на прастаполіцу, дак абязацяльно дагоніць яго.*

ПРО'РВА *ж.* Частка лугу, адарваная ад асноўнага масіва новым руслам ракі (былы паўвостраў).

ПРЫ'ШВЫ *мн.* Боты, скамбінаваныя са старых халяў і новых галовак (перадоў). *На новыя боты ў нас ні хваціць грошай, зробім прышвы, бо гэтыя халявы яшчэ моцныя, адносяць і другія пярадэ́.*

ПЯСЧУГА' *ж.* Пясчаная глеба. *Дурасьць была на такой пяшчузе сеяць збо́ж'ё, адразу трэба было засадзіць хвойнікам, то ўжо велькі п вырас.*

РЫ'ХВА *ж.* Рэхва. *Ты трохі пападбівай цясней рыхвы, бо калясо рассо́хласё і калотка можа раскалоцца.*

СЁННЯЧЫ *прысл.* Сёння. *Сённячы мы ні справімсё дакасіць гэты кусок, прыдзяцца зайтра ранічкаю, каб разам со́хло.*

СКЕ'ПЦІЦЦА *зак.* Сапсавацца, стаць горшым. *Ранней ён быў добры, паслухмяны, а цяпер нешто скепціўсё, стаў упарты і ад работы ўвільвая.*

СКРЭ'ГАЦЬ *незак.* Ліпець, хварэць, чуць жыць. *Цэлую зіму ён скрэгаў, я ўжо думала, што ні пяразімуя, але навесну стаў папраўляцца.*

СТРОК *м.* Авадзень, здрок. *Ніякаі мошкі конь так ні баіцца, як строка.*

СТРЫ'ЖАНЬ *ж.* Мясціна на рэчцы ці азярыне, якая не пакрылася лёдам. *Ты асьцярожно вазіся, бо як улеціш у стрыжань, то можаш сам і ні вылясьці!*

СУХАНО'ЖКІ *мн.* Пласцінчатыя грыбы, падобныя на апенькі, якія растуць сем'ямі на лугавінах.

СЬПЁХА *м.* і *ж.* Соня. *Ён такі сьпёха, што ніколі сам ні прачнецца гнаць каровы, заўсюды трэба яго будзіць.*

ТАНА'ЦЬ *незак.* Тануць. *Чайка пахіснулася, зачэрпала вады і пачала танаць, але мы ўсьпелі каўшамі трохі зьліць воду і даехалі да берага.*

ТЫ'Ц-МЫ'Ц *выкл.* Тык, тыц. *Нешто наша карова ні хоча гэтаго сена есьці, толькі тыц-мыц ды адыдзяцца, а, можа, і ні галодная.*

УЧО'РАЧЫ *прысл.* Учора. *Учорачы мы трохі ні ўсьпелі дапалоць свае дзялкі, а сённячы ёсць больш пільная работа.*

ФА'ЙНЫ *прым.* Харошы, прыгожы. *Паглядзі, які мне файны ножык купілі.*

ХАПУ'-ЛАПУ' *выкл.* Хап. *Ты спачатку разьбярыся ў гэтых бумагах, разлажы! А то хапу-лапу і панёс, а потым ні будзяш ведаць, дзе што шукаць.*

ШАРАВА'РКА *ж.* Дарожная працоўная павіннасць. *Кажды гот шараваркі много сілы забіралі. Яшчэ хто бясконны — ляхчэй, а с канём цяшко прыхóдзіласё.*

ША'Х-МА'Х *выкл.* Цяп-ляп. *Некі ён ні акуратны ў рабоці, усё ў яго шах-мах і гатóво, а ты за ім папраўляй.*

ШВЫ'ДКА *прысл.* Хутка. *Швытко вы канчайця гэту работу і будзям палоднаваць!*

ШВЫ'ДКІ *прым.* Хуткі, жвавы. *Хлопяц ён швыткі, скоро зьбегая туды і ад нас ні атстаня.*

ШЫТНЫ': ШЫТНА'Я НІ'ТКА. Нітка, прызначаная для ручнога шыцця. *Ты гэты лепшы лён адлажы, зь яго трэба бýдзя спрасьці шытных нітак, бо ўжо канчаюцца.*

*Т. І. Юхо*

# ЛЕКСІКА ВЁСКІ ДАРАГАВІЦА КАПЫЛЬСКАГА РАЁНА

У дадзены артыкул уключаны лексічныя, семантычныя і словаўтваральныя дыялектызмы.

АБАБО'ЯК *м.* Абабіты чалавек. *Усюды ўлезя гэты ababoяк, ні дзіва, што ўвесь ў пісагах.*

АПРАТА'ЙКА *ж.* Вопратка. *Вазьмі хоць гэту апратайку накінь, і то цяплей будзя.*

АСТРАМІ'ЦЦА *зак.* Абняславіцца. *Але ж і астрамілася яна. Увесь раён ажно ведая пра яе.*

БІ'РДАЧКА *ж.* Малая вопратка. *Куды ты гэту бірдачку ўшчапіў? Ці табе німа чаго лепшага надзець?*

БО'ЎТАЛА *м і ж.* Балбатлівая асоба. *Папытайся хіба ў таго боўталы, ён усё павінен ведаць.*

БЭ'МБЛЯ *ж.* Пузыр. *І трэба так апячыся, кап ажно на бэмблі ўсё цела пабіла.*

ВЫДРЫНГО'ЎВАЦЬ *незак.* Танцаваць з выкрутасамі. *Яна як пачне выдрынгоўваць, ажно пыл курыць.*

ГАРДЭ'БЛЯ *ж.* Высокая, тонкая жанчына. *Яна ў яе добрая гардэбля вырасла, а розуму, то як кот наплакаў.*

ГА'РНЫ *прым.* Добры, прыгожы. *Гарны ў яе хлопяц. Проста цут, які гарны.*

ГІРАВА'ЦЬ *незак.* Кіраваць. *Як ты гіруяш? — Ні ўмеяш, то й ні бярыся.*

ГЛЫБАЧЭ'НЬ, ГЛЫБЕ'НЬ *ж.* Вельмі глыбокае месца. *Ты лепяй туды ні плыві, бо там такая глыбачэнь, што страх.*

ГНЫЛЫ' *прым.* Гнілы. *Збяры ты хіба ў кош тыя гнылыя яблыкі, ды карові аддай.*

ДЗЕ'ЎЛЯ *ж., зневаж.* Дзяўчына. *Скажы сваёй дзеўлі, няхай хоць па ягады сходзіць. Гэтулькі ўсе носяць.*

ДО'БРЫ *м.* Баравік. *Ніводнага добрага я ў тым лесі ні найшла.*

ДО'РЖНІК *м.* Агароджанае месца для жывёлы. *Выпусці парасятак на доржнік, хай троха пабегаюць, ці паляжаць.*

ДРА'ПЯЦ *м.* Парваная вопратка. *Знімі ты гэты драпяц, а то ся роўна як німа чаго адзець.*

ДРО'ЧЫЦЦА *незак.* Гізаваць. *Бывая, як пачнуць каровы дрочыцца, дык ані ні суняць.*

ЖАДЗЁБІНА *м.* і *ж.* Скнара. *Ну й жадзёбіна ты стаў, цукеркі шкадуяш даць.*

ЖЫ'ШКА *м.* і *ж., экспр.* Нястрыманая асоба. *Жышка ты тожа добрая, любіш паткавырнуць, ні памаўчыш, ні змоўчыш.*

ЗАВІХА'ЦЦА *незак.* Хутка, старанна працаваць. *Яна як пачне бывая завіхацца, ажно пыл курыць.*

ЗАПІТО'ШЫЦЬ *зак.* Запхнуць. *От жа запітошыла недзя наскі, што ні найці мне да вечара.*

ЗВЕ'РЗАЦЬ *зак.* Сказаць. *Папрасі хібá, мо што і ён зверзае.*

ЗДЫ'ХЛЯ *м.* і *ж., пагардл.* Чалавек, які дрэнна, без апетыту, есць. *Пакармі ты гэтую здыхлю, мо ў цябе што з'есць.*

ЗЛЕ'ЦІЦЬ *зак.* Нагрэць, падагрэць. *Мо злецііць троха воду, а то кепска свіням даваць зусім халодную.*

З'Я'ДА *м.* і *ж., зневаж.* Вельмі злосная асоба. *Мо ці радзіўся той, кап гэтая з'яда магла яму ўступіць. Відаць, нікому ніколі ні ўступіць.*

КАПТУ'Р *м.* Вопратка. *На, узлажы хоць гэты каптур, усё ш цяплей будзя.*

КАЦЭ'ПА *м.* і *ж., абразл.* Клышаногая асоба. *Ужэ йдзе твая кацэпа кароў даіць.*

КЛЕ'СЦІ *незак.* Клясці. *Яна як пачне клесці, дык хоць вушы затыкай.*

КРЭ'ЙЗАЦЬ *незак.* Крэмзаць. *Яна цэлымі днямі крэйзая ў сваіх цетрадзях.*

КУ'ПІЦА *ж.* Купісты луг. *Сёнячы нечая карова траха капыт ні знесла на купіцы.*

КУРДУ'ПЛЯ *м.* і *ж., зневаж.* Маларослая асоба. *Ці ш гэта дзеўка — курдупля ды ўсё.*

КУ'ШТАЦЬ *незак.* Прабаваць на зуб (ці моцнае яйцо). *Ты майго яйца яшчэ ні куштаў?— Дык на, пакуштай.*

ЛАБА'Н *м.* Карова без рог. *Лабан, відаць, ізноў у жыце. Пайдзі прыгані.*

МАГДЭ'СЯ *ж.* Неахайная жанчына. *Ты ўжэ як маг-*

*дэся тая стала — ушчэпіш нешта на сябе абы-што, ды й ходзіш па сяле.*

МАЖДЖЭ′Р *м., абразл.* Дурная галава. *У цябе маждджэр ніяк ні варыць.*

МАЗІ′ДЛА *н.* Мазь. *Дзе-та якога мазідла знайсці, боты памазаць.*

МАЗІ′ЛА *м. і ж.* Чалавек, які часта прамахваецца. *Ну й мазіла, зноў мяч ні забіў.*

МАРЦЭ′ЛЯ *ж., абразл.* Непрыемная жанчына. *Схадзі к гэтай марцэлі, мо яна пазычыць хлеба.*

МАХРАЧЫ′ *толькі мн.* Карэнні цыбулі, часнаку і іншай гародніны. *Махрачы адрывайця ад цыбулі, бо пасля будуць прарастаць.*

МАЧА′НЯ *н.* Тук. *Мне кап алаткі і мачаня на снедання было, боляй нічога і ні трэба.*

МУ′СІ, МУСЯ′БЫЦЬ *пабочнае слова.* Мусіць. *Яму, мусі, пячайка пякла, бо соду ўсё браў.*

МЫ′РМА *м.* і *ж., абразл.* Злосная асоба. *Ну й мырма ты. Ізноў надула́ся, што мыш на крупы.*

НАПІТО′ШЫЦЬ *зак.* Напхаць. *Яна ў міх напітошыла мех мякіны ды й павезла.*

НА′СЫПА *ж.* Насыпка. *На насыпы трэба плотнага мацяр'ялу набраць, кап пух ні лес с падушкі.*

НАЯ′ДАК *м.* Яда. *Што за наядак з гэтай сухой калбасы?*

НЕ′ДЗЯЧКА *прысл.* Недзе. *Ён недзячка пашоў, я сама бачыла.*

НОЛЕ′ *сцвярджальная часціца.* Ага, але. *Ноле, яна ў яе хворая ўвесь тыдзянь была. Я сама бачыла.*

НЯЗГРА′БА *м.* і *ж.* Няўдалы чалавек. *З гэтай нязграбай ні на я́кія госці ні хочацца ісці.*

ПАПА′РЫЦЦА *зак.* З'явіцца, прыйсці. *Боляй ты ў нас ні папарыся, бо ні ўмеяш з нашымі дзецьмі гуляць і мірыцца.*

ПАПО′НЯ *ж.* Доўгае адзенне. *Яна бывая ўшчэпіць некую папоню аш да пят.*

ПАТЦЫГЛЯ′СТЫ *прым.* Цыбаты, даўганогі. *Але немач яго ведая, што за патцыглястую карову купіў, што й падаіць страшна.*

ПАЎГЛО′ВАК *м.* і *ж., абразл.* Дурнаваты чалавек. *У гэтага паўглоўка ты наўрат што даб'есся.*

ПІСА′ГА *ж.* Шрам. *Дзе гэта ты ўжо пісагу пасадзіў на назе?*

ПІСКЛЯ′ *м.* і *ж.* Піскляк, піскун. *Але свет ні бачыў такой пісклі, як у цябе малáя.*

ПЛЯТУ′Н *м.* Чалавек, які плявузгае абы-што. *Ой, плятун гэты табе зарас нагаворыць, успявай толькі слухаць.*

ПРО′СЯ *м.* і *ж.* Чалавек, які часта просіць. *Вот прося ты, магла п і сама зрабіць. Вядома ш, выпрасіць ляхчэй, чым самой рукі прылажыць.*

ПРУТ *м.* Згуба, пагібель, смерць. *Але ніякі прут на цябе ні нойдзя.*

ПРЫМО′РАК *м.* Прымурак. *Мы мыла на прыморак ложым, кап патсыхала.*

РО′БЛЕНЫ *прым.* Самаробнай вязкі. *У яе роблены свіцяр, яна сама казала, што маці звязала.*

РЫ′ХТЫК *прысл.* Вельмі падобны на каго-небудзь. *Але ідзе руку атставіўшы. Ну, рыхтык маці.*

РЭ′СПУСТ *м.* Распуста. *Прыдумала некую нервнасць у дзіцяці. Проста рэспуст, я табе кажу, і ўсё.*

СКАЧЫ′ХА *ж.* Блыха. *Некалі ў хаці от многа скачых было, а цяперака травяць, калі паявяцца.*

СКУПАВА′ЦЬ *незак.* Шкадаваць, скупіцца. *Век скупавалі, скупавалі, а ся роўна паўміралі.*

СО′ЛЯНКІ *толькі мн.* Вараная бульба. *Расолу с солянкамі з'еш, ды й досыць на ноч.*

СПРУНЖЫ′НА *ж.* Спружына. *Тут недзя спрунжына ляжала, дзе ты яе ўжэ дзеў.*

СТО′ЛАК *м.* Лаўка. *На столку гэтым пасяцце, бо кушэтка ў нас зломаная.*

СТРАХАПУ′ЦЦЕ *н.* Страхоцце. *Некая страхапуцце вунянё, ля свірна, йдзе.*

СТРО′І *толькі мн.* Уборы. *Мне й так тваe строі ўпякліся, а ты яшчэ нешта кажаш.*

СТРЫ′НГЕЛЬ *м.* Худы, тонкі, высокі чалавек. *Але ш настаяшчы стрынгель у яе хлопяц стаў.*

СТЫКА′ЦЦА *незак.* Доўга не затрымлівацца дзе-небудзь. *Гэта ж чарцянё, а ні дзіця, як прыдзя вясна, то ён дома ні стыкаецца. Усё лужы ходзіць мерась.*

СЯВО′К *м.* Цыбуля-сеянка. *Сёлята сяўку пасею каля хаты, добра будзя на халаннік летам.*

ТРАНТ *м.* Паношаная, дрэнная вопратка. *Здымі свой трант, ды павесь хоць на біло.*

УЖДЖАМБЕ′РЫЦЬ *зак.* Надзець. *Куды ты гэтую спадніцу ўжджамберыла? Хіба лепшай ні нашла.*

УЗБУ'БНЕЦЬ *зак.* Уздуцца, падняцца, забрадзіць. *Зноў, мабыць, сахару мала дала ў варэня, бо ўзбубнела.*

УРВА'ЦЬ *зак.* Украсці. *Ён толькі й думае, кап дзе што ўрваць.*

УСТРО'ІЦЦА *зак.* Уваўбрацца, прыбрацца. *Чаго-та яна ў новую сукенку ўстроілася сёнячы?*

УТРАПЕ'НЯ *м.* і *ж.* Шустрае дзіця. *У цябе дзіця некая ўтрапеня, усюды ўлезя.*

УХО'ДАВАЦЬ *зак.* Уходаць. *Але ш от скора ўходаваў мацяру. Усё сваёй гарэлкай.*

УЧО'РАЧЫ *прысл.* Учора. *Учорачы ў нас дождж вялікі шоў.*

ФЭ'ЛЬКА *м.* і *ж.* Хлус, скрытны чалавек. *Фэлька гэты ніколі праўды ні скажа.*

ХЛЫ'СНУЦЦА *зак.* Вытнуцца. *Ізноў недзячка хлыснуўся, бо гузак на ўвесь лоп, як яйцо.*

ХУДАРЭ'БА *м.* і *ж.* Вельмі худая асоба. *Такая ўжэ хударэба стала, што страх глянуць на яе.*

ШАВЕ'РДА *м.* і *ж.* Чалавек, які шапялявіць. *Ой, ты яшчэ нешта пытаў у гэтай шаверды.*

ШАВЯРДА'ВЫ *прым.* Шапялявы. *Хай гэты шавярдавы табе скажа.*

ШАВЯРДУ'Н *м.* Чалавек, які шапялявіць. *Што кажа гэты шавярдун, ані ні разбяру.*

ШАДУ'РА *м.* і *ж., абразл.* Дурань. *З гэтым шадурам кашы ні зварыш.*

ШАЛАБАНАВА'ТЫ *прым., абразл.* Дурны. *Кап ён ні быў такі шалабанаваты, то нічога п страшнага не было.*

ШАЛАГО'ЙДА *м.* і *ж., абразл.* Дурная асоба. *От ужо некая шалагойда ў цябе дзеўка.*

ШАРА'К *м., абразл.* Чалавек, які ўвесь час носіць шарачковы касцюм. *Ужэ прыехаў твой шарак, ідзі страчай.*

ШВЭ'НДАЛА *м.* і *ж.* Чалавек, які швэндаецца ўвесь час. *Гэты швэндала зноў тутака быў.*

*І. К. Германовіч, П. П. Шуба*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ТАНЕЖЫЦЫ СЛУЦКАГА РАЁНА

Даволі вялікая вёска Танежыцы (мясц. Танежычы) знаходзіцца на бязлеснай раўніне ў 20 кіламетрах на поўдзень ад Слуцка. Сваю назву яна атрымала ад працякаўшай тут калісьці, але ўжо даўно зусім высахшай рэчкі Тонеж. Былая рэчка дзеліць вёску на дзве палавіны: «сяло» і «засценак». Па традыцыі жыхароў сяла называюць «мужыкамі», а засценка — «шляхтай». Доўгі час гэтыя дзве сацыяльна і этнаграфічна адметныя групы насельніцтва жылі адасоблена, рэдка радніліся паміж сабою. Перад Вялікай Айчыннай вайной, ва ўмовах сацыяльнага раўнапраўя і калектыўнай працы, адасобленасць між імі пачала паступова аслабляцца, а ў пасляваенны перыяд амаль поўнасцю знікла.

Гаворка сяльчан і засцянкоўцаў мае рад марфалагічных адрозненняў: сяльчане зваротныя дзеясловы вымаўляюць з постфіксамі *-ца, -са (выспацца, выспайса)*, а засцянкоўцы — з постфіксамі *-це, -се (выспацце, выспайсе)*; сяльчане ўжываюць дзеяслоўныя формы цяперашняга часу *есь, есьцека*, а засцянкоўцы — *ест, естака*. Адрозненні ж фанетычныя і лексічныя зусім нязначныя, напрыклад: *ешчэ, посцілка* — у сяльчан, *ішчэ, гунька* — у засцянкоўцаў.

Цяпер Танежыцы — цэнтр аднайменнага саўгаса, там будуюцца цагляныя многакватэрныя дамы для рабочых, бытавыя і культурна-асветныя ўстановы, ёсць васьмігадовая школа і паштовае аддзяленне. Вёска звязана рэгулярным аўтобусным рухам са Слуцкам і іншымі буйнымі населенымі пунктамі.

Характэрнай асаблівасцю насельніцтва гэтай вёскі параўнальна з навакольнымі вёскамі з'яўляецца даўняя схільнасць да адукацыі. З ліку танежынцаў за гады Са-

вецкай улады выйшла шмат настаўнікаў, інжынераў, урачоў, аграномаў і іншых спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі, вядомых грамадскіх і ваенных дзеячаў, мастакоў, вучоных.

Гаворка вёскі Танежыцы адносіцца да групы цэнтральнабеларускіх. Лексіка яе знайшла адлюстраванне ў мове твораў Цішкі Гартнага, Кузьмы Чорнага, Міколы Лобана, Васіля Віткі і іншых пісьменнікаў, што нарадзіліся на Случчыне.

У гэтай падборцы падаюцца, паводле вымаўлення сяльчан, некаторыя мясцовыя словы, якія не зарэгістраваны нарматыўнымі беларускімі слоўнікамі або маюць іншую параўнальна з аднакарэннымі літаратурнымі словамі марфемную структуру ці сістэму значэнняў. Калі ў лексіцы гаворкі ёсць амонімы, адзін з якіх зарэгістраваны нарматыўнымі слоўнікамі, то тут падаецца толькі той, які адсутнічае ў вядомых лексікаграфічных даведніках.

АБВО′ДНІЦА *ж.* Вяроўка, якой абкручваюць накладзенае на воз сена або салому, каб не растрасаліся пры перавозцы. *Такою доўгаю абводніцаю можно і тры разы абысці воз.*

АБЛЕ′ІЦЬ *зак.* Абшыць галіфэ леямі (гл. ЛЕІ). *Трэбо аблеіць гальфэ, а то скоро пратруцца.*

АБРО′ЧНАЯ ТОРБА *ж.* З вераўчанай почапкай торба, у якую каню насыпаюць корм у дарогу. *Покуль накладацьмам воз, павесь каню аброчную торбу.*

АБРЫСКЛО′Е і АБРЫЗГЛО′Е *прым.* Крыху пракіслае (пра малако). *Дай свежаго малака, гето ўжэ абрысклое.*

АДА′ЛЕ *прысл.* Потым, пасля, затым. *Ён маўчаўмаўчаў, адале ек ускіпеў!*

АДВЕ′ДКІ *мн.* Наведванне парадзіхі ці хворага. *Хадзем заўтрэ к Тэклі ў адведкі.*

АСЦА′ *ж.* Пякотка з выдзяленнем сліны. *Ек узела асца, дак дзевацца некуды.*

АСЕНЧУ′К *м.* Падсвінак, які нарадзіўся восенню. *Асенчук нішто сабе выгледае.*

АТО′ЧЫНЫ *мн.* Свіны нутраны тлушч з кішак і страўніка. *Покуль я складвацьму м'ясо, аберы ты аточыны.*

АЎЧЫ′ННІК *м.* Гарбар, які вырабляе аўчыны. *Трэбо занесці аўчынніку авечыя шкуры, а то зваляюцца без пользы.*

БАДЫ'ЛЕ *н.* 1. Тоўстыя высокія сцяблы раслін. 2. Высушаныя табачныя сцяблы, якія раздрабняюць на курыва. *Накрышы бадыля ў табак.*

БА'РСКАЕ МЫЛО *н.* Даўней: туалетнае мыла. *У нас некалі туалетнае мыло звалі барскае.*

БЛЕХ *м.* Хлорная вапна. *Пазыч блеху палатно пабеліць.*

БЛІНЦО'ЎКА *ж.* Дзежачка, у якой рашчыняюць цеста для бліноў. *Рассыпалася бліноўка, негдзе бліноў рашчыніць.*

БУРАЧКО'ВЫ *прым.* Ярка-чырвоны (колер). *Адзень бурачковую блюзку, яна табе вельмо к ліцу.*

БУ'РКАНКА і БУ'РКАЛКА *ж.* Дзіцячая забаўка: костачка ці палачка пасярэдзіне на шнурку, пры скручванні і раскручванні якога яна хутка круціцца і гудзе. *Ні плач, я табе зраблю бурканку.*

БУ'РКІ *мн.* Тое ж, што і БУ'РКАНКА.

БЯРВЕ'НЧАТЫ *прым.* Зроблены з бярвенняў. *Лепш зрабіць бервенчаты свінух, а то ў дашчатум холадно.*

ВАЛАСЕНІ'ЦА *ж.* Унутраны нарыў на пальцах рук. *Валасеніца ні давала цэлу ноч спаць.*

ВЕРХАВО'ДКА *ж.* 1. Першая вада, якая паказваецца з зямлі пры капанні калодзежа. *Капай глыбей, гето ешчэ верхаводка.* 2. Веснавая вада, якая ідзе паўзверх лёду. *Па гаці ўжэ верхаводка пашла, ні пройдзеш у бацінках.*

ВІРО'К *м.* Драўляная прылада (у выглядзе палачкі з дзірачкай на канцы) для наматвання нітак на клубок. *Змотвала ніткі ў клубок без вірка, дак пальцы парэзала.*

ВІША' *ж.* Не скошаная да марозаў трава. *Летам сена мало нарабіў, трэбо хоць вішы ўкасіць.*

ВО'БЖЫР *м.* і *ж.* Пра дамашнюю жывёлу (каня ці карову), якая многа есць. *Ну й вобжыр, цэбар паранкі зьела й мало.*

ВО'ЗЬДЗЕКА і ВО'ЗЬДЗЕ *прысл.* Вось тут. *Возьдзека конаўка, дзе ты ее шукаеш.*

ВУ'ЖЫК і ГУ'ЖЫК *м.* У некалькі столак складзены і прашыты пасярэдзіне раменьчык, з абодвух канцоў якога маюцца прывязкі для біча і цапільна. *З гетаго паска добры вужык палучыцца.*

ВУ'ЗГАЛАВЕНЬ *м.* Прылада ў возе: драўляная падушка з ручкамі з абодвух бакоў, якая настаўляецца на перадок для падаўжэння воза пры перавозцы бярвенняў

ці жэрдак. *Зайтрэ паеду за жэрдкамі, пазыч вузгалайня.*

ВУ'НЬДЗЕКА і ВУ'НЬДЗЕ *прысл.* Вунь там. *Вуньдзека вісіць мешок, ідзі прынесі.*

ВЫДЗІРА'ЦЦА *незак.* Гаварыць на каго-небудзь зняважлівыя мянушкі. *Такі гадкі хлопец, на ўсіх выдзіраецца.*

ВЫ'ДЗІРКІ *мн.* Лаянкі-мянушкі, зняважлівыя словы ў чый-небудзь адрас. *Скажу тваёй маме, дась ена табе за выдзіркі.*

ВЫ'СКАЛІЦЦА *толькі зак., перан.* Ярка выблiснуць з-пад хмары (пра сонца). *Бач ек сонцэ выскаліласо, мабуць, зайтра будзе дошч.*

ВЯЗ *м.*, ВЯЗЫ' *мн.* 1. Парода дрэў. *Які вымахаў вяз, здэцца ж, нідайно пасадзілі.* 2. Скручаная з выпаранага дубца (часцей дубовага) завязка, пры дапамозе якой аглобля прымацоўваецца да саней. *Сані зачапіліса за пень, конь ек рвануў, дак вяз і лопнуў.*

ГАЛАШЧО'К *м.* Моцны мароз на не пакрытую снегам зямлю. *Гэту восень много руні папорціло галашчокам.*

ГАМАНІ'ЦЬ *незак.* 1. Размаўляць. *Пра што там жанкі гаманілі?* 2. Шаптаць замовы. *Гета чапліцка Прося добрэ перэпалах гаманіла.*

ГАМАНЫ' *мн.* Замовы. *Ніякіе гаманы ёй ні памаглі, пад весну і памерла.*

ГА'МАТНЫ *прым.* Нязручны, які стрымлівае рухі (пра верхняе адзенне). *Ні надзевай на работу геты гаматны кажух, а то ні павернесса.*

ГАНДЛЯ' *ж.* Сабачая або воўчая гайня ў шлюбны перыяд. *Навозам ні йдзі, там гандля бегае.*

ГАНДЛЯВА'ЦЬ *незак.* Пераажываць перыяд спарвання (пра суку ці ваўчыцу). *Наша сучка йзноў гандлюе.*

ГАРА'ЧЫЕ *мн.* Памінальная вячэра адразу ж пасля пахавання. *На гарачые прышло много людзей.*

ГІГАН'ТЫ *мн.* Атракцыён — гіганцкія крокі. *От накаталіса ўчорэ на гігантах!*

ГІ'НДРЫК *м.* Нейкі забыты ўсімі хуткі танец. Слова ўжываецца ў выслоўі «*Паскачаш* [*ты*] *у мене гіндрыка*» са значэннем «нялёгка табе прыйдзецца».

ГРЭ'ЙМА *прысл.* Стрымгалоў. *Ек адчыніш дзверы, дак куры грэйма лецяць.*

ГУ'БКА *ж.* Мера асновы або вытканага палатна, роў-

ная даўжыні адной сноўніцы. *Летась я выткала сем губак палатна і тры коўдры.*

ГУ'КАЦЦА *незак.* Перажываць перыяд спарвання (пра свінню). *Нешто свіня перастала есці, мабуць, будзе гукацца.*

ГУ'НЬКА *ж.* Простая, без мастацкіх узораў посцілка. *Вазьмі з сабою на сено гуньку.*

ГЭ'ТТАКА і ГЕ'ТТАКА *прысл.* Тут, у гэтым месцы. *Дзе ты шукаеш, шыло ж гэттака лежыць, на стале.*

ГЭ'ТТО і ГЕ'ТТО *прысл.* Тое ж, што і ГЭ'ТТАКА, ГЕ'ТТАКА.

Е'ЛКА *ж.* Дзіцячая гульня з мячыкам — лапта. *Хадзем на выган гуляць у елку.*

ЖУКО'ВІНА *ж.* Пярсцёнак. *Хочаш, я табе выкую жуковіну з пеці капеек?*

ЗАБРЫ'НДАЦЦА *зак.* Заляпаць пры хадзьбе граззю ніз верхняга адзення. *Дзе ты так забрындаўса?*

ЗАВІШАВА'ЦЬ *зак.* Застацца няскошанай да марозаў (пра траву). *За гетымі дажджамі цепер у нас пайбалота завішавала.*

ЗАДЗЁРЫ *мн.* Завусеніцы на пальцах. *Ад чаго гетые задзёры на маіх пальцах?*

ЗАДЗІРА'КІ *мн. (адз.* ЗАДЗІРА'КА *ж.).* Тое ж, што і ЗАДЗЁРЫ.

ЗАЛУВІ'ЦА *ж.* Сястра мужа, залоўка. *Мая залувіца замуж вышла.*

ЗАПЕ'РА *ж.* Нізкая сценка з тоўстых дошак або аполкаў, якая аддзяляе ток ад стаўпа (гл. *стоўп*). *Павесь мешкі на заперу.*

ЗАПЕСО'ЧНІК *м.* Апошняе бервяно ў сцяне, якое кладзецца паверсе бэлек. *Учорэ запесочнікі палажылі, а заўтрэ будам кроквы ставіць.*

ЗБАЁДАВАЦЬ *зак.* Страціць або неасцярожна знішчыць што-небудзь. *Быў добры ножык, дак збаёдаваў геты абармот.*

ЗГРЭ'БАЧ *м.* Прылада ў выглядзе жалезных віл з двума загнутымі зубамі для зграбання гною з калёс. *От, пустадомак, згрэбача ні зробіць, дак віламі гной скідае.*

ЗДРОК *м.* Двухкрылае насякомае, якое ў адрозненне ад авадня не ссе крыві ў жывёл, а толькі жаліць іх. *Напалі здракі, дак кабыла парвала прывезь і пабегла ў кусты.*

ЗЕЛЕ'ПУХА *ж.* Зусім зялёныя, недаспелыя яблыкі, вішні. *Ні еш гетых зелепухаў, а то жывот забаліць.*

ЗЛЕ'ГЧЫСА *зак.* 1. Сціснуцца, ушчыльніцца. *Сено злеглосо, віламі ні ўкалупіць.* 2. Вельмі здружыцца. *Нашы хлопцы так злегліса, што жыць адзін без аднаго ні могуць.*

ЗЛІ'ВАК *м.* Невялічкі гаршчок. *З мене аднае зліўка крупніку на цэлы дзень хапае.*

ЗЛЫ'ГАЧ *м.* Повад, які адным канцом завязваецца за рогі каровы або вала. *Павёў карову на злыгачы.*

ІНЯ'ЦЦА *незак.* Прывыкнуць да чаго-небудзь. *Вот зараза Прахораў сын: іняўса лазіць у нашы яблыкі, што рады німа.*

ІСКА'ЦЬ *незак.* Даўней: шукаць паразітаў у валасах на галаве. *Паішчы мене, а то нешто галава вельмо свербіць.*

КАМЕЛУ'С *м.* Зняважлівая мянушка шляхцюкоў з суседняй вёскі. *Учорэ прыходзіў п'ятніцкі камелус.*

КАНДЫ'БЫ *мн.* Хадулі. *Упадзеш з гетых кандыбаў, то голаў зломіш.*

КАРАШКІ' *мн.* Дробна патоўчанае бадылле тытуню. *Такі моцны тутун, без карашкоў курыць нельго.*

КАЧЭ'РГІ *мн.* Месца ў кутку каля печы, дзе стаяць вілкі, чапяла, качарга, венік і інш. *Што ты стаў у качэргах, праходзь к сталу,*

КВАС *м.* 1. Хлебны квас. 2. Посная вадкая страва з грыбамі і цыбуляй. *Зьеў цэлу міску квасу з хлебам, аж жывот лопаецца.*

КІНДЗЮ'К *м.* Нядробна пакрышанае свіное мяса з прыправамі, напханае ў ачышчаны свіны страўнік і правяленае. *Кіндзюк ні будам пачынаць, хай вісіць да сенакосу.*

КЛО'ПАТ *м.* У жорнах дошчачка ад жалабка, якая прыціскаецца да чатырохграннай часткі корбы і пры вярчэнні механічна рэгулюе падачу зерня на камень. *Клопат стукаціць, аж у хаце чутно.*

КО'ВАРАТ *м.* Калаўрот. *Ручка ў коварацe паламаласа, вады ні дастаць.*

КРЫ'КСА *ж.* Дзіцячая хвароба, пры якой дзіця безупынку плача. *На маю малую, мабуць, нехто крыксу накінуў, трэ пагаманіць.*

КРЭ'СЛО *н.* Прарэх, шырынка. *От апусціўса чалавек, навет крэсло ні зашпіліць.*

КУДЗЕ'ЛЬНІК *м.* Прашытая коўдра з дзвюх посцілак з кудзельнай пракладкай. *Накрывайса кудзельнікам, а то ночы ўжэ халодные.*

КУЛА'ЧКІ *мн.* У выразе «Ешчэ чэрці на кулачкі ні браліса» са значэннем 'яшчэ далёка да світання, яшчэ вельмі рана'. *Чаго ты ўспароўса, ешчэ чэрці на кулачкі ні браліса.*

КУМЕЛЬГА'НАМ *прысл.* Няроўна, невялікімі скачкамі бегчы (звычайна пра воўка). *Мы пачалі крычаць «Ага, воўка!», а ён ні вельмо спужаўса, пагледзеў на нас і пабег сабе кумельганам.*

КУТО'К *м.* Нядробна пакрышанае свіное мяса з прыправамі, напханае ў ачышчаны свіны мачавы пузыр і правяленае. *Куток быў нівелікі, за тры дні й зьелі.*

ЛА'НТУХ *м., зневаж.* Пра чалавека або жывёлу: вялікі, непаваротлівы, лянівы. *Ну, разлеглаcа, лантух!*

ЛЕ'І *мн.* Нашыўкі з моцнай тканіны або скуры ў галіфэ на тых месцах, якія хутка праціраюцца. *Хачу палажыць на гальфэ леі хромавые, таек у Гарамца.*

ЛЕ'ТКАЯ *прым.* Ледзь цёплая (пра ваду). *Смело садзіса ў начоўкі, ні апарысса, вада ўжэ толькі леткая.*

ЛЕ'ТНЯЯ *прым.* Тое ж, што і ЛЕ'ТКАЯ.

ЛІСІ'ЦЫ *мн.* (ЛІСІ'ЦА *ж.*). Тоўстыя драўляныя планкі, пры дапамозе якіх выроўніваюцца сцены (адна планка накладваецца знутры, а другая — знадворку; яны змацоўваюцца жалезнымі нітамі). *Сцена ад вуліцы пачала крывіцца, трэбо ўзяць у лісіцы.*

ЛО'ПАЦЕНЬ *м.* Выгібы на лязе касы пры нераўнамерным кляпанні. *Ну й клепец, нарабіў лопатняў!*

ЛО'ТАК *м.* Жолаб, жалабок. *Папраў лотак, а то сок у збанок ні пападае.*

ЛУЧО'К *м.* Гнутая драўляная ручка пасярэдзіне касільна. *Мая каса табе ні па росту, трэбо ў ей лучок апусціць.*

ЛЮБІ'ВЫ *прым.* Нятлусты (пра свініну). *Ні хачу сытаго м'яса, дай любіваго.*

МАГАЗЫ'Н і МАКАЗЫ'Н *м.* 1. Рэзервуар для газы ў лямпе. *Падлей газы ў магазын.* 2. Грамадскі свіран. *Я гадоў п'яць старажыў маказын.*

МАТЫЛІ'ЦЫ *мн.* (МАТЫЛІ'ЦА *ж.*). Хвароба авечак, пры якой яны часта кашляюць. *На нашы авечкі матыліцы напалі.*

МАЦЁРА *ж.* Свінаматка, якая трымаецца для рас-

плоду. *У мене двое падсвінкаў і мацёра, то картоплі да весны можэ ні хапіць.*

МАЦЁРКА *ж.* Стары насенны клубень лад кустом сярод маладой бульбы, якая вырасла з гэтага клубня. *Мацёрка лопнула ў руках, таек порхаўка.*

МАШЫ'НКА *ж.* 1. Прылада для стрыжкі валасоў. *Пад машынку роўненько падстрыгса.* 2. Прыстасаванне для ўкручвання або выкручвання кнота ў лямпе і для ўстаўкі шкла. *Пачысць машынку, а то лямпа цьмяно гарыць.*

МЕ'СТО *н.* Паслед. *Нешто ў каровы после целяці доўго ні выходзіло место.*

МЫІСА'ТЫ *прым.* Заточаны не на востры вугал. *Сакера вельмо мысата, трэбо мысы зрэзаць на тачыле.*

МЭ'ША *ж., зневаж.* Непаваротлівая, павольная ў працы (жанчына). *Ну й мэша его жонка, да абеду ў печы ні выпаліць.*

НАВО'З *м.* Месца за агародамі ўздоўж вёскі. *Пойдам ні селом, а навозам, там сушэй.*

НА'ДГАЛАДЗЕНЬ *прым.* Надгаладзь. *Цэлы дзень хадзіў надгаладзень.*

НА'ДЗЕЛЕНЬ *прым.* Зеленаваты, недаспелы. *Яблыкі былі надзелень, вельмо ж кіслые.*

НА'ДСЫР *прым.* Сыраваты, недавараны ці недапечаны. *Картопля была надсыр, ешчэ храбусцела на зубах.*

НА'ЛАПАМ *прысл.* Знячэўку, інтэнсіўна. *Дожч ек даў налапам!*

НАПА'РСТАК *м.* 1. Металічны каўпачок, які надзяваецца пры шыцці на палец для прадухілення ад уколаў іголкай. 2. Металічны абручык, з дапамогай якога каса прымацоўваецца да касільна. *Дзе геты напарстак дзеваўса, толькі ж тут лежаў?*

НАПАШЭ'ВЕ, НАПАШЭ'ЎКУ *прысл.* На такім месцы, дзе можна ўзяць адразу, не шукаючы. *Палажы веройку напашэве, ена скора трэбо будзе.*

НАСІ'ЛЫ *мн.* (НАСІ'ЛО *н.*). Дзве жэрдкі, на якіх выносяць з балота копы сена. *Трэбо ўзяць ешчэ адны насілы, хай будуць пра запас.*

НАЦЕНЬКІ' *прысл.* Напрамік. *Пойдам ні дарогаю, а наценькі, скарэй будзе. Ценькі губяць дзенькі.*

НЕЛАПЫ' *прым.* Ладны, дастатковы па велічыні, вазе і памерах. *Мае парасята ўжэ нелапые.*

НО'РМА *ж.* 1. Норма (у розных значэннях). 2. Уча-

стак калгаснага поля, які выдзяляецца для апрацоўкі аднаму чалавеку. *Суседзі даўно свае нормы папалолі, а я ўсё ніяк ні ўпраўлюса.*

ОТО′ *прысл.* Неўзабаве. *Падажджы трошкі, я ото прыду.*

ОТОТО′ *прысл.* Адразу, праз вельмі кароткі прамежак часу. *Ототo ж ён быў тут, чуць ты ні застаў его.*

ПАДАРЭ′ЙКА *м.* і *ж.* Жабрак, жабрачка. *Некалі ў нас много падарэйкаў хадзіло.*

ПАДЦЫКЛЯ′СТЫ і ПАДЦЫГЛЯ′СТЫ *прым.* Тонкі, сухарлявы, з падцягнутым жыватом. *Епручок слабо есць, бач, екі падцыклясты.*

ПАДШО′ПКА *ж.* Невялікая прыбудоўка (гл. ШО′ПА).

ПА′КАЛАК *м.* Кароткі кавалак тоўстай палкі. *Узышла чужая свіня на двор, дак ён пакалкам ногу перабіў.*

ПАЛО′ЙКА *ж.* Пасма ачэсанага на грэбені льну. *Трэбо выбраць лепшые палойкі на суровые ніткі.*

ПАНАЖЫ′ *мн.* Дошчачкі ў ткацкім варштаце, пры націсканні на якія падымаюцца пэўныя ніты. *Пілнуйса, на екіе панажы націскаць, а то ні так узор вытчэш.*

ПАНІ′КЛЫ *прым.* Падслепаваты. *Іхня Ганна паніклая, ніткі ў вушка ні ўцягне.*

ПАПРА′ДУХІ *мн.* Вячоркі, у час якіх дзяўчаты і жанчыны прадуць. *Учорэ былі папрадухі ў Конанчыкавых.*

ПАТРАША′НКА *ж.* Каўбаса-вантрабянка. *Вельмо ж смачна патрашанка ў Марылі палучыласа.*

ПАЎПРЫ′ЦА *ж.* і ПАЎПРЫ′Ц *м.* Прыстасаванне ў млыне ці ў жорнах, пры дапамозе якога рэгулюецца зазор паміж верхнім і ніжнім камянямі. *Апусці паўпрыцу, хай будзе мука мекчэйша.*

ПАЎРО′ЗЫ *мн.* Тонкія вяровачкі. *Звежы гэтые анучы паўрозамі, а то растрасуцца.*

ПА′ХВА *ж.* Падпаха. *Залез у ваду па самые пахвы.*

ПАЧЫ′НАК *м.* Дзве ручайкі прадзіва, перамотаныя на адно верацяно. *Учорэ за вечар напрала цэлы пачынак.*

ПЕРАДО′ЎКА і ПЕРЭ′ДНІЦА *ж.* Прывязаная да перадка вяроўка, за якую чапляецца рубель пры ўціскванні воза. *Паменяй перэдніцу, а то можэ недадзержаць.*

ПЕРАПЕ′ЧКА *ж.* Невялікая буханка прэснага хлеба з ячменнай мукі. *Німа жытняй мукі, то спеку перапечак.*

ПІ'ШЧЫКІ *мн.* (ПІ'ШЧЫК *м.*). Кончыкі пальцаў. *Ні садзі адразу после марозу рукі ў печ, бо зойдзе ў пішчыкі.*

ПЛАСКУНЫ' *мн.* Маніцы. *Трэбо выбраць пласкуны, ены ўжэ высахлі.*

ПЛА'ХТА *ж.* Устаўная частка крыла ў млыне — шчыт з тонкай дранкі. *Вецер аслабеў, трэбо ўставіць ешчэ па плахце.*

ПЛАХТАВА'ЦЬ *незак.* Устаўляць плахты ў крыло млына. *Сын у мене памочнік: пасабляе і плахтаваць, і накручваць млін.*

ПЛЮХА' *ж.* Лёгкі малакаларыйны торф з мноствам пустацелых травяністых каранёў. *Ад гетай плюхі ніякаго цепла німа.*

ПО'ЛІЎКА *ж.* Вараная вадкая страва з бульбы, праўленая тлушчам або малаком. *На абед сегоння звару поліўку.*

ПО'СПЕХ *м.* Круглае, звычайна металічнае, кольца, якое надзяваецца ў пачатку прадзіва на верацяно, каб яно стала цяжэйшым. *Надзень поспех, лепш будзе верацено круціцца.*

ПО'ТТЫЧКА *ж.* Ніжняя частка жаночай сарочкі з больш грубага палатна. *На поттычку сыдзе й гето палатно.*

ПРАНО'ЗАВАТЫ *прым.* Нахабна-ўпарты, настырны. *Ну й пранозаваты геты хлопец, ек намерыцца што, дак ніяк ні адгаворыш.*

ПРУГМЕ'НЬ *м.* Прыгуменне. *Сено сыраватае, раскінь прасушыць на пругмені.*

ПРУГЛО' *н.* Вочап. *Пругло абгалелёдзело, з рук выслізвае, ніяк вады ні выцегнуць.*

ПРЫГРЭ'БІЦА *ж.* Надбудоўка над пограбам. *Збегай вазьмі кош на прыгрэбіцы.*

ПУХІ'Р *м.* Уздуцце на скуры. *Моцно апарыла руку, бач, пухіры паўсхватваліса.* 2. Свіны мачавы пузыр, надзьмуты і высушаны, які раней часта служыў дзіцячай цацкай. *Надуй пухір, будзе дзецям добра забаўка.*

ПУЦ *м.* Сякера-калун. *Дзе ты, браце, бачыў, каб пуцам бервёна часалі.*

ПУ'ШКІ *мн.* Знешняя паверхня суставаў пальцаў на руках. *Хай ены згараць, гетые дрова! Усе пушкі пазбіваў, пакуль пакалоў.*

СЕЛЕДО'РШЫ і СЕРАДО'ЛЬШЫ *прым.* Сярэдні

па ўзросту з дзяцей. *Мікалай іх быў селедоршы, а Настуся — меньшанькая.*

СКРЫ'НЯ *ж.* 1. Вялікі куфар. 2. Збітая з дошчак ёмістасць для захавання збожжа, мукі. *Увесь авёс, мабуць, у скрыню ні памесціцца.* 3. Ніжняя частка драўлянага зруба ў калодзежы. *Вады мало, навет скрыню ні закрывае.*

СО'ПУХА *ж.* 1. Вельмі чорная сажа. *Дайно ні чысцілі комін, дак сопуха падае на прыпек.* 2. Пра што-небудзь вельмі чорнае. *Куфайка ў гетаго каваля чорна, таек сопуха.*

СПАНА'ТРЫЦЬ і СПАНАТРАВА'ЦЬ *зак.* Узяць моду, прывыкнуць. *Гетые вісусы спанатрылі ў чужые сады лазіць.*

СПІЦУ'К *м.* Завостраная з аднаго канца касцяная або з цвёрдага дрэва палачка для падплятання лапцей. *Заберы ў дзецей спіцука, а то згубяць.*

СТАЛЬВА'ГІ *мн.* (СТАЛЬВА'ГА *ж.*). Сталюгі для падоўжнага распілоўвання бярвён. *Памажэце, мужчыны, падняць бервено на стальвагі.*

СТАЛЬВА'ГА *ж.* Тоўстая палка, да канцоў якой прымацоўваюцца баркі, калі трэба запрэгчы ў воз, барану або плуг двух коней. *З гетаго дубка можно будзе добру стальвагу зрабіць.*

СТАЛЬМА'ШНЯ *ж.* Калгасная ці саўгасная сталярня. *Сцепан у стальмашні мо дваццаць год прарабіў, цепер добру пенсію палучае.*

СТАРАНА' *ж.* Часткі гумна па левы і па правы бок ад тока. *Авёс зложым у правуй старане.*

СТАРАНІ'ЦЬ *незак.* Складваць снапы ў гумне. *Лезь на стоўп, будзеш стараніць.*

СТАЎБУ'Н *м.* Клубневая расліна, якая расце не ў караняплод, а ў сцябло. *Рэцька пашла ў стаўбуны.*

СТАЎБУНАВА'ТЫ *прым.* Пра клубневыя расліны, якія растуць не ў караняплоды, а ў сцябло. *Стаўбунаватых буракоў і карова ні ўгрызе.*

СТОЎП *м.* Адгароджаная частка гумна для складвання збажыны, саломы або сена, а таксама складзеныя ў такіх частках гумна збажына, салома або сена. *Налажыў два стаўпы жыта і стоўп ечменю.*

СУ'ТКІ і СУ'ТАЧКІ *мн.* Прамежак паміж жыллёвымі і гаспадарчымі будынкамі, якія пастаўлены ў адзін рад. *Скідай гетые дровы ў суткі.*

СУТУНЕ́ЦЬ *незак.* Змяркацца. *Увосень рано сутунее.*

СЦЕ́ПАЛКА *ж.* Мянташка. *Пайду заўтрэ касіць. Пазыч сцепалкі, а то я сваю недзе згубіў.*

СЦЕ́ПАЦЬ *незак.* Дрыжаць ад холаду. *Чаго цебе гетак сцепае? Замёрз, ці што?*

ТА́ЕК *часц.* Як, як быццам. *Хата даўжэзна, таек абора.*

ТАЛА́НТЫ *мн.* Дзіцячая гульня: з круга большай палачкай падымаецца з зямлі і адбіваецца ўбок меншая палачка, якую другі ўдзельнік гульні павінен злавіць і ўкінуць у круг. *Давай будам гуляць ў таланты.*

ТАРАНО́ЎКА *ж.* Вялікая шарсцяная хустка ў яркія кветкі. *Дзе ты такую харошу тараноўку выкупіла?*

ТАРКО́ВАНКА *ж.* Бульбяная страва — бабка. *Сегоння я ўсмак паела таркованкі з малаком.*

ТО́ЎСТАЯ *ж.* Цяжарная. *Волька йзноў тоўстая ходзіць.*

ТРУПЕ́ЛЬНЯ *ж.* Трупярня. *Зьмітрок ек памёр, то два дні ў трупельні лежаў, бо ні было каму забраць.*

УДВО́ЙЧЫ *прысл.* У два разы. *Ек пачысцілі калодзезь, то вады прыбыло ўдвойчы.*

УДЗВЕ́ЙГУ *прысл.* У дзве столкі. *Злажы вероўку ўдзвейгу, а то парвецца.*

УЗБАМБЕ́РЫЦЬ *зак.* З цяжкасцю ўсцягнуць штонебудзь на каго-небудзь ці куды-небудзь. *Як ты гету барану ўзбамберыў на буслянку?*

УЗВА́Р *м.* Кампот з сухіх фруктаў, які нясуць парадзісе на адведкі. *Вельмо ж добры ўзвар Тэкля прынесла.*

УЛЕГА́ЦЬ *незак.* Вельмі шчыра заляцацца. *Кажуць, твой сын за аптэкаркаю ўлегае.*

УСЫРЫ́ЧЫЦЬ *зак.* 1. Сілком даць што-небудзь не вельмі якаснае. *Усырычыў мне трухлявые дошкі ды смеецца патом.* 2. Моцна ўдарыць, сцебануць папругаю або дубцом. *От здыму папругу да ек усырычу, то скорэ супакоісса.*

УСХО́ДЦЫ *мн.* Ступенькі або драўляны памост знадворку перад парогам. *Абабі лёд на ўсходцах, а то слізота, можно голаў зламаць.*

ХА́ЛЕПА *ж.* Снег з дажджом, непагадзь. *Усхадзіліса вароны, мабудзь, на халепу.*

ХЛЯ́БА *ж.* Упадзіна ля клуба ў каровы. *Схуднела нешто карова, адны хлябы.*

ХРА′ПА *ж.* Цвёрды асяродак качана капусты. *Занесі храпы карове.*

ХРА′ПЫ *мн.* Груды замёрзлай гразі. *Ні бежы моцна, а то ўпадзеш і калені на храпы паразбіваеш.*

ЦУ′РКА *ж.* 1. Друзачка, адшчапаны кавалачак дрэва. *Учорэ ўбіла сабе ў нагу цурку, ледзьве выцегнула, баюса, каб ні нарвало.* 2. Прылада для вязання кулёў у выглядзе завостранай палачкі. *Пазыч цурку, а то мая недзе закінуласа.*

ЦЭ′ЦКАЦЦА *незак.* Важдацца. *Я ні буду з табою доўго цэцкацца, вазьму за каўнер і выкіну з хаты.*

ШАЛЯ′СТАЦЬ *незак.* Бегаць дзе-небудзь без мэты. *Дзе ты шалястаў цэлы дзень?*

ШАР *м.* Жыллёвыя і іншыя будынкі аднаго гаспадара, размешчаныя ў адзін рад. *Ні стаў хлеў у адзін шар з хатай, а то ек укінецца пажар, то ўсё згарыць.*

ШАХАЎНІ′ЦА *ж.* Шырокая дарога, якая калісьці раздзяляла мужыцкія і шляхецкія палеткі. *Давай паедам па шахаўніцы.*

ШМЫ′ГА *ж.* Падоўжны брус — аснова крыла ў млыне. *Учорэ пад вечар ек усхадзіўса вецер, дак зламаў шмыгу.*

ШО′ПА *ж.* Прыбудоўка да хлява для захавання гаспадарчых прылад (калёс, бараны, плуга і г. д.). *Страха ў шопе працекае.*

ШПА′РЫ *мн.* (ШПА′РА *ж.*). Скура паміж пальцамі ў запясці. *Шпары патрэскаліса, трэбо на ноч змазаць гусіным салам.*

ШТАКЕ′ТА, ШТАКЕ′ЦІНА *ж.* Вузкая дошчачка для агароджы, якая прыбіваецца вертыкальна да перакладзін. *Валадымаў Хведар хорашэ выгарадзіў агародчык штакетамі.*

Я′СІК *м.* Маленькая падушачка. *Падлажы пад голаў хоць ясік, а то будзе мулецца.*

*І. Я. Яшкін*

# З ЛЕКСІКІ СЯРЭДНЯГА ПАСОЖЖА

У артыкуле прыводзяцца словы, зафіксаваныя ў Слаўгарадскім раёне. Абсалютна сінанімічныя словы падаюцца ў адным артыкуле, дзе першым ставіцца больш пашыранае, больш ужывальнае слова. Падаюцца толькі тыя словы, якія адсутнічаюць у слоўніках сярэднесожскай зоны — у І. К. Бялькевіча, І. І. Насовіча, Г. Ф. Юрчанкі.

АБЛО'ЖЫВЫЦЦА, АБЛО'ЖЫЦЦА *незак.* Быць аблогай. *Дакуліцька ета поля абложыцца будзя, дувайце-ка ўзарём, нечыга яму гулязь а трухніце-ка жыццё.* Шаламы.

АБЫ'РІВЫЦЦА, АБЫРЯ'ЦЦА *незак.* Апускацца. *Ня будзіш кызаць што дзелыць, то будзя абырівыцца і аб рабоці анігадычкі ні падумыя.* Серкаўка.

АБЫ'РІЦЦА *зак.* Апусціцца. *Абырыцца нядоўга, а пуправіцца мўтырна будзя.* Ганчароўка.

АГНЮ'СЦІК, АГНЯ'СЦІК *м.* Вельмі хуткі працаўнік. *Іна агнюсцік, у яе работа ў руках гарыць, агнём працуя, толькі снапы ў руках мількаюць.* Курганне.

АГУ'РЛІВЫСЦЬ *ж.*, АГУ'РЛІЎСТВА, АГУРЛЯЎСТВО' *н.* Абыякавасць, бестурботнасць. *'Д 'гурлівасці аж палопыліся дзеўкі, каб табе дзын! Каб табе баў! З-за агурліўства дык быўшы там і ні разу ды свайго ні зайшоў,— во ўжо путніна?!* Рабінаўка.

АДДЗЕ'НЧЫЦЬ *зак.* Вытрымаць на працяглую трываласць, адслужыць. *Бувала ўсю крышу крылі саломуй, а прійівязывылі лазой і іна вуныка колькі йшчэ аддзенча, што й вярёвычкі ні дыкажуць.*

АДНАВО'РКА, АДНАВО'РЬ *ж.*, АДНАВО'Р *м.* Адзін раз узаранае поле. *Бульбу па аднаворцы ні сталі сеіць. Як пад год, дык хоць і пы аднаворі ўсё пупасеілі,*

*а пырасло ўсё, усё дабрéнныя-дáйрыздабрéнныя.* Куль-шычы.

АЛА′ *выкл.* Гвалт, ратуйце. *І треба, треба так назе замлéцца, што хоць було ала крычы.* Рудня.

АПЛЕ′НТЫЦЬ *зак.* 1. Абплесці, пакрыць (карэннем, лазой, ніткамі і інш.). *Ета яблынка прініміцца, а таго што, глядзі, як карення атсечынытыя мычка аплентыла.* 2. Прагна, з апетытам з'есці. *Аплентуў добрую шкварку сала і краіц хлеба, а тады й кыса толькі швікыя.* Забалоцце.

АП'Я′НЧЫВЫ *прым.* Хутка п'янеючы. *Мой Мішка дужа ап'янчывы, каплю выпя і ўжо зышыкілдаў.* Бярозаўка.

АРА′ННІК *м.* Араты. *Ходзь у нас і дзеўкі былі ў бацькі, а араннікі мы былі добрыя.* Віравая.

АЎСЯ′ННЯ, АЎСЯ′НІ′ШЧА, АЎСЯ′ННІШЧА, АЎСЯ′НІ′СКІШЧА, АЎСЯННЯСКО′ВІШЧА, АЎСЯ′ННІСКЫВІШЧА, АЎСЯ′ННЯШЧЫШЧА, АЎСЯ′ННІЧЫШЧА, АЎСО′ВІШЧА, АВЁСАВІШЧА, АЎСЕ′ШЧА *н.* Поле, дзе быў пасеяны авёс. *Усё аўсяніскішча паўзорынывыта і канцы пызакругліныты.* Рудня.

БЛА′НДЫРІЦЬ *незак.* Лодарнічаць. *Дзень бландыря і вечар бландырія і нізачогычка ні бярецца такей бамбіза радзімішный.* Курганаўка.

БРА′ХЫНЬКА, БРА′ХНІНЬКА, БРА′ХНІЙКА, БРА′ХНІШКА, БРА′ХЫЧКА *м.* Браточак. *Твой з брахнійкым прібузувàлі воз бярезніку і ўжо пяюць, гатовы.* Ленінскі.

БЯРЁЗІЦА *ж.* Асаблівая бяроза. *Дувай-ка зываліш ету бярёзіцу гонкую ды гладкую, глядзі вазок дравец і будзя сы 'дныé.* Рабінаўка.

ВІХТО′ВЫЙ *прым.* Дзейны, дзелавіты. *Жонка віхтовыя — йна й купіць і прыдаць зная.* Урэчча.

ВЫ′ЛЮДНІЦЬ *зак.* Узмужнець, пасталець. *Глядзі, вылюдніў тая склéзінь. Дзеўка стала, як панпушка, цўпкыя і віхтóвыя.* Зарэчча.

ГУЛЯ′ЦЦА *незак.* Быць у добрым настроі, гуляць. *Як здароў дзіцёнык, то яму будзя й гуляцца, й піцца, й есца, й спацца і ўсяго хацецца.* Лясная.

ДАМО′ЮХНЫ *прысл.* Дадому. *Паедзім дамоюхны, мой татка, там баба цацоннікаў ныпікла.* Старынка. *Хочу, хочу а ўсё дамоюхны.* Шаламы.

ДО′БРІЧКІ *прысл.* Добра. *Добрічкі ёй зы дзівірямі*

*жыўшы, а нам самім за ўсім усякім спытыкацца.* Крамянка.

ДРЭ'НЧЫЦЦА *незак.* Капрызіць (пра дзяцей). *Дзіцёнык нешта ні гуляя, дрэнчыцца і ні з рук.* Пільня.

ДЫСПІЛЯ'ЦЬ, ДЫСПЯЛЁЎВЫЦЬ *незак.* Даспельваць. *Пакуль будзіш дыспялёўвыць, дык ета чэкырыдзь і даўкія дулькі пазношывыя з галлём. Цяпéрі жа етыга німа — ва ўсéнічкіх сады ё.* Папоўка.

ЁДЫСЦЬ *ж.* Пранізлівы холад. *Ну й ёдысць, прынімая ды жывэя касці.* Шаламы.

ЖУ'ПІЦЬ *незак.* 1. Разумець (пра дзяцей). *Твой дзіцёнык ужо жупя, што ні бацька, бачыш, і зумумýліла грібы, плакыць хоча.* 2. Рупіцца, клапаціцца. *Глядзі, стаў жупіць, як ажаніўся, пашлі дзеці.* Шаламы.

ЗАНАЛЕ'ЦЦЯ *н.* На два гады наперад. *У яго дроў аблетніку хапя і на ўсё заналеццея, а ня толькі на 'дно налéцця.* Шаламы.

ЗА'НАПАЎНАЛЕ'ЦЦЯ *н.* На два з паловай гады наперад. *У яго бярёзувых аблéтувых дроў рыссухéнькіх пыныклóджувыныта святочык бялёсінькій, што, ого! ні на ўсё ныпуўналецця, а на ўсё зàнапаўналéцця хваця, й рысхваця, й піріхваця.* Шаламы.

ЗАПА'ХНУЦЦА *зак.* Запахнуць. *Дзеці ня мыўшы і ня рыўшы зыпáхнуцца мажýць, а 'бмый, 'пшый, 'пчысці, дык і дзіцёнык, як лялька, расцець.* Серкаўка.

ЗАСПЕ'ЦЦА *зак.* Застаць нечакана. *Там, у чужым саду можа ён заспецца і тады шапку здзяруць і бацьку аддадуць.* Урэчча.

ЗАТЫРНЫВА'ЦЦА *зак.* Замарыцца, цяжка працуючы. *Зытарнýіцца, зыпрацуіцца зá дзінь-дзяньськéй і спеець, як забéтая.* Рудня.

ЗАЎЛУ'ЧЫЦЬ *зак.* Захапіць знянацку. *Нахапіўся палявік і заўлучыў кароў у шкодзе і пагнаў на херму.* Зімніца.

ЗАШЫКІЛДА'ЦЬ *зак.* Загаварыць невыразна. *Бувала як вып'юць, так і зышыкілдаюць.* Зарэчча. *Толік зышыкілдаў, ужо гуваріць вучыцца.* Урэчча.

З'Е'ЗДЗІЦЦА *зак.* З'ездзіць. *З'ездзіцца ці ня з'ездзіцца туды, а чылавека треба прівеціць, як і нас людзі чуж-чужаніцы пріўвічáюць.* Серкаўка.

ІРЖО'НІШЧА, ІРЖО'ННЯ, ІРЖЫ'ШЧА, ЖЫ'ТНІШЧА, ЖЫ'ЦІШЧА *н.* Поле, дзе было пасеяна жыта. *Іржонішча аруць мужчыны на ўзмёт.* Шаламы.

КАМШУ'ЛЛЯ *ж.* Маруда. *Пыдгані тую камшуллю, хай скарей жне, а таго камшуллю, хай шчытней кося.* Аржаўка II.

КО'МША *ж.* Маруда. *Ці скора ўжо тэй комша накомшыцца?!* Аржаўка.

КО'МШЫЦЦА, КО'МЧЫЦЦА, КО'МКЫЦЦА, КАМШО'ЛІЦЦА *незак.* Капацца, марудзіць. *Шчэ й дос там камшоліцца, скаррей сыбірайся! Ці доўга ты будзіш комшыцца ў хаці, калі ты палоць выбірісся?!* Шаламы.

ЛАНТУ'ТЫ, ЛАТУ'ТЫ, МАНТУ'ЛЫ *мн.* Ласункі, прысмакі. *Кончыліся лантуты, усё смашнёнікі есць ды сухарькі хрупыць, каб с кішані ні выходзілі. Вымнуцца цяперыка лавышнікувым дзіцям мантулы.* Васькавічы.

ЛЭ'ПЫЦЬ *незак.* 1. Лапаць, хапаць рукамі. *Нечыга тут рукамі нямытымі лэпыць хлеб.* Шаламы. 2. Шлёпаць. *Лэпнула яго рушніком длі блізіру.* Пчэльня.

ЛЯ'МЛЯ, ЛЯ'МЦЯ *ж.* Маўчун, ціхоня. *Я з табой такой лямлюй на 'дным возі, даи жаж баб, ня сеў. Словічка 'т яго ні дажджэсся.* Шаламы.

МАЛЕ'НСТВА, МАЛЕ'СТВА, МАЛАЛЕ'СТВА, МАЛАЛЕ'СЦВІЯ *н.* Маленства. *З нашых малествуў нечыга сміяцца, яны ў горіх, бедых прайшлі, а шчасцёў, радусцюў мала бачылі. Ня то што вам цяперіцька.* Шаламы.

МАЛЬГВА', МАЛЬГВЕ'ЧА, МІЛЮЗГЕ'ЧА, МІЛЮЗНЯ' *ж.* Малеча, малалеткі (дзеці); дробязь, глупства. *З-за тэя мальгвечы а ні ягыдзіны, а ні гріба ў нашым лесі ніхто ні ныспароміцца. Нылавіў мілюзгвы — і тулькі кату рыбы будзя. Вочычкі ў хлопчыка бачуць добря, то ныпароў мальгвечы там чарнічык па вогніву і грібоў 'дных шапычык пы капеіццы.* Шаламы.

МАХНІ'ТКІНЯ *ж.* Вялікая галавешка. *Ета махніткіня будзя доўга цьмець ны цілянішчы і кымароў нам 'дгыняць.* Ганчароўка.

МСЛІ'ВЫЙ *прым.* Мсцівы. *Ой, ён, дзеўка, мслівый дужа, усё пракавешныя памітыя.* Кабіна Гара.

МУКІНІ'ЧЫ'НА' *ж.* Пылінка мукі. *Каб жа там мукінічына ў тым саўку была.* Курганаўка.

НАСАХАВА'ЦЦА *зак.* Нагаварыцца (з мэтай абгаварваць, згаворвацца). *Сойдуцца, насахуюцца пры яе і тады ўжо ні прыступу да іх, мол мы, а ты нам што?!* Бязуевічы.

НЕ'БЫТЫ *мн.* Нястача, недахоп. *Небыты ўсё былі змалку, а тады рыжжыліся, ні стала небутуў.* Урэчча.

НЕ′ДЫГЫДЗЬ *ж.* Асоба, якой цяжка ўладзіць, дагадзіць. *Етуй недыгыдзі ніхто ні ўладзя, як чорт якей.* Крамянка.

НЕ′ЛЮДЗЬ, НЕ′ЛЮДДЗЯ, НЕ′ЎЛЮДДЗЯ, НЕЛЮДЗЯДДЗЁ′ *м.* і *ж.* Нелюдзім.*Ой, там ня хлопіц, а нелюдзяддзё нейкыя.* Шаламы.

НЕ′РЫДЗЬ, НЕ′ЎРЫДЗЬ, НЯЎРО′Д, НЕ′РЫД, НЯРО′Д *м.* Недарод. *Сёліта ета неўрыдзь пышаніца, дык рукі пыдбівалі малоцічы.* Рабінаўка.

НЕ′ТУЎЧ, НЕ′ТУВІЧ *м.* Неабадранае ці нястоўчанае зерне ў крупах. *Тваё таўчмо нады датэўч, таго што ў просі быгата нетувічы. Таўчы́, йшчэ радзіміц ведыя сколькі там не́туўчыў, аж ря́ба, будзя каша, як з каноплімі.* Рудня.

НЕ′ЎДЫЛЛЯ, НЕ′ЎДЫЛЬ, НІЎДА′ЛЛЯ, НІЎДАЛЛЁ, НІЎДА′ЛІЦА *м.* і *ж.* Недарэка. *Там ня хлопіц, а неўдылля, ламіны кусок, апока, паліц ʼп паліц ні ўдаря.* Рабінаўка.

НЕ′ЎКЛЮДДЗЯ, НЕ′ЎКЛЮДЗЬ, НЯЎКЛЮ′ДДЗЯ *м.* і *ж.* Недарэка. *Неўклюддзя нейкыя, ходзя, як растапырка.* Рабінаўка.

НЕЎСЛУХА′Ч, НЕЎСЛУХА′Ш, НЯЎСЛУ′ХЫВІЧ *м.* Асоба, якая не прыслухоўваецца да размовы іншых. *Я ж неўслухаш табе там быў, самому було пріціць ды слухыць сваім аблавўшшым.* Шаламы.

НЕ′ХЛІБ, БЯСХЛЕ′БУВІЧ, БЯСХЛЕ′БІЧ *м.* Гаспадар, у якога было вельмі мала хлеба. *Етый нехліб век бяз хлеба жыў, а ў майго бацькі зуўсігда̀ хлеба було, зуўсягды́ пры хлебі былі.* Шаламы.

НЕ′ЦВІЦЬ *ж.* Без цвіцення. *Мой сад нецвіць нейкыя. Ні цвіціць і ўсё, а калі зыцвіціць, то хто яго ведыя?!* Шаламы.

НІДЫЦЯ′Г *м.* Асоба, якая не можа пазбавіцца ад нястачы. *Етый Сайка нідыцяг, усё нідыцягыя да новыга, а ў Сямёна ўсё ёсць, бувала, ат нові ды нові.* Шаламы.

НІНА′ЕДЗЬ, НЯЎЕ′ДДЗЯ, НІНА′ІДДЗЯ *м.* і *ж.* Ненасытнасць. *Ны яго ныпала нінаедзь, усё ні наесца аніяк, пражора.* Папоўка.

НІПРЫКА′ІННІК *м.* Разгублены, утрапёны. *Ніпрыкаіннік пашоў, яму анічога ня треба. Усё ходзя, як ніпрікаінный.* Дубня.

НІЎДЫГА′Д *прысл.* Няўцям. *Мне й ніўдыгад, што ныбяру грібоў поўнінькую кашолычку.* Аляксандраўка.

НЯЎЗЗО'РІЦА, НЯЎЗЗУ'РІЦА *м.* і *ж.* Нелюдзім. *Быў Іван тыкая няўззуріца мыладэй, прідзя, бувала, ны вічарінку, сядзя ў кут і сядзіць, як дзюк, з-пад лоб'я толькі бліськ!* Шаламы.

О'ПАЧКІ, ОП *прысл.* Уверх. *Хадзі-ка ка мне, мой таточка, на ручкі опачкі.* Бязуевічы.

ПАКВО'ЛЬНА *прысл.* Павольна, спакваля. *Падуправілася й стала паквольна схадзіць куды, пыквальней дыхнýць хоць.* Папоўка.

ПАЛЯВІ'К *м.* Вартаўнік пасеваў (і радзей сенажацей). Улукі.

ПАРХУМА' *ж.* Лёгкі прадмет. *Пшаніца ны балоці вырысла кыласістыя, а зярно пурхума пурхумой, лёгінькыя. Платкоў етых капрону ныкупляла, пурхумы етыя, а што з іх, толькі летым насіць.* Шаламы.

ПАХО'Д *м.* Лішка, больш меры. *Пазычыла пяць хунтуў сала з паходым, а аддыла болі, там трі паходы було. ня мені.* Шаламы.

ПІРАЛЮ'БКА *ж.* Асоба, якая парушае шлюбную вернасць. *З піралюбкі ня будзя ўжо пуця, усё будзя карцець, як шкадлівыму кату, каб пыдмануць, пупасць у рускура́ство.* Шаламы.

ПО'ДАЎНІСТА *прысл.* Даўнавата. *Подаўніста яе ўжо німа дома.* Кабіна Гара.

ПО'ТУСЬ *прысл.* Побач, гузырамі ў адзін бок. *Край капы выклыдаў потусь, а ны вазу пупуўклаўліта ім і потусь і мітусь.* Шаламы.

ПРІДЗВЕ'РНЫЙ. 1. *Прым.* Звязаны з дзвярамі. *У прідзверным вянцэ шпар выбіраць длі дзвярэй.* 2. Швейцар. *Яго цётка ў нейкім учыряждзеніі зы прідзверныга работыіць.* Целяшы.

ПРІЗНУСЦІ'ЦЬ *зак.* Прымусіць падманам, угаворамі. *Ішчэ даўно етыга дзеда хацелі прізнусціць зыпісацца ехыць некуды далёка.* Шаламы.

ПРІЗНУШЧА'ЦЬ *незак.* Прымушаць падманам, угаворамі. *Ні хырашо мыладога хлопца прізнушчаць ужо табе, дзейцы ў гыдах.* Урэчча.

РАБКІ'НЯ, РАБЫ'КІНЯ *ж.* Пакорная, рахманая жанчына. *У іх нявестка рабкіня вешныя, іна прамытыя вады ні бача.* Шаламы. *Ім ні нявестка, ні пырабкіня нады, а рабыкіня вéшныя-правéшныя.* Кабіна Гара.

РЫСКУРА'СТВА, РЫСКУРА'СТВО *н.*, РЫСКУРА'Т *м.* Распуста. *Нічога зь яго ня будзя — пашоў у ру-*

*скураства.* Шаламы. *Рыскурат стаў быў там, кызалі. Алі, мае людзічкі, цяпер ужо даўно ўсё абціхла. Прынсцітуцыю тую тыкі рызагналі.* Рудня.

РЫСКУРА′ТНІК *м.* Распуснік. *Такей рыскуратнік быў, а, то глядзі, абразўміўся.* Шаламы.

РЫСКУРА′ТНІЦА *ж.* Распусніца. Шаламы.

РЫСКУРА′ТНЫ *прым.* Распусны. Шаламы.

РО′БЛЯ, РАБЕ′БА, РАБЕ′БЛЯ *ж.* Работа, дзеянне. *Робля твыя нікуды й нікому ні варта. Твыя ўжо й рабеба, ты ж ні майсцір, згадзіш, звечыш тую реч. Рабебля твыя ні к чорту варта. Ня дзелый, дык луччы будзя.* Шаламы.

СІВА′КА *м.* Сейбіт (які сее ўручную). *Сівака з цябе слабэй, адны ліцом пляшы.* Серкаўка.

СМЯЛЕ′Ц *м.* Смелы, хвалько. *Смялец знайшоўся?! А як пўхня бонба, дык і душа ў пяткі скыканець.* Забалоцце.

СТУСМЕ′ЦЬ *зак.* Змарнець; паблякнуць. *Схварэў, стусмеў, выляіцца ′т ветру, духу ні прідыхыя, йдзець успінàючыся.* Рудня.

СТУСУВА′ЦЬ *зак.* Знішчыць, скасаваць. *Стусувалі ўсё паньскыя і німа й знаку.* Рудня.

СЦЯЖ *м.* Абшар. *Пасеілі жыта сцяж кыля лесу, скрозь, скрозь.* Шаламы.

СЮГА′ЦЬ *незак.* З шумам і паспешліва есці вадкую страву. *Як сталі студзіць і сюгаць кулеш, аж толькі ложкі лыпыцяць па місцы.* Шаламы.

ТРЕ′ПЛЯ *ж.* Трапанне (лёну, канапель). *Як з такой треплюй, дык луччэй бізь яе. Сыма пытряплю лён.* Шаламы.

ТРЁМКЫЦЬ *незак.* Есці з апетытам, паспешліва. *Сядзіць і трёмкыя, повін рот і аж зы вушамі мышчалкі трішчаць.* Рудня.

УВАВУ′ЛІЦЬ *зак.* 1. Даць (пра значную колькасць). *Увавуліла кушмень сала ў руку, краіц хлеба і выпхнула дзеда кароў пасціць.* 2. Ударыць. *Як увавуліла аплявуху, аж ляскуўка пышла.* Урэчча.

УЗЯ′Х *м., рэдк.* 1. Узятая ці пазычаная колькасць чаго-небудзь. *Мой узях, а твой аддах* (Жарт). *Люблю ўзях, люблю і аддах.* Шаламы. 2. Асоба, якая пастаянна любіць пазычаць, браць. *Любіш быць узяхым, любі быць і аддахым* (Прыказка). *Любіш узях, а аддах цэлый грэцкій месіц аддаеш. Дык, ну цябе.* Шаламы.

УТУЛУВА'ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Ніяк ня можа ўтулувацца тэй бітлівый зяць. Буян ды і ўсё.* Чачораўка.

ХІТРУ'ГА, ХІТРЯ'ГА, ХІТРО'ШЧА, ХІТРУ'ШЧА *ж.* Хітруха, хітрун. *Там ужо тыкая хітрошча, што сы 'дныé хітрысці злéплінытый.* Шаламы.

ЦАБЭ' *н., перан.* Асоба, якая важнічае, ганарыцца, патрабуе да сябе залішне далікатных адносін. *Ён, мыя дзеўка, такоя цабэ, што й ні падступісся.* Рабінаўка. *Падумыіш такоя цабэ, я цябе і пынімаць ні хачу!* Забалоцце.

ЦАЦО'ННІК *м.* Перапечка. *Мінуцца пшанішныя цацоннікі?!* Васькавічы.

ЦВЯРДЗІ'НЬ, ЦВЯРДЫ'НЬ, ЦВІРДЗІНІНЯ', ЦВІРНЯ'ДЗЬ, ЦВІРДЗІНІНЯ'ДЗЬ, ЦВЯРДЗЕ'ЧА *ж.* Цвёрдае, засохлае або ўтаптанае поле. *Тыкая цвірдзініня, што плуга ня ўбіць, так засохла зімля.* Шаламы.

ЦУ'ПКІ *прым.* З цвёрдай хадой, моцны. *Конь цупкій, пашоў і пашоў, шыгавістый, добря на ім араць.* Папоўка. *Хлапечык такей цупкій, як камёлык, бегыя, як каток.* Шаламы.

ЧАСЦІ'ЦЬ *незак.* Частаваць; гасцяваць. *Касцюк бувала часціць сваіх гасцей трі дні. Мы часцілі ў цёткі ў тэй год каждыя свята.* Курганне.

ШАРСЦІ'НА' *ж., перан.* Жывёла. *Послі вайны ніякія шарсціны ны дваре ні було, каб звання.* Рудня. *Як прішлі з бежынцуў, дык ні шарсціны ні 'тсталося, ні куріцы, а толькі кот уцалеў.* Шаламы.

ШКУРА'ПІ'НА', ШКУРЁПІ'НА' *ж.* Дрэнная карова. *Тамыка ж нейкыя шкурапіна ё ны дваре, хоць трі стыканы мылыка дае і то добрічка.* Шаламы.

ШТАХВЕ'Т *м.* Асоба, якая пераносіць навіны; даносчык, пляткар. *Што ты, штахвет, ужо прышоў у прослухі і таўчэсся тут, як таўкач, а можа нам што прынёс?!* Андрэеўка.

ЮС *м., перан.* Пастух свіней. *Юс ты радзімішныя, пасцівіць свінней дык пасі, а ні ссáджый мяне з лета сваім трàўліннём, ня дзелый шкоды!* Аржаўка.

ЯМ *м.* Пад'ём; выемка. *Тут пыд гарой самый ям, з возым чуць уз'ехуў. Чобыты ў самым яму ціснуць.* Шаламы.

*М. В. Абабурка, Л. І. Аляксеенка, У. А. Лядоўскі, М. П. Луферава*

## СА СЛОЎНІКА МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

У дадзены артыкул уключаны найбольш арыгінальныя словы і выразы сучаснай Магілёўшчыны, якія, на наш погляд, маюць пэўную цікавасць з лінгвістычнага боку.

Назвы раёнаў, у якіх зроблены запісы: Бых.— Быхаўскі; Бял.— Бялыніцкі; Глуск.— Глускі; Гор.— Горацкі; Касц.— Касцюковіцкі; Клім.— Клімавіцкі; Кругл.— Круглянскі; Крыч. — Крычаўскі; Маг. — Магілёўскі; Мсц.— Мсціслаўскі; Слаўг.— Слаўгарадскі; Хоц.— Хоцімскі; Чав.— Чавускі; Шкл.— Шклоўскі.

АБГАВО'РЫЯ *ж.* Абгавор. *Цяперіцька будзіць ужо абгаворія на ўсю дзяреўню послі тваёй сваркі.* Рымінка Чав.

АБДЗЕ'ЛЫЦЬ *зак.* Абвязаць; зарубіць. *Абдзелый мне платочык.* Рымінка Чав.

АБДЗЁР *м.* Ачышчаны ад кастрыцы і кудзелі лён. *Пакінуў ён у мяне мяшок абдзёру і сам як утапіўся,— трэці дзень ня едзіць.* Заполле Шкл.

АБКАЛЯСАВА'ЦЬ *зак.* Аб'ездзіць. *Апкылісываў весь горыт.* Цяцёрка Шкл.

АБКРЫВА'ЧКА *ж.* Вялікая хустка, якой абкрываюць плечы. *Вазьмі апкрывачку, а то змерзніш.* Цяцерына Бял.

АБЛІ'К *м.* Воблік, аблічча. *Піріпужалі сыбакі нашыга Ваньку — жывога абліку на нём нетуці.*

АБМАХНУ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Абмахнулась, ні на тую сцешку пышла.* Рэкта Гор. *Ай, абмахнулася, ні тое зрабіла.* Чырвоная Паляна Чав.

АБМЫ'ЛКІ *мн.* Мыльная вада, што застаецца пасля мыцця. *Во вынісу абмылкі на двор.* Вусце Крыч.

АБНЯХА′ЯЦЬ *зак.* Абняславіць. *Яго абніхаілі зусім.* Каўшова Мсц.

А БО′ *выкл.* А божа. *А бо, дык ці ета я здзелыла?* Шаламы Слаўг.

АБО′ЙКІ *мн.* Зношаныя прадметы, прылады. *Ні калёсы, а абойкі.* Дубна Слаўг.

АБО′РАК *м.* Нізкае месца (невялікае балота) сярод ворнай зямлі, зарослае травой або хмызняком. *Пойдзім касіць аборік.* Каўшова Мсц.

АБО′СЫ *прым.* Босы. *Мой хлопіц абосы пабегыў пы хаці, то сянні вужо кашляіць.* Звянчатка Клім.

АБПА′РАК *м.* Венік, якім другі раз карыстаюцца ў лазні. *Новага веніка німа, бяры аппарак.* Цяцерына Бял.

АБШЧАПІ′ЦЬ *зак.* Абхапіць рукамі каго-небудзь. *Унукі мяне так моцна апшчапілі, чуць не завалілі.* Рэкта Гор.

АБЯЧЭ′ЙКА *ж.* Павека. *Ні ведаю, чаго-та баляць маі абячэйкі.* Чачэвічы Бых.

АВЕ′ЧЧЫЙ *прым.* Авечы. *У нас авеччым мясым зытыўкаюць бульбу, капусту.* Бярозкі Хоц.

АГАДА′ЦЬ *зак.* Дастаць. *Трэба грошай агадаць і купіць боты.* Ветрынка Бых. *Агадалі мне кашулю.* Александрыя Шкл.

АГЛАШЭ′ННЫЙ *прым.* Апантаны. *Сабака наш бегаець, як аглашэнный.* Шаламы Слаўг.

АГНЁНАК *м.* Ягня. *Наш серынькі агнёнак некуды збех.* Заполле Шкл.

АДБІ′ЦІК *м.* Гарлач з пабітым горлам. *Кіслыя мылако стаіць там у адбіціку.* Рымінка Чав.

АДЗЁЖА *ж.* Верхняе адзенне. *Цяпер ужо ніхто ня носіць саматканай адзёжы.* Цяцерына Бял.

АДЗЁРКІ *мн.* Кудзеля; абдзіркі пасля апрацоўкі льну. *Збяры і скруці етыя адзёркі.* Заполле Шкл.

АДДЗЮЖЫЦЬ *зак.* Моцна пабіць. *Я цябе січас аддзюжу, еслі ня здзелаеш.* Чавусы.

АДЗЯ′БНУЦЬ *зак.* 1. Вымерзнуць. *Сёліта ўжэ жыта ыдзябла ў нізіне.* 2. *Груб.* Памерці. *Іна пыбалела троху дый ыдзябла.* Каўшова Мсц.

АДКАРА′СКАЦЦА *зак.* Адвязацца. *Аткыраскайся ты ўжо ад мяне.* Чавусы.

АДКО′Л *м.* Хуліган. *Чый гэта такі аткол? Нада ш разбіць акно...* Скураты Бял.

АДПА′СЦІЦЬ *зак.* Адпасвіць. *Ты сённі гані, а ў дру-*

*гі дзень я за цябе змагу отпасціць.* Нічыпаравічы Шкл.

АДПЕ'РЫЦЬ *зак.* Пабіць. *Сёння добра атперыў ката, больш ні будзе красці куранят.* Дзікае Глуск.

АДШПЛІКНУ'ЦЬ *зак.* Адшпіліць. *Баліць рука, так ні магу атшплікнуць і гузік.* Сідаравічы Маг.

АЗІ'МКА *ж.* Азімая пшаніца. *А я сёлета азімку ня сеяў.* Галоўчын Бял. *Зімой ні было снегу, думалі, што ўжэ й азімка вымерзніць.* Вусце Крыч.

АЗЯЛІ'ЦЬ *зак.* Адурыць, затлуміць. *Азяліў ты маю галаву.* Паташы Гор.

АЗЯРЭ'Ц *м.* Прыстасаванне для сушкі вікі, гароху; азярод. *Даўней гарох ці віку ні сушылі ў ёўні, пакладуць на азярэц і сохнець.* Цвёрдаў Бых.

АКАЛО'ТКІ *мн.* Снапы, абмалочаныя ўручную. *Вазьмі акалоткі, выкінь з гумна.* Вусце Крыч.

АКА'РАК *м.* Шыя каля патыліцы; карак. *Як трэсну табе пы акарку, будзяш ведаць.* Заполле Шкл. *У яго акарак, як у кабана.* Цяцерына Бял.

АЛІТКА' *часц.* Усё ж такі. *Алітка дабіўся свайго.* Заазер'е Бял.

АЛЛЯНУ'ХА *ж.* Страва з капусты, зробленая на скорую руку. *Будзем варыць аллянуху.* Звянчатка Клім.

АПАЛАНІ'ЦЬ *зак.* Ахапіць. *Аткуль гора апыланіла мяне.* Каўшова Мсц.

АПАРО'СНАЯ *прым.* Цяжарная (сучка, кошка). *Раз'елася наша кошка, такая глаткая ходзіць, як апаросная.* Цвёрдаў Бых.

АПЕ'НКА *ж.* Апенька. *Адну восінь столькі было апенык.* Цяцёрка Шкл.

АПЛЁТАВАЦЬ *незак.* Прагна есці. *Во аплётвае, дык аплётвае.* Скураты Бял.

АПО'КА *м.* і *ж.* Гультай. *Уся дзярэўня ведаець, што Іван апока.* Лазовіца Клім.

АПРЫ'Ч 1. *Прысл.* Паасобку. *Мы ехалі ў горат апріч.* Варанёва Крыч. 2. *Прыназ.* Акрамя, апрача. *Апріч мылыка, ні хачу нічога есць.* Рымінка Чав.

АПСО'М і АПЦЭ'САМ *прысл.* Знянацку, нечакана. *Сабака кінуўся ны мяне апсом.* Каўшова Мсц.

АРАЛЛЯ' *ж.* Узаранае поле; ралля. *На араллі ня сеяць, трэба яе яшчэ паскарадзіць.* Цяцерына Бял.

АСМІ'ХВАННЕ *н.* Асмейванне. *Твайго асміхвання я баяцца ня буду.* Ветрынка Бых.

АСТАЛАПЕ'ЦЬ *зак.* Аслупянець. *Тут я асталапела і гляджу на яго: смяецца ці праўду кажыць гэты чалавек.* Заполле Шкл.

АСЦЕПЯНІ'ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Асціпяніcь, ня лесь к чорту на рогі.* Заполле Шкл.

АСЦЮЛЬКІ' *мн.* Асцё з каласоў аўса, ячменю. *Як набярэцца гэтых асцюлек на адзежу, дык бяда, нільзя ат іх атабраццa.* Цяцерына Бял.

АСЫКА'ЦЦА *незак.* Пярэчыць, уступаць у спрэчкі. *Ні аднаго слова ня ўмоўча, усё асыкаецца.* Заазер'е Бял.

АТВЕ'ДКІ *мн.* Наведванне парадзіхі. *Што ты яшчо ні была ў атветках?* Заполле Шкл.

АТ'Е'ТУЛЯ *прысл.* Адгэтуль. *А ты пачынай браць ат'етуля і да тэй дарогі.* Рэкта Гор.

АТЛА'НДЗЕР *м.* Гультай. *Ну і атландзер, нідзе не перадасць.* Скураты Бял.

АТЛЫ'ГА *ж.* Адліга. *У атлыгу дзеці са школы прыходзюць мокрыі.* Вусце Крыч.

АТО'Р'Я і АТО'РА *ж.* 1. Дробная салома. *Сёліта кап ні атор'я, ні знаю, што дзелылі п с каровуй, саўсім мала было сена.* Рымінка Чав. 2. Адбітыя, абмалочаныя каласы. *Сабяры-ка аторю каля пуні.* Вусце Крыч.

АТПЛІКНУ'ЦЬ *зак.* Адшпіліць. *Атплікні верхні гузік, бо ў мяне палец баліць.* Заазер'е Бял.

АТРА'ХА *м.* і *ж.* Чалавек, які да ўсяго адносіцца абыякава. *Ай, атраха, ці будзіць с цябе толк калі?* Рэкта Гор.

АТХА'ІЦЦА *зак.* Ажыць, прыйсці ў прытомнасць. *Зразу атхаілася, як напілася вады.* Рымінка Чав.

АЎДО'Т *м.* Удод. *Я знаю там у адным дубу гняздо аўдота.* Забычанне Касц.

АЦІ'РА *ж.* Амецце; мякіна. *Аціра пышанішныя — ета ж цэнный корм.* Шаламы Слаўг.

БАГДА'Й *часц.* Бадай, няхай. *Быгдай яно правaліцца! Каждый дзень льець, як з відра.* Рымінка Чав.

БАЙРА'К *м.* Будынак для сушкі снапоў (без печкі). *Згарэў наш быйрак, хоць бы сена сушылі.* Дзедзін Клім.

БАЙЧА'К *м.* Гасцінец; бойкая дарога. *Куды еты быйчак ляжыць?* Сідаравічы Маг.

БАЛАЧЫ'НА *ж.* Невялікае воблака. *Наверна, дасць дождж з гэтыя балачыны.* Давыдавічы Бых.

БАРАБУ'ЛЯ *ж.* Бульба. *У йэтым годзе добрая барабуля ўрадзіла.* Чавусы.

БАРАНАВІ'К *м.* Чалавек, які барануе поле, баранавальшчык. *Вонь бырынавікі пашлі скарадзіць, а ты ляжыш.* Вусце Крыч.

БАРА'ЦЬ *незак.* Перашкаджаць. *Не быряй жанчыне іціць у поле.* Вусце Крыч.

БАРО'К *м.* Могільнік. *Пашлі вужо ямку капаць ву барок.* Забор'е Бых.

БАТО'РЫ *мн.* Калёсы; драбіны, прыстасаваныя вазіць снапы, сена, салому. *Куды ты гэтыя баторы павалачэш?* Скураты Бял.

БАЦЯ'ЦЦА *незак.* Бадзяцца, цягацца, валачыцца. *Бацяецца бяз дзела ўвесь час — ну і лодыр жа.* Рэкта Гор.

БЕ'ЗНА *ж.* Яма ў балоце. *Папаў трактар у безну і затануў.* Рэкта Гор.

БІДЗЮГІ' *мн.* Калёсы, прыстасаваныя вазіць бярвенне. *Запрагай, друг, новыя бідзюгі ды адпраўляйся ў лес.* Скураты Бял.

БІ'НЬКА *м.* і *ж.* Чалавек, што ўцякае ад работы; гультай. *Вун бінька пайшоў, а ты, наверна, хочыш у яго кымпанію.* Паршына Шкл.

БІ'ЧЫК *м.* Кукурузны пачатак. *Мама, навары заўтра бічыкаў.* Дзікае Глуск.

БЛІЗНА' *ж.* Рыба, якая водзіцца ў мясцовых вадаёмах. *Ходзь бы якой блізны спаймаць.* Вусце Крыч. *Блізны́ свет було́ ў Сажэ.* Шаламы Слаўг.

БО'ЛАКА *н.* Воблака. *Спусьціліся болыкі ніска над зямлёй, значыць, дождж будзіць.* Рымінка Чав.

БРАВІНА' *ж.* Брыво. *Нада ж так бравіну рассеч.* Чачэвічы Бых.

БРАЖА'ЦЬ *незак.* Брадзіць. *Маё цеста вельмі многа бражала, і хлеб ніўдачны палучыўсь.* Стайкі Маг.

БРА'ЖКА, БРЯ'ЖКА *ж.* Пражка ў рамяні, папрузе. *Бунь бряжка як бліщчыць. Брашкай як дам, дык і пісніш.* Вусце Крыч.

БРУЗЭ'ЛІВЫ *прым.* Цёмна-сіні (колер). *Хустка брузэлівага цвету ў мяне есь.* Каўшова Мсц.

БРУ'КША, БРЮ'КША *ж.* Бручка. *Вельмі добрая брукша ўрадзіла.* Рэкта Гор. *Мыя брюкша нейкая дробненькая.* Семукачы Маг.

БУБУРЫ' *мн.* Вельмі маленькая бульба. *Адны бубуры ў карзінкі ліжаць.* Каменка Крыч.

БРЫ'НДЖЫ *мн.* Фальбоны на падоле верхняй адзе-

жы (сукенкі, спадніцы, фартуха). *Я сабе хвартук пашыла з брынджымі.* Бярозкі Хоц.

БРЫ'ЛЫ *мн.* Губы. *Што надуў сваі брылы?* Шклоў.

БРЫНЕ'ЦЬ *незак.* Клапаціць, трывожыць. *А мне гэта зусім ні брыніць.* Вусце Крыч.

БУГА'Й *м., зневаж.* Вялікі гультай. *Бугай бугаём, а на работу хворь.* Каўшова Мсц.

БУДЗЁННІК *м., уст.* Льняное палатно, якое трэба саткаць за адзін дзень, каб выклікаць дождж. *Цяперіцька ніхто ня ччэць будзённікаў.* Шаламы Слаўг.

БУК *м.* Шырокае і глыбокае месца на рацэ. *У нас у буку малец ў прошлым гаду ўтапіўся.* Еўдакімавічы Шкл.

БУЛЬБЕ'ШНІК *м.* Бульбоўнік. *Зялёны бульбешнік, а нада ж бульбу капаць.* Стайкі Маг.

БУЛЬБО'ВІКІ *мн.* Блінцы, аладкі з дранай бульбы. *Сёння ў цябе смашныя бульбовікі.* Стайкі Маг.

БУРДО'ЎКА *ж.* Спадніца чырвонага колеру (бардовая). *Бурдоўка красівая мая — праўда ж?* Цяцерына Бял.

БУРЛА'ТЫ *мн.* Бярвенне ў апошнім вянку (над бэлькамі) зруба. *Паложым бурлаты, і хваціць.* Цяцерына Бял.

БУРЛЫ'ШКА *ж.* Месца ў ручаі, дзе бурліць вада. *Яны, наверна, на бурлышку пашлі глядзець.* Заполле Шкл.

БУЦЯ'Н *м.* Бусел. *Бальшэй-бальшэй буцян пыляцеў на нашу ліпу.* Рэкта Гор.

БЫЧО'К *м.* Козлы, прыстасаванне для рэзкі дроў. *Калышыцца бычок, дык няёмка рэзаць.* Цяцерын Кругл.

БЯРЛІНА' *ж., уст.* Барка. *Твыя карова, як бярліна, быльшая.* Шаламы Слаўг.

ВА'ВА, ВА'ВАЧКА *ж.* Болька. *Пакажы-ка, дзе й цібе вава.* Шаламы Слаўг.

ВАГА'ЦЬ *незак.* Паглыбляць (барозны пасля сяўбы жыта для сцёку вады). *Цяперыцька жыта ня вагаюць.* Цяцерын Бял.

ВАЛАВЯ'НКА *ж.* Ваўнянка. *Вылывяньк і груздоў сёліта й нымачыць можна.* Шаламы Слаўг.

ВАЛАХА'ЦЬ *незак.* Кастрыраваць. *Ладны кабанчык, ды валахаць нада.* Сідаравічы Маг.

ВАЛЁНКА *ж.* Шапка (звычайна з белай воўны). *Ты што сам сібе валёнку зваліў?* Варанёва Крыч.

ВАРАЖЭ'ЙКА *ж.* Варажбітка, варожка. *На тым краю вёскі жывець варажэйка.* Сялец Бых.

ВАРГО'ЛЫ *мн.* Звычайна пра беднасць; кіпяціць пустую ваду (голы вар). *Толькі варголамі і папотчуе.* Цяцерка Шкл.

ВАРЗО'ПАЦЬ *незак.* Рабіць што-небудзь няўмела, дрэнна. *Ня мыіць пол, а варзопыіць.* Каўшова Мсц.

ВАРСАНУ'ЦЬ *зак.* Піхнуць, штурхнуць. *Ідзі адгэтуль, а то як варсанець карова.* Ветрынка Бых.

ВАРХА' *ж.* Ачыстка зерня ручным спосабам. *Ета варха пользы ні даець.* Сялец Бых.

ВАРШЫ'ЦЬ і ВАРХАВА'ЦЬ *незак.* Чысціць (ачышчаць) зерне ручным спосабам. *Жыта варшуць пры помашчы варшалкі.* Цяцерын Бял. *Раней вархавалі лапатачкай на ветры.* Сялец Бых.

ВАРША'ЛКА *ж.* Прасцейшая прылада для ачысткі зерня. *Німа чаго варшыць, той варшалак німа.* Цяцерына Бял.

ВА'РЫВА, ВА'РВА *ж.* 1. Страва з кіслай капустай. *Сянні наваріла варіва.* Вішні Касц. *Мой зьеў сразу дзьве міскі варюва.* Кульшычы Слаўг. 2. Боршч. *Наварю варьва з мясам — і ядзяць.* Сухары Чав. *Свёкла паднялася, нада варвы наварыць.* Цяцерына Бял.

ВАТРЫ'НА *ж.* Непаўнаякаснае зерне; мякіна. *Пудоў пяць ватріны засталося — вот і ўраджай.* Еўдакімавічы Шкл.

ВАЎКАВА'ТЫ(Й) *прым.* Макраваты. *Хуста яшчэ ваўкыватыя, нада на вецір.* Каменка Крыч.

ВАЎЧЫ'НЫ ГРЫБ, ГЛУХІ' ГРЫБ. Агульныя назвы ядавітых грыбоў. *Вужоўкі і вясёлкі — ета ваўчыныя грібы. Завем і глухія грібы.* Каўшова Мсц.

ВЕ'ХЦІК *м.* Пучок саломы для мыцця посуду. *Нада зрабіць новы вехцік.* Заходы Шкл.

ВЕЧАРУ'ШКІ *мн.* Вячоркі. *Ны вічарюшкі збіраліся ў адну хату, співалі песні, расказувалі цікавыя навіны.* Кульшычы Слаўг.

ВЕЧАРЫ'НАШНІК *м.* Чалавек, які любіць пагуляць (на вячорках). *Наш вечарынашнік позна пріходзіць.* Заходы Шкл.

ВЕ'ШКА *ж.* Указальнік. *На глыбі ставюць вешкі с красныміі флашкамі.* Вусце Крыч.

ВЁСКА *м.* Вадзяны млын. *Раней у вёску ездзілі малоць, ціперь нету ей.* Заполле Шкл.

ВІСАЖА′Р *м.* Сузор'е. *Вісажар — гурт зорачык, калі яны радам сідзяць.* Цяцерына Бял.

ВІТА′ і ВЯХА′ *ж.* Знак забароны. *Там віту пыставіў дарожный. Дарогу саўсім зымяло, адны вехі тырчаць.* Бярозкі Хоц.

ВІХРЫ′НА *ж.* Верх страхі. *Нада віхрыну паправіць.* Паршына. Гор.

ВО′ПРАНКА *ж.* Вопратка. *Хіба купіць новую вопранку, ці што.* Дзікае Глуск.

ВО′РСАЦЬ *незак.* Калоць. *Атстань, а то варсану пяром.* Дзікае Глуск.

ВО′СТРАВО′КІ прым. Занадта цікаўны. *Такі ўжо вострavокі — вочы так і бегаюць.* Захсды Шкл.

ВО′ТЛІГ і ВО′ТЛІЖ *м.* Адліга. *Ходзь бы вотліх скарей: ныдаеў марос.* Каўшова Мсц.

ВО′ЧКА *ж.* Выемка (ямка) у бульбіне. *А во ў етай бульбіне вочкаў саўсім нетуці.* Вусце Крыч.

ВО′ШЫЎКА *ж.* 1. Канцавая частка рукава. *Пааббілісь вошыўкі, нада апшыць новым.* Бярозкі Хоц.2. Пояс у штанах. *Вошывачку можна зьдзелаць таўсьцей.* Вусце Крыч.

ВУГНА′К *м.* Той, хто гаворыць у нос. *Такі ж вугнак, аж страшна.* Заполле Шкл.

ВУГНА′ТЫ *прым.* Гугнявы. *Змалку ж ня быў вугнаты.* Заполле Шкл.

ВУГНА′ВІЦЬ і ВУГНА′ЦІЦЬ *незак.* Гугнявіць, гаварыць у нос. *Вугнавіў нешта ніпынятныя.* Каўшова Мсц. *Ужо большым пачаў вугнаціць.* Заполле Шкл.

ВУ′ДНУЦЬ і ВУ′ТНУЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Пірістань бегыць, а то січас вудну палкый, дык быстра сядзіш.* Бярозкі Хоц. *Так больна вутнуў, аж звініць у галаве.* Дзікае Глуск.

ВУ′ДУБІЦЬ *зак.* Выцягнуць. *Вядро цяшкоя такоя, што чуць вудубіла с калоцца.* Чапялінка Гор.

ВУЖО′ЎКІ *мн.* Непрыгодныя да яды грыбы. *Вужоўкі бываюць красныя, белыя і другія.* Сялец Бых.

ВУН, ВЭН, ВЭ′НАКА *часц.* Вунь, там. *Вын ён схаваўся.* Заазер'е Бял. *Вэн твая дочка йдзець.* Лудчыцы Бых. *Вэнака брыгадзір.* Забор'е Бых.

ВУ′СЫ *мн., зборн.* Асцё. *Цяпер вусы ў вічменю бальшэнныя.* Вусце Крыч.

ВУ′ЦІРЫЧ, ВЫЦІРА′ННІК *м.* і ВЫ′ЦІРКА *ж.* Уціральнік; ручнік на абразах, на рамках з фотаздым-

камі. *Выцірь рукі вуцірькуй.* Рымінка Чав. *Дай-ка мне вуцірыч чысцейшый.* Забор'е Бых. *Хата з выціраньнікымі і ўзорамі на красных вокнах.* Паршына Шкл.

ВУ'ШЫ *мн.* Першыя вясеннія грыбы (страчкі і смаржкі). *Я ўжо прадаў дваццаць адзін кілаграм вушэй.* Дзікае Глуск.

ВЫ'БАРСАЦЬ *зак.* Выцягнуць. *Выбарсаю аборы з лапцей, пасушу, і яны доўга насіліся.* Заполле Шкл.

ВЫГАНЯ'ЦЬ *незак.* Высыпаць, выбіраць муку з жорнаў. *Цяпера нету і жорнаў, і нету чаго выганяць — муку гатовую пакупаем.* Заходы Шкл.

ВЫДЫРГА'ЦЦА *зак.* Выгаладацца. *Як выдыргаесься, так зьясі што ўгодна.* Паршына Гор.

ВЫ'ЖЖЫЛА *ж.* Атрута. *Выжжыла етый выпсі пасеіць.* Каўшова Мсц.

ВЫКЛАДА'НКА *ж.* Тканіна з узорамі, вытканая ручным спосабам. *Што ты сыбіраесься выклыданкі ткаць?* Заполле Шкл.

ВЫ'ЛІНАВАЦЬ *зак.* Выліняць. *Карова была бальная, дык і вылінавала.* Цвердаў Бых.

ВЫ'ЛЮДНЯЦЬ *незак.* Рабіцца сталым на людзях, сталець. *Унучка стала вылюдняць, скора жаніхацца будзець.* Цяцерка Шкл.

ВЫ'МАЛАТ *м.* Умалот. *Зразу хлопцы возюць вымылыт ў йінбарь у яшчыках.* Шаламы Слаўг.

ВЫ'НАСАК *м.* 1. Маленькае курынае яйцо; зносак. *Ета ш ні йіцо, а вынысык. Што падзелыць з куріцай?* Вусце Крыч. *Во знясецъ курыца вынасак, тады вазьмі і прібіряжы ды вялікання.* Паршына Гор. 2. Апошняе курынае яйцо. *Усе куры разам перасталі несьціся, і столькі вынаскаў назбіралася.* Галоўчын Бял.

ВЫ'РУБКА *ж.* Вышыня зруба ад падлогі да столі. *Нізенькія вокны, таму што вырюпка мылая.* Забычанне Касц.

ВЫ'ХВАТ *м.* Вілы, якімі вымаюць гаршкі з печы.

ВЫ'ХВАТНІ *мн.* Сухарыкі (пячэнне), спечаныя на патэльні. *Во, якіі ш слаўныі выхватні палучылісь.* Чавусы.

ВЫ'ХВАЦЕНЬ *м.* Хлеб, спечаны на патэльні перад полымем у печы. *Пыдгарэў той выхвацень.* Кульшычы Слаўг.

ВЫЦЁК *м.* Выток. *Выцёк нашай рэчкі пачынаіцца с крініцы.* Еўдакімавічы Шкл.

ВЯДЗМЕ′ДЗЬ *м.* Мядзведзь. *Раньша й вядзьмедзі ў нас бывалі.* Каменка Крыч. *Ай, такога бальшога вядзьмедзя відзела ў зьвярынцы.* Барсукі Быx.

ВЯЗЁНКА *ж.* Плотка. *Заўчора вудзіў у возярі, дык плоці-вязёнкі многа бралась на бабак.* Еўдакімавічы Шкл.

ВЯ′ЗЗЕ *н.* Матэрыял для прывязкі аглабель да палазоў у санях. *Мілка, ідзі-тка нысякі вяззя.* Тратная Клім.

ВЯЗЫ′ *мн.* Вязь у санях; тое, чым звязваюць капылы. *Нада на зіму вязы новыі ў сынях паддзелыць.* Заполле Шкл.

ВЯНО′К *м.* Вечар у маладой перад вяселлем. *Такей слаўный быў вянок у маёй унучкі.* Дзікае Глуск.

ВЯТО′Х і ВЕТАШО′К *м.* Паўмесяц. *Узышоў вятох і ўсё азалаціў вакрух.* Заполле Шкл.

ВЯСЁЛКІ *мн.* Смарчкі. *У вайну адны як наелісь, дык, гаворуць, памёрлі ат вясёлак.* Сялец Быx.

ГАЛАБАРО′ДЗЬКА *м.* Мужчына, у якога не расце барада. *Наш Мікалай галабароцька.* Нічыпаравічы Шкл. *Ты гылыбародзька йшчэ.* Шаламы. Слаўг.

ГАЛАВА′ *ж.* Шапка сланечніку. *На галаве паявіліся ўжо чорныя семячкі.* Цяцерына Бял.

ГАЛАМЯ′ЦЬ *м.* Бярозавы цурбалак. *Стаміўся, прісеў ны гылымяць, дай заснуў.* Кульшычы Слаўг.

ГАЛА′Н *м.* Певень. *Сяньні гылына ны бызарь панясу.* Паршына Гор.

ГАЛЁЗАЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Ён во нешта як кажа, дык у нос галезая.* Сідаравічы Маг.

ГАЛО′ДНІЦА *ж.* Голая косць. *Выкінь галодніцу сабаку на двор.* Цяцерына Бял.

ГАЛО′ЎКІ *мн.* Тая частка льну, у якой знаходзіцца семя. *Сарві-ка галовак скольні, нада праверіць, ці лён пасьпеў.* Вусце Крыч.

ГАЛУ′БНІК *м.* Франтон. *Галубнік разваліўся, нада новый дзелыць.* Паршына Гор.

ГАЛУ′ЗАВАЦЬ *незак.* Дурэць, гуляючы. *Дзеці, пірастаньце галузаваць.* Паташы Гор.

ГАРАТНЫ′ *прым.* Палахлівы, забіты горам чалавек. *Трэці год балеець гаратны.* Сялец Быx.

ГАРЛЯ′НКА *ж.* Горла. *А чаго ты гырлянку дзяреш?* Бярозкі Хоц.

ГАРМО′НЯ *ж.* Гармонік. *Гармоня нешта сапсавалася.* Паршына Маг.

ГА'РНЫЯ прым. Прыгожая. *Гэта настаўніца дужа гарныя.* Каўшова Мсц.

ГАРШЧЭ'ЎНІК м. Той, хто робіць гаршкі; ганчар. *Гаршчэўнік у чыріпках варіць, а партнэй у дзірявым ходзіць.* Бярозкі Хоц.

ГАРЭ'ЛІШЧА м. Вогнішча. *У лесе знайшлі некалькі парцізанскіх гарэлішчаў.* Скураты Бял.

ГІ'НЕЙ м. Іней. *Бывала выйдзеш зімой на вуліцу: усе дзяреўя ў гінеі.* Вусце Крыч.

ГІРГАТА'ЦЬ дзеясл. Гаварыць неразумнае; гергетаць. *Ужо малы пачынае нешта гіргатаць.* Скураты Бял.

ГЛУ'МА ж. Дурніца. *Глума, што ты робіш?* Касцюковічы.

ГЛУХА'Я ДАРО'ГА. Дарога, па якой мала хто ходзіць і ездзіць. *Калі йдзеш па глухой дарогі, дык редка каго ўвідзіш.* Бярозкі Хоц.

ГЛУХА'Р м. Чалавек, які не чуе. *Глухар — ета глухі, як пень.* Сялец Бых.

ГНІЛУ'ХА ж. Гнілыя трэскі, якія кладуць у дымар, каб лепш дыміць пчол. *Треба ўсігда назыпасіць гнілухі.* Вусце Крыч.

ГНУ'СЛЫЙ і ГНЮСА'ВЫЙ прым. Нядобры, брыдкі, агідны. *Кыш, гнуслый! Ні мішай мне шыць.* Шаламы Слаўг.

ГО'МАЛКА ж. Засушаны сыр. *Мы сушылі гомалкі і ўслед елі.* Дзікае Глуск.

ГРАБЁНКА ж. Прылада для апрацоўкі льну: грэбень. *Зламала во грябёнку, цяперя чым будзеш лён мычыць.* Вусце Крыч.

ГРАБІ'ЛКА ж. Конныя граблі. *Я быў сёння на грабілке.* Галоўчына Бял.

ГРАБЫ'Р м. Чалавек, які капае калодзеж. *Цяпер грабыры нырысхват.* Заполле Шкл.

ГРА'ВІЛЬ м. Гравій. *Ны дарогу гравіль возім.* Шаламы Слаўг.

ГРА'ВІНЬ м. Бойкая дарога, высыпаная гравіем. *Пы гравіню йшла бысяком, усе ногі збіла.* Бярозкі Хоц.

ГРА'ДКА ж. Рашотка, якая ставіцца ў задок павозкі. *Грядку ў вазку ў зялёный цвет пыкрасілі.*

ГРА'ХНУЦЬ зак. Энергічна паваліць. *Бароліся, дык я яго так грахнуў.* Нічыпаравічы Шкл.

ГРАШАТЫ' мн. Грошы. *У каго грашаты ёсць, тэй жывець.* Цяцерка Шкл.

ГРУДО'К *м.* Месца, дзе вывешваюць аб'яву (нарад), каму куды ісці на работу. *Ці ты быў на грудку?* Дзікае Глуск.

ГРУЗО'К *м.* Цяжар, што цягне сетку ўніз. *Прывяжы да сеці грузкі.* Заходы Шкл.

ГРУНЁМ *прысл.* З усёй сілы (бегчы). *Грунём нісламся даетуль!* Забор'е Быx.

ГРЫБА'ТЫ *прым.* З тоўстымі губамі. *Маі нешта пакалоліся губы. Во які стаў грыбаты.* Чачэвічы Быx.

ГРЫБО'ЎНІК *м.* Пірог з начынкай. *А ў вас такога грыбоўніка не пякуць?* Галоўчын Бял.

ГРЫБЫ' *мн., груб.* Губы, вусны. *Раздуў грыбы, як цадзілкі.* Скураты Бял. *Чаго надуў грыбы?* Паршына Гор.

ГРЫЖЫ'НА *ж.* Бручка. *Вырасла грыжына, як з усяго лесу.* Скураты Бял.

ГУЖБА' *ж.* Тое, чым звязваюць бярвенне ў плыты. *Плыты звязваюць лазой, гужбой, яе ўюць, як вірёўку.*

ГУЖЫ'ШЧА *м.* Вяроўка для ўмацавання снапоў на возе. *Гужышча парвалась, вот і перакладаю вос.* Заяцькова Кругл.

ГУЛЕ'Ц *м.* Ігрок. *Што ты за гулец, што ня можыш пы мячыку пыпасць.* Заполле Шкл.

ГУРЫНА' *ж.* Вышывальныя ніткі чырвонага колеру. *Купіла маток гурыны.* Сухары Чав.

ГУРЭ'ШНІК, ГУРКО'ЎНІК, ГУРО'ЧНІК, ГУРО'ШНІК *м.* Сцябло гуркоў.

ГУСІНА' *ж.* Гусь. *Ільіна ўпала і гусіну задавіла.* Цвёрдаў Быx.

ГУСТУ'ШКА і ТАЎЧО'НКА *ж.* Тоўчаная звараная бульба. *У густушку луччы сала с цыбулій, чым масла.* Бярозкі Хоц.

ГУСЦЕ'Ж *м.* Гушча (у супе або баршчы). *Падлей гусьцяжу з капусты.* Забор'е Быx.

ГУТАТА'ЦЦА, ГУТАШЫ'ЦЦА, ГУТУТА'ЦЦА *незак.* Гушкацца, гойдацца, катацца на арэлях. *Дзеці цэлы час гутаталіся ў садзе.* Скураты Бял. *Гэта на соракі гутытаюцца ны арэлях.* Заполле Шкл.

ГУСЯ'ЧЫНА *ж.* Гусінае мяса. *У цябе к масліцы гусячыны будзіць быгата.* Заполле Шкл.

ГУ'ШЧА *ж.* Каша з ячменных круп. *У нас сянні вельмі смашная гушча.* Касцюковічы.

*М. А. Саскевіч*

# ЯШЧЭ З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ПАГОСТ ЖЫТКАВІЦКАГА РАЁНА

Пададзеныя тут словы з'яўляюцца працягам лексічнага матэрыялу, змешчанага ў зборніку «Жывое слова»[1].

Словы запісаны ад Герман Усцімы Рыгораўны (1907 года нараджэння).

БЛЁЎКАЦЬ *незак.* Выдаваць звонкія адрывістыя водгукі пры падзенні ў ваду (аб маленькіх прадметах). *А му, тато, каменьчікі ў воду кідаём да слухаём, як воны блёўкаюць: блёўк-блёўк.*

БЛЁЎКНУЦЬ *зак.* Упасці ў ваду са звонкім адрывістым водгукам. *Нахіліўса над лодкою воды напіцца, а нож з кармана блёўкнуў у воду — і пропаў.*

БОХІ'КАЦЬ *незак.* Моцна кашляць. *Говоріла я тобе цёплей одзевацца, а ты не послухаўса, да от цепер бохікаеш.*

БРІШКОВА'ЦЬ *незак.* Забаўляцца, балавацца, гарэзаваць. *Годзі брішковалі, дзеці, а то напулілі ў хаці, шо й дыхаць не можно.*

БРО'ХАЦЬ *незак.* Выдаваць моцныя з усплёскамі водгукі пры падзенні ў ваду або пры перамяшчэнні ў вадзе (вялікіх прадметаў, істот). *Цімох, брохай под кустамі веслом, мо еку рібіну ў сетку вугоніш.*

БРО'ХНУЦЬ *зак.* Упасці ў ваду, вывернуцца з вады з моцнымі ўсплёскамі. *Ой, і здорове шо то брохнуло, мо то сом. Шоў по мокрой кладцы, покоўзнуўса да брохнуў у канаву, увесь вумок.*

БУ'ЛЬБА *ж.* Бручка. *Дзьве гранкі ўсёго бульбу на полі посадзіла, а ее аж два возы наросло, до зімў корові хопіць даваць.*

БУРЗДЫ'КНУЦЬ *зак.* Упасці галавой уніз. *Здымі,*

[1] Жывое слова. Мінск, 1978, с. 122—125.

*чоловече, дзіця з лодкі, а то бурздыкне ў воду да шукай его.*

БУЯ'Х *м.* Кіях. *А ты пух з буяха вурві да пусці, побачіш, як его вецёр подыме вусо́ко да понесе далеко. Поба, хлопец дзеўку пухом з буяха обдувае, а вона, дурна, не ўцекае, смеецца.*

ВЕДРІ'ШЧЕ *н.* Вядро для памыяў. *Чого ў такі мороз тобе на дворе було муцца? Над ведрішчем бу помуўса.*

ВЕЛІ'ЗЕЗНЫ *прым.* Велізарны. *Така велізезна гарбуза вуросла, шо сам рады не даў на воз подняць.*

ВЕ'ШНІЦА *ж.* 1. Аднастворкавыя вароты (з двух слупкоў і пяці-шасці жэрдак). *Федор, одчіні вешніцу, я коро́ву вугоняць буду.* 2. Брама пры выхадзе з вёскі. *Проведу цебе, унучко, до вешніцы ў конце села, а далей сама пойдзеш, важко мне ўже ходзіць.*

ВІ'ЛІЦА *ж.* Прылада для вязання рыбалоўнай сеткі. *Буду ценето везаць, прінесі, унук, віліцу з повеці, вона така доўге́нька з езычком посередзіні.*

ВІЛО'ЧНІК *м., зборн.* Вілкі, качэргі, чапёлы. *Нарубаеш ў лесі орешніку на ручкі для вілочніка, а то етые перегорацьскоро.*

ВОРОТА'Й *м.* Араты. *Воротаём Кузьма буў, ек картоплі сеялі, гранкі ўсе прамуе гнаў, глыб у саму раз браў.*

ВУСО'ЗЕЗНЫ *прым.* Надзвычай высокі. *Ой, і вусозезны вяз, ек залез на его, то бачно́ було сёла, поле, реку, заречье, сенокос, увесь наш колхоз.*

ВУ'СПУХЛІ *толькі мн., зборн.* 1. Багна на балоце. *У во́йну ў етые вуспухлі самалёт немецкі ўпаў да зацягло, увесь схаваўса.* 2. Успухлая ад працяглых дажджоў глеба. *Не йдзі горо́дом, такіе вуспухлі, шо ўгрузнеш да шче чоботы оставіш.*

ГАРШТЫ'КАЦЬ *незак.* Гаварыць адрывіста; галёкаць. *Вуцягло цыганченя язя, его бацько подбег, удвоіх язя хапаюць да гарштыкаюць по-свойму, крічаць. Екаято зараза до двух часоў ночі на вуліцы гарштыкала, не можно було заснуць.*

ГА'ТКА *ж.* Бераг, умацаваны плятнём. *Тре гаткі коло села робіць, а то река так берег подмувае, шо через годдва городы займе.*

ГІРЗОВА'ЦЬ *незак.* Гарэзаваць. *Перестаньце гірзоваць, дзеці, корову́ з паші йдуць, ву ж іх пужаеце.*

ГІ′ЧЬЕ *н.* Бацвінне. *Марусе, нарвеш удзень гічья з буракоў да секачóм у корыці посечеш, увечері я дам кабану.*

ГО′ПКАЦЦА *незак.* Падскокваць на чым-небудзь спружыністым.*Малэ таке, а за біло ў ложку возьмецца і гопкаецца-гопкаецца, покуль на рукі не возьмеш.*

ГРАБОЎ′Е *н.* Ручка ў граблях. *Для грабоўя ета орешіна не годзіцца, суковата.*

ГРАДА′ *ж.* 1. Павышэнне на лузе, сярод балота. *Ек вода прібувала, пріехалі му стог з етое грады брацъ, ох, а ў ём мушей-мо сотня!* 2. Градка. *Одну граду моркву посазіла, капусту буду з ею шінковаць, да й дзеці ее любяць.*

ГРЕ′БКА *ж.* Уключына. *Тре гребкі ўкрепіць у лодцы, а то весла вускакваюць, ек гребеш.*

ГУРБА′Н *м.* Невялікая ўхаба. *Ета дорога ў гурбанах уся, на лісапеці не вельмо розгонішса.*

ГУ′СКА *ж.* Кветка белага гарлачыка. *Нарваў хлопец гусок за рекою да сестре букета з іх подаріў, семнаццаць годкоў ёй цепер стукнуло.*

ДАЛЕ′ЗНО *прысл.* Вельмі далёка. *Далезно мое сыны заехалі жіць, нейдзі коло Байкала.*

ДЖА′БНУЦЬ *зак.* Балюча ўкусіць. *Ето мене пчола ўчора под воко на сенокосі джабнула, от вонэ і запухло.*

ДЗЕРЖА′ЛНО *н.* Ручка ў прыладзе, якой што-небудзь падымаюць. *Зробéце, дзеду, нове дзержално ў вілкі, а то етэ зломалосо, ек гной з одріны вукідала.*

ДОБРА′ЧІ *прым.* Вельмі добры, душэўны. *Добрача моя цётка — ек пріеду, про ўсе роспутвае, як жіву, переживае, на дорогу надае ўсёго.*

ДО′ЛІ *прысл.* На падлозе. *Госцей так багато, шо ложкоў не хопіць усім спаць, прідзецца долі прослаць.*

ДОЛО′Ў *прысл.* На падлогу. *Нешчо ў заднёй хаці долоў грімнуло, мо то кот гладышку з молоком з поліцы скінуў.*

ДОЛО′ЎКА *ж.* Падлога. *От і помазалі хату, шче долоўку помуём, і к святу хата чіста будзе. О, як добре помулі долоўку, аж у хаці повеселело.*

ДРА′БЦЫ *толькі мн.* Прастора ў возе паміж драбінамі. *Накідаём поўные драбцы гною, а вўшей не будом, коні не поцягнуць.*

ДРАШО′ЎКА *ж.* Шаршатка. *Подай драшоўку, тре дзіркі ў мешках позашіваць.*

ДУЛЕЎКА *ж.* Невялікая прадаўгаватая груша. *От, дулёвок багато ўродзіло, аж гольє гнецца.*

ДУРІ'ЦЬ *незак.* Прасіць, выпрошваць. *І не дурі, цыганко, нічого не дам, ты ж молодая, здоровая, чого тобе самой не робіць.*

ДЫ'БАЦЬ *незак.* Хадзіць, нахіляючыся ўперад. *Пойду, дочко, уперед цебе, покуль до хаты дыбаціму, ты мене догоніш.*

ЕНЦОХА' *м.* і *ж.* Жвавы, непаседлівы (пра дзяцей). *Ну і енцоха еты малы, то за котом побежіць, то курей розгоняе, ні мінюты не ўседзіць.*

ЖА'БЕР *м., зборн.* 1. Плаваючыя ў стаячай вадзе і на яе паверхні тонкавалакністыя густаплеценыя слізкія водарасці, месцамі з жаўтавата-белаватай са ўздушынамі плесенню на паверхні вады. *Іванко, дзіцятко мое, не бродзі по жаберу, а то ноженькі почірвонеюць, болець будуць.* 2. Стаячая вада, змешаная з сапрэўшымі, гніючымі водарасцямі, месцамі пакрытая плесенню. *От, рібак, вудку ў жабер закінуў, у ёго ж только дурна ріба заходзіць.*

ЖІ'ТКА *ж.* Жыццё. *Пагана ее жітка — до войны двое дзецей умерло, чоловек на хронці загінуў, але ж жіве, духом не ўпала.*

ЗАЛОЖЕ'ЧНІК *м.* Паліца для посуду з адтулінамі для лыжак і відэльцаў. *От добре, сынок, шо заложечнік зробіў, цепер для посуды свое место ў хаці е.*

ЗАРО'Г *м.* Вузкая затока. *У Хоченском зарозі рібу багато е, але не вельмо ее там возьмеш, у корчах да зельї ўся ходзіць.*

ЗЕЛЕНЧУ'К *м.* Недаспелы плод (пра садавіну). *Куды ву, дзеці, етые зеленчукі трошчіце? Жівоты ж будуць болець.*

ЗЕЛЕПА'Н *м.* Малы шчупак. *Вунь зелепан у зельї стоіць, моль сцереже.*

ЗЛЯ'МЦІЦЦА *зак.* Спластавацца. *От стог з лета сеў, злямцілосо сено добре ў ём.*

ЗРАЗ *м.* Прышчэпак. *Тре тэ место, дзе зраз прішчепіў, гліною замазаць, а то не прімецца, засохне.*

КАГА'Л *м., экспр.* Радня, родзічы. *Дружны іх кагал, разом сено робяць, картоплі сеюць і вубіраюць, будуюцца, навек помогаюць однэ другому.*

КАЛЮ'ГА *ж.* Лужына. *Дождж наробіў калюг, а дзецям забава е — бродзяць по іх.*

КАМЕНІ'ЦА *ж.* Цвёрдая груша. *Охота мне запутаць каменіц з етое грушы, да, беда, не ўкушу я іх своімі зубамі.*

КАПЕЛЮ'ШІНА *ж.* Ліст белага гарлачыка. *Поба, шчупак маленькі на капелюшіну вускочіў да подскаквае, у воду хоче.*

КАРТОПЛЯ'НКА *ж.* Камы. *Дзеці, ідзеце вечерацъ, я картоплянку ў чугуне на стол поставіла.*

КВАСЛІ'НЫ *мн., рэдк.* Ажыны. *Прінесла дзецям з заречья кваслін, радые.*

КЛЯ'ЧА *ж.* Бакавы брусок у рыбалоўнай сетцы, да якога яна прымацоўваецца зверху і знізу. *Уже ж коло берега сетка, за клячі берéцеса да подцягвайце, только нізом к дну прыціскайце.*

КОЖУ'ШОК *м.* Шчупак сярэдняга або вялікага памеру. *Росказваў дзед, колісь ёму такі кожушок на блесну ўзяўса, шо чоловеча голова ў рот пролезе, да, беда, уцёк.*

КОЛОШМА'ЦІЦЬ *незак.* Лупцаваць (чым-небудзь цвёрдым па тулаву і галаве). *Колько разоў колошмацілі етого поганца, а вон людскіх гусеў краў і крадзе.*

КОСОЎЕ' *н.* Ручка ў касе. *Дзеда попросі, вон таке спрáўнэ косоўе зробіць, шо коса ў руках сама ходзіць будзе.*

КО'ЎЗАЛКА *ж.* Ледзяная выслізганая сцежка для коўзання. *Дурны чоловек, таку хорошу коўзалку на березі порубаў сокерою. Дзеж цепер дзецям коўзацца? Такого прыкрого места ў селе больш нема.*

КО'ШКАЦЬ *незак.*: КОШКАЦЬ ЯЙЦА. Шукаць яйкі дзікіх птушак. *Ек за реку поедзеш, шоб еец не кошкаў, не тре птушóк зводзіць.*

КРІВЕ'ЗНЫ *прым.* Вельмі крывы. *Шо ты ясень такі крівезны прівьёз? З ёго ж толкового весла не зробіш.*

КРІ'ЧКА *ж.* Рачная чайка, трошкі цёмная зверху, гняздзіцца на тым, што вада прыбівае да берагоў у час паводкі. *Мамо, я за рекою найшоў кубло крічкі, уже двое птушенят вувелосо.*

КУПОВА'ЦЬ *незак.* Купляць. *Ходзіла пальто ў лаўку куповаць, а тут церноўкі прівезлі, то на тые гроші ўзяла собе, дочцэ і ўнучцы.*

КУ'РГАН *м.* Востраў, які ўтвараецца ў час паводкі. *Цепер лодку з нашімі малымі ветром к кургану прібіло, поехаў за імі, а воны седзяць да рýмзаюць.*

КУ'ХОЛ *м.* Конаўка. *Наберi мне, доне, у еты кухол квасу, кiсленького хочецца попiць.*

ЛЁНДРIК *м.* Малы збан. *У еты лёндрiк сметаны за два дне назбiрваю.*

ЛЁСТКА *ж.* Папярочная планка ў драбiне (у возе). *Тре було меньш дроў на воз ложiць, а то лёсткi ў глабiнi поломалiса.*

ЛУ'ПЕНЬ *м:* ЗАРАБIЦЬ (АТРЫМАЦЬ) ЛУПНЯ. Быць адлупцаваным. *Будзеш шче за машiнамi по вулiцы бегаць, то лупня доброго заробiш.*

ЛЯ'МЕЦ *м.* Пласт (гною, сена i iнш.). *Куды ты такi велiкi лямец гною береш, берi меньшi, а то шче надорвешса.*

ЛЯПУ'КАЦЬ *незак.* Плявузгаць. *Шо ты, чоловече, ляпукаеш шо не след прi дзецях, сорому ў цебе нема.*

МАЙНА' *ж., зборн.* Водарасцi (у вадзе або высахшыя). *От, чортова майна, усе болоньє покрiла, не дае мурогу росцi.*

МАРIМО'НСКI *прым.*: МАРIМОНСКА МУКА, МАРIМОНСКI ХЛЕБ. Мука вышэйшага гатунку, хлеб з мукi вышэйшага гатунку. *Ой, як усо́ко лётчiкi летаюць, мабуць, хлеб воны только марiмонскi едзяць.*

МУ'ТОРНО *прысл.* Моташна. *Ек поехаў мой сын з дому, так муторно мне стало.*

МУ'ЧКА *ж.* Частка кудзелi, якая насаджваецца на грэбень. *Шче спраду мучок дзьве, да й хопiць нiто́к на дзеругу.*

НА'ГЛЕ *прысл.* Вельмi, празмерна. *Нагле борщ насолены, аж есцi не можно.*

НАЎПАКI' *прысл.* Насуперак. *Шо нi спутаю, шо нi загадаю зробiць, усе наўпакi говорiць i робiць, мо то шо накрiчала на ёго.*

НЕЗГРА'ДА *м.* i *ж.* Няўмека. *Таку незграду з города прiвёз, нi спекцi, нi зварiць не ўмее, попере абуяк, по гразе боiцца ходзiць, от одзевацца да прiчесвацца любiць.*

НЕ'ЎКОЧ *прысл.* Калi-небудзь. *Неўкоч летом, сынок, покажу тобе ў лесi землянку, у екой му ў во́йну жiлi.*

НЕХОРОШКОВА'ТЫ *прым.* Непрыгожы, непрывабны. *Нехорошковату ўзяў, але ж цепер доглеџзены, i накормлены i обпiраны, спраўна вона хозяйка. З вiду вона нехорошковата дзеўка, але так хороше спевае, шо заслухаешса.*

НЕЧЕ'ЎНЫ *прым.* Нікуды не варты (пра дрэннае здароўе і дрэнны выгляд). *Ек померла ёго жонка, то зусім нечеўны зробіўса, узяў бу еку бабу ў хату.*

НОСКІ' *прым.* Які доўга носіцца і не псуецца. *Молодзец, шо кожух собе достаў — вон і цёплы, і носкі, век свой у ём проходзіш.*

ОБО'РА *ж.* Вяроўка, якая прымацоўваецца да ніза або да верха рыбалоўнай сеткі. *Шо ты подняў обору, хлопче, ріба ж з сеткі под ею поўцекае.*

ОКОЧУ'РІЦЦА *зак.* Здохнуць. *Чула наша собака, шо ее век отыходзіць, пошла з самого ранку ў поле да там і окочурылаcа.*

ОКРУЖА'ЦЬ *незак.* Абразаць бацвінне паўз самы караняплод. *Окружала буракі да палец ножем порезала, такі вострі.*

ОТГНЕСЦІ'С *зак.* Спрэсавацца. *Положі, дочко, осковік з сыром под гнёт, хай отгнецецца да ў дорогу возьмеш.*

ОТДЗЯ'НІЦЬ *зак.* Адкрыць насцеж. *На дворе такі мороз, а ты дзьвері, хлопче, отдзяніў, холоду напусціў.*

ОЧЕМРЕ'ЦЬ *зак.* Ачмурэць (ад спякоты, ад удушлівых газаў). *Така жара ўдзень була, шо очемреў на сонцы, прішлосо кідаць работу.*

ПАСО'К *м.* Прышытая стужка. *Ой, як хороше баба наша нарадзілаcа, церноўку завязала, сподніцу з прігожімі паскамі одзела.*

ПЛЕСКА'ЦЬ *незак.* Смажыць (сала, мяса) над агнём. *Возьмі ў ночнэ еты кусок сала, поплешчеш ёго там на огне да зьесі з хлебом.*

ПЛЮШЧА'К *м.* Пустое зерне. *Неважные ў етом году зернета ў гарбузах, мо половіна плюшчакоў.*

ПОДТЫКА'ЦЬ *незак.* Звальваць работу, чыю-небудзь віну на іншага, падстаўляць пад удар. *Екі паганы чоловек, важкў работу не хоче робіць, а другіх подтыкае. Шо ты мое дзіця подтыкаеш, ето ж твой хлопчак вокно розбіў.*

ПОЖВІ'КВАЦЬ *незак.* Варушыць, паторгваць плячамі, здрыгвацца. *Пробраў трохі мороз, шо плечамі пожвікваеш? Погрейса коло грубу.*

ПО'ПУСОК *м.* Вяроўка, пры дапамозе якой трымаюць і цягнуць сетку ў вадзе. *Попусок Коля хай дзержіць на березі, лодкою я поеду, а ты, Нічіпор, сетку з лодкі будзеш вукідаць.*

ПОТА′ПЦЫ *толькі мн.* Цура. *Люблю потапцы — і есці, і бачіць, як хлеб у молоцэ плавае, і як воны пахнуць.*

ПЕРЕЛО′ГІ: ЕКОЕ ПЕРЕЛОГІ. Якога д'ябла, ліха. *Екое перелогі вам у такі дождж рібу ловіць, вумокнеце да шче простудзіцес.*

ПРІГА′ЦЬ *незак.* Прагна есці. *Прігай, Віце, боршч, покуль не похолодаў, гарачі вон смачнейші багато.*

ПРІМОРУ′ЖЫЦЦА *незак.* Прыжмурыцца. *От малая на хвотограхвіі приморужылаcа, мабуць, сонцэ ў вочі біло.*

ПРІ′ПЛАЎНІК *м.* Тое, што вада прыбівае да берагоў у час паводкі. *А гнёзд на пріплаўніку ў заречы — месцінамі однэ коло дного!*

ПУ′ПНІЦЦА *незак.* Марудна рабіць якую-небудзь справу. *Пупніцца коло дома помаленьку, нідзе не переріваецца, шо ж ёй здороўя не маць.*

ПУ′ПОХА *ж.* Пупышка. *Ека позьня весна ў етом году — май, а пупохі шче не роспўкнуліса.*

ПУ′ШКА *ж.* Каробачка (з-пад запалак, ваксы, цукерак і інш.). *Пустою пушкою ў скакалку не погуляеш, подскаквае да коціцца, тре сырое земле набраць у ее.*

РЕЗА′НІК *м.* Звараная неабіраная перарэзаная бульбіна. *Дзеду, поседзеце шче ў нас, резанікі заре зварацца да повечераём усе разом.*

РЕЗА′ЧКА *ж.* Ліха, халера. *Екое резачкі тобе заре по дрову ехаць? Бліскае, гріміць, уб'е шче. Як ето дзеці надумаліса реку на конях переплоўваць, резачка іх ведае. Слава богу, усе цылые.*

РЕЧНЫ′ *прым.* Ганарлівы. *Ек поставілі ее чоловека брыгадзером, то така речна стала, шо й не подступіцца.*

РІБА′К *м.* Рачная чайка светлага колеру, гняздзіцца ў пяску. *Вунь рібак к водзе падае, еку-то рібіну заре ўхопіць.*

САМАТУ′ЖКІ *толькі мн.* Санкі сярэдняга памеру. *Ганно, дай саматужкі, тре мешок мукі з лаўкі прівезці.*

СКАРАЛЮ′ШЧЕ *н., зборн.* Ракавіны малюскаў, створкі ракавін малюскаў. *Пошлі, хлопцы, у друге место купацца, а то тут скаралюшча багато, ногі шче порежом. Вонэ таке вострэ.*

СКАРАЛЮ′ШЧІНА *ж.* Створка ракавіны малюска. *Поба, екі цвет у скаралюшчіны, белая, але і розоватым, і сінёватым отлівае.*

СКЕ′ПКА *ж.* Адна лучыніна. *Подай з черена скепку, грубу буду подпальваць.*

СПІЦУ′Н *м.* Маленькі шчупак. *Поба, спіцун на капелюшіну вускочіў да подскаквае, у воду хоче.*

СПОЛ *м.* Коўш, прызначаны для вылівання вады з лодкі, чоўна. *Лодка моцно цече, а му спол не ўзялі, прідзецца к берегу пріставаць.*

СТРАХО′ЦЬЕ *н.* 1. Страшыдла. *Страхоцье, шо за буран подняўса ў дзень, сады поваліў, крішы позрівау, хмары аж над самумі хата́мі шлі.* 2. Вялікі страх. *Ой, так бліскало да грімело ў ету ноч, страхоцье.*

СТУПА′К *м.* Ступня. *Ступакі набіў, покуль по етой каменной дорозі йшоў, боляць.*

СТЫРЧА′Н *м.* Цвёрдае сцябло агародніх, палявых, лугавых, балотных раслін ці яго ніжняя (ад кораня) частка. *Шче стырчаны з со́ўнешнікоў поўріваём да поносім да й чісто будзе на горо́дзі. Босы йшоў по сенокосу да понакольвау об стырчаны ногі.*

ТОЎСЦЕЛЕ′ЗНЫ *прым.* Таўшчэзны. *Тоўсцелезны екі стаў, ушыр шо ўвусь, а молоды худы буў.*

ТУШО′НІКІ *толькі мн.* Тушаная бульба. *Іван, у пече тушонікі ў чугуне стояць, у обед з кіслым молоком поесі.*

ХІ′МАРАДЫ: ХІМАРАДЫ СТРОІЦЬ. Капрызіць, рабіць на свой лад, не слухацца. *Загадала хлопцу картоплі копаць, а вон хімарады свое строіць: копае зусім помалу, шпурля́е дубцэм картоплі ў небо.*

ХІ′РКАЦЬ *незак.* Кашляць (не моцна, але глыбокім, брынклівым кашлем). *Успоцеў дзед моцно, ек полонку рубаў, простудзіўса на холодзі да цепер хіркае.*

ХОРО′ШІ *прым.* Добры, прыгожы. *Хорошу лодку дзед зробіў — не процекае, гонка́я.*

ХОРО′ШЧІ *прым.* Лепшы, прыгажэйшы. *Мамо, купе́мо еты крам, вон хорошчі на осеньне плацьце.*

ХРА′ПА *ж.* Сцябло з-пад качана капусты. *Бувае для забаву облуплю ножем храпу до самое середзіны да ем, вона така соковіта, солодковата.*

ЦАДЗІ′ЛО *н.* Вялікая міска з маленькімі адтулінамі ў дне. *Сходзі, до́чко, к бабі да цадзіло прінесі, тре цесто росчініць.*

ЦО′ПАЦЬ *незак.* Выдаваць гук пры падзенні (аб цвёрдых прадметах). *Лежу ў курене і чую, як вецёр шуміць да яблукі по земле цопаюць, вуспелі ўже.*

ЦУРЛІ'ЦЬ *незак.* Журчаць. *Сонце прігрело да ручейкі кругом цурляць, на сонцы поблісквають.*

ЦУРОВА'ЦЬ *незак.* Грызці (пра мышэй, пацукоў). *Ека смела муш: седзіць на ганку і цуруе собе нешчо.*

ЦЮ'ПА *ж.* Малако з дробна накрышаным хлебам. *Налі, унучко, молока ў міску да я цюпу собе зроблю, на мое зубу екраз еда добра.*

ЧА'ЙКА *ж.* Кнігаўка. *Шоў лугом до рекі, а чайка надо мною кружіць да крічіць, ек голосіць.*

ЧО'МКАЦЬ *незак.* Чмякаць. *Дзеду, не чомкайце нішчымны хлеб, я вам заре молока ў кухол налью.*

ЧО'ЎПЦІ *незак.* Гаварыць абы-што (пра каго-небудзь), недарэчна, дакучліва. *Шо ты, суседко, чоўпеш которі дзень, я ж горожою твою землю не заняў, гледзі, прамо по розорі ее поставіў.*

ЧУНІ *толькі мн.* Гумавы абутак з кароценькімі халявамі без шнуркоў, надзяваецца на валёнкі. *Надзевай, Хведор, чуні на валёнкі, а то ногі намочіш, одліга цепер на дворе.*

ША'МНУЦЬ *зак.* Лінуць. *Такі дождж шамнуў, шо за мінюту навулёт вумочіў.*

ШАРІ'ХВОСТ *м.* 1. Гарэза, свавольнік. *Ну й шаріхвост Цітоў хлопец, то тут крутнецца, то там, усе оббегае, усе обгледзіць.* 2. Прахадзімец. *Ну й шаріхвост твой зяць, пролезе, обдуріць, достане, а з людзьмі ў селе ек пан говоріць.*

ШЕБЕ'НЬКАЦЦА *незак.* Корпацца, кешкацца. *Старі, годзі тобе шебенькацца коло етое горожі, у хату ідзі, дочка пріехала.*

ШІХОВА'ЦЬ *незак.* Бегаць (туды-сюды), віцца, мітусіцца (пра мышэй, курэй, уюноў і інш.). *От, перело́жные муші, шіхуюць усю ноч под подлогою, пішчаць, заснуць не можна.*

ШЛА'МАЦЬ *незак.* Ісці ў вялікім абутку, які слізгае па назе. *Бацькову чоботы мне велікіе, шламаць буду да муленікоў нароблю.*

ШМА'ЦЬЕ *н., зборн.* Рыззё. *Тре, дзеўко, заўтра шмацье гразнэ попраць.*

ШУ'ГНУЦЬ *зак.* Праваліцца ў палонку, у яму (у вадзе). *Тут ямо́к багато, не перебродзь, а то шугнеш у екунебудзь да намочішса.*

ШУПЛЯ'К *м.* Рыхлы качан капусты. *З твое росады, суседко, у мене одные шуплякі порослі.*

*А. А. Крывіцкі*

# ГАВОРКА ВЁСКІ ЯСКАВІЧЫ САЛІГОРСКАГА РАЁНА (Слоўнічак і некаторыя асаблівасці будовы слоў)

Вёска Яскавічы (мясц. Яськавічы) — адна з крайніх вёсак у акаючым масіве беларускіх гаворак на яго стыку з усходнепалескімі гаворкамі, у якіх галосныя *а* і *о* адрозніваюцца звычайна не пад націскам. Яна знаходзіцца на поўдні Салігорскага раёна Мінскай вобласці на мяжы з Лунінецкім раёнам Брэсцкай вобласці.

Лясныя абшары паміж надпрыпяцкім Палессем і даўно абжытай «палявой» Случчынай з'яўляюцца тэрыторыяй адносна позняга гаспадарчага асваення. Пра гэта сведчаць, спасылаючыся на ўспаміны сваіх бацькоў і дзядоў, і карэнныя жыхары Яскавіч. Большасць яськавічан — продкі хутаран-перасяленцаў з блізкіх і далёкіх вёсак з-пад Старобіна, якіх прывабіла сюды ў свой час вольная зямля.

Асваенне і засяленне гэтых лясных нетраў адбывалася, відаць, не толькі пры ўдзеле мясцовага насельніцтва са Случчыны, але і з Палесся. Цесная ўзаемасувязь паміж насельніцтвам адзначаных рэгіёнаў была спрадвечнай. Але тут, на лясным сумежжы, як толькі пачалося яго інтэнсіўнае асваенне, самай звычайнай з'явай сталі, безумоўна, рознага роду непасрэдныя кантакты былых «палевікоў» і палешукоў. Вельмі спрыяльныя ўмовы для падобных кантактаў складваліся зімою і ўвесну — у час заняткаў мясцовага насельніцтва па найму на лесарасрацоўках і сплаве лесу. На гэты адходніцкі заробак ішлі не толькі ўсе працаздольныя мужчыны, але і жанчыны. Прэстыжных адносін паміж «палевікамі» і палешукамі тут, зразумела, не магло быць. У тым ліку і ў адносінах мовы. Натуральным было ў такіх умовах інтэнсіўнае ўзаемадзеянне іх гаворак і ўзаемаўплыў. Моц-

на адчуваецца суседства з усходнепалескім дыялектным рэгіёнам і яго ўплыў і ў гаворцы вёскі Яскавічы.

У вёсцы Яскавічы давялося пабываць двойчы ў 1970 г. Спачатку для збірання матэрыялаў аб гаворцы вёскі па апытальніку Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа, а потым у сувязі з правядзеннем запісаў мясцовай гаворкі для фанатэкі. Маё знаёмства з мясцовай гаворкай, у тым ліку і з асаблівасцямі яе слоўніка,— гэта вынік гутарак у першую чаргу з Дзмітрыем Цімафеевічам Круковічам (1899 г. н.) і Дар'яй Рыгораўнай (1909 г. н.), яго жонкай, а таксама з іх суседам Іванам Трафімавічам Бойкам (1911 г. н.). З Дзмітрыем Цімафеевічам мы правялі ў гутарках шмат дзён і вечароў. З незвычайным стараннем і ўвагай адносіўся ён да нашых заняткаў. Ён выдатна ведаў мясцовую гаворку і валодаў ёй, заўсёды з ахвотай даваў тлумачэнні, дэманстраваў пры патрэбе формы слоў, вымаўленне гукаў і г. д. З захапленнем апавядаў ён пра багатую прыроду наваколля, пра сваю вельмі прыгожую некалі, спакойную і рыбную рэчку Морач (зараз меліярацыйная канава). З нецярпеннем чакаў цёплых дзён, марачы папацягаць яшчэ ў старым рэчышчы акунёў і плотак і нават абхітрыць пару-другую асцярожных «язюкоў».

Фанетычная будова слоў у гаворцы вёскі Яскавічы звычайная для слуцкай падгрупы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту. Гэта гаворка з няпоўным аканнем, еканнем, закрытымі *о* і *е,* а таксама з такой выразнай асаблівасцю, як *п'яць, м'ясо, аўёс* і г. д. Але адначасова тут назіраюцца і гукавыя рысы гаворак усходнепалескай падгрупы. Самая яркая з іх — гэта моцна лабіялізаванае вымаўленне пасля губных зычных як пад націскам, так і не пад націскам гука *ы,* які ў гэтай пазіцыі выступае практычна як галосны *у (пул, му́чка, ста́ву* і г. д.). Але больш цікавымі з'яўляюцца малапрыкметныя палескія гукавыя асаблівасці гаворкі.

Звяртае на сябе ўвагу, асабліва ў пачатку назірання над гаворкай, перш за ўсё мясцовае аканне. Тыпалагічны статус яго не выклікае ніякіх сумненняў. Але вымаўленне ненаціскнога *а,* якасны бок гэтага галоснага, з'яўляецца досыць своеасаблівым. Пры ўслухоўванні ў вымаўленне гэтага *а* спачатку было ўражанне, што ён мае губны характар — нешта такое, што моцна зблiжае яго з гукам *о.* Праўда, потым уражанне аб набліжэнні нена-

ціскнога *а* да *о* крыху зменшылася. Але ўсё ж безумоўна, што некаторымі гукавымі якасцямі, якія характэрны для галоснага *о*, мясцовы ненаціскны галосны *а* адрозніваецца ад падобнага *а*, напрыклад у моцнаакаючых гаворках Беларусі або ў літаратурнай мове.

Маюць цікавасць таксама і некаторыя асаблівасці екання. У цэлым еканне — выразная з'ява. Але назіраецца яно не толькі пасля мяккіх зычных. Адзначаецца гук *е* не пад націскам у адпаведнасці з *е*( і *а*) пад націскам і пасля шыпячых зычных, а таксама *р* і *ц* (*грэдá, рэкá, чэчэ́, пéрэд, жэрлó, перэстáча, цэнá*).

У гаворцы вёскі Яскавічы асаблівай, у прыватнасці, як бы аслабленай з'яўляецца лабіяльнасць зычнага *в* (магчыма, і іншых губных зычных). Асабліва заўважаецца гэта, калі *в* знаходзіцца ў канцы слова або ў сярэдзіне перад зычным. У падобных умовах чуецца гук *ў*, але ён утвараецца пры звужанай губной артыкуляцыі. Ускосна сведчыць аб такой якасці *в* у гаворцы, можна меркаваць, вымаўленне *ф* у запазычаных словах (*шáфа, фýтра, фанéрка* і інш.).

Нарэшце, гаворцы ўласціва аглушэнне звонкіх зычных у канцы слоў. Але заўважаюцца і выпадкі захавання звонкасці зычных у падобным становішчы. Аднак гэта не вынік няўстойлівасці, нестабільнасці мясцовага вымаўлення, а яго спецыфічнасць. У мясцовай гаворцы, як можна было назіраць, некалькі своеасабліва «заглушаюцца» звонкія зычныя ў канцы слова. У іх як бы захоўваецца голас (звонкасць) у прыступе, у сувязі з чым і ствараецца іншы раз уражанне адсутнасці аглушэння. Пацвярджаецца гэта, дарэчы, прыкладамі тыпу *дожч* (а не *дошч*), *гвозт* (а не *гвост*) і інш.

Цікавымі з'яўляюцца і некаторыя заўважаныя дробныя асаблівасці гаворкі.

У прыстаўках *раз-, з-, без-* (і прыназоўніку *без*) фінальны свісцячы зубны зычны з'яўляецца ў мясцовай гаворцы глухой фанемай *с* (а не *з*). Так выступае ён, у прыватнасці, у пазіцыйных варыянтах гэтых моўных элементаў з канцавым галосным пасля зычнага: *расаýéцца, лазá* (па аналогіі і ў інфінітыве *расавíцца* — разрасціся), *расальéцца вадá, расыйскáлі карóвы, расóйдуцца грóшы, саýéў пчóлы* (ад *звéсці* — страціць), *сашыць чóбаты, сасóх сат* (інфінітыў *сасхнýць* — ссохнуць), *бесо врéм'я парвáлі* і г. д. Гэта гібрыдная з'ява. У гаворках

усходнепалескай падгрупы ў гэтых і падобных умовах адзначаецца зычны гук *з*. У гаворках жа Случчыны, як і ў іншых беларускіх гаворках, *раз-* і *без-* перад галосным маюць таксама звонкі зычны *з*, а прыстаўка *з-* выступае ў варыянце *са-* (*сабрáць, сайцí* і г. д.). Пад яе ўплывам па ўзору ўсходнепалескай маўленчай мадэлі і адбылася, відаць, перабудова вымаўлення прыставак *раз-* і *без-*.

Для гаворкі вёскі Яскавічы характэрна вымаўленне зычнага *г* у асабовых формах некаторых дзеясловаў: *я кагý, магý, ты кáгаш, мóгаш, ён кàга, мóга, мы кáгам, мóгам, енú кáгуць, мóгуць*. Гэта таксама, відаць, нейкая трансфармацыя маўлення, характэрнага для гаворак слуцкай падгрупы, пад уплывам усходнепалескага маўлення: *я кажý, мóжу; ты кáжэш, мóжэш; вон кáжэ, мóжэ; воны́ кáжуць, мóжуць*.

Паслядоўна захоўваецца ў вымаўленні фінальны галосны *а* ў слове *вéльма*. Ён мае, безумоўна, нефанетычны характар, таму што ў адкрытым складзе ў канцы слоў галосныя *а* і *о* ў гаворцы адрозніваюцца ў маўленні паслядоўна.

Вельмі часта чуюцца ў гаворцы канструкцыі тыпу *емý нагá балéла, Урáл ім былá граніца, ей рýкі халóдные, емý ўзя́ўса ясь* з дапаўненнем у давальным склоне са значэннем прыналежнасці.

Нарэшце, тут былі пачуты ў натуральных гутарках назоўнікі мужчынскага роду з займеннымі склонавымі формамі *трактары́сты* (*трактары́стаго, трактары́стаму* і г. д.), *гармані́сты, арці́сты*. Ці не ўтварыліся яны пад уплывам аддзеепрыметнікавых назоўнікаў *ара́ты, прыганя́ты* і інш.?

Пададзім таксама некалькі цікавых выразаў.

Пра змардаванага малога каня: *Кап вóран бáчыў, што не ў хамуцé, то ўхапі́ў бы і панёс*. Прыгаворка пад крык птушкі дзеркача: *Дзяркáч, сеў грáць, пад пнéм, са гнéм, а-гóнь, па-тýх, дзер-кáч а-пýх*. Жарт: *Пáўле, Пáўле, твая́ кабы́лка плáўле! — Не смéйса, Антóне, твая́ ўгэ саўсём тóне*. Пра час веснавога прылёту жураўлёў: *Журавéль сказáў, што хоць зáваратнем удаўлю́са, але на дванáццату яўлю́са* (на 12 тыдзень пасля каляд). Пра сіроцкую дóлю: *Куды́, вóўчэ, ідзéш? — Па сірóчэ*.

АБАБРА́ЦЦА *зак*. Выступіць, паказаць сябе. *Абабраўса грыпком — палезáй у каропку*.

АБРЭ′ЧАК *м.* Старое рэчышча.

АРТНІЧО′К *м., памянш.* да *артнік.* Араты. *Весна-красна́, весна-красна, а што ты нам ву́несла? А вунесла вам, вунесла тры карысці, тры радасці: першая карысь — пастушок, другая карысь — артнічок, трэцяя карысь — бартнічок* (з песні).

АСТАДО′ЛІЦЦА *зак.* Забудавацца на новым месцы.

АТЛЁГА *ж.* Адліга.

БЕЛЬКАВА′НЫ *прым.* Кучаравы. *Белькаваны, ек баран.*

ВАСКАВЕ′НЬ *м.* Мяшэчак для адцэджвання тварагу.

ВЕ′ДРАНО *прысл.* Ясна, пагодліва. *Заўтра ведрано будзе на дварэ.*

ВЕ′ТРЫЦЬ *незак.* Прыслухоўвацца ці прынюхвацца па ветру (пра сабаку, карову і інш.).

ВІ′СІЦЬ *незак.* Вісець. *Дасюль во вісяць, сушацца* (пра хлысты на вуды).

ВО′ЛКІ *прым.* Вогкі, сыраваты. *Волке бувае се́но ўра́но.*

ВУ′КАЛЯЦЦА *зак.* Вымазацца ў гразь. *Свінья вукаляласа ў гразе́.*

ВУ′ПЛАТАЦЬ *зак.* Выпатрашыць (пра рыбу). *Чэрэво вуплатаў у язя.*

ВУ′ХРАСЦІЦЦА *зак.* Перайсці ў іншую веру. *Некаторые вухрасціліса на каталіцкую веру.*

ГВАЛДАВЫ′ *прым.* Агульны, абшчынны. *Гэто гвалдаво́е і ермаво́е було́ не за маю па́мець.*

ГЛУ′ПАСЬ *ж.* Час пасля поўначы.

ГРАНЬ *ж.* Граніца, край, бераг. *Па грані лесу пасо́м.*

ГРУБІНЯ′ *ж.* Таўшчыня. *Дуб метр грубіні.*

ГУКА′ЦЬ *незак.* Крычаць, падаваць голас. *Ідзеш памалу, гука́еш* (як кароў пасеш у лесе).

ДЛЕ *прыназ.* З-за. *Дле чаго ён не жэніцца?*

ДО′ЙЛО *н.* Вымя.

ДУКАВА′ЦЬ *незак.* Настройваць, падбухторваць.

ЕРМАВЫ′ *прым.* Прыгонны (пра абавязак). *Ермавое адраблялі пану.*

ЖЭРЛО′ *н.* Струмень у крыніцы. *Жэрло — адкуль вада вубівае.*

ЖЫВАВО′Т *м.* Крыніца.

ЗАБІВА′ЦЬ *незак.* Занімаць. *Аж духі забівае* (так цяжка)!

ЗАВЕДЗЕ'НЦЫЯ *ж.* Традыцыя, звычай. *Така ўге заведзенцыя.*

ЗАГАРНУ'ЦЬ *зак.* Зачэрпаць (*загóртваць* — зачэрпваць). *Загарні мне вады.*

ЗАМАРШЧА'КІ *мн.* Зморшчыны.

ЗАТАМІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца.

ЗБО'РНЯ *ж.* Сходка, натоўп (людзей). *Каля школы чаго-то зборня.*

ЗБРА'КНУЦЬ *зак.* Перакваcіцца. *Кіслэ малако збракло.*

ЗБУЦЕ'ЦЬ *зак.* Моцна адсырэць.

ЗГУК *м.* Гук. *Слухае, ветрыць, дзе згук* (карова ў лесе).

ЗДЗІВІ'ЦЬ *зак.* Сурочыць (позіркам). *Дзіця мне здзівіла.*

ЗЕМЛЮЧО'К *м.* Земляны чарвяк. *Чарвяк-землючок.*

І'МЕЛЬНІЦА *ж.* Нейкая расліна высокая, расце паўз рэчку.

КАЛІ'ТНІК *м.* Жоўтыя гарлачыкі.

КАМЛА'ТЫ *прым.* Калматы. *Гусень — чэрві камлатые.*

КАМЛЕКО'М *прысл.* Грудам, кучкаю.

КАРПАШЫ'ЦЬ *незак.* Пяршыць. *Мо ў горлі карпашыць?*

КАРЫ'СЬ *ж.* Узятак. *Пчала наберэ карысці і назад леціць.*

КАЎТУ'ННІК *м.* Рачная бадзяга (прэснаводная губка).

КЕ'РЗАЦЬ *незак.* Плесці няўмела.

КЛЯ'ПАЦЬ *незак.* Плёхаць, падаць на ваду. *Жукі кляпаюць у вóду* (з алешыны, з вярбы, што расце над рэчкаю).

КРЭ'СКА *ж.* Крэсіва.

КРЫ'СКА *ж.* Беражок у гаршку. *Не беры за крыску, вудзерэцца!*

КУРО'БІЦЦА *незак.* Карабаціцца.

ЛАГУ'Н *м.* Бочка з двума днамі і квадратнай дзіркай у баку (для насыпання або налівання).

ЛЯ'ЛЕЧКА *ж.* Зрэнка.

ЛЯ'ПА *ж.* Язва, балячка. *Ляпа на руцэ не зажывае.*

МАЙ *м.* У выразе: *Буў — і як май змáеў!* — Быў і прапаў, як растаў, як хто ўхапіў.

МЕДНЫ' *прым.* Мядовы. *Медны гот.*

МЕ'ЦЦА *незак.* Даводзіцца, быць. *Ена мне сестра маецца.*

НАБІЧКАВА'ЦЬ *зак.* Набіць, насадзіць поўна. *Бічком набічкавала венцяры* (рыбаю).

НА'ГЛІЦА *ж.* Велікан. *С такім нагліцэю не справісса.*

НАД *м.* У выразе: *Як нема на надў, так чорт даў хадў* (пра запаслівасць, гаспадарлівасць; прымаўка).

НАЕ'ДКІ *мн.* Яда. *Нашые наедкі і напіткі.*

НАЛАГО'ДАЧКА *ж.* Ласуння.

НАРЫ'ЦЦА *зак.* Натрапіць, наскочыць. *Нарыўса на журайля на балоці.*

НА'ХАЦЬ *ж.* Нахабніца (пра свінню). *Свіньня — гэто нахаць, не адагнацца!*

НО *часц.* Так, але. *Ты снéдаў? — Но, снедаў і ўже ешчэ захацеў.*

О'ПСАС *прысл.* Раптоўна. *Опсас здыхаюць* (ад дусту мухі).

О'ПУЛЬ *ж.* Пылок (у кветак).

ПАБІВА'ЦЬ *незак.* Пастукваць. *Зуп аб зуба пабівалі ат страху.*

ПАГО'Н *м.* Пагоня. *Ены за ім у пагон!*

ПАДАРЭ'ЙКА *ж.* Жабрак. *У падарэйкі хадзілі.*

ПА-ДУРНА'ЦКІ *прысл.* Па-дурному.

ПАД'Я'ЗІЧ *м.* Пад'язак.

ПАЛАКА'ЦЬ *незак.* Паласкаць (але: *енá палóшча).*

ПАЛАТНЯ'НІК *м.* Кажан.

ПАМА'ХВАЦЬ *незак.* Павяваць. *Ветрык памахвае на дварэ.*

ПАМ'Е'Г *м.* Хмарка, воблака.

ПАНО'ЗДРЫЦЦА *зак.* Зрабіцца пульхным (пра хлеб).

ПАСТА'ЦЬ *зак.* Зрабіцца. *Лужы пасталі велікіе* (пасля дажджу).

ПАТЛЕГА'ЦЬ *зак.* Адсырэць. *Патлегалі гарбузікі* (семкі гарбуза).

ПАЧА'ТАК *м.* Зроблены пчаламі зачын вашчыны ў рамцы або на прутках у калодзе.

ПЕРЭСТА'ЧА *ж.* Перахват. *Ідзі на перэстачу напрамік.*

ПЕ'ЧЫВО *н.* Выпечка. *Дзве печыві хлеба.*

ПЛАЎКІ' *прым.* Слізкі, гладкі. *Плаўкі сілно грап.*

ПЛЫ'ШКА *ж.* Плашка. *Плышка дроў.*

ПО′СТАРАЖАНЬ *м.* Рыбалоўная стаўка на драпежную рыбу (рагулька са шнуром).

ПРАСАЛЕ′ЦЬ *зак.* Прасаліцца. *Прасалеюць мёткі з рыбаю* (уюнамі), *а тагды ў печ.*

ПРЭ′БАВАЦЬ *незак.* Спрабаваць.

ПРЭ′МЕНЬ *м.* Прамень.

ПРЫМІ′ЧКА *ж.* Жонка прымака.

ПРЫТА′ЧА *ж.* Выгадная і зручная мясціна. *У такой харошай прытачы хата. Прыта́чнэ место.*

ПРЫЦІ′МЕСТЫ *прым.* Абрывісты.

ПУ′ГАЙЛО *н.* Пугаўё.

ПУ′СТКАВЫ *прым.* Пустуючы. *Пусткава земля.*

РАЗВАЛІ′НКІ *мн.* Розвальні.

РАПУ′ШКА *ж.* Рыба галень, слізік.

РАССУ′НУЦЦА *зак.* Разваліцца. *Пальцэм пхні — ена рассунецца* (хата).

РУХЛЯ′ВЫ *прым.* Рухавы. *Рухлявэ дзіця.*

САКНУ′ЦЬ *зак.* Падагнаць валоў. *Артнічок сакне — радзі божа, пастушок гукне — спасі божа, бартнічок стукне — садзі божа* (з песні).

СКУЦЬ *незак.* Цкаваць. *Будуць скуць сабак.*

СЛУКА′ *ж.* Птушка казадой.

СПАЛЬІХНУ′ЦЦА *зак.* Папярхнуцца. *Спалыхнуўса воткаю.*

СПІЦА′К *м.* Лось, у якога ў рагах ёсць адростак уперад.

СТАПА′К *м.* Ступня.

СТАЎБЕ′Ц *м.* Рыба ялец.

СТРЭ′НЬЕ, СТРЭ′ЧАНЬЕ *н.* Адна ступень у сваяцкіх адносінах. *Да трэцьего стрэнья радня. Ена мне сестра ў другом стрэчаны.*

СХНУЦЬ *незак.* Сохнуць.

СХО′ДЗІСТЫ *прым.* Адхонны (бераг).

СЫРА′ВЫ *прым.* Няспелы. *Сыравая сліва.*

УЛІСЦІ′ЦЬ *зак.* Даць лупцоўку, уліць. *Улісціў, то́лько рэбра пакінуў.*

УНЫ′РЫЦЦА *зак.* Глыбока і горка задумацца. *Унырыцца і седзіць, нікого не бачыць.*

УПА′ТКІ *мн.* Мор на скаціну.

УХО′ЖВАЦЬ *незак.* Даглядаць, глядзець. *Ухожваць мацеру не хочэ.*

ХАДЖА′ЦЬ *незак.* Правяраць стаўныя рыбалоўныя прылады на рацэ. *Хаджаць нероты.*

ХАСЦІНА′ *ж.* Пражэрлівая скаціна.

ЦЬВЁРСТВЫ *прым.* Чэрствы (пра хлеб).

ЦЫР, ЦЬВІР *м.* Бярозавы грыб, чага.

ЧАРНАЛЕ′С *м.* Дуб, граб, асіна, алешына і іншыя віды дрэў.

ЧАСЦЕ′ЛЬНІК *м.* Гушчар у лесе.

ЧА′СЦЕР *м.* Расліна гарчак.

ЧАХЛІ′ЦЬ *незак.* Брахаць, бегучы па следу звера (пра сабаку).

ШУРЛЯ′ЦЬ *незак.* Шпурляць. *Шурляю іх з вады* (акунёў на вуду).

Асобна спынімся на некалькіх словах, якія маюць лексікалагічную цікавасць.

ЕЛІ′НА *ж.* Як і ў літаратурнай мове,— яліна, ёлка. Але ў мясцовай гаворцы гэта назва па сваёй марфемнай структуры адпавядае іншым назвам пашыраных дрэў: *бярэ́зіна, хваіна, асіна, арабіна але́шына.*

РУ′ХНУЦЬ *зак.* Кінуцца. *Рухнулі свіньня.* На першы погляд слова мае як быццам зусім відавочную сувязь з *ру́хаць, ру́шыць.* Але верагодней, што яно знаходзіцца ў прамых адносінах з гукапераймальным *ру́хаць (рю́хаць)* — падаваць гукі (пра свіней). Гл. Г. Ф. Юрчанка. Аддзеяслоўныя і гукапераймальныя выклічнікі з адной вёскі. «Народная лексіка». Мн., 1977, с. 183.

ПЕ′РСНІ *мн.* Грудзі ў каня. Безумоўна, ад першапачатковага (запазычанага?) *пе́рсці* з «папраўкай» па ўзору *пе́рсні* ад *пе́рсцень* — пярсцёнак.

ВЕСЕ′ЛІКІ *мн.* Смарчкі. Утварылася гэта назва, верагодна, ад **весе́ннікі* праз варыянт **весе́льнікі*, з якога потым з «дапамогай» народнай этымалогіі атрымаліся *весе́лікі.* Дарэчы, такога ж паходжання і назвы жураўля з гэтым жа коранем (*весялу́н, весялё́ц* і інш.).

*Т. М. Трухан*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

АБВАРО'ЧВАЦЦА *незак.* Абарочвацца (пра воз). *Вязлі з сынам сено, воз абвярнуўса і сын разбіў голаў.*

АПА'ЛІНЫ *мн.* Адходы пры паланні зерня. *Хоць апаліны свае падмяці, ато прайці ня можно.*

АПІВО'ША *м.* і *ж.* П'яніца.

АСКІРЗА'ЦЦА *незак.* Агрызацца. *Маці мяне б'е, а я аскірзаюса.*

АСТАДО'ЛІЦЦА *зак.* Нармалізавацца (пра тэмпературу). *Цямпяратура трохі астадоліласа, можа лепш будзе.*

АТПІЛЯ'ХНУЦЬ *зак.* Адрэзаць вялікі кавалак (хлеба, сала і інш). *Кавалак хлеба такі атпіляхнула, што да вечара ня з'ем.*

АШАЛАМАНЕ'ЦЬ *зак.* Адурнець (ад работы). *Ад цяжкай работы я за дзень ашаламанела.*

АШАЛАМАНІ'ЦЬ *зак.* Адурманіць. *Гэтыя дзеці за дзень мяне ашаламоняць.*

ВЫ'ЛЮДНЕЦЬ *зак.* Стаць больш сталым, разважлівым. *Усё дома сядзела, а цяпер вылюднела і ня пазнаць дзеўкі.*

ГАРКА'ВІЦЬ *незак.* Картавіць. *Хлопцу ўжэ васімнаццаць гадоў, а ён усе гаркавіць.*

ГАРО'ТЛІВЫ *прым.* Гаротны. *Такі ўжэ гаротлівы чалавек і памагчы яму няма каму.*

ГАРУ'НКІ *мн.* Карункі. *Прышыюць гарункі на плацьє і хорашэ.*

ГАРЭ'ЙШЫ *прым.* Горшы. *Гарэйшы чалавек, вот к яму і прыстаюць.*

ГАРЭ'ТНЫ *прым.* Гаротны. *Гарэтны мой сын, што ад мяне так далезно паехаў.*

ГЛАДКАВА'ТЫ *прым.* Не вельмі гладкі. *Свіньня была гладкавата і мы яе тут жа забілі.*

ГЛАДУ'Н *м.* Сыты, поўны чалавек. *Калісьці такі худы быў, а цяпер любо паглядзець, гладун стаў.*

ГЛУША'К *м.* Пра чалавека, які слаба чуе. *Ты добрэ яму крычы, гэты глушак мало што чуе.*

ГУЖО'ЛКА *ж.* Гурт. *Яны ўсе ўрэм'е гужолкаю ходзяць.*

ДАЛЕ'ЗНО *прысл.* Вельмі далёка. *Ня пайду я к цёцы, яна жыве далезно.*

ДАРАГЕ'НЬКО *ж.* Дарагая, мілая (у звароце да жанчын). *Мая ты дарагенько, за гэтаю работаю свету белаго ня бачу.*

ДАЎЗЕ'РАЗНЫ *прым.* Вельмі доўгі. *Даўзеразна была праводка, а бацько атарваў і цяпер ня дастае да хлява.*

ДЗЯНЯ'ШНІ *прым.* Дзённы (пра малако, надоенае пасярод дня). *Дзяняшне малако мы ў атстойнік ня ставім, а самі п'ём.*

ДО'ЧА *ж.* Дачка. *Мая доча прыехала, пабягу дадому.*

ДЫ'ГАЦЬ *незак.* Перастаўляць ногі, клыпаць. *Карова чуць дыгае па двары, як ня сваімі нагамі.*

ДЭ'НКАЦЬ *незак.* Скора і шмат гаварыць. *Як пачне Ганна дэнкаць, ня можно астанавіць.*

ЖЫВЕ'НЬЕ *н.* Утрыманне. *Вы ўсе былі на маём жывены.*

ЖЫ'ТНІЦА *ж.* Жытняя салома. *Жытніцы два возы палучыў, а мышы за зіму ўсю папорцілі.*

ЗАГЛЫ'ХНУЦЬ *зак.* Апусцець. *Заглыхла мая хата, як хлопцы пайшлі ў армію.*

ЗАКЛА'СЦІ *зак.* Уставіць. *Трэба вокна закласці, ато зіма застане.*

ЗАЦЕ'КАЦЦА *незак.* Заходзіцца ад смеху. *Дзяўкі сабяруцца ў Парaскі і цэлы вечар зацекаюцца ад смеху.*

ЗАЯ'ДА *м.* і *ж.* Чалавек, які многа працуе. *Ну і заяда, цэлы дзень на норме галавы ня падніме.*

ЗБУ'ЙВАЦЬ *незак.* Буяць, вырастаць празмерна. *Збуйваюць картоплі на агародзе, няма рады.*

ЗДАРАЎЧА'НЫ *прым.* Здаровы (чалавек). *Чалавек здараўчаны, за сваю жызнь ні разу ў бальніцы ня быў.*

КАЗА'ЦЬ *незак.* Адз.: 1 ас.— *ку*, 2 ас.—*ка*, 3 ас.— *ка*; мн.: 1 ас.— *ка*, 2 ас.— *ка*, 3 ас.— *ка*. *Я ёй ку, штоб вечарам з хаты ні шагу, а яна мне ка, што ўсе дзяўкі бегаюць у клуб і яна пойдзе. Што мы толькі дзецям ня ка, ня слухаюцца ані.*

КАРПЕ'ЛЬ *м.* Марудны чалавек. *Такі ўжэ карпель, над аднаею работаю дзень сядзіць.*

КАРПУ'ХА *ж.* Марудная жанчына. *І што толькі за карпуха ўрадзіласа, людзі за дзень палавіну рушніка вышываюць, а яна ўсе корпаяцца над адным цветам.*

КАРЭ'МЗА *н.* Плаксівае дзіця. *Ня дась абед згатовіць гэта карэмза, цэлы дзень крычыць.*

КАСЦЯ'НКА *ж.* Дзічка (груша). *Насушыла касцянак цэлы мяшок, на ўсю зіму хопіць.*

КАШЧА'ВЫ *прым.* Худы. *Які кашчавы стаў твой сынок, вот як жыць у горадзе бяс помачы.*

КЕ'ЎКАЦЬ *незак.* Ледзьве існаваць, дыхаць. *Чуць кеўкае мая баба, можа і ня дажыць да вясны.*

КІ'ДАЦЦА *незак.* Гадавацца (пра свіней). *Свіней ня буду прадаваць, хай лепш цэлу зіму кідаюцца.*

КІЦА'ТЫ *прым.* Кароткі. *Буракі цяпер кіцатыя і палосы ў сярэдзіне, іх ня можно ў капусту кідаць.*

КОСЦЬ: У КОСЦІ ЎПІЦЦА. Даццa ў знак. *Так хвароба ў косці ўпіласа, што жыць больш ня магу.*

КРО'СНЫ ТКАЦЬ. Хадзіць з хаты ў хату. *Вечарам толькі і знае, што кросны ччэ.*

КУДЗЯЛЯ'НКА ж. Посцілка, тканая з лёну. *Тыя годы аднымі кудзялянкамі накрываліса.*

КУШМЕ'РЫЦЬ *незак.* Горача напальваць печ. *Дакуль ты будзеш печку кушмерыць, ужэ ня можно ў хаце сядзець.*

ЛАБЗАВА'ЦЬ *незак.* Есці (слівы, яблыкі). *Слівы лабзуе, аж лёскат ідзе.*

ЛА'СІЦЦА *незак.* Ласавацца. *Сам ня прынясе канхвет, а прыходзіць к нам ласіцца.*

ЛЯ'ПА *ж.* Нараст. *Такая ляпа на назе вырасла, што ня можно абуць нічого.*

МЫ'КАЦЬ-ПЫ'КАЦЬ *незак.* Гаварыць няясна. *Вызаве настаўніца, а ён мыкае-пыкае і садзіцца на место.*

НАБАХТЭ'РЫЦЬ *зак.* Наліць вельмі поўна. *Набахтэрыла вады цэлэ вядро, што нясці ня можно.*

НАБУ'ШКАЦЦА *зак.* Наесціся з апетытам. *Зімою набушкаюцца дзеці капусты з мясам і палезлі на печ.*

НАВЫВЕ'НДЖВАЦЬ *зак.* Навыпякаць. *Навывенджвае пернікаў усякіх баба.*

НАЛАСТАВА'ЦЬ *зак.* Накласці. *Наластаваць табе трэба цэлу міску скварак.*

НАЛО'ПАЦЦА *зак.* Наесціся (пра чалавека, непера-

борлівага ў ежы). *Чужыя людзі налопаюцца абы-чаго, да і жывуць, а табе ўсе выбіраць трэба.*

НАСЁРБАЦЦА *зак.* Наесціся, спяшаючыся і прыцмокваючы. *Крышаноў насёрбаяцца мой мужык і пабег на работу.*

ПА'ДАНКІ *мн.* Апалыя плады. *Назбірай два вядры паданкаў карове.*

ПАДГАДЖА'ЦЬ *незак.* Апраўдвацца. *На цябе шуцяць, а ты ня падгаджай.*

ПАД'ЯЛДЫ'КВАЦЬ *незак.* Падбухторваць. *Ты ня пад'ялдыквай, ён і бяс цябе ўвесь час задзіраяцца.*

ПАХАДУ'ЧЫ *дзеепрым.* Пераходны, непастаянны. *Вялікдзень пахадучы, то ў адном месяцы, то ў другом, ато саўсім рано.*

ПАХАТА' *ж.* Водар. *А на вуліцы пахата вясною, хоць у хату няйдзі.*

ПАЧЫКІЛЬДА'ЦЬ *зак.* Павольна пайсці, кульгаючы. *Ужэ пачыкільдала Алена ў краму, грошы палучыла, дак набярэ прысмакаў.*

ПЕРАХРЫСЦІ'ЦЬ *зак., перан.* Балюча ўдарыць. *Добрэ перахрысці яго, тады будзе знаць як свіней у калхознэ поле пускаць.*

ПЕРАЦУРКАВА'ЦЬ *зак.* Пераесці. *Перацуркавала ўсе яблыкі за зіму.*

ПЕ'РЫЦЬ *незак.* 1. Ісці (пра вялікі дождж). *Дождж так перыць, што ня можно галаву высунуць.* 2. Лупцаваць, біць (дзіця). *Хваціць дзіця перыць, ато дойдзе ад крыку.* 3. Прагна есці. *Годзе табе крышаны перыць, ідзі на работу.*

ПРЫЯ'ЦЬ *незак.* Гадзіць. *Вышла замуж, то прыяй свякрыві.*

ПЯШЧА'НІЦА *ж.* Пясчанае месца. *На пяшчаніцы вельмі ж пячурыцы добрэ растуць.*

ПЫХКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Лопацца (пра гнілую бульбу ў склепе). *Пыхкацелі картоплі да самае вясны.*

РАД *м.* 1. Засеяная баразна. *Такія роўныя рады картопель, зразу відно, што добры гаспадар.* 2. Пласцінка (у грыбе). *Такія грыбы красівянькія, а пад нізам адныя рады.*

РАЗБО'РНА *прысл.* Разборліва. *Хлопец разборна пісьма пішэ.*

РАНДО'ЎКА *ж.* Радоўка. *Да абеду няма работы, пайду за рандоўкамі ў лес.*

РЭ'ЗАНКА *м.* Рэзь у жываце. *Каб цябе рэзанка ўзяла, як ты мне апастыляла.*

РЭ'КНУЦЬ *зак.* Сказаць. *Жывучы з нявесткаю, я нідзе слова ня рэкнула.*

САЎЯ'К *м.* Падасінавік. *Назбірала саўякоў цэлы кашэль, ну і папажару вечар!*

СЁННЯЧЫ *прысл.* Сёння. *Цэлу ноч я сённячы ня спала, струпок у роце сеў.*

СЛЮТА' *ж.* Слота. *Слюта была страшна зімою.*

СМАЛІ'ЛАЎКА *ж.* Цыгарка. *Годзе табе смаліць смалілаўку, ужэ ўсю хату задыміў.*

СПРЫТНУ'ХА *ж.* Пра прыдатную да ўсяго жанчыну. *Да чаго ж спрытнуха, што ня возьме рабіць, усё ў руках гарыць.*

СТРО'ЙЛІВЫ *прым.* Пра чалавека, які любіць прыбірацца. *Наш Ігар стройлівы, з зеркала ня вылазіць.*

СТРУПО'К *м.* Болька. *На назе сеў струпок, распух, нядзелю ня магла ногу падняць.*

СЭ'НДЗІЦЬ *незак.* Бесперастанку гаварыць. *Такая ўжэ ўнучка ўрадзілася, усе сэндзіць і сэндзіць.*

ТАЛМУ'ТЫ *мн.* Адзенне. *Вынясі свае талмуты з вешалкі, ато ня можно павярнуцца.*

ТАРКО'ВАНКА *ж.* Бабка (з дранай бульбы). *Паеду дамой, таркованку днямі буду есці.*

ТРАПКА'Ч *м.* Пра чалавека, які носіць рванае адзенне. *Гэты трапкач ніколі добрае дубашкі ня зносіць.*

УЗАП'Я'ЦЦА *зак.* Узняцца, устаць. *Ніхто маёй сястры ня памагаў, яна сама ўзап'ялаcа на ногі.*

УЛІМЕ'НІЦЬ *зак.* Сцебануць, стукнуць. *Як уліменю, тыдзень на лаўку ня сядзеш.*

УСЫ'РЫЦЬ *зак.* Усыпаць, адлупцаваць. *Усыр ты яму разоў дзесяць, штоб дзень чухаўся.*

УХО'ДАВАЦЬ *зак.* Упарадкаваць, справіцца. *Кабана маці ўходуе, а тагды ўсе вокна ў хаце пазавешвае.*

ХАДУНЫ' *мн.* Прылада вучыць дзяцей хадзіць. *Дзіцяці сем месяцаў, трэба хадуны купіць, хай патроху топае па хаце.*

ЦЯГНУ'ЦЬ НА ХАМУ'Т. Цяжка рабіць. *Я так цягну на хамут, што няма калі і вады напіцца.*

ХАРАШУ'Н *м.* Прыгажун. *Ну і харашун у Юркавых, усе дзяўкі за ім бегаюць.*

ХАРАШУ'ХА *ж.* Прыгажуня. *Як паехала ў горад, харашухаю стала, і ня пазнаць дзеўкі.*

ХРАПУСТКІ′ *прым.* Хрусткі (пра агурок). *Агуркі ўжэ месяц ляжаць у бочцы, а такія храпусткія, што атарвацца ня можно.*

ЧВА′КАЦЬ *незак.* Хлюпаць. *Як прыгрэе сонцэ, дак снег і чвакае пад нагамі.*

ША′МАЦЬ *незак.* Шамацець (пра мыш). *Няма спасу ад мышэй, шамаюць пад абоямі.*

ШАМЛЯКАВА′ЦЬ *незак.* Есці, хрумаць (яблыкі). *Набяры яблык у поле і шамлякуй цэлы дзень.*

ШАП'ЁНЫ *мн.* Пячурыцы. *Вельмі ж цяпер шап'ёнаў поўно на мсе.*

ШМЕ′КНУЦЬ *зак.* Стукнуць аб зямлю. *Так шмекнуў аб зямлю, што цэлы месяц ледзьве хадзіў.*

ШТУКАВА′ЦЬ *незак.* Жартаваць. *Хваціць штукаваць з гэтаго чалавека, рады, што ён адказвацца ня можэ.*

ШУ′ЛА *ж.* Непаваротлівая жанчына. *Ну і шула, павярнуцца як следуе ня можэ.*

ШЫ′НПАРЫЦЦА *незак.* Калупацца. *Параска цэлы дзень шынпарыцца ў хаце.*

### Словаўтварэнне

Цікавым на Любаншчыне з'яўляецца ўтварэнне назоўнікаў. Прадуктыўнымі суфіксамі з'яўляюцца:

**-ік-**. 1. Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць сукупнасць дрэў ці кустоў: *але́шнік, арэ́шнік, буя́чнік* — дурнічнік, *бярэ́знік (Вельмі ж у гэтым бярэзніку асовікаў поўно, да ўсе харошанькія, роўнянькія, стаў кашэль і лажы памаленьку), е́льнік, малі́ннік (Разросса маліннік па ўсяму агарочыку, і што толькі я яму ня рабіла, а ён усе больш разрастаяцца).*

2. Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць будынкі, прызначаныя для жывёл і птушак: *гуся́тнік, каро́ўнік, кура́тнік (Трэба паставіць куратнік, ато куры лето на яблынях праспалі), саба́чнік (Сабака дзень пад хлявом вые, хоць бы які-нібудзь сабачнік скляпаў), сві- на́рнік, хлявы́шнік, целя́тнік.*

3. Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць асоб па розных прыкметах: *грэ́шнік, зво́днік, няго́днік (Гэты нягоднік усе нервы мае страпаў, ані ня слухаецца), разво́днік, разлу́чнік (Скітаяцца па свету разлучнік, а жонка другого ўзяла і добрэ цяпер жывуць), сплéтнік* — пляткар *(Мужчыне ніяк няйдзе сплетнікам*

*быць, хай ужэ бабы, дак ето дзело панятнае), срамнік* — бессаромны чалавек, *шкóднік.*

4. Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць стравы і печывы: *картапля́ннік* — дранік (*Кожны дзень ядзім картаплянніківі яны саўсім ня прыядаюцца*), *кру́пнік, скаварóднік, сы́рнік, тварóжнік.*

5. Іншыя назоўнікі мужчынскага роду: *вілачнік* — месца, дзе стаяць вілы, *лесавíк* — пра жыхароў лясістых мясцовасцей (*Калісьці казалі на мяне лясавік, бо жыла ў лесе, а цяпер кажуць палявік, бо пашла замуж у поле*), *тóрбачнік* — пра чалавека, які ходзіць з торбаю.

**-ін-а, -ын-а.** 1. Назоўнікі жаночага роду са значэннем зборнасці: *гарóдніна, зеляніна (Такая зеляніна вясною на мсе, што дзень бы любаваўса), пушніна, садавіна (Цяпер добрэ ўрадзіла садавіна, на ўсю зіму хопіць), сыравіна.*

2. Назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць мяса жывёл: *бара́ніна, зайча́ціна* — заечына, *каніна, кура́ціна, лася́ціна* — мяса лася (*Вельмі ж ласяціна смачна, я калісьці часто еў, а цяпер як-то ня прыходзіцца*).

3. Назоўнікі жаночага роду са значэннем адзінкавасці: *вярбіна, галіна, гарóшына, лучы́на* (*мн.* лучыны: *накалоў лучын*), *ляйчы́на (Трэба сказаць конюху, хай ляйчыну памяняе, ато парвецца і тагды каня ня зловіш), салóміна, травіна, фасóліна, хварасціна (Вазьму хварасціну, да як перацягну па спіне, то век будзеш помніць), цагліна.*

**-ота, -ата.** Назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць стан, уласцівасць, якасць з адценнем узмацняльнасці: *адзінóта, віднатá (Такая відната на вуліцы, а ты ўсе яшчэ спіш), глухатá (Глухата цяпер у сяле, уся маладзёж у горадзе жыве), гразнатá* — вялікая гразь, *красатá* — вялікая прыгажосць, *нудóта, пустатá, слюпатá* — вялікая слота, *смакатá* — вялікі смак, *сраматá* — вялікі сорам, *хрыпатá, цемнатá, цеснатá, чыстатá.*

**-ун.** 1. Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць асоб па дзеянню: *балбату́н, брахýн, буркýн, гаварýн, дзікýн, піскýн, рагатýн, скакýн, траскýн, хапýн (Свет ня бачыў яшчэ такого хапуна, усе ліш бы з рук, хапу-лапу і пабег па сяле), шаптýн, шчабятýн.*

2. Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць асоб або прадметы па іх асаблівых адзнаках: *бальшýн, вятрýн* — вятрак, *гладýн, прыгажýн.*

**-ішчэ- (-ышчэ).** 1. Назоўнікі ніякага роду, якія абазначаюць участкі зямлі, дзе раслі розныя культуры або стаялі гаспадарчыя пабудовы: *аўся́нішчэ* — поле, на якім рос авёс, *гумні́шчэ* — месца, дзе стаяла гумно, *жы́тнішчэ* — поле, на якім расло жыта, *ільня́нішчэ* — поле, на якім рос лён, *па́свішчэ* — поле, на якім пасуцца жывёлы, *ха́тнішчэ* — месца, дзе стаяла хата.

2. Назоўнікі ніякага роду з павелічальным значэннем: *барадзі́шчэ* — вялікая, густая барада, *гумні́шчэ* — вялікае, высокае, прасторнае гумно, *жары́шчэ* — вялікая жара, *касі́шчэ* — тоўстая, доўгая каса, *каўне́рышчэ* — доўгі, шырокі каўнер, *мужчы́нішчэ* — высокі, здаровы мужчына *(Як ідзе па вуліцы мужчынішчэ, любо глядзець), нажы́шчэ* — вялікі нож *(Гэтым нажышчам толькі кабаноў біць), насі́шчэ* — шырокі, доўгі, гарбаты нос, *сям'і́шчэ* — вялікая сям'я, *халадзі́шчэ* — вялікі холад.

**-ства.** Зборныя назоўнікі: *афіцэ́рства* — афіцэры *(Што гэто за афіцэрство прыехало к Ганне), кула́ство* — кулацтва, *нача́льство* — начальства, *па́нство* — паны *(Прыедзе панство ў сяло і нядзелю весяліцца), партыза́нство* — партызаны, *пато́мство* — патомкі, нашчадкі *(Добрэ калі вялікае патомство есь, як з'едзецца на празнік, уся хата гудзе), свінство* — свінні *(Надаело мне свінство за век, па п'яць мяшкоў мукі за год з'ядаюць), студэ́нство* — студэнты, *сусе́дство* — суседзі *(Такая любата Алене, у добрым суседстве яна жыве), сяля́нство* — сялянства, *тавары́ство* — таварышы, сябры *(Вот табе і таварыство, як бяда якая, дак яно ў кусты).*

**-іца-(-ыца).** 1. Назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць прадметы, а таксама часткі цела чалавека: *дайні́ца, паты́ліца, паясні́ца, рукаві́ца.*

2. Назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць жанчын па розных прыкметах: *дурніца, звóдніца, сплéтніца* — пляткарка, *сра́мніца* — пра бессаромную жанчыну, *хлапе́чніца* — пра дзяўчыну, якая водзіцца з хлопцамі.

**-ятко.** Назоўнікі ніякага роду з памяншальна-ласкальным адценнем, якія абазначаюць маладняк, жывёл і птушак: *буслянятко, жарабя́тко, качаня́тко, кураня́тко, парася́тко, птушаня́тко, цяля́тко, ягня́тко.*

**-эч-а, еч-а.** Назоўнікі жаночага роду з павелічальным значэннем: *гале́ча (Да вайны адна галеча ў сяле, а цяпер — любата людзям), пустэ́ча, скупе́ча* — пра скупога чалавека, *старэ́ча* — пра старога чалавека, *халадэ́ча*

*(Зімою халадэча на вуліцы, асобянно ў піліпаўку, маразы-траскуны да трыццаці градусаў даходзяць).*

**-ухн-о.** Назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць асоб чалавека ў зваротах да блізкіх, знаёмых: *дачýхно* — дачухна, *мáтухно* — матухна, *свякрýхно* — свякруха, *цётухно* — цётухна (тое ж і ва ўласных імёнах: *Вóлюхно, Дáр'юхно, Мáр'юхно* і інш.).

*В. І. Рагаўцоў*

# У ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

Змешчаны матэрыял з'яўляецца працягам працы «З лексікі стрэшынскіх гаворак»[1].

АРА'ВА *ж., экспр.* Шумлівы натоўп, чарада. *Зімой пасля школы дзеці аравай ходзюць на каток.*

БАТАРЭ'ЙКА *ж.* Ліхтарык. *Пасьвяці, сынок, батарэйкай, а то цёмна.*

ВО'КАМ НІ ЗГЛЯНУЦЬ. Хутка, імгненна. *Толькі ў хаці быў і ўжэ німа. Вокам ні згляніш, як выбяжыць.*

ВО'МЕГАМ ВЫЛЕЗЦІ. Вылезці бокам.

ВО'ПРАМЕЦЦЮ *прысл.* Нахрапам. *Ні пасьпеіш мух выгнаць, яны зноў вопрамецьцю ляцяць.*

ГА'ЛКА *ж.* Кавалак фаршыраванай рыбы. *Зь етай рыбы цэлаю міску галак наварыла.*

ГАННЯ', ГАЙНЯ' *ж.* Зграя. *Цэлая ганьня сабак сабралася, што і прайсці страшна.*

ГЛЫ'ЖКА *ж.* Камяк. *Так нідобра сібе чуствую, ні то глыжка ў горлі.*

ГУЛЮ'ЛЯ *м.* і *ж.* Гуляка. *От гулюля: толькі б і снавала па хатах.*

ДАБРА'ЧЫ *прым.* Добры. *Такі дабрачы хлеб, пацісьніш, дык аж дыша.*

ДАБРО'ТНЫ *прым.* Надта добры. *Дабротны ён чалавек, нічога ні скажыш.*

ДАБРЭ'ННЫ *прым.* Вельмі добры. *Дабрэнны Іванаў хлопяц: ніколі ні ў чым ні адкажа.*

ДАГАНЯ'ЦЬ *незак.* Папракаць, упікаць. *Ні столькі паможыш, колькі даганяіш.*

ДАГО'Н *м.* Папрок. *Я ні хачу твае помачы, ні хачу і дагону.*

---

[1] Жывое слова. Мінск, 1978.

ДО'СЮЛЬ *прысл.* Да гэтага часу, дасюль. *Нашы досюль даехалі: нешта ікаіцца.*

ДО'ТУЛЬ *прысл.* Дагэтуль. *Як дотуль дойдзіш — управа паверніш.*

ЗАКУ'СНІК *м.* Нелюдзень. *Выйшаў бы куды пагуляў, сядзіш як закусьнік.*

ЗАРО'ЖАК *м.* Затока. *Столькі ў етым зарожку было рыбы, а ціпер і ў вочы ні ўбачыш.*

ЗАТАРА'КАЦЦА *зак.* Заваждацца, запоркацца. *Затаракалася зь дзецьмі, чыгуны пагарэлі.*

ЗРУ'ГА *ж.* Здзек. *Узяў яе, бядиягу, на зругу. Слова жаласнага ні сказаў.*

КВАТЭ'РКА *ж.* Палова акна. *Адчыні, мой сын, кватэрку: так у хаці душна.*

КЕ'ЛЬНЯ *ж., экспр.* Келля, невялікі пакойчык. *Адгаравала ў етай кельні і глядзець на яе ні хочыцца.*

К НАЛЕ'ЦЦЮ. К наступнаму году. *К налецьцю як будзя здаровіцца, пасеім на тым пляцу бульбу.*

КО'СКАЯ *прым.* Трава, якая добра косіцца. *Такая трава коская сёлета ўрадзіла, да сьнеданьня дзялянку выкасіў.*

КУ'БЛІЦЦА *незак.* Круціцца на месцы, неспакойна сядзець. *Села дак сядзі, чо ты кублісься.*

ЛАВЕ'Ц *м.* Дубчык, на якім пякуць сала на агні. *Любіў я на лаўцу смажыць сала, смашная такоя, адно аб'ядзеньня.*

ЛАЙНІ'НА *ж.* Абрэзак, старое, патрапанае адзенне. *Я лягу і на палу, толькі дай мне якую-небудзь лайніну пад бок.*

ЛАХТУ'Й *м.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Да арміі быў што лахтуй, а ціпер ні пазнаць — вычысьціўся, люба глянуць.*

ЛО'ПАЦЕНЬ *м.* Лапатун. *Ох і лопацень: меля і ні суняць.*

ЛЯДО'ЎНЯ *ж.* Халоднае памяшканне. *Трэба хату шаляваць: топіш, топіш — і што лядоўня.*

МАСЁХА *м і ж.* Недарэка. *Ну й масёха: што ні возьмя, усё з рук падая.*

МА'СЛІЦЦА *незак., перан.* Валаводзіцца, цацкацца, няньчыцца. *Кінь ты зь йім масьліцца, дзелай сваё дзела.*

МАШЛІ'ВЫ *прым.* Дажджлівы, мокры (пра год). *Сяголета машлівы выпаў год, дак пагніла бульба ў лагчыні.*

МЕ′СЯЧКА *ж.* Месяц на небе. *Хай месячка ўзыйдзя, тады і пойдзям дамоў.*

НА′БРАЎКІ *мн.* Мяшкі пад вачамі. *Схадзі, мой сынок, да доктара, нешта ў цібе набраўкі падпухлі.*

НА′БРЫДЗЕНЬ *м.* Чужынец, чалавек з іншых мясцін. *Ета ні наш чалавек, нейкі набрыдзень.*

НЕ′ТРА *ж.* Незлічоная колькасць. *Грыбоў етым летам як ніколі: цэлая нетра.*

НЕЎМА КОЛЬКІ. Вельмі доўга, многа, *Неўма колькі дажджу ні было, усё сохня.*

НІ АЧАРНІЎ, НІ АБЯЛІЎ. Змоўчаў, не адазваўся. *Учора добра яго прабраў, а ён ні ачарніў, ні абяліў.*

НУДУ НУДЗІЦЬ. Сумаваць, пакутаваць. *Ідзі пагуляй, мая дзеўка, хопіць адной нуду нудзіць.*

НЯМТУ′Р *м.* Маўклівы чалавек. *Задаецца яна сваім сынам, ета ж нямтур ды і толькі таго.*

ПАДЦЕ′ННІЦА *ж.* Зацененае месца. *Хочыш, каб у нас бульбы было багата. У садзе падценьніца, а на полі мала пасеялі.*

ПАКУ′ШТАЦЬ *зак.* Пастукаць аб зубы яйцо, праверыць на моцнасць. *Пакуштаю яйцо, скажу, ці крэпкая.*

ПАЛАМА′ЦЦА З ЛЕНЯК. Абляніцца зусім, стаць адпетым лодарам. *Людзі сена панакашвалі, а ты і за касу ні ўзяўся, ты ўжэ зь леняк паламаўся.*

ПАПІРА′ХА *ж.* Кій. *Ні будзіш слухаць — дык зон папіраха, бачыш.*

ПАРГАБНЯ′ *ж.* Стрэшка над пограбам. *Прынясі, Петрык, малаток, на паргабне ляжыць.*

ПАТВО′РА *м.* і *ж.* Пястун. *Меньшы такі патвора, толькі і глядзіць, каб на рукі ўзяў.*

ПРЫБРУ′ШЫЦЦА *зак.* Дарвацца, з прагнасцю есці або піць. *Сьнедаць ні хоча. За дзень выбягаіцца, вечарам як прыбрушыцца есьці — толькі давай.*

ПРЫЗНУСЦІ′ЦЬ *зак.* Падманіць; прывабіць. *Такую дзеўку прызнусьціў, а браць ні хоча.*

ПРЫЛАДНЯ′ЦЦА *незак.* Прыстасоўвацца. *Ні будзіш да жонкі прыладняцца, жызьні ні будзя.*

ПРЫСНАСЦІ′ЦЦА *зак.* Прыладзіцца, прымасціцца. *Дзе б мне тут прыснасьціцца, а то ехаць шчэ доўга.*

ПУ′ТНЫ *прым.* Разумны, талковы. *Як бацькі путныя, дак і дзеці пуцёвыя.*

РАСХЛЯ′СТАНЫ *прым.* Расхрыстаны. *Такі вецяр, а ён расхлястаны ходзіць.*

РЫБА'ЛКА *м.* Рыбак. *Рыбалка ён вопытны, без рыбы ні прыяжджая.*

СЕ'ДЗЯНЬ *м.* Гультай, абібок. *Узяла етага седня, а ціпер гаруй. Нічога ні хоча дзелаць.*

СКЛАД *м.* Частка загона. *Адзін склад пусьцілі пад бульбу, а другі ячменям засеялі.*

СЦІ'ЖБА *ж.* Вялікая колькасць. *Ой, на вясельлі ж было людзей, сьціжба.*

ТАРНАВА'ЦЦА *незак.* Мардавацца. *Мой конь стаіць, тарнуіцца: мухі назаляюць. Натарнуісься за дзень за каровамі, сьвет ні міл.*

ТРУІ'ЦЬ *незак.* Вытраўляць. *Столькі мух разьвялося, а патруіць німа чым.*

УЗНЁХАЦЦА *зак.* Узбунтавацца, раз'юшыцца. *Чаго ты ўзьнёхаўся? Не спозьнімся, даедзім у горад.*

УШЫ'ЦЦА *зак., перан.* Знікнуць. *Ні пасьпеў і ў хату зайці, як яна ўшылася.*

ХО'ДНУЦЬ *зак.* Драпануць, даць цягу. *Ні залюбіла шутак, дак як ходнула — толькі і бачыў.*

ХРУ'ШЧЫК *м.* Коржык. *Мае дзеці так хрушчыкі любяць, ні наспаромісься пекці.*

ЧАСЦЕ'Й ДЫ'ХАННЯ. Вельмі часта. *Толькі і зная: то ў хату, то з хаты. Бегая часьцей дыханьня.*

ШПЫЛЬ *м.* Клінападобны ўчастак зямлі. *Такая трава ў етым шпылю, касы ні пацягнуць.*

ШУВЕ'ЙНЫ *прым.* Жвавы, борзды. *Малы такі шувейны быў, падрос — пацішэў.*

ЯДКІ' *прым.* Смачны (пра траву, сена). *Ядкая трава спорная, пакладзеш трохі карові, глядзіш, і пад'ела.*

*З. Ф. Краўчанка*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ГЛУХАВІЧЫ БРАГІНСКАГА РАЁНА

Змешчаныя ў артыкуле словы запісаны ў 1973 г. у час экспедыцыі па збору матэрыялаў для Лексічнага атласа беларускай мовы.

АБАПНУ'ЦЦА *зак.* Накінуць на плечы хустку. *Абапніся, ато холадна на вуліцы.*

АБРЭ'ЗЫ *мн.* Боты з абрэзанымі халявамі. *У Кліма ногі баляць, дак ён ходзіць у абрэзах і летам.*

АБУ'ВАК *м.* Абутак. *Абувак увесь парваўся, німа ў чым вуйсці з хаты.*

АКРА'ЙКА *ж.* Плецены ці тканы пояс.

АНІГА'ДКІ *прысл.* Хоць бы што, бесклапотна, бестурботна. *Укруціце ногі ў коўдру і будзеце сядзець сабе анігадкі.*

АПА'РА *ж.* Рошчына. *На апары пекуць бліны, каржы.*

АТУ'РАК *м.* Кароткія папярочныя барозны ў канцы загона, дзе пасеяна бульба. *Картоплі пагана ўзышлі на атурку.*

АЎСЯ'НКА *ж.* Аўсяная салома. *Купіў аўсянкі, будзе карова есці.*

АЦСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Аддзяліць цяля ад каровы. *Сегонні надаіла багата малака, ацсадзіла целя.*

АЧА'ПАЦЬ *зак.* Ачуняць пасля хваробы. *Цімох ужэ трохі ачапаў пасля хваробы, ходзіць па двару.*

БАРА'НЧЫК *м.* Падсмажанае зерне кукурузы. *Налушчы кіехоў, паджарым баранчыкаў.*

БАЎТУ'ШКА *ж.* Пойла для цялят. *Зрабі баўтушку і дасі целятку.*

БЕ'ЖКІ БЕ'ГЧЫ. Бягом бегчы. *Бежкі бегла, аж у серэдзіне забалела.*

БІ'КУСЫ *мн.* Падсмажанае свежае свіное сала з мясам. *Закалолі кабана, будам жарыць бікусы.*

БУКЕ'ТНІК *м.* Ваза для кветак. *Трэба паставіць цветы ў букетнік.*

ВАРЭ'ЙКА *ж.* Гліняны гаршок, у якім вараць боршч, суп. *Ганна купіла на базары дзешовую варэйку, не будзе больш пазычаць.*

ВАСЬМЕРЫ'К *м.* Лямпа васьмілінейная. *У васьмерык наллі карасіны.*

ВІТУ'ХА і ВІТУ'ШКА *ж.* Фасоля, якая ўецца. *У Ганны вітушка абвіла ўвесь плот, багата будзе квасолі.*

ВО'РАХ *м.* Куча. *Картоплі і буракі лежаць у вораху.*

ВЫ'КАТ *м.* Выраз у сукенцы. *Маша адзела плацце з велікім выкатам.*

ГУ'СКІ *мн.* Гарлачыкі. *На плёсі растуць белые і жоўтые гускі.*

ГУТАТА'ЦЦА *незак.* Гушкацца. *Коле гутатацца пачаў на качэлех.*

ДЗВЕНАЦЦАЦЕРЫ'К *м.* Лямпа дванаццацілінейная. *Засвеці дзвенаццацерык, у хаці будзе добра відна.*

ДЗЕТЛА'ВІК *м.* Дзяцеліна. *Гусі добра скубуць дзетлавік.*

ДУБО'ЎКА *ж.* Выдзеўбаная з калоды лодка. *Алесь выдаўбаў дубоўку, паплыве на плёса па траву.*

ДУРАСВЕ'Т *м.* Гарэза, свавольнік. *У Марынкі расце дурасвет, а не хлопец.*

ЁМАЧНІК *м.* Чапяльнік. *Паламаўся ёмачнік, трэба рабіць новы.*

ЖА'МКА *ж.* Мядовы пернік. *З ярмалкі ўсегда прывозіць бацька жамкі.*

ЖАЎТЛЯ'К, ЖАЎКЛЯ'К *м.* Насенны гурок. *Палажы жаўтлекі на акно, нехай даспеваюць.*

ЖЫ'ТКА, ЖЫ'ТЛА *ж.* Кепскае жыццё. *Ну і жытка ў мене була, нехай яна згарыць.*

ЗА'СТУП *м.* Жалезная рыдлёўка. *Заступ тупы, цяжка капаць гарод.*

ЗАШЭ'РХНУЦЬ *зак.* Пакрыцца тонкім лёдам. *К вечару копанка зашэрхла, мабуць, мароз будзе.*

ЗМУ'ЛКІ *мн.* Мыльная вада, у якой мылі бялізну, а таксама кускі, рэшткі мыла. *Калі памыеш беллё, то змулкі выллеш у разору.*

І'КАВІЦА *ж.* Ікаўка. *Напала на мене ікавіца, цэлы дзень ікаю.*

КАВЕ'ННІК *м.* Палка, на якую насаджана качарга. *Паламаўся кавеннік, нада зрабіць новы.*

КАЛАТУ'ХА *ж.* Гразкае месца ў балоце. *Не хадзі на балота, там калатуха, залезеш, дак і не вылезеш.*

КАМЕ'НЬЧЫК *м.* Костачка (у вішнях, слівах). *Мама зварыла вішнёвае варэнне, дак іе багата каменьчыкаў.*

КАНАПЛЯ'НКА *ж.* Невялікая баваўняная хустка. *Адзень канаплянку, ато ўжэ пахаладала.*

КАЎГА'НКА *ж.* Драўляная сальніца. *Насып у каўганку солі.*

КАЦЮ'ШКА *ж.* Шпуля.

КВАСО'ЎКА *ж.* Страва з круп і сушанай садавіны.

КВЕ'ЦАЦЬ *незак.* Пэцкаць. *Не квецай плацце.*

КЕБ *злучн.* Каб. *Кеб грошы булі, купіла б боцікі.*

КІ'ЦІЦА *ж.* Кутас у поясе. *У нас кутас у поясе называецца также кіціцай.*

КІ'ШКІ *мн.* Мязга ў гарбузе. *Выбрала зернеты ў гарбуза, а кішкі асталіся.*

КЛАДЫ' *мн.* Могілкі. *Кеб цебе на клады вынеслі.*

КЛЁКАЦЬ *незак.* Клекатаць (пра буслоў). *Буслы клёкаюць, мабуць, будзе дождж.*

КО'ЎБІК *м.* Свіны страўнік. *Начынілі коўбіка і павесілі на гару.*

КО'ЛКІ *прым.* Бадлівы (пра рагатую жывёлу). *У Машы колкая карова, не ідзі туды.*

КО'СЫ *мн.*, КАСІ'НА *ж.* Валасы. *Аброс касамі, трэба пастрыгці. Пацягнуў за косы і вурваў касіну.*

КУЁЎЦІЦЦА *незак.* Круціцца, варочацца. *Чаго ты куёўцісся, а не спіш. Не куёўдзь пасцель.*

КУБЛО' *м.* Гняздо ў птушак. *Куры ў хлеве пад мешком зрабілі кубло і там несуцца.*

КУ'КЛА *ж.* Сусла. *Разжоўваюць пячэнне, кладуць у марлю, робяць куклу і даюць ссаць дзіцяці.*

КУЛІ'ДКА *ж.* Круглая буханка аржанога хлеба. *Пазыч мне кулідку хлеба.*

КУРДУ'ПЕЛЬ *ж.* і *м.* Маленькі, недарослы чалавек. *У Пашы ўсе хлопцы курдуплі, німа росту на іх.*

КРАПІ'ЦЬ *незак.* Латаць, зашываць. *Трэба плацце крапіць, ато парваласе.*

КРУК *м.* Вочап у калодзежы. *Крук адарваўся, німа чым выцегнуць вады з калодзеся.*

КРУП'Я'НКА *ж.* Бульбяная каўбаса. *Ганна ўбіла кабана, будзе рабіць круп'янкі.*

КРЫВО'ТЛІВЫ *прым.* Зайздросны.

КРЫВЯ'НКА *ж.* Блін з мукі, крыві і крышанай цыбулі.

ЛАСКАВІ'К *м.* Мяшочак для адцэджвання тварагу.

ЛАША'ТКА *ж.* Жарабя.

ЛАШТА'Й *м.* Гультай. *Мане прынела сабе лаштая, нічога не хоча ён рабіць.*

ЛАШТА'ЙКА *ж.* Гультайка.

ЛЕ'СКА *ж.* Лесвіца. *Прынесі леску, трэба на гору залезці.*

ЛІСА'ВЫ *прым.* Ласкавы. *Лісавае целятка дзве маткі ссе, а гордае ні адной* (прыказка).

ЛУ'ПКА *ж.* Лупцоўка. *Бацька даў добрай лупкі за тое, што я его не паслухаў.*

ЛУШУПА'ЙКІ *мн.* Лупіны з бульбы. *У кашу лушупайкі, трэба даць карові.*

МАШЧЭ'Р *м.* Невялікая медная ступка. *У машчэры таўкуць мак.*

МАЦА'К *м.* Вельмі моцнае фарбаванае яйцо (калі фарбуюць на вялікдзень).

НАПЕ'РЫЧ *м.* Насыпка. *Наперыч парваўся, трэба рабіць новы.*

НАПУ'ГАЦЦА *зак.* Напіцца вадкасці празмерна. *Напугаўся вады халоднай, дак баліць глотка.*

НАРАСХЛЕ'СТ *прысл.* Расхлістана. *Міша кашляе, ходзіць у школу нарасхлест.*

НАСЦА'К *м.* Выспятак. *Мікола даў насцака сабаку.*

ПАДНО'С *м.* Корм (сена, лупіны, трава, буракі, бульба) для каровы перад даеннем. *У Ганны карову не падоіш без падносу.*

ПАДПА'ЛАК *м.* Скавароднік. *Уранні напекла падпалкаў і Клім паехаў у лес.*

ПАСЦЕКА'ЦЬ *зак.* Стаць кволым, тонкім (пра расліны). *Картоплі пасцекалі, зараслі зеллем.*

ПАТРА'ЎКА *ж.* Юшка са свежай і сушанай рыбы. *Купіла ўюной і зварыла патраўку.*

ПАЦЕГА'НКА *ж.* Кажух, пакрыты тканінай. *Зрабілі новую пацеганку, зверху пакрыта чорным кортам.*

ПЕЛЮШО'К *м.* Варэнік без начынкі. *Калі не хапае сыру, дак мы робім пелюшкі.*

ПЕРАКРЭ'СНІЦА *ж.* Скрыжаванне дарог. *Электрычаства гарыць толькі на перакрэсніцы.*

ПЕРВА'ЧКА *ж.* Карова з першым цялём. *Малака мала, у мене карова-первачка.*

ПЕРЭ′ДАЙКА *ж.* Карова, якая не цялілася, а доіцца другі год узапар. *У Ганны карова перэдайка, дае малака мала.*

ПЕ′ТЛАХІ *мн., экспр.* Недагледжаныя валасы. *Петлахі ў цебе выраслі, трэба астрыгці.*

ПЕЧАЯ′ *ж.* Пякотка. *Сегодні ў мене печая печэ.*

ПЛЮ′ШНІК *м.* Аер. *На балоце расце плюшнік.*

ПО′РАЦЦА *незак.* Спраўляцца з хатнімі справамі, даглядаць сваю жывёлу. *Ужэ вечар, трэба іці пораццa, ато карова рыкае і крычаць парасята.*

ПО′ЦЕГ *м.* Раменная папруга. *Калі не будзеш слухаць, то дам поцегу.*

ПРАВІ′НКА *ж.* Правіннасць. *Маці ўзелася за вілачнік, кеб адлупцаваць за правінку.*

ПРАНЦАВА′ТЫ *прым.* Непаслухмяны. *У Еўхіма такі ж пранцаваты Валодзя, не слухае нікога.*

ПРАСТАРЭ′КВАЦЬ *незак.* Разважаць. *Ён не хоча работаць, а ўсё прастарэквае.*

ПРАЎЦАКО′М *прысл.* Дыбам. *Калі я чытаў Гогаля, то косы праўцаком паўсталі.*

ПРА′НЕЦ *м.* Паганае, непаслухмянае дзіця. *У его поўная хата пранцаў, не слухаюць ні матку, ні бацьку.*

ПУПО′НЬЧЫК *м.* Завязь у агурках. *Націна маленькая, а пупоньчыкаў ужэ багата.*

ПУ′ШКА *ж.* Каробачка (з-пад ваксы, халвы, пудры і інш.). *Алеська вукінула ваксу з пушкі і стала гуляць у класа.*

ПЧА′ЙКА *ж.* Страказа. *Пчайкі ўжэ седзяць на цветах.*

САЛЯ′НКА *ж.* Сальніца. *Насып солі ў салянку.*

СЕДУ′ШКА *ж.* Фасоля, якая не ўецца. *Пасеяла седушкі ў гародзе, яна добра родзіць.*

СЕЛЬНІ′К *м.* 1. Сяннік. *Трэба новай саломай напхаць сельнік, у старым ужэ адна труха.* 2. Адгароджанае ў хляве месца, дзе ляжыць сена. *У сельніку мала засталося сена.*

СЕ′ПАЦЬ *незак.* Хутка нешта рабіць ці падымаць не пад сілу. *Не сепай, а то падарвессе.*

СЕРПАРЭ′З *м.* Крываўнік. *Калі парэжаш руку, то трэба прыкладваць серпарэз, не будзе іццi кроў.*

СКВАРО′К *м.* Скварка. *На скавародцы засталіся толькі скваркі.*

СЛА′БКА *прысл.* Свабодна (пра абутак).

СЛАКАТА'ЦЬ *незак.* Казытаць. *Калі слакочуць дзіця, ено смяецца.*

СТАЎПЕ'Ц *м.* Брусок у граблях.

СЫР *м.* Тварог. *Калі паставім у печ кіслае малако, то ено аттопіцца і палучаецца сыр.*

СЫРО'ВАДКА *ж.* Страва з круп і сыроваткі (несалёная). *Параска дала мне кіехоў, звару заўтра сыровадку.*

ТА'ЙКА *ж.* Сяброўка (у звароце). *Ах, тайка мая, я ж табе казала аб ім.*

ТАПТО'НІКІ *мн.* Бульбяная каша. *Я зрабіла сегонні таптонікі, ідзі паспутай.*

ТОК *м.* Растоплены тлушч. *Падсмажыла сала і багата току на скавародцы.*

ТО'ЧНЫ *прым.* Тлусты (пра сала). *Сала вельмі точнае, усё расплылося на скаварадзе, мабуць, німа і скваркоў.*

ТУМА'К *м.* Удар. *Надаваў ему тумакоў, дак плача.*

ТУШО'НІКІ *мн.* Тушаная бульба. *Накрышыла картоплі, наліла сала і паставіла ў чыгунку тушыць у печ, тушонікі будуць.*

ТЫ'ЖДЗЕНЬ *ж.* Тыдзень. *За тыждзень акучыла картоплі.*

УГАМО'Н *м.* Стрыманасць. *Німа на цебе ўгамону.*

УНЁ *часц.* Для выказвання здзіўлення. *Унё, ена прыйшла ў школу, ена ж ішчэ бальная.*

ХА'ЎКАЦЬ *незак.* Ледзь дыхаць. *Каценя ледзьві хаўкае, Васька ўдарыў насцаком.*

ХРА'ПА *ж.* Груда.

ХРУ'ШЧЫК *м.* Печыва. *Заўтра празнік, я напекла хрушчыкаў на алею, вельмі смачныя.*

ЧАЛАВЕ'К *м.* Муж. *У Тасі добры чалавек папаўся, што хоча, тое і робіць ена.*

ЧО'БАТЫ *мн.* Боты з высокімі халявамі.

ЧУ'ЙКА *ж.* Доўгая верхняя мужчынская вопратка без падкладкі з даматканага сукна. *Коле адзеў чуйку і паехаў у лес.*

ШАЛУПА'ЙКІ *мн.* Лупіны з бульбы. *Шалупайкі дала целіцы, дак не есьць.*

ШЛЁГАЦЬ *незак.* Біць пугай. *Не шлёгай каня, ён і так добра бежыць.*

ШПА'РЫЦЬ *незак.* Хутка ісці. *Іван жыве ў Глухавічах, дык шпарыць з работы скора.*

*А. П. Гуцо*

## З ЛЕКСІКІ РОЗНЫХ МЕСЦ БЕЛАРУСІ

Большасць з прыведзеных ніжэй слоў запісана ў роднай вёсцы Пішчыкі і Ваўкала́кава Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. У падборку ўключаны рэгіяналізмы з іншых месц Беларусі са студэнцкіх запісаў: вв. Валейкавічы Смаргонскага (студэнтка Мазалітава І. Н.), Галенчыцы Івацэвіцкага (студэнтка Макарэвіч Г. В.), Жупраны Ашмянскага (студэнтка Разумнік Т. А.), Замошша Браслаўскага (студэнтка Ананіч Л. В.), Івацэвічы Вілейскага (студэнтка Жукавень Ж. А.) і Матрункі Мазырскага раёнаў (студэнтка Шумак Г. С.), а таксама зафіксаваныя студэнтамі асобныя словы ў вв. Агароднікі, Гаркаўшчына Свіслацкага, Беразова, Вялікія Дольцы Ушацкага, Гошчава Івацэвіцкага, Ганчароўка Смалявіцкага, Гарадзец, Чаплін Гомельскага, Дзешчанка, Целякова Уздзенскага, Драбаўшчына Клецкага, Дукоршчына, Зарэчча Нясвіжскага, Карпілаўка Чэрвеньскага, Жгунская Буда Добрушскага, Залужжа Старадарожскага, Замасточча Магілёўскага, Калазубы Пружанскага, Камарын Брагінскага, Клачкова Маладзечанскага, Крывічы, Пліса Глыбоцкага, Малы Малешаў Жыткавіцкага, Міхалін Чэрыкаўскага, Пераналочня Клімавіцкага, Прыбарава Брэсцкага, Таліца Слуцкага і Цімохаўка Горацкага раёнаў.

АЗЯ'ЦЬ *зак.* Узяць. Замошша.

АКРЫ'ЦЦА *зак.* Надзецца, адзецца. *Галя, не хадзі голая, акрыйся сукенкай.* Зарэчча.

АПО'КА *м.* і *ж.* Лотра, гультай, гультайка. *Ні ляжы, як апока, схадзі хоць дроў унясі.* Пішчыкі.

АТАМА'ЛКА *ж.* Ануча, якой бяруць з печы чыгуны. Замошша.

АША'ТАЦЦА *зак.* Прыбрацца, упарадкаваць хатнія

справы, закончыць догляд за скацінай. *Не паспела ашатацца, як стала цёмна.* Валейкавічы.

БА'БКІ *мн.* Сцяблы шчаўя. *Шчавель пайшоў у бабкі.* Залужжа.

БАНЯ'К *м.* Гаршчок. Зарэчча.

БА'РЫЦЦА *незак.* Затрымліваццца. *Ідзіце да дзядзькі, але не барыцесь доўга там.* Чаплін.

БУ'НДАЧКА *ж.* Нацельная сарочка. *Маці сама вышывала гэту бундачку.* В. Дольцы.

ВЕ'ЯНКА *ж.* Вейка ў воку. Агароднікі.

ВО'РАК *м.* Мех, мяшок. *Прынёс поўны ворак бульбы.* Жупраны.

ВУШНЯ'К *м.* Вугал будынка. *Ад сырасці вушняк прагніў.* Камарын.

ВЯШШО' *зборн.* Нарыхтаваныя летам бярозавыя ці дубовыя галінкі, з якіх зімой вяжуць венікі. *Пашлі ў вяшшо, січас нарежым, а пувізаць можна будзіць і зімой.* Пішчыкі.

ГАВІ'ЦЫ *мн.* Рабочыя рукавіцы. *Міша, вазьмі гавіцы, да пайшлі дроў нарэжам.* Галенчыцы.

ГАРА'ПНІК *м.* Арапнік, пуга. *Забыў гарапнік, нечым падганяць каня.* М. Малешаў.

ГАРШЧЭ'СНІК *м.* Вілкі, якімі дастаюць з печы чыгуны. Зарэчча.

ГНУ'ШКА *ж.* 1. Дошчачка, на якой рэжуць хлеб. *Вазьмі гнушку, нарэж хлеба.* Дзешчанка, Матрункі. 2. Падстаўка пад скавараду. *Гнушка от скавароды запэцкалася.* Клачкова.

ГРЭ'ЙЗАЦЬ *незак.* Крэсліць, крэмзаць. *Нягоднікі, што вы тут грэйзаеце на платах.* Валейкавічы.

ГРЯЗНО' *н.* Корч цыбулі. *Ідзі вырві грязно цыбулі, нада пыдсмажыць з салым ны затыўку.* Пішчыкі.

ГУКА'ЦЬ *незак.* Размаўляць. *Пра што гэты яны гукаюць.* Крывічы.

ГЭ'БЛЯ *ж.* Лаўка. *У суботу ў хатах чыста мылі падлогу і гэблі.* Ганчароўка.

ДЖЭ'ГЕЛЬ *м.* Рубель. Таліца.

ДРАБА'Ч *м.* Венік з нарыхтаванага летам вецця. *Зімой дзед вязаў новыя драбачы.* Івацэвічы.

ДРУ'ЦА *ж.* Ячныя крупы. Івацэвічы.

ДРУЦЯ'НЫ *прым.* З ячных круп. *Звары на абед друцяную кашу.* Івацэвічы.

ДРЫГВА' *ж.* Студзень, халадзец. Галенчыцы.

ДУ'ЙКА *ж.* Завея, завіруха. *У нашых містах і ў марці бываюць такія дуйкі, што з сідзячыга сыбаку снегу нывіваіць.* Пішчыкі.

ЖАРО'НЦЫ *мн.* Каменьчыкі ў страўніку птушак. Замошша.

ЗА'ПІНКА *ж.* Фіранка. *У яе на ўсіх вокнах вісяць новыя запінкі.* М. Малешаў.

ЗАХО'ДАК *м.* Кладоўка. *Схадзі ў заходак і прынясі мукі.* М. Малешаў.

ЗАДНЕ'ПІР'Я *н.* Задняпроўе. *У Заднепір'і харошый зямлі німа, лясы ды балоты.* Пішчыкі.

ЗА'ШЧЫКІ *мн.* Уколы. *Зараз прыдзе дакторка зашчыкі даваць.* Валейкавічы.

ЗМЯ'НЫ *мн.* Убыванне месяца да палавіны. *Выдумалі, што калі на змяны пойдзе дождж, то патом цэлы тыдзень ужо ліць будзе, а рэдка гэта спраўдзіцца.* Агароднікі.

КАВАРО'ТКА *ж.* Калаўрот. Гошчава.

КАЗАЯ'ТКА *ж.* Куртка. Замошша.

КАМАКІ' *мн.* Камы. *Мама, давай зварым бульбы і зробім камакі.* Залужжа.

КАМІНЯ', КАМЯНЯ' *ж.* Качарга. *Памішай камінёй у печы ды зачыні юшку.* Замасточча. *Камяня служыць для заграбання жару.* Калазубы.

КА'ТАНКА *ж.* Блузка. *Гэтая шаўковая катанка была ёй вельмі да твару.* Карпілаўка.

КАШКЕ'Т *м.* Шапка. *Падай мне кашкет.* В. Дольцы.

КЛАДЗІ'ШЧА *н.* Могілкі. Пішчыкі.

КО'ПКА *ж.* Пячурка. М. Малешаў.

КРЫШАНЫ' *мн.* Суп з крышанай бульбы. *На абед былі крышаны з мясам.* Калазубы.

КУЛА'ГА *ж.* Страва з перацёртых сухіх груш і крухмалу. *Бабка ведала, што кулага прысмака для ўнукаў.* Матрункі.

КУЛЁК *м.* Пінжак. *Дзе мой кулёк, там у кармане папяросы.* Беразова.

КЫНА'Ў *м.* Канава. *Кынаў унізу лазой аплітали, каб ні зыплываў.* Пішчыкі.

ЛАДАВА'ЦЬ *незак.* Рамантаваць, напраўляць. *Трэба чуні ладаваць, што расклеяліся.* Жупраны.

ЛАЗБЕ'НІК *м.* Каробка, з якой ходзяць у лес па ягады. Залужжа.

ЛА'ТКА *ж.* Талерка. *Насыпала поўную латку ягад.* Пераналочня.

ЛЫГМА'НІЦЬ *незак.* Маніць, дурыць, абдурваць. *Ён хацеў мяне лыгманіць, але не вышла.* Калазубы.

ЛЯЖА'ЙКА *ж.* Ляжанка. *Трэба выпаліць ляжайку, бо холадна ў хаце.* Дзешчанка.

ЛЯПІ'ТА *м.* Пячнік. *Трэба пазваць ляпіту ды новую печ зрабіць.* Замасточча.

МЫКРЯ'ДЗЬ *ж.* Балота, амшара, мокрае месца ля вытокаў рэчкі. *Ны мыкрядзі асаку па вадзе вечна касілі і ны быране выцягывалі.* Пішчыкі.

НАВЕЛІЧКІ' *прысл.* Увысь. *Уся цыбуля навелічкі парасла.* Цялякова.

НАДЗЯВА'ННЕ *н.* Страва з дробна пакрышаных бліноў і падсмажанай гусінай пячонкі. *Надзяванне такое смачнае, як ніколі.* Дзешчанка.

НА'ЧА *злучн.* Нібы. *Ходзіць яна нача пава.* Камарын.

НІПЕ'ЎНЫ *прым.* Кволы, хваравіты. *Нейкі ніпеўны чалавек папаўся маёй дацэ.* Замасточча.

НЯКДЭ'БА *м.* і *ж.* Няўмека. *Растуць іх дзеці някдэбамі.* Чаплін.

НЯХЭ'ЦКІ *прым.* Неблагі, нядрэнны. *Няхэцкая дзяўчына расце ў цябе, суседка.* Валейкавічы.

ПА'ЗАЛКА *ж.* Мыльная вада. Астроўкі.

ПАЛА'ТКІ *мн.* Месца пад страхой, дзе ляжыць сена. *К вясне палаткі апусцелі.* Матрункі.

ПЛУ'ШКІ *мн.* Неачышчаная звараная бульба. *Сёння на абед мы зварылі плушкі.* Залужжа.

ПАМАСНІ'ЦА *ж.* Дошка ў падлозе. *Памасніцы рыпелі пад нагамі.* Прыборава.

ПАПАХА'ЦЬ *зак.* Падмесці. *Маці прыказала дачцэ папахаць падлогу.* Замошша.

ПАПО'РАЦЦА *зак.* Справіцца па гаспадарцы. Камарын.

ПАРЦЮ'ШКА *ж.* Спадніца. *Надзень новую парцюшку, бо прыдуць госьці.* Міхалін.

ПАСЯ'К *м.* Паласатае пакрывала на ложак. *Мне лепш наравяцца пасякі, чым дываны.* Агароднікі.

ПЕРАДО'К *м.* Маленькая табурэтка. Міхалін.

ПЛЮ'ШКА *ж.* Перамёрзлая ў зямлі бульбіна. *У вайну сыбіралі плюшкі і пяклі з іх бліны.* Пішчыкі.

ПО'ЦЯСЬ *ж.* Прасніца. Гошчава.

ПО′ЎЛІТКА *ж.* Уха. *Ох і смачныя ж поўлітка была.* Драбаўшчына.

ПРА′ЧКА *ж.* Шырокая ступня. *На тваe прачкі ніколі не падбярэш абутак.* В. Дольцы.

ПРЫ′ВЕНЬ *м.* Сенцы. *Прывень быў халодны.* Івацэвічы.

ПУКІ′ *мн.* Адросткі пер'я ў птушак пасля ліньκі. Замошша.

ПЫВІРА′К *м.* Завостраная палачка для пляцення лапцей. *Пывірак зыціряўся, нада новый здзелыць.* Пішчыкі.

ПЫЙДА′ЦЬ *незак.* Пад'есці. *Дзеці пыйдалі і пабеглі гуляць.* Пішчыкі.

ПЫМАЗО′К *м.* Падмазка. *Пымазок кошка сцягнула. Што ты сянні смяешся, ці пымазок з'еў?* Пішчыкі.

ПЯХЦЕ′РЬ *м.* Вяровачная сетка, у якую кладуць сена, калі едуць у дарогу. *За ноч конь цэлый пяхцерь сена з'еў.* Пішчыкі, Ваўкалакава.

РІЧА′ДЗЬ *ж.* Месца ля вытокаў рэчкі, якое залівaецца вадой у час паводкі. *Ны річадзі атава вырасла па шчыкалатку.* Пішчыкі.

РЫСКЫРА′Ч *м.* Трапкач. *Рыскырач, у яго ўвязывалі гаршкі, як насілі ў поля палудныввыць. Атрізаліся канцы асновы, пылатно рызрізалыся ны чатыры часці і сшывалася, а ніткі зыпліталіся.* Пішчыкі.

РЭ′ДКІЯ *мн.* Бульбяны суп. *Трэба рэдкіх наварыць.* Замасточча.

РЭ′ЧЧЫКІ *мн.* Бульбяны суп. *Мама вельмі добра прыгатавала рэччыкі.* Гошчава.

САРАПЕ′НЯ *ж.* Сыракваша. *Дай мне сарапені.* Цімохаўка.

САРДА′ЧАК *м.* Адзежына для дзяцей. Надзяецца пад бялізну і шыецца без рукавоў з цёплай, мяккай, пераважна фланелевай тканіны. *Ну і файны сардачак сшыла яе баба.* Агароднікі.

СВІНІ′НЕЦ *м.* Хлеў для свіней. *Зачыні свінінец, бо свінні ўсе паўцякаюць.* Гошчава.

СЕКА′НКА *ж.* Локшыны. *На абед была прыгатавана секанка з мясам.* Ваўкалакава.

СІ′ВІР *м.* Халодны, пераважна паўночны вецер. *Сівір падуў, к вечыру пыдмарозіць.* Пішчыкі.

СІ′ВІРНА *прысл.* Халодна, золка. *Сянні так сівірна, хоць іспоткі ныдзівай.* Пішчыкі.

СКАЛО′ЦІНЫ *мн.* Маслёнка. *Масла збіла, а скалоціны выліла пырысятам.* Пішчыкі.

СКА′НЦЫ *мн.* Бліны, начыненыя тварагом. *На снядaнак сягодня будуць сканцы і чай.* Замошша.

СКІПА′ЦЬ *незак.* Шчапаць. *Лучыну нада нажом скіпаць.* Пішчыкі.

СО′ПУХ: СУШЫЦЬ НАД СОПУХАМ. Сушыць над чалеснікамі печы пры зачыненай юшцы. *Павесь на шосцік, над сопухам быстра высыхніць.* Пішчыкі.

СТАЖА′РКА *ж.* Збудаванне з чатырох слупоў і пад'ёмнай стрэшкай для складвання сена. *Бацька пайшоў у стажарку за сенам.* Замошша.

СТАЎБУ′Н *м.* 1. Збан для малака. *Налій стаўбун малака.* М. Дольцы. 2. Кветканоснае сцябло цыбулі. *Цыбуля пайшла ў стаўбун.* Жупраны.

СТОЎБ *м.* Кветканоснае сцябло буракоў. *Буракі ў стоўб пайшлі.* Гошчава.

СТРЭ′ЛКА *ж.* Кветканоснае сцябло цыбулі. *Цыбуля пайшла ў стрэлкі.* Дзешчанка. *Амаль уся цыбуля пайшла ў стрэлкі.* Матрункі.

СЦЮ′ДЗІНЬ *м.* Студзень, халадзец. *Такі сцюдзінь удаўся, луччы ні прідумыйіш.* Пішчыкі.

ТАМЛЁНКА *ж.* Тушаная бульба. *Еш тамлёнку, смашная ўдалася.* Жгунская Буда.

УЖА′ЛІЦЦА *зак.* Утушыцца. *Яшчэ рана абедаць, бульба ні паспела ўжаліцца.* Пішчыкі.

УЖАЛЕ′ЦЬ *зак.* Утушыцца. *Бульба ўжо ўжалела.* Пішчыкі.

УЗРЕ′Х *м.* Агрэх. *Плоха ўзыраў, адны ўзрехі.* Пішчыкі.

УМЯ′ГНУЦЬ *зак.* Выкіпець, утушыцца. *У печы бульба хутка ўмягла.* Дукоршчына.

УСМЯ′ГНУЦЬ *зак.* Выкіпець, утушыцца, запячыся. *Ня лі ў бульбу многа вады, быстрэй усьмягніць.* Пішчыкі.

ХУ′РТЫВІНА *ж.* Завея, завіруха. *Усхвацілася такая хуртывіна, свету ні відаць.* Пішчыкі.

ЦА′ЛКІ *мн.* Звараная цэлая бульба. Пераваночня.

ЦУ′БІКІ *мн.* Перамёрзлая ў зямлі бульба. *У дні галадоўкі вясной сабіралі цубікі.* Залужжа.

ЦЯЦІ′ЎКА *ж.* Корч бульбы. *Выкыпаў пяць цяцівак і поўнае вядро бульбы ныкыпаў.* Пішчыкі.

ЧАРЁПКА *ж.* Глыбокая гліняная міска. *Надзелала*

*поўную чарёпку ватрушак і заліла іх таплёным маслам.* Пішчыкі.

ЧАРО′БКА *ж.* Гліняная пасудзіна, у якой труць мак; макацёр. Пішчыкі.

ЧО′ТКА *ж.* Участак. *Чотку далі далёка, пайду рана касіць.* Пераралочня.

ШВЭ′ПЛА *ж.* Неахайны чалавек. *У цябе вельмі непрыстойны від, ходзіш, як швэпла.* Валейкавічы.

ШКІЛЁНДРА *ж.* Вараная страва з крывяной каўбасы і грэцкіх, рысавых, ячных круп ці цёртай бульбы. *Шкілёндра з цёртай бульбай смачнейшая, чым з крупамі.* Агароднікі.

ШПЭ′ЎДАЦЦА *незак.* Швэндацца. *Нечага без справы шпэўдацца, вазьмі зэдлік і садзіся бульбу чысціць.* Пліса.

ШЫ′БЕР *м.* Адтуліна ў дымаходзе, якая закрываецца юшкай. Замошша.

ШЫРЯ′К *м.* Паўпаліто з даматканага сукна. *Глядзі, у яго новый шыряк.* Пішчыкі.

ЯНЧЭНЯ′ *ж.* Глухое, небяспечнае месца на балоце. *Трэбо на янчэня пад'ехаць, там, кажуць, ягад ціпер много.* Гаркаўшчына.

# Тэматычныя падборкі слоў

*І. І. Лучыц-Федарэц*

## ХАРАКТЭРНАЕ СУФІКСАЛЬНАЕ СЛОВАЎТВАРЭННЕ АДНОЙ ДРАГІЧЫНСКАЙ ГАВОРКІ

Фарміраванне іменнага словаўтварэння ў гаворцы вёскі Акропна, як і кожнай іншай славянскай гаворкі, праходзіла ў двух напрамках — адміранні старых агульнаславянскіх спосабаў словатвору і развіцці новых тэндэнцый, узнікненні новых мадэлей. У гэтым можна пераканацца, калі параўнаць колькасць словаўтваральных тыпаў праславянскай мовы і гаворкі. За аснову параўнання мы ўзялі набор іменных суфіксальных фармантаў праславянскай мовы, складзены Ф. Слаўскім для «Праславянскага слоўніка» [1], якіх налічваецца амаль 200. У гаворцы в. Акропна маецца 134 адпаведнікі, а 45 суфіксаў з гэтага ліку — найбольш прадуктыўныя (утвараюць па 4 і больш слоў). Малапрадуктыўныя тыпы прадстаўлены 1—3 лексемамі.

Некаторыя з вызначаных Ф. Слаўскім суфіксаў, прадуктыўныя ў праславянскай мове, у гаворцы в. Акропна зусім не ўжываюцца, а значэнне іх перадаецца іншымі словаўтваральнымі мадэлямі. У першую чаргу гэта датычыцца мадэлей з абстрактнымі значэннямі. Характэрным для абстрактных назваў з'яўляецца пераход у канкрэтныя формы, таму што канкрэтнасць — гэта першая ступень, першая форма праяўлення абстрактнага. Так, калі носьбіты гаворкі ўжываюць абстрактныя словы, напр. *псóта* 'капрызны', *поночóта* 'цемра, цемната', *жэ̂зня* 'жыццё', *чудéсія* 'дзівацтва', дык за кожным з іх відаць канкрэтныя з'явы, праяўленні, канкрэтны адрэзак часу. Таму многія абстрактныя назвы невядомы ў гавор-

[1] Sławski F. Zarys słowotwórstwa prasłowiańskiego.—Słownik prasłowiański, t. 1, 2. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1974, 1976.

цы, а замест іх ужываюцца словазлучэнні накшталт *сэ́вэ косэ* (замест *sědina), ліцо́ не́ке жо́ўтэ* (замест *žļ'tizna lica)* і інш. або суфіксы *abstracta collectiva* замяняюцца формамі множнага ліку: *babьje* (рус. *баб'ё) — бабэ́.* Старыя лексемы «абнаўляюцца» «хадавымі» суфіксамі: *gornъ — горно́, kostъ — космáк, mlinъ — млынэ́ц, vepr'ь — выпру́к, věnъ — выно́к, četerъ — чымырэ́ца, pečura — пычу́рка, kusъ — кусо́к, sitъ — сэ́тняк, lata—ла́тка, nitь — нэ́тка;* знікаюць некаторыя значэнні суфіксаў, у выніку чаго могуць узнікаць апісальныя формы: *govędina — воло́вэ мне́со, telętina — тыле́чэ мне́со* або слова атрымлівае новы суфікс, характэрны для дадзенай мадэлі: *koltьn'a — колотнэ́ча, piloviny — пыловэ́ньне, nozdr'a* (адз. л.) — *ны́здра* (мн. л.), *ны́здрына* (адз. л.), *sk'elь — шчылю́бына, tŗpežь — тырпі́ньне, soldina — солод, kǫdelь — кудэ́ля, nosidlo — насэ́лыцэ, носэ́лкэ, bylь — быва́льшчына, dьlnota — до́вжа, gladyšь — гладэ́шка, běga — бэ́гля* 'бягучы, бягун', *dętsna — е́сла, ožegъ (<o-geg-) — го́жуў* 'вожаг'.

Замест некаторых абстрактных слоў у гаворцы ўжываецца асабовая дзеяслоўная форма: *dělitьba — ...(і сталэ) дылэтыся.../діляцца* і да т. п. Значную групу складаюць назоўнікі з «нулявым» суфіксам з абстрактным значэннем: *нэз, нуд, знуд, шых, жмух, прызіл, мыч, клыі* (мн. л. ад *клей), одур, дорож, добір, скон, свірб.* Да іх прымыкаюць назоўнікі жаночага роду з суф. *-а(-ja): до́ма, зада́ва, зга́ра, ро́шча, ну́джа, на́джа, рыза́* і інш.

Найбольш характэрнымі абстрактнымі суфіксамі назоўнікаў у гаворцы можна лічыць наступныя: *-от: гру́кот, ло́пот, бры́скот; -ота: врыдо́та, гыдо́та, поночо́та, псо́та, порожно́та, поснота́, воркота́; -шчі: ныдба́йлошчі* 'нядбайства', *хэ́трошчі́, дурошчі́, модрошчі́, любошчі́; -не (-ня): відныне́, мутне́, гарачыне́, ходне́; -ля: ке́сля, ку́пля, піскля, га́рля, домі́ўля, годы́ўля; -нэна: біганэ́на, штурханэ́на, стрылянэ́на; -эча: голотэ́ча, нытэ́ча, мокротэ́ча, колотнэ́ча, холоднэ́ча, помырэ́ча; -цыя, -сія: стыдо́цыя, выстрахо́цыя, страмо́цыя, чуда́сія/чуде́сія; -тьте: горатьте́, полотьте́, выстрахі́тьте, мызыро́тьте, колотьте́; -ньне: косі́ньне, годова́ньне, спаньне́* і інш.

Абстрактнае значэнне ўласціва ў нейкай меры і экспрэсіўным назоўнікам. Найбольш пашыраныя ў гаворцы

экспрэсіўныя суфіксы (*-ско, -зно, -да, -де* і інш.) ужо разглядаліся намі ў папярэднім выпуску дыялектнай лексікі[2], адкуль часткова былі ўзяты прыклады пададзеныя вышэй. У прыкладах таксама выкарыстоўвалася падборка лексікі з суседняй вёскі Сіманавічы[3].

Ніжэй падаецца лексіка з вёсак Акропна і Сычы, запісаная ад маёй маці Алены Тарасаўны Лучыц-Федарэц (1909 г. н.). Фанетычна лексіка в. Сычы перадаецца таксама, як і акропленская (г. зн. не адзначана істотнае адрозненне вымаўлення шырокага *а* (Сычы)): *мад, дань, ца́рква, да* 'дзе' замест *мэд, дэнь, цэ́рква, дэ* (Акропна). Закрытае *о* перадаецца як *о* або *у, і* пасля папярэдняга цвёрдага зычнага гука — як *ы* або як *і*.

БАШЛА′К *м.* Башлык, капюшон. *Зымою бурка з башлаком у дорозэ заўшэ прыдасца.*

БЖЫЧЕ′ТЭ *незак.* Бзыкаць. *Спатэ ны можу, бо гэтэ мухэ бжычеть каля самого вуха.*

БЗЭ′КАТЭ *незак.* 1. Узбудзіцца ў час спёкі і аваднёў (аб карове). 2. Раптоўна раззлавацца. *Наш Генік бзэкнэ, бухнэ, ек запалок, алэ ж і хутко одходыть.*

БІ′ДКА *ж.* Кій з жалезным наканечнікам, якім паганялі валоў. *Бідкію вола штэрхалэ, або і плуга очышчелэ, ек зымне налэпнэ.*

БОМБЭ′ЛЫК *м.* Кутас на вупражы (аздоба). *У хорошого господаре кіньска збруя була з бомбэлыкамэ на набэдрыках.*

БУБОНІ′ТЭ *незак.* Моцна і доўга гаварыць. *Ек станэ говорэтэ, то бубонэть і бубонэть, і ныхто йийі ны пырыб'е.*

БУ′РКА *ж.* Суконнае паліто з капюшонам.

БУХТО′ВЫНА *ж.* Гразкае месца на сенажаці, балоце. *У бухтовынэ одна муля чырвона з водою,— трудно будэ проіхатэ.*

БЫЧЕ′ЛНО *н.* Пугаўё. *Колэсь, ек воламэ горалэ, то плуга очышчелэ бідкію, а зарэ бычелном.*

ВОЛО′КЕ *мн.* Зламаныя, але не зжатыя сцябліны жыта, пшаніцы. *Вона так жнэ, шо за ею волокэ смэчуцца.*

---

[2] Народная лексіка. Мінск, 1977, с. 224.

[3] Клімчук Ф. Д. Специфическая лексика Дрогичинского Полесья.— Лексика Полесья. М., 1968, с. 20—78; яго ж: З лексікі цэнтральнага Загароддзя.— З народнага слоўніка. Мінск, 1975, с. 135—153.

ВОРКОТА′ *ж.* Жаль, нуда. *Ек нічого найдэ воркота з досадэ, то седу і поплачу крохэ собі.*

ВСПОМОГА′НЬНЕ *н.* Дапамога. *Прошу, батынько, на вспоможаньне, на дарованьне,— на дар вылікі, на тэсячу злоты.* (З вясельнай песні.)

ВЫБЫВА′ТЭ ГО′ЧЭ. Назойліва перашкаджаць. *Мух пойна хата; гочэ выбывають, оно стый і махай рукамэ, бы кобэла хвостом.*

ВЫРДОЎНЭ′К *м.* Мальва, Malva crispa L. *Бало на Сплыне ўрано, рвалэ вырдоўнэк у квітку; він цвытэ розовым з сіренёвым.*

ВЭ′ДЖЫНДЖУРЭТЫСЯ *зак.* Прыгожа ўбрацца. *Мала́ня вэджынджурэлася, бы на музыку.*

ГА′БЛІ *мн.* Вілы для бульбы. *У гноёвэх вылках конці гострэ, а ў габліў на концех булаўчыкэ, коб картоплю ны дзёўбстэ.*

ГАЛАБУ′РДА *ж.* Вельмі шырокае адзенне. *Зложэў галабурду, а вона ныгдэ й ны прытулюіца до ёго.*

ГАЛАСОВА′ТЭ *незак.* Крычаць, лемантаваць. *У йіх заўшэ гэтак: ідэш гулыцыю і чуіш, ек галасують, бы звезанэ.*

ГА′РА *ж.* Скрыня ў возе замест драбін (для перавозкі сыпучых цел).

ГАРА′ВЫЦА *ж.* Тое, што і БУХТО′ВЫНА. *Ек угрезнуў у гаравыцэ за бырызыною, то думаў, шо заночую там с хурыю.*

ГЛУХМА′Н *м., экспр.* Глухі чалавек.

ГЛУШЭ′ВЫНА *ж.* Гушчар, глухмень. *Тут такая глушэвына, шо і птушка ны ўлізэ, ныто корова.*

ГНЁЛКА *ж.* Гнілая груша. *Дэ́чке так надто кеслэ, а ек полыжеть у сіновэ дэнь-другі, то з йіх зробляца солодке гнёлке.*

ГОДЫ′ЎЛЯ *ж.* Гадаванне. *Якая ў батька була годыўля? — Я за роботыю світа ны бачыла.*

ГО′ЖУЎ *м.* Абсмалены кій, вожаг. *Гожувом я мышэю жер.*

ГО′ПАТЭ *незак.* Цяжка ступаць. *Дід наш тэхо ходэў, а ўжэ батько ек ідэ, то гопае, бы ступу тоўчэ.*

ГОРІ′ТЭ *незак.* Сохнуць. *Гурке прытьмом гореть на сонцэ; дошч трэба, а то ўжэ й лэст місцемэ посох.*

ГОРОЗА′ *ж.* Від асакі. *З горозэ вэйдэ добрі пэндзыль.*

ГОРЧЕ'К *м.* Гарчак. *Горчек ростэ ў городэ, у ёго чырвонэ стэбло.*

ГРАБЛІ' *мн.* Трава, якая застаецца паміж пракосамі. *Выдно, шо ны ўміе косэтэ: поробэў граблі на закосэ,— усё шо гак, то знак.*

ГРАЧ *м.* Ігрок. *Добры с тыбэ грач, шо ўсі грошэ програў.*

ГРОМА'ДА *ж.* Куча. *Скень гульле каля колыдке ў громаду.*

ГРЫЗО'ТА *ж.,* ГРЫЗОТЬТЕ *н.* Грызня, працяглыя сваркі. *Ек міні тое грызотьте надоіло, аж додому ны хочыца йтэ.*

ГРЫМА'К *м.* Удар па спіне. *А шэ лізтымыш, то накладу тобі грымакіў у плэчэ і одпраўлю з хатэ.*

ГРЭ'ВА *ж.* 1. Грыва (каня). 2. Трава, якая застаецца ў пачатку пракоса. *Косэц з тыбэ: у гэтый грэвэ остаецца половэна сіна.*

ГРЭЗЬ *м.* Костачка, якая вырастае на руцэ або назе ад цяжкай працы, хадзьбы ці ад рэўматызму. *Кажуть, ек вэлызэ грэзь, то ёго трэба чавэтэ, або датэ, хай погрызэ пэрша дытэна, або почавэтэ об наруб,— то він пропадэ.*

ГУЛЕ'ТЭ *незак.* Танцаваць. *Колэсь мэ гулелэ неку мытэлыцу, лэсого, польку на два бокэ, а зарэ — то попрытулююца одэн до одного і місять глэну на місьці, бы тоўкачі.*

ГУ'ТАТЭ *незак.* Гайдаць (дзіц.). *Ходэ́, я тыбэ погу́татаю на нозі.*

ГУШЧЭ'ВЫНА *ж.* Гушчар. *І ек это корова зайшла ў такую гушчэвыну?*

ГЫБА' *ж.* Мера даўжыні палатна=7 аршынам (4,977 м).

ГЭ'НЧІ *займ.* Іншы. *Гэнчі буракіў чы ботвэньня зроду ны йісьть. А воно ж такое смашнэ!*

ДОЛОТЭ'ТЭ *незак., экспр.* Доўга і настойліва павучаць. *Кілько тобі ны долотэ, а тэ ўсёромно робыш посвоёму.*

ДОЛЭ'НКА *ж.* Сонечнае спляценне. *У Старосільлі долэнку под грудьмэ называють дэхало.*

ДО'МА *ж.* Хата, дом. *Пойду хучі, бо там дома одчэняна, то шэ свэнэ ўхватяца і шкодэ нароблять.*

ДОЎГА'СТЫ *прым.* Прадаўгаваты. *Мусыть-таке доўгастэ гурке смашнішэ за куртатэ.*

ДРУБ'Е'ЗОК *м.* Дробналессе. *У друб'езковэ можуть ростэ якеі хоч корчі.*

ДРЫНЧЕ'ТЭ *незак.* Бразгатаць. *Дітятко, покень своею калясочкію дрынчетэ, бо тэ ўсю хату одурэў.*

ДРЭ'ГАВЫЦА *ж.* 1. Курч, торганне. *Нека дрэгавыца ў ногу ўлізла, шо йтэ ны можу.* 2. Падкідванне (на дарозе з калдобінамі). *Тут дорога зусім ныека: одна дрэгавыца, можна й гізунтэ вэтрастэ.*

ДУРОШЧІ' *мн.* Глупства, дурасць. *Ліпш седь да посыдэ, а то ўсё дурошчі правыш.*

ДЭ'КОЛЭ *прысл.* Часам, іншы раз. *Я собі дэколэ й куті або гэнчыі кашэ звару.*

ДЭ'ХТО *займ.* Некаторы. *Дэхто, можэ, і скажэ такое слово, а мэ ны говорымо.*

Е'ТЫЛЫНА *ж.* Дзяцеліна. *Етылына на дорозэ сама ростэ, йійі ныхто ны сіе.*

ЖАРО'ТЬТЕ *н.* Спёка. *Полізла на хату тытін вішатэ, а там такое жаротьте под блехію, думала, ужэ ны злізу.*

ЖМУХ *м.* Жменя. *Бырэш жмух соломэ і подпалюіш дровэска.*

ЖМУХА' *ж.* Жамерыны. *У нас тоді свої картоплі ны ўродэлэ, то мэ бралэ жмуху на заводэ і кормэлэ свынэй.*

З ОБІ'ДА. З поўдня. *Колэ садыш горох чы біб, трэба, коб буў вітёр з обіда.*

ЗАБАРЭ'ТЫСЯ *зак.* Забавіцца. *Пошла до сусідкі, забарэлася, а ў мынэ ў пычі й погасло.*

ЗАВА'ЖЫТЭ *зак.* 1. Заважыць. 2. Падважыць.

ЗАВІ'Й *м.* Прыступ апендыцыту. *Мыхалко з завою ўмэр.*

ЗАГЛЫМЭ'ЗДАНЫ *дзеепрым.* Чалавек, галава якога мае завостраную форму. *Тэ нека заглымэздана, бо зав'язала ныхорошэ на голові хустку, бы на колку.*

ЗАГРА'НЫ *прым.* Аплоднены (аб яйку). *Гэту йіёшню гадко йістэ, бо ейца булэ загранэ.*

ЗА'ЙІДЭ *мн.* 1. Хейлоз. 2. Выступанне солей (светлага колеру) на вельмі мокрым абутку пасля яго высыхання.

ЗАКАНО'ЗЫТЫСЯ *зак.* Абурыцца. *Шэй заканозылась, лэхо йійі матырэ, а так то й слова з йійі ны вэчавыш.*

ЗАКЛЕ'КНУТЭ *зак.* Здранцвець. *Рука чы нога ек заклекнэ, то й ны тэныся.*

ЗА'КРУТКА, ЗА'КРУТЬ *ж.* Залом на жыце. *Чыроў-*

*нэк робэў на жэтэ закрутку; тое місьце обжыналэ, кедалэ, потом палэлэ, бо боелыся, коб шо ны зробэлось.*

ЗАЛО'ГА *ж.* Каўнер з футра. *Хто кожуха опренэ, залогу поставыть, дай йідэ собі по сіно, бы пан, на возовэ.*

ЗАЛОЙІ'ТЫСЯ *зак.* Забрудзіцца, забіцца, заляпацца. *Залойілася січкарня, і стало тежко йійі крутэтэ.*

ЗАМОРО'КА *ж.* Марудная, карпатлівая праца, клопат. *Дітэ, за вамэ одна заморока: я своеі роботэ нэц ны зробэла.*

ЗАПА'ДЫНА *ж.* Упадзіна. *У тый западынэ некось заўшэ вода чаўкотэть.*

ЗАПОМО'ГА *ж.* Дапамога. *Таке ж неку запомогу зробэў твій батько хрышчоны, колэ даў тобі тоді дэсыть пуду жэта.*

ЗАСТА'ЎКА *ж.* Шчыт, дошка, якімі што-небудзь застаўляюць. *Зробэ застаўку з хванелі, да застаў дэрку, коб котэ ў погрыб ны лазылэ.*

ЗАТО'ЎМУВАТЫ *прым.* Бязрогі (аб карове).

ЗАТУ'ЛОК *м.* Клін, якім каса прымацоўваецца да касся.

ЗАТЭ'НОК *м.* Засень. *У жару оно ў затэнковэ й сыдітэ.*

ЗАЎЗЕ'НТЫ *прым.* Заўзяты. *Наша Ганя була заўзента до навукэ: усі — на музыку, а вона — за кніжку.*

ЗАХУНДУВА'ТЭ *зак.* Зафундзіць. *У сыбэ ўдома частують, а захундовують чэмсь куплёным у містэ.*

ЗБРОДЭ'ТЭ *зак.* 1. Вытаптаць поле, агарод. *Конэ прытьмом города збродэлэ.* 2. Намачыць адзенне, абутак. *Зложэ шо гіршэ, бо сёромно ў такую ныгоду збродыш.*

ЗБУВА'ТЭ ВІК. Пражываць жыццё. *Я вік збуваю, а такеі чудесіі ны бачыла.*

ЗБЫРАНЭ'НА *ж.* Сабраныя адусюль розныя людзі, рэчы. *У городáх народ усекі, збыранэна з усіх бокіў,— усё можэ случэтыся.*

ЗБЫТКОВА'ТЭ *незак.* Здзекавацца. *Так ны хорошэ робэтэ: збыткуватэ з старого; тэ ж і сам колэсь будыш старэй.*

ЗГРА'БЛО *н.* Скрэбла. *Мэ дайно свого коне продалэ, а зграбло шэ дэсь валеіца ў шіпцэ.*

ЗГУ'НУТЭ *зак.* Ударыць чым-небудзь тоўстым. *Згунь по лапах гэту нынаіджу* (прагную карову), *то більш у жэто ны підэ.*

ЗДЭ'БАТЭ *зак.* Сустрэць, злавіць. *Дэ ж тэ ў самэ жнэво здэбаіш того брыгадіра? Ідэ, можэ і зловыш вітра ў полэ.*

ЗДЭ'ХАТЫСЯ *зак.* 1. Задыхацца. 2. Пазбавіцца, выратавацца, адпачыць ад каго-небудзь. *Жду-ны дождуся, коб хучі здэхатыся од косовэцэ.*

ЗЕ'ПАТЭ *незак.* Задыхацца. *Дід наш зусім ныекі: дойшоў до стола і оно зепае.*

ЗЛА'МОК *м.* Зломак. *Хоть і добрэ загострэла, алэ сёромно гэтым зламком нычого престэ.*

ЗНУД *м.* Упарты чалавек ці жывёліна. *Хура малая, лёхка, але гэто ўжэ знуд такей, шо ны хочэ вызтэ.*

ЗОВЭ'ЦА *ж.* Залвіца. *Зовэца — гэто моя сыстра моїй жінцэ прыходыца.*

ЗОХО'ТЫТЫСЯ *зак.* Нацешыцца, задаволіцца. *Ек купэлэ мэ выдро комсэ, то зразу була смашна, а потом усі ею зохотылыся.*

ЗЫЛЁНОВА'ТЫ *прым.* Няспелы. *Лён шэ зылёноваты, трэба зорэтэ на сонцэ.*

ҚА'ЖНЫ, ҚА'ЖОН *займ.* Қожны. *Слово мытэлыца кажон відае, а пыргá — оно той, хто буў у бежанцах.*

ҚАЛ *м.* Густая гразь.

ҚАЛЮ'ГА *ж.* Гразь з вадою. *Такая калюга на дворі, шо ў валянках быз калошу і з хатэ ны вылазь.*

ҚАНДЁР *м.* Суп (з бульбы і вады).

ҚАНДРЭ'ЧҚА *ж., іран.* Худая, шустрая, наравістая кабета з выкрутасамі.

ҚАПЛУ'Н *м.* 1. Від ежы (накшталт супу) з кавалачкаў сухога хлеба, цыбулі, залітых варам, засквараных салам ці алеем. 2. Пакладаны певень (?). *Сыдэть у кутковэ накапужаны, бы каплун.*

ҚАПІ'Ж *м.* 1. Қапеж. 2. Правільнае ворыва ў роскід, калі дно баразны выбіраецца плугам не ў форме вострага вугла, а такім чынам, што адна палавіна яе вышэй за другую. *Трэба так горатэ, коб капіж оставаўся.*

ҚАПУ'ЗА *ж.* Нешта вялікае на галаве. *Скень гэту капузу з головэ, а то ў йій тэ світа ны бачыш.*

ҚАРБУВА'ТЭ *незак.* 1. Рабіць пазы на дошках. 2. Драць пазы на сасне. *Қарбують паза на хвоінэ, коб смола тыкла.*

ҚАТА'НҚА *ж.* Летні касцюм без падкладкі. *Қолэсь бало шэлэ такеі катанкэ з гўсамэ, роскошанэ двома клынкамэ з бокіў.*

КВІ'ТКА *ж.* 1. Кветка. 2. Букет з зялёных лапак ці галінак, прыбітых да вільчака. *Ек хату роблять, то п'ють штэрэ разэ: увэчырэ ў той дэнь, што закладынэ, ек положать гокновое, колэ квітку зроблять і ек ухідчыну праўлять.* 3. Букет з палявых і гародніх кветак, з калоссяў збажыны, які свяцілі.

КЕ'ЎКАТЭ *незак.* Глытаць так, каб было чуваць.

КЛА'ЦАТЭ *незак.* Стукаць зубамі. *Він ек йісьть, то клацае зубамэ, бы собака.*

КНЭШ *м.* Шышка, сухі выраст па краях булкі хлеба. *Ек хліб удасца, то з булке вэлызуть кныші; гэнчі навіть опадэ, поке вэйміш хліб з пэчэ.*

КОВАЛІ' *мн.* Адзінкавыя сцябліны жыта, якія засталіся нязжатымі. *Колэ жнэш, і поостаецца по жытэнэ, то кажуть, шо ковалі стоеть.*

КОЛОТНЭ'ЧА *ж.* Калатня. *Ваша колотнэча сыдэть мыні ў пычынех: оно ложку очэрпныш, ужэ сварка.*

КОНЭ'ЧНО *прысл.* Абавязкова. *Трэба конэчно сіно згрыбстэ, бо можэ потом пойтэ дошч.*

КОРЧІ' *мн., зборн.* Кусты.

КОСЬЦЕ' *н.* Касільна.

КРУГАЛО' *н.* Круг. *Закруть у жэтовэ ны жнуть, а кедають кругало нывэжатэ.*

КРУТІ'ЛЬ *м.* 1. Круцель. 2. Непаседа. 3. Закручаныя валасы на галаве.

КРУТІ'ЛЬКА *ж.* 1. Ваўчок. *Зробэў дід унуковэ крутільку гратыся.* 2. Карусель на лёдзе.

КРЫЖІ' *мн.* Падстаўка пад дзяжу. *Дьві дóшке накрыж з лапамэ — гэто крыжі.*

КУ'ДАСА *ж.* Мяцеліца. *На дворі ўзялася такая кудаса, шо й собаке ны вэкынутэ з хатэ.*

КУМІ'Р *м.* Каўнер (кашулі, сарочкі, катанкі).

КУТА'СЯ *ж.* Стужка.

КЫЛУ'Н *м.* Грыжавы.

КЭ'ЧКА *ж.* 1. Хамуціна, падціснутая пад клешнямі хамута. 2. Валік з ануч, які насілі маладзіцы пад чапцом. *Кэчку обшывалэ латкію, а на ныділю — кутасію.* 3. Канец завязкі фартуха. *Седь міні, ны шымрэ, бо зарэ кічкамэ спаражу.*

ЛЫПЭ'НЫК *м.* Тое, што і КНЭШ.

ЛЭ'СНЫК *м.* Піжма, Tanacetum vulgare L. *Дай дытэнэ лэсныку, можэ, лэстэ пропадуть.*

ЛЯКОТУ′ХА *ж.* Дрыготка. *Поке дроў набрала, зусім змэрзла, аж лякотуха напала.*

МОДРОШЧІ′ *мн.* Пыхлівыя выдумкі, жарты. *Йій усё модрошчі ў голові! Модрує, бы маленька, і думае, шо надто хорошэ.*

МЫНЬТЮ′ШКА *ж.* Мянташка.

НАГНО′М *прысл.* Нагбом. *Мусыть, я нагном нап'юся, бо того кубка нэгдэ ны дождусь.*

НАГО′ГА *м.* і *ж.* Капрызны чалавек. *Такая нагога, шо ўсё ны по йійі.*

НАГО′ГЫТЫСЯ *зак.* Капрызіць. *Ек нагогыца, то і чорт ны ўгодыть.*

НАКАПУ′ЗЫТЫСЯ *зак.* Мець выгляд хваравітага чалавека з пахіленай набок галавой. *Шось тэ некі тыпэр накапужаны: убраў голову ў плэчэ, бы п'ены. Курэ накапузылыся, мусыть, будэ мороз.*

НАПОПЫРЫКЕ′ *прысл.* Насуперак.

НАПЭ′РСТОК *м.* Жалезнае кольца, якое разам з затулкам прымацоўвала касу да касся.

НОСО′К *м.* Нос, востры канец касы.

НУД *м.* 1. Нуда. *Пушоў батько ў войско, а мынэ такей нуд за сэрцэ бырэ,— місьця собі ны находжу.* 2. Моташнасць. *Ужэ два дні нуд од горілке.*

НЫОБВО′ЛЫТЭ *зак.* Рабіць наадварот, не спрыяць, насміхацца. *Я тобі ныобволю, значыць, ны хочу, коб тэ так робэла.*

НЕ′ГДЭ *прысл.* Ніколі.

ОБВО′ЛЫТЭ *зак.* Спрыяць, хацець, жадаць (каб так было ў таго, каго *обволять).*

ОБІ′ЧКО *н.* Накрыўка дзяжы.

ОБЛО′ЖКА *ж.* Ірха ў кажусе.

ОГЛЯДА′ТЫСЯ *незак.* У выразе: *Сонцэ оглядаіца.* Ясна свяціць на захадзе. *Ек сонцэ оглядаіца, то будэ погода.*

ОДЧЫКА′НЫТЭ *зак.* Прыгожа апрацаваць, аздобіць.

О′ДУР *м.* Дур, дурасць. *Так вэробыў, шо стэдно людюм у гочэ гленутэ. Мусыть, на тыбэ некі одур найшоў.*

ОНО′ *прысл.* Толькі, ледзьве. *Гузік оно́ шо чыпіліе на нэтцэ.*

ОНО′ *злучн.* Як толькі. *Оно́ я з хатэ, дітэ шмірг у комору і за мэд.*

ОСО′Н *м.* Завостраны кій, якім паганялі валоў.

О′СЫПКА *ж.* Восыпка. *Осыпке ныма, той выпрука ны ўкормыш картоплямэ.*

П′Е′ТКА *ж.* Частка касы, якой яна замацоўваецца ў кассі.

ПЛЕ′ХА *ж.* Непагадзь. *На дворі плеха — быгвідь, шо робыца: ны розбырэш, чы сніг, чы дошч.*

ПЛІШ *м.* Абсеў (у збожжавых ці бульбе). *Не́ке слыпэі садэлэ картоплі, бо много плішіў наробэлэ.*

ПЛЫТІ′НКА *ж.* Уцяпленне дзвярэй. *Солому намочать, тоді йійі мнекіньку сплытуть, бы косу, у плытінку і прыб'ють до двырэй, коб ны тылыпалася.*

ПОВЫРНУ′ТЭ ДУ′БА. Дрэннае ворыва, пры якім пласт зямлі перавернуты не цалкам, а часткова.

ПОГРА′НЯНЫ *прым.* Аб небе, калі хмаркі на ім плывуць кучамі. *Колэ нэбо погран*э́*цца купынкамэ, трэба садэтэ картоплі — добрэ зародять.*

ПОРОЖНО′ТА *ж.* Незанятасць. *У людэй ек сталэ робэтэ, то ўсі разом — і зробэлэ, а ў нас — ны роботэ, ны порожнотэ.*

ПОТО′РГАТЭ *зак.* Расцягнуць. *Одэжу, ек вэсохнэ, трэба поторгатэ, коб ліпш вэкачалась.*

ПРОМО′СКЛЫ *прым.* Вельмі мокры. *Дровэска промосклэ, нэц ны гореть.*

ПРОСМЭ′РГНУТЭ *зак.* Прасмярдзець. *Пока тэ збырэсься кубасэ робэтэ, то мнесо просмэргнэ.*

ПРОСТЫРІ′КУВАТЭ *незак.* Супярэчыць. *Я шо ны скажу, а нывістка ўсё простырікуе, усё напопырыке,— зусім мынэ ныобволыть.*

ПРУТ *м.* Тоўстая частка касы, супрацьлеглая вастрыю.

ПРЫЕ′ТЭ *незак.* Жадаць. *Чы ж я тобі можу прыетэ добро, колэ тэ мынэ выдражнюіш, бы собаку.*

ПЭ′ЦАТЭ *незак.* Пэцкаць.

РОЖКЕ′ *мн.* Спецыяльная вуздэчка з цвікамі для цяляці. *Зложэ рожке на морду тылетэ, коб корову ны сцало.*

РОМАНЭ′Ц *м.* Пупок палявы, Anthemis arvensis L. *У романце ны квітке, а быто бýбляхе.*

РУБІ′Ж *м.* Вастрыё касы.

РУБЫЖІ′ *мн.* 1. Тое, што і ГРАБЛІ′. 2. Знакі на скуры няроўна абстрыжанай авечкі.

РЭ′ХТЫК *прысл.* Якраз, дакладна. *Матеры́і рэхтык оно на кохту.*

СВЫРГОТА'ТЭ *незак.* Цвыркаць. *Ек гэнчі чоловік говорушчі, то говорыть, быто свыршок свыргочэ.*

СВЫРШО'К *м.* Цвыркун.

СКІ'МЛЫТЭ *незак.* Цішком плакаць ад крыўды. *Шэ я на тыбэ нэц ны сказала, а тэ ўжэ скімлыш.*

СЛО'ТА *ж.* Нешта вільготнае, ліпкае, назойлівае. *Зайшэ прычэпіся, бы слота, шо ны одогнатыся.*

СПОЎНЕ'ТЫСЯ *незак.* Наліваццa (аб жыце).

СТРАМО'ЦЫЯ *ж.* Сорам. *Дывэся, ны робэ так, коб була страмоцыя людэй.*

СТУГОНІ'ТЭ *незак.* Глуха стукаць. *Урано ныекі ны сон: дітэ поўстають, бігають і стугонеть по подлозэ.*

СУ'КРУТОК *м.* Скрутак ільновалакна пасля апрацоўкі на грэбені. *Поділыш лён на трэ сукрутке ў косі, гэто на трэ кудэлі.*

СУХОПОСТО'Й *м.* Леташняя трава. *Высною трэба будэ на болотэ ўвэсь сухопостой вэпалытэ.*

СХІ'ДНЭ ДНІ. Дні пасля поўні перад маладзіком.

СЫЎНЭ'К *м.* Сявенька. *У сыўнэк учыплелэ скараче, коб лёкші носэтэ.*

ТАРАБАНІ'ТЭ *незак.* Барабаніць. *Твого зінгера трэба ўжэ змазатэ, бо надто тарабанэть.*

ТОПІ'РЫЧКО, ТОПІ'РО *прысл.* Цяпер, зараз. *Ек топіро ў хату ўлізтэ?*

ТЫЛЁХАТЭ *незак., экспр.* Раз за разам мякка падаць і разбівацца (аб нечым вадкім).

ТЭ'НУТЫСЯ *зак.* Рушыць. *Раптоўно ек схватыть радікуліт, то ныдэ й ны тэныся.*

УКЛЕ'КНУТЭ *зак.* Перастаяць. *Жэто зусім уклекло, а господэня і ны думае, коб ек хучі вэжатэ.*

У'ЧЫПКА *ж.* Скарач, ручка з палатна, вяроўкі. *Колэ ўв'езуіш, да ны хватае, то ўточуіш учыпку.*

ХОДУ'Н *м.* Драўлянае прыстасаванне, пры дапамозе якога дзіця вучыцца хадзіць. *Дытэна навалыца на каблук і бігае кругом дручка.*

ХОЛОДНЕ'ВО *прысл.* Халаднавата. *Хутко госынь, бо ўвэчырэ робыца холоднево.*

ЦВЫТНЭ'Й *прым.* Няспелы, з мяккімі зярнятамі. *Хоть жэто цвытное, алэ будымо жетэ: постоіть у ляшка́х, то дозорыца.*

ЦОКОТІ'ТЭ *незак.* Стракатаць. *Новынькі віз цокотэть бы йічко; господар йідэ і радуіцца. А старэй віз оно таладахае.*

ЦЫГА'НЧЫК *м.* Сцізорык. *І грыбіў ны прыніс, і цыганчыка складаного згубэў,— а такей буў лоўкі ножык.*

ЧЭ'КОЛОДОК *м.* Каленца ў сцябле расліны.

ЧЭ'ЖЫК *м.* Гл. КРУТІ'ЛЬКА 1.

ШПА'ГЫНА *ж.* Стрэмка. *Зложэ пальчáтке, бо шэшпагіну заб'еш у руку.*

ШУ'ШМАТЬТЕ *н.* Дробнае смецце. *Трісочке більшіньке позбырай, а гэтэ шушматьте змытэ і вэкінь на дорогу.*

ШЫЛЁХНУТЭ *зак.* Упасці раптоўна з шоргатам, шастаннем. *Брала я бураке ў свыронковэ, аж шчур ек шылёхнэ з вэшок! — Ну й злякаў мынэ.*

ЯТРЭ'ТЫСЯ *незак.* Павялічвацца (аб ране, прышчах). *Ны чыпэ прышчé маратыю рукою, бо і так ятрэцца.*

*М. Н. Крыўко*

# СЛОВЫ З СУФІКСАМ *-ІН-А (-ЫН-А)* І ЯГО ВЫТВОРНЫМІ Ў ГАВОРЦЫ ВЁСКІ МАНЯКОВА МІЁРСКАГА РАЁНА

Суфікс *-ін-а* ва ўсходнеславянскіх мовах мае надзвычай стракатую семантыку. Даследчыкі ўсходнеславянскіх моў адводзяць яму асобае месца ў словаўтваральнай сістэме. Вучоныя мяркуюць, што гэты гукавы комплекс аб'ядноўвае два ці нават тры аманімічныя суфіксы і што ён узыходзіць не да аднаго індаеўрапейскага фарманта, а да двух ці нават трох [1].

У беларускай мове суфікс *-ін-а* разглядаецца ў артыкуле П. В. Вярхова [2], у працах П. У. Сцяцко [3], у агульных даведніках і падручніках [4], у некалькіх артыкулах па дыялектнай лексіцы [5].

У дадзеным артыкуле аналізуюцца словы з суфіксам

---

[1] Максимов В. И. Суффиксальное словообразование имен существительных в русском языке. Л., 1975.

[2] Вярхоў П. В. Назоўнікі з суфіксам *-инъ, -ина* ў беларускай мове. «Весці Акадэміі навук БССР», серыя грамадскіх навук, 1972, № 2.

[3] Сцяцко П. У. Словаўтваральныя тыпы з суфіксамі *-ін, -ін-а, -ін-я* ў славянскіх мовах.— Материалы научно-теоретической конференции Минского пединститута имени М. Горького. Секция филологических наук. Минск, 1967, с. 6—8; яго ж; Народная лексіка і словаўтварэнне. Мінск, 1972; яго ж: Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі. Мінск, 1977.

[4] Граматыка беларускай мовы, т. 1. Марфалогія. Мінск, 1962, с. 115—116; Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1957, с. 65.

[5] Крывіцкі А. А. У слоўнік Мсціслаўшчыны.— З народнага слоўніка. Мінск, 1975, с. 131; Крыўко М. Н. Экспрэсіўныя назвы асобы ў гаворцы в. Манякова Міёрскага раёна.— Там жа, с. 296; яго ж. Словаўтварэнне экспрэсіўнай лексікі гаворак Міёрскага раёна Віцебскай вобласці (Словы-назоўнікі, якія характарызуюць асобу чалавека).— Тези доповідей та повідомлень міжвузівської наукової конференції з питань східнослов'янского іменного словотвору. Київ, 1974, с. 138.

*-ін-а (-ын-а, -ын'-а, -ін'-а)* і яго вытворнымі *-авін-а, -анін-а, -арын-а (-ярын-а), -аўчын-а, -аўшчын-а, -ацін-а (-яцін-а), -інін-а (-ынін-а), -нін-а, -овін-а, -чын-а, -шчын-а,* занатаваныя аўтарам у гаворцы вёскі Манякова Міёрскага раёна. Усё гэта назоўнікі жаночага роду, за выключэннем узмацняльных (экспрэсіўныя назоўнікі агульнага роду) і некаторых іншых, што маюць форму мужчынскага ці ніякага роду. Па асаблівасцях асноўнага значэння словы з гэтым суфіксам падзяляюцца на 13 груп. Лексіка, якая супадае з літаратурнай, у артыкуле падаецца без тлумачэння.

1. **Словы з уласна прадметным значэннем.** Гэты словаўтваральны тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

*Аўчы́на; вашчы́на; драбі́на* — лесвіца; *іржа́ўчъна* — іржа; *кавэ́ръна; лучы́на; лю́шчъна* — непатрэбная рэч, прадмет; *пагрэ́пшчъна* — палатно, якім накрывалі труну; *патэ́ліна* — патэльня; *пръвары́на* — стойла; *пусцяко́віна; пухлі́на; пяры́на; рашчы́на* — рошчына; *ръга́ціна; скураці́на* — кавалак скуры (апрацаванай); *спрунджы́на* — спружына; *съланíна* — сала, праслойкі сала сярод мяса; *сърцаві́на* — стрыжань (драўніны); *трэ́шчъна; хъмуці́на; цъліна́; чървято́чъна; шчэ́рбіна* — шчарбіна.

2. **Словы з агентыўным значэннем.** Прадуктыўнасць суфікса *-ін-а* з агентыўным значэннем у гаворцы вёскі Манякова невялікая пры ўтварэнні нейтральнай лексікі. Занатавана толькі 8 такіх слоў, 7 з якіх — назоўнікі жаночага роду і 1 — мужчынскага.

*Багі́ня; гіраі́на* — гераіня, маці-гераіня; *дзя́дзіна; дзяўчы́на, жэ́нщчъна; княгі́ня; къралі́на* — каралева; *мушчы́на.*

3. **Словы з рэчыўным значэннем.** Гэта назвы мяса жывёлы, прадукта, які атрымліваецца ад жывёлы, назвы мёртвай жывёлы, прадуктаў харчавання і г. д.

*Бъра́ніна; бъчы́на* — ялавічына, цяляціна; *вуця́ціна* — качынае мяса; *гуся́ціна; дъхля́ціна, здыхлі́на, здъхлі́на, здъхліна́, здъхля́ціна, па́дліна* — здыхляціна, падла; *зайчы́на, зъйча́ціна* — заечына; *капі́на; ква́шъніна; кура́ціна; къбані́на* — свініна; *късзля́ціна; ласі́на; псі́на; пъръся́ціна; свіжані́на; свінні́на; труся́ціна* — трусінае мяса; *ціля́ціна; я́лъвічъна.*

4. **Словы са значэннем меры.**

*Асьмі́на; дзісянці́на; пълаві́на; трацці́на.*

5. **Словы са значэннем пэўнай часткі чалавечага цела ці цела жывёлы.**

*Кръжавіна; лысіна* — 1. Лысіна, лысая галава. 2. Белая пляма на лбе і мордзе жывёлы; *пахвіна; пупавіна; сярэ́дзіна* — паясніца; *хрърбе́ціна, хръпціна* — хрыбет; *чупрына.*

6. **Словы са значэннем прасторы.** З прасторавым значэннем намі занатавана ў гаворцы 3 дзесяткі слоў.

*Амша́ръна, імша́ръна, мша́ръна; ба́цькъўшчъна; бъравіна; гусціня́, гусця́ръна* — гушчар, зараснік хмызняку; *дзе́дъўшчъна* — спадчына ад дзеда, месца, зямля, дзе жыў дзед; *за́клівіна* — выгнуты або кліпападобны ўчастак зямлі; *калдо́біна, кулдо́біна; кругло́віна* — плошча зямлі круглай формы; *къна́віна* — канава; *къта́віна* — каляіна; *лахчына, лъхча́віна* — лагчына; *ла́піна* — прагаліна; *лу́жъна; лысіна* — цэнтр, галоўнае, большая, асноўная частка пэўнай плошчы (зямлі, падлогі і г. д.); *мясціна; нізіна; па́нішчъна* — маёнтак, зямля, панскія ўладанні; *пръга́ліна; пуграчына* — узгорачак; *пълъсіна́* — паласа; *раўніна; руччаіна; рытъвіна* — калдобіна; *уха́біна; цясніна* — вузкае, цеснае месца; *я́міна* — яма.

7. **Словы са значэннем адцягненай прыкметы.** Гэту групу прадстаўляюць у асноўным ад'ектыўныя назоўнікі. Суфікс тут у асноўным мае значэнне адцягненай прыкметы прадмета, а таксама паказвае стан і якасць, мае значэнне пэўнай узмацняльнасці. Гэты тып малапрадуктыўны і абмежаваны лексічна.

*Бъльшъна́, бъльшъня́* — большая частка чаго-небудзь; *бъстрърня́* — хуткасць; *въстръня́; вілічъна́, вілічъня́; вужъня́* — вузкасць; *въшъня́; глубіня́; гусціня́* — гушчыня, густая страва і г. д.; *гърчаніна, гърчъня́* — гаркота; *дуўжъна́, дуўжъня́* — даўжыня; *дълічъня́; зіляніна; кісля́ціна* — што-небудзь вельмі кіслае; *кръпчъня́* — мацунак, што-небудзь вельмі моцнае, цвёрдае; *нъвіна́; піршъна́, піршъня́* — першыня, першы раз; *по́шліна* — пошасць, эпідэмія; *сірадзіна, сярэ́дзіна; слізаніна, слізганіна* — слізгота (прыкмета, стан); *търсціня́, туўсціня́*—таўшчыня; *цвірдзіня́* — цвёрдасць; *цішъна́; шърна́.*

8. **Словы са значэннем грамадскай або бытавой з'явы.** З вытворнымі ад *-ін-а (-ын-а)* суфіксамі *-шчын-а, -оўшчын-а* са значэннем грамадскай або бытавой з'явы ўжываецца ўсяго некалькі слоў. Гэтыя словы — адбітак старых з'яў у грамадскім жыцці і быце.

*Падзёншчъна*—падзённая праца; *паншчъна*—1. Пры прыгонным праве дармавая прымусовая праца сялян на пана. 2. Прыгоннае права; *пъгалоўшчъна н.*— рэзанне свіней, парадкаванне мяса і сала, затым выпіўка са свежынай.

9. **Словы са значэннем часу.** У гэту групу аб'яднаны словы, што называюць некаторыя грамадскія з'явы, звязаныя з пэўным часам або якія адбываюцца пэўны час, ці называюць, характарызуюць сам час, на працягу якога што-небудзь адбывалася або адбываецца. Колькасць гэтых слоў вельмі малая.

*Дъўніна* — даўні час; *паншчъна* — час панавання паноў у Заходняй Беларусі (да 1939 г.); *сълдаччъна* — салдатчына, служба ў арміі; *часіна* — часіна, няпэўны, невялікі час.

10. **Словы са зборна-прадметным значэннем.** Гэта назоўнікі, якія абазначаюць зборныя прадметы, сукупнасць прадметаў ці асобных частачак як адзінае цэлае, называюць расліны, гародніну, адходы ад культур, матэрыял, вырабы, жывёлу. Многія назоўнікі гэтай групы маюць адначасова значэнне адзінкавасці і зборнасці. Падаюцца і аналізуюцца такія словы ў групе адзінкавых і ў групе зборных па першаснаму значэнню.

*Асачына, асачыніна, асянчына, асянчыніна* — асака; *атавіна* — атава; *ахрап'іна* — ахрап'е; *бабовіна* — сцябліны бобу; *бацвінніна* — бацвінне, націнне буракоў; *бъдліна, събачъна* — грубае, з тоўстым сцяблом сена, трава (якую не хоча есці жывёла); *бъдліна* — жывёла; *бярэзіна* — кара ад бярозы; *вотръна* — вотруб'е; *гароднiна; гарохъвіна* — гарохавая салома; *грыжъна* — бручка; *дзічына* — дзікая, грубая трава (якую не хоча есці жывёла); *дъбръна* — хлеб, збожжа; *звіръна* — звяр'ё; *зілянчына* — зяляніна, зялёныя плады, агародніна; *ізрэбніна* — адзенне, посцілкі і г. д. са зрэб'я; *іръна* — ярына; *крамніна; кърміна* — корм; *лучына* — лучыны для распалкі; *ляшчына* — ляшчына, арэшнік; *морквіна* — морква; *мучніна* — мучное; *мякіна; пушніна; пшоніна, пшэніна* — пшанічныя вырабы; *скаціна, скацініна* — скаціна, жывёла; *сълъміна* — салома; *тухляціна* — тухляціна, тухлыя, недабраякасныя прадукты харчавання; *усячъна* — усячына, усякія пэўныя прадметы, прадукты і г. д. у сукупнасці; *шчаціна* — шчаціннe.

11. **Словы з узмацняльным значэннем.** Словы гэтага

разраду ў асноўным назоўнікі агульнага роду, якія маюць пры сабе дапасаваныя словы ў форме мужчынскага або жаночага роду ў залежнасці ад таго, які пол характарызуецца ў пэўнай моўнай сітуацыі. Напр.: *асталóпіна* — назоўнік агульнага роду, утворан ад формы мужчынскага роду *асталóп; бъдлінá* (у знач. 2) — назоўнік агульнага роду, утворан ад формы жаночага роду *бъдля́*.

У дадзенай групе паказчыкам таго, хто, мужчына ці жанчына, характарызуецца ў пэўнай канкрэтнай сітуацыі, з'яўляецца толькі кантэкст (у прыватнасці, дапасаванае слова).

У гэту групу ўключаны павелічальныя і ўзмацняльныя словы, хоць яны прынцыпова адрозніваюцца значэннем суфікса. У першым выпадку ён паказвае ацэначна на памер прадмета сярод іншых прадметаў, а ў другім выпадку гэты ж суфікс прыдае таму ці іншаму аб'екту выразнасць. Адна і тая ж словаформа можа мець у адным канкрэтным выпадку павелічальнае, а ў другім узмацняльнае значэнне. І ў гэтых выпадках усё залежыць толькі ад кантэксту.

У адрозненне ад іншых груп лексікі, якая амаль уся нейтральная ў межах гаворкі, словы гэтага разраду ўсе экспрэсіўныя, стылістычна афарбаваныя. Таму пры кожным слове гэтай групы даецца памета ў залежнасці ад афарбаванасці слова.

*Асталóпіна, бавóліна, балбéсіна, балдýіна, балдэ́сіна, баслýіна, валýіна, дуралéіна м.* і *ж., груб.*— дурань, да крайнасці тупы *(Што ты дъпътаісся ў гэтый асталопіны. Алі такі асталопіна, кап калі хоць падумуў гълавой, што і як нада зробіць. Ай, які баволіна дурный, ніпънятный такій, хоць і старый чълавек. Во балбесіна, дъг балбесіна. Ай, які балдуіна дурны. Сціхні ты, балдэсіна ты дурная! Чаму ты можыш наўчыць такога баслуіну? Ня слухъйці вы гэтъга валуіну. Дуралеіна, ні кръчы, што ты ў лесі?); блъгáціна м.* і *ж., зневаж.*— благі, дрэнны чалавек; *бръдзя́жъна м.* і *ж., зневаж.*— кепская, гадкая асоба; зброддівая жывёліна *(Гэтъд бръдзяжъна, куды хочыш табе ўлезіць); бъдлінá* — 1. *ж., зневаж.* Гультаяватая, старая жывёліна *(Бъдліну́ такую і зъпръгаць ня хочыцца. Гэта бъдлінá ўжо чуць лыткі цігаіць).* 2. *м.* і *ж., груб.* Дарослы ці стары чалавек, учынкі якога не заслугоўваюць павагі *(Бъдлінá гэнън узнова п'яный въла-*

*чэцца); бъйбáсіна м., асудж.*— вялікі, але ні да чаго не прыдатны хлопец *(Выгъдъвълі такога бъйбасіну, а ён — во табе: робіць нічога ня ўмеіць, ішчэ агръзаіцца на ўсіх); вéдзьміна ж., зневаж.*— вельмі злая, лютая жанчына *(Ох, іна ведзьміна бъла зъразнъя); вірхълáсіна м.* і *ж., асудж.*— жэўжык, свавольнік *(Такую вірхъласіну, як ён, ты ўспакоіш?); вуўкарэ́зіна ж., зневаж.*—лаянкава пра жывёліну (карову) *(Ах ты, вуўкарэзіна, узнова ў шкоду лезіш!); габэ́ръна ж., зневаж.*— старая худая жывёліна (часцей карова) *(На чорта яны дзіржаць такую старую габэръну, можна ш пъміняць); гáдзіна ж., зневаж. (Во гадзіна, і есці табе ні пъсуліла); гáхвіна, гáхъвіна ж., груб.*— вельмі здаровая, мажная жанчына *(Ай, тъкая гахъвіна і сядзіць седма ў хаці, кап хоць калі вышла нъ работу. Тъкая гахвіна, а ляніцца робіць); гультáіна, гультаíна, лінця́іна, лінцяíна, лінціінá, лóдъръна м.* і *ж., асудж.*— гультай *(Выгънь гэту гультáіну, хай троху паробіць. А ты, лінця́іна, што сам ня мох схадзіць? Мальца выпръвую. Ня слухый ты гэту лінцяіну, нічога ў яе ішчэ ня зробліна. Ні дъвай гэткый лінціінé ні куска хлеба); гълъварэ́зіна м.* і *ж., зневаж.*— галаварэз, бандыт, бандытка *(Куды, гълъварэзіна, лезіш!); гърбінá м.* і *ж., зневаж.*— гарбаты чалавек *(Тъкая гърбіна, і ён ішчэ некуды паўзець); гъргáръна ж., зневаж.*— старая або худая жывёліна (часцей карова) *(У каровы, мусідзь, зубоў німа: зімой і клевір нячыста з'ідаіць, зробілъся гъргаръный); гърля́ціна ж., асудж.*— горла *(Абвязъвый сваю гърляціну, а то прастудзісся); дзікáръна, дзічънá м.* і *ж., зневаж.*— нелюдзь, дзікун, дзікунка *(Тъкая дзікаръна, баіцца людзям у вочы глянъць — у бог глядзіць. Такі дзічъна, ръбяд баіцца); дръгáліна ж., асудж.*— вельмі худая жывёліна ці асоба *(Гэта ні карова, а дръгаліна нейкъя — адны косці толькі търчаць); дубíна ж., павеліч.*— дубіна, дубец *(Вот нъ цябе нада дубіна, неслух ты!); дурачы́на м.* і *ж., спагадл.*— дурань *(Ах ты, дурачына, куды ш ты з нъгамі ўлес?); дурнінá м.* і *ж., зневаж.*— дурань *(Од дурніна, ты ш паслухый мяне ўнімацільна!); дърмаéдзіна м.* і *ж., зневаж.*— дармаед, дармаедка *(Сядзідзь дърмаедзіна, нічога ня робіць); дъхля́ціна, здъхля́ціна, зды́хліна, здъхліна, здъхлінá м.* і *ж., перан., зневаж.*— вельмі худы чалавек *(Ну ш ён і дъхляціна, усё роўна як ён нічога ня есць. І ён — бароцца, гэткі здъхляціна. Еш паболі, во*

*ікая ўжо здыхліна зробілъся. Ікая дзяўчына здъхліна — скура ды косці); дырбіна, дырдзіна м.* і *ж., асудж.*—высокая, цыбатая асоба (*Такі дырбіна, нъ цябе нічъя адзежъна ня лезіць. Вот выръсла дзеўка дырбіна і ў каго іна ўдъласся?); жъвадзёръна м.* і *ж., асудж.*—жэўжык, гарэзнік, гарэзніца (*Успакойся, жъвадзёръна, ръзнасіўся!); звіръна́ м.* і *ж., зневаж.*—вельмі злы, люты чалавек; збродлівая, шкодная жывёліна (*О, ён такі звіръна, чълавека можыдзь забіць і рука ні зътрасецца. Куды ж, звіръна, лезіш! Пъшла дъ кароў!); здъръвіна́, здъръвіня́ м.* і *ж., асудж.*— вельмі здаровая, мажная асоба (*Дзве здъръвіны такіі робілі, і толку ніякъга німа. Здъръвіня быў — люцццы ратуйці!); зладзе́іна м.* і *ж., пагардл.*— злодзей (*Іш ты, зладзеіна, куды ўлезла!); змііна́ м.* і *ж., зневаж.*— вельмі злы, люты чалавек (*Тъкая змііна, хто дъ яе пойдзіць. Такій змііна і крушкі вады ні дась папіць); зуліна м.* і *ж., зневаж.*— надакучлівы, назойлівы сваёй гаворкай, дапяканнем чалавек (часцей жанчына). (*Будзь мушчына з мушчыны, а то — зуліна нейкій, зуліш усё пръс сваё мне над вухъм); зъгагу́ліна ж., зневаж.*— нязграбная рэч, прадмет, які з'яўляецца непатрэбным, замінае (*Дъвай ускінім нъ гару гэну зъгагуліну — толькі места лішнія будзідзь зънімаць у хаці); зъра́зіна м.* і *ж., зневаж.*— зараза, кепскі чалавек, збродлівая, шкодная жывёліна (*Ня лесь ты да гэный зъразіны, толькі крыку болі будзіць); каі́міна м.* і *ж., зневаж.*— скупы і люты чалавек (*Гэтът каіміна век нічога ні пъсуліць. У гэный каіміны нічога ні дапросісся); каржэ́іна м.* і *ж., зневаж.*— вельмі закарэлая, брудная асоба (*Ну й каржэіна, калі ты ўжо атмысся? Такі каржэіна, страг глядзець); кръвіна́ м.* і *ж., зневаж.*— кульгавы, крывы чалавек (*А куды ж гэна кръвіна цягніцца?); къбяліна м., асудж.*— вялікі хлопец, але не здольны да працы, які займаецца дзіцячымі забавамі (*Такі къбяліна, а робіць ані нічога ня ўмеіць. Хваціць, къбяліна, лётъдзь з ръбятъмі, ідзі, работу дам); лату́ціна, лаху́дръна м.* і *ж., асудж.*— абадраны, абшарпаны чалавек (*Такі латуціна, ходзь бъ калі надзеўся люцка. Пръшла лахудръна з лахудръны, уся чыста абдзёртъя, вата с фуфайкі тарчыць); лъба́ціна ж., асудж.*— высокі, вялікі лоб; *лъміна́ м.* і *ж., зневаж.*— вельмі здаровы чалавек (*Выпръў сваю лъміну, ніхай з'ездзіць у Полъцък); лъхма́ціна м.* і *ж., асудж.*— лахматая, валасатая асоба; *людае́дзіна м.* і *ж.*,

*зневаж.*— вельмі злы, люты чалавек *(О, гэта такій людаедзіна, што болі ў міры такіх нет); ля́рвіна ж., зневаж.*— вялікая гультайка; *мълаччы́на м.* і *ж., пахв.*— малайчына; *на́дубіна м.* і *ж., зневаж.*— вялікі гультай *(Жджы, пойдзіць табе робідзь гэта надубіна); няўстру́іна м.* і *ж., асудж.*— вельмі нецярплівы, няўрымслівы *(Пъгадзі ты, няўструіна, куды ты папрэсся — нада ўпярод добра абгукаць, як і што); пабо́іна м.* і *ж., зневаж.*— гультай *(Ну й пабоіна, калом нада вярнуць, сам ніколі ні рухнець); па́дліна м.* і *ж., груб.*— вялікі гультай; *паску́дзіна м.* і *ж., зневаж.*— паскуда; *пръя́віна ж., зневаж.*— звышмодная ў адзенні і паводзінах жанчына; *пустадэ́ліна м.* і *ж., асудж.*— пусты, недалёкі чалавек; пустамалот *(Піръстань тъбаліць, пустадэліна. Што ён калі добръя згукаіць, такі пустадэліна); разі́ня м.* і *ж., груб.*— рассеяная, някемлівая асоба; *раско́ліна м.* і *ж., зневаж.*— хуліган (хуліганка), распуснік (распусніца); *рътазе́іна м.* і *ж., асудж.*— рассеяная, някемлівая асоба; *ръшта́нціна м.* і *ж., асудж.*— хуліган, свавольнік, распуснік; *склю́ціна, склюціна́ м.* і *ж., зневаж.*— скупы і люты чалавек *(Такі склю́ціна, у яго лепі нічога ні прасіць. У, іна бъла тъкая склюціна́: роднъм дзіцям есці ні дъвала); скупіна́ м.* і *ж., зневаж.*— вельмі скупая асоба; *смуро́дзіна м.* і *ж., зневаж.*— пра неахайнага, бруднага чалавека; *старлы́біна м.* і *ж., асудж.*— стары мужчына, жанчына; *стату́іна м.* і *ж., груб.*— вялікі дурань *(Што ты дъпътаісся ў гэтъга статуіны?); убо́іна м.* і *ж., зневаж.*— вельмі ўпарты і гультаяваты чалавек; *удалі́на м.* і *ж., пахв.*— удалы чалавек, удалец; *удо́ціна м.* і *ж., зневаж.*— упарты чалавек *(Во ўдоціна, што ўдумъідзь, дък век кап пъ-ягонъму було); упа́рціна, упра́міна м.* і *ж., асудж.*— упарты чалавек; *уро́дзіна м.* і *ж., асудж.*— урода; *урэ́дзіна м.* і *ж., зневаж.*— шкодная, кепская асоба; *хале́ръна м.* і *ж., зневаж.*— кепская па характару і паводзінах асоба; *харо́міна ж., асудж.*— вялікая хата, будыніна; *хъладзі́на ж.*— халадэча; *хълтъміна́ м.* і *ж., асудж.* — бесталковая, утрапёная асоба *(Ён нейкій хълтъміна, у яго толку ні дайдзіш); хълтъніна́ ж., асудж.*— адзежына; *чарто́віна ж., асудж.*— чартаўшчына; *шкіле́ціна м.* і *ж., асудж.*— вельмі худая асоба; *штуко́віна ж., асудж.*— штуковіна, пэўны прадмет; *шчъніна́ ж., асудж.*— шчанё, малое; *шэ́льміна м.* і *ж., зневаж.*— шэльма.

12. **Словы са значэннем адзінкавасці.** Сінгулятыўны суфікс *-ін-а* ў адрозненне ад іншых яго значэнняў больш позняга, усходнеславянскага паходжання [6]. З гэтым значэннем вельмі прадуктыўны ён і цяпер ва ўсіх усходніх славян, асабліва ў народнай мове, што пацвярджае лексічны матэрыял разглядаемай гаворкі.

На думку У. І. Максімава, «адзінкавае значэнне суф. *-ин(а)* цесна звязана этымалагічна з узмацняльным» [7], бо «...у старажытнарускай мове сабралася група вытворных з раней узмацняльным значэннем суф. *-ин(а),* якія ў выніку выпадзення ўтвараючых слоў ці іншых прычын сталі назвамі адзінкавых прадметаў, якія непасрэдна суадносіліся з назвамі, што абазначалі сукупнасць або множнасць тых жа самых прадметаў» [8]. Гэтыя ж самыя прычыны прывялі да ўтварэння значэння адзінкавасці дадзенага суфікса ў беларускай мове. Завяршэнне фарміравання словаўтваральнага тыпу з сінгулятыўным значэннем суфікса *-ін-а (-ын-а)* прыпадае на той перыяд, калі ўжо існавалі самастойна ўсе тры ўсходнеславянскія мовы. Фарміраванне завяршалася ў кожнай з гэтых моў самастойна, асобна [9].

У гаворцы вёскі Манякова гэты тып вельмі прадуктыўны, асабліва для ўтварэння адзінкавых назваў раслін. Колькасць жа форм з такім значэннем суфікса *-ін-а (-ын-а)* у сучаснай беларускай літаратурнай мове ў параўнанні з колькасцю іх у названай гаворцы значна меншая. Акадэмічная граматыка беларускай мовы адзначае, што гэты тып у сучаснай беларускай літаратурнай мове малапрадуктыўны [10].

У гэту групу намі ўключаны таксама словы з выдзяляльным значэннем дадзенага суфікса (*бісіръна, гъръшъна́* і інш.), які адначасова падкрэслівае і адзінкавасць.

*Аблачы́на* — воблака, хмарка; *або́ръна* — абора, вяроўка; *аглъбліна́* — аглабільна, аглобля; *агрэ́сціна* — адна ягада агрэсту; *адзе́жъна; ажаві́ніна* — адна ягада

---

[6] Максимов В. И. Суффиксальное словообразование имен существительных в русском языке, с. 164.

[7] Там жа, с. 165.

[8] Там жа, с. 167.

[9] Там жа.

[10] Граматыка беларускай мовы, т. 1. Марфалогія, с. 115.

ажыны; *аіръна*—адно сцябло аеру; *акянічъна*—аканіца; *алёшніна* — алешына; *альвасіна* — вазон з альясам; *анучъна; арэшніна* — арэхавы куст; *арэшъна* — 1. Арэхавы куст. 2. Арэхавы плод, арэх; *асоціна, асъціна* — адна сцябліна асоту; *асініна; аспірыніна; асціна* — асцюк; *асъчъна* — адна сцяблінка асакі; *атосіна; атуросціна* — парастак; *аўсіна* — адно зярнятка, адна сцяблінка аўса; *аўчыніна; бацвінніна* — адзін цыбук, ліст бурака; *беліна* — яблыня белага наліву; *бісіръна* — бісерына; *блошъна, блъшъна* — блыха; *бляшъна* — кавалак бляхі; *бомбіна, бонбіна* — 1. Бомба. 2. Варонка, сажалка, якая атрымалася ад выбуху бомбы. 3. Цукерка ў форме шарыка; *бровіна* — брыво; *бруснічъна; брыжъна* — стужка, прышытая да чаго-небудзь; *будыніна; буквіна* — літара; *бульбеўніна, бульбоўніна* — сцябліна бульбяніку; *бульбіна; бумажъна* — кавалак паперы; *бъбіна; бъядэръна груб.*— нязграбная, цяжкая адзежына; *быльніна* — адно сцябло сухога бульбяніку, травы наогул з тоўстым сцяблом; *бэсіна* — куст бэзу; *бярозіна; вазоніна* — вазон; *вербіна* — вярба, вярбіна; *веціна, віціна* — галіна, дубец, віціна; *вінъградзіна* — ягада вінаграду; *вітамініна* — вітамінная таблетка ці дражэ; *вічъна, вічъна* — зярнятка, сцябліна вікі; *вішніна* — 1. Адна вішня (плод). 2. Вішнёвае дрэва; *вольшніна, вольшъна* — адна вольха; *вошъна* — вош; *вусніна* — губа; *вълъсіна* — адзін волас; *въръціна* — адна створка варот; *выбъіна* — каляіна; *газеціна, газэціна* — газета; *гібрыдзіна* — караняплод куузікі; *гірсіна* — адно зярнятка, адна сцяблінка гірсы; *гніліна* — гнілое месца, гніль; *гонціна* — дошчачка гонтаў; *градзіна; грывіна* — 1. Грыва. 2. Пасма травы на скошанай сенажаці; *грыжъна* — адзін караняплод бручкі; *грънштэіна, грънштэйніна* — яблыневае дрэва гатунку «грынштэін, грынштэй»; *грэччъна* — сцябліна грэчкі, зярнятка грэчкі; *губіна* — губа; *гуміна* — кавалак гумы, гумка; *гурбіна* — гурба; *гусянічъна* — гусеніца; *гъляніщчъна, хълявіна* — халява; *гъръшъна* — гарошына; *дзвіръна* — адна створка дзвярэй, варот; *дзюбіна* — дзюба; *дзясніна* — дзясна; *дранічъна* — дошчачка драніцы; *дратвіна* — дратва; *дросніна* — адно сцябло драсну звычайнага; *дръвіна* — палка дроў; *дръціна* — кавалак дроту; *дубіна* — дрэўца дубу, дубовая палка; *дуліна* — адзін плод, адно дрэва грушы з вялікімі пладамі; *дъжджъна* — кропля дажджу; *дыкціна* — кавалак фане-

ры; *жа́біна* — 1. Жаба. 2. *Перан.* Згустак саплей; *жале́зіна* — кавалак жалеза; *жвіръна́, жві́ръна* — адно зярнятка, адна крупінка жвіру; *журавініна; жъгу́ччъна* — сцябліна крапівы-жыгучкі; *жърдзіна́* — 1. Жардзіна, жэрдка. 2. *Перан.* Пра высокага, цыбатага чалавека; *жърствіна́* — адно зярнятка, адна крупінка жарствы; *жы́ліна* — 1. Жыла. 2. Кавалак лёскі; *жы́ціна, жъціна́* — адно зярнятка, адна сцяблінка жыта; *заве́сіна* — завеса; *засты́рніна* — дрэва жасцёру слабіцельнага; *звіръна́* — звер; *зёлчъна* — адна кветка, галінка зёлак; хатняя кветка, вазон; *зъвушні́чъна* — завушніца; *ігру́шъна* — грушавае дрэва, плод з такога дрэва; *ізрэ́бніна* — адна рэч са зрэб'я; *ільніна́, лініна́* — сцяблінка лёну; *іржы́нніна* — адна сцяблінка ржышча; *і́скръна, іскръна́* — іскра, іскрынка; *іспі́чъна*$_1$ — спіца; *іспі́чъна*$_2$ — запалка; *іспо́ччъна* — рукавіца; *кажэ́ръна, къжа́ръна пагардл.* — паўкажушак, кажушок (звычайна стары, каравы); *калі́ніна* — куст каліны, адна ягада каліны; *канві́ліна* — яблыневае дрэва гатунку «канвіль»; *канфе́ціна, канхве́ціна, цуке́рчъна* — цукерка; *капе́йчъна* — капейка; *капро́ніна* — капронавая панчоха; *капу́сціна* — адна сцябліна капусты з карэньчыкам і лісцейкамі; *кардо́ніна* — кавалак кардону; *ка́рціна* — карта (іральная); *катле́ціна* — катлета; *ква́рціна* — кварта (пасудзіна); *кватэ́ръна, квътъръна́* — дзвярная ці аконная створка; *кілбъсіна́* — каўбаса; *кірпічъна́, цъгліна́, цэ́гліна* — цагліна; *кле́віръна, клівіръна́* — адно сцябло канюшыны; *клёччъна* — адна клёцка, страва з дранай бульбы ці пшанічнай мукі ў выглядзе круглых камякоў цеста, часцей з начынкай; *клініна́* — малодзенькае дрэўца клёну; *клубні́чъна* — адна ягада клубнікі; *клы́жніна абразл.* — нага; *кля́ксіна* — клякса; *кля́піна* — вялікі гаплік; *кміні́на, кмініна́* — адно сцябло, адно зярнятка кмену; *крапі́віна* — адна сцябліна крапівы; *кро́кліна, кръкліна́, страпі́ліна* — кроква; *крупіна́; крушы́ніна* — адна ягада крушыны, адзін крушынавы куст; *кръвіна́* — крывая палка; *кръкату́ръна* — карыкатура, смешнае відовішча; *кръпіна́* — сцяблінка кропу; *кудзе́ліна* — ручайка кудзелі; *кузу́ръна* — кузурка; *кукуру́зіна, куркуру́зіна* — адно сцябло кукурузы, адно зерне кукурузы; *кълъшъна́* — калашына; *кънюшы́ніна* — адно сцябло канюшыны; *къпта́ніна* — кафтан; *къпя́шичъна, къпя́шъна* — капа (сена); *късъчъна́* — сцябліна, ліст касача; *къстръна́* — адна парушынка каст-

рыцы; *късціна́* — костка; *лаго́жъна* — адна бакавая планка ў развалках; *ла́піна* — латка; *ла́ціна; ле́іна* — лея; *ле́йчъна, лі́йчъна́* — ляйчына; *ліга́ръна* — падваліна, брус, на які кладзецца падлога; *лібідзіна́* — адна сцябліна лебяды; *лідзіна́* — ільдзіна; *лі́піна* — ліпа; *лу́бініна* — галінка лубіну, адно зерне лубіну; *лу́піна* — тоўстая губа; *лучы́ніна* — адна лучына; *лы́жъна* — лыжа; *лъзіна́* — 1. Куст лазы. 2. Дубец з лазы, наогул дубец, пруток; *лъйніна́* — адзежына; *лъма́чъна* — ламаная, старая, непатрэбная рэч; *лъхта́ніна, лъхтъніна́, хълтъніна́* — верхняя адзежына; *ляшчы́нніна, ляшчэ́ўніна* — куст арэшніку; *макры́чъна* — адна сцябліна макрыцы; *малі́ніна* — маліна, адна ягада малін, адзін малінавы куст; *мало́чніна* — адна сцябліна малачаю; *ма́чъна* — сцяблінка маку; *мо́рквіна; мульта́ніна* — кавалак мультану, адзежына з мультану; *мурла́ціна* — адно доўгае бервяно, на якое ставіцца кроква; *му́шъна* — муха; *мъкаро́ніна* — адна палачка макарону; *мътузі́на* — матуз; *мы́шъна* — мыш; *мэ́рліна* — кавалак марлі; *наці́ніна* — сцябліна бацвіння; *нъздръна́*—наздравіна; *пазе́мчъна*—адна суніца; *палы́ніна* — адна сцябліна палыну; *панчо́шъна*— панчоха; *папе́ръна* — кавалачак паперы; *папле́ціна; папу́ціна* — толькі ў параўнаннях: *ходзіць, як папуціна, надзеўся, як папуціна* — неахайны, неакуратны, у адзенні не па памеру; *парплі́чъна* — дэталь у жорнах; *парэ́мчъна* — апора над кладкай; *парэ́ччъна* — адна ягада і адзін куст чырвоных парэчак; *пасу́дзіна; патко́віна* — падкова; *патпо́ръна* — падпорка; *па́ціръна* — пацерка; *пашы́нніна* — ссечаная алешына (часцей для насцілу); *піво́ніна* — адна кветка і адзін куст півоні; *пігу́лчъна* — таблетка; *піда́ліна* — педаль; *піръна́* — птушынае пяро; *пляйстръна* — скрылік; вузенькая палоска (матэрыі, скуры і г. д.); *пля́міна* — пляма; *пруціна́* — прут; *пръсіна́* — сцябліна проса, крупіна проса; *пчъліна́* — пчала; *пшані́чъна* — адно зярнятка пшаніцы, адна сцябліна пшаніцы; *пъвучы́нніна* — павуціна; *пъліна́* — крысо; *пъляндры́чъна* — паляндвіца; *пъмідо́ръна* — памідор; *пъпіро́сіна* — папяроса; *пэ́йсіна* — пасма валасоў, валакна; *п'яні́чъна, п'яні́чніна* — адна ягада буякоў; *пячэ́нніна* — адна штука пячэння; *рабі́ніна* — адно дрэва, адна ягада рабіны; *радышчъна* — адзін караняплод радыскі; *ра́міна* — рама; *ро́зіна* — куст ружы, кветка ружы; *ръбръна́, ска́біна, скъбіна́* — рабрына; *ръмузі́ніна* — вузкая пало-

ска матэры; *рыбіна; рысіна* — зярнятка рысу; *рэ́хвіна* — рэхва, дэталь у коле, якая сціскае трубку; *рэ́цьчъна, рэ́ччъна* — адна рэдзька; *свірэ́піна* — сцябліна свірэпы; *сілядэ́ръна* — караняплод, сцябло сырадэлі; *скаціні́на* — жывёліна; *слізіна́* — сляза, слязінка; *слі́віна* — адно дрэва і адзін плод слівы; *смаро́дніна* — адна ягада і адзін куст чорных парэчак; *спічъна*₁ — спіца; *спічъна*₂ — запалка; *суко́нніна, суко́нчъна* — кавалачак сукна; *сухасто́іна; съл ъміна́* — саломіна; *сънтаніні́на* — таблетка сантаніну; *съсніна́* — сасна; *сярні́ччъна, сярні́чъна* — запалка; *то́ліна* — кавалак толю; *то́пъліна, то́філіна* — дрэва топаль; *тра́нціна* — адзежына; *търъвіна́; тръпу́тніна* — адзін ліст, адно сцябло трыпутніку; *тръшчъна́* — трэска; *турнэ́псіна* — адзін караняплод турнэпсу; *тъніна́* — кіёк з тыну; *фане́ръна* — кавалак фанеры; *фасо́льніна, фасо́ліна, пасо́ліна* — адно зярнятка і адна сцяблінка фасолі; *фікусі́на* — вазон з фікусам; *фля́нчъна* — флянс; *флянэ́ліна* — кавалак фланелі; *хвъръсціна́* — сцябліна алешніку; *хмызні́на* — сцябліна хмызняку; *хръніна́, хрэ́ніна* — адно сцябло, адзін корань хрэну; *цубравініна, цумбравініна*—калодзежнае бетоннае кола; *цъбу́ліна* — адна галоўка цыбулі, цыбук цыбулі; *цырціна* — адна рыбіна цырты; *цю́ліна* — гардзіна з цюлю; *чарні́чніна, чарні́чъна* — адна ягада чарніц; *чарно́більніна* — адна сцябліна чарнобылю; *чарэ́мшъна* — куст чаромхі; *чарэ́шніна* — 1. Адна чарэшня (плод). 2. Чарэшневае дрэва; *чъпчы́нніна* — куст шыпшыны; *чърапі́чъна* — дошчачка чарапіцы; *чъсніна́* — адна галоўка часнаку, сцябліна часнаку; *шкарпэ́ччъна* — шкарпэтка; *шлъбабо́ніна, шълбабо́ніна*—адно зярнятка і адна сцяблінка дэкаратыўнай фасолі; *шпале́ръна* — кавалак шпалеры; *шпіга́ціна* — кавалак шпагату; *шпура́гушъна* — адзін куст, адна галінка спаржы; *штанке́ціна, штъке́ціна* — штыкеціна; *шуміна́* — парушынка; *шча́віліна, шчъвіліна́* — адно сцябло, адзін лісток шчаўя; *шчъпіна́*— 1. Шчэпка. 2. Дошчачка драніцы; *шы́біна* — шыба; *юргініна* — адна кветка і адзін куст вяргіні; *ю́хціна* — кавалак юхту; *я́блъна* — яблыня; *я́гъдзіна* — адна ягада; *ядле́нчъна, ядле́нчъніна* — адзін куст, адно сцябло ядлоўцу; *ячме́ніна, ічмініна́, ічміна́* — адно зярнятка, адна сцяблінка ячменю.

13. **Словы з вытворным суфіксам -нін-а са значэннем адцягненага дзеяння.** Гэтыя словы абазначаюць у да-

дзенай групе адцягненыя дзеянні. Усе словы гэтай групы — аддзеяслоўныя назоўнікі.

*Біганіна; бурчаніна* — 1. Бурчанне, мармытанне са злосцю, невыразны адказ (*А што мне ейнъя бурчаніна, хай бурчыць, я яе сусём ні баюся*). 2. Бурчанне (у жываце) (*Нейкъя ністрайнъсць у мяне, бурчаніна ў жъваце, а ўръмінамі і рэзь дажа, гэта з ежнъга нечъга*); *бълтаніна* — 1. Сноўданне. 2. Балбатня; *віртаніна* — вярчэнне; непаседлівасць; бязмэтная хада ўзад-уперад; *възаніна* — возка; *груканіна* — грукатня, груканне; *грымзаніна* — крэмзанне, мазаніна; *друганіна* — тое, што і *дръганіна* 1; *дръганіна* — 1. Грукатня, стукатня; 2. Трасяніна; *ізданіна* — язда; *ірзаніна* — ёрзанне, катанне на лёдзе; *крутаніна* — кручэнне; хуткая хадзьба ўзад-уперад; звязаная з хадзьбой, яздой неарганізаваная работа; *кръпаніна* — 1. Блытанне, зблытванне (пражы, вяровак і г. д.); вынік такога дзеяння. 2. Абмотванне, пераплятанне, перавязванне (вяроўкамі, ніткамі, ланцугамі і г. д.); вынік такой работы. 3. Абгароджванне, абцягванне (дротам); вынік такой работы. 4. Вязанне шыдэлкам; вынік такога вязання; *къпаніна* — 1. Капанне (бульбы). 2. Карпаніна; *літаніна* — лётанне, беганне, мітусня; *мільганіна, мільканіна* — мільканне, мільгаценне; хадзьба ўзад-уперад; *мітусяніна* — мітусня; *мішаніна* — мешаніна; *мъзаніна; піканіна* — спякота, гарачыня; *пісаніна; піханіна* — штурханіна; *піцканіна* — пэцканіна; *пуктаніна* — бурчанне, мармытанне са злосцю, невыразны адказ; *пълъсканіна* — паласканне; *пърканіна* — порканне, карпаніна; *ръзаніна; руганіна* — лаянка, лаянне; *слізаніна, слізганіна* — слізганне; *смъжаніна* — смажаніна (дзеянне); *стръляніна; стуканіна; тръсаніна* — трасяніна; *тръсканіна; тузганіна* — тузаніна; *туўканіна* — таўкатня; *туўханіна* — таўханіна; *тъпаніна* — тупаніна; *тъптаніна* — таптанне; *хліпаніна* — слота, хлюпа; *ціганіна; цісканіна; чътаніна; шліпаніна* — мокрае надвор'е; хадзьба ў такое надвор'е; *штураніна* — 1. Штурханіна. 2. Кіданне, шпурлянне.

*А. М. Прышчэпчык*

# НАЗОЎНІКІ З СУФІКСАМ *-j-* У ГАВОРКАХ СТАЎБЦОЎШЧЫНЫ

Прапанаваны ніжэй матэрыял зарэгістраваны ў населеных пунктах паўднёвай часткі Стаўбцоўскага раёна.

У сучаснай беларускай мове суфікс *-j-о (-j-э)* служыць для ўтварэння назоўнікаў са зборным і абстрактным значэннямі. У якасці самастойнай марфемы назоўнікаў ён выступае толькі ў тых выпадках, калі перад ім стаіць губны зычны або зацвярдзелы *р*. У астатніх выпадках суфікс *-j-* асіміляваўся з папярэднім зычным і выклікаў яго падаўжэнне.

Такая з'ява назіраецца не толькі ў беларускай літаратурнай мове, але і ў некаторых гаворках. Не закранула яна, аднак, тэрыторыі Стаўбцоўшчыны. Тут падаўжэння зычных у названых вышэй выпадках не адбылося, а выразна захаваўся суфікс *-j-*.

Большую частку прапанаванага матэрыялу складаюць аддзеяслоўныя назоўнікі з *-j-* тыпу: *збіра́ньё, віншава́ньё, кама́ндаваньё, капа́ньё*. Іх можна падзяліць па сэнсу на некалькі груп. Самую шматлікую складаюць назоўнікі з суфіксам *-j-*, якія абазначаюць абстрактныя паняцці дзеяння: *ababіва́ньё, абва́жваньё, абвя́званьё, абгаро́джваньё, абго́ртваньё, абграба́ньё, абдзьму́хваньё, абду́рваньё, абко́лваньё, абкру́чваньё, абку́рваньё, абле́пліваньё, абніма́ньё, абсмо́ктваньё, абсу́шваньё, абто́птваньё, абціра́ньё, агляда́ньё, адвучва́ньё, адвя́званьё, адга́дваньё, аддо́йваньё, адко́лваньё, адкіпа́ньё, адко́пваньё, адко́рмліваньё, адкру́чваньё, адкрыва́ньё, адку́сваньё, адлі́чваньё, адмо́чваньё, адмыка́ньё, адпа́рваньё, адпрага́ньё, адступле́ньё, адсяка́ньё, адпо́йваньё, адто́пліваньё, адніма́ньё, аку́рваньё, аку́чваньё, ап[illegible]да́ньё, апа́рваньё, аскраба́ньё, ашу́кваньё, бадзя́ньё, бе́ганьё,*

*брукава́ньё, будава́ньё, бу́льканьё, віцьё, выбіва́ньё, вырыкваньё, выва́рваньё, выво́рваньё, выграба́ньё, выдзіра́ньё, выкарчо́ўваньё, выкіда́ньё, выко́пваньё, выкрада́ньё, выло́мліваньё, вымака́ньё, вымало́чваньё, вымешваньё, вымо́чваньё, вымярза́ньё, выпада́ньё, выпро́шваньё, вырыва́ньё, высе́джваньё, выску́бваньё, высмо́ктваньё, высу́шваньё, высціла́ньё, высыпа́ньё, высява́ньё, высяка́ньё, вытраса́ньё, вытру́чваньё, выцвіта́ньё, выціска́ньё, выця́гваньё, выччэ́сваньё, гарта́ньё, гаса́ньё, дабіва́ньё, дава́жваньё, дагара́ньё, дагу́льваньё, дако́рмліваньё, дакру́чваньё, дале́чваньё, даліва́ньё, дамыва́ньё, дапо́лваньё, даco̍льваньё, даспява́ньё, дашыва́ньё, жава́ньё, забе́льваньё, заблу́тваньё, зава́рваньё, зале́чваньё, запа́льваньё, заплю́шчваньё, засціла́ньё, затыка́ньё, зачэ́сваньё, зашыва́ньё, завя́званьё, зго́ртваньё, зграба́ньё, змо́тваньё, змыва́ньё, зніма́ньё, зраза́ньё, зрыва́ньё, казыта́ньё, капа́ньё, карчава́ньё, кача́ньё, кі́даньё, кляпа́ньё, ко́ўзаньё, куса́ньё, лічэ́ньё, маргa̍ньё, марнава́ньё, маха́ньё, муштрава́ньё, навя́званьё, накле́йваньё, накрыва́ньё, намы́льваньё, ані́званьё, напіха́ньё, насто́йваньё, падаграва́ньё, падбухто́рваньё , падвя́званьё, падгля́дваньё, падка́званьё, падкало́чваньё, падка́сваньё, падкі́дваньё, падкле́йваньё, падліва́ньё, падма́званьё, падма́нваньё, падме́шваньё, падмо́ргваньё, падво́йваньё, падпяра́званьё, падру́бліваньё, падса́джваньё, падско́кваньё, падслу́хваньё, падпо́йваньё, падстрыга́ньё, падсу́шваньё, падсціла́ньё, падсыпа́ньё, падсява́ньё, падшпі́льваньё, падшыва́ньё, падыма́ньё, пае́ньё, паке́пліваньё, паклане́ньё, пако́лваньё, палява́ньё, паме́шваньё, панава́ньё, пасынкава́ньё, перабіра́ньё, перабяга́ньё, пераваро́чваньё, перавіва́ньё, пераво́рваньё, пераго́ртваньё, перaграба́ньё, пераграва́ньё, перазьніма́ньё, перайна́чваньё, перако́пваньё, пераку́льваньё, пераліва́ньё, пералі́чваньё, пераліцо́ваньё, пераме́рваньё, пераме́шваньё, перамо́лваньё, перамыва́ньё, перапла́чваньё, пераплыва́ньё, перапро́шваньё, перараза́ньё, перасціла́ньё, перасыла́ньё, перасыпа́ньё, перасява́ньё, перасяка́ньё, пeратраса́ньё, пераxва́льваньё, пераціра́ньё, перачы́тваньё, перачэ́сваньё, перашыва́ньё, перашэ́птваньё, пе́рханьё, пла́ваньё, плю́ханьё, по́ўзаньё, прабіва́ньё, праве́трываньё, прако́лваньё, пракру́чваньё, прapо́шчваньё, прарэ́джваньё, праcве́чваньё, прасу́шваньё, прасява́ньё, пратра́ўліваньё, праціра́ньё, прыбіра́ньё, прыва́рваньё, прывя́званьё, пры-*

*граваньё, прыкормліваньё, прыладжваньё, прынаджваньё, прыплачваньё, прыплюшчваньё, прырошчваньё, прысвойваньё, прысяганьё, прысяданьё, прыцісканьё, прыцягваньё, прычэсваньё, прышпільваньё, прышчэпліваньё, прышываньё, пстрыканьё, пытляваньё, раеньё, разграваньё, разбазарваньё, разблутваньё, разворваньё, развучваньё, разгадваньё, разгінаньё, разгляданьё, разгортваньё, разграбаньё, разгрызаньё, размываньё, разразаньё, расказваньё, раскіданьё, расклейваньё, раскручваньё, раскусваньё, распальваньё, расплюшчваньё, распорваньё, распраганьё, распытваньё, расчэсваньё, расшпільваньё, святкаваньё, сеяньё, сіласаваньё, скручваньё, спойзваньё, ссоўваньё, ссыпаньё, струганьё, сцэджваньё, сшываньё, тапганьё, тканьё, тузаньё, тушэньё, тынкаваньё, тыцканьё, тычкаваньё, увязваньё, узважваньё, уклейваньё, укопваньё, укручваньё, уладжваньё, уліваньё, умазваньё, упіканьё, упрошваньё, ускопваньё, утойваньё, чаранкаваньё, часаньё, чытаньё, чэрпаньё, шараваньё, шаткаваньё, шатраваньё, шкадаваньё, шлёпаньё, шнураваньё, шпакляваньё.*

Да другой групы адносяцца назоўнікі, якія акрамя паняцця дзеяння маюць яшчэ значэнне ліку дзеяння: *абклейваньё, абмазваньё, абмешваньё, абмотваньё, абсяканьё, абшываньё, выкройваньё, выпілоўваньё, выразаньё, габляваньё, дабудоўваньё, задаваньё, дамешваньё, дамотваньё, заворваньё, заквашваньё, замазваньё, замарожваньё, крахтаньё, лапатаньё, ляcканьё, наколваньё, накручваньё, напамінаньё, перасыланьё, рыканьё, сакатаньё, скавытаньё, стагнаньё, сыканьё, усушваньё, усхліпваньё, храпеньё, хрустаньё, цвірканьё, цыраваньё, шаптаньё, шчабятаньё.* Усе яны маюць у другім значэнні адпаведнікі без суфікса *-j-* (з іншымі суфіксамі або бяссуфіксныя): *абмешка, абмотка, абсечка, абшыўка, выкрайка, выпілоўка, выразка, габлёўка, дабудоўка, дадача, дамешка, дамотка, загавор, закваска, замазка, замарозка, крэхт, лопат, ляскат, наколка, накрутка, напамін, перасылка, рык, сокат, сковыт, стогн, сык, усушка, усхліп, храп, хруст, цвіркат, цыроўка, шэпт, шчэбет.* Назоўнікі гэтай групы амаль усе ўтвораны ад прамапераходных дзеясловаў, за выключэннем тых, якія акрамя дзеяння абазначаюць яшчэ гукі гэтага дзеяння.

Трэцюю групу складаюць назоўнікі з суфіксам *-j-*,

якія акрамя дзеяння маюць значэнне стану: *абяскро́ўліваньё, апо́йваньё, выплыва́ньё, выпрамле́ньё, выпро́стваньё, выскаля́ньё, высыха́ньё, галада́ньё, гарава́ньё, жабрава́ньё, жада́ньё, завяршэ́ньё, закіса́ньё, закіпа́ньё, заляца́ньё, замярза́ньё, заражэ́ньё, застыва́ньё, калыва́ньё, калыха́ньё, квахта́ньё, кіпе́ньё, кульга́ньё, лётаньё, ляжа́ньё, набрака́ньё, набуха́ньё, наку́льгваньё, недасыпа́ньё, нідамага́ньё, нідаяда́ньё, пакая́ньё, пасяле́ньё, паце́ньё, расцяжэ́ньё, расшырэ́ньё, сьлізга́ньё, уздры́гваньё, узду́цьё, чака́ньё.*

Назоўнікі з суфіксам -*j*- акрамя значэння дзеяння маюць яшчэ значэнне канкрэтных прадметаў: *варэ́ньё, віншава́ньё, вяза́ньё, гафтава́ньё, кама́ндаваньё, лячэ́ньё, марынава́ньё, мача́ньё, надзява́ньё (начынка), naціра́ньё, падко́рмліваньё, падмацава́ньё, паласка́ньё, пляце́ньё, пячэ́ньё, сма́жаньё, сне́даньё, сталава́ньё, угнае́ньё, частава́ньё.*

Ёсць невялікая група аддзеяслоўных назоўнікаў з суфіксам -*j*-, якія не маюць значэння дзеяння, а паказваюць, у якім стане знаходзіцца прадмет: *галавакружэ́ньё, замарачэ́ньё, зацвярдзе́ньё, зацьме́ньё, зіхаце́ньё, змярка́ньё, нідаразуме́ньё, падазрэ́ньё, памутне́ньё, пахалада́ньё, пацяпле́ньё,ператамле́ньё, працвeражэ́ньё, хаце́ньё, цярпе́ньё, чуцьё.*

Вельмі блізкія па значэнню да пералічаных вышэй назоўнікаў такія, якія абазначаюць не стан прадмета, а вынік дзеяння: *патрэ́скваньё, пераcо́льваньё, прыліпа́ньё, прымірэ́ньё, разгарне́ньё, ране́ньё.* Толькі нязначная частка назоўнікаў не звязана з дзеясловамі. Яны абазначаюць канкрэтныя прадметы: *багаві́ньё, жабуры́ньё, каме́нья, насе́ньё, паднябе́ньё, пакале́ньё, рабаце́ньё, рыштава́ньё.*

Падвойвалася на месцы -*j*- не толькі «н», але і іншыя зычныя. Назоўнікі з падвоеным «ж»: *бязме́ж'ё, мнагабо́ж'ё;* «дз»: *бязво́дзьё, бязлю́дзьё, двухсотго́дзьё, дзесяціго́дзьё, малаво́дзьё, мелкаво́дзьё, міжра́дзьё, паўго́дзьё, паўнаво́дзьё, разла́дзьё, шасціго́дзьё, шасцісотгодзьё;* «л»: *беззяме́льё, бязво́льё, гальё, двухпо́льё, засто́льё, зе́льё, кры́лья, малазяме́льё, многазяме́льё, навако́льё, падпо́льё, пахме́льё, рукадзе́льё, сваво́льё, слабасі́льё, сухажы́льё, шасціпо́льё;* «с»: *бязле́сьё, драбнале́сьё, касьё, малале́сьё, мнагале́сьё, падно́сьё, паднябе́сьё, перано́сьё, рэдкале́сьё, узле́сьё, чарнале́сьё;*

«ц»: *бяспа́мяцьё, заку́цьё, калацьё, кло́цьё, лахмо́цьё, ліхале́цьё, міжпу́цьё, набыцьё, ніпаўнале́цьё, пабіцьё (пабіцьё рэкордаў), паўзабыцьё, піцьё, пражыцьё, прапіцьё, прыбыцьё, прыкрыцьё, раскрыцьё, сухапу́цьё, сьмяхо́цьё;* «ч»: *зарэ́ч'ё, прырэ́ч'ё.*

Большасць з іх звязана з прыметнікамі і толькі нязначная частка ўтворана ад дзеясловаў і іншых часцін мовы.

*Г. Ф. Юрчанка*

# ПРЫМЕТНІКІ З ПАМЯНШАЛЬНА-ЛАСКАЛЬНЫМІ СУФІКСАМІ Ў ГАВОРЦЫ АДНОЙ ВЁСКІ

Прыметнікі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі ў слоўнікі літаратурнай мовы звычайна не ўключаюцца. Рэдка сустракаюцца яны і ў зборах дыялектнай лексікі. Не звяртаюць на іх увагі, відаць, таму, што ўтвараюцца яны досыць аднастайна. Але іх утварэнне, а таксама слова- і формаўтваральныя сродкі ў розных гаворках не зусім аднолькавыя.

У гэтай падборцы падаецца частка прыметнікаў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі, запісаных у в. Кудрычы на Мсціслаўшчыне. Яны дзеляцца на дзве групы. Першую складаюць уласна памяншальна-ласкальныя прыметнікі. Па сваёй утваральнай аснове яны суадносяцца з якаснымі прыметнікамі і маюць іх значэнне з памяншальна-ласкальным адценнем. Другую групу складаюць прыметнікі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі, утвораныя ад іншых прыметнікаў. Яны таксама маюць значэнне тых прыметнікаў, ад якіх утвараюцца, але без памяншальна-ласкальнага адцення. Такія прыметнікі выступаюць звычайна ў спалучэнні з назоўнікамі, якія маюць памяншальныя суфіксы або абазначаюць малых істот ці ў іншых падобных умовах. У адрозненне ад уласна памяншальна-ласкальных прыметнікаў гэтыя вытворныя прыметнікі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі можна ўмоўна назваць сітуацыйнымі. З іх у сваю чаргу выдзелена чатыры падгрупы ў адпаведнасці з характарам утваральнай асновы.

Размешчаны адзначаныя прыметнікі ў кожнай групе і падгрупах ў алфавітным парадку. Рэестравае слова падаецца ў літаратурным запісу. Пры тлумачэнні ўказваецца толькі на агульнае значэнне прыметніка. Дадатковае сэнсавае адценне ў таго ці іншага прыметніка з

памяншальна-ласкальным суфіксам адзначаецца ў тых нешматлікіх выпадках, калі яно адрозніваецца якой-небудзь асаблівасцю.

Уласна памяншальна-ласкальныя прыметнікі.

АКУРАТНЕНЕЧКІЙ. Вельмі акуратны. *Іна увы ўсякім дзелі акуратнінічкыя, ты пыглядзі, ікая ў яе чыстыта ў хаці, як спыраччына ўсё, прібраджына.*

АКУРАТНЕНЬКІЙ. Акуратны. *Каб ты быў такей акуратнінькій, як Паўлік, с табою б і горя було мала.*

АСТАРОЖНЕНЬКІЙ. Асцярожны. *Нада быць астарожнінькім, цяперя цехнікі ўсякія многа, глядзі ды глядзі, каб дзіцёнык пыт каткі ні падлез.*

БАГАЦЕНЬКІЙ. Багаты. *Я такей быгацінькій, як і ты, мы с табою роўна зырыбатывыім.*

БАДЗЁРАНЬКІЙ. Бадзёры. *Сяньня яны бадзёрінькія ходзюць, Анька іх ладна ўгасьціла. Чаму ня будзіць бадзёрінькій, калі ў сваты сыбіраіцца.*

БЕДНЕНЕЧКІЙ. Бедны; няшчасны. *Тыкая была беднінічкыя старушка, у яе нічагенічка ні було, што на ёй і — ўсё. Дужа ты беднінічкій, як толька дышыш, можа яшчэ адну карову прыдаць нада.*

БЕДНЕНЬКІЙ. Бедны; няшчасны. *Іх було троя братоў, усе былі беднінькія. Астаўся етый мальчышка беднінькій, мачыха ікая ні харошыя, а ня родныя матка.*

БЛЕДНА-ГАЛУБЕНЬКІЙ. Бледна-сіні. *Рылыўськія дзеўкі бралі січчык бледна-галубінькій, можа б, і мне стоіла ўзяць. Пріятный цьвет бледна-гулубенькій, бярі, красівыя будзіць плацьця.*

БЛЕДНА-ЖОЎЦЕНЬКІЙ. Бледна-жоўты. *Я ні знаю, як яны завуцца, такея во бледна-жоўцінькія цьвяткі трошку драбнейшыя, гаворюць, іх ны націрку ныстаівыць дужа пальзіцільна.*

БЛЕДНА-ЗЯЛЁНЕНЬКІЙ. Бледна-зялёны. *Краска бледна-зялёнінькыя, нада, каб трошку ярчэй была, тады б крысівей глядзелыся.*

БЛЕДНА-КРАСНЕНЬКІЙ. Бледна-чырвоны. *Купіла свайму бледна-красьнінькыю рубашку, паходзіць лета, іна лёгінькыя сіццывінькыя.*

БЛЕДНА-РОЗАВЕНЬКІЙ. Бледна-ружовы. *Шоўку бледна-розывінькыга ныбрала, быгатыя плацьця пашыіць. Ірьві етыя бледна-розывінькія цьвяткі, яны крысівейшыя.*

**БЛЕДНА-СІНЕНЬКІЙ.** Бледна-сіні. *Нырвала нейкіх бледна-сініцькіх цьвецікыў, ліжаць вун у сенцых ны яшчычку. Надзень-ка ты бледна-сініцькыя плацця, яно ікраз пы табе пашыта і Колю, я знаю, пыныравіцца.*

**БЛЕДНЕНЕЧКІЙ.** Бледны. *Чуць выкырыпкыўся, пасьці два месіцы ў бальніцы пралежыў, бледнічкій выйшыў, слабёсінькій.*

**БЛЕДНЕНЬКІЙ.** Бледны. *Бледнінькія яны абоя, ты іх луччы кармі, абізáцільна зыстыўляй сырадой піць урáньні і увечырі пы стыкáнчыку. Бледнінькій мыцірія́л, луччы ты яго саўсім ні бяры.*

**БЛІЗЕНЕЧКІЙ.** Вельмі блізкі. *Ну калодзіж жа ў іх блізінічкій, што тама вядро вады прінесьць, дык будуць тургувáцца.*

**БЛІЗЕНЬКІЙ.** Вельмі блізкі. *У блізінькія б кусты зьбегылі, бабык троху ныбралі, каб пыстáвіць зварíць було на дзень, а сушыць я іх дужа ні люблю.*

**БЛІЗЁХЕНЬКІЙ.** Вельмі блізкі. *Яны блізёхінькія друзья, пряма вадою ні разьліць.*

**БЛІСКУЧАНЬКІЙ.** Бліскучы. *А ў цябе нешта бліскýчынькыя, пыкажы́, пыкажы́, што там.*

**БЛЯКЛЕНЬКІЙ.** Бляклы, бледны. *Узілá січчыку бля́клінькыга,— нікрасівый. Якей-то від у яго бляклінькій, ці пірігуля́ў, ці зыбалеў, можа.*

**БОЛЬШАНЕЧКІЙ.** Большы. *А ці ты ня чула: яе большынічкыя дужа хырашо выйшла замуж, у яго толька бацька з маткыю, быльшая квацера, свыя машына і работа блізка і ў яго, і ў яе.*

**БОЛЬШАНЬКІЙ.** Большы. *Варкін большынькій у ваенныю школу пуступіў, ны хвіцэра вýчыцца, а меншый шохвірым у сваім калхозі, яму увосінь у армію іціць.*

**БРАВЕНЬКІЙ.** Бравы. *Ты ні глядзі, што такей, ета на від толька зумухры́шычка, а так ён бравінькій, ого як с Анькыю другей раз шчэпюцца,— ні разьвесьць.*

**БУЙНЕНЬКІЙ.** Буйны. *Гурочыкі ўжо бýйнінькія, дзень-два і можна будзіць ачшчыпнýць каторый. У Ганны ўсе дзеці буйнінькія радзіліся і здаровінькія былі.*

**БУЛАНЕНЬКІЙ.** Буланы. *Помніш Грішку, ну булáнінькый кыбылёнкі езьдзіў тута? Буланінькій канёк ладный быў, загýны яму нілізя даць.*

**БУРАНЕЧКІЙ.** Буры. *Ізь етыя бурінічкія нічога каройка выйдзіць, яе матка дужа малошныя.*

**БУРАНЬКІЙ.** Буры. *Бурінькыга бычка кінулі на се-*

*мя. Пыд дажджом сена пубуло два разы, дык яно ўжо ня жоўцінькыя, а буріនькыя.*

БУРОСЕНЬКІЙ. Буры. *Пайду глядзець бурёсінькыю сваю, нешта мыкыіць, мяне завець.*

БУРДОВЕНЬКІЙ. Бардовы. *Я сяньня купіла два бурдовінькія платочыкі. Посьлі вайны асталыся адно бурдовінькыя плацьціца, і ў горыд, і ны вічарінку — усюдых у ём.*

БЫЙСТРАНЕЧКІЙ. Хуткі, шпаркі. *Дужа ты быйстрінічкій, ні нада сьпяшыць так, пасьпеіш іщчэ набегыцца.*

БЫЙСТРАНЬКІЙ. Хуткі, шпаркі. *Ён быйстрінькій, як мітульга, туды-назад зносіцца. Ня будзь тыкая быйстрінькыя, цябе ніхто ня гоніць.*

БЫЙСТРОСЕНЬКІЙ. Хуткі, шпаркі. *Іна ўжо ціряшчур быйстрёсінькыя, верна, у бабу ўрадзілыся.*

БЫЙСТРУСЕНЬКІЙ. Хуткі, шпаркі. *Ну такея ж быйстрюсінькія, пряма ня згледзіш, толька тут гулялі — ужо лазюць па пуні, што, як зваліцца каторый.*

БЯДНЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі бедны. *Я іх помню: дужа беднёсінічкія былі, свайго ў іх нічагенічка ні було.*

БЯДНЁСЕНЬКІЙ. Вельмі бедны. *Што бяднёсінькія — жалка, а то што жыць ня ўмеюць — за ета хваліць нечыга, рупыты нада большы.*

БЯДНЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі бедны. *Такей ужо быў бяднюсінічкій, адны вуглы, у хаці хуць шаром пыкаці, стылá і таго ні було.*

БЯДНЮСЕНЬКІЙ. Вельмі бедны. *Біз бацькі, бяднюсінькія, што мы нугурювáліся малыя, пяціра адзін пыд адзін, маткі адной хуць рызарьвіся було.*

БЯЛЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі белы. *Нявестка як зыслала мне пасьцель, просьціна бялёсінічкыя, нáвылычкі крухмáльныя: лажыціся, мама, а мне ажно страшна ў такую пасьцель лажыцца.*

БЯЛЁСЕНЬКІЙ. Вельмі белы. *Полька—дужа быльшая акурацістка, у яе усё бялёсінькыя, усё чысьцінькыя, зы бяльлё тоя і брацца страшна, а ў хаці прібрáджына — ні пылінычкі, ні пурушынычкі.*

БЯЛЁХТАНЕЧКІЙ. Вельмі белы. *Яны пы-нашыму ужо ні жывуць, у іх усё чысьцінькыя, пасьцель бялёхтынічкыя, трі разы ў месіц міняюць абізацільна, як дзесіць дней прайшло, так новыю і сьцелюць.*

БЯЛЁХТАНЬКІЙ. Вельмі белы. *У Ксеньні ўсё чысь-*

*цінькыя, бялёхтынькыя, іна дужа быльшая акурацістка і сваіх прі́йчыла: глідзяць зы пырядкым.*

БЯЛЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі белы. *Адзежы такея лёхкія многа прівязьлі, Домна пыка́зывыла на́вылычкі — бялю́сінічкія с кружувамі, дужа прігожыя.*

БЯЛЮСЕНЬКІЙ. Вельмі белы. *Прівізла мне нявестка платочык — бялю́сінькій-бялюсінькій, а пы крыйках цьвяты жоўтыя, красівый платок. Кажныя дзеўка глядзела — што-што ні дыбяліць, а рушнікі каб былі бялюсінькія, яны ж усігда вісяць на вычах, на відным месьці, няўмека, скажуць.*

БЯЛЮХТАНЕЧКІЙ. Вельмі белы. *Васіль быў хлопіц хуць куды, бувала, ідзець па вуліцы, рубашка бялю́хтынічкыя, сам вісокій і крайкыю красныю пытпіря́жыцца.*

БЯЛЮХТАНЬКІЙ. Вельмі белы. *У мае маткі кужыль усігда быў бялюхтынькій, як сьнег, іна дужа хырашо адбелівыла.*

БЯЛЯВЕНЕЧКІЙ. Бялявы. *Усё ўремя, мы зымічаім, ходзіць зь ёю па горыду такей білявінічкій пачшчоглінькій.*

БЯЛЯВЕНЬКІЙ. Бялявы. *І на від яе дзяўчонычкі нічога, білявінькія, і ны работу выйдуць — усё ў іх гаріць у руках.*

ВАДЗІНЕЧКІЙ. Вадкі. *Піряпечычкі вадзінічкія, чуць у печ укінула, русплуваюцца ну лупаці.*

ВАДЗІНЬКІЙ. Вадкі. *Кажыцца, нурмальна рышчыняла, а ён пулучыўся вадзінькій, ці ня рослыя трошку мука, тады рызьбіваіць.*

ВАЙСТРОСЕНЕЧКІЙ. Вельмі востры. *Ай, якей жаеты нож вайстрёсінічкій, худзь ба яго дзеці, крый бог, ні пупалі, пыпарежуць пальцы сабе.*

ВАЙСТРОСЕНЬКІЙ. Вельмі востры. *Во ета ўмеіць давесьць, во ета хызяін, ножні вайстрёсінькія, палічкі пыпрібіва́ны, люба глядзець, хату, як ляльку, давёў.*

ВАЙСТРУСЕНЕЧКІЙ. Вельмі востры. *Во ўжо зяць пупаўся Ганьні, зылатэй чылавек, усё пыпадзелыў, усё пыпрібіра́ў, пынавёў, я ўзіла ножыкі, ліжалі ны лаўкі, пашчу́пыла — вайстрю́сінічкія.*

ВАЙСТРУСЕНЬКІЙ. Вельмі востры. *Ножні вайстрю́сінькія, кажыцца, самі режуць, ідуць пы пылатну — нячутна, так ні ўсякій нывядзець.*

ВАРАНЕНЬКІЙ. Вараны. *Такога кыня нійдзе ні*

*найдзіш, як наш выраненькій быў, за ўсю акругу бы́ў конь.*

ВІНАВАЦЕНЕЧКІЙ. Вінаваты. *Вінува́цінічкій прішоў, ні глядзіць і гылавы ні пыднімаіць.*

ВІНАВАЦЕНЬКІЙ. Вінаваты. *Ты сам вінува́цінькій, а ну другіх сьпіхывыіш. Ні шукай вінувацінькіх, кылі сам жыць ня ўмеіш.*

ВІСОКЕНЬКІЙ. Высакаваты. *Відзіла, мама, бегыў тута вісокінькій мульчуга́н у кра́сьнінькый рuба́шычкі — ета ўжо унук мой такей, Аўдоткін большый.*

ВІСОЧАНЬКІЙ. Высакаваты. *На рост іна нічога, вісочынькыя дзяўчонка ны свае гады. Тады ўсе бегылі, як кырапу́зьлікі, а цяперя пыдрасьлі, вісочынькія сталі.*

ВІХРАВАЦЕНЬКІЙ. Віхрасты. *Пыря́дышный ужо мальчык бегыіць, віхрува́цінькій, увесь у Высілёву пароду пашоў.*

ВІХРАСЦЕНЕЧКІЙ. Віхрасты. *Відзіш, якей віхра́сьцінічкій пыдрыстаі́ць, скора піряменіць бацьку.*

ВІХРАСЦЕНЬКІЙ. Віхрасты. *Ці ні к тваёй ета дачке лешчынскій віхра́сьцінькій бегыіць, ён тута дужа часта буваіць.*

ВОЙСТРАНЕЧКІЙ. Вельмі востры. *Войстрінічкыя шыльца, ім ня толька праколіш кожу, а й с пальцымі глядзі астыражней, ашыбнесься і ўсодзіш, рану зьдзелыіш.*

ВОЙСТРАНЬКІЙ. Вельмі востры. *Такей быў харошый ножык, дужа войстрінькій, ажно жалка. Ты зь ім ціхінька, яно войстрінькыя шыльца.*

ВОЛЬНЕНЬКІЙ. Вольны, свабодны. *Каб жа я быў вольнінькій, як ты, я б ня столька ўсяго нызыпа́сіў. У мяне ўремя вольнінькыга німа пы грібах бегыць.*

ВОПЫТНЕНЬКІЙ. Вопытны. *Ты, канешня, увы ўсякім дзелі вопытнінькій, толька бульбу пыскырадзіць ні прідýмыіш як.*

ВУЗЕНЕЧКІЙ. Вузкі. *Вýзінічкыя палосычка асталыся, толька на повыдзі прывядзеш карову, гнаць — ні прагоніш.*

ВУЗЕНЬКІЙ. Вузкі. *Такея вýзінькія штаны ныдзіваць аж нікрасіва. Рыспарола сваё вузінькыя плацьця, там быў зыпас, пашы́рю.*

ВУЗЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі вузкі. *Пла́цьціка тоя вузёсінічкыя, у апця́жычку, абляпіла яе, што ні пывярнýцца, чі шылахнýцца.*

ВУЗЁСЕНЬКІЙ. Вельмі вузкі. *Кінулі вузёсінькій праход, удваіх ні рызьмінуцца, можна ж було шыршый кінуць.*

ВЯРТЛЯВЕНЬКІЙ. Вяртлявы. *Такей ужо віртля́вінькій, мінуты нійдзе ні пысядзіць, на рукі, з рук, мінутку папоўзыіць — узноў нянчыся зь ім.*

ВЯСЁЛЕНЕЧКІЙ. Вясёлы, здаровы. *Чатырі дні балеў, ны галоўку усё жаліўся: тута боля, а сяньня вясёлінічкій гуляіць, толька пыблядней за ета ўремя.*

ВЯСЁЛЕНЬКІЙ. Вясёлы, здаровы. *Ну тыкая ўжо вясёлінькыя цёлычка, цалюхтынькій дзень скачыць. Пашлі вясёлінькія ад Домны, відна, бутылычка ў яе была.*

ГАДЗЕНЕЧКІЙ. Гадкі. *Га́дзінічкіх я ні хацеў брать, а ладных пырысят ні було з ма́лых, пыря́дышныя былі нічога, яны пасьці пацьсьвінкі.*

ГАДЗЕНЬКІЙ. Гадкі. *Нашто табе га́дзінькыя такоя пальто браць, дыба́ў паўсотні ды купі путну́ю вешч, дык табе вун на сколька хваціць.*

ГАДЗЁСЕНЕЧКІЙ. Гадкі. *Гадзёсінічкія пырысяткі, нейкія карелыя, яны ці выжывуць.*

ГАДЗЁСЕНЬКІЙ. Гадкі, зусім дрэнны, нічога не варты. *Адна нейкыя баба гырыдзка́я вынісла рыса́ду, гадзёсінькыя, падойдуць, пыглідзяць і атойдуць, выбрыць нечыга.*

ГАДЗЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі гадкі. *Ні нада мне такіх гадзю́сінічкіх ціплят і дырма, во сьмела дывай і ні вазьму.*

ГАДЗЮСЕНЬКІЙ. Вельмі гадкі. *Ну што мне яго рызглідаць, твой пінжак, калі ён гадзю́сінькій.*

ГАЛЕНЕЧКІЙ. Зусім голы; бедны. *Рубашычку зьніміць і галенічкій бегыіць пы хаці. Твыя жызьня ні маёй вірста, я і галенічкыя ныхадзілыся, і горя пыспыта́ла большы некуды, а вы на ўсім гатовым жывіцё.*

ГАЛЕНЬКІЙ. Голы. *Пойдзіць галенькій: мне цёпла, а тады зыхалодзіцца, прастудзіцца, пірьха́іць ноч як у бочку. Гляджу — біга́ць галенькія, пляхотычкі на іх.*

ГАЛЮСЕНЕЧКІЙ. Голы; бедны. *Посьлі немцыў асталіся галю́сінічкія, ні падыслаць, ні накрыцца, ні пірядзецца, айдзе гылаву ны зіму́ прітуліць, думый.*

ГАЛЮСЕНЬКІЙ. Голы; бедны. *Галю́сінькыю ты ні хадзіла, ніпраўда, цётка табе крепінька пымыгала, а што табе шаўкоў ні хвытала, дык іх ні ў кога ні було.*

ГАРАЧАНЕЧКІЙ. Гарачы. *Печ гырячынічкыя, пріпала к поду, дык ажно ляхчэй дыхыць стала, я дужа крепка прастыла.*

ГАРАЧАНЬКІЙ. Гарачы. *Зьеж гырячынькыга, сагреісься, ты крепка пірікалеў. Ня будзь такей гырячынькій, ні кіпяціся, кылі табе людзі праўду гаворюць, дык слухый: с тымі нікому зьвязывыцца нільзя.*

ГАРКАВЕНЬКІЙ. Крыху горкі. *Мы пробывылі етыя ягыды, іх можна есьць, трошку гырькáвінькія, гаворюць, адж жывытá дужа палезны.*

ГАТОВЕНЕЧКІЙ. Гатовы. *Дзьве гатовінічкія кохтычкі ўзіла, пытпарю і прыстрачý, калі айдзе ня будзіць пытхадзíць.*

ГАТОВЕНЬКІЙ. Гатовы. *Дровы ў цябе гатовінькія, выда табе наношына, сядзі ў хаці ды тапі печ, дайжа бульбы наскоблюць.*

ГЛАДЗЕНЕЧКІЙ. Вельмі гладкі. *Ікая глáдзінічкыя бумага, па ёй пяро само будзіць хадзіць, а мы ў вайну пісалі ны ўсякый, ікая пупыдáлыся — і ны газетых, і ны шпалерых.*

ГЛАДЗЕНЬКІЙ. Вельмі гладкі; сыты. *Адзін шост глáдзінькій, тэй, што нат печчу, а тута сучкі, павесіш — зьнімай і глядзі, каб ні пырваць. Гладзінькія, разьеліся за лета, хырашо адгуляліся.*

ГЛАДЗЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі гладкі. *Сьпецна доскі пустругáны, гладзёсінічкія, такей мост ні зыдзярецца, яго мыць хырашо будзіць.*

ГЛАДЗЁСЕНЬКІЙ. Вельмі гладкі. *Пылатно гладзёсінькыя, ні бугуркá, ні маршчы́начкі,— ну што ты, іна ткаць умеіць, яе і матка харошыя мысьцяріца была.*

ГЛАДЗЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі гладкі. *Лáўкі гладзю́сінічкія, як сьцякло. Гладзюсінічкій лёд, на ім ня то што йціць, а стыяць ня ўстоіш.*

ГЛАДЗЮСЕНЬКІЙ. Вельмі гладкі. *Мыцíріял гладзю́сінькій, нейкій ня шэрсьць, а ці шыўёт, ці яшчэ нешта луччыя, дужа быгатыя пальто спрáвілі.*

ГЛУБОКЕНЬКІЙ. Глыбокі. *Нашы сажылкі былі глубокінькія, у іх многа пянькі лезла. І речка мялеіць, ужо ні тыкая глубокінькыя, як раншы.*

ГНІЛЕНЕЧКІЙ. Гнілы. *Уся хата гніленічкыя, яны і прыдаюць, што ў ёй жыць большы нілізя, а ты надумыўся гнільлё купляць.*

ГНІЛЕНЬКІЙ. Гнілы. *Нескылька гніленькіх пáлы-*

*чык ляжыць пыць сьцяною, яны ўжо ні на што ня годны, толька на дровы парезыць.*

ГНЯДЗЕНЕЧКІЙ. Гняды. *Трі гнядзенічкія стрыгункі бегыюць у тубуне, красівыя будуць коні.*

ГНЯДЗЕНЬКІЙ. Гняды. *Зыпрягі гнядзенькыга, паўвозіка пріцягніць У нас тады ў разруху красівыю гнядзенькыю жарёбку укралі.*

ГОЛЕНЕЧКІЙ. Голы, вельмі лёгка апрануты. *Чаго етый Якыў ні тваріў, бувала, шубу вывірніць, надзеніць і ў бані пыд вакенца гы-ы-ы, мы голінічкія бягім у жыта хувацца. Голінічкія хочуць іціць такою хыладзінью.*

ГОЛЕНЬКІЙ. Голы, лёгка апрануты. *Голінькій ляжыць на пасьцілкі, ныгамі дрыгыіць і сьмяецца. Сыбіраіцца замуж голінькыя, толька што на ёй і ўсё, матка была бязрўпытныя і дычка тыкая.*

ГОРКЕНЬКІЙ. 1. Горкі. *Якея-то ігрушкі тваe горькінькія, есьць іх ня будзіш, высып у шайку.* 2. *Перан.* Пакрыўджаны, няшчасны. *Горькінькыя ў яе доля, што тама гываріць, зразу жызьня ні зыдылася.*

ГРАЗНЕНЕЧКІЙ. Брудны. *Сядзіць мурзáцінькій, грязьнінічкій і кулупáіцца ложкыю ў чугуночыку.*

ГРАЗНЕНЬКІЙ. Брудны. *Ты ўжо грязьнінькій пырядышныга, нада б баню прукуріць. Грязьнінькыга платочыка ні зывязывый.*

ГРАЗНЁХЕНЬКІЙ. Брудны. *І дзеці даўно ня мытыя, грязьнёхінькія, і самі кажный дзень у пылі, як раз хлеба ўкусіць, баню тапіць нада.*

ГРУБЁСЕНЬКІЙ. Грубы. *Грубёсінькіх нарезылі жордычык, будуць дзіржáцца, а тэя былі тонінькія і пулумаліся.*

ГРУСНЕНЕЧКІЙ. Сумны. *Сідзяць удзьвюх грўсьнінічкія: што цяперь дзелыць, куды кінуцца.*

ГРУСНЕНЬКІЙ. Сумны. *Пашлі тваe госьці грўсьнінькія, нешта ты іх ні так устреціла, ці, можа, пра дзевіря спрасіла?*

ГРУСНЁСЕНЬКІЙ. Сумны. *Чаго ты такей грусьнёсінькій, у цябе ж бяды бальшэя німа.*

ГУСТЛЯВЕНЕЧКІЙ. Густаваты. *Я гываріла табе, сей рядзей, густлявінічкій пулучыўся ячмень, каб рядзей быў, зярно тады буйнейшыя.*

ГУСТЛЯВЕНЬКІЙ. Густаваты. *Ны нашых участкых густлявінькій лён, ён дужа вісокій ня будзіць, ну вылакно харошыя, бальшым номірым ідзець.*

ГУСЦЕНЕЧКІЙ. Густы. *Ты еж, еж, гу́сьцінічкыя каша, грецкыя ўсігда смашныя. Гу́сьцінічкій сысьнячок засеў па выгыры. Клевір гусьценічкій, ён буйный ня будзіць, такей скот лучны есьць біс цурба́льля.*

ГУСЦЕНЬКІЙ. Густы. *Гу́сцінькыя цімахвеівычка бярецца, я ўдабрі́ў, а дажджы пытправілі няплоха. Гу́сьцінькій кулеш, я такей люблю. У нас пы аборкых гусьценькій брезьнічык быў, у харошыю ўжо аглоблю ўзяўся.*

ГУСЦЁСЕНЬКІЙ. Вельмі густы. *Ічмянёк гусьцёсінькій, кыласок к кыласку, травы ні травінкі, многа зьбяруць сёліта.*

ДАЛІКАТНЕНЬКІЙ. Далікатны. *Каб ты быў меншы дылікатнінькій, лучны було б. Такою дылікатнінькыю і яго матка была.*

ДАРАГЕНЕЧКІЙ. Дарагі, любімы. *Ріпярцiціся, дзеўкі, вашы дырагенічкія абішчалі пріціць ны вічарінку, сяньня Санька іграць будзіць.*

ДАРАГЕНЬКІЙ. Дарагі, любімы. *Была-была дырагенькыя, а тута за нешта паспорілі, ідзець ня ў ду́ху і бурчыць, што пыдвіла яго.*

ДАРАЖЭНЕЧКІЙ. Дарагі, любімы. *Скора ты пойдзіш у горыд, увідзіш сваю дыражэнічкыю, і табе ну душэ пыляхчэіць.*

ДАРАЖЭНЬКІЙ. Дарагі, любімы. *А мой жа ты дыражэнькій, а мой жа ты ніныгля́дный, а як жа я бісь цябе аста́нуся век дыжыва́ць.*

ДАСУЖАНЬКІЙ. Цікаўны. *А разьві ты ні знаіш, што такім дасу́жынькім пупыда́іць пы насу. Меншы нада быць дасужынькім.*

ДАЎНЕНЕЧКІЙ. Даўні, ранейшы. *Што ўжо ўспымінаць да́ўнінічкыя ўремя, ці мы ж такея былі, калі нам було пы дваццыць гадоў.*

ДАЎНЕНЬКІЙ. Ранейшы. *У цябе тута сыбра́джына ўсё да́ўнінькыя. Во калі тваe даўнінькія пріяцілі пыкызаліся. Даўненькія сваe сьвязі ўспомніў.*

ДАЎНЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі даўні. *Яны даўнёсінічкія друзья, з мылалества дру́жуць.*

ДАЎНЁСЕНЬКІЙ. Вельмі даўні. *Мне часта усё даўнёсінькыя ўспымінаіцца, тады інычы ўсё було.*

ДАЎНЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі даўні. *У тэя даўнюсінічкія гады што було, цяперя і ня ўспомніш, ета сколька чаго мы пiрiжылі.*

ДАЎНЮСЕНЬКІЙ. Вельмі даўні. *Што нам даўнюсінькыя ўспымінаць, цяперя і людзі ня тэя, і жысьць другая, сядзі во ды ўнукыў нянчы.*

ДЗЕШАВЕНЕЧКІЙ. Танны. *Дзішавенічкія рубашычкі былі, многія брали, а я нешта пыбыялыся: можа, табе ні пыныравіцца.*

ДЗЕШАВЕНЬКІЙ. Танны. *Сяньня пырысят многа нывязьлі, а разбору ні було ніякыга, дык к канцу дзішавенькія сталі, аддывалі зу пуўцаны, каб двору ня везьць.*

ДЗЯБЁЛЕНЕЧКІЙ. Пруткі. *Дзябёлінічкія мальчыкі, як схвацюцца боріцца, ні пыддаюцца адзін другому.*

ДЗЯБЁЛЕНЬКІЙ. Пруткі. *Старшыя, іх було ці ня троя, нейкія, як выхлакі, тоўстыя, ніпываротлівыя, а меншый быў дзябёлінькій маліц.*

ДЗЯШОВЕНЕЧКІЙ. Танны. *Ныбярі чаго-небудзь дзяшовінічкыга, толька каб кряпчэйшыя, ато на іх усё як гаріць.*

ДЗЯШОВЕНЬКІЙ. Танны. *Дзяшовінькія бацінкі ўзяў, ладны будуць лета тріпаць, яны лёгінькія.*

ДЛІННЕНЕЧКІЙ. Доўгі. *Відзіш, дліньнінічкыя шубычка і греіць цяплей.*

ДЛІННЕНЬКІЙ. Доўгі. *Ты шый дліньнінькія плацьці, кыратышычкі етыя насіць стыдна. У дліньнінькім пальце зімою лаўчэй. Дліньнінькыя чырянца хырашо, дзіржаць удобна.*

ДОЎГЕНЕЧКІЙ. Доўгі. *Рукаўкі доўгінічкія, чыпляцца будуць, мазыцца, нада пыдлажыць і пачшыць акуратнінька.*

ДОЎГЕНЬКІЙ. Доўгі. *Я ўсігда табе пріказывыла: шый доўгінькій пулушубык. Ніхай пывадок будзіць доўгінькій і блізка ні бяри, ато іна ірванецца і пабегла ў клевір.*

ДРАБНЕНЕЧКІЙ. Вельмі дробны. *Я й сам ні знаю, чаго етый ячмень такей драбненічкій, як сеілі, кажыцца, нічога быў.*

ДРАБНЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі дробны. *У мяне большынькій радзіўся драбнёсінічкій, я к яму ажно пытхадзіць быялыся, а тады пашоў і пашоў росьць.*

ДРАБНЁСЕНЬКІЙ. Вельмі дробны. *Шчэпычык драбнёсінькіх сыбяри і паткінь, трошку прікіпіць і ладна, тута духу многа ні нада.*

ДРАБНЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі дробны. *Такоя ўремя*

*було трясу́шчыя, ён драбню́сінічкій радзіўся, балеў усё ўремя, чуць-чуць яго выхыдзіла.*

ДРАБНЮСЕНЬКІЙ. Вельмі дробны. *Я б такіх драбню́сіńькіх авец ні дзіржаў, па кошкі, зь іх ні воўны, ні мяса, толька сустрюкáй, выгыняй і вочырідзь за іх пасі.*

ДРАХЛЕНЕЧКІЙ. Вельмі стары, нямоглы. *Трахім саўсім дря́хлінічкій, яму, кажыцца, біз аднаго дзівяноста, мы подрысьнімі былі, а ён быў хлопіц у гыда́х.*

ДРАХЛЕНЬКІЙ. Вельмі стары. *Яны абея дря́хлінькія, куды ім іціць. Дряхліўкыя хата, ну апшулюва́на, дык дзяржы́цца троху.*

ДРОБНЕНЕЧКІЙ. Вельмі дробны. *Ціпляты вы́вілі-ся дробнінічкія, як вірібіня́ты, яны рябіўкія ўсе, дробніўкія, ну дужа нясу́шчыя.*

ДРОБНЕНЬКІЙ. Дробны. *Яны самі нібальшэя, і дзеці ў іх дробніўкія. Дробніўкыга хвырасткý насек с краю, глубока я ні лазіў.*

ДРУЖНЕНЬКІЙ. Дружны. *Яны дру́жніўкія хлупчуга́ны, усігда ўмесьці, ку́чкыю ходзюць і зуступа́юцца адзін зы днаго.*

ЖАДНЕНЬКІЙ. Сквапны. *Як ні атнекывыйся, а жа́дніўкій, пы маткі, тая тожа нікому дужа ні рызда́сца, усё будзіць стыгна́ць.*

ЖАДНЁСЕНЬКІЙ. Вельмі сквапны. *Во яшчэ жаднёсіўкыя прірода, як нада што каму даць, расстогніцца — бядней бедныя.*

ЖАДНЮСЕНЬКІЙ. Вельмі сквапны. *Во жадню́сіўкія людзі, як яны толька на сьвеці жыць зьбіраюцца ж жаднысьцю такою.*

ЖАЎЦЁСЕНЬКІЙ. Вельмі жоўты. *Рубашычка сьветліўкыя, жаўцёсіўкыя, дужа красівый цьвет, ніхай ба і ты купіў сабе такую.*

ЖАЎЦЮСЕНЬКІЙ. Вельмі жоўты. *У абеіх жаўцюсіўкія хустычкі, пашлі пыт Каробчынскій быльшак, як цьвецікі.*

ЖЫВЕНЕЧКІЙ. 1. Жывы. *Глянула я ны сылдаціка, ляжыць жывенічкій, ды́шыць, дышыць, уся гылыва пабіта, у крыві.* 2. Рухавы, бойкі. *Жывенічкыя дзяўчонка, ні мінуты ні пысядзіць спакойна, лезіць усюдых. Жы́вінічкія пырысяткі, усё носюцца, гуляюць адзін с адным, рыць пробыюць.*

ЖЫВЕНЬКІЙ. 1. Жывы. *Прінёс рыбу, іна жы́віў-*

*кыя, ішчэ хвыстамі шаволюць.* 2. Рухавы, бойкі. *Ой, жывінькыя дзевычка, тыкая бойкыя, усё шчабечыць і шчабечыць. Жывенькій кыцянок, ні мінуты ні паляжыць ціха, кошка яго наб'ець, нукусáіць, а ён узноў носіцца.*

ЖЫДЗЕНЕЧКІЙ. Вельмі вадкі. *Што зь етым цестым, жы́дзінічкыя, што ні ну лупату садзіць, а толька ліць ны скыўраду́.*

ЖЫДЗЕНЬКІЙ. Вельмі вадкі. *Зварі трошку жы́дзінькія бульбы, большы я нічога ні хачу. Ніхай будзіць жыдзінькій кулеш, я такей большы люблю.*

ЖЫДЗЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі вадкі. *Тыкая жыдзёсінічкыя капуста, як выда, два лісьцікі буўтáюцца, ці ў цябе ні хвытаіць рыскрышы́ць як нада.*

ЖЫДЗЁСЕНЬКІЙ. Вельмі вадкі. *Бульба саўсім жыдзёсінькыя, я такую сваім ні разу ні варю, яны б сы стыла ськінулі, во што б зьдзелылі.*

ЖЫДЗЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі вадкі. *Антоніха ўсігда жыдзю́сінічкыю крупеню варіла, хлопцы, кызала, гусьцейшыю пыкыпáюць, пыкыпаюць і ні ядуць.*

ЖЫДЗЮСЕНЬКІЙ. Вельмі вадкі. *Жыдзю́сінькій зваріла кісель, як выда, толька што зыкрáшына нямножка.*

ЗДАРАВЕНЕЧКІЙ. Здаровы. *Як дзеці здыравенічкія, тады ўсё слава богу. Як тама кума мыя кряпіцца, ці здыравенічка іна, нешта я яе ўва сьне плоха відзіла.*

ЗДАРАВЕНЬКІЙ. Здаровы. *Каб толька былі самі здыравенькія, а астáтнія ўсё дзела ныжытоя, у нас саміх біда зы бядою ішла, а пакуля здароўя тріпітáлыся, выкру́чывыліся патроху.*

ЗДАРАВЁСЕНЕЧКІЙ. Здаровы. *У нас етый год усе, слава богу, здыравёсінічкія, каб ні прыгываріць, летыся я з малым намучылыся, пыўзімы́ ліжаў.*

ЗДАРАВЁСЕНЬКІЙ. Здаровы. *Ці здыравёсінькія твае дзеткі, нешта ты даўно ні пыкáзывысься ў нас.*

ЗДАРАВЮСЕНЕЧКІЙ. Здаровы. *Ты ні клыпаці, баба, унукі ў цябе здыравю́сінічкія, сідзяць лі выкна, як гарбу́зікі.*

ЗДАРАВЮСЕНЬКІЙ. Здаровы. *Здыравю́сінькій мальчык, харошынькій, чаго табе яшчэ нада.*

ЗДАРОВЕНЕЧКІЙ. Здаровы. *Каб толька былі здаровінічкія, большы б я нічога ад бога ні хацела. Не, нічога, етый цялёнычык здаровінічкій, відзіш, як ён скачыць вясёлінька.*

ЗДАРОВЕНЬКІЙ. Здаровы. *Ні знаю, як тама ў іх цяперя, пішуць, што ўсе здаровінькія, увосінь дык дзевычка с успаленіім ліжала.*

ІНЦЯРЭСНЕНЬКІЙ. Цікавы. *Іньціресьнінькія вершыкі, прычытай яшчэ што-небудзь. Іньціресьнінькыя ты баба: каб я ішоў зы цябе зь людзямі апыстыляцца.*

ІРЖАВЕНЬКІЙ. Іржавы. *Іржа́вінькіх гвозьдзікыў тама пыря́дышна вылялыся, а ці можна што выбрыць ны яшчык — пылядзі.*

КАЛЯНЕНЬКІЙ. Цвёрды, каляны. *Арехі ўжо кылянінькія, каторый возьміш, дык і ні зразу раскусіш, зярно поўныя, можна сьмела шчыпаць.*

КАНАПАЦЕНЕЧКІЙ. Канапаты. *Прося тама была тыкая кыныпа́цінічкыя, ён бегыў за ёю. Уся кыныпацінічкыя, як кыныпля́мі ўсеіна.*

КАНАПАЦЕНЬКІЙ. Канапаты. *Дужа ніпыгля́дный хлопіц, дробнінькій, кыныпа́цінькій, толька Алёна дужа хваліла, што прыцаўнэй і ціхій.*

КАРАВЕНЕЧКІЙ. Брудны. *Чаго ж ты еткій кыря́вінічкій, еткій мурза́цінькій, ці ў цябе маткі німа як нада прігледзіць зы адным дзіцёнкым.*

КАРАВЕНЬКІЙ. Брудны. *Ні ны шчасьця яго туды ўзялі, і кыря́вінькім набу́дзіцца, і холыду пыспытаіць, усяго зь яго хва́ціць.*

КАРАНАСЦЕНЬКІЙ. Каранасты. *Тады я помню ішчэ, зы Машкыю ўлігаў усё Міця, кыріна́сьцінькій такей прібігаў аттуля.*

КАРАНЕЧКІЙ. Кары. *Яе дзевычкі ўжо годзікыў пяць, вочкі ка́рінічкія, шчочкі румя́нінькія, ікраз як баба яе была калі-то.*

КАРАНЬКІЙ. Кары. *Тэй ка́рінькій конік зь віду быў ня дужа пыгля́дный, ну цігавітый і ніпіряборлівый.*

КАРАПУЗЛЕНЬКІЙ. Невысокі, недарослы. *Я цябе ішчэ помню, як ты во такім кырапу́зьлінькім пы масту поўзыў, а цяперя ты мяне ўчыць зьбіраісься.*

КАРОЗЛЕНЕЧКІЙ. Закарузлы. *Пы Мшарі, я помню, карёзьлінічкія бярёзычкі сядзелі, лыза была, а раншы, гыварілі, і сысьня́к рос.*

КАРОЗЛЕНЬКІЙ. Закарузлы. *Мне твой карёзьлінькій жаніх ні нада, кылі хочыш, вазьмі яго сабе; чымся с такім жыць, луччы адной зьвікуваць.*

КАРОЦЕНЕЧКІЙ. Кароценькі. *Кырында́шык кароцінічкій, яго і ў пальцых ня ўдзержыш. Ходзюць па го-*

*рыду, спыднічэнкі кароцінічкія, ну разьві ж у такой сагнесься што зьдзелыць.*

ҚАРОЦЕНЬҚІЙ. Қароткі. *Ны цябе нада хуць кароцінькій бізунчык, ды каб ён кажный дзень хадзіў пы табе, тады ты скарей чылавекым станіш. Прівёз кароцінькіх паплецінык, ны хату яны ні гыдзяцца, а на пуню можна пусьціць.*

ҚАРУЗЛЕНЕЧҚІЙ. Невысокі, недарослы. *Па тых кустах нічога ні нысякеш, тама карюзьлінічкыя лыза, луччы праехыць куды-небудзь дальшы, што лаўчэйшыя пупадзецца.*

ҚАРУЗЛЕНЬҚІЙ. Невысокі, недарослы. *Сам карюзьлінькій, а зыдачы нямерныя, луччы за ўсіх сябе шчытаіць.*

ҚАРЫШНЕВЕНЬҚІЙ. Қарычневы. *Што я буду ім спруўляць дырагоя, дзяшовінькія карішнівінькія касьцюмчыкі купіла і ніхай бегыюць, кывалеры-то еткія.*

ҚАСЕНЕЧҚІЙ. Қосы. *Қаб ён хуць ня быў еткій касенічкій, ато ж неік ажно глядзець нялоўка і на людзі ня выйдзіш.*

ҚАСЕНЬҚІЙ. Қосы. *За большыю бегыў троху якейто касенькій аттуль, с таго боку, ац Сыжа, і тожа ні ўзяў.*

ҚАСМАЦЕНЕЧҚІЙ. Лахматы. *Қыціняткі нібальшэя, кысмацінічкія, кыла печы бегыюць, пат печ хуваюцца.*

ҚАСМАЦЕНЬҚІЙ. Лахматы. *Шчанёнык кысмацінькій, як вуўчанёнык. Ты ўжо стаў кысмацінькій, худзь ба пацстрыгся.*

ҚАСТЛЯВЕНЕЧҚІЙ. Худы, касцісты. *Дзеці, як растуць, яны поўныя ні буваюць, ну Анюцін нейкій саўсім кыстлявінічкій, як яму нідылігаіць што.*

ҚАСТЛЯВЕНЬҚІЙ. Худы, касцісты. *Ты сабе шукай, кылі хочыш, жырныга, а мне і кыстлявінькій ладзін будзіць, якей ёсьць, такей і ладна.*

ҚАСТРАВЕНЬҚІЙ. З кастрой. *Ці ён, етый лён, ня выліжыўся як нада, зьмялі — кыстрявінькій і ня трепліцца.*

ҚАСТРЫВЕНЬҚІЙ. 1. З кастрой. *А кастрівінькій лён, яго ні ныпрядзеш дужа, усё выбірай і выбірай.* 2. *Перан.* Запальчывы. *Са шчэпыць таго чылавека і такей кастрівінькій хракцір, успыхніць — ні пытхадзі к яму.*

ҚАХВЕЙНЕНЬҚІЙ. Қафейны (колер). *Верка сабе купіла бурдовінькыю кохтычку, а я кахвейнінькыю ўзіла, мне іна луччы пынырáвілыся.*

ҚАШЧАВЕНЕЧҚІЙ. Сухарлявы, худы. *Чуць-чуць помню, як ува сьне, стырічок хадзіў кышчáвінічкій, гыварілі: ета Сідарёнык быў, скот айдзе-то пасьвіў, а тут зімуваў.*

ҚАШЧАВЕНЬҚІЙ. Сухарлявы, худы. *Чаго ён у цябе такей кышчáвінькій, нешта як ты ня корміш яго? Яны пы бацьку кышчавінькія, ні ў маткіну пароду пашлі.*

ҚВОЛЕНЕЧҚІЙ. Қволы. *Слáбінькій радзіўся і січас дужа кволінічкій, іна пряма ні знаіць, як за ім ухаджывыць.*

ҚВОЛЕНЬҚІЙ. Қволы. *Қволінькыя дзяўчонычка, я і кýхтыю яе, і бірягу ўсяк, а іна ўсё неік хы́рлііць.*

ҚРАСІВЕНЕЧҚІЙ. Вельмі прыгожы. *Красíвінічкіх платочыкыў пунукуплялі, я б, кажыцца, тожа ўзіла сабе такей.*

ҚРАСІВЕНЬҚІЙ. Вельмі прыгожы, прыгожанькі. *Трілю́дзіць, у Манькі красíвінькія дзевычкі пыдрыстáюць. Я табе красівінькія бацíнычкі купіла, будзіш дзелыць топ-топ.*

ҚРУГЛЕНЕЧҚІЙ. Қруглы. *Атреж крýглінічкыю палычку, нада качулку зьдзелыць, быльшая ёсьць, а малыя нейдзі зывылялыся.*

ҚРУГЛЕНЬҚІЙ. Қруглы. *Қрýглінькій стаў, што агурчык, ат'еўся ў сястры. Дый нада рыскалоць пару круглінькіх палычык, хуць ны пытклáдкі ў печ, ато рыскáтывыюцца дровы.*

ҚРУГЛЁСЕНЕЧҚІЙ. Қруглы. *Якей круглёсінічкій у цябе хлопіц, ладна ты яго дыглідáіш.*

ҚРУГЛЁСЕНЬҚІЙ. Қруглы. *Чырянцы ўсе падзелыў круглёсінькія, глáдзінькія, аж пріятна ў рукі ўзяць.*

ҚРУЦЕНЕЧҚІЙ. Қруты. *Ай-я-яй, якея тама горы круценічкія, прівыкáюць па іх лазіць, я дык ба, кажыцца, век ні прівыкла.*

ҚРУЦЕНЬҚІЙ. Қруты. *Спуск тама ні вісокій, ну крýцінькій, будзь астарожын. У нас круценькіх узгоркыў німа, едзь сьмела.*

ҚРЫВЕНЕЧҚІЙ. Қрывы. *Нічога па тых кустах німа, крівенічкыя лазіца сядзіць. У яго ў мáлыга ножкі былі крівенічкія, а як падрос, трошку выпріміліся.*

ҚРЫВЕНЬҚІЙ. Қрывы. *Каб раўнейшыя, можна бу-*

*ло б выкыпыць, а такіх крівенькіх ня хочыцца садзіць.*

КРЫКЛІВЕНЬКІЙ. Крыклівы. *Ай, дужа зыдаўся нейкій кріклівінькій, усё пішчыць і пішчыць. А ты, акáзыіцца, кріклівінькій, во ня думыў.*

КРЭМАВЕНЬКІЙ. Крэмавы. *А я відзіла, кремывінькыга мыцірiялу многа прівязьлі ў лаўку, рузгружáлі цюкáмі.*

КРЭПЕНЕЧКІЙ. Моцны. *Во крепінічкій мыцірiял пупаўся: сколька я цігáю ету куртку і ў грязь, і ны ўсякыю работу — дзяржыцца. Мае дзеці ўсігда крепінічкія былі, слава богу, нічым ні балелі.*

КРЭПЕНЬКІЙ. Моцненькі. *Крепінькій марозік, за рукі бярець ого як. Крепінькія хлопцы, яны з мáльства зыкалёмшы, к рабоці прівýчыны.*

КУДЛАЦЕНЕЧКІЙ. Лахматы. *Ай, якога ты сабе ныйшла кудлáцінічкыга, ці знаіць ён, зь якога боку зы тапор брацца,— во так і прівыклі пы бáцькых, пы мáткых пыізджáць.*

КУДЛАЦЕНЬКІЙ. Лахматы. *У яе малінькій сыбачка кудлáцінькій, ну такей уедлівый, глядзі, зы нагу хвáціць. Хваціць хадзіць кудлацінькім, пыцстрыгіся, як усе людзі.*

КУДРАВЕНЕЧКІЙ. Кучаравы. *Гылыва тыкая ўжо кудрявінічкыя, што як яе і рышчысáць, у яе грябёнка ні палезіць. Мы знаім, што ты сабе даўно шукаіш кудрявінічкыю, каб крысавіца луччы ўсіх была.*

КУДРАВЕНЬКІЙ. Кучаравы. *Лешчынскій кудрявінькій усім вам дужа нырáвіцца. Бярёзкі пыдрасьлі, кудрявінькія сталі, зімля тута дужа харошыя.*

КУРНОСЕНЕЧКІЙ. Курносы. *Куды ета ты, курносінічкій, выпрывіўся, шлёпнісься ў грязь пысярёд вуліцы і пішчэць будзіш.*

КУРНОСЕНЬКІЙ. Курносы. *Ня можыць ніяк нагледзіцца ны свайго курносінькыга, так і ліпніць. Твыя курносінькыя харошыя работніца, за што ня возьміцца, усё ў яе гаріць у руках.*

КУСЛІВЕНЬКІЙ. Куслівы; такі, які падкусвае. *Кылі ён кусьлівінькій, я ні баюся, можа каму і кусьлівінькій, а мне дужа ні страшын.*

КУЧАРАВЕНЕЧКІЙ. Кучаравы. *Неік малыя былі кучурявінічкія, а як пыдрасьлі, і валосься выпрімілыся, айдзе кудрі дзеліся.*

КУЧАРАВЕНЬКІЙ. Кучаравы. *Свайго кучурявінь-*

*кыга Надзька нікому ня ўступіць, ён тыкі ны пыгляд хлопіц дужа красівый.*

ҚУЧАРАВІСЦЕНЬҚІЙ. Қучаравы. *Бегыў тута кучурявісьціньқій Пуўлюкоў, ці ні к сажылкым яны пабеглі кучкыю.*

ЛАДНЕНЬҚІЙ. Ладны. *Ужо ла́дніньқій хлопіц, вотвот за дзеўкымі пыгыня́ць станіць, а там і армія ніўза́дыўзі падойдзіць.*

ЛАСҚАВЕНЕЧҚІЙ. Вельмі ласкавы, пяшчотны. *Сяньня ты ў мяне дужа ла́скывінічқій, нешта ўчора ні такей быў.*

ЛАСҚАВЕНЬҚІЙ. Ласкавы, пяшчотны. *Са ўсімі ла́скывіньқій, к кажныму масьліным бліным паткоціцца. Ён ласкывіньқій тады, як яму нада ці як вы́гыду пачуіць.*

ЛАХМАЦЕНЕЧҚІЙ. Лахматы. *Неткуль прівалок двух шчанкоў, абоя чорніньқія, лыхма́цінічқія.*

ЛАХМАЦЕНЬҚІЙ. Лахматы. *Бегыў у яго нейкій лыхма́ціньқій шчанок, ні знаю, айдзе дзеўся.*

ЛЁГЕНЕЧҚІЙ. Вельмі лёгкі. *Што тута несьць, дзіцёнык пынясець, мяшочык лёгінічқій, пять хунтыў весу. За лета зьбегыўся, вы́сых, пад'есьць ні загоніш, лёгінічқій стаў, як пярінычка.*

ЛЁГЕНЬҚІЙ. Лёгкі. *Трыва цяжолыя, а вы́сыхніць — сена лёгіньқыя, тута ношка выйдзіць, ні большы. Ня дужа ён лёгіньқій, твой мяшочык, с пуд з ладный будзіць.*

ЛУЧЧАНЬҚІЙ. Лепшы. *Пакуль ты выбіраў-пірібіраў, лу́ччыньқіх дзевык рысхвыта́лі. Луччыньқыга ты нічога ні шукай і за ета спасіба скажы.*

ЛЫСЕНЕЧҚІЙ. Лысы. *Стаў лы́сінічқій, гылыва, як голыя калена. Ідзець лысінічқій, тольқа ззаду кыла шыі тарчыць нескылька выласін.*

ЛЫСЕНЬҚІЙ. Лысы; з плямінкай на лбе. *Зыбірай ужо свайго лы́сіньқыга, вядзі ў хату. Мне дужа ў пріме-ці ваша лысіньқыя кабылка, як іна вас с Қаробчынскія гары пытріпа́ла.*

ЛЮБАПЫТНЕНЬҚІЙ. Цікаўны. *Дужа ты стаў любапы́тніньқім, узнаіш, калі нада будзіць. Знаіш, што буваіць такім любапытніньқім, як ты? — насы пыдріза́юць.*

ЛЮБЕНЕЧҚІЙ. Любы. *Лю́бінічқій твой прібег ужо, Тонічку ў сенцых абнімаіць, выйдзі пыглядзі.*

ЛЮБЕНЬКІЙ. Любы. *Глядзі, глядзі зы сваім лю́бінькім, раз-два можыць зьбежч г другой, айдзе ты яшчэ такога найдзіш.*

ЛЮБІМЕНЬКІЙ. Любімы, любы. *Дыждаліся сваіх любімінькіх, ня могуць нацешыцца. А ета ўжо Анькін любімінькій імчыцца, гатоў днюва́ць і ночува́ць тут.*

ЛЯНІВЕНЬКІЙ. Лянівы. *Лянівінькій ты стаў пасьледнія ўремя, трошку жвавей нада ногі пыднімаць. Што ж я з вамі зьдзелыю, кылі вы такія лянівінькія.*

МАКРОСЕНЕЧКІЙ. Вельмі мокры. *Прішлі — усё на іх макрёсінічкыя, аж цякець, я ім: рызьдзіва́йціся ды лезьця скарей на печ, ыпрасту́джыіціся.*

МАКРОСЕНЬКІЙ. Вельмі мокры. *Усё макрёсінькыя і сушыць нейдзі, ны вярёўку б уськінула, дык ён жа ўзноў січас пальлець як зь відра.*

МАКРУСЕНЕЧКІЙ. Вельмі мокры. *Прібеглі наскрозь макрю́сінічкія, дывай скарей пірідзіва́цца. Куды ты пойдзіш, ты ўся макрюсінічкыя.*

МАКРУСЕНЬКІЙ. Вельмі мокры. *Макрю́сінькій ірьмяк хуць выкруць, пыдніла, дык зь яго пряма цякець еыда.*

МАЛАДЗЕНЕЧКІЙ. Малады. *Брігадзірку нейкыю к нам прісдалі, мыладзенічкыю, толька вучэньня кончыла. Мыладзенічкіх такіх ні нада було і пысылаць.*

МАЛАДЗЕНЬКІЙ. Малады. *Ідуць сылдацікі, мыладзенькія-мыладзенькія, сь песьнімі. Мыладзенькыя вы́скычыла замуж, ішчэ высімнаццыці поўных ні було.*

МАЛАДЗЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі малады. *Яны ж мыладзёсінічкія жаніліся, самі ішчэ ні старыя, а ўжо ўнукі якея!*

МАЛАДЗЁСЕНЬКІЙ. Вельмі малады. *Ён мыладзёсінькій ат'етуль як паехыў, дык усё ўремя ні було чутна аж да етыга года.*

МАЛАДЗЮСЕНЬКІЙ. Вельмі малады. *Нашто табе такой мыладзю́сінькый гылаву за́мужым зывя́зывыць. Мяне замуж аддывалі мыладзюсінькыю.*

МАЛЕНЕЧКІЙ. Маленькі. *Ма́лінічкіх яблык нашчыплюць і ядуць. Ні глядзі, што ма́лінічкій — быявэй, старшыму ні ў чом ні ўступаіць.*

МАЛЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі маленькі. *Нукулупалі малёсінічкіх лісічык, іх пряма ў руках ня ўдзержыш кырянькі абрізаць.*

МАЛЁСЕНЬКІЙ. Вельмі маленькі. *Малёсінькій ку-*

*сочык астаўся пустэй, нада сколька кустоў бульбы пысадзіць. Нейкія малёсінькія расточыкі тырчаць, нешта ўсходзіць.*

МАЛЁХТАНЕЧКІЙ. Вельмі маленькі. *Ён жа такей малёхтынічкій, іна пряма баіцца на рукі ўзяць, пакуль прівы́кніць. Купілі малёхтынічкіх пырысятык, ці зь іх будзіць што, ці не.*

МАЛЁХТАНЬКІЙ. Вельмі маленькі. *Я іх ішчэ малёхтынькіх помню, як яны пы палу голінькія поўзылі. Куды везьць такіх малёхтынькіх, хто іх захочыць купляць.*

МАЛОДЗЕНЕЧКІЙ. Вельмі малады. *Яны малодзінічкія пабеглі пы вічарінкых, усю акругу выкыла́чывылі.*

МАЛОДЗЕНЬКІЙ. Маладзенькі. *Ні глядзі, што малодзінькій, у хыӟяйстві пынімáіць. Гырманіст малодзінькій, звать яго Валодзінькый.*

МАЛЮПАСЕНЕЧКІЙ. Вельмі маленькі. *Якую ты пойдзіш моркву глядзець, іна мулю́пасінічкыя, як іголычкі, тарчыць у зямле.*

МАЛЮПАСЕНЬКІЙ. Вельмі маленькі. *Яблынка цьвіла нічога, ды нешта апсы́пылыся, нескылька мулюпáсінькіх яблычык тарчыць.*

МАЛЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі маленькі. *Нейкія мошкі пы капусьці пашлі малю́сінічкія, каб яны чырьвякоў ні рыспладзілі.*

МАЛЮСЕНЬКІЙ. Вельмі маленькі. *Ні разу ні бярі малю́сінькіх пырысят, зыгарю́ісься зь імі, асобінна біз мылыка.*

МАЛЮХТАНЕЧКІЙ. Вельмі маленькі. *Аўца, канешня, будзіць вулнувáцца, крічаць, ну с такімі малю́хтынічкімі нільзя пускаць у поля, іх патопчуць.*

МАЛЮХТАНЬКІЙ. Вельмі маленькі. *Бычок і цяліўся малю́хтынькій, і січас ні расьцець, зь яго ні мяса, ні ны здачу нічога ня возьміш.*

МАХНАЦЕНЕЧКІЙ. Лахматы. *Вязёнычкі зьвізала мыхнáцінічкія, яны цёплыя будуць, рукі ні застынуць.*

МАХНАЦЕНЬКІЙ. Лахматы. *У Высіля мыхнацінькія кыцінияткі, сібірскія, знаць, дужа красівыя, нада б сабе ўзяць аднаго.*

МЕЛЕНЕЧКІЙ I. Вельмі дробны. *Прыдывáліся крупы — сечка мелінічкыя, я ўзяў пяць кілыграм.*

МЕЛЕНЕЧКІЙ II. Вельмі мелкі. *Мелінічкіх таре-*

*лык многа ні ныбірай, гырячыга ў іх ні нальлеш, толька рыскрышыць што.*

МЕЛЕНЬКІЙ І. Вельмі дробны. *Меленькій дожджык сыпіць і сыпіць. Дужа меленькій пясочык кылы Сыжа, як мука.*

МЕЛЕНЬКІЙ ІІ. Вельмі мелкі. *Такія меленькія шáічкі і дзелыць ні нада було, ніізьвесна, длі чаго яны.*

МЕНШАНЕЧКІЙ. Меншы. *Я твайго меньшынічкыга дык і ні пызнала, думыла, Хведзькін каторый.*

МЕНШАНЬКІЙ. Меншы. *Якей Валодзька пасьледній, у яе ўжо меньшынькіх пара ёсьць. Каб што меньшынькыя ўзяць, етый касьцюмчык вілікуват.*

МІЛЕНЕЧКІЙ. Мілы, любімы. *Нешта твой мілінічкій усё з Гашкіныю прыхáджыіцца, глядзі, каб ня дбіла.*

МІЛЕНЬКІЙ. Мілы. *А ён жа ў цябе доўга мілінькій быў, чаго ты ны яго так нупусьцілыся? А ты мілінькій ты мой, прывадзі мяне дамой.*

МОКРАНЕЧКІЙ. Мокры. *Мы ж прібеглі зь лесу мокрінічкія, ны нас рубца жывога ні астáлыся — так пірімяклі.*

МОКРАНЬКІЙ. Мокры. *Чулочыкі мокрінькія, а ты хочыш іх ныдзіваць. Пад дождж пупадýць, пріедуць мокрінькія, ныпрáткі яны ніякія с сабою ні ўзялі.*

МУДРАНЬКІЙ. Мудры. *Думыў, што ён самый мýдрінькій, ніхто ні рызьбярецца, што і к чаму гаворіцца.*

МУРЗАЦЕНЕЧКІЙ. Мурзаты. *Бегыюць пы хаці мурзáцінічкія абоя, бульбу елі, пывымáзывыліся ду вушэй.*

МУРЗАЦЕНЬКІЙ. Мурзаты. *Вымыла сваіх мурзáцінькіх, зу пуўдня́ як вымыжуцца, дык хуць іх ацскрібáй.*

МЯКЕНЕЧКІЙ. Мяккі. *Воўна дужа харошыя, ніткі спрáджыны сьпецна, чулочыкі пулучыліся мякінічкія.*

МЯКЕНЬКІЙ. Мяккі. *Батоныў прівязьлі мякінькіх, як бралі, дык былі цёплыя, пряма сь печы.*

МЯКЁСЕНЬКІЙ. Вельмі мяккі. *Якея ж табе падушкі прігатовіла Сашка мякёсінькія, во ўжо будзіць спаць у мыладэя жонкі, пряма рай.*

МЯКУСЕНЬКІЙ. Вельмі мяккі. *Пріснакоў ныпіклá мякýсінькіх, дык мае так ладна наеліся, с салым, мыкалі і елі.*

НАВЕНЕЧКІЙ. Новы. *Ішоў ува ўсём у навенічкім, усё на ім аж сіяіць, відна, у Жыгалкі пашоў к радне.*

НАВЕНЬКІЙ. Новы. *А ты ж навенькыя купі ўсё, ты многа зырыбляіш, грошы ў цябе ёсьць, чаго ж у старье хадзіць.*

НАВЁСЕНЕЧКІЙ. Новы. *Навёсінічкій касьцюм, баціньі, дайжа пыўбацінкі, аж гыраць, ідзець рызадзетый хлопіц, дзеўкі пряма любўюцца.*

НАВЁСЕНЬКІЙ. Новы. *Хату навёсінькыю пыставіў, як звон, дзеріва зімній валкі, смалістыя, ёй веку ня будзіць.*

НАВЮСЕНЕЧКІЙ. Новы. *Нуспруўляла навюсінічкіх плацьціў цэлый шкап, калі іна іх паносіць.*

НАВЮСЕНЬКІЙ. Новы. *Апставіла сваю хату, як у Лёлькі: шкапы, дзіваны, стол пысярёд круглый, цілівізыр,— дайжа ў паноў так ні було, усё навюсінькыя.*

НАВЮТКІЙ. Новы. *Навюткыю адзежыну ты ў грязь ныдзіваіш, канешня, у цябе нічога путнога ні зацэліць.*

НАВЮХТАНЕЧКІЙ. Новы. *Згамзіла за дзьве нядзелі навюхтынічкыю куртычку, ты ж ба на бульбу мыгла старёнуш надзець, а чысьцейшыя пудблюла б.*

НАВЮХТАНЬКІЙ. Новы. *У цябе навюхтынькыга ныкрятына на дзесіць гадоў, і то ні паносіш, і ўсё жалеіш на людзі путноя надзець.*

НАВЮХТАЧКІЙ. Новы. *Навюхтычкыя плацьця надзела ў лес, пу кустах пылазіла — яно стала як тряпка, зыгрязьнілыся, пылыхмаціліся.*

НЕБАЛЬШЭНЕЧКІЙ. Невялічкі. *У Хрузкі нібальшэнічкія дзяўчонычкі, адна, знаць, у другей клас ходзіць, а другой саўсім гадкоў пяць.*

НЕБАЛЬШЭНЬКІЙ. Невялічкі. *Нібальшэнькій дождж, такей сухой зямле ні паможыць, цяперя лівінь харошый нада як зь відра.*

НЕЖНЕНЬКІЙ. Пяшчотны. *Толік сы сваёю нежнінькыю ніяк ня можыць рысстряцца, кажнінькыя раньня піряц сонцым прібігаіць.*

НЕНАГЛЯДНЕНЬКІЙ. Ненаглядны. *Зьбірайціся, дзеўкі, бягіця, ніныглядпінькія вашы ўжо тут, ды сы сваёю гармоньню прімчыліся.*

НЕПАГЛЯДНЕНЬКІЙ. Незайздросны на выгляд. *Ніпыглядпінькій ён хлапчына: малінькій, худзенічкій, толька ціряшчур работыіць.*

НЕПУТНЕНЬКІЙ. Бесталковы, бязладны. *Нейкій ніпутненькій цялёнык: і пыт каровыю дзьве нядзелі быў, і німа толку.*

НЕПУТНЁСЕНЬКІЙ. Бесталковы, бязладны. *Есьлі ўжо змалку зыдáўся ніпутнёсінькій, то і ад бальшога ня жджы пуця.*

НЕПУТНЮСЕНЬКІЙ. Бесталковы, бязладны. *Ат таго ніпутню́сінькій, што ні було каму нудукувáць,— толька паетыму.*

НІЗЕНЕЧКІЙ. Нізкі. *Куды ўжо тыкая нізінічкыя калодычка, ны яе ся́дзіш і ног ня вы́цігніш. У іх у раду ўсе нізінічкія, я ішчэ іхніга прáдзіда помню: нібальшэнькій стырічок хадзіў.*

НІЗШАНЬКІЙ. Ніжэйшы. *Пыдáй-ка што-нібудзь ніжшынькыя, можа, скамеічку, с тубуреткыю тута ні пыварну́цца.*

НОВЕНЕЧКІЙ. Новенькі. *У новінічкім касьцюмі пыт такей дождж пупаў. Новінічкыя піцісьценка, летыся кончыў, пыд адну сьвязь клець цірясь сенцы, усё пач шыхвірым с хрантонымі,— дужа быгатыя пастройка.*

НЯВАЖНЕНЬКІЙ. Няважны, дрэнны. *Ніва́жнінькыя халу́пінка, лес някрепкій, паточын. Ніва́жнінькыя ў яго здароўя, лёхкія слабыя, рана ны наге аткрывáіцца,— што ты, еткыю вайну прайшоў.*

НЯЎЗРАШНЕНЬКІЙ. Несамавіты на выгляд. *Дзяўчонка іна, гаворюць, рыбыця́шчынькыя, ну на від ніўзрáшнінькыя, ета яны рысхваліліся дужа.*

ПАГЛЯДНЕНЬКІЙ. Добры на выгляд. *Твыя ўжо тыкая пыгля́днінькыя, што луччы і быць ня можыць.*

ПАДЛАСЕНЕЧКІЙ. Падласы. *Цэлый табун пыдлáсінічкіх бычкоў ны мяса аткáрмлівыюць, скора будуць здывацъ.*

ПАДЛАСЕНЬКІЙ. Падласы. *Жалка мне сваю пыдлáсінькыю і прíдзіцца прыдывацъ, адна я зіму ні пірядзержу, сілы німа.*

ПАКОРЛІВЕНЬКІЙ. Пакорны. *Ета ён толька від дзелыіць, што пакорлівінькій, ты ні знаіш, што ён зу душою носіць.*

ПАКОРНЕНЬКІЙ. Пакорны. *Ну ўжо тыкая пакорнінькыя — слова нікому ўперік ні скажыць, што ні папросіш, усё зьдзелыіць.*

ПАЛЕЗНЕНЬКІЙ. Карысны. *Ета ж палезьнінькія ігрушкі, зьеж жоўцінькыю, яны дужа-дужа сочныя.*

ПАЎНЁСЕНЕЧКІЙ. Вельмі поўны. *Стыяць паўнёсінічкія гырлáчыкі, пряма зылівáіцца мылаком,— тыкая малошныя карова.*

ПАЎНЁСЕНЬКІЙ. Вельмі поўны. *Такея паўнёсінькія вёдры нясець і ні каплі ня выльліцца. Паўнёсінькыя бочка вады пыт кыплямі,— во ліў дождж цэлыю ноч дык ліў.*

ПАЎНЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі поўны. *У яе паўнюсінічкія сундукі адзёжы ныкладжыны, ні зычыняюцца.*

ПАЎНЮСЕНЬКІЙ. Вельмі поўны. *Во бягі ў Аблогі і ты зы мінуту паўнюсінькыя вядро бырывікоў ныкладзеш, сёліта дужа грібы растуць.*

ПОЎНЕНЕЧКІЙ. Вельмі поўны. *Нясьлі тута бабы поўнінічкія вёдры ягыд, сабе б нада як-небудзь абізацільна атырвацца ў лес, усё зы работыю некылі.*

ПОЎНЕНЬКІЙ. Вельмі поўны. *Поўнінькыю бочычку гуркоў ны зіму пыставілі ў погріб, зімою гурок як найдзіш.*

ПРАСЦЕНЕЧКІЙ. Зусім просты. *Мы яго ўсе помнім, дужа быў прасьценічкій хлопіц.*

ПРАСЦЕНЬКІЙ. Зусім просты. *Нейкыга прасьценькыга заводу ячмень, ну, буваіць, як пад год, хырашо зародзіць.*

ПРОСЦЕНЕЧКІЙ. Зусім просты. *Просьцінічкыя мацерія, січчык нейкій, а як красіва на ёй плацьця сядзіць.*

ПРОСЦЕНЬКІЙ. Зусім просты. *Што ж ты ў школі слухыіш, кылі просьцінькіх зыдачык рішыць ня ўмеіш.*

ПРЫГОЖАНЕЧКІЙ. Вельмі прыгожы. *Якея прігожынічкія карцінкі ў кніжкі, нейкія ні нашы дзерівы нырісовыны.*

ПРЫГОЖАНЬКІЙ. Прыгожы. *Айдзе ты еткіх прігожынькіх цьвяткоў нысыбірала? Ды самыга раньня сы сваімі прігожынькімі прастоілі, рысстряцца усё ні маглі.*

ПРЫКЛАДНЕНЬКІЙ. Складны, мілагучны. *Як возьмуцца частушкі пець, такея пріклáдінькія, аткуля ў іх што бярецца.*

РАЎНЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі роўны. *Раўнюсінічкіх планычык нустругаў, красівый будзіць хрантон.*

РАЎНЮСЕНЬКІЙ. Вельмі роўны. *Ета ж нада було нывыбірáць еткіх раўнюсінькіх арешын, усе як адна.*

РОЎНЕНЕЧКІЙ. Роўны. *Ну й пыдыбраліся вы роўнінічкія, як пыдрізáныя пулучыліся.*

РОЎНЕНЬКІЙ. Роўны. *Каб роўнінькія паплецінкі, на іх ба луччы салома лажылыся. Сьпецна пыдгынялі, роўнінькій мост выйшыў.*

ТАНКЛЯВЕНЬКІЙ. Больш тонкі. *Ніжэйшыя Высі-*

*лёва дычка, а тынклявінькыя Хведзіна, яны умесьці дзісіцігодку кынчалі.*

ТАНЮСЕНЕЧКІЙ. Вельмі тонкі. *Пряжа тая танюсінічкыя, нітычкі як пувуцінкі, сколька ўремя нада было так прясьць.*

ТАНЮСЕНЬКІЙ. Вельмі тонкі. *Іголычкі танюсінькія, што ў пальцых ня ўдзержыш, а ня то імі шыць.*

УДАЛЕНЬКІЙ. Удалы. *Такей зыдаўся удалінькій, што ўсіх пірішчыгіляіць. Удалінькій с тымі, нат кім сілу паймеіць.*

ХІТРАНЕЧКІЙ. Хітры. *Хітрінічкій ты дужа стаў, каб я хадзіла пы мыкраце, схадзі сам ды нытрясі якіх хочыш яблык.*

ХІТРАНЬКІЙ. Хітры. *Мы такіх хітрінькіх ні раз відзілі. Ня будзь такім хітрінькім, думыіш, цябе ніхто ні пынімаіць.*

ХІТРОСЕНЬКІЙ. Вельмі хітры. *Каб ты ні была такою хітрёсінькыю, яны б табе ўсё рыскызалі, а так ня жджы праўды.*

ХІТРУСЕНЬКІЙ. Вельмі хітры. *Ах ты, мыя хітрюсінькыя, лáшчысься г дзеду, каб канхветку даў.*

ЦЁПЛЕНЕЧКІЙ. Цёплы. *Тута дужа ні нагреісься, печ чуць цёплінічкыя. Люблю, каб што-небудзь цёплінічкыя надзець.*

ЦЁПЛЕНЬКІЙ. Цёплы. *Цёплінькія крупені паеж і атагреісься. Людзі набеглі — ён ішчэ цёплінькій быў, толька ня дыхыў.*

ЦЯЖОЛЕНЬКІЙ. Цяжкі. *Цяжолінькій мальчонка, я чуць пыдніла. Жырнінькія пырысяткі, цяжолінькія, ну што ты хочыш, с-пыд маткі.*

ЧАРНЮСЕНЬКІЙ. 1. Чорны. *Купіла двух пырасёнычкыў, чарнюсінькія, глáдзінькія.* 2. *Перан.* Цяжкі, невыносны. *Чарнюсінькыя жызьня яе, гарюіць, бедныя.*

ЧОРНЕНЕЧКІЙ. Чорны. *Чорнінічкій чыртакож, мальцым ны штаны будзіць на лета.*

ЧОРНЕНЬКІЙ. Чорны. *Жыўтлявый січчык у чорнінькія гарошынкі, нічога будзіць плацьця.*

ШЫРОКЕНЬКІЙ. Шырокі. *Во шурокінькыя кўртычка хырашо, пыд яе і падзьдзець што можна, а ў цесный дык ні пывярнуцца.*

ЯСНЕНЬКІЙ. Ясны, светлы; выразны. *Ноч была ясьнінькыя-ясьнінькыя, хуць газету чытай. Мне ясьнінькі іх словы, знаю, на што нымікáюць.*

Сітуацыйныя прыметнікі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі са значэннем непаўнаты якасці.

БЕЛАВАЦЕНЕЧКІЙ. Белаваты. *Я помню тую хустычку, білуваціпічкыя тыкая была, во тут часта вісела.*

БЕЛАВАЦЕНЬКІЙ. Белаваты. *Білуваціонькія кохтычкі сяньня прыдываліся, я іх глядзела, нічога, цёпліонькія, толька ні ўзіла: пыбыялыся, што будзіць маркыя.*

БЕЛЕСАВАЦЕНЕЧКІЙ. Бялявы. *Была ў нас, даўно ўжо, білісуваціпічкыя кароўка, рыжыя морда, на від німудрушычка, а мылаком зылівала.*

БЕЛЕСАВАЦЕНЬКІЙ. Бялявы. *Яны нейкія ня белыя куры, а білісуваціонькія, дужа нясушчыя.*

БЛЕДНАВАЦЕНЕЧКІЙ. Бледнаваты. *Мыцірыял ён крепіонькій, шырына харошыя, ну бліднуваціпічкій, мне такей цьвет ні ныравіцца.*

БЛЕДНАВАЦЕНЬКІЙ. Бледнаваты. *Нешта ён бліднуваціонькій, ці на вуліцы мала буваіць, ці нідылігаіць яму што.*

БУЙНАВАЦЕНЬКІЙ. Буйнаваты. *А глянь-ка ты, бульбіны пупыдаюцца буйнуваціонькія, аць сёлітніга лета дайжа було трудна ждаць такея.*

ВАЙСТРАВАЦЕНЬКІЙ. Вайстраваты. *Ён быў вуйструваціонькій ножычык, ета посьлі тваіх рук такей стаў, нічога ня ўрезыць.*

ВІСАКАВАЦЕНЬКІЙ. Высакаваты. *Ганьнін мальчышка вісукуваціонькій, ён пашоў у бацькіна пріродзьдзя, пы дзядзьку будзіць. Етый стульчык яму вісукуваціпік.*

ВУЗКАВАЦЕНЕЧКІЙ. Вузкаваты. *Куртычка саўсім вузкуваціпічка, пыт пахымі жмець і ў плічах ні патходзіць.*

ВУЗКАВАЦЕНЬКІЙ. Вузкаваты. *Я ўжо пріміряў етыя плашчыкі, вузкуваціонькія, а паносіш — яшчэ большы сьсядуцца.*

ГАЛУБАВАЦЕНЕЧКІЙ. Блакітны. *Маша купіла сабе гулубуваціпічкыю кохтычку, дужа ёй ідзець.*

ГАЛУБАВАЦЕНЬКІЙ. Блакітны. *Ты б луччы купіў сабе гулубуваціонькыю сарочку, як у Шуркі, іна дужа красівыя і аць сьцірывыіцца лёхка.*

ГАРАЧКАВАЦЕНЬКІЙ. Крыху гарачы. *Выда ішчэ гырічкуваціонькыя, пыстаіць мінутку і ўвальлеш, а так цеста можыць зывапіцца.*

ГАРКАВАЦЕНЕЧКІЙ. Крыху горкі. *А я толька ны язык успусьціла твае каплі — гурькуваціничкія.*

ГАРКАВАЦЕНЬКІЙ. Крыху горкі. *Ні знаю, ш чаго тэй мёд быў, ён мне пыкызаўся гурькуваціцінькім, ета буваіць аць цьвятоў.*

ГЛАДКАВАЦЕНЬКІЙ. Крыху гладкі. *Доскі яны глудкуваціцінькія, ну так жа класьць ня будзіш, прідзіцца стругаць троху, ніхай чысьцей будуць. Ну, ты ўжо хочыш, каб табе ўсё було хуць куўзайся, етый брусок тожа глудкуваціцінькій, ладзін будзіць, пойдзіць так.*

ГЛУБАКАВАЦЕНЬКІЙ. Глыбакаваты. *Ні глядзі, што вўзінькыя, іна глубукуваціцінькыя речычка, і пыплавыць можна.*

ГЛУХАВАЦЕНЬКІЙ. Глухаваты. *Ён радзіўся глухуваціцінькім, і цяперь, прімець, айдзе гаворюць, ён усігда гылаву выцягывыіць, нідачуіць. Не, баба, ты саўсім глухуваціцінькыя стала: я ж гывaрю, каб карзінку пыдылá, а ні шáічку.*

ГНІЛАВАЦЕНЕЧКІЙ. Гнілаваты. *Лес ён, як пыглядзіш, красівый, а гнілуваціцінічкій, пыт карою доўга ліжаў, я б такога ні купляў, луччы піріплаці, ну купі крепкій.*

ГНІЛАВАЦЕНЬКІЙ. Гнілаваты. *Хата іна ня новыя, гнілуваціцінькыя, якей жа табе різон браць, кылі зы такея грошы ты купіш сабе новінькыю.*

ГРУБАВАЦЕНЬКІЙ. 1. Таўставаты. *Дровы грубуваціцінькія, іх пыпылáм абізацільна калоць нада.* 2. Грубаваты. *У яго ўсігда голыс быў грубуваціцінькій. І вўчыный, а грубуваціцінькій, ня дужа ат яго ласкывыя слова пачуіш.*

ГУСТАВАЦЕНЕЧКІЙ. Густаваты. *Цеста густуваціцінічкыя, нада трошку рыжжыдзіць. Быракі сяньня густуваціцінічкія, ты мáлым кладзі, яны гушчу любюць.*

ГУСТАВАЦЕНЬКІЙ. Густаваты. *Як густуваціцінькыя, іна смашнейшыя, большы вады ні пыдлівáй. Проська ўсігда густуваціцінькій кулеш варіла.*

ДАЛЕКАВАЦЕНЕЧКІЙ. Далекаваты. *Там-то ягыд многа, хуць грыблямі грябі, ну ён дылікуваціцінічкій, тэй лес.*

ДАЛЕКАВАЦЕНЬКІЙ. Далекаваты. *Речка іна харошыя, ну дылікуваціцінькыя. Я б зьезьдзіла, дарога дылікуваціцінькыя.*

ДАЎГАВАЦЕНЕЧКІЙ. Даўгаваты. *Дрыбязу нада*

*пыпірісікáць, а дуўгувáцінічкія палкі кінь, прясла пычыняць прідзіцца, і так кылячок пад рукі нада буваіць.*

ДАЎГАВАЦЕНЬКІЙ. Даўгаваты. *Барькі дуўгувáцінькія, урізаць нада. Дні ўжо сталі дуўгуваціняскія, к вясьне пыдышло і скот валнýіцца, у поля хочыць.*

ДАЎНАВАЦЕНЬКІЙ. Даўнаваты. *Тая каша дуўнувáцінькыя, ці ні зайчора варілыся, выкінь ты яе луччы ў шайку, пырасёнку рызьмішáіцца і ўсё. Чаго ён у цябе дуўнуваціньскій, я ні знаю, а толька ж нада трошку луччы хызяйнічыць, калі дýмна сям'ю строіць.*

ДЛІННАВАЦЕНЕЧКІЙ. Даўгаваты. *Ета бірнушко кáпілічку дліннувáцінічкыя, ны паліц нада падрезыць.*

ДЛІННАВАЦЕНЬКІЙ. Даўгаваты. *Пальцечка яно цёплінькыя, у плічах нічога, толька дліннувáцінькыя. Троху дліннувацінькыя шула, а нічога, глубачэй зыкыпáіцца — кряпчэй стыяць будзіць, хуць сьціна тут ні былышая, ні паверніцца.*

ДРАБНАВАЦЕНЕЧКІЙ. Драбнаваты. *Друбнувáцінічкія яйцы, іх пылідзяць і купляць ня хочуць, глянуць і атходзюць.*

ДРАБНАВАЦЕНЬКІЙ. Драбнаваты. *Сеіла, сеіла гарох, пакуля ён, знаць, саўсім вырыдзіўся, летыся быў друбнувáцінькій, а сёліта як мак стаў.*

ДУПЛАВАЦЕНЬКІЙ. Дуплаваты. *У нас на хутыры сядзела кылы Пірядніноскія дарогі дуплувáцінькыя ігрýшына, усё ў ёй віряб'і вяліся, кажныю вясну гнёзды дзелылі.*

ДУРАКАВАЦЕНЬКІЙ. Дурнаваты. *Што табе гывáрыць, калі ты ат пріродзьдзя дурукувáцінькій, ці помніш, як ты пырысят прыдаць хацеў зы мідзякі.*

ДУРНАВАЦЕНЬКІЙ. Дурнаваты. *Ну, што ж, кылі дурнувáцінькій, што ты яму аб'ясьніш, ці б'ісьняй, ці ні б'ісьняй, нічога ні даходзіць.*

ДУШНАВАЦЕНЬКІЙ. Крыху душны. *Якей-то душнувáцінькій воздух у бані, аччыні, ніхай вывітріцца.*

ЖАДНАВАЦЕНЬКІЙ. Скваліваты. *Пы мамі ўдылáся жуднувáцінькыя, ня дужа што ў яе выпрысіш.*

ЖАРКАВАЦЕНЬКІЙ. Гарачаваты. *Журкувáцінькыя баня ваша, дух крепка дзяржыцца, пірінучувáла, а я зайшоў ладным раньнім — і хуць парься.*

ЖАЎТАВАЦЕНЕЧКІЙ. Жаўтаваты. *Кохтычка бялюхтынькыя, як пудунýта жуўтувáцінічкім, па модзі пашыта, мне дужа ныравіцца.*

ЖАЎТАВАЦЕНЬКІЙ. Жаўтаваты. *Што йта з нашым Колім, яго нейкія вочкі жуўтувáцінькія сталі, каб ні зыбалеў ён чым.*

ЖАЎТЛЯВЕНЕЧКІЙ. Жаўтаваты. *Нейкій ваш Пятрок ны ліцо жыўтлявінічкій, па-мойму, ён нейкій хворый.*

ЖАЎТЛЯВЕНЬКІЙ. Жаўтаваты. *Ныбрала ны плацьця жыўтлявінькыга мыцірішлу, каб харошый партніхі і аддаць пашыць.*

ЖУЛІКАВАЦЕНЬКІЙ. Жулікаваты. *Віджу, што ты становісься жулікувáцінькім. Чаго там гываріць, нашто зыгичыгичáць, жулікувацінькія хлопцы, за імі глядзі ды глядзі.*

ЖЫДКАВАЦЕНЕЧКІЙ. Вельмі вадкі. *У цябе сяньня чаго-то ўсё жыдкувáцінічкыя, ці ты варіць рузучылыся, ці што с табою стала.*

ЖЫДКАВАЦЕНЬКІЙ. Вадкі. *Сяніпнія сьмітана саўсім жыдкувáцінькыя, ні тыкая, што тэя разы была, ці дужа сьвежыя, толька зьнята, ці рызьвялі троху, яны такоя тожа ўмеюць.*

ЗЕЛЕНАВАЦЕНЕЧКІЙ. Зеленаваты. *Трошку зілінувáцінічкыя мацерія, пасьці нізаметна, абеім на кохтычкі ныбрала, ікраз хвáціць.*

ЗЕЛЕНАВАЦЕНЬКІЙ. Зеленаваты. *Сукно ладныя, навошчуп плотныя, зілінувáцінькыя, пальто выйдзіць цёплыя, зімы дзьве праносіць і ладна.*

ЗЕЛЕНКАВАЦЕНЬКІЙ. Зеленаваты. *Поскыньні іщчэ зілінкувáцінькія, трошку рунувáта брацъ.*

ЗЕЛЕНКАВЕНЬКІЙ. Зеленаваты. *Не, па-мойму, зілінкáвінькыга ты сабе ні бярі, ён табе саўсім ні падойдзіць, табе лучче высільковый цьвет купляць.*

КАРАТКАВАЦЕНЕЧКІЙ. Караткаваты. *Я зразу віджу, што вярёвычка куруткувáцінічкыя, ёю хамут ні ссупоніш, а ныдвязывыць тожа дренна: вузёл мішаіць сьцягывыць.*

КАРАТКАВАЦЕНЬКІЙ. Караткаваты. *Ні бярі, памерій другей пінжак, тута і рукавы куруткувáцінькі, і ны сьпіне моршчыцца, нашто ж брацъ, што ні патходзіць.*

КАРАТКАВЕНЕЧКІЙ. Караткаваты. *Прівізкі ў цябе пулучыліся трошку кырыткáвінічкія, каб ны паўчэцьвірці даўжэй, і ладно було б.*

КАРАТКАВЕНЬКІЙ. Караткаваты. *Яно і на вока відна, што кылячкі кырыткáвінькія, нада б трошку даў-*

*жэй. Кырыткáвінік пулушýбычык, каб даўжэй быў, ён ба грэў лучча.*

КАРЫШНЯВАЦЕНЕЧКІЙ. Карычняваты. *Быў ніплахей мыцірiял, трошку кырішнювáцінічкій, ды ў мяне грошы с сабою мулувáта було.*

КАРЫШНЯВАЦЕНЬКІЙ. Карычняваты. *У яго ўсякіх рубашык хвытаіць, нуспруўляў, і белыя, і сінія, нідаўна кырішнювáцінькыю прінёс з горыда, з машыны купіў.*

КАСАВАЦЕНЕЧКІЙ. Касаваты. *Тыкая пыглядныя дзеўка, а кусувáцінічкыя, зразу і ні замеціш, а як прігледзісься, дык відна.*

КАСАВАЦЕНЬКІЙ. Касаваты. *Ну што ж, усе знаюць, што йна кусувáцінькыя, што ж ты зьдзелыіш.*

КАШЧАВАЦЕНЬКІЙ. Сухарлявы. *Ды не, Пятрок ні худэй, ну троху кышчывáцінькій, дык ета па іхній прі-родзі, у іх поўных ні було. Летыся і Антоныў пріiжджáў меншый, як быў кышчывацінькій, такей і січас.*

КІСЛАВАЦЕНЕЧКІЙ. Кіславаты. *Яблыкі нямнога кіслувáцінічкія, смашныя, мяккія, нада було штук пяць такіх пысадзіць.*

КІСЛАВАЦЕНЬКІЙ. Кіславаты. *Крепкыга я нічога ня п'ю і ў рот ні бяру, а етыга кіслувáцінькыга налі чарычку, яно неік пріятна на ўкус.*

КРАПКАВАЦЕНЬКІЙ. Цвердаваты. *Я нажом пашчупыла, бульба ні гатова, кріпкувáцінькыя, ніхай мінутку пыкіпіць.*

КРАСНАВАЦЕНЕЧКІЙ. Чырванаваты. *Нейкія прышчычкі круснувáцінічкія пашлі па ўсёй руке ды самыя шыі, відна, ета праступа кінулыся ат плячэй.*

КРАСНАВАЦЕНЬКІЙ. Чырванаваты. *Пыглядзі-ка, што-то ў мáлыга вочы круснувáцінькія, нечыга яму нідылігáіць. Ні мыхай рукою, січас паліц чуць круснувáцінькій, а як нарьвець, тады навозісься.*

КРУГЛАВАЦЕНЕЧКІЙ. Круглаваты. *Тута нада круглувáцінічкія палкі, інáчы зыстряніць, ні туды, ні сюды, толька будзіш мучыцца.*

КРУГЛАВАЦЕНЬКІЙ. Круглаваты. *Круглувáцінькіх кылячкоў адбяры, ніхай пыліжаць, а астатнія пыпірісікáй ды складзі пыц стряху ад дыжджа.*

КРУТАВАЦЕНЕЧКІЙ. Крутаваты. *Астарожна глядзі з возым, тама узлобык крутувáцінічкій, лучча пыдвізаць каток, можыць лопнуць шлія, і рызьнясець конь.*

КРУТАВАЦЕНЬКІЙ. Крутаваты. *Крутувáцінькыя крыша хырашо, меншы прыцікáць будзіць, толька такую накрыць ціжалей.*

КРЫВАВАЦЕНЕЧКІЙ. Крываваты. *Грыбільнішча крівувáцінічкыя, дык гресьць нічога, а пірібіранкі нялоўка пыднімаць, круціцца ў руках.*

КРЫВАВАЦЕНЬКІЙ. Крываваты. *Пы кынавых івык многа було крівувáцінькіх, можна було вырізыць і лучок, і яшчэ на штo-небудзь.*

КУДРАВАЦЕНЕЧКІЙ. Кучаравы. *Машкіны дзеці кудрювáцінічкія-кудрювацінічкія, у бабу пашлі.*

КУДРАВАЦЕНЬКІЙ. Кучаравы. *У яе і дзевычка кудрювáцінькыя, і мальчык такей самый. Кудрювáцінькій мальчышка, ты ня стой пірідa мной: тваe глазкі гулубыя атабралі мой пакой.*

ЛЫСАВАЦЕНЕЧКІЙ. Лысаваты. *Яму дваццыць пяць було, дык хадзіў лусувáцінічкій. Ныравіцца табе тэй лусувацінічкій?*

ЛЫСАВАЦЕНЬКІЙ. Лысаваты. *Ты свайго лусувáцінькыга і ні хвалі, знаім, якей ён. Што-то рана ты становісься лусувацінькім, нейкія цябе заботы точуць.*

МАКРАВАЦЕНЬКІЙ. Макраваты. *Я цап — нешта мукрувáцінькыя пуд рукамі. Як жа ты абýіш мукрувацінькія анучы?*

МАЛАВАЦЕНЕЧКІЙ. Малаваты. *Етый касьцюмчык красівый, яму дужа йдзець, ну мулувáцінічкій, нілізя брaць.*

МАЛАВАЦЕНЬКІЙ. Малаваты. *Купіў харошыя бацінычкі — і мулувáцінькі, гаворіць, жмуць, міняць нада. Нічога мулувáцінькыга ні купляй ні разу, намýчыісься і выкініш.*

МЕЛКАВАЦЕНЕЧКІЙ I. Драбнаваты. *Пат под зысыпáюць буйнейшынькія кáмушкі, етыя мілкувáцінічкія.*

МЕЛКАВАЦЕНЕЧКІЙ II. Мелкаваты. *Ны маю сям'ю такея тарелычкі мілкувáцінічкі, мне нада паглýбжы.*

МЕЛКАВАЦЕНЬКІЙ I. Драбнаваты. *Бульба сёліта мілкувáцінькыя. Ета харошыя гурочыкі, мілкувацінькія, толька і саліць.*

МЕЛКАВАЦЕНЬКІЙ II. Мелкаваты. *Мілкувáцінькыя наша сажылка стала, дайжа вядро ні хуваіцца.*

МУТНАВАЦЕНЕЧКІЙ. Мутнаваты. *Ікая ня чыстыя выда ў речкі, а тут трошку мутнувáцінічкыя, пыстаіць — і муток асідáіць на дне.*

МУТНАВАЦЕНЬКІЙ. Мутнаваты. *У нашым калодзіжы мутнуваціенькыя выда стала, пірінаучыць у пасудзіні, дык пряма юражка па дну ляжыць.*

НІЗКАВАЦЕНЕЧКІЙ. Нізкаваты. *На рост ён такей нізкуваціенічкій, ну круткій, сколька ні браліся боріцца, усе ліцяць, як ашмёткі.*

НІЗКАВАЦЕНЬКІЙ. Нізкаваты. *У нас ны магільніку нескылька сосін расло — нейкія тоўстыя, нізкуваціенькія, гыварілі, неткуль із-зы граніцы паны прівязьлі. Етый стульчык нізкуваціенік, зь яго ні дыстаніш.*

РАБАВАЦЕНЬКІЙ. Рабаваты. *Як куплялі зямлю нашы, Марка ім грошы пызычаў, нейкій із-зы Вяхры быў, ліцо рібуваціенькыя, тады доўга сыйскывыў грошы.*

ХАЛАДНАВАЦЕНЬКІЙ. Халаднаваты. *Не, етый пінжачок хулуднуваціенькій, у ім толька адна пыткладычка бізь нічога, падзьдзень што-небудзь цяплейшынькыя.*

ЧАРНАВАЦЕНЬКІЙ. Чарнаваты. *Трошку зілінуватыга ёсьць, а к крыям чурнуваціенькій — ня дужа красівый цьвет, я брацiь ня буду.*

Сітуацыйныя прыметнікі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі са значэннем вышэйшай ступені якасці.

АКУРАТНЕЙШАНЬКІЙ. Больш акуратны. *Кылі акуратнейшынькыя работа, дык і глядзець люба. Нада быць трошку акуратнейшынькім ува ўсём.*

АСТРАЖНЕЙШАНЬКІЙ. Больш асцярожны. *Хто астыражнейшынькій, тэй ні палезіць увы ўсякыю пролыбку бізы глядкі, як ты.*

БАГАЦЕЙШАНЬКІЙ. Багацейшы. *А ні гывaріця, Якывіны быгацейшынькімі ні былі ні разу. Вы ж быгацейшынькія, з вас і брацiь большы нада.*

БАЯВЕЙШАНЕЧКІЙ. Больш баявы. *Меншыя ў іх быявейшынічкыя дзяўчонычка, большыя нейкыя дужа ціхыя.*

БАЯВЕЙШАНЬКІЙ. Больш баявы. *Калі быявейшынькій — ета ня дренна, ён усюдых скарей праб'ецца, дасьцігніць усяго.*

БЛІЖЭЙШАНЬКІЙ. Бліжэйшы. *Во ў бліжэйшынькія кусьцікі зьбегый і найдзіш ны гаршчонычык грібоў. Што, кылі ён бліжэйшынькій, пользы я ат яго ніякія ня віджу.*

БЫЙСТРЭЙШАНЬКІЙ. Больш хуткі, рухавы. *А Ко-*

*ля трошку быйстрейшынькій, ён цябе пірігыняіць. Васіль ува ўсём быў быйстрейшынькій, ты зь ім ні ў чом ні спруўляўся.*

ВАЛЬНЕЙШАНЬКІЙ. Больш вольны. *Як будзіш вальнейшынькій, пыдбягі калі ны мінутку ка мне. Німа ў мяне вальнейшынькыга ўремя, кажный дзень загружын большы некуды.*

ВЕСЯЛЕЙШАНЬКІЙ. Больш вясёлы. *Нядзелю пластом ліжаў, а ўчора, як слова, стаў трошку вісялейшынькій, чаю пыпрасіў. Нада быць вісялейшынькім, нешта ты саўсім гылаву апусьціў.*

ВІСАЧЭЙШАНЬКІЙ. Больш высокі. *Вісачэйшынькій — ета Анькін сын, а меншый — Просін. Твыя дычка вісачэйшынькыя стала за ета ўремя.*

ГАРАЧЭЙШАНЬКІЙ. Больш гарачы. *Мне нылівай чаго-небудзь гырячэйшынькыга, я ўжо двоя судык вáрíныга ня еў.*

ГЛАДЗЕЙШАНЬКІЙ. Больш гладкі. *Посьлі фуганка брусочыкі гладзейшынькія пулучаюцца. У Домны пылатно гладзейшынькыя выхадзіла.*

ГЛУБАЧЭЙШАНЬКІЙ. Больш глыбокі. *Купі трошку глубачэйшынькіх тарелык, ніхай сколька штук будзіць пры зыпас.*

ГРАМАТНЕЙШАНЬКІЙ. Больш пісьменны. *Андрей трошку грыматнейшынькій, ён большы ў школу хадзіў. Хто грыматнейшынькій, таму ня хужы.*

ГРУБЕЙШАНЬКІЙ. Больш грубы. *Як хлеб пякеш, нада грубейшынькіх закінуць, хвырастком на хлеб ні ныпáліш.*

ГРУСНЕЙШАНЬКІЙ. Больш сумны. *Твой кывалер стаў ішчэ грусьнейшынькій, нешта ты яго абіжаіш.*

ГУСЦЕЙШАНЬКІЙ. Больш густы. *Посьлі паткормкі цімахвеіўка куды гусьцейшынькыя стала і расьцець луччы. А каб і гусьцейшынькыя крупеня была, хужы ні було б.*

ДАРАЖЭЙШАНЬКІЙ. Любімы, дарагі. *У цябе Мішка быў самый дыражэйшынькій, толька нешта замуж зы яго ты ні пышла. А ні бядніся ты, у цябе грошы ёсьць, мог ба і дыражэйшынькыю рубашку ўзяць.*

ДАЎЖЭЙШАНЬКІЙ. Больш доўгі. *Даўжэйшынькій шосьцік луччы быў ба, ніхай ба і ныт крывáцьцю вісеў усьկінуць што-небудзь ны хаду.*

ДЗЕШАВЕЙШАНЬКІЙ. Больш танны, таннейшы.

*Мне каб чаго-небудзь купіць дзішавейшынькыга, ны дырагоя ў мяне грошы ні хвáціць.*

ҚАРАЦЕЙШАНЬҚІЙ. Больш кароткі. *Чорныя штаны кырацейшынькія і самый раз, а тэя кыпілінку дуўгуваты. Қаб ты вы́брыў што кырацейшынькыя, яно б луччы глядзелыся. Тут палоскі былі многа кырацейшынькія, там жа ідзеш, ідзеш с касою, амя́гніш, а тута праскочыш і яшчэ станіш, а толька тады пірядьі́шка.*

ҚРАПЧЭЙШАНЬҚІЙ. Больш моцны, мацнейшы, здаравейшы. *Бярі кряпчэйшынькыю вярёўку, слабыя можыць ня вы́дзіржыць, парьвецца і пыляціш разым з гыраджэньнім. Выйна ўсім дыла́ся, і кряпчэйшынькія дзеці хвыралі, зь лячэньнім було дренна, а слабінькія і пымiралі.*

ҚРАСІВЕЙШАНЕЧҚІЙ. Больш прыгожы. *Можа ён і крысівейшынічкій, а толька мне і Қоля ла́дзін будзіць.*

ҚРАСІВЕЙШАНЬҚІЙ. Больш прыгожы. *Табе можна зыдывацца, твой крысівейшынькій, а мне ўжо ладзін і такей, якей ёсьць.*

ҚРУТЧЭЙШАНЬҚІЙ. Спрытнейшы. *У твае гады я была куды кручэйшынькыю, а ты таўкесься, як мяшок, нада трошку шустрей пывыра́чывыцца.*

ҚРУЦЕЙШАНЕЧҚІЙ. Больш круты. *Ніхай ба іна была кыпілінычку круцейшынічкыя ета крыша, як мне ныдаела ў сенцых мыкрытá, чуць дождж зыка́пыў — і пыцякло.*

ҚРУЦЕЙШАНЬҚІЙ. Больш круты. *Тута ганкі многа круцейшынькія, чым у нас, ажно лезьць цяжола.*

ЛУЧЧЭЙШАНЬҚІЙ. Лепшы. *Я хацеў, каб што луччэйшынькыя вы́брыць, етый касьцюмчык дужа просьцінькій.*

ЛЯВЕЙШАНЬҚІЙ. Левы. *Бягі во так, пыглідай на тэя ліпкі, лявейшынькыю сьцёжкыю пряма к іхныму гумну вы́скычыш.*

ЛЯГЧЭЙШАНЕЧҚІЙ. Больш лёгкі. *Ляхчэйшынічкія палычкі павы́брыны, асталіся тэя, што ні паднімуць.*

ЛЯГЧЭЙШАНЬҚІЙ. Больш лёгкі. *Бярі ляхчэйшынькій мяшочык, будзіш ты ірвацца, етый нада ўдваіх несьць.*

МАҚРЭЙШАНЕЧҚІЙ. Больш мокры. *Думыла, куртычку надзець можна, а йна яшчэ макрейшынічкыя, чым пінжачок, і надзень што хочыш.*

МАҚРЭЙШАНЬҚІЙ. Больш мокры. *Што ты гля-*

*дзіш, каторый макрейшынькій, абоя пінжакі сушыць нада.*

МАЛАДЗЕЙШАНЬКІЙ. Маладзейшы. *Ты ўсё выбіраіш, каб табе мыладзейшынькыга, а самой сколька? Полька трошку мыладзейшынькыя, ну нямнога, гады ны два.*

МЯКЧЭЙШАНЬКІЙ. Мякчэйшы. *Мне скарінкі ня реж, мне дывай мякчэйшынькыга, ні з маімі зубамі скарінкі грызьць.*

НІЖЭЙШАНЬКІЙ. Ніжэйшы. *Ніжэйшынькій — ета Аксюцін, а тэй большый — Полькін, здаровый лабрэт выбухыўся.*

НІЗЕЙШАНЬКІЙ. Ніжэйшы. *Каб ета скамеічка была кыпялюхтычку нізейшынькыя, на ёй ба удобній було сядзець.*

ПРАВЕЙШАНЬКІЙ. Правы. *Там дзьве дарожкі варочыюць, дык ты правейшынькыю бягі.*

ПРАСЦЕЙШАНЬКІЙ. Больш просты. *Ні нада табе ў грязь купляць чаго дужа харошыга, вазьмі якога прасьцейшынькыга мыціріялу.*

ПРЫГАЖЭЙШАНЬКІЙ. Прыгажэйшы. *Тымаркін хлопіц прігажэйшынькій, ні рыўняць с Паўлікым. Прігажэйшынькыя, ды ня дужа рýпытнінькыя.*

РАЗУМНЕЙШАНЬКІЙ. Больш разумны. *Каб ты быў рузумнейшынькій, ня слухыў ба іх ныгаворыў. Ты што-небудзь рузумнейшынькыя скажы.*

РУХАВЕЙШАНЬКІЙ. Больш рухавы. *Ні глядзі, што мáлінькій, ён рухавейшынькій, яго і пашлеш скарей, а етыга ні дапросісься.*

САЛАДЗЕЙШАНЬКІЙ. Больш салодкі. *Тута вінныя яблыкі, а дальшы сыладзейшынькій сорт, пасьці як мідуніцы, а ац самыга краю антоныўкі сідзяць.*

ТАНЧЭЙШАНЬКІЙ. Больш тонкі. *Сюда б нада танчэйшынькіх лазінык, такімі ні зыпляцеш, яшчэ большы ўсё рыскывіряіш.*

ЦІШЭЙШАНЬКІЙ. Больш ціхі, спакойны. *Нада выбрыць цішэйшынькій дзень ды схадзіць. Не ўжо, цішэйшынькімі яны ня будуць, у руках іх ніхто ні дзяржыць.*

ЧАРНЕЙШАНЬКІЙ. Больш чорны. *Чарнейшынькій — ета, па-мойму, Высілёў сын, трошку на іх пріроду пыхвáтыіць.*

ШУСТРЭЙШАНЬКІЙ. Больш шустры. *Хут ты й шустрейшынькыя, а Вольга цябе кругом апстыўляіць.*

ШЫРАЧЭЙШАНЬКІЙ. Больш шырокі. *Нада шыць шырачэйшынькія штаны, такея дýдычкі нікрасівы. Каб трошку шырачэйшынькыя рубашка была, я б узьдзеў наверьх і пашоў ба.*

Сітуацыйныя прыметнікі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі са значэннем розных адносных прыкмет.

АББІЦЕНЬКІЙ. Абабіты. *Квасоля на семя у аббіцінькім гырлáчыку. Ён аббіцінькій лаханок, а ніз дзяржыцца й дзяржыцца.*

АДЗІНАКАВЕНЕЧКІЙ. Аднолькавы. *Як жа вы ім пыдыбрáлі так купіць адзінáкывінічкія касьцюмчыкі? Яны пырня́ты, адзінакывінічкія, ні рызьбяреш, айдзе каторый.*

АДЗІНАКАВЕНЬКІЙ. Аднолькавы. *Тута нечыга атказывыцца, атмыя́кывыцца, адзінакывінькія як бацька, так і сынок, якей куст, такей і атростычык — большы нічога ні скажыш.*

АДЗІНЁСЕНЕЧКІЙ. Зусім адзінокі. *Адзінёсінічкыю астывацца дужа-дужа трудна, днём выйдзіш к людзям, пыгаворіш, а як вечыр — ся́дзіш, сядзíш, усё на сьвецi пірядýмыіш.*

АДЗІНЁСЕНЬКІЙ. Зусім адзінокі. *Адзінёсінькыя прыжылá ўсю жызьню, ці каб каму пыжáлілыся, ці рыскызала што, усё адна і адна.*

АДЗІНОКЕНЕЧКІЙ. Зусім адзінокі. *Гады трі жыў адзінокінічкій, усё сам дзелыў, дайжа хлеб печ наўчыўся, пырасёнка дзіржаў.*

АДЗІНОКЕНЬКІЙ. Адзінокі. *Адзінокінькыму нійдзе ні салодка, ныйпáчы, калі сваіх нікога німа, жызьню з мыладых гадоў нада ўлáджывыць.*

АДЗІНЮСЕНЕЧКІЙ. Зусім адзінокі. *Адзіню́сінічкыя з малым асталыся, ён як пашоў, так і прыпаў, а йна зы вайну ця́пнула горя, усюдых адна.*

АДЗІНЮСЕНЬКІЙ. Зусім адзінокі. *Пыжыві сам адзіню́сінькій, тады пірістаніш Ганьні завідывыць, пыжыві і ўраньні адзін, і ны работу адзін, і ўвечырі, як турык, адзін у голых сьценых.*

АДНАБОКЕНЬКІЙ. Крывы, косы. *Нейкія ночвы пулучыліся аднабокінькія, у іх і ні ататреш як нада, нялоўка.*

АДНАВОКЕНЬКІЙ. Аднавокі. *Ён і хлопіц нічога сабе, а во ні пывязло змалку: ны кылячок вока скалоў і*

*астаўся аднавокінькім; тута ўжо як ні жалей, нічым ні пыпрáвіш.*

АДНАНОГЕНЬКІЙ. Аднаногі. *Стрыдаціль ён, бедный, дужа бальшэй стрыдаціль, з двыццаці гадоў аднаногінькій, ні ступіць, ні пайціць, усё пытпірáйся.*

АДНАРУКЕНЬКІЙ. Аднарукі. *Жывець бідняжка аднарукінькій, кыня запрежч, і то ні зыпрягець, хумута адною рукою ні сьцягніш.*

АДНАСПАЛЬНЕНЬКІЙ. Аднаспальны. *Нашто мне шырокій, купіла сабе аднаспáльнінькій мытрас, сіньнікá ныбівáць ні нада.*

АДСТАЛЕНЬКІЙ *гумар.* Адсталы. *Ацстáлінькій ты, ацсталінькій, к тваёй Маруські свáты заўтря сыбіраюцца, а ты ў шапку сьпіш.*

АДЧАЙНЕНЬКІЙ. Адчайны. *Аччáйнінькій мульчугáн, ета ж нада такою цімнатою адзін пабег, мне б і то кропна було.*

АКАНАМІСЦЕНЬКІЙ. Эканомны. *Раншы ты такою акынамíсьцінькыю ні была, ці ні Зьмітрок выўвухріў цябе так.*

АКАНОМНЕНЬКІЙ. Эканомны. *Аканомнінькыя ты ні разу ні была, етыга ўжо ні гывары, прібярежч у цябе нічога ні прібірягецца.*

АПЯЦІТНЕНЬКІЙ. Апетытны. *Апіцíтнінькіх пышык ныпікла, салодкія з макым, зыясіся.*

БАЛЮЧАНЬКІЙ. Балючы. *Еткія балю́чынькія раны ў яго, як ён толька трывáіць, якоя ета цярьпеньня нада.*

БАСАНОГЕНЬКІЙ. Басаногі, босы. *Бувала, толька сьнег зьлезіць, мы бысаногінькія бягім у шчавіль, ён толька прулузьнецца.*

БАСЕНЕЧКІЙ. Босы. *Ты пыглядзі-ка, ён жа басенічкій бегыіць, скарей бярі ў хату, прастудзіцца. Зіма зылігáіць, а я басенічкыя астаюся, валінкі зваліць ні пасьпелі.*

БАСЕНЬКІЙ. Босы. *Куды ён басенькій у лес пойдзіць, ногі пыпрыбівáіць, ато і ўкусіць што можыць, ніхай цындáлікі набуіць.*

БЕЗАБРАЗНЕНЬКІЙ *гумар.* Абуральны, агідны. *Бізыбрáзьнінькія ж ты дзялы́ тваріш, крепка можыш пыплаціцца за ета.*

БЕЗВАЛОСЕНЬКІЙ. Безвалосы. *Нечыга й глядзець егу мулюпáхтычку, ён ішчэ бізвалосінькій ляжыць у люлькі, чуць кáўкыіць.*

БЕЗГАЛОВЕНЬКІЙ *іран.* Безгаловы. *Ну што ты, бізгаловінькій якей малютычка ці што, такую кучу бульбы кінуць ні накрыўшы, зьверьху ўся, як цацкі, ўзілася.*

БЕЛАБАРОДЗЕНЬКІЙ. Белабароды. *Я чуць-чуць помню, як ува сьне: хадзіў такей білабародзінькій стырічок, у дліннай рубашкі быў, звалі, як слова, Аўсеім.*

БЕЛАБРОВЕНЬКІЙ. Белабровы. *У яе дзьве дзевычкі, такея білабровінькія, як сыма. Білабровінькыга мальчыка я к серцу прісушу.*

БЕЛАБРУХЕНЬКІЙ. Белабрухі. *У Зьмітрыка летыся была білабрюхінькыя тыкая цёлычка, дужа красівыя, ён яе пы кынтрыктацыі здаў.*

БЕЛАБРЫСЕНЕЧКІЙ. Белабрысы. *Іх і бацька такей білабрысінічкій быў, усе па ём пашлі.*

БЕЛАБРЫСЕНЬКІЙ. Белабрысы. *Нейкій яе білабрысінькій усё прывăджыіць, ці ты ня чула, чый ета. Твой білабрысінькій ужо ціряшчур за дзеўкымі улігăць стаў.*

БЕЛАВАЛОСЕНЕЧКІЙ. Белавалосы. *У пяску пăра кыпаюцца, гуляюць, білавалосінічкія кырапузы.*

БЕЛАВАЛОСЕНЬКІЙ. Белавалосы. *Яны самі білакурыя і дзеці ў іх білавалосінькія бегыюць пы хаці, мальчык большынькій, а дзевычкі трошку меншынькія.*

БЕЛАВОКЕНЬКІЙ. Белавокі. *Як німа луччыга, ладзін будзіць і білавокінькій ай, табе, можа, завідна стала.*

БЕЛАВУСЕНЬКІЙ. Белавусы. *У іх дзярейні быў такей стырічок білавусінькій, дужа сьмешна казкі рыскызывыў, усе с хохыту пылігăлі, а ён худзь ба ўсьміхнуўся.*

БЕЛАГАЛОВЕНЕЧКІЙ. Белагаловы. *Мăлінькій быў білагаловінічкій, а як падрос, пыцямнеў.*

БЕЛАГАЛОВЕНЬКІЙ. Белагаловы. *У яго ўжо ладный бегыіць білагаловінькій, як кумушок, пацешный мальчык, а йна ўжо другога жджэць. Трі дзяўчонычкі, як адна, білыгаловінькія.*

БЕЛАГРУДЗЕНЬКІЙ. Белагруды. *Ох, красівый у іхнім калхозі жырябочык, білагрўдзінькій, як агонь.*

БЕЛАГРЫВЕНЬКІЙ. Белагрывы. *Бувала, я свайго білагрівінькыга як зыпрягў у вазочык, сядзім утраіх, ён імчыцца, як стріла, дваццыць мінут — і ў горыдзі.*

БЕЛАЗУБЕНЬКІЙ. Белазубы. *Ты ўжо ны сваю білазўбінькыю прама нулюбувацца ня можыш, наверна, сьпіш і ўва сьне відзіш толька яе.*

БЕЛАКАПЫЦЕНЬКІЙ. Белакапыты. *У яго дзьве мыладэя жарёбкі былі, білыкапыцінькія, адну ён некуды прыдаў, а другую сабе кінуў, кыбыліца пазьней узілася, воз вязець — пад ёю зімля стогніць.*

БЕЛАКУРАНЕЧКІЙ. Белакуры. *Нейкыя ў яго білакурінічкыя тама ёсьць, часьценька туды бегыіць.*

БЕЛАКУРАНЬКІЙ. Белакуры. *Помніш, Валік быў такей білакурінькій, усё зы Тайкыю бегыў, нідаўна яго відзіла ў горыдзі, ж жонкыю хадзіў, кыпітан.*

БЕЛАЛІЦАНЬКІЙ. Белатвары. *Жыла ў нас троху Ганна Мыксімёнкыва, дужа ў яе была красівыя дзевычка білаліцынькыя, ні знаю, айдзе яны цяперя.*

БЕЛАМОРДЗЕНЬКІЙ. Беламорды. *Тэй біламордзінькій кунюшок на від ніважный быў, ну крепінькій, любэй воз брау.*

БЕЛАНОГЕНЬКІЙ. Беланогі. *Сколька ў іх цілятык біланогінькіх, знаць, усе аднае пароды.*

БЕЛАПУЗЕНЬКІЙ. Белабрухі. *Поўныя хата кыцінят, штук пяць, калі ня большы, білапузінькія бегыюць, гуляюць. Летыся ў Андрея білапузінькій бычок быў, ён яго ня ў свой калхоз, а у горыд зукунтруктуваў.*

БЕЛАХВОСЦЕНЬКІЙ. Белахвосты. *Во зь естыя білахвосьцінькія цёлычкі луччыя палучыцца карова, яе матка дужа малошныя і сыма красівыя: ножкі тоўстыя, пуп бальшэй,— зь яе будзіць карова.*

БЕСКЛАПОТНЕНЬКІЙ. Бесклапотны. *Ты ўсігда і ўеа ўсём біскляпотнінькій, ты ні пра што ні пызабоцісься, ні парўпісься зьдзелыць што.*

БЛЕДНАЛІЦАНЬКІЙ. Бледнатвары. *Во сколька я помню яе Высіля, ён усігда бледналіцынькій, нейкій ніздаровый від у яго.*

БЛІЗАРУКЕНЬКІЙ. Блізарукі. *З мылалества блізарукінькій, чытаньнім папорціў вочы. І мальцу ніважна, а ўжо дзяўчонка блізарукінькыя саўсім дренна.*

БОЛЬНЕНЬКІЙ. Хворы; балючы. *Увесь ён больнінькій, рукі абмытаны, дужа стрыдаіць. Дужа ў яго больнінькія раны, аппечыныя ўсігда балючыя.*

БОСЕНЕЧКІЙ. Босы. *Бягіць босінічкій, галюсінькій, куды ты, тыкая крошка, ляціш, прастудзісься і зыбалеіш.*

БОСЕНЬКІЙ. Босы. *Айдзе ты яго зыставіш набуцца, босінькій кытануў усьлед за дзедым. Босінькія бегыюць і худзь ба што ім.*

БРАЗКАТЛІВЕНЬКІЙ. Бурклівы. *Усё-тыкі ты ці-*

*ряшчур брізкатлівінькыя, нада б трошку свой язык зу зубамі прідзержывыць.*

БРЫКАСЦЕНЬКІЙ. Брыклівы. *Дужа вясёлінькій бычаночык, брыкáсьцінькій, цэлый дзень скачыць ны вярёўкі.*

БРЫКЛІВЕНЬКІЙ. Брыклівы; вясёлы. *Брыклівінькія бычкі сталі, ат'еліся зы вясну ну лугу. Ай-я-яй, ікая ты брыклівінькыя!*

БЯЗБРОВЕНЬКІЙ. Бязбровы. *Лáдзін ужо, ладзін будзіць і бязбровінькій, ішчэ пірібірáць надýмылыся.*

БЯЗДОЛЬНЕНЬКІЙ. Бяздольны, нешчаслівы. *Чаго ён такей бяздольнінькій, ні ў чом яму ні вязець. Бяздольнінькій то бяздольнінькій, ну нада ж, каб сам троху рупіўся.*

БЯЗДУШНЕНЬКІЙ *іран.* Бяздушны. *Як ты ні зуступáйся, ну такога бяздýшнінькыга ў белым сьвецї ні найдзіш. Якою ж нада быць бяздушнінькыю, каб у родныга брата хату адбірáць.*

БЯЗЗУБЕНЬКІЙ. Бяззубы. *Бяззýбінькыму мякушка кусочык дай, і ўсё, скарінкі ён ні рызгрызець.*

БЯЗНОСЕНЬКІЙ. Бязносы. *Ты луччы глядзі свайго бязносінькыга, а мой якей ёсьць, такей і лáдзін будзіць, мне зь ім ні на выстыўку.*

БЯСХВОСЦЕНЬКІЙ. Бясхвосты. *Бегыіць у іх пы двару пару бясхвосьцінькіх куріц, пятух нейкій кукарекыіць.*

ВАЕННЕНЬКІЙ. Ваенны. *Іна цыляіць, каб зы ваеньнінькыга вы́скычыць, абы зы якога не. Тэй ваеньнінькій і ні глядзіць у яе бок.*

ВАЙСТРАНОСЕНЕЧКІЙ. Востраносы. *Ай, якей ты выйстраносінічкій, ікраз мама тыкая была. Лявонывы дзеці выйстраносінічкія, як пітушкі у пасьцелі сідзяць.*

ВАЙСТРАНОСЕНЬКІЙ. Востраносы. *Нейкій выйстраносінькій кылы яе круцïўся, ні знаю, аткуля ён, ну толька ні каўшоўскій, тых я ўсіх хырашо знаю.*

ВАЛАСАСЦЕНЬКІЙ. Валасаты. *Цяперя рызьвялося вылысáсьцінькіх многа, усюдых на іх спаткнесься.*

ВАЛАСАЦЕНЬКІЙ. Валасаты. *Відзіла я, ікая цяперь мода пышла: ходзюць па горыду вылысáцінькія, хахольля пы плічах буўтáіцца.*

ВІШНЁВЕНЬКІЙ. Вішнёвы. *Нываріліі вішнёвінькыга вареньня, у бальшыя банкі зыпікувáлі, ныставілі, цэлыю зіму будуць есьць — рускушувáцца. Вішнёвінькыга*

*мыціріялу каб узіла, ета дужа красівый цьвет, ён любому йдзець.*

ВУСАЦЕНЕЧКІЙ. Вусаты. *Вусáцінічкыга сабе займела, пад ручку кажный вечыр прыхáджыюцца кыла речкі туды і нызад.*

ВУСАЦЕНЬКІЙ. Вусаты. *Стыряіцца яе вусáцінькій, кажный дзень с касою некуды бегыіць, а на той нядзелі усё хворыст сек.*

ВЯЛЕНЬКІЙ. Вялы. *Нешта мáлыя вя́лінькыя сяньня: і гулядь ня йдзець, і есьць пасьці нічога ні ўзіла, відна, у яе баліць нешта, ну ні на што ні жаліцца.*

ВЯСЕННЕНЬКІЙ. Веснавы. *Вясеньнінькіх пырысятык нільзя руўняць с пызьнічкáмі, яны і ны яду луччы, і на рост ідуць скарей.*

ВЯЧЭРАШНЕНЬКІЙ. Вячэрні. *Усё вячэрышнінькыя мылако пыставіла квасіць, цяперя цёпла, яно скора кісьніць.*

ВЯЧЭРНЕНЬКІЙ. Вячэрні. *Вячэрнінькыя мылако ні магло так скора закіснуць, ні выдумывый ты, скажы, што есьць ня хочыш.*

ГАЛОЎНЕНЬКІЙ. Галоўны. *Ты ў іхній кынпаніі ці ні самый галоўнінькій, усігда ў лаўку цябе пысылаюць.*

ГАРБАНОСЕНЕЧКІЙ. Гарбаносы. *Верка свайго гырбаносінічкыга дужа глядзіць, баіцца, каб узноў ня зьбег.*

ГАРБАНОСЕНЬКІЙ. Гарбаносы. *Ета, помніш, Мікіта гырбаносінькій с таго боку зыхадзіў к Полькі, дык ён пра ўсю кытывáсію рыскáзывыў.*

ГАРБАЦЕНЕЧКІЙ. Гарбаты. *Ай, дзеўка, дзеўка, зывізала ты сабе гылаву, дык зывізала, малёсінічкій, гырбáцінічкій, куды твае вочы глядзелі, як ты сходзілыся зь ім.*

ГАРБАЦЕНЬКІЙ. Гарбаты. *Гырбáцінькій нейкій ізы Сыжа ныбівáўся, каб брала яго ў зяці, ай, падумыла, німа хызяіна ў дваре і ета ні зяць — ні ўзіла.*

ГРАМАТНЕНЬКІЙ. Пісьменны. *Нас жа ня ўчылі, я ні пісаць, ні чытаць ня ўмела, а ўнукі бегыюць у школу, хырашо грáмытнінькія: мама, я чатыры прінёс сяньня, а я, баба, пяць пулучыў.*

ГРЫБАЦЕНЕЧКІЙ. Губаты. *У яго пара хлопчыкыў, такея грібáцінічкія, як і сам.*

ГРЫБАЦЕНЬКІЙ. Губаты. *Так ушчалепілыся ў свайго грібáцінькыга, што сілыю ні атарьвеш.*

ГУБАСЦЕНЬКІЙ. Губаты. *Ты во прімічай-ка: тэй вун, у сіній рубашкі, губáсьцінькій, зы тваёю Веркыю ўлігáіць.*

ГУБАЦЕНЬКІЙ. Губаты. *Пы яе радні пашлі губáцінькія дзяўчонычкі, і ны ліцо пыхвáтыюць ны Матруну.*

ГУЛЬНІВЕНЬКІЙ. Аматар пагуляць. *Дужа ты гульнівінькій стаў, а хто ж зы цябе работыць будзіць? Я ны вас, такіх гульнівінькіх, стара зырыбляць.*

ДАЎГАВЕШНЕНЬКІЙ. Шматгадовы. *Такой дыўгавешнінькый жызьні можна толька завідывыць, іна ня ў роскышы жыла, сіратою годзікыў у пяць асталыся, було і холыду, і ўсяго відзіла.*

ДАЎГАГРЫВЕНЬКІЙ. Даўгагрывы. *Помніш, у нас быў дыўгагрівінькій жырябочык, мы яго тады ў Раскошыўку прыдалі. Дыўгагрівінькыя жарёбка была ў іх, дужа ён любіў рыскатывыцца пы дзярэўні.*

ДАЎГАЛІЦАНЬКІЙ. Даўгатвары. *Красівыю дзяўчонку сабе прівёз, мыладзенькыя, дыўгаліцынькыя, ён тама, пыд Лінінградым жаніўся.*

ДАЎГАЛЫЧАНЬКІЙ. Даўгалычы. *Пятрок завёў сабе нейкыю новыю пароду сьвіньней, пырысяткі дыўгалычынькія, бегыюць пы двару.*

ДАЎГАМОРДЗЕНЬКІЙ. Даўгатвары; даўгаморды. *Нейкій дыўгамордзінькій зыхадзіў к ёй нескылька разоў, ці ні Прыхарёнкыў меншый. Ета новыя пароды, дыўгамордзінькія сьвіньні.*

ДАЎГАНОГЕНЬКІЙ. Даўганогі. *Хадоскіны дыўганогінькія сюды часта прібігаюць к цёткі, чуць ні кажный месіц бываюць тут.*

ДАЎГАНОСЕНЬКІЙ. Даўганосы. *Іхныя ўсе былі дыўганосінькія, уся пріррода тыкая. Твыя дыўганосінькыя ўсё некыга выглідала кылы каліткі, каго б ета, а?*

ДАХОДНЕНЬКІЙ. Даходны. *Нашоў сабе даходнінькыю мясьцінку, ны рабоці чысьліцца і збоку пріры-бáтыіць усігда, урема хвытаіць.*

ДВАЮРАДНЕНЬКІЙ. Стрыечны. *Ну хто ж інáчы можыць тріпануць такоя, сястріца твыя дваюрыднінькыя і тріпанýла. Бягі ўжо, бягі, дваюрыднінькій твой пріішоў, сустрюкáй.*

ДЗІКЛІВЕНЬКІЙ. Дзікі. *Дзіклівінькыя, як авечка, дайжа слова скызаць баіцца. Ціпляты дзіклівінькія, с квакухыю па бульбі лазюць, к рукам ня монюцца.*

ДЗІРАВЕНЕЧКІЙ. Дзіравы. *Етый чугуночык ужо*

*дзірявінічкій, як пыглядзіш на сьвет, збоку ў дне відна дзірічка.*

ДЗІРАВЕНЬКІЙ. Дзіравы. *Дзірявінькыю рубашку у горыд ні надзеніш. Вун дзірявінькія нейкія тапкі ёсьць, уссунь, кылі хочыш.*

ДЗІРОВЕНЕЧКІЙ. Дзіравы. *У цябе бацінычкі ці ні дзірёвінічкія, чулочыкі мукрувáты ў пальцых.*

ДЗІРОВЕНЬКІЙ. Дзіравы. *Ні замеціў, вады наліў у дзірёвінькыя вядзерца, іна зá ныч уся выцікла, пытплáвіла ўсё кругом, пад мост ныцякло.*

ДЗЮБАЦЕНЬКІЙ. З доўгай дзюбай, даўганосы. *Нейкія новыя пароды, дзюбáцінькія ціпляткі. Дзяўчонкі па ім зыдалíся, дзюбацінькія, а мульчуган ны Сашку пыхватывыць.*

ДЛІННАВАЛОСЕНЬКІЙ. Доўгавалосы. *Ходзіць зь ёю Мыланкін длінавалосінькій, ці ня пойдуць запісывыцца ў суботу, нешта стáрыя выбуркнулыся: во ж, свадзьба ны насý.*

ДЛІННАГРЫВЕНЬКІЙ. Даўгагрывы. *Мы ў тэй год длінагрівінькыю жарёбычку прыдáлі за Сож, хырашо ўзялі.*

ДЛІННАЛІЦАНЬКІЙ. Даўгатвары. *Ну ці ты ня помніш, Коля аттуля длінналíцынькій прібігаў, ён цяперя у іх брігадзірым, іс свае дзяреўні брай, ужо ў гыдах жаніўся.*

ДЛІННАЛЫЧАНЬКІЙ. Даўгалычы. *Купілі пáрычку длінналычынькіх пырасёнычкыў, дужа хырашо ядуць, адзін пірід адным цок-цок-цок і тазік піряверпуць уверьх дном.*

ДЛІННАМОРДЗЕНЬКІЙ. Даўгатвары, даўгаморды. *Два гылыштáнікі длінамордзінькія бегыюць кругом хаты, копія Максім, каб дайжа айдзе-небудзь увідзіў, скызаў ба, што яго ўнукі.*

ДЛІННАНОГЕНЬКІЙ. Даўганогі. *Летыся прівазіла сюды, пасьці ўсё лета былі тут, длінаногінькія дзяўчонычкі, старой пымыгалі троху, ны ўсадзьбі папорюцца, вады прінясуць. Зывілá нейкыю новыю пароду курей, ціпляткі длінаногінькія, гаворюць, зь іх нясýшчыя куры.*

ДЛІННАНОСЕНЕЧКІЙ. Даўганосы. *Помніш, Васька бегыў сюды такей длінаносінічкій, ны ныстаўніка выўчыўся, айдзе-то за Воршыю работыіць.*

ДЛІННАНОСЕНЬКІЙ. Даўганосы. *Такей сама длін-*

*наносінькій, як бацька, дайжа вычамі ікраз так, як тэй плюскыіць.*

ДОЎГАВАЛОСЕНЬКІЙ. Доўгавалосы. *Ну як жа ты Куліныга сына ня помніш, ён часта сюда прібігаў, сьветлінькій такей, доўгавалосінькій.*

ЖАНАЦЕНЬКІЙ. Жанаты. *Ці праўда, што ўжо жынáцінькій пріехыў, а Надзька цябе ўсё ждала і ждала, вочы прагледзіла.*

ЗАЛАЦІСЦЕНЬКІЙ. Залацісты. *Я зылацісьцінькій цьвет дужа люблю, у Сярьгея была тыкая рубашка.*

ЗАМУЖНЕНЬКІЙ. Замужні, набыты замужам. *Ну, гаворюць, ты ўжо замужніинькыя, каго ж ты сабе пытхваціла. Ета ўжо замужнінькій касьцюм, адна б іна ні справіла.*

ЗАЯДЛЕНЬКІЙ. Настойлівы, заядлы. *А-а-а, відзіш, чаго ён зыя́длінькій такей, каб ні падумылі, што зы Машкыю ўха́джыіць.*

ЗІМНЕНЬКІЙ. Зімні, зімовы. *Ты б думыў, што мальцу нада і зімнінькыя пальцечка спра́віць. Зімнінькія бацінычкі ладныя, цёплінькія, а шапычку нада пыіска́ць.*

КАРАВОКЕНЕЧКІЙ. Каравокі. *І ў цябе кыравокінічкія пыдрыстаюць, гатоў пріданыя, ім зяці найдуцца.*

КАРАВОКЕНЬКІЙ. Каравокі. *Ікая іна была крысавіца кыравокінькыя, хлопцы за ёю гу́жым бегылі, а во ў жызьні ні пывязло, як выйшла замуж, так і гарюіць. Красівыя дзяўчонычкі кыравокінькія, толька ні дай бог зададу́цца пы мамі, хлябнець нехта зь імі горя.*

КАСАВОКЕНЕЧКІЙ. Касавокі. *Хлопіц ба ён нічога сабе, спакойный, рызважлівый, ну здорыва заметна, што кысавокінічкій.*

КАСАВОКЕНЬКІЙ. Касавокі. *Пывіла свайго крысаўца ці ні ў Зяціцу пыказывыць — як жа, атхваціла сабе кысавокінькыга.*

КАСАЛІЦАНЬКІЙ. З косым тварам. *Помню я як ува сьне, работыла ў паноў на кухні нейкыя дзяўчонка кысаліцынькыя, ці ні Матруныю звалі.*

КАСАМОРДЗЕНЬКІЙ. З косым, скрыўленым тварам. *Ідзі ўжо, ідзі, табе і кысамордзінькій падойдзіць, якея самі, такея й сані.*

КАСАРОЦЕНЬКІЙ. Са скрыўленым ротам. *Быў там адзін кысароцінькій, ныбіваўся ў зяці, а тады й тэй ні пашоў,— жыві, баба, адна.*

КОТНЕНЬКАЯ. Котная. *Абея авечкі котніькія, яны ўсігда коцюць пы парі ігнятык.*

КРАСНАШЧОКЕНЕЧКІЙ. Чырванашчокі. *З марозу прібігаць краснашчокінічкія, у іх кроў іграіць, трошку зьядуць і ўзноў на вуліцу.*

КРАСНАШЧОКЕНЬКІЙ. Чырванашчокі. *Во якей пузырь крыснашчокінькій, куляшом вымызыўся і хахочыць.*

КРУГЛАВІДЗЕНЬКІЙ. Круглатвары. *Мы ўстрецілі Аксюту, з дачкою із бызара ішла, красівыя дзяўчонка, круглавідзінькыя, высімнаццытый год, знаць.*

КРУГЛАГАЛОВЕНЬКІЙ. Круглагаловы. *У іх дзяцей многа, бегыюць кылы хаты круглагаловінькія, ці ні пяціра мульчуганыў.*

КРУГЛАЛІЦАНЬКІЙ. Круглатвары. *Ці ты ні пагледзіла, чый ета круглаліцынькій пашоў уверьх ны дзяреўню, па-мойму, дык Мархвін большый.*

КРУГЛАМОРДЗЕНЬКІЙ. Круглатвары. *У бацькыву пароду пашлі, усе кругламордзінькія. Твой кругламордзінькій нешта ні прібігаіць, ужо дзьве вічарінкі прупусьціў, ці ні пысварілыся ты зь ім.*

КРЫВАЗУБЕНЬКІЙ. З крывымі зубамі. *Ты сваім крівазўбінькім ні хваліся, знаім, на што ён у цябе спасобін.*

КРЫВАНОГЕНЬКІЙ. Крываногі. *Чаго ж яшчэ вашыму кріваногінькыму места німа? Бегылі тама чые-то кріваногінькія кылы бані, ці Мітрыхваныввы, ці не,— ні знаю.*

КРЫВАНОСЕНЬКІЙ. Крываносы. *Кріваносінькыга нейкыга пупалі і хвалюцца: во жаніх, во жаніх, а ны таго жыніха харошыя дзеўка і глядзець ні станіць.*

КРЫВАРОЦЕНЬКІЙ. Крывароты. *Быў тама нейкій крівароцінькій, хадзіў, як глумачок, а посьлі, кажыцца, сь Пітрачонкым зьехыў некуды.*

ЛЕВЕНЬКІЙ. Левы. *Во я тваю левінькыю вязёнычку ныйшла, айдзе ж другая мыгла дзівацца. Левінькій бачок падреж трошку.*

ЛЕТАШНЕНЬКІЙ. Леташні. *Летышнінькыю бульбу дыідаім, ужо нямножычка, карзінычкі дзьве асталыся. Нескылька штучык летышнінькіх быракоў ліжаць.*

ЛІШНЕНЕЧКІЙ. Лішні. *Лішнінічкыга я вам ні кладу, дарогыю пару разоў пірякўсіця і ўсё будзіць.*

ЛІШНЕНЬКІЙ. Лішні. *Пойдзім, пойдзім, госьцікі*

*мае, у мяне лішнінькій ніхто ня будзіць. Чаго ж ты пойдзіш, каб цябе там лішнінькім пышчытáлі.*

ЛУПАВОКЕНЬКІЙ. Лупавокі. *Нешта твой лупавокінькій дайно ні пыкáзывыіцца, ці ня трецьцію ўжо вічарінку прупускáіць.*

ЛУПАСЦЕНЬКІЙ. Лупаты. *Абея дзяўчонычкі пы бабі пашлі, як тая, лупáсьцінькія, і вычамі так усё верцюць.*

ЛУПАЦЕНЬКІЙ. Лупаты. *Мішка лупáцінькій прайшоў зь ёю разы сы два, а большы нешта і тэй пірістаў глядзець.*

ЛЫЧАСЦЕНЕЧКІЙ. Лычасты. *Купіла парычку, лычáсьцінічкія пырысяткі, адзін пірід адным дужа ядуць, аж хвытаюць.*

ЛЫЧАСЦЕНЬКІЙ. Лычасты. *Як ікая парода, адны лычáсьцінькія, а ў другіх лы́чыкі кароцінькія. Я сабе зывілá лычасьцінькіх, гаворюць, яны скарей растуць.*

ЛЯВЕНЬКІЙ. Левы. *Лявенькыю ручкыю ні бярі ложычку. Лявенькыю дарожкыю ідзі, тая, што правей, г балоту вы́відзіць, а ты лявенькыю, лявенькыю.*

МАКРАНОГЕНЬКІЙ. З мокрымі нагамі. *Бегыіць мыкраногінькій па холыду, набегыіцца, а тады цімпіратура, гаріць,— ні нада яго пускаць такою мыкрацішчыю.*

МАКРАНОСЕНЬКІЙ *іран.* З мокрым носам. *Кывалер твой мыкраносінькій пыд'явіўся, ідзі ўстрічай.*

МАКРАПУЗЕНЬКІЙ. З мокрым жыватом. *Кычаіцца мыкрапýзінькій у люлькі, калі пыпішчы́ць, калі пыляжыць моўчынька.*

МАКРАХВОСЦЕНЬКІЙ. З мокрым хвастом. *Поўзыіць усьлед, як мышанёнык, мыкрахвосьцінькій, куды я, туды і ён, ні цстаець.*

МАЛАЖАВЕНЬКІЙ. Маладжавы. *Ты пыглядзі-ка, яму бізы днаго підзьдзісят, а якей ішчэ мылыжáвінькій.*

МАЛАКРОЎНЕНЬКІЙ. Малакроўны. *Яе дзеці былі нейкія слáбінькія, мылакроўнінькія, усё іх пы дыктырах вазіла.*

МАЛАЛЕТНЕНЬКІЙ. Малады. *Мы мылалетнінькія пычалі работыць, нас пріглідаць некыму було, ета ў вас цяперь і прігля́д, і доглід.*

МАЛАСОЛЬНЕНЬКІЙ. Маласольны. *Эх, каб сюда, к етыму сталу ды яшчэ гурочыкыў мыласольнінькіх місычку!*

МАЛОШНЕНЬКІЙ. Малочны, прызначаны для ма-

лака. *Кароўка маліенькыя, як козычка, а малошінькыя і мылако ны жырьі харошыя. Ехыў і малошінькія бітоны пырысьціряў етый малошнік.*

МАРДАЦЕНЬКІЙ. Мардаты. *Коля мырдáцінькій крепка зы Тайкыю прійдыряў, яны чуць ні пыжаніліся.*

МАХРОВЕНЬКІЙ. Махровы. *У баню як ідзеш, дык і возьміш махровінькыя пылаценчыка, ім хырашо выцірацца.*

МЁРЗЛЕНЕЧКІЙ. Мёрзлы. *Хвацілыся я—уся бульба мёрзьлінічкыя, павойкыла я, павойкыла, а айдзе ж дзенісься, ызад ня верніш.*

МЁРЗЛЕНЬКІЙ. Мёрзлы. *Мёрзьлінькія яблыкі нада аттáіць, ніхай сагреюцца, а халодных дасі — і праступа. Пару кычáнчыкыў мёрзьлінькіх выялыся айдзе-то.*

МЁРТВЕНІЧКІЙ. Мёртвы. *Аўдотка мне рысказывыла: пыд раньня ўстала, пыдыйшла, каб луччы накрыць, узілася, а ён мёртвінічкій.*

МЁРТВЕНЬКІЙ. Мёртвы. *Пакуля ды бальніцы дывязьлі, ён ужо мёртвінькій, што ж бальніца паможыць.*

МІРНЕНЬКІЙ. Мірны. *Ну іх к чорту, такіх мірнінькіх і спакойнінькіх, ты зь імі пу-суседзку ня жыў і ні знаіш, а мы ныглядзеліся.*

МОКРАВАЛОСЕНЬКІЙ. Мокравалосы. *Куды ж ты на вуліцу пыбягіш мокравалосінькій, пыбягіш і прастуды пытхвáціш, зьля́жыш.*

МУРЛАСЦЕНЬКІЙ. Мурлаты. *Раншы лешчынскій мурлáсьцінькій часта сюда бегыў, толька пасьледнія ўремя ня відна стала.*

МУРЛАЦЕНЕЧКІЙ. Мурлаты. *Мурлáцінічкій пріехыў, там, відна, луччый прігляд быў, а ты чуць саўсім ні зыкарміла.*

МУРЛАЦЕНЬКІЙ. Мурлаты. *Рузгудувала сваіх мушчын, мурлáцінькія сталі. Мурлацінькій Машкін нешта адзін пашоў, нечыга абідзіўся.*

МЯРЦВЁСЕНЬКІЙ. Мёртвы. *Прібеглі мы — ляжыць пряма мярцьвёсінькій, і вочы заплюшчыны, толька чуцьчуць дыхыіць.*

МЯРЦВЮСЕНЬКІЙ. Мёртвы. *Мярцьвюсінькія ліжаць, як жывенічкія, маткі кукуюць над імі, серца ажно рызáрвыіцца.*

НАДАЯДЛЕНЬКІЙ. Дакучлівы. *Ныдыядлінькыя старыя, усюдых лезіць, куды б ёй саўсім ні нада лезьць.*

НАДЗЁЖНЕНЕЧКІЙ. Надзейны. *Твой надзёжні-*

*нічкій так можыць падвесьць, што большы ні прідумыіш,— пыдвядзець і сьміяцца будзіць.*

НАДЗЁЖНЕНЬКІЙ. Надзейны. *Я знаю, якея вы надзёжніңькія: летыся пыдрядзіліся пуню пірятресьць у Кірея, дык і сяньня пірітрісáіця.*

НАПРАСНЕНЬКІЙ. Дарэмны. *Нічога ты ня вы́хыдзіш, ныпрáсьніңькыя будзіць твыя хыдзьба, ідзі луччы абложку збры́нкый.*

НАСАЦЕНЬКІЙ. Насаты. *Пріїжджáў яе мужык, быў ны свадзьбі, айт, нічога завíдныга: кырáндыш нысáціңькій.*

НАСЦЕННЕНЬКІЙ. Насценны. *У мяне во ходзікі насьценьніңькія гадоў двацџыць ідуць і йдуць, ня порціліся ні разу.*

НЕСМЫШЛЁННЕНЬКІЙ. Неразвіты, бесталковы. *Ты ж ні якей-то нісмышлёньніңькій, ты сам должын быў пыткызаць, што так дзелыць нілізя.*

НІЗКАРОСЛЕНЬКІЙ. НізкаРослы. *Зыдáўся нізкаросьліңькій, ны яго і дзеўкі ня дужа глідзяць.*

НЯМЕНЕЧКІЙ. Нямы, безгалосы. *Пятый годзік няменічкыя дзевычка, будуць аддываць у школу глуханямы́х.*

НЯМЕНЬКІЙ. Нямы, безгалосы. ***Г** году пызнáлі, што няменькій будзіць, во ўжо гурювалі, пряма места сабе ні ныхадзілі.*

НЯМЮСЕНЬКІЙ. Нямы, безгалосы. *Мы ўжо спужаліся: што як будзіць нямю́сіңькій? — не, відзім, пычынаіць турлы́чыць, на голыс пывырáчывыіць галоўку.*

ПАДЖАРАНЬКІЙ. Высокі, танклявы. *А тэй, што за Верычкыю бегыў, пыджжаріңькій, у сваёй дзяреўні жаніўся, у тоя скрысеньня свадзьба была.*

ПАДЖАРЫСЦЕНЬКІЙ. Падсмажаны. *Ох, сяньня бульба пыджжáрісьціңькыя, я такую люблю. Лáдычык пыджжарісьціңькіх як ныпяку, мае аж аблíзывыюцца.*

ПАСЛЕДНЕНЬКІЙ. Апошні. *Пасьледніңькія палычкі дыпáлівыюцца, горька нада думыць, як ба машыну дроў прівезьць.*

ПРАВЕНЬКІЙ. Правы. *Усё ўсігда бяруць прáвіңькыю ручкыю. Вучыся правіңькыю ручкыю ложычку дзіржаць.*

ПУДОВЕНЬКІЙ. Пудовы. *Усё гурювала, што капуста ні зародзіць, а прішла, гляджу — пудовіңькія кычáнчыкі ліжаць пыц саломкыю.*

ПЯРЭДНЕНЬКІЙ. Пярэдні. *Ехылі мы, пяредніонькій каток у ямку пупаў і крэх, вобыд у бок, сьпіцы высыпыліся, едзь як хочыш.*

РУСАВАЛОСЕНЬКІЙ. Русавалосы. *Красівыя дзяўчонычкі пыдрыстаюць, русавалосінькія, абея ны бацьку пахожы.*

РЫЖАВАЛОСЕНЬКІЙ. Рыжавалосы. *Ці пызнáіш, чый ета рыжавалосінькій кырапýз тут бегыіць, усё дно як ны Цімоха пыхватывыіць.*

РЭДКАЗУБЕНЬКІЙ. Рэдказубы. *Быў тута стырічок такей рідказýбінькій, усё пры японскыю вайну рысказывыў, ці быў ён там, ці не.*

СВЕТЛАВАЛОСЕНЕЧКІЙ. Светлавалосы. *За нейкыю пудлужаньскую светлавалосінічкыю пріўдырáіць, нічога ны пыгляд дзяўчонка.*

СВЕТЛАВАЛОСЕНЬКІЙ. Светлавалосы. *Па ёй пашлі ўсе дзеці, светлавалосінькія. Раз упусьціла, то цяперь ты свайго сьветлавалосінькыга ў руках ня ўдзержыш.*

СІВАБАРОДЗЕНЬКІЙ. Сівабароды. *Як ета нізаметна ўремя бягіць, устреціў я Кузьму: ідзець сівабародзінькій стырічок, я чуць пызнаў яго.*

ТУПАНОСЕНЕЧКІЙ. Тупаносы. *Тупаносінічкія тýхількі, нічога, у прáзьнік можна будзіць надзець, яны крепінькія.*

ТУПАНОСЕНЬКІЙ. Тупаносы. *Раншы неік тупаносінькія бацінкі былі ў модзі, а цяперь з доўгімі мысамі прыдаюць.*

ЦЁМНАВАЛОСЕНЬКІЙ. Цёмнавалосы. *Мужык сьветлый і сыма русяівінькыя, а мальчык радзіўся цёмнавалосінькій. Ні люблю я белых, бярі цёмнавалосінькыю.*

ЧОРНАВАЛОСЕНЬКІЙ. Чорнавалосы. *Задзірістыя чорнавалосінькія шкеты, паспробый-ка ты зычапіся зь імі.*

ШЫРАКАПЛЕЧАНЬКІЙ. Шыракаплечы. *Відзіш, якей шурокаплечынькій узяўся, айдзе ты справісься с такім.*

Сітуацыйныя прыметнікі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі са значэннем адноснай прыкметы па матэрыялу.

АЛЛЯНЕНЬКІЙ. Льняны. *Ясе хлопцы, бувала, як*

*выйдуць у альляненькіх рубашкых, бялю́хтынькія, с косымі, учыцьвярых, як дубы, хлопцы, зь імі ніхто ні спруўляўся.*

АЛЬХОВЕНЬКІЙ. Альховы. *Альховінькія дровы як высыхнуць, гыряць хырашо, ну жары ат іх бальшэя німа.*

АРЖАНЕНЬКІЙ. Аржаны. *Ета ўжо цяперя забылі, як тэй хлеб і печ, а, бувала ж, сьпякеш аржаненькыга, выніш сь печы, ат яго дух на ўсю хату.*

АРЭХАВЕНЬКІЙ. Арэхавы. *Нывізалі арехывінькіх цапкоў дый балыюцца. Арехывінькыя касьсё будзіць дзіржацца, арех, як высыхніць, цьвёрдый.*

АСІНАВЕНЬКІЙ. Асінавы. *Асінывінькія начовычкі ўсігда дзелылі, асіна мяккыя, іх выбіраць лёхка.*

АЎСЯНЕНЬКІЙ. Аўсяны. *Ты ж еж, дзетычка, аўсянінькій кісялёк дужа палезна есьць, росьць скарей будзіш. Аўсянінькія снапочыкі пыцставіла пат крышу, яны пасьці сухенькія.*

БЛЯШАНЕНЬКІЙ. Бляшаны. *У бліша́нінькыю баньічку налі, ніхай пахлепчыць. Брязкотык бліщанінькіх нычыпляў дый балыіцца.*

БРОНЗАВЕНЬКІЙ. Бронзавы. *Нейкія бронзывінькія былі ў яе брязкоткі, іна ўжо іх даўно ня носіць, дочкі вун пыдрыста́юць, ім будзіць.*

БЯЗЕВЕНЬКІЙ. Бязевы. *Мне б тожа нада тыкая бязівінькыя кохтычка, яны і красівыя, і ня дужа ма́ркія, я люблю такея.*

БЯРОЗАВЕНЬКІЙ. Бярозавы. *Барёзывінькыя тыпарішчыка апстругаў, заўтря ўзаб'ю тыпарок. Машыну барёзывінькіх дроў прівязьлі, сухенічкія, ны зіму́ хваціць.*

ВЯРБОВЕНЬКІЙ. Вярбовы. *Як высыхнуць, і вярбовінькія дровы пыгыря́ць, ну духу зь іх, канешня, ня будзіць.*

ГЛІНЯНЕНЬКІЙ. Гліняны. *Я люблю у глінянінькый пасудзі варіць, па-мойму, дайжа смашней, чым у чугунку, можа, ета прівычка тыкая.*

ДЗЕРАВЯННЕНЬКІЙ. Драўляны. *Ні прівыклі мы к етым жалезным, мне дзірівя́ньнінькыя ложка луччы ўсяго. Прідумылі ўжо і дзірівяньнінькій мылаточык зьдзелылі, дзіцёнку зубуўля́цца.*

ДУБОВЕНЬКІЙ. Дубовы. *Дубовінькія чыря́нцы падзелыў, яны кряпчэй, чым бярёзывыя, скора ні рызаб'-*

*юцца. Дубовінькыя бочычка была ў нас, усё ў ёй гуркі салілі, іна ніізьвесна сколька жыла, адзь дзеда асталыся.*

ЖАЛЕЗНЕНЬКІЙ. Металічны. *Жалезьнінькімі палосычкымі прібілі прітылку, ато ат'іжджала аць сьценкі, тожа гнілу́шычкі зыкла́джыны, на іх дзіржацца прітылка ня хочыць.*

ЗАЛАЦЕНЕЧКІЙ. 1. Залаты. *Уставіла б сабе зылаценічкія зубы, ці ў цябе незышта?* 2. Добры, выключны. *Сямён быў зылаценічкій чылавек, ён яе пряма ну руках насіў, такога пыіскаць ды пыіскаць толька.*

ЗАЛАЦЕНЬКІЙ. 1. Залаты. *Па-мойму, зылаценькія серьгі, відзіш, як на сонцы гыряць.* 2. Добры, выключны. *Зылаценькія ў цябе былі хлопцы, ты ж прідзіш с поля, а ў дваре ўсё падзелына, усё прібра́джына.*

ЗЯЛЕЗНЕНЬКІЙ. Жалезны, металічны. *Нешта зялезьнінькыя тама вылялыся, усё дно як чапок нейкій ці што, я ні прібраў.*

КАНАПЛЯНЕНЬКІЙ. Канапляны, колеру канапель, пярэсты. *Мы ўсе любілі кыныпля́нінькыя масла з бульбыю. Кыныплянінькій платок у мяне доўга быў, гадоў пяць насіла яго.*

КАСЦЯНЕНЬКІЙ. Касцяны. *У мяне, ты знаіш, якей быў ножычык, чатырі лязы, кысьця́нінькій. Кварціра адзьдзелына бытата, дайжа кысьцяненькія ручкі ў дзьвірях, усё пыдыгна́на як сьледыіць.*

КІРПІШНЕНЬКІЙ. Цагляны. *Бытатыю хату сабе пыставіў, хундамінт кірьпішнінькій, бярьвеньня сасновыя цёсыныя, лес смольный-смольный, такой хаці веку ня будзіць, і самі ныжывуцца, і дзіцям астаніцца.*

КЛЯНОВЕНЬКІЙ. Кляновы. *Ны бярёзывік і ны засолку луччы німа кляновінькыя бочычка, ат клёну ўкус нейкій другей, луччы чым ат якога дзеріва.*

ЛАЗОВЕНЬКІЙ. Лазовы. *Пы Зыбыльшаччу лазовінькія кусьцікі тырчаць трошку лі аборкыў, а мы ж помнім, якей лес тама быў.*

ЛІПАВЕНЬКІЙ. Ліпавы. *Па-мойму, ета ліпывінькія начовычкі, дужа лёгінькія, бяреш у рукі — як пушы́нка. Ліпывінькыга чырянца ня дзелый, у ём дзіржацца нічога ня будзіць.*

МЕДНЕНЬКІЙ. Медны. *У нас тожа была меднінькыя кружычка, цяжолыя, цяжолыя, літра ну пуўтыра́. Меднінькія пласьцінкі прібіты пы крыях.*

ПАШАНІШНЕНЬКІЙ. 1. Пшанічны. *Ны празьнікі*

*мы ўсігда пышанішныя пірагі пяклі, ат пышанішнінькыга ніхто ні аткажыцца.* 2. *Перан., жарт.* Светлавалосы. *Яй-богу, ета твой пышанішнінькій вічарінку аргынізўіць.*

ПРАСЯНЕНЬКІЙ. Пшонны, прасяны. *Прысяненькія крупені зварю малошныя і зьем місычку, а так я нічога дужа ні хачу.*

РАБІНАВЕНЬКІЙ. Арабінавы. *У сядзёлку хырашо рябінывінькіх калодычык атрезыць, яны дужа крепкія.*

СІРЭНЕВЕНЬКІЙ. Бэзавы, колеру бэзу. *Тама ліжалі сіренівінькія палычкі ну кулі, знаць, малыя гатовілі. Красівыга мыцірiялу ныбралі дзеўкі, сіренівінькыга.*

СЯРЭБРАНЕНЬКІЙ. Сярэбраны. *Іна сваё сяребрінінькія сярёжкі дужа бірігла, толька ны бальшэя празьнікі вешыла.*

ЯЛОВЕНЬКІЙ. Яловы. *Яловінькіх палычык паткінь, яны сухенічкія, січас успыхнуць і вазіцца ні нада будзіць.*

ЯСЕНЕВЕНЬКІЙ. Ясеневы. *Праньнікі ўсігда бярёзывыя дзелыюць, а ў Максіма ясінівінькія былі, тожа крепкія.*

ЯШНЕНЬКІЙ. Ячны. *Калі мяшочык яшнінькіх круп будзіць, ні пымішаіць, і сабе зваріш, і ціплятым сыпнеш. Яшнінькія мучыцы ныгатовіў, кыбына выкырміць пудзікыў ны пітнаццыць.*

*Г. У. Арашонкава*

# З КАВАЛЬСКАЙ ЛЕКСІКІ Ў ГАВОРЦЫ ЗАХОДНЯЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ ЗОНЫ

Лексіка запісана ад майго бацькі, Квяткоўскага У. В., які, пачынаючы з юнацкіх год, да апошніх дзён свайго жыцця займаўся кавальскім і слясарным рамяством[1]. З малых год я назірала за працай свайго бацькі, знаёмілася з яго кавальскімі інструментамі і засвойвала яго лексіку.

Першыя ўрокі кавальскай мудрасці сын парабка атрымаў у старога каваля ў маёнтку Бараціна Карэліцкага раёна. У 1922 г. пераехаў у Нясвіжскі раён і быў кавалём у маёнтку Альба князя Радзівілы, а таксама выконваў усе слясарныя работы ў бровары. Потым быў механікам на спіртзаводзе, затым на біяміцынавым заводзе. Яго дапытлівай думцы, імкненню зрабіць самому кавальскія прылады і інструменты, а таксама прадметы ўпрыгожання (самыя розныя па форме брошкі, скрыначкі-скарбонкі і інш.), парамантаваць швейную машыну, веласіпед, малатарню, жатку, сабраць радыёпрыёмнік не было мяжы. Калі стары каваль пайшоў на пенсію, ён не пакінуў свайго любімага занятку, які запаўняў усё яго жыццё. Яму заўсёды знаходзілася работа на заводзе. Не было таго дня, каб да яго не звярталіся суседзі ці сяляне з блізкіх вёсак з просьбай зрабіць ключы ці нож, пярсцёнак ці запальнічку, натачыць сякеру, ножніцы, закляпаць або запаяць вядро, бляшанку, адрамантаваць замок, гадзіннік, зрабіць металічныя дэталі ў калаўрот і г. д. Яго агрубелыя ад работы пальцы спрытна трымалі самыя малыя інструменты, шрубкі, спружынкі, розныя калёсікі, і ў яго руках ажываў жаночы гадзіннік самых малых памераў, яго слухаліся і складаныя машыны на заводзе.

[1] Нарадзіўся 2.IX 1896 г. у в. Макавішчы Дзяржынскага р-на.

Вялікая колькасць слоў, якімі карыстаўся бацька ў працэсе сваёй працы, адносіцца да агульнавядомай беларускай лексікі: *асялок, кузня, каваль, гайка, гартаваць, загартаваць, клешчы, малаток, нажоўка, напільнік, паяльнік, паяць, сталь* і шмат іншых. Частка з іх адрозніваецца ад літаратурнай лексікі толькі фанетычна: *атвёртка, волаво, жалезо, зубіло, кавадло, карыто, паткова* і інш. Шмат запазычанняў з нямецкай мовы праз польскую: *апцэнгі* — абцугі, *зайзаяр* — саляная кіслата, *рашпіль* — рашпільны напільнік, *флякцэнгі* — пласкагубцы, *шнайдэза* — разец, *шмэргяль* — наждак, *шуфлера* — штангенцыркуль і інш., а таксама з польскай мовы: *лютаваць* — літаваць, паяць, *цына* — волава, *лютаванё* — паянне, *начынё* — інструмент, прылада, *магнэс* — магніт, *клямра* — клямар, *трыба* — шасцярня і інш. З 1939 г. у кавальскую лексіку пачалі пранікаць словы з рускай мовы і выцясняць некаторыя запазычанні з нямецкай і польскай моў: *саляная кіслата, паяць, раздвіжны ключ, наждак, клубік* і інш.

АДРУБІ́ЦЬ *зак.* Адсячы кусок жалеза, дроту. *Дрот ці жалезо нагрэяш начырвоно і тады лёхко адрубіш.*

АПЦЭ́НГІ *толькі мн.* Абцугі. *Апцэнгамі возьмяш гарачаё жалезо і ў воду — закаліць, трымаяш, покуль астыгня. Апцэнгамі ашчыквалі ўхналі.*

АТВЁРТКА *ж.* Адвёртка.

БОРМАШЫ́НКА *ж.* Ручны дрыль. *Ручная была ў міне бормашынка, свідраваў дзюркі ў шыны ў сані, пат калёса. Чы мала дзе трэба дзюрку прасвідраваць.*

ВАРЫ́ЦЦА *незак.* Награвацца да чырвонага колеру (пра жалеза). *Жалезо як варыцца — гэто як грэяцца, то пасыпаць жалезо пяском трэба, скурка палучаяцца, жалезо пат пяском парыцца.*

ВАСЭРВА́ГА *ж.* Грунтвага, ватэрпас.

ВО́ЛАВО *н.* Волава.

ВЯРСТА́К *м.* Рабочы стол каваля ў кузні. *Да вярстака прыкрэплены шрупстак. На вярстаку паложыш і апцушкі малыя, і цвічкі, і малаток, і бляшку якую, усё, што трэба пад рукамі.*

ГАЛО́ЎКА *ж.* Плешка (цвіка, гайкі). *У шрубе галоўка чатырохкантовая, таўшчэйшая, як у цьвіку.*

ГАРНО́ *н.* Горан.

ГАТЭ́ЛЬ *м.* Шып (у падкове). *У паткове наваруюцца тры гатэлі.*

ГВАЗДЗЕ'ЛЬНЯ *ж.* Прыстасаванне для вырабу цвікоў. *На гваздзельні можно аткляпаць цвіка, якого хочаш: і танейшага, і таўшчэйшага. У гваздзельні дзіркі ест: большая, меншая, меншая, яшчэ меншая. Якой трэба таўшчыні цвік, так і рабі.*

ДЗЫНДРА' *ж.* Акаліна на жалезе. *Жалезо пат пяском парыцца, іскра прыстаня, вот і палучаяцца дзындра. З гарачаго жалеза, як куе каваль, асыпаяцца лупінка такая — дзындра.*

ДРУШЛЯ'К *м.* Прыстасаванне прабіваць дзіркі (металічны круглы стрыжань з завостраным канцом). *Друшляк ест дзюркі рабіць.*

ДРЭЛЬ *м.* Дрыль. *Як ні было бормашыны, дзюрачкі свідравалі дрэлям.*

ДУЦЬ ГАРНО'. Падаваць, накачваць паветра ў горан. *Пры кавалю быў хлопяц, памагаў яму, круціў тачыло, дуў гарно.*

ЖАГА'ЛО *н.* Жалезны стрыжань для памешвання вугалю. *Жагало — завостраная круглая жалязяка падварушыць вугаль.*

ЖАЛЕ'ЗО *н.* Жалеза. *Жалезо загартоваяцца. Вот зрабіў я табе нажа, а ён чуць што, так і зазубіцца, вышчарбіцца, кепско загартоўваласё жалезо, вот і мяхкі нож.*

ЗАЙЗА'ЯР *м.* Саляная кіслата. *Дзе трэба паяць, то зайзаярам мажацца.*

ЗАЛЮТАВА'ЦЬ *зак.* Запаяць. *Залютуй дзюрку ў вядрэ.*

ЗУБІ'ЛО *н.* Зубіла. *На зубіле рубаюць жалезо.*

ЗУБІ'ЛЦА *н.* Малое зубіла. *Зубілцам серп назубіць.*

КАВА'ДЛО *н.* Кавадла.

КАЗЯЛО'К *м.* Жалезная падстаўка ў выглядзе трыножніка. *Ест казялок жалезны, ставяць ногу каня, як куюць. Адна ножка трошку загнутая, яе прыдзержываць нагой трэба, а другі канец шыршы, на яго і ставяць ногу каня. А то і памыш нох возьмяш каня ногу і рашчышчаяш капыт рашпілям.*

КАЛО'ТКА *ж.* Драўляная падстаўка для кавадла. *У землю ўкопана калотка. На калоцца кавадло стаяло.*

КАПТУ'Р *м.* Выцяжны комін над горнам у выглядзе піраміды.

КАРЫ'ТО *н.* Карыта. *У кузьні павінна быць карыто з вадою гартаваць жалезо.*

КЛА'ПАН *м.* Драўляная частка кавальскага мяшка. *У мяшку адзін клапан знізу і верхні клапан. Хлопяц цягая за палку ў мяшку і дуя ў гарно воздух.*

КЛЕ'ШЧЫ *толькі мн.* Клешчы. *Жалезо дзяржаць гарачаё клешчы служаць. Клешчы розныя бываюць: клешчы абушныя — сякеру дзяржаць, як падварваць у гарне чы патклепваць, яны шыршыя, бярэцца імі за абух; пайкруглыя клешчы — трымаць круглаё жалезо, яны з райком у сярэдзіня.*

КЛУ'БІК *м.* Прыстасаванне для нарэзвання разьбы на шрубах.

КЛЯ'МРА *ж.* Клямар, скаба.

КЛЯМЭ'РКА *ж.* Малы клямар. *Як лопня саган, дзюрачкі свідравалі дрэлям, клямэркай сцягвалі.*

КО'РБА *ж.* Ручка ў тачыле. *Корбаю круціш тачыло і точыш.*

КРАНЦЫ'РКЯЛЬ *м.* Разнавіднасць цыркуля. *Кранцыркяль трэба, калі мераць дыямятр дзюры, круглаё што мераць.*

КУПЧА'ТЫ (пра капыт). Выпуклы, прыўзняты. *Купчаты капыт вузей і вышэй, не купчаты — нізкі і лапцяваты, шырокі, і паткову трэба вэдлух капыта дапасоваць.*

ЛЮТАВА'НЁ *н.* Паянне. *Для лютаваня трэба цыну, паяльнік і зайзаяр.*

ЛЮТАВА'ЦЬ *незак.* Паяць. *Цяпер і я кажу паяць. А некалі — толькі лютаваць.*

МАГНЭ'С *м.* Магніт. *Як цвічкі маленькія рассыплюцца, то магнэсам раз-раз і сабрай, а пальцамі паспрабуй сабраць.*

МАЛАТАБО'ЯЦ *м.* Памочнік каваля. *Малатабояц памагай кавалю, дуй гарно, молатам стукай.*

МАЛАТО'К *м.* Малаток. *Быў дзяравяны малаток у каваля. Баньку зрабіць, вядро, бляху загнуць, то патрэбен і такі малаток, ён ляхчэйшы.*

МО'ЛАТ *м.* Вялікі молат. *Стальны, вялікі молат трэба, як каваць жалезо. Каваль трымая малаток ручны, а малатабояц б'е молатам.*

МЯШО'К *м.* Кавальскі мех.

НА ВО'ДНО: ТАЧЫЦЬ НА ВОДНО. Тачыць што-небудзь, папярэдне намачыўшы ў вадзе. *Тачыць на водно — гэта тачыць на мокро. У карыто пад тачыламналіваяцца вада, каб камянь мокры быў.*

НАЖДА′К *м.* Наждачная папера.

НАПІ′ЛЬНІК *м.* Напільнік. *Напільнікі розныя бываюць: круглы, паўкруглы, чатырохкантовы, трохкантовы. Круглым напільнікам дзе дзюрку большую распіліць.*

НА РАБРО′: ПАКРУЧВАЦЬ НА РАБРО. Паварочваць разагрэты кусок жалеза на розныя бакі.

НА СУХО′Е: ТАЧЫЦЬ НА СУХОЕ. Тачыць у сухім выглядзе. *На сухое цяпер наждаком точаць.*

НАЧЫ′НЁ *н.* Кавальскія прылады. *Усё кавальскаё, што трэба: малаток, молат, напільнікі розныя, клешчы, абцэнгі, ну ўсё-ўсё — гэта начынё.*

НО′ЖНЫ *толькі мн.* Ножніцы рэзаць бляху.

НОС *м.* Вузкая частка кавадла. *Нос у кавадле круглы, на ім рэхвы загінаюць, кольца.*

ПАДВА′РВАЦЬ *незак.* Рабіць зварку, зварваць. *Калі ест трэшчына, то жалезо падварваюць.*

ПАДДУВА′ЛО *н.* Вентылятар накачваць паветра ў горан.

ПАДДУ′ЦЬ ГАРНО. Накачаць паветра ў горан.

ПА′ЛКА *ж.* Ручка (драўляная), прымацаваная да кавальскага меха, якой прыводзяць у рух верхні клапан.

ПА′РЫЦЦА *незак.* Расплаўляцца, награвацца да высокай тэмпературы. *Жалезо пасыпаюць пяском, і яно парыцца пат пяском у гарне, расплаўляецца.*

ПАТКУ′ЦЬ *зак.* Падкаваць.

ПАТПІ′ЛАК *м.* Малы напільнік.

ПАЦЯГНУ′ЦЬ *зак.* Кляпаючы, зрабіць даўжэйшым. *Трэба пацягнуць жалезо, каб даліней было.*

ПІЛАВІ′НЫ *толькі мн.* Пілавінне. *Як пілуяш напільнікам што-небудзь, то сыпаліся пілавіны, такія блышчастыя, дробненькія.*

ПЛО′СКІ *прым.* Шырокі (пра капыт). *Капыт у каня бывая плоскі — такі шырокі, лапцяваты.*

ПРЭНТ *м.* Жалезны прут.

ПЯЧУ′РКА *ж.* Выемка збоку ў горане. *Пячурка маленька, запалкі палажыць, чы што яшчэ.*

РАЗЕ′Ц *м.* Нож, якім зразалі капыт.

РА′ШПІЛЬ *м.* Від напільніка, якім апілоўвалі капыт. *Рашпіль, як напільнік, плоскі такі, з крупнымі зубцамі. Рашпілям апраўлялі капыт укругавую, і да дзерава рашпіль.*

РУРЦЭ'НГІ *толькі мн.* Разнавіднасць абцугоў. *Рурцэнгамі можна трупку закруціць.*

СТАНО'К *м.* Драўляная падстаўка на чатырох ножках для тачыла. *У тачыле станок дзеравяны і камянь такі круглы, плоскі.*

СТРУ'ШКА *ж.* Стружка. *Як што наразаяш на такарным станку шнайдэзай, то струшкі сыплюцца.*

ТАРАРЫ'НКА *ж.* Від клямара, скабы. *Вось прыкручвалі тарарынкамі. Тарарынка — клямра такая.*

ТАЧЫ'ЛО *н.* Тачыла. *Тачыло каменнае было. Сам камянь — тачыло, і ўсё са станком тачыло называяцца. На тачыле тачылі нажы да сячкарні, да касяркі, да жнявяркі, сякеры, усё што папало.*

ТРЫ'БА *ж.* Шасцярня.

УХНА'ЛЬ *м.* Вухналь.

ФЛЯКЦЭ'НГІ *толькі мн.* Разнавіднасць абцугоў. *Флякцэнгі трэба, як гаячку закруціць малую, дроцік выцягнуць.*

ЦЫ'НА *ж.* Волава. *Цына некалі казалі, а цяпер волаво часцей.*

ЦЫНКАВА'НЫ *прым.* Пакрыты волавам; луджаны. *Цынкаваная бляха.*

ЦЫНАВА'ЦЬ *незак.* Лудзіць.

ЦЫРКЛЯВА'ЦЬ *незак.* Намячаць круглыя лініі цыркулем. *Цыркляваць што круглаё — дно ў вядро, у баньку.*

ЦЫ'РКЯЛЬ *м.* Цыркуль. *Цыркяль жалезны быў. Размяраць цырклям.*

ЧАРАНО'К *м.* Ручка (у малатку). *Забі чаранок у молат, а то слапко трымаяцца.*

ШВЭ'ЦКІ КЛЮЧ *м.* Раздвіжны ключ. *Швэцкі ключ гайкі закручваць. Гэто раздвіжны ключ. І большую, і меншую гайку закруціш, якую табе трэба.*

ШМЭ'РГЯЛЬ *м.* Наждачная папера. *Шмэрглям пашліфуеш жалезо, пачысціш.*

ШНАЙДЭ'ЗА *ж.* Тое, што і КЛУ'БІК. *Вінты нарэзваць, шрубы шнайдэзай. Шнайдэзы бываюць вялікія, меншыя. Некалі на дзюймы наразалі: адзін дзюйм, дзюйм з чэцвярцю, пяць асьмых дзюйма, пяць шаснастых дзюйма. Цяпер лерка кажуць.*

ШПІ'НДАЛЬ *м.* Шпіндэль. *Шпіндаль з вінтом у шрупстаку заціскаць што, як тачыць напільнікам.*

ШРО'ТКА *ж.* Прыстасаванне для перарублівання

жалеза. *У кавадле была дзюрка, устаўлялася туды шротка. Яна стальная, унізе вуская, у дзюрку ўсадзіш, а зверху шырэй, як зубіла, вострая. На шроццы жалезо адрублівалі не тоўстае, дрот тонкі адрубіць можна.*

ШРУПСТА′К *м.* Ціскі.

ШТА′НГЯЛЬ *м.* Штангенцыркуль. *Штангяль мераць усярэдзіня і панаружы. Некалі я казаў шуфлера, шуфлерка, а цяпер усё штангяль.*

ШУФЛЕ′РА *ж.* Тое, што і ШТА′НГЯЛЬ.

ШУФЛЕ′РКА *ж.* Малая шуфлера.

*Н. М. Тарасевіч*

# НАЗВЫ ЯДОМЫХ ГРЫБОЎ АДНОЙ ВЁСКІ

Прыведзеныя ніжэй назвы ядомых грыбоў сабраны ў в. Тычынкі Уздзенскага раёна Мінскай вобласці.

АБА'БАК *м.* Падбярозавік. *Абабак рэтка завуць у нас, боляй бапка, й краснагаловікі так завуць. Вазьмі, дачушка, паніжы абапкі на дроцікі, палажы на бляху і ў печ — і што б ні касаліся чарэні і віселі свабодніька на блясі, а то чорныя будуць, нікрасівыя.*

АВЯРУ'ШКА *ж., звычайна мн.* АВЯРУ'ШКІ. Раннія апенькі. *Набралі авярушак сёньня — іх многа ў лесі.*

АЛЬХО'ВЕЦ *м.* Грузд. *Яны такія чорныя, зь белым малаком, гэтыя альхоўцы. Солім іх сырымі.*

АПЕ'НЬКА *ж.* Апенька звычайная. *Апеняк воўчых у нас многа, а добрыя мала дзе ест, кажуць, у Боркаўскім і Нізаўскім лесі многа. Яшчэ і на чалавека так кажуць, асабліва на жанчыну старую: апенька глухая.*

АСІ'НАВІК *м.* Падасінавік. *Асінавікі — як гот на іх, калі суш, пачці німа іх, а другі гот дажджы льюць, то іх стольki многа ўродзіць. Нажарым іх і рулеты робім з мяса і грыбоў, смашна так!*

АСЯЛО'К *м.* Смаржок. *Асялкі варыць доўга трэба, а так смашныя грыбы. Яшчэ храпач і вясёлка ў нас іх завуць.*

БАЛАЦЯ'НІК *м.* Баравік, які расце ў Балотцы (урочышча). *Во людзі! Лётаюць па лесі с пустымі кашамі, мінаюць наша Балотца, а мы носім поўнымі кашамі балацянікі, і такія пляхі, а здаровыя, с таўсьцеразнымі карэньнямі — суседзі дзівіцца прыходзяць. Ведаць трэба, дзе растуць!*

БА'ПКА *ж.* 1. Падбярозавік. *Ты ш ні глядзі, што ў вялікай бапцы корань здаровы, а ў плешцы чарвякі па пальцу тарчаць, ні бяры вялікіх і старых.* 2. Воўчы

грыб. *Насушыла бабак і есьці німа як — яны ш такія горкія, гэтыя бапкі.*

БАРАВІ'К *м.* Баравік. *У гэтым годзі столька баравікоў было, як ніколі, аш тры кіло насушылі, ведама ш, дажджы лілі і цёпла было цэльнае лецейка.*

БАРА'Н *м.* Ваўнянка. *Бараноў многа ў лесі нашым, бо мала хто знае, што зь імі рабіць і не ўсе бяруць, а яны добрыя грыбы, толькі саліць сырымі нада.*

БЕЛАМША'НІК *м.* Баравік, які расце ў белым імху. *Нешта не пашанцавала сёньня, мала грыбоў назьбіраў: трошкі лісічак, трошкі беламшанікаў, а так выцягаўся за дзень па лесі.*

БЕРАЗАВ'ІК *м.* Падбярозавік. *Беразавік, які на сухім месцы, ні бяром, толька маладзенькія добрыя, а старыя — корань сухі, як дзерава, ні пажарыць, ні булёну зварыць зь іх, адным словам, абы што. Шляпкі век чарвівыя й разьлезлыя.*

БЕРАЗО'ВІК, БЯРО'ЗАВІК *м.* Падбярозавік. *Бярозавікі толькі ў бярэзьніку растуць, яны і ж жоўтай шляпкай бываюць, у нас у Балотцы столькі іх многа, і такія жырныя, ізьвесна ш, трава высокая і мокра.*

ВАЛНЕ'ЙКА, ВАЛНУ'ХА, ВАЛНУ'ШКА, ВАЎНЯ'НКА *ж.* Ваўнянка. *Валнухі толька соляць сырымі і вымочваць іх нада. Столькі з гэтымі валнушкамі вазьні, і ўсе рукі ў малацэ горкім, чуць адмыла. Ваўнянак поўна ў лесі, але ні ўсе іх бяруць.*

ВАЛО'ВІК *м.* Валуй. *Валовікі ў нас кажуць, а ў суседняй вёсцы іх завуць каровы, мы ш ні бяром іх — і лепшых у лесі поўна грыбоў.*

ВАРУ'ШКА, ВЯСНЯ'НКА *ж.* Ранняя апенька. *Вазьмі назакатвай у банкі варушак — усё зьесца зімой. Вясьнянкі рана пачынаюць расьці.*

ВАСІ'ЛЬ *м.* Радоўка фіялетавая. *Васілі ні сушым і ні кіслім — нікрасівы від у іх, а жараныя — салодзінькія такія.* 2. Пеўнік стракаты. *Васіль рэтка завём, больш на сіняпухі так кажам.*

ВЕРАСО'ВІК *м.* Баравік, які расце ў верасе. *На верасовікі ў нас ішчэ кажуць чарнагаловікі, яны ш чорнай плешачкай растуць і ўсе ў верасе.*

ВЯСЁЛКА *ж.* Смаржок. *Сушыць вясёлкі добра на зіму.*

ГАЯВІ'К *м.* Баравік, які расце ў вялікім змешаным лесе. *У Тоўстым лесі ўсігда знойдзеш гаявікоў, толькі*

*йсці далёзна, каб на машыні зьездіў, то набраў бы.*

ГНАЯВІ'К *м.*, ГНАЯ'НКА, ГНАЯ'ЎКА *ж.* Шампіньён. *От гэтыя гарацкія, яны ўсё бяруць, дажа і гнаянкі, і порхаўкі. У нас жа ш рэтка хто бярэ іх, нагамі кепаюць.*

ГО'ЛУБ *м., звычайна мн.* ГАЛУБЫ'. Пеўнік стракаты. *Галубы ў Бярвішчах больш бяруць, у нас, як хто.*

ГРУЗДЗЬ *м.* Грузд. *Грузьдзі такія вялізныя растуць, за адзін раз бочку можна насаліць, толькі ні лянуйся.*

ДАЖДЖАВІ'К *м.* Порхаўка. *Дажджавікоў на полі, дзе коні пасуцца, столькі высыпала многа, аж бела ўсюды.*

ДО'БРЫ ГРЫБ. 1. Баравік. 2. Агульная назва ядомых грыбоў. *Добрыя грыбы — якія ведаем, што іх можна есьці, астальныя ні бяры — яны воўчыя, атравісься.*

ДУБАВІ'К *м.* Баравік, які расце там, дзе ёсць дубы. *У дубавіка шапачка такая карычневінькая, і пад нізам тожа цямней, чым у другога грыба. На высокім месцы ўсё растуць.*

ЖАЎЦЯ'К *м.* 1. Махавік. *Жаўцякі сушыць ні вельмі — чорныя паробяцца, аж гатка глядзець на іх, ні то што варыць.* 2. Жоўты баравік. 3. Агульная назва старых сушаных жоўтых грыбоў. *Жаўцякі — грыбы ні вельмі важныя, старыя ш пляхі горш за маладзенькія баравічкі, але капусту і зь іх варыць можна.*

ЖЫ'ТНІК *м.* Тое, што і КАЛАСАВІ'К. *Як жыта жнуць, тады яны ест. Іх ішчэ каласавікі завуць, каласовікі.*

ЗЯЛЁНКА, ЗЕЛЯНУ'ХА, ЗЕЛЯПУ'ХА *ж.* Зялёнка. *Зялёнка ў мосі такая чысьцінькая і тоўсьцінькая, ні то што гэтыя пясчанкі.*

ІМША'НІК *м.* Махавік. *Сёлята назакатвала сорак літраў адных імшанікаў, яны зразу чорныя, а уксусу дабавіш, то зробяцца белінькія — у міне кожны гот удаюцца добрыя грыбы.*

КАБЫ'ЛА *ж.* Радоўка жоўта-карычневая. *Кабылы толькі вараныя жарацъ, яны паробяцца чорныя, але смачныя, кіславаценькія трошка.*

КАЗА' *ж.* Пеўнік стракаты. *Бараду ў казы с-пад нізу трэба шчысьціць нажом, а верх зрэзаць да мяска і атварыць.*

КАЗЁЛ, КАЗЛЯ'К *м.* 1. Масляк. *Вазьмі, дачушка,*

*кошык на казьлякі і асобна кладзі, а то яны сьлізкія і ўсе грыбы вымажуць.* 2. Перцавы грыб. *Як дажджы пойдуць, то многа высыпля гэтых казлоў. Казьлякі асобенна каля пнёў у мосі растуць.*

КАЛАСАВІ́К, КАЛАСО́ВІК *м.* Баравік, які расце, калі каласуе жыта. *Каласавікі вельмі мала трымаюцца, мо зь нядзель са дзьве толька, а потым прападаюць; іх ішчэ жытнікамі завуць. Каласовікі — як гот на іх.*

КАЛУПА́НЕЦ, КАЛУПА́НЧЫК *м.* Баравік, які расце ў хвойніку на шыпульніку і пясчанай глебе. (Звычайна вялікі не расце, яго «выкалупваюць» з зямлі, відаць, ад гэтага і назва грыба, а таксама ўрочышча.) *Ты ш ні лётай, унучак, па лесі, а глядзі пад ногі — калупанцы такія маленячкія, іх трэба ракачом зьбіраць, как ест грутка надзьмутая, патткалупі нажом — вот і калупанец.*

КРА́СІК *м.* Махавік рознакаляровы (карычнева-жоўты). *З гэтымі красікамі ні паймёш, адны бяруць і хваляць, а другія кажуць, што воўчыя грыбы. Я дак бяру й насушу разам з баравікамі, бапкамі, цэлінькую зіму мачанку вару й ні атравілася, значыцца, добрыя грыбы.*

КРАСНАГАЛОВІ́К *м.* Падасінавік. *Краснагаловікі сушыць ні вельмі — жышка ў булёні чорная, нікрасівы булён, толька ў капусту гадзяцца.*

КРАСНЮ́К *м.* Падасінавік, асінавік. *Куды ты ўзьдзябурыў* [надзець з цяжкасцю] *гэтыя боты, яны ш табе, сынок, цесныя, а красьнюкі ў Балотцы растуць, шчэ й парвеш, чаго добрага!*

КУ́РАЎКА *ж.* Порхаўка. *Як станя на цяпло, то ўсё поле кураўкамі ўсыпана.*

КУ́РАЧКІ *мн.* Пеўнік стракаты. *Нашто ты набраў гэтых курачак, яны ш, як дзерава, ведама, суш. Іх толька посьля дажджу бяруць.*

ЛАПША́К *м.* Падбярозавік. *Лапшакі толькі маладыя добрыя, а старыя ўсе чарвівыя.*

ЛІСІ́ЧКІ, ЛІ́СКІ, ЛІСІ́ЦЫ *мн.* Лісічкі. *Лісічкі на гарэлым добра растуць і пад шыпулькамі. Ліскі харошыя грыбы, але я іх ні люблю — зубоў німа ўсіх, наглытаясься цэлых, і жывот баліць. Лісіцы ў мосе растуць такія вялізныя, але ні выватткам, а ўсё па адной.*

ЛОСЬ *м., звычайна мн.* ЛАСІ́. Пеўнік стракаты. *Ласі як хто бярэ, але больш, калі маладзенькія.*

МАКРУ'ХА, МАКРУ'ШКА *ж.* Радоўка фіялетавая. *Гэтых макрух увосень многа пат травой навылазіць і так хорашанька радочкамі растуць. Макрушкі, як пойдуць вялікія дажджы, змакрэюць усе й пакрыюцца плесеньню.* 2. Грыб, падобны да рыжыка, толькі больш цёмны, а ў маладых ніз зацягнуты плеўкай.

МАЛАЧА'Й, МАЛО'ЧНІК *м.* Грузд. *У нашым лесі малочнікі ні растуць — больш у Прысынскім, ходзім і зьбіралм, як німа ніякіх грыбоў.*

МАСЛЯ'К *м.* Масляк. *Трактар ралю праараў у лесі, дык пасьля дажджу столькі масьлякоў на ёй высыпала — мігам кош нарэжаш!*

МАХАВІ'К *м.* Махавік. *Махавікі, як уродзяць—хоць касой касі па ламачніку, а як суш, то ні бывая.*

МАЧО'НКІ *мн.* Тое, што і МАКРУ'ХА 2. *Ведаем, што мачонкі, але не ўсякі іх бярэ.*

МАШО'НКА *ж.* Порхаўка. *Машонкі дымяць, як старыя, зялёныя паробяцца.*

МША'НІК *м.* Махавік зялёны. *Йдзі, Манька, глянь, во нарваўся на лапіну, поўны багажнік засыпаў адныммі мшанікамі і трошка панчошак назьбіраў.*

НАВО'ЗНІК *м.* Шампіньён. *Агрэст цьвіце, а навозьнікаў ужэ каля склепа цэлая процьма, усю зямлю паўспучвалі. Бяры і жар — і ў лес ні нада хадзіць!*

ПАГНО'ЙНІКІ *толькі мн.* Шампіньён. *Пагнойнікі ўсюды растуць — і ў лесі, і ў полі, і каля хаты на пяску, асобенна на месцы конскага калу, мо й назва таму ім такая.*

ПАДАСІ'НАВІК *м.* Падасінавік.

ПАДБАРАВІ'К *м.* 1. Падасінавік. *Падбаравік посьля баравікоў на другім месцы — вельмі добры грыб.* 2. Махавік. *Падбаравікі кажуць адны, другія кажуць махавікі, імшанікі, і краснагаловікі так завуцца.*

ПАДБЯРО'ЗАВІК *м.* Тое, што і КРАСНАГАЛО'ВІК. *Падбярозавік у нас с падасінавікам путаюць. Адны кажуць на бапку падбярозавік, другія — падасінавік, а як скажаш краснагаловік, то ўсё панятна.*

ПАДГРУ'ЗДЗЬ *м.* Падгруздак. *Ганна, пойдзям у Прысынскі лес, хоць падгрузьдзяў набяром, такая суш, нічога лепшага німа, а зімой як найдзеш. Толька іх вымачваць зь нядзелю нада ў халоднай вадзе, а потым саліць.*

ПАДДУ'БНІК *м.* Тое, што і ДУБАВІ'К. *От, рызы-*

*кант! Дзе й набраў столька паддубнікаў. Вазьмі бляху й насушы ў печы, пака чэрві ні зьелі.*

ПАДРАШЭ'ТНІК *м.* Перцавы грыб. *Насушыла падрашэтнікаў і павесіла ў торбі за печ, а яны ўсе пакрышыліся на нет.*

ПАДЫМША'НІК *м.* Баравік, які расце ў глыбокім імху. *У падымшаніка, як выцягняш з моху, корань тонкі і высокі, а шапачка белаваценькая ці жоўціњкая, можа, і чорная бывая, то сі роўна не замеціш.*

ПАНЧО'ХА, ПАНЧО'ШКА *ж.* Каўпак, розітас бляклы. *Як пачнуцца чорныя ягады, то столька панчошак у ягадніку! Яны жоўціњкія, а пад нізам такія панчошкі вісяць, вот і завём іх панчохі, панчошкі. Жараныя салодзіњкія, і хрупаюць на зубах.*

ПЕЧУРЫ'ЦА, ПЯЧУ'РКА *ж.* Шампіньён. *У нас пад вербамі многа печурыц расце, хоць касой касі. Пячуркі смачныя такія, салоткія.*

ПЛЫВУНЕ'Ц *м.* Ранні баравік, які расце, калі жыта «выплывае» ў трубку. *Маруся, пойдзем у плывуны, а то прападуць скора і да каласавікоў ні будзя — эта ж мамент, нядзеля-дзве і ўсё.*

ПЛЮС *м.*, ПЛЮ'СКА *ж.* Радоўка штрыхаватая. *Плюсы такімі кучкамі растуць, як зрэжаш — зразу робіцца ружовіњкая, но ні ўсе ў нас іх бяруць. А іх столька ў лесі!*

ПЛЯ'ХА *ж.* 1. Вельмі вялікі баравік, які звычайна расце ў нізкім сырым месцы. 2. Агульная назва старых грыбоў. *Ну куда тут ісьці ў тыя грыбы, у лесі ш адны пляхі тырчаць чарвівыя, браць німа нічога.*

ПО'ЛЬСКІ БАРАВІ'К. Польскі грыб. *У хвойніку, дзе брусьніцы растуць, многа польскіх баравікоў, ну, адны бяруць і хваляць, а мой сьвёкар пакойны, бывала, абізацельна павыкідая с каша і ні знайся.*

ПО'РХАЎКА, ПО'ХКА *ж.* Порхаўка. *Некаторыя й порхаўкі ў нас бяруць, толька маладзеньція.*

ПЯШЧА'НІЦА, ПЯШЧА'НКА *ж.* Зялёнка, якая расце на пясчанай глебе. *Ні бяры, дзіцятка, гэтых пяшчаніц — іх цэленькі дзень трэба ў ночвах з вадою трэсьці, і сі роўна трашчыць пясок на зубах.*

РАГА'ЦІК *м.* Радоўка шэрая. *Каля ямы многа рагацікаў высыпала.*

РАШО'ТУХА *ж.*, РАШЭ'ТНІК *м.*, РАШЭ'ЦЬКА *ж.* Перцавы грыб. *Рашотухі смачныя і жараныя, і вара-*

*ныя — толькі цьвет сіні, як зварыш. Іх іщчэ рашэтнікамі завуць і рашэцькамі, але часьцей падрашэтнікамі.*

РУ′ДЗІК *м.* (рэдк.). Рыжык. *Хто кажа рудзік, але ш больш гавораць ры́жык, рыжо́к.*

РЫ′ЖЫК, РЫЖО′К *м.* Рыжык. *Як былі малыя, назьбіраям рыжыкаў у траве, пасолім і ядом сырыя с хлебам — добра было.*

РЭ′ПАНЫЯ *прым.* Пеўнік стракаты. *Рэпаныя маладзенькімі бяром і закатваць можна на зіму.*

СВІНА′РКА, СВІ′НКА, СВІНУ′ХА *ж.* Свінуха тоўстая. *Сьвінаркі толькі маладзенькія бяром, старыя ўсе чарвівыя. Сьвінкі рана пачынаюць вылазіць. Ідзі набяры сьвінух.*

СВІНО′Е ВУ′ХА. Панус грубы. *У хвойным лесі сьвіного вуха мала бывая, усё больш у розным* [змешаным, лісцёвым]. *Бярэш грузьдзі, і сьвінога вуха на пнях нарэжаш, яно такоя лахмацінькая.*

СІВУ′ЛЬ *м.*, СІВУ′ШКА *ж.* Радоўка наглебавая. *Мама, ні выкідай толькі сівулёў з каша, я іх закатаю, с падзьзялёнкамі добра будзя. Сівушкі ўсё больш па лахчынах і ямах растуць, у хвойніку, каля дарох.*

СІ′НІНЬКІЯ *мн.*, СІНЮ′ХА, СІНЮ′ШКА, СІНЯПУ′СКА, СІНЯ′ЎКА *ж.* Радоўка фіялетавая. *Во тут сінінькія добрыя, і хадзіць далёка ні нада, сядзеш — і на месцы кош. Увосень, як захаладая, адны сівухі і зялепухі растуць. І сінюшкі, і сіняўкі, і сіняпускі — як хто гаворыць.*

СІНЮ′Х, СІНЮ′ШНІК *м.* Махавік. *Як сядзіць грыбок, такі красівінькі, жоўцінькі, а зрэжаш — сіні зробіцца, адным словам, сінюх. Сінюшнікі, як закатаяш у банкі з уксусам, пастаяць і паробяцца белінькія-белінькія.*

СМАРКА′Ч *м.* Масляк. *Смаркачы смачныя, толька работы зь імі — покуль аблупіш кош, аж моташна станя.*

СМАРЧКІ′, СМАРШКІ′ *мн.* Смаржкі. *Смарчкі рана растуць, толька станyць кароў у лес ганяць і яны вылазяць. Набярэш смаршкоў і зразу на ніску — сушым і здаём.*

СТРАЧКІ′ *мн.* Страчкі. *Кажуць, што страчкі вараць, але я ні ем сама, а насушу вязак і здаю.*

СЫРАЕ′ШКА: СЫРАЕ′ШКА АХРЫ′СТАЯ. *Ні бяры сыраешку ахрыстую, яна ш такая горкая.* СЫРАЕ′ШКА

БАЛО'ТНАЯ. *Пойдзем у Ламачча* (урочышча) *у ягады і заадно сыраежак балотных назьбіраем, іх у ягадніку многа.* СЫРАЕ'ШКА БУ'РАЯ. *Сыраешкі бурыя рыбай сьмярдзяць, іх мала бяром.* СЫРАЕ'ШКА ЖО'ЎТАЯ. *Сыраешкі жоўтыя хто бярэ, хто ні бярэ, кажуць, атрутныя.* СЫРАЕ'ШКА ЗЯЛЁНАЯ. *Сыраешка зялёная ў асіньнічках расце, салодзінькая — такой ні атравісься, добры грыбок.* СЫРАЕ'ШКА КРА'СНАЯ. *Сыраешка красная крэпкая, німа грыбоў — і гэтыя пойдуць.* СЫРАЕ'ШКА РУЖО'ВАЯ. *Сыраешкі ружовыя такія крохкія, і дадому ні данясеш — адно сьмецьце.* СЫРАЕ'ШКА ТАЎСТАНО'ГАЯ. *Сыраешка таўстаногая салодкая й за язык ні шчыпля, як пакаштуяш сырую.* СЫРАЕ'ШКА ФІЯЛЕ'ТАВАЯ. *Сыраешку фіялетавую ўсе бяром, яе й сырую жарыць можна.*

ТАЛСТУ'ШКА, ТАЎСТУ'ШКА *ж.* Таўстуха. *Волька набрала некіх сьмярдзюх і спорыць са мною, што гэта талстушкі. Таўстушкі салодзінькія, з булдавешачкай на корані; па шыпульніку растуць.*

ФЛЮС *м.,* ФЛЮ'СКА *ж.* Радоўка штрыхаватая. *Мой Манюсь ніколі флюсаў ні бярэ, кажа, што запашок ест нідобры ў іх, а я назакатвала банак, зімой еў і хваліў — думаў, што падзьзялёнкі.*

ХРАПА'Ч *м.* Смаржок. *Пасьвіў сёньня кароў і назьбіраў храпачоў.*

ХРАШЭ'ЛЬ *м., звычайна мн.* ХРАШЛІ', ХРУШЭ'ЛЬ, ХРУШЧ *м.* Труфелі. *Вот унучак залаты — і кароўку атпасьвіў, і цэлую хустачку храшлёў прынёс. Я хрушалі зь яйцамі напхаю і сьмятанай палью. Хрушчы варыць у трох водах нада, а то й атравіцца можна, чаго добрага.*

ЧАРНАГАЛО'ВІК *м.* Баравік з чорнай шапкай. *Гляжу, а ўнучак ужэ нясе цэлую сумку чарнагаловікаў, ён і сам чорнінькі, як той баравічок.*

ЧАРНУ'ХА *ж.* Чарнушка. *Назьбіраў чарнух і ні ведаю, што зь імі рабіць — ці варыць, ці саліць.*

ЧО'РНЫ ГРЫБ. Падбярозавік.

ШАМПІНЬЁН *м.* Шампіньён. *У гароччыку пат смыроднікам столькі шампіньёнаў навылазіла.*

ШЫПУ'ЛЬНІК *м.* 1. Радоўка жоўта-карычневая. *Мой Міша вэньдзяка* [даўно] *пашоў у грыбы, а адных шыпульнікаў набраў. І ні лянаваўся цёгацца столькі ў лесі за гэтымі кабыламі.* 2. Падзялёнка. *Ужэ й замараскі, а шыпульнікі стаяць, покуль сьнех ні ляжа.*

*В. М. Галай, Е. С. Мяцельская*

# З НАРОДНЫХ НАЗВАЎ ГРЫБОЎ

Змешчаныя ў падборцы лексемы сабраны ў вёсках Ткачы Пружанскага, Дамашэвічы Баранавіцкага раёнаў Брэсцкай вобласці, Недаль Барысаўскага і Лешня Капыльскага раёнаў Мінскай вобласці. У артыкул уключаны не ўсе назвы грыбоў, а толькі невялікая частка, пераважна дыялектных назваў, шапкавых грыбоў. Яны вызначаюцца структурнымі, словаўтваральнымі і семантычнымі асаблівасцямі і не зафіксаваны ў БРС, РБС і БелСЭ.

Слоўнікавыя артыкулы падаюцца ў алфавітным парадку.

АПЛА'ЎКА, АПЛА'ВАЧКА *ж.* Сыраежка. *А бóлей за ўсíх аплáвак. Як дзéўкі на свята ў сукéнках, так і аплáўкі — і крáсныя, і сíнія трóху, і зялёныя. Алі ёсціка і мáлінькія аплáвачкі, гэ́тыя дык такíя гóркія.* Недаль.

БАГНЮ'К, БАГНЮЧО'К *м.* Махавік. *Багнюкí хорóшы такí, юшка жóвта-жóвта, як звáрыш. В хвоíні зáвшэ мнóго багнючкóв.* Ткачы.

БАРАВІ'К *м.* Белы грыб. *Баравíкі трохсартóвыя ў нас: баравы́ баравíк, бéлы грыб і падбярóзавік. Баравы́ баравíк расцé ў вéрасі, ш чóрнай галóўкай, на тóўстай нóшкі, прыкры́ты вéрасам. Бéлы грыб, катóры ж жуўтавáтай галóўкай, расцé па махавы́х барáх, на дóўгай нóшкі. А грыб падбярóзавік расцé ў лíсцвінных містáх, дзе мнóга бярóз, дзе мнóга перагнíўшага лíсця.* Недаль.

БЭРЭЗНЯ'К *м.* Падбярозавік. *Мы зáрэ называ́емо іх часцéй бэрэзнякí, а ранéй — бáбкі. Вонó то лепш нáзеіско бэрэзня́к, бо найбóльш в бэрэзíні ростэ́.* Ткачы.

БЯРО'ЗАВІК *м.* Баравік, які расце ў бярозавым лесе. *Пéршыя з праўдзíвых грыбóў нахóдзяцца бярóза-*

*вікі, находзяцца яны пад Міколу, калі жыта красуе.* Дамашэвічы.

ВОВНЯ'НКА БЕ'ЛАЯ. Бялянка. *Вовнянка белая мэнча за вовнянку розову. Вовнянка белая больш бы лахмата, вона рэдзей ростэ, звэрху такая бы жовтовата е.* Ткачы.

ВОВНЯ'НКА РО'ЗОВА. Ваўнянка. *Мы то завшэ бэрэм розову вовнянку, вона то бы й крыху чэрвоновата бывае. Вымочваемо розовы вовнянкі і солімо іх.* Ткачы.

ВОРО'НА *ж.* Зонцік стракаты. *Ворону найдэш в городзі, полі, гаеві, лесі, но по краях. Мы нэ емо, но маці моя казала, шчо воны збіралі вороны і елі.* Ткачы.

ВОРО'НА-ГРЭ'БЕНЬ. Парасонік грабеньчаты. *Вороны е всякіе, і поганые тоже. Такая ворона-грэбень маленька, ее як нажмэш на сподзі, то такое чэрвонэнько на белум выступае. Таку ворону-грэбень нэ елі і нэ бралі ее.* Ткачы.

ВЫПЛЫВА'ЛЬНІК *м.* Баравік, які расце, калі цвіце жыта. *Праўдзівыя растуць, як красуе жыта. Называем мы іх выплывальнікі. Яны гэтакія, як і асеннія, толькі меншанькія.* Лешня.

ВЫСЫПА'ЛЬНІК *м.* Тое, што і ВЫПЛЫВА'ЛЬНІК. Лешня.

ГАВАРУ'ШКА *ж.* Гаварушка пабеленая. *Гаварушка — грыб воўчы, расце на такой высакаватай ношкі і тожа ў лесі іх многа.* Недаль.

ГРУ'ЗДЗЕ *н.* Грузд. *Такое белэ груздзе, товсты корэнні, раз я назбірав, то баба повыкідала.* Ткачы.

ГРЫБ, ГРЫБО'К, ПРАЎДЗІ'ВЫ ГРЫБ. Тое, што і БАРАВІ'К. *Гэтым летом грыбов вжэ столькі было, шчо я толькі одны грыбкі збірав. Як найдэш одзін грыбок, то й другі тут жэ шукай.* Ткачы. *Краснагаловікі нападоб'е грыбоў: коронь такі тоўсты, як у праўдзівых грыбоў.* Лешня.

ГУ'БА *ж.* Сыраежка чырвоная. *Раней нашы бацькі на всё сыроежкі губы казалі. А зарэ в нас губою зовут оно чырвоные, такіе аж бордовые сыроежкі.* Ткачы.

ЁЖ, ЁЖЫК *м.* Пеўнік стракаты. *Еж, другі кажут ёжык, бо на ёжыка похожы: звэрху сэрэнькі, а пыд нізом бы колючкі, як в ёжыка. Ежы можно есці.* Ткачы.

КАЛАСАВІ'К *м.* Тое, што і ВЫПЛЫВА'ЛЬНІК. *Повен кошык каласавікоў прынёс, адных каляпанікаў прынёс.* Лешня.

КОЗЛЯКІ′ *мн.* Агульная назва ўсіх ядомых грыбоў, выключаючы баравікі і падасінавікі. *Козлякóв то мóжно назбірáці всякіх, а грыбкá то нэ знáйдэш тут.* Ткачы.

КРАСНАГАЛО′ВІК *м.* Падасінавік. *Мнóга былó там краснагалóвікаў. Прысядзеш, глянеш, дак адны́ крáсныя шáпачкі.* Лешня.

КРАСНОГОЛО′ВЕЦ *м.* Тое, што і КРАСНАГАЛО′ВІК. *В том лéсі такíх красноголóвцов мнóго, шчо всё равнó як накрáшаны сэдзят. Больш ні в однóм лéсі в нас такíх хорóшэнькіх красноголóвцов нэмá.* Ткачы.

КРАСНЮ′К, КРАСНЮЧО′К *м.* Тое, што і КРАСНАГАЛО′ВІК. *Красноголóвцы ешчэ́ і краснюкáмі называ́ют, але мáло на іх так кáжут, больш всё стары́е бáбы краснючкáмі зовýт.* Ткачы.

КРАСУ′ЛЬКА *ж.* Радоўка. *Звэ́рху красýлька такáя чэрвóненька, бы крýглая, але вонá круглéйша, чым то зэлёнка. Пыд нізóм в красýлькі плёнка такáя бы рóзова, плёнка коло шáпкі, як в маслякá. Звэ́рху красýлька слізка, бы мóкра, в ягодніку ростэ́ і в соснóвом лéсі.* Ткачы.

КУ′РОЧКА *ж.* Рагацік жоўты. *Ранéй мы брáлі кýрочкі і éлі, зáрэ кýрочок нэ бэрýт: воны́ бы жыловáтые, корчы́стые такíе, жóвтые.* Ткачы.

ЛАША′НКА *ж.* Радоўка. *На радóўкі пахóжыя ёсціка лашáнкі, тóжы падыспóдам бéлыя, звéрху сівінькія, ажно чóрныя, тóлькі сядзяць не раткóм, а шарáмі, грóзнамі цэ́лымі.* Недаль.

ЛІ′СКА *ж.* Лісічка. *Як глянеш в бэрэзіні, то лісок мóрэ цэ́лэе, малéнькі ліскі, як гýзікі жóвтэнькі всёровнó.* Ткачы.

ЛЯДНІ′К *м.* Падбярозавік. *Па беразнякáх лядні́кóў мнóга. Хоць касóй касі. Як маладзéнькі лядні́чóк, дык красівы, крамяны, шáпка бýрая.* Недаль.

МАСЛЯ′Н *м.* Масляк. *Смáшны дýжа грыб маслян, казякóм завýць шчэ ягó.* Недаль.

МАША′РНІК *м.* Тое, што і БАГНЮ′К. *Машáрнічкі цвёрдзенькія, харóшыя грыбóчкі, жóўценькія. Карэ́нчыкі тóненькія, а шáпачкі тóўсценькія.* Лешня.

МІКО′ЛЬНІК *м.* Тое, што і БЯРО′ЗАВІК. *Дóжджыкі йдуць цёплыя, жы́та выплывáе, напэ́ўна й, мікóльнікі ў лéсі есь.* Лешня.

МІША′РЫК, МША′РЫК *м.* Тое, што і БАГНЮ′К. *Як нэмá спрáвэдных і красноголóвцов, то і мішá-*

*рыкі до́бры. Найчасцей мшарыкі на мо́хові набэрэ́ш.* Ткачы.

МОЛО'ЧНІК *м.* Млечнік шэра-ружовы. *Моло́чніков в хвоіні мно́го, але іх нэ ідзя́т, го́ркі воны́, і то́е молоко́ с іх го́рке.* Ткачы.

ОЛЬХО'ВКА *ж.* Грузд чорны, чарнуха. *Гэ́тых чо́рных кру́глых ольхо́вок в Сіліго́вском ле́сі по́вно. Нэ все ольхо́вкі бэру́т, горэ́нят воны́ крыху́, але хто лю́біт с пэ́рчыком, то до́бры.* Ткачы.

ОПЭ'НЁК *м.* Апенька. *Набра́в раз мой хло́пэц опэ́нёк, а воны́ всё былі́ во́вчы. В на́шом ле́сі мно́го похо́жых до опэ́нёк грыбо́в, але нэ опэ́нькі.* Ткачы.

ПАДВІШНЯ'К *м.* Вясенні ядомы грыбок, расце пад вішнямі. *Ёсць яшчэ́ высыпа́льныя грыбкі́, як жы́та красу́е, яны́ расту́ць пад вішнямі. Іх называ́юць падвішнякі́. Падвішнякі́ бе́лыя, цвёрдыя, сало́дкія, харо́шыя такія. І сма́чныя.* Лешня.

ПАДСАСНО'ЎКА *ж.* Грузд. *Падсасно́ўкі ёсціка. Усе́ кары́чнывыя, і зве́рху, і падысподам. Бываю́ць і бе́лыя, алі як то́лькі малы́я.* Недаль.

ПІШЧА'ЛКА *ж.* Зялёнка. *А па пішча́ных гара́х баравы́х пішча́лак мно́га. Пішча́лкі мох лю́бюць, адны́ ша́пкі з яго́ віда́ць.* Недаль.

ПОДГРУ'ЗДЗЕ *н.* Грузды сапраўдныя. *Одна́ ба́ба в нас гэ́тэ подгру́здзе набэрэ́ бе́лэ, вы́мочыт ёго́, одва́рыт і ка́жэ, шчо сма́чнэ.* Ткачы.

ПОДГРЫ'БНІЦА *ж.* Польскі грыб. *Ростэ́ подгры́бніца о́сэню, звэ́рху така́я бы жо́втэнька, а е й бэля́ва, пыд нізом бы крэ́мовэнька.* Ткачы.

ПОДДУ'БНІЦА *ж.* Грузд жоўты. *Поддубніц мно́го в лісцёвом ле́сі, но воны́ і обма́нлівы е, бо корэ́нчык мо́жэ і нэ быці в подду́бніцы чэрві́вым, а ша́пка чэрві́ва.* Ткачы.

ПОЛЁ'ВІК ГО'РКІ. Сіняк. *Полёвікі го́ркі нэ емо́, бо воны́ ядові́ты, сіні такі́, як одло́міш.* Ткачы.

ПОЛЁВІК СОЛО'ДКІ. Каштанавік. *Полёвікі соло́дкіе нэ сіні, то іх вжэ бэру́т марынова́ці і сушы́ці.* Ткачы.

ПОРА'ДУШКА *ж.* Радоўка мыльная. *Звэ́рху пора́душка бы ро́зовэнька, а пыд нізом бы в зэлёнцы. Пора́душкі о́сэню росту́т, в сухі́ рок. Е й чэрві́вы пора́душкі.* Ткачы.

ПРЫ'БОЛОТУХА *ж.* Каўпак кольчаты, падбалацян-

ка. *Прыболотуха жовтова́тэнька звэ́рху і пыд нізом, с плёночкою.* Ткачы.

ПЫ′ДЗЭЛЕНКА *ж.* Радоўка шэрая. *Пы́дзэленкі звэ́рху на сіву́шкі похо́жы, то трэ́ба до́брэ прыгляда́ца, пыд спо́дом в пы́дзэленок тако́е крыху́ зэленкова́тэ.* Ткачы.

ПЭЧУ′РКА *ж.* Шампіньён. *Пэчу́рок мо́жно всю́ды назбіра́ці: на горо́дзі, па́совіску, гаёві, ле́сі.* Ткачы.

РАКІШЭ′ТНІК *м.* Рашэтнік. *Ко́лісь гэ́ты ракішэ́тнікі ніхто́ і нэ бра́в, а за́рэ всё су́шат ракішэ́тнікі.* Ткачы.

РАСАВІ′К *м.* Тое, што і БЯРО′ЗАВІК. *Расавікі — гэ́та тыя ж бяро́завікі, але іх яшчэ́ называ́юць і расавікі. У беразняку́ расавікі расту́ць.* Дамашэвічы.

РЫЖО′К *м.* Рыжык. *Рыжо́к лю́бя пішча́ныя ме́сты. Сам ён такій ро́завый і на ім кру́чаныя такія бе́лыя поло́скі, уро́дзі як ра́бінькій такі.* Недаль.

РЭШЭ′ЦЮХА *ж.* Тое, што і РАКІШЭ′ТНІК. *Воно́ то больш людэ́й в нас ка́жэ рэшэ́цюха, але ста́ры лю́дзі і ракішэ́тніком зову́т гэ́ты грыб, шчо в сосно́вом ле́сі ростэ́.* Ткачы.

СВІНЯ′ *ж.* Падгруздак белы. *Свіні бе́лые бэру́т і едзя́т, а в бэрэзіні е й чо́рные свіні, но воны́ го́ркі, то в нас іх нэ бэру́т. Свіні одва́рыш, посо́ліш і с карто́плею мо́жэш е́сці.* Ткачы.

СІВУШКА *ж.* Сівушка. *Сіву́шкі росту́т цэ́лымі ку́памі, вона́ така́я сіва і нэ лу́піца, гэ́та па́косць нэ чэрвіва. Нагнэ́сса бра́ці пы́дзэленку — і нэ то́е, то ногою ее пхнэ́ш.* Ткачы.

СІНЮ′ХА, СІНЮ′ШКА *ж.* Радоўка фіялетавая? *Корэ́нчык в сінюшкі то́всты, внізу́, як ку́кса, а звэ́рху сінюха сінэнька. Старые ба́бы бэру́т, а мы — нэ.* Ткачы.

СПРА′ВЭДНЫ, СПРАВЭДЛІ′ВЫ. Тое, што і БАРАВІК. *Як пошла́ раз в Мікіцкі лес по спра́вэдны, то сто́лько іх нашла́, шчо нэ зна́ю, куды́ іх бра́ці. Лю́дзі мно́го гэ́тогс ро́ку справэдлівых насушы́лі.* Ткачы.

СТОРЧО′К *м.* Страчок. *Як зна́йдэш сторчка́, то розло́міш зра́зу, коб там тако́го чэрвячка́ нэ было́, бо чэрвячо́к ядовіты.* Ткачы.

ХВАЁВІК *м.* Баравік, які расце ў хвойніку. *Хваёвікі такія з чо́рнымі ша́пачкамі, расту́ць па хво́йніку.* Дамашэвічы.

ШПІНЁ′Н *м.* Шампіньён. *Шпінёны в мэнэ́ за ха́тою росту́т, нэ трэ́ба і на торфя́нікі е́хаці.* Ткачы.

*В. Д. Старычонак*

# З НАЗВАЎ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНЯЙ ЧАСТКІ БЕЛАРУСІ

У артыкуле прыводзіцца транспартная лексіка Маларыцкага, а таксама прылягаючых да яго частак Кобрынскага (вв. Гірск, Забава) і Брэсцкага (вв. Гута, Медна) раёнаў.

АЛЁНАК, ЛЁНОК *м.* Затычка на канцы бруса, які злучае заднюю і пярэднюю часткі воза. *У конці розвіркі е дырке прокручаны, алёнак закладаецца, шоб віз не расцянуўса.* Олтуш. *Лёнок жілезны ў конці розвіркі.* Палікі. *Лёнок розвору затыкае.* Макраны.

БА'БКА *ж.* Папярочная калодка, якая кладзецца на сані пры перавозцы доўгага бярвення. *Бабку на пудсанкі кладэмо, а звэрху — браўно.* Ляхаўцы.

БАРА'ШАК *м.* Жалезнае кольца на канцы ручкі воза, з дапамогай якога люшня прымацоўваецца да драбіны воза. *Барашкам можа люшня завэртывацьца.* Арэхава.

БІ'ЛЬЧЫНА *ж.* Аглабіна ў драбіне воза. *Більчына ў дробынах вэрхня і сподня.* Чарняны.

БІЧЫ'ЛНО, БІЧЭ'ЛНО *н.* Пугаўё. *До бічылно ўчэплены пасак, або шнурка.* Радзеж. *Бічэлно дзірэвляно.* Арэхава.

БРУШТЭ'ЛІ *мн.* Рэхвы на калодцы кола. *На колодыцю набываюцьца бруштэлі, шоб віна нэ розволылася, для крэпосці.* Гута. *На колодыці е бруштэлі, шоб не розсохлосё коло.* Навалессе. *Бруштэлі нацягнаны на колодку.* Радзеж.

БЫ'ЛЦЭ, БЫ'ЛЬЦЭ *н.* Тое, што і БІ'ЛЬЧЫНА. *Былцэ звэрху і пуд сподом.* Замшаны. *Быльцэ з дыркамы, шоб цыпкі вставыты в робрыну.* Карпін.

БЭДА', БІ'ДОЧКА *ж.* Ручная каляска, двухколка. *Бэда на двух колысах, ручна тока бідочка.* Хацiслаў.

БЭ'РОК *м.* Ворчык. *Бэрок з жілізом, круком такэм, шоб плуга прыв'язаці.* Брадзяцін.

ВІНЦЫ'ДЛА, ВЫНЦЫ'ДЛА, ІНЦЫ'ДЛА *мн.* Цуглі. *Шоб конь нэ поносыв, шоб задэржаць — у уздэчцы е вінцыдла.* Чарняны. *Вынцыдла і муштуке на добро коня.* Брадзяцін. *Інцыдла дають у рот конёвы, шчоб він нэ дрыгайса ў стораны, шчоб затрыматы можно було як бяжыць.* Макраны.

ВОЗОВНЕ', ВОЗОВНЯ' *ж.* Дно ў возе. *Возовне з дэскі ці двух.* Арэхава. *Возовня подоўж воза кладэцца.* Олтуш.

ВЫМО'СТКА *ж.* Лямец у хамуце. *Шоб мяхчы каню ў шыю — ля клішчаў е вымосткі, як скручаны волосы ці войлок.* Забава.

В'ЯЗ, УЯЗ *м.* Вязок у санях. *В'яз гнуць.* Баравая. *Дубэвы ўяз самы найлуччы.* Палікі. *Уяззя абмотваюць кругом копыла, у надаўбках дзелаюць дырку і надаўбваюць на капыл.* Грушка.

ГАЛЁЎКА *ж.* 1. Кароткая вяроўка ці кольца, пры дапамозе якога аглоблі прымацоўваюцца да ярма. *З плуга ўткнецца дышаль у галёўку ці аглоблі кіёчкам, і ехаты ці пахаты можно.* Баравая. *Галёўка бы звязвала ярмо і аглоблі.* Дарапеевічы. 2. *Уст.* Вяроўка для прыціскання сена на возе (прывязваецца да передка воза і за рубель). *Галёўкай раней рубэль са шворнем злучаліся.* Дарапеевічы.

ГА'РА *ж.* 1. Скрынка, якая ставіцца на воз пры перавозцы бульбы, зерня. *На гару кладэмо картоплю.* Медна. *Як фураж вазіць, на віз гару ставімо.* Чэвель. 2. Воз з такой скрынкай. *На гару пуставецца скрыня і картопля сыплецца чы мука яка.* Палікі.

ГАРАГО'ЛІ *мн.* Шамкі. *Гараголі — токы звонкы, тэпэрыко іх ныма, цыганы дык доўго шчэ дэржалі.* Замшаны.

ГАЧКІ' *мн.* Падпоры пад ручкамі. *Гачкі залезны пудпірають вісь і ручкі.* Олтуш.

ГОРШЧО'К *м.* Ворчык. *Як гараемо поля, горшчок до плуга чэпіцца, а постронкі за ўжвы.* Збураж.

ГРЫБЁНКА, ГРЫБІ'НКА, ГРЭБІ'НКА *ж.* Грабёнка на аглоблі. *На голоблі е грыбёнка, шоб оцёсы нацягнуты булы і віз маў правільны хот.* Сушытніца. *В голоблю вбыта грыбінка.* Хаціслаў. *Оцёса трымае за грэбінку, току зілезку з зубкамы.* Радзеж.

ЗАВІЯ'НКА *ж.* Тое, што і БРУШТЭ'ЛІ. *Пярэдні, ціыршы абруч — завіянка.* Забалоцце.

ЗА'КЕНЗЛЫ *мн.* Тое, што і ВІНЦЫДЛА. *Закензлы ў вуздэчцы, шоб строкатому коню в рот даваць.* Лукава. *Закензломі коня стрымаюць.* Макраны.

ЗАПРАШТЫ' *зак.* Запрэгчы. *Воза трэба запрашты.* Радзеж.

ЗАСЛО'НКІ *мн.* Скураныя нашыўкі на аброці, навочнікі. *Як коні баявыя, вуздэчку надзяюць з заслонкамі, шоб ззаду нэ бачыв конь шо робіцца.* Чарняны.

ЗГОЛО'ВОК *м.* 1. Вузгалаўе ў возе. *Зголовок накладаецца на вось і пракладаецца страмёнкамі.* Макраны. *Хамуты зілезны крэпяць зголовок.* Збураж. 2. Тое, што і В'ЯЗ. *Е тры зголоўкі, сколька лап, столька і зголоўкаў.* Медна. *Зголоўкі, шоб звязаць санкі, скрапіць полузы.* Гута.

ЗУБЫ'ЛО *н.* Тое, што і ВІНЦЫ'ДЛА. *Стрэкатому коню зубыло сунуць у рот, шоб він нэ понёс.* Олтуш.

КАБЛУ'К *м.* Крук на канцы аглоблі. *Аглобля клямрам прыв'язваецца, токой дротыною, шоб каблук нагнаць на капыл.* Арэхава.

КА'ПСЫЛЬ, КА'ПСУЛЬ *м.* Жалезная пракладка паміж колам і загваздкай. *Капсыль залізны закручваюць, каб колысо нэ злятало.* Арэхава. *Капсуль на другы строй воза, на капсулях гайкы нэ трэбо.* Палікі.

КАПТУ'Р *м.* Шчыток у санях. *У санкох токы каптур збывалы, шоб снег ні падаў на ногі.* Грушка.

КЕ'ЛЬНЯ, КЭ'ЛЬНЯ *ж.* Кузаў у возе (звычайна складаецца з дзвюх палавін, адна ставіцца ў пярэдняй, другая — у задняй частцы воза). *Кельня на цэлы воз, разам стачваюць дзве. Яна плетэна густа.* Медна. *Кэльні до воза былі плетэны з лозы, як шо купыш, у кэльню ўложыш, шобы нэ ўпала.* Збураж, Гвозніца.

КІ'ЧКА, КЫ'ЧКА *ж.* Палятынка ў хамуце. *Кічка — то салома абматаная таварам.* Чарняны. *До пэрода кліишчаў кычка кожана даецца, усярэдзіне яе — салома.* Радзеж. *Кічка, штоб не муліла персці лошадзі.* Гвозніца.

КНЫ'ПАЛЬ *м.* Падгерац. *Шворань усажваецца ў кныпаль, а кныпаль ужо з розвіркай злучаны для крэпосці, тока тоўста крыўляка жалезна.* Замшаны.

КОЛО'ДЫЦЯ *ж.* Калодка ў коле. *Колодыця дубова і з бярозы, рэхвы повэрху колодыці.* Палікі. *Штоб коло-*

*дыцю скрапіць, штоб вона нэ потрэскалася, традылкамі акута.* Карпін.

КОЛЫТКЫ′, КОЛОДКЭ′ *мн., уст.* Тое, што і ЗАСЛО′НКІ. *З колыткамі мало хто ездзіў, стараліся прыучыць куня, шоб він нэ полохаўса.* Дарапеевічы. *На гочы колодкэ паўчыплены, шоб кінь на бок ны бачыў. Колодкэ са шкуры ці чобота, прышыты да вуздачкі, шоб кінь нє лікаўса.* Арэхава.

КРА′ЙКА *ж., уст.* Папруга. *Крайка пуд чэрывом, шоб седэлко трыматы, подвязываты.* Ляхаўцы. *Сідзёлко крайкай палатнянай прыв'язваецца.* Грушка.

КРУ′Г *м.* Тое, што і БА′БКА. *Крух прамежду падосніка і зголоўка кладэцца.* Радзеж. *Кругы на пэршы і другы санкы на капылы вбыты.* Брадзяцін. *Крух кладзецца на санкі, як доўго палено вязеш.* Замшаны.

КЭ′НЗЛЫ, КЭ′ЛЬЗЫ *мн.* Тое, што і ВІНЦЫ′ДЛА. *Уздэчка е з кэнзламі і так собэ, бэз іх. Кэнзлы ў рот дають.* Карпін. *Кэльзы, шоб луччы ўтрыматы куня.* Забава. *Кэльзы ў рот дають натурліваму каню.* Гірск.

ЛАГУ′Н *м.* Тое, што і БА′БКА. *На сучку перш чым бар'як палажыць, лагуна кладуць, такі покат.* Чарняны.

ЛІГА′Р *м.* Тое, што і БА′БКА. *Сасновы лігар, току папярэчку на капылы клалі, шворня пробывалі, дзелалі на круговы.* Маларыта.

ЛІ′ТРЫНА *ж.* Тое, што і БІ′ЛЬЧЫНА. *Люшні звэрху крэпляцца до літрыны, з-под нізу до восі. Кладзь давіць на літрыну, а літрына на налюшэнік і люшні, а тая на вось.* Арэхава.

ЛЫНЦЫ′ДРА *мн.* Тое, што і ВІНЦЫ′ДЛА. *Лынцыдра, шоб нуздаты коня, колы вон дурноваты троха.* Замшаны.

ЛЯ′ДА *н.*, ЛЯ′ДЗЬ *ж.* Прыстасаванне для падняцця цяжкіх грузаў на воз. *Ляда, штоб дровы подыматы, е цэп токы под брайном і два балта.* Арэхава. *У лядзе дзве доскы повэрчаны, ляда ўкладае за дзесяць чалавек.* Палікі. *На лядзь бэрут тоўсту колутку, і лядуюць ключом.* Гвозніца.

МА′ЧАХА *ж.* Самая тоўстая лёстка ў драбіне воза. *Мачаха робіцца, шобы крэпка була дробына.* Збураж.

НАГО′ЧНІКІ, НАГО′ЧНЫКЫ *мн.* Тое, што і ЗАСЛО′НКІ. *Нагочнікі ці навушнікі ў пужлівага каня.* Арэхава. *Нагочныкы ля вуха ідуць.* Брадзяцін.

НА′ДАБКІ, НА′ДУБКІ, НА′ДУЛУБКІ *мн.* Тое, што

і В'ЯЗ. *Надабкаў у санкох тры штукі.* Чарняны. *Попэрок саней — надубкі.* Сушытніца. *Надулубкі копылы звязваюць.* Замшаны.

НАЛЮШЭ'ЛНІК, НАЛЮШЭ'ЛНЫК, НАЛЮШЭ'ЛЬНІК, НАЛЮШЭ'НІК *м.* Жалезнае кольца на канцы задняй ручкі для прымацавання люшні да драбіны воза. *Налюшэлнік з кольцамі, зілезны.* Дарапеевічы. *У налюшэлныку по двох кольцах, одно на ручку, одно на люшню.* Радзеж. *Налюшэльнік — як бы два кальцы з логавам.* Олтуш. *Налюшэнік выгнуты пад літрынай.* Арэхава.

НАМО'РДАЧ *м.* Аброць, вуздэчка. *Намордач, шоб зловыты коня, без намордача нэ паедыш.* Вялікарыта.

НАРЫШТОВА'ТЫ *зак.* Нагрузіць (воз). *Повэрх дробын рушты кладуцьца, куб большу фуру нарыштоваты.* Радзеж.

НОСІ'ЛЬНІЦЫ *мн.* Рэзгіны. *Носільніцамі можно було адразу копіцу перанесці.* Забава.

НІС *м.* Загнутая частка полаза. *Ніс полаза прыродны можа буты, а можа гнуты.* Замшаны.

ОКА'ПА *ж.* Скураное пакрыццё хамута. *Як хамут з окапой, то дож не так заходзіць.* Макраны. *Окапа, штоб не змокла кошма.* Сушытніца. *Окапа звэрху хомутова.* Лукава.

ОКУЛЯ'РЫ *мн.* Тое, што і ЗАСЛО'НКІ. *Окуляры со стороны вуздэчкі, шоб кінь нэ оглядаўся.* Сушытніца.

ОСНО' *н.* Палка паганяць валоў. *Шобы бік нэ лэнуваўся робыты, лупілі осном. Осно — тока доўга палка з гоздзем в сторч вбытым.* Хаціслаў.

ПАДО'СНІК, ПАДВО'СНІК *м.* Тое, што і ЗГОЛО'ВОК. 1. *На падоснік удзелываюць ізголовок.* Радзеж. *На жілізну вусь кладзецца дзеравяны падвоснік, тоўста вусь робіцца тагды.* Замшаны.

ПАСЦЕ'ЛЬ *ж.* Дашчаны насціл у возе, санях. *Добры майсцер шчыльна збудуе пасцель, што ніводна рэч не ўпадзе.* Забава.

ПЕРАМЕ'ТНІК *м.* Церассядзёлак. *Пераметнік буў із кожы, такі пасак выразаны, шоў праз сядзёлку і прыв'язваўся за голоблю.* Навалессе.

ПІ'ДГІРЦЬ, ПО'ДГІРТ, ПІ'ДГАРТЫНЬ *ж.* Падгерац. *Пуд шворнем крывая підгірць е, з розвіркай злучана.* Арэхава. *Підгірць дзержыць шворня із розворой.*

Макраны. *Шоб нэ выхылялаcа пэрэдня вось впэрод, подгiрт е, пудпора тока, одын конец на шворань, а другы до розворы чэпiцца.* Сушытнiца. *Пiдгартынь злучае шворана з розвiркай.* Брадзяцiн.

ПО′ДКЛАД *м.* Тое, што i БА′БКА. *Подклад з мэтр шырыной, на санкi бяруць, як длiнныя дзеравякi везцi.* Макраны.

ПО′ДУШКА *ж.* 1. Лямец у хамуце. *Подушка з якось ёлуха, мяхкае шось, шобы не зацiралася кожа.* Чарняны. *Подушка звэрху хомутова, а по клiшчам — кiшка.* Арэхава. *Усярэдзiне хамута подушка е з воелака.* Гвознiца. 2. Тое, што i БА′БКА. *Як длiнна дзеравiна, на санкi клалася подушка, а тада дзеравiна.* Замшаны. *Кусок дзерайлякi — ужэ подушка, спецыяльна не было.* Олтуш. *Подушку робяць на кругах, дырку б'юць, шоб поворот буў.* Карпiн. *Подушка на сучках е, колода з гнёздамi.* Хацiслаў. *Шоб колодка ляжала вышэ i санкам паварот буў, рух добры, е колода маленька, подушка.* Баравая. 3. Тое, што i ЗГОЛО′ВОК. 1. *Пэрыдок поворочваецца на подушцы.* Арэхава. *У подушку вбыты шворань.* Забава. 4. Лямцавая падкладка пад хамут пры яго вялiкiм размеры. *Як хамут бальшы, падкладаюць подушку, шоб ны тузайся вiн по конёвi.* Гута.

ПОЛУ′ПОЧОК, ПОЛУ′ПУШОК, ПОЛУ′ПОШОК *м.* Кузаў у возе, сплецены з лазовых прутоў. *Полупочкы плетэны такi, шобы покупка ны згубылася.* Чарняны. *Полупушок — палавiна карзiны, выплетэны токы кош на воз падасьца, як куда едэш, шобы нiчога не выпало.* Макраны. *Полупушкы з корчэў робылы.* Палiкi. *Полупошок быў плетэны з голячча.* Дарапеевiчы. *Полупошка кладуць, як на базар ехаты.* Арэхава.

ПО′ПЛЮСКА *ж.* 1. Тое, што i ОСНО′. *Поплюска — тока палка з гоздзю гоняты волоў.* Дарапеевiчы. 2. Мн. Калкi, якiя ўстаўляюцца ў санi вертыкальна пры перавозцы дроў. *Поплюскi толькi ў санкох вазовых, калкi токы, шобы дровы не расцягвалiся. Без поплюсок не прывязеш дровы.* Олтуш. *У надаўбках дыркэ пороблены, як па дровы ехаты, то поплюскi ў дыркэ ставяцца.* Раздзеж. *Як едыш по гулячы, такы мелкы дровы, у надаўбкi ставiмо поплюскi.* Маларыта. 3. Развалкi. *Поплюскi, як сена вазiць, у санi кладуцца ўздоўж i папярок.* Гiрск, Медна.

ПО′ЦЯХ *м.* Невялiкая планка цi вяроўка, якая злу-

чае сярэдзіну ярма з аглоблямі. *Поцях з дэрва, закладайся ў аглоблі, а воны до купы звязваліся поцяхам.* Дарапеевічы. *Поцях з паўмэтра будзе, за галёўку і ў аглоблі бярэцца.* Баравая. *Поцях токы е в ярмовы біковы.* Лукава.

ПУДБАРО'ДНІК *м.* Рэмень у аброці пад шыю каня. *Пудбароднік ва ўздэчцы пуд барадой, пасачок токы.* Замшаны.

ПУДБРУ'ШНІК *м.* Папруга. *Пудбрушнік пуд чэрывом ідэ.* Арэхава. *Пудбрушнік зашчыпнуты, шобы сідзёлка нэ впала.* Хацíслаў.

ПУ'ДВЯЗЬ, ПУ'Д'ЯЗЬ, ПУДВЯ'ЗКА *ж.* Падгерац. *За пудвязь цэпом рубэль брайса.* Вялікарыта. *Пуд'язь з розвіркай крэпіцца.* Лукава. *Пуд'язь для крэпосці, шобы пэродок нэ пускаў зад, а дзяржаў на месці, шобы розвырка не паехала з задком.* Грушка. *Пудвязка, штобы не зламалася розвірка.* Дарапеевічы.

ПУДТО'КА *ж.* Раздвоены канец трайні. *Пудтока — задня часць, а наперадзе розвірка.* Гута. *Як лес вязеш, то брайно за пудтоку прыв'язваеш.* Медна.

РАБРЫ'НЫ *мн.* Драбіны ў возе. *Мэшкы клалы ў рабрыны.* Нікольскае. *Шоб рабрына нэ выхылялася в сторону, люшні е.* Сушытніца. *Налюшэлнікі на ручкі рабрын накладаюцца.* Хацíслаў.

РАЗБРО'ІЦЬ *незак.* Падоўжыць воз, павялічваючы адлегласць паміж яго задняй і пярэдняй часткамі. *Воз разброюць, пэрід до коня прывязваецца, а ззаду ложацца канец сосны.* Олтуш.

РАЗВО'РУВАЦЬ *незак.* Тое, што і РАЗБРО'ІЦЬ. *Воз разворуюць, рабрыны знімаюцца і ліс вязеш. А як доўгі бар'як вязэш, то зад ідэ на пяць-дзесяць мэтраў ззадзі.* Чарняны. *Як длінну сосну весці, воза разворуюць.* Замшаны.

РАЗРУШТО'ЎВАЦЬ *незак.* Тое, што і РАЗБРО'ІЦЬ. *Як ліс возімо, доўгы колодкы, віз разруштоўваецца, пірэдок тут, задок кручваецца.* Арэхава.

РАСПУСКА'ЦЬ *незак.* Тое, што і РАЗБРО'ІЦЬ. *Распускаем воза, на пэрыдок кладэцца колода, цэпом прывязваецца.* Медна.

РАСЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Тое, што і РАЗБРО'ІЦЬ. *Расцягвуюць воза на длінну леса.* Чарняны. *Вуз расцягваецца, як за дровамі ехаты трэбо.* Грушка.

РАСЦЯ'ЖКІ *мн.* Жалезныя пруты, якія злучаюць

канец трайні з задком воза. *Расцяжкі по боках разворы, пруты токы зілезны.* Збураж.

РА'ШТЫ, РІ'ШТЫ, РЫ'ШТЫ, РЭ'ШТЫ *мн.* Прыстасаванне ў возе для пашырэння яго пагрузачнай пляцоўкі. *Калі сено клалі, то рашты повэрху булы, чатыры друкі токых.* Чарняны. *Рішты кладуцца, як сено возімо. У дробыну сено кладэм, а попэрок і подоўж рішты.* Арэхава. *Рышты повэрха дробын, куп большу фуру нарыштоваты.* Радзеж. *Еслі сено весці, кладуцца рэшты, бо на дробыны мало ўложыш.* Карпін.

САМОТУ'ЖКІ *мн.* Маленькія сані. *Самотужкі дэтам кататыса, самы робімо.* Збураж, Ляхаўцы.

СВЭ'РДЛО *н.* 1. Трайня ў возе. *Розвірка к задку расчэплена, а посэродку свэрдло на ўсю длінну воза.* Гвозніца. 2. Раздвоены канец трайні. Макраны, Грушка.

СКОРС, СКОРШ *м.* Загнутая частка полаза. *Скорс, шобы сніг ішоў увэрх, він закручэны.* Чарняны. *Выкапаў полуззя, але малы скоршы.* Арэхава.

СТРАМЁНКІ *мн.* Жалезныя палосы, якімі вузгалаўе прымацоўваецца да восі. *Зголовок накладаецца на вось і пракладаецца страмёнкамі. Страмёнкі з жіліза, гайкамі закручаны.* Макраны.

СУ'ЧКА *ж.* 1. Падсанкі. *Коло сучкі кулок токы е, сучкі ім пуворочваюцца, руль бы токы. Еслі дорога не простая, з сучкай ідэ ззадзі кормчы.* Гвозніца. *Булы пірэдні санкі і задня сучка.* Замшаны. *Як доўгі бар'як мэтраў на пятнаццаць, то бяруць санкі і сучку.* Чарняны. 2. Крывая палка, прымацаваная да падсанак, для кіравання імі. *На малэнькіх пувсанках сучка е, колок токы, штобы правыты задком, а пірэдок кінь вязе. Трэба сучку ўчапіці, а то з лесу не выедэмо.* Арэхава. *Сучка — тока ручка ўпраўляты пувсанкамы.* Ляхаўцы.

ТРАДЫ'НКІ, ТАРАДЫ'НКІ, ТРАДЫ'ЛКІ, ТЭРЫНДЭ'ЛЬКІ *мн.* Тое, што і БРУШТЭ'ЛІ. *На каждой калодыці по дзве традынкі, оні обжымаюць колодыцю і шпіцы.* Арэхава. *Калодыця звэрху окоўваецца тарадынкамі.* Чэвель. *Традылкі, шоб скрапляць калодыцю, шоб віна нэ потріскала.* Маларыта. *Бруштэлі ілі тэрындэлькі на калодыці.* Медна.

УДЫ'ЛА *мн.* Цуглі. *Кола вуздэчкі два шнурка і ўдыла. Як конь не хоча стрымоваты, у рот дають.* Нава-

лессе. *Удыламі кіня стрыматы хутко можно.* Гвозніца. *У рот стрэкатому кіню ўдыла даймо.* Арэхава.

УКНАЛІ′ *мн.* Ручкі ў «лядзе». *Цэпом за калодку зачэпяць і за ўкналі важаць, шоб высоко подняты.* Забава.

ЦЫПКЫ′ *мн.* Лёсткі ў драбіне воза. *Цыпкы дубовы, могуць быць ясэнёвы.* Замшаны.

ШЭ′БА *ж.* Шына. *Шэба залезна кругом колыса. Колысо оковано шэбой.* Гута.

*А. П. Цыхун, Г. А. Цыхун*

# ЛЕКСІКА ДЗІЦЯЧЫХ ГУЛЬНЯЎ І ЗАБАЎ

Прадстаўленая ў гэтай падборцы лексіка запісана ў г. Гродна і Гродзенскім раёне. У якасці інфарматараў выступалі як дзеці, так і дарослыя асобы, у сувязі з чым сярод зафіксаваных назваў ёсць пэўная колькасць сінонімаў, якія могуць адносіцца да розных перыядаў бытавання дадзенай гульні. Некаторыя сінонімы з'яўляюцца вынікам моўнай дыферэнцыяцыі ўказанай тэрыторыі, што звязана з міжмоўнымі кантактамі і ў першую чаргу з беларуска-польскай моўнай інтэрферэнцыяй. Таму сярод запісаных назваў многія выступаюць у спаланізаваным выглядзе. Некаторыя з назваў, як і самі гульні, былі, відаць, запазычаны з Расіі ў час бежанства ў гады першай імперыялістычнай вайны (гл. *шашкі, бабкі* і інш.). Іншыя ж распаўсюдзіліся ў пасляваенны час у сувязі з міграцыяй насельніцтва, асабліва гарадскога.

Існуючыя класіфікацыі беларускіх народных гульняў улічваюць пераважна этнаграфічныя і педагагічныя моманты [1], пакідаючы ўбаку лексічны аспект. Між тым народныя назвы гульняў, а таксама паняццяў, звязаных з іх арганізацыяй і правядзеннем, утвараюць пэўныя лексічныя тыпы, аналіз якіх можа ўяўляць цікавасць не толькі з моўнага пункту погляду. З словаўтваральнага пункту погляду звяртае на сябе ўвагу незвычайная прадуктыўнасць суфікса *-к-*, які ў спалучэнні з формай множнага ліку ўтварае ад дзеяслоўных асноў назвы многіх так званых рухомых гульняў тыпу *хаванкі, сігалкі* і пад.

---

[1] Параўн.: Вількін Я. Р. Беларускія народныя гульні. Мінск, 1969, с. 4—7; яго ж. Белорусские народные игры второй половины XIX—начала XX в. Автореферат кандидатской диссертации. Минск, 1971, с. 13.

Для зручнасці падачы, а таксама з мэтай выдзялення словаўтваральных тыпаў лексем увесь сабраны матэрыял прыводзіцца ў асобных рубрыках.

У аснову класіфікацыі, якая ўлічвае перш за ўсё прагматычныя патрабаванні, пакладзены некаторыя фармальна-сінтаксічныя і семантычныя характарыстыкі лексем. Асноўная ўвага звяртаецца на спосаб наміна-цыі. У адпаведнасці з гэтым вылучаюцца рубрыкі: назвы гульняў ад назваў дзеючых асоб, ад назваў дзеяння, ад назваў аб'ектаў гульні і інш. Аднясенне канкрэтных назваў да той або іншай рубрыкі ў пэўных выпадках мае ўмоўны характар. У спецыяльныя рубрыкі вылучаны назвы гульняў з няяснай матывацыяй (да якіх даецца этымалагічны каментарый) і назвы паняццяў, звязаныя з арганізацыяй і правядзеннем гульняў. Пры адсылках да назваў гульняў з адной рубрыкі ў другую пасля адсылачнага слова ставіцца ў дужках нумар рубрыкі.

## I. Назвы гульняў ад назваў дзеючых асоб

БЭ'РКО, *у бэ́рка.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, адпавядае рус. *пятнашки.* Усе гуляючыя становяцца ў рад і крычаць: «Чур, не я!»; хто крыкнуў апошнім, той водзіць, г. зн. стараецца дакрануцца рукой да каго-небудзь з гуляючых, якія ўцякаюць, пасля чаго «запламлены» пачынае вадзіць. *Адна́ дзе́ўчына з Росі ні ў пата́пкі каза́ла гуля́ць, а ў бэ́рка.* Гродна. Варыянт: Лічыліся, на каго выпадзе апошняе слова лічылкі, той быў *бэ́ркам.* Яго дражнілі, а ён стараўся злавіць каго-небудзь, які станавіўся *бэ́ркам. У бэ́рка я сама́ любі́ла гуля́ць, ве́сяло было́ падра́чваць бэ́рка: бэ́рку, бэ́рку, дай цуке́рку!* Свіслач.

ГУ'СІ, *у гу́сі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак. Пры дапамозе лічылкі адзін з удзельнікаў выбіраўся ваўком, усе астатнія былі гусямі. Адна дзяўчынка выбіралася гаспадыняй. Гаспадыня звярталася да сваіх гусей: *«Гу́сі, ле́бядзі, дамо́й!»* Гусі адказвалі: *«Баімса».* Гаспадыня: *«Каго́?»* Гусі: *«Ваўка́».* Гаспадыня: *«А дзе́ ён?»* Ёй адказвалі хорам: *«Гусь скубе́!»* Гаспадыня: *«Чым прэ́ндзай дамо́й!»* Усе як могуць бягуць. Каго зловіць воўк, той яго замяняе, становіцца ваўком. Забагоннікі.

КАЗАКЕ'-РАЗБО'ЙНІКІ, *у казаке́-разбо́йнікі.* Гульня хлопчыкаў. Удзельнікі гульні разбіваліся на дзве

групы, у адной групе — казакі, у другой — разбойнікі. Разбойнікі хаваліся па кустах, а казакі іх знаходзілі, бралі ў палон. *І міне́ хло́пцы бра́лі гуля́ць у казаке́-разбо́йнікі. Разбо́йнікі пахава́юцца, казаке́ іх лапа́юць, бяру́ць у плен.* Гродна.

КАЛДУ'Н, *у калдуна́.* Гульня хлопчыкаў. Спачатку выбіраецца калдун. Выбранага калдуна ставяць каля плоту. Ён лічыць да 20. Усе ўцякаюць. Калдун бяжыць за імі, стараючыся каго-небудзь дагнаць, дакрануцца рукой, закалдаваць. Каго закалдаваў, той замяняе яго, становіцца каля плота. Усе закалдаваныя стаяць каля плота, трымаючыся адзін за другога. Іншыя ўдзельнікі гульні стараюцца раскалдаваць закалдаваных, а калдун не дапускае. Калі калдун усіх закалдуе, гульня канчаецца. Бывае і так, што калдун амаль усіх закалдуе, пагоніцца за апошнім, а той усіх раскалдуе, і зноў гульня прадаўжаецца. *У калдуна́ як пачне́м гуля́ць, аш сцямне́я, а мы гуля́ям.* Гродна.

КАРШУ'Н, *у каршуна́.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак. Адзін з удзельнікаў («перадавы») стаіць, астатнія бяруцца за яго. А каршун ямачку капае палачкай. Перадавы пытае: *«Нашто́ я́мачку рыяш?»* Адказвае: *«Го́лачку шука́ю».* Перадавы: *«Нашто го́лачка?»* Каршун: *«Мяшо́к шыць».* Перадавы: *«Нашто́ мяшо́к?»* Каршун: *«Тваі́х дзе́так лаві́ць».* Пасля гэтага каршун бяжыць і ловіць, а перадавы яму не дазваляе, абараняе сваіх дзетак. Як каршун усіх паловіць, то на гэтым гульня канчаецца. *Як малы́я былі́, то ўсе́ ў каршуна́ гуля́лі, я сама́ гуля́ла.* Свіслач.

КО'НІКІ, *у ко́нікі.* Гульня хлопчыкаў. Адзін хлопчык становіцца, крыху нагнуўшыся, абапіраючыся рукамі на левае калена. Праз яго скачуць па чарзе астатнія і самі займаюць тую ж пазіцыю. Хто не пераскочыць — выбывае. *Як ко́ні пасе́м, то ў ко́нікі гуля́лі, перадзыга́лі адзі́н праз аднаго́, ша́пкі на галаву́ кла́лі.* Зарубічы.

КУ'РЫ, *у ку́ры.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, звычайна ў памяшканні, у зімовы перыяд. Той, хто водзіць, з завязанымі хусткай вачыма ходзіць па хаце з распасцёртымі рукамі і стараецца каго-небудзь злавіць. Усе ўдзельнікі гульні ходзяць паціху, каб не выдаць сябе. Злоўлены пачынае вадзіць. Адэльск.

РЫБА, *у ры́бу.* Гульня хлопчыкаў. Звязвалі павады ад аброцей. Два хлопчыкі браліся за канцы павадоў, усе

астатнія разбягаліся па выгану, хаваючыся паміж коней. Першыя двое беглі за імі з повадам, стараліся абкруціць ім па руках і нагах, *«ззымáць рыбу». Як кóні малы́мі пáсвілі, то ў рыбу гулялі, пóвадам лавілі.* Кунцаўшчына.

СЛЯПА'Я БА'БКА, *у сляпýю бáбку.* Тое, што і *ў кýры. Збярэ́мса вéчарам да кагó ў хáту і давáй гулядь у сляпýю бáпку.* Адэльск.

СЛЯПА'Я КУ'РЫЦА, *у сляпýю кýрыцу.* Тое, што і *ў кýры. Дзяўчáта, давáйця ў сляпы́я кýры гулядь.* Караневічы.

ЧОРТ, *у чóрта.* Гульня хлопчыкаў. Праводзяць на ўтаптанай зямлі лінію. Стаўшы на лініі, наском нагі кідаюць палкі ў поле. Чыя палка ўпала бліжэй да лініі, той пачынае вадзіць. На адпаведнай адлегласці ад лініі палкамі рыхляць зямлю, насыпаюць невялікі курганчык. У яго ставяць завостраны з аднаго боку кіёк, званы *чóртам.* Удзельнікі становяцца за адведзеную лінію і пачынаюць кідаць у чорта палкамі, збіваць яго. Калі хто збіў чорта, тады ўсе бягуць за сваімі палкамі. Той, хто водзіць, стараецца схапіць збіты кіёк *(чорта),* парнуць ім каго-небудзь і паставіць на сваё месца. Калі гэта ўдаецца, то яго замяняе той, у каго ён парнуў чортам. *Хлóпцы збярýцца на вы́гане і давáй у чóрта гулядь, хтó бýдзя чóртам.* Скамарошкі. Гродна.

ЧЫ'ЖЫК, *у чыжыка.* Гульня хлопчыкаў. Адзін з удзельнікаў становіцца да ўсіх плячыма. Усе падыходзяць да яго, адзін з іх моцна б'е рукой у локаць рукі. Водзячы паварочваецца да ўсіх тварам. Усе яму паказваюць вялікі палец рукі і смяюцца. Як не ўгадае, хто біў, то зноў становіцца на сваё месца. *У чыжыка, як пачнýць гулядь, то нікатóрыя аш плáчуць, так наб'юць лóкці.* Канюхі.

## II. Назвы гульняў ад назваў дзеянняў

ВУ'ШАЛКІ, *у вýшалкі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак на арэлях. *Нарóбім сабé вýшалак і вýшкаямса, хто вышэй падымяцца.* Караневічы.

ГАРЭ'ЛКА, *ў гарэ́лку.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак. Удзельнікі гульні становяцца папарна, пара за парай, хлопчык з дзяўчынкай. Першая пара павінна прабегчы пад рукамі астатніх пар так, каб іх не затрымалі.

*У гарэ́лку каза́лі, што прагары́ць, каго́ затрыма́юць.* Адэльск.

ГАРЭ'ЛКІ, *у гарэлкі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак. Удзельнікі гульні становяцца парамі. Выбіраецца арганізатар гульні. Ён выступае і кажа: *«Гары́, гары́ ясна, што́бы не пага́сло! За́дняя па́ра ўпяро́д!»* Пасля гэтага задняя пара выбягае ўперад і стараецца перабегчы вызначаную граніцу. Той, хто водзіць, стараецца пару затрымаць. Калі затрымае, ролі мяняюцца. Хлопец ідзе на яго месца вадзіць. *У гарэ́лкі са́ма інцярэ́сная была́ ігра́.* Табольская Будка.

ГО'ЦКІ, *у го́цкі.* Гульня хлопчыкаў. Адзін з хлопчыкаў становіцца, крыху нагнуўшыся, абапіраючыся рукамі на левае калена. Праз яго скачуць іншыя і становяцца далей. Хто не пераскочыць, выбывае з гульні. *Дава́йця бу́дзямо ў го́цкі гуля́ць.* Сухая Даліна.

Г'ЭЙДАЎКІ, *у гэ́йдаўкі.* Тое, што і *ў ву́шалкі. Ашчэ́ мой брат стрэ́чны на гэ́йдаўцы ногу злама́ў, валі́ўса.* Рацічы.

ДЗЫ'ГАЎКІ, *у дзы́гаўкі.* 1. Тое, што і *ў го́цкі. Як ко́ні па́свілі, то ўсе́ ў дзы́гаўкі гуля́лі.* Адэльск. 2. Гульня дзяўчынак, класікі. На гладкай, добра ўтоптанай зямлі рысуюць геаметрычную фігуру, якая складаецца з 8 клетак і заканчваецца канцэнтрычнымі паўкругамі. У кожнай клетцы ставіцца нумар ад 1 да 8. У большым паўкрузе пішацца «рай», у меншым — «пекла». Першая з дзяўчынак кідае чарапок ці бляшаначку ў першую клетку, становіцца на адну нагу і выбівае чарапок. Затым кідае ў другую клетку і выбівае і г. д. У дзвюх паралельных клетках (4 і 5, 8 і 7) можна стаць на абедзве нагі. Калі чарапок пападзе ў паўкруг з надпісам «пекла», то гульня лічыцца прайгранай, калі ў «рай» — то можна гуляць далей. *Як гуля́лі ў дзы́гаўкі, то глядзе́лі, каб шке́лца ў пе́кло ні папало.* Свіслач. 3. Гульня дзяўчынак, пераскокванне праз вяровачку, якую круцяць дзве іншыя дзяўчынкі. *Як ме́ньша была́, то і я ў дзы́гаўкі гуляла.* Адэльск.

ЖМУ'РКІ, *у жму́ркі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, тое, што і *ў ку́ры* (I). Кунцаўшчына. *Зімо́й збярэ́мса ў яку́ю ха́ту і ў жму́ркі гуля́ям.* Зарубічы.

ПЕРАВА'ГА, *у перава́гу.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак. Становяцца адзін да аднаго плячамі, бяруцца пад рукі і пераважваюцца, г. зн. імкнуцца, сагнуўшыся ўпе-

рад, падняць як мага вышэй партнёра па гульні. *У перbegin*вагу гуля́лі, хто каго́ перава́жыць.* Рацічы.

ПЕРАГАНКЕ', *у (на) пераганке́.* Гульня дзяўчынак. Вызначалі *мэту* і беглі навыперадкі, хто першы дабяжыць. *Збяр'эмса, і на пераганке́, хто каго́ пераж'ане́.* Свіслач.

ПРА'ТУШКІ, *у пра́тушкі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, хованкі. Свіслач.

СІ'ГАЛКІ, *у сігалкі.* Гульня дзяўчынак, тое, што і *ў дзы́гаўкі.* 2. Свіслач.

СКАКА'ЛКА, *у скака́лку.* Тое, што і *ў дзы́гаўкі* 3. *Усе́ дзе́ўкі ў скака́лку гуля́лі.* Пяслі.

СТУ'КАЛКА, *у сту́калку.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, тое, што і *ў пераганке́.* *Ляцімо́, гуля́ям у сту́калку, хто жыве́й прыбяжы́ць, прысту́каецца.* Адэльск.

ХАВА'ЛУШКІ, *у хава́лушкі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, хованкі. *Дава́йця, хло́пцы, у хава́лушкі гуля́ць.* Свіслач.

ХАВА'НКІ, *у хава́нкі.* Тое, што і *ў хава́лушкі.* *У хава́нкі гуля́лі, адзі́н ту́ліць, а ўсе́ хава́ліса.* Адэльск.

ХО'ВАНКІ, *у хо́ванкі.* Тое, што і *ў хава́лушкі.* *Хлапчаке́ і дзяўча́тка ўсе́ ў хо́ванкі гуля́лі.* Зарубічы.

ШУ'ГАЎКІ, *у шу́гаўкі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак на арэлях, хто вышэй заляціць. *Я сама́ ў шу́гаўкі любі́ла гуля́ць, шу́гацца.* Свіслач.

## III. Назвы гульняў ад назваў прыстасаванняў або аб'ектаў гульні

Часцей за ўсё назва гульні выступае ў выглядзе спалучэння з дзеясловам *рабіць* ці адпаведнымі дзеясловамі, якія абазначаюць канкрэтныя спосабы падрыхтоўкі аб'екта гульні, паколькі падрыхтоўчы этап з'яўляецца абавязковай часткай самой гульні.

БЛО'НКІ, *у бло́нкі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак са спецыяльна наколатымі лучынкамі, з якіх складваюць розныя фігуры (квадраты, зоркі і г. д.), прырабляюць ручку і ходзяць, спяваючы. *Бло́нак нако́лям і ў бло́нкі гуля́ям, скла́двалі звёзды, хадзі́лі.* Рацічы.

БУЛЬКАВАТКЕ', *у булькаватке́.* Гульня з мыльнымі бурбалкамі. *Як наста́віш на кажу́х бу́лькаваток, штук шэсць-сем, до́ўго дзе́ржацца, угляда́ямса, чыя́ даўж'эй прастаі́ць.* Канюхі.

БУ′ЛЬКАЎКІ, *у бу́лькаўкі.* Тое, што і *ў булькаваткé,* толькі пускаюць на ваду. *Пу́сцім усяля́кіх бу́лькавак і глядзімó, чыя́ ні лóпня, дáлей заплывé.* Адэльск.

БУ′РКАЎКІ, *у бу́ркаўкі.* Гульня хлопчыкаў: у костках (бабках) пракручваюць дзве дзірачкі, працягваюць здвоены шнурок, бяруць за канцы і накручваюць шнурок; пацягваючы і адпускаючы яго, прыводзяць у рух костку, якая круціцца вакол сваёй асі і бурчыць. *Нарóбім бу́ркавак і давáй у бу́ркаўкі гуля́ць, чыя́ мацнéй бурчы́ць.* Адэльск. Варыянт: доўгі шнурок з косткай або гузікам прывязвалі каму-небудзь да хатняга акна і раскручвалі, у выніку чаго ў хаце былі чуваць даволі моцныя таямнічыя гукі. *Прычэ́пяць каму-нібу́дзь бу́ркаўку да акнá і буркацяць, паку́ль хто ні вы́скачыць з хáты, нажанé чóрта.* Адэльск.

ГО′МІЛО, *у гóміло.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, падобная да гульні *ў блóнкі.* Кожны сабе наколвае лучынак і робіць з іх квадратнай формы фігуру, т. зв. *гóміло;* трымаючы за прымацаваную ў выглядзе ручкі лучынку, ходзіць і нараспеў цягне: *«Гóміло, гóміло, упáла бáба з кóміна, а дзед з пéчы, пабíў бабі плéчы». Як малы́я былі, ў гóміло гуля́лі, рабíлі гóміло.* Кунцаўшчына.

ГУ′ШАНІЦА. Забава хлопчыкаў і дзяўчынак на арэлях. *Гу́шаніцу зрóбім сабé на дзéраві і гу́шкаямса, паку́ль хто ні звáліцца.* Зарубічы.

КРУЦЁЛКА. Забава хлопцаў старэйшага ўзросту: умарожвалі ў лёд кол і на яго насаджвалі старое кола ад воза, да якога прымацоўвалі доўгую жэрдку; да канца жэрдкі прывязвалі санкі (т. зв. *сучкі*), а спецыяльнымі каламі раскручвалі кола — патрэбен быў вялікі спрыт, каб уседзець на санках. *Як рабíлі круцёлку, то адзíн хлóпяц, Гайдукóў Кóля, забíўса, упáў і ні кíнуўса.* Лаша.

ПАСВІСЦЁЛ. Забава хлопчыкаў ранняй вясной: зрэзвалі з маладой вярбы галінку, адбівалі кару, здымалі яе і рабілі жалейку ці свісток. *От мóцно свíшча мой пасвісцёл, аш у гушáх звíніць.* Свіслач.

ФУЯ′РКА. Тое, што і *пасвісцёл.* *Зрóбяць хлóпцы фуя́ркі і свíшчуць, як мóгуць.* Гродна.

## IV. Назвы гульняў ад назваў прадметаў, якімі (ці з якімі) гуляюць

БА'БКІ, *у бáбкі.* Гульня хлопчыкаў старэйшага ўзросту. На зямлі адводзілі рыску, на ёй ставілі бабкі (косткі) розных памераў. З адпаведнай адлегласці кідалі ў іх кавалачкам жалеза або скручаным у жмені ланцужком, стараючыся збіць як найбольш бабак, з якіх кожная мела сваю цану. *Як прыéхалі з Расéі, то ўсé ў бáпкі хлóпцы гулялі.* Свіслач.

ВЯРО'ВАЧКА, *у вярóвачку.* 1. Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак з вяровачкай, звычайна са звязанымі канцамі. *Вóзьмяш вярóвачку, насýняш яé на сталé, каб было нéкулькі дзірак, як ні пападзé пáльцам у тýю дзірку, каб задзержáць, то прагуляў.* Зарубічы. 2. Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак з вяровачкай. Станавіліся ў круг, пабраўшыся за вяровачку. Адзін пасярэдзіне круга з завязанымі вачыма стараецца злавіць каго-небудзь з гуляючых, пры гэтым можна ўхіляцца, але нельга адпускаць вяровачку. *Усé трымáюцца за вярóвачку, хóдзяць, ухіляюцца, каб ён ні мог злапáць.* Бакуны.

ГАЛАНЦЫ', *у галанцы́.* Гульня дзяўчынак з каменьчыкамі. Выбіраюць пяць гладкіх, аднолькавых каменьчыкаў, кладуць іх на зямлю або на разасланую вопратку. Пачынае гуляць адна дзяўчынка: бярэ каменьчык (*галанéц*), падкідае яго ўгору і ў гэты момант бярэ з зямлі наступны, стараючыся злавіць падкінуты. Пасля падкідае адзін каменьчык і бярэ з зямлі два, затым бярэ па тры і чатыры. Калі не зловіць, гуляць пачынае наступная дзяўчынка. *У галанцы́ дóўго мóжно гуляць.* Валотынь.

ГАРАДКЕ', *у гарадкé.* Гульня хлопчыкаў старэйшага ўзросту, гарадкі. *Як з бéжанства прыéхалі, то ўсé ў гараткé гулялі, наш Тóлік любіў гуляць.* Свіслач.

ГАРЭ'ХІ, *у гарэ́хі.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак з арэхамі, гулялі зімой, перад калядамі. *Вóзьме ў жмéню гарэ́хаў і пытáя: «Цот ці лішка?» Як ні адгадáя, то аддаé сваé гарэ́хі.* Клінчане. *Вóзьмя гарэ́хаў у рукý і пытáя: «Пáра ці лішка?» Як званé, то забірáя, як ні званé — сваé аддаé.* Пагараны.

**ГЕ'ГІ**, *у гéгі.* Тое, што і *ў галанцы́. Вáля нáтто ш лóўко гуляла ў гéгі.* Кунцаўшчына.

ГОДЗЬ, *у гóдзя.* Гульня хлопчыкаў. Адмервалі адпа-

ведную адлегласць і праводзілі рыску. Перад рыскай клалі плоскі камень, а на яго ставілі меншы — *годзь*. Адзін пільнаваў *гóдзя*, а іншыя, стоячы за рыскай, стараліся папасці ў яго кіем і збіць. Калі хто саб'е *годзя*, то ўсе бягуць па свае кійкі, а той, хто водзіць, стараецца хутчэй паставіць камень на месца і дакрануцца кійком да каго-небудзь з удзельнікаў гульні. Калі гэта яму ўдасца і пры гэтым ён не дасць паўторна збіць пастаўлены камень, то вадзіць пачынае той, да каго ён дакрануўся. *І ціпéр хлóпцы ў гóдзя гуля́юць*. Ліцвінкі.

ГРЭ'ЦКА ПА'ЛКА, *у грэ́цку пáлку*. Гульня хлопчыкаў з дзвюма палкамі. Кожны ўдзельнік меў адну кароткую і адну доўгую палку. Па чарзе кожны падкідаў кароткую палку, а доўгай біў па ёй, каб ляцела як найдалей за вызначаную лінію. Чыя палка не даляціць да лініі, той выбывае з гульні. *З зімы́ ўсе ў грэ́цку пáлку гуля́лі, станóвяцца і б'юць вéлькай пáлкай па малóй, кап даляцéла да ліній*. Клінчане.

ЖО'РЖКІ, *у жóржкі*. Гульня хлопчыкаў, тое, што і *ў бáбкі*. *У Каранéвічах хлóпцы гулялі ў жóршкі на грóшы*. Караневічы.

ЗУ'БАР, *у зу́бара*. Гульня хлопчыкаў з ножыкам. Спачатку мераюцца на кійку, каму першаму кідаць ножык. Затым садзяцца ў круг і пачынаюць кідаць ножык, каб ён астрыём уваткнуўся ў зямлю. Спачатку кідаюць з рукі, потым з двух пальцаў, са сціснутага кулачка, з зубоў, з далоні, з верхняй часткі рукі, з пляча, з локця, з барады, з носа, з ілба, з галавы, з калена, з грудзей. Калі ножык не ўтыкаўся астрыём у зямлю, то пачынаў гуляць наступны ўдзельнік гульні. Прайграўшы павінен быў дастаць забіты ў зямлю калок або гвозд (*зу́бар*). *Заб'юць зу́бара ў зéмлю, а ты даставáй зубáмі, вырэ́зваяш я́мку на нос, бараду́, каб захапíць кóнчык*. Кунцаўшчына.

КАЛЬЦЭ', *у кальцэ́*. Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак. Усе становяцца ў адзін рад і перад сабой трымаюць складзеныя далоні. Вядучы падыходзіць да кожнага, трымаючы ў прыгаршчах пярсцёнак, і робіць выгляд, што кожнаму з удзельнікаў кладзе яго ў далоні, на самай справе непрыкметна апускае пярсцёнак у рукі аднаго з удзельнікаў. Той, хто водзіць, павінен адгадаць, у каго пярсцёнак. *Стáням у рад і трымáям ру́кі, каму палóжыць кальцэ́*. Забагоннікі.

КАЛЯСКО′, *у каляско́*. Гульня хлопчыкаў з невялікім колам на вясковай вуліцы. Дзяліліся на дзве каманды, бралі палкі і станавіліся ў розных канцах вуліцы. Самы спрытны з удзельнікаў браў кола і пускаў яго з усёй сілы па вуліцы ў бок супрацьлеглай каманды, якая старалася затрымаць яго палкамі і пасладь назад. Калі затрымаць не ўдавалася, то каманда адыходзіла на тое месца, дзе спынілася кола. *Збяруцца хлопцы ў каляско́ гуляць, ганя́юць то ў адзін кане́ц, то ў другі.* Канюхі.

КАМЕ′НЬЧЫКІ, *у каме́ньчыкі*. Тое што і *ў галанцы́. Як па́свілі каро́вы, то ў каме́ньчыкі гуля́лі.* Караневічы.

КАМУ′ШЫКІ, *у каму́шыкі*. Тое, што і *ў галанцы́. Назбіра́ям на по́лі і дава́й у каму́шыкі гуля́ць.* Сухая Даліна. *Назбіра́яш такі́х фа́йных каму́шыкаў і но́сіш у кішане́, такія кругленькія, каб гуля́ць у каму́шыкі.* Зарубічы.

КАТАХЕ′, *у катахе́*. Гульня хлопчыкаў з нераскрытымі кветкамі адуванчыкаў. Рвалі са сцябламі галоўкі кветак, садзіліся адзін насупраць другога, адзін трымаў за сцябло каташок, а другі біў па галоўцы такім жа каташком. Хто больш назбівае галовак, той і выйграе. *По́мню, мы ўсе́ на лу́зі ў катахе́ гуля́лі, назбіра́ям і б'ем катахе́.* Кунцаўшчына.

КАЧО′ЛКА, *у качо́лку*. Тое, што і *ў каляско́*, толькі замест кола бралася спецыяльна адпілаваная ад круглай калоды чурачка. *У качо́лку гуля́лі да ўзмо́ру.* Табольская Будка. *Качо́лку кача́лі да ўмо́ру, ле́дво даха́ты прывалачэ́шся.* Караневічы.

КАЧУ′ЛКА, *у качу́лку*. Тое, што і *ў качо́лку. По́йдзям кача́ць качу́лку, хто перамо́жа.* Клінчане.

КЛЁК, *у клёк*. Гульня хлопчыкаў, падобная да гульні *ў го́дзя*. Адмяраюць пэўную адлегласць і ставяць *клёк* (круглую калодачку). З-за лініі па чарзе кідаюць кіямі, стараючыся збіць яе. Пасля таго, як хто-небудзь саб'е калодачку, усе бягуць па свае кійкі. Той, хто водзіць, стараецца хутчэй паставіць калодачку і сказаць: «*Клёк!*» Хто не змог забегчы за лінію, павінен вадзіць. *Я ў клёк натто любіў гуляць — мацi на вячэру кліча ні даклічацца.* Кунцаўшчына.

КО′ЗНЫ, *у ко́зны*. Тое, што і *ў ба́бкі. У ко́зны гуля́лі, як з бе́жанства прые́халі.* Свіслач.

КО′ЦКА, *у ко́цку*. Тое, што і *ў го́дзя*. Клінчане.

КРУГ, *у кру́г*. 1. Тое, што і *ў качо́лку. Пабярэ́м калэ́*

*і давай крух качаць па вуліцы.* Рацічы. 2. Гульня хлопчыкаў са снегам. Пасля адлігі, калі снег лепіцца, качалі снежныя кругі і пускалі з гары, чый далей закоціцца. *Адзін раз крух качалі, скачалі велькі, пусцілі ў пустую студню, то як бухнуло, думалі, што якая бомба разарвалаԍа, так бухнуло.* Рацічы.

КУБА'РКА, *у кубарку.* Тое, што і *ў клёк,* толькі замест калодачкі выкарыстоўваюць пустую бляшанку. Гродна.

ЛАПТА', *у лапту.* Гульня хлопчыкаў з мячыкам і спецыяльнай плоскай палкай *(лаптой),* якой б'юць па мячыку. Падрыхтоўваюць адпаведную пляцоўку і дзеляцца на дзве каманды, звычайна пры гэтым мераюцца на кіёк. Адна каманда застаецца ў «горадзе», а другая ідзе ў «поле», г. зн. вадзіць. Адзін з водзячай каманды падкідае мячык угору, а кожны з ігракоў «гарадской» каманды б'е па ім лаптой, пасля павінен дабегчы да *мэты* (VI) і вярнуцца назад, у «горад». Ігракі з супрацьлеглай каманды стараюцца злавіць мячык і папасці ім у бягучага. Калі гэта ўдасца, каманды мяняюцца месцамі. *Тры разы б'е лаптой, калі не ўдасца —цякае, а той, хто падае, мячыкам стараецца папасць.* Табольская Будка, Бабронікі. *Як ушпарыш лаптой па мячыку, то ляціць мэтраў дваццаць.* Кунцаўшчына. Варыянт: *у бегавую лапту. У Кунцаўшчыні ў бегавую лапту гулялі, а ў нас просто ў лапту казалі.* Рагачы.

МАЛАЧА'Й,*у малачай.* Тое, што і *ў катахе. Пасвячы коней німа чаго рабіць, то давай у малачай гуляць, хто больш заб'е галовак.* Адэльск, Рацічы.

НО'ЖЫК, *у ножык.* Гульня хлопчыкаў з ножыкам, тое, што і *ў зубара. Як коні пасвілі, то ў ножык гулялі: заб'юць гвоздзь у зямлю, а ты дастаеш, выплёўваяш зямлю, а яны сміюцца.* Копанікі.

ПАЛЯ'НТА, *у палянта.* Гульня хлопчыкаў з мячыкам і спецыяльнай плоскай палкай *(палянтай),* падобная да *лапты.* Адрозненні ў тым, што выбіты ігрок выбываў з далейшай гульні, а гульня працягвалася да той пары, пакуль з вядучай каманды не выбывалі ўсе ігракі. *У палянта я і сам гуляў, набегаяшса, ледво ногі валачэш.* Бабронікі.

ПАЛЯ'НТРА, *у палянтра.* Гульня хлопчыкаў з мячыкам і спецыяльнай плоскай палкай *(палянтрай),* падобная да *лапты.* Кожны ўдзельнік гульні павінен мець та-

кую палку, у залежнасці ад свайго росту: ад 50 да 120 см. Сярод удзельнікаў выбіралі двух *«старшых»,* якія маглі моцна біць палкай па мячыку. Дзяліліся на дзве каманды. Перад пачаткам гульні мераліся на палку, чый будзе верх *(«Чыё бу́дзя крулёўство»),* г. зн. якой групе першай біць па мячыку. *«Старшы»* вядучай групы біў па мячыку, яго партнёры павінны былі дабегчы пасля ўдара да *мэты* (VI) і вярнуцца назад. Ігракі водзячай каманды стараліся адбіць мячык палкай, схапіць і папасці ім у каго-небудзь з бягучых ігракоў вядучай каманды. *Міне́ заўсёды выбіра́лі ста́ршым, бо мо́цно біў па мя́чыку, як гуля́лі ў паля́нтра.* Копанікі.

ПАНПІ'НДАР, *у панпіндар.* Тое, што і *ў зу́бара,* толькі замест калка, які забіваюць у зямлю чаранкамі ножыкаў, прымяняўся жалезны цвік *(панпіндар). Ве́даю, што ў нас у не́кі панпі́ндар гуля́лі, заб'ю́ць у зе́млю, а ты зуба́мі дастава́й, выця́гвай.* Адэльск.

ПІ'КАР, *у пікара.* Гульня хлопчыкаў, падобная да гульні *ў клёк,* толькі замест калодачкі ўжываўся завостраны кіёк *(пікар). Гуля́лі ў пікара: паставя́ць кіёк, адме́раюць дзе́сяць шаго́ў і б'юць, кап пікара збіць.* Зарубічы. *У пікара з вясны́ гуля́лі на гаро́дах, паста́вяць кій і збіва́юць.* Адэльск. Варыянт: *у пе́кара. До́бра гульня́ была́ ў пе́кара, набе́гаесса, ле́два даха́ты пры́дзяш.* Кунцаўшчына.

ПЛЯСКА'ЧКА, *у пляска́чку.* Гульня хлопчыкаў з пляскатымі каменьчыкамі, якія падскокваюць на паверхні вады. *Каля Нёмна назбіра́ям камéньчыкаў і дава́й гуля́ць у пляска́чку, чый ка́мень бо́льш адаб'е́цца ад вады́.* Гродна.

СВІ'НКА, *у свінку.* Гульня хлопчыкаў са спецыяльнай калодачкай або мячыкам, пашытым з анучак *(свінкай).* Удзельнікі гульні пасярэдзіне круга капаюць ямку, а вакол яе на аднолькавай адлегласці капае сабе ямачку кожны з удзельнікаў. Мераюцца на калку, каму *«па́свіць»* свінку, г. зн. выганяць з ямкі свінку кійком у поле. Кожны ігрок трымае ў сваёй ямцы кій, стараецца адбіць свінку ад сябе. У гэты час водзячы стараецца заняць чыю-небудзь ямачку — паставіць свой кій на месца другога; калі гэта ўдасца, то яны мяняюцца месцамі ў гульні. *Як хо́чаш удэ́рыць сві́нку, та той у тваю́ я́мачку паста́віць кійка́ і ўжэ́ ты праігра́ў.* Зарубічы. *Хто бу́дзя сві́нку па́свіць?* Канюхі.

ТРАСЦЕ′, *у трасцѐ.* Гульня хлопчыкаў з трасцінамі з бёрда. Адзін хлопчык набіраў у жменю трасцінак з драўлянага бёрда, сціскаў у руцэ, ставіў на стол і разнімаў пальцы. Трасцінкі падалі кучкай на стол. Гульня заключалася ў тым, каб адной трасцінкай, не парушыўшы астатніх, разабраць цэлую кучку. Калі зрушыць іншыя трасцінкі, то азначала, што прайграў. Тады разбіраць браўся другі ўдзельнік гульні. *Во́зьмям трасця́ с старо́го бе́рда і гуля́ям у трасце́, хто каго́ абгуля́я.* Кунцаўшчына.

ЧАРАПКЕ′, *у чарапке́.* Забава дзяўчынак з чарапкамі ад пабітага посуду, якія павінны былі абазначаць сапраўдны посуд. *Набярэ́м чарапко́ў з міса к, палі́ваных збанко́ў і гуля́ям у чарапке́.* Забагоннікі.

ЧЫ′ЖЫК, *у чы́жыка.* Гульня хлопчыкаў з кароткай завостранай з абодвух канцоў палачкай *(чы́жыкам).* На гладкай, утоптанай зямлі чэрцяць квадрат, у яго кладуць чыжык і б'юць па канцы палкай. Чыжык падскоквае, і ў гэты момант па ім стараюцца ўдарыць другі раз так, каб ён заляцеў як мага далей. Водзячы бяжыць за ім і з таго месца, дзе ён упаў, стараецца пацэліць у квадрат. Калі яму гэта ўдасца, ролі ў гульні мяняюцца. *Як зямля́ тро́хі з зімы́ падсо́хня, так і гуля́лі ў чы́жыка.* Кунцаўшчына.

ЧЫНЮ′ТКІ, *у чыню́ткі.* Гульня хлопчыкаў, падобная да гульні *ў бабкі (чыню́тка* — костка з свіной нагі, добра ачышчаная, часта пакрытая лакам). *У чыню́ткі як гуля́лі, то адрысо́ўвалі круг, ста́вілі чыню́ткі, ко́сткі такія, а друго́й збіва́лі.* Зарубічы.

ША′ПКІ, *у ша́пкі.* Гульня хлопчыкаў: адзін садзіўся на зямлю, падкурчыўшы ногі, праз яго па чарзе пераскоквалі астатнія, і кожны, пераскочыўшы, клаў яму на галаву сваю шапку, адну на другую. Хто зваліць шапкі, той займае месца сядзячага. *Як каро́вы па́свілі, то ўсе ў ша́пкі гуля́лі, перадзыга́лі, паку́ль хто ні скіня.* Кунцаўшчына.

ША′ШКІ, *у ша́шкі.* Тое, што і *ў ба́бкі. Як прые́халі з Расе́і, то ў ша́шкі гуля́лі на гро́шы.* Караневічы.

ШКЛЯЧКО′, *у шклячко́.* Тое, што і *ў дзы́гаўкі* 2(II). *Кіняш шклячко́ і наго́й падбіва́яш, каб у пе́кло не папа́ло.* Клінчане.

ШПАНПІ′НДАР, *у шпанпі́ндар.* Тое, што і *ў зу́бара,* толькі замест драўлянага калка, які забіваюць у зямлю

чаранком ножыка, ужываецца спецыяльны жалезны цвічок (*шпанпіндар*). *Шпанпіндар так заб'юць, што і зуба́мі ні захо́піш, прарэ́зваеш я́мачку на нос і бараду́, каб захапі́ць*. Ліцвінкі.

Я'РКІ, *у яркі*. Тое, што і *ў свінку*. *Збярэ́мса на чыім гаро́дзі і дава́й у я́ркі гуля́ць*. Пяслі.

## V. Назвы гульняў з няяснай матывацыяй

АДМІРА'Л, *у адміра́ла*. Гульня хлопчыкаў, падобная да гульні *ў го́цкі* (II). На зямлі праводзіцца лінія. Адзін з удзельнікаў становіцца побач з лініяй, крыху нагнуўшыся, абапіраючыся рукамі на левае калена, астатнія пераскокваюць цераз яго. Затым ён адыходзіць на адзін крок ад лініі, прымае ранейшую паставу і ўсе скачуць цераз яго. Потым адыходзіць на два крокі, на тры і г. д. Калі хто наступіць, скачучы, на лінію або не здолее пераскочыць, то займае месца водзячага. *У адміра́ла ця́жко было́ гуля́ць, як малы́ ні перадзы́гне, му́сіць уве́сь час стая́ць*. Гродна.

Відаць, збліжэнне са словам *адміра́л* мае другасны характар, першапачатковая назва паходзіла ад дзеяслова *адмяра́ць*, г. зн. адмерваць крокамі дыстанцыю ад лініі, параўн. наступную назву.

АДМЯРНЫ', *у адмярно́го*. Тое, што і *ў адміра́ла*. Каўбасіно.

ГАЎС (?), *у гаўса́*. Гульня хлопчыкаў, падобная да гульні *ў чыжыка* (I). Водзячы стаіць тварам да сцяны, залажыўшы рукі назад; да яго падыходзіць адзін з астатніх удзельнікаў гульні, стукае па руках і хутка адыходзіць на сваё месца. Калі водзячы пазнае таго, хто стукнуў, то апошні займае яго месца. *Як пачнуць гуляць у гаўса́, чысто ру́кі зб'юць, паку́ль пазна́я, хто біў*. Зарубічы.

Няясна; магчыма, звязана з *гавёс* 'авёс' праз выраз тыпу *даць гаўса́*, як *даць ка́шы* і пад., г. зн. моцна пабіць.

ДУБ, *у ду́ба*. Тое, што і *ў чыжыка* (I) або *ў гаўса́*, толькі звычайна водзячы станавіўся тварам да дрэва. *Як пачну́ць у ду́ба гуля́ць, то ніка́торы аш пла́ча, так наб'юць*. Кунцаўшчына.

Хутчэй за ўсё другаснае збліжэнне з назвай дрэва, параўн. іншыя назвы гэтай гульні: *дубняк, дупняк* і пад.

ДУБНЯ'К, *у дубняка́.* Тое, што і *ў дуба. У дубняка́ як гуля́юць, то чы́сто аднаго́ каго́ стрэ́плюць.* Канюхі.

ДУПНЯ'К, *у дупняка́.* Тое, што і *ў ду́ба. У нас старэ́йшыя хло́пцы ў дупняка́ гуля́лі, наб'юць, хадзіць ні мо́жаш.* Бакуны.

Хутчэй за ўсё адаптаваны паланізм, словаўтварэнне, магчыма, пад уплывам *kopniak* 'удар нагой'.

КАЗЁЛ, *у казла́.* Тое, што і *ў галанцы́* (IV). Табольская Будка.

КАПУ'СТА, *у капу́сту.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, у якой дзеючымі асобамі выступаюць чорт, дачка і маці. *Збярэмся да каго ў хату і дава́й у капу́сту гуля́ць, вы́бярам чо́рта, дачку́ і адну́ за ма́ці і гуля́ям.* Канюхі.

КА'ЧКА, *у ка́чку.* Тое, што і *ў пляска́чку* (IV). *По́йдзям да Свіслачы, назбіра́ям пло́скіх каме́ньчыкаў і дава́й у ка́чку гуля́ць, чый каме́ньчык больш адаб'е́цца ад вады́, патско́чыць.* Ліцвінкі.

У аснове пераносу назвы хутчэй за ўсё вобраз ныраючай качкі. Магчыма ўтварэнне назвы шляхам адсячэння першай часткі ў назве *пляскачка.*

КРА'СНА ПА'ЛАЧКА, *у кра́сну пала́чку.* Тое, што і *ў хо́ванкі* (II). *Была́ мало́й, то і я́ ў кра́сну па́лачку гуля́ла.* Табольская Будка.

Назва гульні адлюстроўвае выкарыстанне для «застуквання» спецыяльнай палачкі, параўн. *па́лачка-стука́лачка* і інш., якая цяпер у гульні не ўжываецца. Назва рэаліі захавалася ў лічылцы: «*Кра́сна па́лачка прышла́, нікаго́ до́ма ні знайшла́...*»

КРА'СНАЕ, *у кра́снае.* Тое, што і *ў хо́ванкі* (II). Канюхі.

Назва ўзнікла на базе папярэдняй назвы ў выніку дээтымалагізацыі, паколькі страчана сама абазначаемая рэалія.

КРА'ТКА ПА'ЛАЧКА, *у кра́тку па́лачку.* Тое, што і *ў хованкі* (II). *Пад ве́чар ззы́дуцца і ў кра́тку па́лачку гуля́юць.* Ліцвінкі.

Магчыма, пераасэнсаванне назвы *кра́сна па́лачка* пад уплывам дзеяслова *крата́ць,* тут 'датыкаць, датыкацца'.

ПАТА'ПКІ, *у пата́пкі.* Тое, што і *ў бэ́рка* (I). *Асно́ўная гульня́ ў пата́пкі — бегатня́.* Гродна, Каўбасіно.

Як паказвае іншая назва гэтай гульні *(бэрко),* у аснове намінацыі сувязь з уласным імем Патап; матыва-

цыя ў гэтым выпадку грунтуецца часцей за ўсё на нейкай вершаванай дражнілцы, параўн. назву гульні *«ў ананаса»* і вядомую прыгаворку пра Ананаса (гл. Дзіцячы фальклор. Мінск, 1972, с. 432).

СЛЯПО'Е ВО'КО, *у сляпое вока.* Гульня, падобная да гульні *ў пляскачку* (IV) або *ў качку.* Калі каменьчык не адбіўся ад паверхні вады і адразу пайшоў на дно, то казалі: *«Зрабіў сляпое вока».* Хто больш нарабіў «сляпых вачэй», той прайграваў. *Бывало, і добры каменьчык, а зробіць сляпое вока.* Гродна.

У аснове намінацыі *вока* 'ачко ў гульні', тады *сляпое вока* 'пустое, г. зн. прайгранае ачко'.

СЭ'РСО, *у сэрсо.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак з абручыкамі, якія рабілі з лазы. Здзіралі кару з лазы, каб абручыкі былі белымі, добра прыкметнымі. З лазы рабілі таксама кіёчкі. Удзельнікі дзяліліся на дзве каманды, што выстройваліся на пэўнай адлегласці адна насупраць другой, і кідалі абручыкі, якія патрэбна было злавіць на кіёчак. Калі абручык падаў на зямлю, лічыўся пройгрыш. Хто больш прапусціць абручыкаў, той прайграў. *Збярэмса каля Каложы і давай у сэрсо гуляць; абручыкі прадаваліса, але грошай ні было купіць, то давай рабіць з лазы і гуляць.* Гродна.

Як відаць з ілюстрацыі, назва хутчэй за ўсё немясцовага паходжання, як і сама гульня.

ЧАХАРДА', *у чахарду.* 1. Тое, што і *ў гоцкі* (II). *Ведаю, што хлопцы ў некую чахарду гулялі, перадзыгалі, а як, ні бачыла.* Свіслач. 2. Тое, што і *ў чыжыка* (I). *У чахарду як гулялі, то моцно наб'юць руку, аж спухня.* Скамарошкі.

У першым значэнні назва, відаць, запазычана з рускай мовы; у другім, магчыма, перанос з іншай гульні ў выніку страты матывацыі.

ЧЫКІРДА', *у чыкірду.* Тое, што і *ў пляскачку* (IV) або *сляпое вока. Бывало, пойдзям на рэчку і давай гуляць у чыкірду, чый каменьчык даляй заляціць.* Сухая Даліна.

Назва перанесена з іншай гульні хутчэй за ўсё з элементамі пераскоквання.

ШПІЛЯВО'НЧЫК, *у шпілявончыка.* Гульня, падобная да гульні *ў кальцэ* (IV). Вядучы браў гузік або бульбачку, падыходзіў да кожнага з удзельнікаў гульні, укладваючы свае рукі ў яго далоні, а аднаму з іх не-

прыкметна клаў прадмет, кожны раз кажучы пры гэтым: *«Шпілю, шпілю, шпілявóнчыку, тамý дам, што на кóнчыку, а ты, дзет, пазірáй, камý хóчаш, тамý дай».* Водзячы *(дзед)* стаяў і назіраў, а пасля адгадваў, у чыіх руках знаходзіцца схаваны прадмет. *Зімóй збярэ́мся дзе-нібýдзь у хáту і ў шпілявóнчыка сабе гуля́ям.* Рацічы.

Назва паходзіць, несумненна, з вершаванай прыгаворкі, часткова дэфармаванай; пачатак яе нагадвае зварот: «Спі, Лявончыку...»

Я'ВАР, *у я́вар.* Гульня хлопчыкаў і дзяўчынак, падобная да гульні *ў гарэ́лкі* (I). Удзельнікі гульні станавіліся пара за парай, хлопчык з дзяўчынкай. Вядучы звяртаўся да ўсіх з запытаннем: *«Я́вар, я́вар, яварóве, лю́дзі, цо вы тут рóбіце?»* Яму адказвалі хорам: *«Будýемы мóсты для пáна старóсты. Ты́сяну кóні пшэпушчáмы, а еднóго затшымáмы».* Пасля гэтага пара за парай праходзілі пад рукамі астатніх пар, а аднаго каго-небудзь затрымлівалі. *Я дóбро пóмню, як самá гуля́ла ў я́вар.* Забагоннікі.

Матывацыя няясная, відаць, не звязана з назвай дрэва або гэтая сувязь мае другасны характар, аднак характэрна, што такая назва гульні фіксуецца ў заходніх раёнах Беларусі (Дзіцячы фальклор. Мінск, 1972, с. 687). Звяртае на сябе ўвагу іншы варыянт пачатку пытання, запісаны там жа: *«Хáвар, хáвар, хаварóве...»*

## VI. Назвы, звязаныя з арганізацыяй і правядзеннем гульняў

АЧО'К *м.* Ачко, адзінка падліку ў некаторых гульнях. *Як ні злóвіць мя́чык, то яму штрафны́ ачóк запісваюць.* Канюхі.

БА'БА *ж.* Адзін з прыёмаў кідання сцізорыка пры гульні *ў нóжык* (IV) з верхняй часткі далоні. *Бáба ні заўсёды ўдавáлася, чáсам і ні кіняш.* Кунцаўшчына.

БА'НДА *ж.* Адна з каманд, якія ўдзельнічаюць у гульні. *Главáр пéршай бáнды мацнéй пускáя качóлку.* Копанікі.

БРА'ЦЦА ЗА КІЯ'. Мерацца за кіёк; брацца па чарзе рукамі, каб вызначыць, каму выпадзе вадзіць або выконваць вядучую ролю ў гульні. *Давáйця брáцца за кія́, чый бýдзя верх.* Клінчане.

ВА'ДЗІЦЬ *незак.* Вадзіць, у час гульні выконваць

самыя цяжкія абавязкі. *Давайця мерацца за кіёк, каму вадзіць.* Рагачы, Луцкаўляны.

ГЛАВА′Р *м.* Старшы, якога выбіралі перад гульнёй удзельнікі кожнай каманды са свайго склада. *Міне заўсёды главаром выбіралі, бо моцно бегаў і далёко кідаў качолку.* Копанікі.

ГНІЦЬ *незак.* Пра стан прайграўшых у заключнай формуле, якая гаварылася ў канцы гульні: *«Гэтыя будуць здаравець, а гэтыя будуць гніць».* Гаркавічы.

ГОСЦЬ *м.* Тое, што і *зубар* (IV); драўляны шпянёк, які забівалі ручкай ножыка ў зямлю. *Госць — гэта што зубамі выцягваяш з зямлі.* Рацічы.

ДЗЕД *м.* Адзін з прыёмаў кідання сцізорыка пры гульні *ў ножык* (IV) з далоні. *Дзет самы лёхкі, з далоні сама добро кідаць.* Каўбасіно.

ДЫ′РА *ж.* Костка пры гульні *ў шашкі* (IV), калі ўпадзе на зямлю бокам, у якім пракручана дзірка. *Дыра — калі ўпадзе бокам з дзіркай, наймbelieve выігрываў тады.* Караневічы.

ЖОХ *м.* Костка пры гульні *ў шашкі* (IV), якая ўпала на зямлю ўвагнутым бокам. *За жох выігрывалі меньш грошай, як за лоц.* Караневічы.

ЗАКАВА′ЦЬ *зак.* Застукаць; пры гульні *ў хованкі* (II), знайсці каго-небудзь з удзельнікаў гульні, дабегчы да «кону», застукаць рукой, сказаўшы, напрыклад: *«Раз, два, тры! Выходзь, я цібе ўжэ закаваў».* Рацічы.

ЗДАРАВЕ′ЦЬ *незак.* Пра стан выйграўшых у заключнай формуле, якая гаварылася ў канцы гульні: *Гэтыя будуць здаравець, а гэтыя будуць гніць.* Гаркавічы.

КАНА′ЦЦА *незак.* Тое, што і *брацца за кія. Давай канацца, каму будзя крыць.* Канюхі.

КОЛ *м.* Тое, што і *госць. Кожны б'е па тры разы, заб'юць кол, а ты даставай.* Гродна.

КОН *м.* Галоўнае месца дзеяння на пляцоўцы, на якім стаяць удзельнікі гульні. *З кона ні ззыдзяш, трэбо стаяць, пакуль б'юць мячык.* Лаша.

КРЫЦЬ *незак.* Вадзіць, выконваць самыя цяжкія абавязкі звычайна пры гульні *ў хованкі* (II). *Давайця вызначым, каму крыць.* Скамарошкі.

ЛЁСЫ *мн.* У выразе: *лёсы на кій мерацца* — тое, што і *брацца за кія. Давайця лёсы на кій мерацца, каму шукаць.* Пагараны.

ЛОЦ *м.* Костка пры гульні *ў шашкі* (IV), якая ўпала на зямлю выпуклым бокам. *За лоц больш выігрывалі грошай.* Караневічы.

МА'ТКА *ж.* Адзін з капітанаў дзвюх каманд, выбраны перад пачаткам дзялення на каманды. *Згаварваюцца парамі, ідуць да маткі і пытаюцца: «Яблыко ці груша?»* Гродна.

МЕ'РАЦЦА НА КІЁК. Тое, што і *брацца за кія. Будзям мерацца на кіёк, каму вадзіць.* Луцкаўляны.

МЕ'РАЦЬ ЛЁСЫ НА КІЙ. Гл. *лёсы.*

МЭТА *ж.* Месца, прадмет, лінія ці іншы ўмоўны арыенцір, да якога трэба дабегчы пры некаторых рухомых гульнях. *Я перша была на мэці, бо моцно бегла.* Гаркавічы.

НАВА'РКА *ж.* Адзін з прыёмаў кідання скручаным ланцужком пры гульні *ў шашкі* (IV). *Скруціш у жмені ланцужок і ў наварку кідаяш, каб больш збіць.* Караневічы.

НАКІ'ДКА *ж.* Адзін з прыёмаў кідання скручаным ланцужком пры гульні *ў шашкі* (IV). *У накідку больш шашак зб'еш, як косткай.* Рацічы.

ПЕРАДАВЫ' *прым.* Вядучы, за якога трымаюцца іншыя ўдзельнікі гульні *ў каршуна* (I). *Перадавы пытая: «Нашто ямачку рыяш?»* Свіслач.

ПРЫБІ'ТЫ *дзеепрым.* Застуканы пры гульні *ў хованкі* (II). *Прыбіты ўжэ і ўсё табе, як угледзяў.* Канюхі.

ПСТРЫ'ЦА *ж.* Адзін з прыёмаў кідання сцізорыка пры гульні *ў ножык* (IV), трымаючы пальцамі за канец астрыя. *Давай пстрыцу кідай жывей.* Гродна.

РАСКАВА'ЦЬ *зак.* Прыбегчы першым на «кон» пры гульні *ў хованкі* (II), сказаць «Раз, два, тры!» і назваць імёны раней застуканых, што дае ім права зноў прымаць удзел у гульні. *Часамі адзін тулько застанецца і ўсіх раскуе.* Рацічы.

ТУ'ЛІЦЬ *незак.* Вадзіць пры гульні *ў хованкі* (II), крыць. *Хто туліць будзя?* Канюхі.

*Г. В. Параскевіч*

# АКАЗІЯНАЛЬНАЯ НАЗОЎНІКАВАЯ ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКІХ ПРЫКАЗАК

Пераважная большасць слоў, якія ўжываюцца ў прыказках,— гэта звычайная, пашыраная зараз у агульнанародным ужытку (узуальная) лексіка. Але даследчыкі мовы беларускіх прыказак адзначаюць даволі вялікую колькасць слоў, якія ўжываюцца толькі ў прыказках і ўтварыліся разам з прыказкамі і для прыказак.

У лінгвістыцы няма адзінага тэрміна для абазначэння такіх слоў, хаця ў апошні час усё часцей і часцей у адрозненне ад узуальнай лексікі іх называюць аказіянальнымі словамі, ці аказіяналізмамі. Адрозніваюцца яны ад узуальных тым, што з'яўляюцца фактам маўлення, а не мовы. Акрамя гэтага, яны не маюць рэгулярнай узнаўляльнасці, не звязаны сістэмнымі адносінамі з узуальнай лексікай, не прайшлі адбору.

У прыказках аказіянальныя словы ўзнікаюць або ў выніку імкнення надаць экспрэсію ці асаблівыя паняцці, для выражэння якіх у мове няма спецыяльных слоў, або ў выніку імкнення ажывіць звычайныя паняцці, зрабіць іх знешне незвычайнымі і ўражлівымі.

Выяўленне і даследаванне гэтай лексікі з'яўляецца, безумоўна, актуальнай задачай. З яе дапамогай можна пранікнуць у «словаўтваральную лабараторыю» беларускага маўлення. Акрамя таго, яна можа быць каштоўнай пры параўнальным вывучэнні лексічных сістэм славянскіх моў.

АДДА'НКА *ж.* Аддача. *Пазычка — добра, але аддачка — кепска* (Янк., 249).

АДПАВЯДА'ННЕ *н.* Адказ. *На харошае запытанне харошае і адпавяданне* (Нас., 90).

АКРА'Й *м.* Акраец. *Той добры край, дзе хлеба акрай* (Янк., 259).

БЕДАВА'ЛЬНІК *м.* Той, хто толькі спачувае, а не дапамагае. *Бедавальнікаў многа, а ратавальнікаў мала* (Янк., 86).

БЛАГАТА' *ж.* Благія людзі. *Добраму чалавечку добра і ў запечку, а благаце блага і на куце* (Янк., 88).

БУ'ДЗЬКА *м.* Той, хто будзіць. *Будзька набудзіцца, а хвалька нахваліцца* (Нас., 9).

БУЙНО'СЦЬ *ж.* Буянства. *Маладосць — буйносць* (Нас., 79).

БУ'КІ *мн.* Няпэўная будучыня. *Гэта яшчэ букі* (Нас., 23).

БЯСПА'НШЧЫНА *ж.* Безуладдзе, адсутнасць гаспадара. *У бяспаншчыне ўсякі сабе пан* (Нас., 19).

ВІ'ТА *ж.* Прывітанне, вітанне. *Віта вітаці, ды нечага даці* (Нас., 14).

ВІХЛЯ'ЙСТВА *н.* Гультаяванне, нядбайныя адносіны да справы. *Віхляйства губіць хаяйства* (Нас., 14).

ВЫ'ВАЛАКА *ж.* Цяжкі вынік у хваробе (Нас., 21).

ВЫСАКО'СЦЬ *ж.* Найвышэйшае прызначэнне. *Зваліўшыся з высакосці, часам паламаеш свае косці* (Нас., 48).

ГАГАТА' *ж.* Гусі. *Марцін святы, губіцель гагаты* (Ляц., 20).

ГАЛІТА' *ж.* Галота. *Голь галіта голлю паліта* (Нас., 26).

ГАРО'ЎЛЯ *ж.* Гараванне. *Каму шанцуе на гадоўлю, а каму — на гароўлю* (Янк., 228).

ГРЭ'ШАННЕ *н.* Грэх. *Няведанне — не грэшанне* (Янк., 247).

ДАМО'ВА *ж.* Гаспадарка. *Дурная тая дамова, дзе вала́ бадзе карова* (Нас., 39).

ДУРАВА'ННЕ *н.* Дурнота, дурасць. *Лішняе мудраванне — дураванне* (Нас., 73).

ЖА'ЛАСНІК *м.* Спачувальнік. *У бядзе жаласнікаў многа, ды памагачоў нікога* (Нас., 19).

ЗНА'ЙКА *м.* і *ж.* Дасведчаны, вопытны чалавек. *Знайка бяжыць, а нязнайка ляжыць* (Нас., 50).

ЗНА'ЦЬ *ж.* Блізкія сябры, знаёмыя (Янк., 532). *У знаці, як у роднай маці* (Янк., 93).

ІЛЬНЯНІ'НКА *ж.* Ільняное палатно. *Пасканінка зберагае ільнянінку* (Янк., 249).

КА'ЯНКА *ж.* Каянне. *Каянка будзе, а паваротки не будзе* (Янк., 228).

КРЫВО'ТА *ж.* Крыўда. *Цяснота не крывота* (Янк., 94).

КУСА'ЙЛА *н.* Кусанне. *На адно кусайла па тры сярбайлы* (Нас., 86).

ЛА'ЙКА *ж.* Лаянка. *Лайка не нагайка, на плячах не ляжыць* (Нас., 72).

ЛА'САЎКА *ж.* Ласуння, ласуха. *Спасаўка — ласаўка, а пятроўка — галадоўка* (Янк., 118).

ЛЕ'ЖАНКА *м.* і *ж.* Распешчанае дзіця. *Лежанка ляжыць, а долька спіць* (Нас., 73).

ЛЯТА'НЕЙКА *ж.* Лятанне. *Знаць сакала па лятанейку* (Янк., 189).

МО'ЧА *ж.* Макрата. *Хутчэй моча вымачыць, чым суша высушыць* (Янк., 123).

НА'ЙМЯ *н.* Імя. *У людзей завуць Анання, а ў двары няма яму такога наймя* (Нас., 168).

НАСІ'Л *м.* Насілле. *З насілу людзі разжываюцца. З насілу ніхто не служыць* (Нас., 52).

НЕДАСУ'ХА *ж.* Недасушанасць. *Перасуха ў недасухі сена пазычае* (Янк., 113).

НЕ'ТКА *м.* і *ж.* Той, хто нікому нічога не дасць. *У скупкі пазычыш, а ў неткі ніколі* (Рап., 157).

НЕХАПА'НКА *ж.* Недахоп. *Нехапанка на Іванка* (Ляц., 28).

НЯЗНА'ЙКА *м.* і *ж.* Недасведчаны, нявопытны чалавек. *Знайка бяжыць, а нязнайка ляжыць* (Нас., 50).

НЯМЫ'ЦЬКА *м.* і *ж.* Мурза. *Нямыцькі гарады дзержуць* (Нас., 100).

НЯСТА'ТАК *м.* Нястача. *Прыйшоў нястатак, забраў астатак* (Янк., 62).

НЯЎМЕ'ЛЬКА *м.* і *ж.* Няўмека, няўмелы. *І няўмелька пяе, калі голасу стае* (Нас., 56); *Як мукі сцячэ, дык і няўмелька спячэ* (Янк., 124).

ПАБРАЗГАЧЫ' *мн.* Металічныя грошы. *Як не маеш пабразгачоў, дык няма і паслугачоў, а як маеш пабразгачы, тады будуць і паслугачы* (Жд., 170).

ПАГЛЯ'ДАК *м.* Заглядзенне, любата. *У нас статак — на паглядак* (Янк., 41).

ПАЕ'Д *м.* Паяданне. *Куплены хлеб да пагляду, а не да паеду* (Янк., 57).

ПАКУ'ШКА *ж.* Паспытанне. *За пакушку б'юць у макушку* (Нас., 46).

ПАЛАВІ′ЦА *ж.* Палавіна. *Грамніца — зімы палавіца* (Янк., 100).

ПАМАГА′ЧЫЯ *мн.* Памагатыя. *Дзе прыбыль, там памагачых гібель* (Нас., 23).

ПАМАГАЧЫ′ *мн.* Памагатыя. *На гатовае памагачы будуць (знойдуцца)* (Янк., 236). *У бядзе жаласнікаў многа, ды памагачоў нікога* (Нас., 19).

ПАМАЎЧА′НКА *ж.* Маўчанне. *Памаўчанка не пушыць, усё ліха патушыць* (Янк., 91).

ПАНЯ′ТКА *м.* Панок. *Першае дзіцятка — панятка* (Янк., 146).

ПАСКАНІ′НКА *ж.* Зрэбнае палатно. *Пасканінка зберагае ільнянінку* (Янк., 249).

ПАСТУШЫ′ЦА *ж.* Пастушка. *Шукае цар царыцы, а пастух пастушыцы* (Янк., 95).

ПАСУ′Л *м.* Першая цана, якую прапануюць за пакупку (Нас., 46). *За пасул гневу няма* (Нас., 46).

ПАЦЯГУ′ШКІ *мн.* Пацягванне. *На ката пацягушкі, а на дзіця растушкі* (Нас., 85).

ПЕРАСУ′ХА *ж.* Перасушка. *Перасуха ў недасухі сена пазычае* (Янк., 113).

ПЕ′ЧАНЬ *ж.* Печыва. *Не з добрай мукі печань* (Нас., 98).

ПІЯ′К *м.* П'яніца. *І на піяка бог пашле траяка* (Нас., 56).

ПРЫГЛЯ′ДНІК *м.* Наглядчык. *Дзе прыглядніхаў многа, там поспеху мала* (Нас., 28).

ПРЫТУЛЯ′ННЕ *н.* Прытульванне. *Няма кахання без прытулянне* (Янк., 144).

РАБАТЭ′ЎШ *м.* Работнік. *Наш Тадэўш — які ядэўш, такі рабатэўш* (Янк., 108).

РАЗГАНІ′ХА *ж.* Тое, што вымушае разыходзіцца. *Каша — разганіха наша* (Нас., 60).

РАСТУ′ШКІ *мн.* Рост. *На ката пацягушкі, а на дзіця растушкі* (Нас., 85).

СКВА′Р *м.* Гарачыня. *Стар любіць сквар, а молад любіць холад* (Янк., 159).

СКУ′ПКА *м.* і *ж.* Скупы чалавек. *У скупкі пазычыш, а ў неткі ніколі* (Рап., 157).

СПО′РНІЦА *ж.* Тая, што любіць спрачацца. *Наша горніца з богам не спорніца* (Нас., 90).

ТАНЦО′ЎКА *ж.* Танцорка, танцоўшчыца. *Дурной танцоўцы і хвартух завада* (Нас., 39).

ТАРМАСА′ *ж.* Валтузня, важданіна, тармашэнне. *Па гэтай тармасе разыдземся ўсе* (Янк., 248).

ТУЖБА′ *ж.* Смутак, журба, маркота. *Служба — тужба* (Янк., 63).

ТЫ′КАВЕЦ *м.* Той, хто спіхвае клопат на другога. *Дзе жывуць тыкайцы, там і бог адступіўся, а дзе якайцы, там і бог жыве* (Рам., 293).

УМЕ′ЕНКА *ж.* Уменне, здатнасць, кемлівасць. *Умеенкі ніхто за плячыма не носіць* (Янк., 120).

УПА′Р *м.* Упартасць. *На ўпар лекаў няма* (Янк., 237).

ХА′МСТВА *н.* Нізкае саслоўе. *Не дай бог, хто з хамства пападзе ў панства* (Нас., 96).

ХІЖА′ *ж.* Спрытная жанчына. *Наша хіжа дужа рана ўсходзілася каля крыжа* (Нас., 90).

ХУ′ДА *н.* Зло, няшчасце, нястача. *Не відаўшы худа, не відаць і дабра* (Нас., 94).

ЦЯПЛО′СЦЬ *ж.* Цеплыня. *Ад цяплосці не баляць косці* (Янк., 96).

ЧУБА′ЙКА *ж.* Чуб, чупрына (Нас., 70). *Кулік чайку ўзяў за чубайку* (Нас., 70).

ШТО′ЦЬКА *займ.* Нешта. *Прышоў Хтоцкі, ухапіў штоцька: бяжы ды лаві* (Ляц., 36).

ЯДЭ′ЎШ *м.* Ядок. *Наш Тадэўш — які ядэўш, такі рабатэўш* (Янк., 180).

Я′КАВЕЦ *м.* Той, хто робіць сам. *Дзе жывуць тыкайцы, там і бог адступіўся, а дзе якайцы, там і бог жыве* (Рам., 293).

## Прынятыя скарачэнні

Жд. — Жыдовіч М. А. Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Мінск, 1970; Ляц.— Ляцкий Е. А. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. I. Пословицы, поговорки, загадки. М., 1898; Нас. — Носович И. И. Сборник белорусских пословиц. Сборник отделения русского языка и словесности имп. Академии наук, т. 12. СПб., 1875; Рам.— Романов Е. Белорусский сборник, вып 1 и 2. Киев, 1885; Рап.— Рапановіч. Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі. Мінск, 1958; Янк.— Янкоўскі Ф. Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выд. 2. Мінск, 1962.

Лічба ўказвае на старонку выдання, адкуль узята прыказка.

*І. Б. Мятліцкая*

# ПАЛАНІЗМЫ Ў ГАВОРЦЫ ВЁСКІ ПЕРАВОЗНІКІ АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА

Беларуска-польскае моўнае сумежжа прыцягвае зараз увагу многіх беларускіх лінгвістаў. Праблемы інтэрферэнцыі вывучаюцца як з гістарычнага, так і з фактычнага боку. Мала даследаваны пакуль што ўзаемаўплыў польскай мовы і беларускіх гаворак.

Адным з рэгіёнаў інтэнсіўных кантактаў польскай мовы і беларускіх гаворак з'яўляецца паўночны захад Беларусі. Гістарычныя абставіны склаліся так, што з XIV ст. на гаворкі гэтай зоны польская мова аказвала самы непасрэдны ўплыў.

Канкрэтнае даследаванне беларуска-польскай інтэрферэнцыі намі праведзена ў в. Перавознікі Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Вывучаўся, у прыватнасці, лексічны ўплыў польскай мовы на гаворку вёскі. Сабраны матэрыял паказвае, што лексіку, якая замацавалася ў гаворцы ў выніку ўплыву польскай мовы, можна падзяліць на тры групы: словы, якія прыйшлі непасрэдна з польскай мовы; словы, якія запазычаны праз польскую мову з іншых моў, і рэгіянальныя беларускія словы, якія ўтвораны на базе польскай лексікі.

У артыкуле змяшчаюцца зафіксаваныя ў гаворцы словы, якія звязаны з уплывам на яе польскай мовы і іншых моў, але праз польскае пасрэдніцтва. Малаўжывальныя ў гаворцы словы падаюцца з паметай *рэдк*. Лексічны матэрыял размяшчаецца ў дзвюх падборках. У першую падборку ўключаны словы, якія зафіксаваны слоўнікам літаратурнай мовы, а таксама слоўнікамі дыялектнай лексікі з гэтага рэгіёна. Другую падборку складаюць словы, якія яшчэ не адзначаліся. Яны пададзены ў выглядзе слоўніка.

*Аблямо́ўка, аге́нт, а́граст (агрэст), аптэ́ка, апэ́тыт*

(апетыт), *атрама́нт рэдк., афя́ра* (ахвяра), *бля́ха, брук, бура́к, бы́дла, відэ́лец, вільгаць, вінда, га́нак, га́ньба, гарнітур, гвалт, жабра́к, згва́лціць, зімна, злоты, інтэ́рас, кавалёр, калёш* (галёш), *каляндар, камізэ́лька, капту́р, карэ́та, каталік, каўнёр, кветок, кілбаса́, коўдра, кра́ма, кра́та рэдк., крыж, крэ́йда, крэ́ўны, ксёндз, ку́ля, ку́фар, ланцу́г, лейцы, ля́мпа, млын, нырка, пакаштава́не* (каштаваць) *рэдк., паліту́ра рэдк., панчо́ха, пара́фія, парфу́ма, парэ́нчы, патэ́льня, па́церка, пляц, по́мпа, пу́шка, разы́нка, рату́нак, руды́, рэ́цэпт, сакрата́р, сакрэ́т, сала́та, салетра, сланіна, стос, су́кня, талерка, труна́, турма́, фа́лда, фальва́рк, фальш, фа́рба, флянс, фунда́мант* (фундамент), *фу́рман, фу́тра, фэст, цыра́та, цэ́бар, цэ́гла, ша́фа, шкарпэ́тка, шлейка, шля́хта, шпалеры, шуфля́да, экза́ман* (экзамен), *ядва́бны.* Гл. «Беларуска-рускі слоўнік». М., 1962.

*Жагна́цца, квя́та, коц, лупа́, мото́цык, му́сі, наўле́чка, цвек, шляг рэдк.* Гл. «Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак». Мн., 1970.

*Кялішак, ма́рац, таксу́фка.* Гл. П. У. Сцяцко «Народная лексіка і словаўтварэнне». Мн., 1972.

*Абса́ц, жа́дны рэдк., кае́т, лінка, натыхмя́ст рэдк., нігды, прэ́нтка, рок, фа́йны.* Гл. П. У. Сцяцко «Дыялектны слоўнік (з гаворак Зельвеншчыны)». Мн., 1970.

*Бада́ць рэдк., во́рак, зага́рак, кана́па, на́рты, ро́вар, свэ́тар.* Гл. Т. Ф. Сцяшковіч «Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР». Гродна, 1959.

*Адвэнт, аліва, бавэ́лна, барэ́т, ванго́р, васэ́ле, гвя́зда, дзевятна́сця, лэб, малявідла, мы́дла, па́льта, раба́к, са́дла, сарвэ́та, склеп, тэж, фа́лі, чва́рты.* Гл.Т. Ф. Сцяшковіч «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці». Мн., 1972.

АБМАНДАЖАВА'ЦЬ *зак., рэдк.* Забінтаваць. *У Яські рука абмандажавана, ён абдзёр яе цвяком.*

АБРО'НЧКА *ж., рэдк.* Абручальны пярсцёнак. *Маладыя паехалі купляць абронччкі, будзя васэля ў нядзелю.*

АДЗЯ'Л *м., рэдк.* Клас. *Цяпер дзень у дзень матка яе ў школу гоня, яна ў трэцім адзяле ўчыцца.*

АСУСТЭ'НТ, АСУСТЭ'НТКА *м.* і *ж.* Званне, якое прысвойваецца хлопцу або дзяўчыне на час вяселля. *За сватамі асустэнтаў пасадзілі: асустэнтка — гоноро-*

*вия, сукню ружовую длугую надзейшы і запятак не відаць, а асустэнт ніц варты.*

БЕЛІЗНЯ'РКА *ж.* Шафа або скрыня для бялізны. *Купілі белізнярку, бо нашая малая саўсём, не было дзе бялізну лажыць.*

БРОНЗО'ВЫ *прым.* Руды. *Па́льта мой бронзовы і каўнер, поўсць длугая на каўняры.*

БЯЗРЭНКА'ВЕЦ *м.* Безрукаўка. *Пашыла швачка бязрэнкавец, але не па мыслях: пад пахамі рэжа і моцна вонскі.*

ВАЛІ'СКА *ж.* Чамадан. *Дачка з зяцем прыяжджала ў суботу, так поўную валіску менса налажыла.*

ВАЛЭ'НКА *ж.* Тканіна на льняной аснове, тканая суконнымі ніткамі. *І тэрас у шафе качулка валэнкі ляжыць, даўней дзве сцяны выткала, так ні адна з дачок і глядзець не хоча, крамплены ім падавай.*

ВАНСА'Ч *м.* Вусач (рыба). *Вансач у восені хаваіцца пад камень, злавіць дрэнна.*

ВЖЭ'СЕНЬ *м.* Верасень. *Вжэсня дачакалася, самага меншага ў школу выправіла.*

ВІЗЫ'ТА *ж.* Наведванне, візіт. *Даўней, яшчэ пры Польшчы, цяжка было — пяць злоты доктар за візыту да хворага браў.*

ВЛО'СКІ *прым., рэдк.* Грэцкі. *Купіла ў Вільні дванасце влоскіх арэхаў, дзеці чуць галовы не паскручвалі за іх, век болей купляць не буду.*

ВО'НСКІ *прым.* Вузкі. *І сёлетнім марозам Вяйля́ не стала каля Юхневіча, вонская праталіна ад тартачняй рэчкі засталася: вада ў ей цяплейшая.*

ВЫМУРО'ВАЦЬ *зак., рэдк.* Збудаваць з цэглы. *У Стаські дом свой харошы, садок, ла́знячку вымуровал цагляную.*

ВЭ'НДА *ж.* Вуда. *У нашым озеры тыко вэндай рыбу лавіць пазваляюць.*

ВЭ'НЖЫК *м.* Шланг у насосе да веласіпеда. *А-ёй, зноў забылася вэнжык да помпы купіць, разоў з дзесяць муж наказываў.*

ВЭНЗЭ'ЛАК *м.* Клунак. *Цяперака ў адведзіны нясуць сукеначкі, матэрыялу, а даўней вэнзэлак есці тыко бралі.*

ГАВАНДУ'ЛЬСКІ *прым., рэдк.* Гаваркі. *Цётка Курыліха — гавандульская, бывае з хаты ўсе выйдуць, а яна ўсё лапоча.*

ГАЗЭ'ТА *ж.* Газета. *Газэтаў многа выпісалі сёлета, кужды дзень лістаношка свежую газэту прынося.*

ГАНШЧА'Р *м.* Гушчар. *А тутака во, у Молебясці, лес ганшчаром зросся, ні з'ехаць, ні ямы абмінуць.*

ГА'СЛА *н.* Паведамленне, слух. *Антон прынёс гасла: Міцкун васэля адлажыў, дачка захварэла, так прасіў, каб новага гасла чакалі.*

ГЛО'СНА *прысл.* Гучна, моцна. *Музыкант так глосна гавора ў трубку, што ў цілівізарах паказуя, хоць вушы затыкай.*

ГОНОРО'ВЫ *прым.* Горды. *Бранюк гоноровы, даўней лаяліся, біліся, а тэрас без фігі ні да носа.*

ГОРО'НЧКА *ж.* Гарачка, высокая тэмпература. *Дзіця яе з горончкі памярло, усё сорак з крэскамі і сорак, нічым збіць не маглі.*

ГРУ'ДЗЕНЬ *м.* Снежань. *Полюся цалы грудзень не было дома, толькі ў стычні вярнуўся.*

ГУРАНЦО'СЦЬ *ж.* Гарачыня. *Але во, гуранцосці не баіся, бярэш саганчык з сценкі рукой.*

ГЭ'НСТЫ *прым.* Густы. *А ён усё гэнстае есць — і крупы, і кашу, нігды малаком не зап'е.*

ДАКУ'МАНТ *м.* Дакумент. *Дачка дакуманты павязла, хоча на наўчыцёльку ўчыцца.*

ДАКУМЭНТА'ЛЬНА *прысл., рэдк.* Спраўна. *Дакумэнтальна ацяпліў курнік, от выгода будзя курам у маразы.*

ДВАДЗЕ'СЦЯ *ліч.* Дваццаць. *Даўней сама наймней да двадзесту гадоў хлапцы ў кавалерах хадзілі, а тэрас, глядзі во, зялёнымі жэняцца.*

ДВАНА'СЦЯ *ліч.* Дванаццаць. *Дванасця кошыкаў тата за зіму сплёў, для ўсіх унукоў на грыбы хваця.*

ДЛУ'ГІ *прым.* Доўгі. *Цяпер у длугіх сукнях дзевак толькі на васэлі ўвідзіш.*

ДЗЕ-КО'ЛЕК *займ.* Дзе-небудзь. *Грошы вышлі, дзе-колек каб пажычыць.*

ДЗІ'СЯЙ *прысл., рэдк.* Сёння. *Стакуна помню: як прыдзя, не кажа — марос сягодня, а пшымаразячак дзісяй, па-шляхецку.*

ЕЖЭ'ЛІ *прысл.* Калі. *У гаспадара служыла: так чаю ежэлі захочаш,— нап'еся. А болей нічога не даваў.*

ЁДЛА *ж.* Елка. *Ён гэтай дарогай, што ў ёдлах, і пусця кароў пад Жвікевіча.*

ЗАМАЛІДАВА'ЦЦА *зак.* Заявіцца, адзначыцца,

стаць на ўлік. *Пашпарт у Астраўцы выдалі, трэба яшчэ ў сельсавеце замалідавацца.*

ЗАПЭ′ЎНІЦЦА *зак.* Пераканацца. *Я запэўнілася: што ён ні скажа, то як зарубіць.*

ЗАСПЕ′ВАЦЬ *зак., рэдк.* Заспяваць, запець. *Заспеваць млодэй бабаў папрасілі, так, як на смех, што да аднэй безгалосыя сабраліся.*

ЗА′ФША *прысл.* Заўсёды, заўжды. *У гаспадара вазок быў, то Адвэрт, як едзя ў Быстрыцу, зафша мяне бярэ.*

ЗАЦЫРО′ВАЦЬ *зак., рэдк.* Зацыраваць. *Куды заршатка дзелася? Зацыровать шкарпэтку трэба, парвалася.*

ЗБЮ′РКА *ж.* Збор людзей. *На выгане штодзéнь збюрка была, і старыя, і малыя сыходзіліся.*

ЗГОТО′ВАЦЬ *зак., рэдк.* Згатаваць. *Як станеш малаціць днём — аж да вечара, а тады вячэру зготоваць, папрасць, а тады спаць.*

ЗГО′ДНЕ *прысл.* Згодна. *Згодне жыюць па васэлі, дай бог, каб і далей так ішло.*

ЗДА′ЙСЯ *прысл.* Здаецца. *І здайся смачныя крупы, а ня хоча ніхто есці.*

ЗД'Е′НЦЯ *н.* Фатаграфія. *Зд'енця свайго дзявоцтва ў шафе знайшла, ачам не паверыла сваім, аж слёзы ў ачах сталі.*

ЗЛО′ТНІ *прым.* Залаты. *Прэміі камбайнёрам давалі, майму прэзэнту далі злотні загáрак.*

КАПАЛЮ′Ш *м.* Капялюш. *Помню, Тафіля насіла капалюш, полы закручастыя, сам чорны, а сукні — звычайныя, найбальшынство блюзкі-бабэшкі і спадніцы.*

КА′РТА *ж., рэдк.* Чысты ліст пісчай паперы. *Але вы не ашчаджаеце паперу, усюды карты валяюцца, эта ж пісьмо можна напісаць ці яшчэ што.*

КАРТАФЛЯ′НЫ *прым.* Бульбяны. *Этая кýжды раз картафляных бліноў прося, а бульбу скрабáць саўсём не хоча.*

КВА′РТАЛ *м.* Чацвёртая частка якой-небудзь меры. *Калі сват добры, то квартал водкі прывязе і дзеліць па чарачцы з бутэлькі.*

КВЕ′ЦЯНЬ *м.* Красавік. *Яшчэ квецянь, а цёпла, бацяны прыляцелі.*

КОЛЕ′ЙКА *ж.* 1. Чарга людзей, якія чаго-небудзь чакаюць. *Вялікая колейка ў магазыне за селядцамі была,*

*я чакаць не стала.* 2. Дзеянне паводле чаргі. *У пёнтак трэба будзе колейку адпасціць мне.*

КОНТЭ'НТНЫ *прым., рэдк.* Задаволены. *На васэлі тры ручнікі далі музыкантам, такія контэнтныя яны былі.*

КРУЛЬ *м., рэдк.* Кароль. *На відочку намалявана было: круль на шэрым вайку царэўну вязе.*

КРЭ'ДЭНС *м.* Буфет, сталовая мэбля. *У нядзелю свабодным часам прыбрала ў крэдэнсе, так усё, што год траціла, пазнахадзіла.*

КСЁНЖКА *ж.* Кніга. *Памыж сабой яны па-літоўску гавора, так Дануся кажа: «Куплю ксёнжку і буду ўчыццa, як відзіш, наўчуся і я гаварыць па-іхнаму».*

КУКА'РДА *ж.* Бант. *Тэрас такія самыя блюзкі-бабэшкі носяць, тыко́ даўней у стане з абодвух бакоў стужкі кукардамі завяжаць, а тэрас паскам падпяра́зуюцца.*

КУЛЕ'ГА *м.* Сябар. *І кулегі ж падабраўшыся: хоць на адну валасінку́ павесіў бы, адзін другога не перацягнуў бы.*

КУЛЭ'ЧКА *н.* Маёўка, урачысты збор людзей. *Перад танцамі маладзяж у кулэчка збіралася: спявалі, гулялі,— от васола было.*

КУПЭ'РТ *м.* Канверт. *Вазьмі ты купэртаў на почце, дачка пісьмо прыслала, адпісаць трэба.*

КУ'ФАЛЬ *м., рэдк.* Вялікі кубак. *От у мяне харошы куфаль, такі зрэнчны, чуць мней за паўлітра ў яго ўлазя.*

ЛА'ТВА *прысл.* Зручна, добра. *Латва, талакой мнём лён, так спорна і не надаесць.*

ЛЁЗНЫ *прым., рэдк.* Нейтральны, вольны, свабодны. *У мяне толькі лёзныя карты, казыроў няма ні аднаго.*

ЛІ'ПЯЦ *м.* Ліпень. *Пшчолы зафша рояцца ў ліпцы, як ліпа́ квітня.*

ЛІСТО'ПАД *м.* Лістапад. *Ён зафша на ўрлёп прыяжджая, тэрас пісаў, што на цалы лістопад прыедзя, толька б зімна не было.*

ЛУ'ТА *ж.* Лот, старая мера вагі, роўная 12,8 грама. *Мела луту фарбы чорнай, якраз хваця вайлакі пафарбаваць.*

МАДЛІ'ТВА *ж.* Малітва. *Мадлітваў многа знала, на куждае свята, а тэрас пазабывалася.*

МАЛЯНКО'СЦЬ *ж.* Маленства. *Рабілі ў Тафілі: Броня ад малянкосці там была і нічагуткі не ўзяла за работу, а Зоні за рок тая дала дзесяць тысяч на старыя на хату.*

МА′МКА *ж.* Соска, якая нацягваецца на бутэльку. *Ягнюк ня п'е з вядра, трэба мамку купіць, можа з бутэлькі будзя.*

МАНА′РКА *ж.* Пінжак, кароткая верхняя мужчынская вопратка. *Дайней у каго манарка і шарачковыя порткі — та баатыр.*

МА′ПА *ж., рэдк.* Геаграфічная карта. *На мапе пакажы, як мне даехаць да Рыгі, а то я й не ведаю, у якім яна баку.*

МЕ′ЙСЦА *н.* Месца. *Як алей гоня з маку, то макуху зафша на мейсцы з'ядая, назад да хаты не нясуць.*

МІ′РТА *ж.* Мірт, хатняя расліна (сімвал дзявоцтва, кахання, вернасці). *Харошую мірту Стася з Вільні на вянок Ядзюні прывязла, яшчэ — букет, кляты і стужку.*

МЛО′ДЫ *м., рэдк.* Жаніх. *Спяваць млодэ́му не спявалі, абы песню спяваць не гадзіцца, а васэльнай ніхто не знай.*

МУЖЧЫ′ЗНА *м.* Мужчына. *Мужчызна мужчызну розьнь: другі паеў і на работу, а гэты пільнуе, як адвярнуся — шмыг і на печ.*

МЭ′НЧЫЦЬ *незак.* Мучыць. *Нашто маеш, Сяліцкая, мэнчыць сябе, нашто па дзве змены рабіць, і так пастрашнейшы.*

НАЗВІ′СКА *н.* Прозвішча. *Назвіска млодэ́го — Паўловскі, іменя — Францішак.*

НАСТА′ЛЕ *прысл., рэдк.* Рашуча, цвёрда, настойліва. *З Заборцай брат настале крычай, каб ішла замуж, з хаты збірайся выгнаць, а я настояла, каб аднеслі грошы, лепяй у дзейках сядзець, чым жыць абы з кім.*

НО′ЦНЫ *прым., рэдк.* Начны. *З фэрмы ноцнага стоража адпуская, калі дняйны прыходзя.*

ОБУ′ВЯ *н.* Абутак. *Бандыты качаргой з-пад ложка обувя сабралі, у шуфлядах адзеня, старызну — усё забралі.*

О′ЙЦЕЦ *м.* Бацька. *Жых, прыяжджая на панадворак сваты. Тады я схадзіла па ойца, мамусю, па братой,— ну і злажылі васэля.*

О′ПРУЧ *прысл.* Апрача. *Опруч нашых гасцей на васэлі і мінскія былі.*

О′СЕМ *ліч.* Восем. *Бабця хварэе часта, так я купіла осем банак: сама не стайлю, а хлопец найчыйся і так спрытна ставіць, чатыры з аднаго боку плячэй, чатыры з другога.*

ОСЕМНА'СЦЕ *ліч.* Васемнаццаць. *Осемнасце рублей тата ўзяў у чэрвцы за венікі, Франя — тыко́ шаснасця рублей, а ў мяне выходзя пятнасця з капейкамі.*

ПАГАВЭ'НДЗІЦЬ *зак., рэдк.* Пагаварыць. *Ганэчкі няма, няма з кім пагавэндзіць, як прыдзя, зафша раскажа, што ў газэтах піша.*

ПАГУ'РАК *м.* Узгорак. *На пагурку, высока так, схаваная сястра яе, а ў даліндзэ пахаваныя Ташлінскія.*

ПАДРУ'ЖА *н., рэдк.* Падарожжа. *Тры кулегі с падружы прыехалі: яздзілі па Вяйлі на каяко́х, аж да Немана былі даплыўшы.*

ПАЖЫ'ЧЫІЦЬ *зак.* Пазычыць. *Анагда́й пажычыла пруткі, хацела рукавіцы рабіць, аж тут часу няма, мусі трэба аднясці назад.*

ПАЗДЗЕ'РНІК *м.* Кастрычнік. *У осені, ці не тыко ў паздзерніку, Кежунчу́к як ахнуў з дрэва, так длуга адысці не мог, і Новы рок спатыкаў у шпіталі.*

ПАЗІМНЕ'ЦЬ *зак.* Пахаладаць. *Як пазімнела, ператалі нясціся куры, здайся ў курніку цёпла, а не нясуцца.*

ПАЗЮ'МКА *ж.* Суніца. *Пазюмкі ў чэрвцы спеюць, у канцы мая яны толькі квітня,— няма чаго па іх ісці, тыко час марнаваць.*

ПАМАРА'НЦ *м., рэдк.* Апельсін. *Стаська з Мінску памаранцаў прывёз, аднекуль жа іх прывозя, у нас не растуць, зазімна.*

ПАМАРАНЧО'ВЫ *прым.* Аранжавы. *Ніяк не падбяру памаранчовых нітак да свэтра, хацела дзюрку на локці зала́таць, ужо і фарбавала чырвонай з жолтай фарбай, аля не такія вышлі.*

ПАМЕ'НДЗЫ *прысл.* Між, паміж. *Этая не разышлася з Алёхнам, так памендзы двух мужчызнаў і валэндаецца.*

ПАМО'ЦНІК *м.* Памочнік. *На свінарніку рабіла, і памоцнік быў, усю работу памагаў рабіць.*

ПАМЫСНО'СЦЬ *ж., рэдк.* Толк, адпаведнасць жаданаму. *Няма з яго жонкі памысносці: пад заложнікам тыдзень часу саганчыкі, бляшаначкі закажанеўшы бадзяліся, ні яна іх памыла.*

ПА'НШЧЫЗНА *ж.* Работа на пана ў час прыгону. *Бонюсь хадзіў на паншчызну, а тата быў пры хаце.*

ПАЎТАЛЕ'ЖЫК *м.* Сподак. *Мядніца была нажоў адных, а відэльцы яшчэ, паўталежыкі,— эта ж куждаму муся быць паўталежык.*

ПАХНО́НЦЫ *прым.* Пахучы. *Часнаку і перцу замала палажылі,— пахнонцай трэба рабіць кілбасу.*

ПЕ́РНІК *м.* Самаробны выраб з цеста з мёдам, коржык. *Лявоська некалі з прэснага цеста пякла пернікі, коней на іх малявала,— во радосці было дзяцём такія пернікі есці.*

ПЁНТАК *м.* Пятніца. *Зафша ў пёнтак даўней пасцілі, а ў чвартак і нядзелю елі кашу засквaранай.*

ПЁНТРА *н.* Паверх. *Дамы ў Вільні тэрас высокія будуюць, яны на другім пёнтры жыюць, а над імі яшчэ пяць ці шэсць пёнтраў.*

ПЛО́МЯ *н.* Полымя. *Сяменя для алея пража ў брытванох проці пломя, глядзяць, каб не падгарэла, бо алей нясмачны будзя.*

ПОКРО́ВЕЦ *м.* Чахол для коўдры. *Шыла на коўдру покровец, але зацесны, буду адзяваць на адзіяла.*

ПО́ЧТА *ж.* Пошта. *Пачтарка перадавала, каб забіралі пасылку з почты, длуга ўжо ляжыць яна там.*

ПШАШЛАРО́ЧНІ *прым.* Прашлагодні, мінулагодні. *Дровы пшашларочнія сухія, а ў сялетнія наквасіла дажджу, так тыко падняць шчапанік.*

ПШЫМАРАЗЯ́ЧАК *м., рэдк.* Невялікі мароз, прымаразак. *Туманамі не пабіла, зімном, а тут за адну ноч пшымаразячак начыста зглушыў памідоры.*

ПЯТНА́СЦЯ *ліч.* Пятнаццаць. *На сценым загарку без пяці сёмая гадзіна, а на ручным — без пятнасту.*

РАЗМАІ́ТЫ *прым., рэдк.* Разнастайны. *Вязуць у адведзіны размаітае: касцюмчык дзіцяці, з яды што-колек піць, есці,— тыко бабы адныя едуць.*

РАСПЛО́ШЫЦЬ *зак.* Напалохаць, паразганяць. *Сабака як расплошыў куры, так дзе адна паразляталіся, яшчэ і тэрас пятух кукарэкае.*

РОДЗІ́НА *ж., рэдк.* Сваякі. *У яе было пяць братоў і сястра, а тэрас яшчэ іх дзеці, як збяруцца калі — отó вялікая родзіна.*

РОК-РО́ЧНЯ *прысл.* Кожны год, з году ў год. *Рок-рочня часалі воўну, як астрыжом авечак у восені, яшчэ веснавую даложым і вязём чахраць.*

САДЗО́НКА *ж.* Сажанец. *Пшашларочнія садзонкі штыбна так стаяць, а сёлета зноў садзіць будзім.*

СВІ́ДАР *м.* Свярдзёлак, бур. *Я мела длўгі свідар, ім добра дзюры ў сцяне свідраваць.*

СЕ′ДЫМ *ліч.* Сем. *Нам кужды раз на сюдмы дзень пáсціць карой, зафша прыпадае ў пёнтак.*

СЕДЫМНА′СЦЯ *ліч.* Семнаццаць. *Седымнастага чэрвца я радзілася, якраз самае цяпло было.*

СЕ′РПЕНЬ *м.* Жнівень. *У серпні жаць трэба было, і баравікі якраз растуць, так тыко дзеці і збіралі іх.*

СІФО′Н *м.* Адгон, абястлушчанае малако. *Як зачне свякруха карміць сіфонам і сіфонам, смятану з маслам згноя, а ня дасць.*

СКАЎРО′НАК *м.* Жаваранак. *Ужо ў кветні скаўронка пачуць можна, яны рана прылятаюць.*

СЛАНЭ′ЧНІК *м.* Сланечнік. *Ладны вырас сланэчнік у гародзе, і семкі буйныя такія.*

СЛО′НЦА *н.* Сонца. *Пазюмкаў сёлета няма, увесь пазюмнік пасох ад слонца, эта ж адны ўпалы, а дажджу няма.*

СЛУЖО′НЦЫ *м.* Парабак. *Я служонцым быў ад малянкосці, перш ў Шэмеса карой пасціў, а тады мяне ўзяў Стафановіч.*

СМО′ЧАК *м.* Соска. *Смочкаў унукáм не напараішся, як пажаніла дзяцей, так і купляй, баба, смочкі.*

СПАРО′НДЗІЦЬ *зак.* Падрыхтаваць да чаго-небудзь. *Покі пліту спарондзіла: дровы злажыла, саганы паставіла, то Чэся нашаткавала міску капусты.*

СПРАЗАНТАВА′ЦЬ *зак.* Падарыць. *Нашы ў падарку маладым загарак спразантавалі, а найболей — грошы лажылі.*

СПРО′НЖКА *ж.* Спражка. *Недзе ў яшчыках бадзяіцца твая спронжка ад паска, прышыць трэба да яго, тады не будзе трацішча.*

СПУ′ЛЬНА *прысл.* Супольна, разам. *Спульна з Вéйкнісіхай ручнікі збіраліся ткаць: мая аснова, яе ўток, а ручнікі — папалам.*

СТЫ′ЧАНЬ *м.* Студзень. *Стычань тэрас зафша бес снегу, даўней так роўна с плотам наверня.*

СФАЛЬГАВА′ЦЬ *зак.* Аднесціся нядобрасумленна. *На васэлі музыканты ані мінуткі не сфальгавалі: то гралі, то спявалі, а для таго — сталыя людзі.*

СЭЙМ *м.* Сход. *На сэйм усе ідуць, бо зная, што сэйм ухваля, тое і будзя.*

ТЭ′НГА *прысл.* Туга, шчыльна. *Танжэй рабіла б кілбасы, а то зарэдка выходзя: відзіш, мягкія і духу многа.*

ТАНО′НЦЫ *м.* Чалавек, які тоне. *Танонцага трэба*

*за валасы цягнуць з вады, а то ён за ўсё хватаіцца, каб толькі мець ратунак.*

ТА'НЧЫЦЬ *незак., рэдк.* Танцаваць. *Танцы рузныя танчылі: краковяка, польку.*

ТОЦ *м.* Паднос. *Напечана сухаркаў размаітых: і рудушкі, і кваты, панасыпаны тоцы, з іх і на сталы раскладуя.*

ТУРЭ'ПКА *ж., рэдк.* Невялікая жаночая сумачка. *Парвалася турэпка мая, так усюды вялікую сумку цягаю.*

ТШЫДЗЕ'СЦЯ *ліч.* Трыццаць. *Тата па тшыдзесця сенікаў звязуя разам, тады зрэнчна лічыць копамі.*

ТШЫНА'СЦЯ *ліч.* Трынаццаць. *Па дзесяць сантымэтраў шырынёй доскі і па тшынасця бяруць на падлогу.*

ТЭ'РАС *прысл.* Цяпер. *Тэрас не даруюць, прыходзяць прошаныя сваты і дружкі і падаюць, а даўней маладых садзілі на кут і даравалі.*

УРЛЁП *м., рэдк.* Водпуск, адпачынак. *Нашто мне зімой урлёп здаўся, гаворыць, я лепяй летам вазьму, так хоць у Вяйлі памокну.*

ФАТЫ'ГА *ж., рэдк.* Натхненне. *Бабы жалі за фатыгу, тады ў суботу раней гаспадыня пускала да хаты, а плата была тая самая.*

ХУЛЕ'РА *ж.* Халера. *Даўней ад хулеры многа памірала, так у нашай вёсцы кросны ад яе ткалі: мужчызны за дзень кросны зробяць, а бабы прадуць, снуюць, потым ткуць, і тады ўсе разам абнося кругом вёску палатном і ложа яго на крыжавыя дарогі, тады, кажа, хулера ў вёску не зайдзя.*

ЦУ'КЕР *м.* Цукар. *Здаўна калі ж елі цукер, сахарынай трохі прысалодзя, млекам прыбеля, і салодкая кава была.*

ЦУ'РКА *ж., рэдк.* Дачка. *Тэрас не заві дачку цуркай, ня хоча, злуецца, а гэта ж далікатнéй.*

ЦЯНЖА'РНАЯ *прым.* Цяжарная. *Яна была ўжо цянжарная, як з работы яе прагналі, пахадзіла па людзях і вярнулася да Ташлінскага, для таго прыняў, і дзіця гадаваць памог.*

ЧВАРАГРА'НЫ *прым.* Чатырохвугольны. *Помню матычкай чвараgranай капалі дзярно, каб ямка роўная была, і садзілі садзонкі, а тэрас куштуром ямку робя.*

ЧВАРАНІ'ТАК *м., рэдк.* Від палатна, у якім атрымліваецца пры дапамозе чатырох нітак з асновы ўзор у

ёлачку. *Адтыкая палатно ў ёлачку або чваранітак, каб буйнейшы ўзор быў, наводзя ў чатыры нічальніцы, а то і болей.*

ЧВА'РТАК *м.* Чацвер. *У чвартак да млына́ не едзь, бо не будзя каму малоць: млынар адзін не хоча, а ў падмельшчыка дачка нарадзілася, не да гэтага будзя,— ужо па нядзелі едзь.*

ЧВЯ'РТКА *ж.* 1. Пасудзіна ў чвэрць літра. *Чвяртку з млекам бяру кужды раз на работу.* 2. Чацвёртая частка чаго-небудзь. *Чвяртка бульбоўніку ў колы не ўлезла, яшчэ раз з'ездзіць трэба будзя на поле.*

ЧТАРДЗЕ'СЦЯ *ліч.* Сорак. *На чтардзесты дзень па погжэ́бе пякуць саракі.*

ЧТАРНА'СЦЯ *ліч.* Чатырнаццаць. *Чтарнасця гадоў бацька быў лесніком, затое на пятнастым року стаў ляснічым.*

ЧЭ'РВЕЦ *м.* Чэрвень. *Пшэшлым року ўвесь чэрвец дажджы ішлі, зімна: памідоры як усунула ў маі ў зямлю, так яны за месяц і не падраслі.*

ША'РПАЦЬ *незак.* Рваць, абіраць пух з птушынага пер'я. *Пёры збіраліся шарпаць на падушкі па кулейцы, як уздыхне каторы з хлапцоў па бацьку, так ні аднэй пяры на стале не застанецца, тыко аксцюкі ляжаць.*

ШАРУ'ФКА *ж.* Змяркание, змрок. *Хлапцы шаруфкай ляцелі на танцы, эта ж сцямнее, пакуль яны ў клуб да́йдуць.*

ШАРЭ'НГ *м.* Шарэнга. *Ішлі школьнікі шарэнгам, спявалі — усе роўненька пастаўшы, аж харашо паглядзець.*

ШАСНА'СЦЯ *ліч.* Шаснаццаць. *Маю шаснасця курэй, седымна́сты — пятух.*

ШПІТА'ЛЬ *м.* Бальніца. *Адэля ў шпіталі ляжыць, плюцы хворыя прызнаюць.*

ШПРЫ'КА *ж.* Спіца. *Янук захацеў пад'ехаць да Мячука на ровары, так шпрыкі ў коле патраціў, вышла, што ровар на ім прыехаў.*

ШЧУРА' *ж.* Мыш. *Нашая котка малёнькая, а шчуру злавіла і тэрас сядзіць каля норкі — пільнуя.*

ШЧЫПЁРА *ж.* Пяро цыбулі. *Цыбулю рана садзіла, а шчыпёры яшчэ малыя, няма што шчыпаць.*

ЯДЫ'НА *ж.* Ёд. *Калі няма ядыны, можна крываўнік прылажыць, кроў натыхмяст перастане з раны ісці.*

*П. А. Міхайлаў*

# НАЗВЫ ГЛІНЫ Ў БЕЛАРУСКІХ ГАНЧАРОЎ

У мове беларускіх ганчароў матэрыял, з якога вырабляюць глінянае начынне, мае адну агульную назву — *гліна* (фанетычнае *глына* — 19[1]): *Для простай пасуды гліну бралі ў лесе* (2). *У нас цьвёрдая гліна, як у чугунох вáрыш* (3). *Пашла гліна слоем, тут ест, а тут ужо выйшла* (16). *Ідзём у Глінкі* (тапонім), *робімо яму метра поўтора пока до гліны* (20). Пашырана слова *гліна* ў падобным значэнні і ў звычайным ужыванні ў народнай мове. Аднак у некаторых месцах зафіксавана ў значэнні 'гліна' слова *глей* (матэрыялы картатэкі Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак, далей скарочана ЛАБНГ, вв. Лугі Шаркоўшчынскага, Вераб'і Полацкага, Брусы Мядзельскага, Антаполле Чашніцкага, Касцянёва Шчучынскага, Забалацце Мсціслаўскага, Ушакі Чэрыкаўскага, Дзем'янкі Добрушскага, Струга Столінскага, Стадолічы і Маркоўскае Лельчыцкага раёнаў). На думку этымолагаў, лексемы *гліна* і *глей* — роднасныя па сваёй старажытнай аснове ((і.-е. **glei-, *gli-,* 'клей', 'нешта слізкае') [2]. Магчыма, што беларуская рэгіянальная лексема *глей* у значэнні 'гліна' — гэта досыць архаічная з'ява.

Адной з галоўных якасцей гліны, на якую ў першую чаргу звяртаецца ўвага ганчароў пры яе нарыхтоўцы, з'яўляецца пластычнасць, вязкасць (кансістэнцыя). У залежнасці ад гэтага ганчары выдзяляюць тры разнавіднасці гліны: вельмі высокай вязкасці; нязначнай вязкасці (недастатковай з пункту погляду яе прымянен-

---

[1] Лічбамі абазначаюцца абследаваныя пункты. Спіс гэтых пунктаў пададзены ў канцы артыкула.

[2] Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. М., 1964, т. I, с. 411—412 і інш.

ня ў ганчарнай справе) і гліна сярэдняй або менавіта той вязкасці, якую яна павінна мець для вырабу посуду.

Першую разнавіднасць гліны ганчары шырока выкарыстоўваюць у сваёй рабоце, паніжаючы яе кансістэнцыю за кошт дабаўлення пяску, попелу, гліны з нязначнай вязкасцю і г. д. Такая гліна мае пераважна складаныя назвы ў выглядзе словазлучэнняў назоўніка *гліна* з прыметнікамі: *тлýстая, жы́рная, грунтавáя, гóстрая* і *вáркая.* Найбольш ужывальнымі з пералічаных прыметнікаў з'яўляюцца *тлýстая* і *жы́рная.* Назвы з гэтымі прыметнікамі тэрытарыяльна супрацьпастаўляюцца адна адной: назва *тлýстая гліна* адзначаецца ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях, а *жы́рная гліна* зафіксавана на астатняй тэрыторыі БССР: *Тлуста гліна, як одрэжэш, на лопáццы вонá, як масло* (9). *Тлусту гліну шмульні пальцэм, то гладка* (16). *Тлуста гліна, як сало, як лой* (20). *Ля ганчарнай пасуды бралі толькі жырную гліну* (2). *Даецца пясок, калі гліна жырная* (11). *Берэ́ш у пальцы гліну, покачаеш і чуствуеш: жырна гліна, клеіцца* (17).

Такое ж прыблізна тэрытарыяльнае супрацьпастаўленне маюць прыметнікі *тлусты* і *жырны* і ў агульным значэнні 'рэчыва, значна насычанае тлушчам, з вялікай колькасцю тлушчу' (матэрыялы картатэкі ЛАБНГ).

Складаныя назвы з іншымі прыметнікамі адзначаны ў паасобных ачагах ганчарства: *гóстрая гліна* — 12; *вáркая гліна* — 12; *грунтавáя гліна* — 13.

У ганчароў Гомельшчыны ў гэтым значэнні выступае слова *глей: Глей — жырная гліна, верхняя гліна* (22). *Глей жоўты, мáзкі, жырны* (23).

Гліна нязначнай вязкасці радзей выкарыстоўваецца ў ганчарнай рабоце. Яна ў асноўным з'яўляецца дадатковым матэрыялам. Яе дадаюць да гліны высокай кансістэнцыі, каб надаць сыравіне неабходную вязкасць. Абазначаецца яна таксама пераважна складанымі назвамі ў выглядзе словазлучэнняў прыметнікаў са словам *гліна: худáя, пóсная, пустáя, пешчáная, пішчáная, пешчанáя, пішчанувáтая, шóрсткая, прэ́сная, слабáя, толокня́ва, благáя, туповáта, жвіравáта, нежы́рна.* Часцей за ўсё ўжываюцца прыметнікі *пóсная* і *худáя.* Прыметнік *пóсная* адзначаецца ў асноўным на поўначы і паўночным усходзе Беларусі (1, 2, 3, 4, 5, 6, 14, 23): *Посная гліна як бес сала сёроўнó. Посная гліна россыпаецца* (3).

*Посная гліна толькі на печы ідзе* (2). Пашырэнне прыметніка *по́сная* ў спецыяльным значэнні ў мове беларускіх ганчароў супадае ў асноўным з тэрыторыяй пашырэння яго ў звычайным ужыванні з агульным значэннем 'непрыпраўленая страва' (матэрыялы картатэкі ЛАБНГ).

Прыметнік *худа́я* адзначаны ў ганчароў заходняй часткі Беларусі (8, 9, 10, 11, 13, 17, 18), а таксама ў г. п. Стрэшын Жлобінскага раёна: *Худая гліна сіва, вона не боіцца огню* (18). *С худое гліны нічого не выцягнеш, вона садзіцца. Худая гліна, як покачаеш у пальцах, россыпаецца* (17). *Худая гліна вона слабая* (22).

Адсутнасць у гліне дастатковай вязкасці ганчары звязваюць нярэдка з наяўнасцю ў ёй вялікай колькасці пяску. Гэтым, відаць, і можна тлумачыць, што ў некаторых ачагах ганчарнай вытворчасці гліна нізкай кансістэнцыі мае назвы ў выглядзе словазлучэнняў назоўніка *гліна* з прыметнікамі *пешча́ная* (21, 22); *пешчана́я* (16); *пішча́ная* (15); *пішчануватá́я* (15).

Ганчары Пружан і в. Ганевічы Клецкага раёна абазначаюць падобную гліну складанай назвай з прыметнікам *пуста́я.*

Назвы з іншымі прыметнікамі зафіксаваны ў асобных ачагах ганчарнай вытворчасці: *Толокня́вое гліны накопай, нэ можна робіть горшкоў. Чорну гліну добаўляють, як гліна толокня́ва. Тупова́та гліна, а трэба жірна, коб тягло́с, за гэто тяжко робіты* (20). *Блага́я гліна не будзе цьвёрдая, благая рассыпалася. З нежырное гліны зробі горшка́ — будзе немоцны* (9). *Як накапаеш два во́зы тлустое гліны, то шукаеш воз-два шо́рсткае гліны* (16); *жвірава́та* — 7; *прэ́сная* — 5; *слаба́я* — 10.

У паасобных ачагах ганчарнай вытворчасці гліна нязначнай вязкасці мае назву *глей: Глей на палец ляжаў, вельмі посная гліна, пыльца́* (6). *Глей выкідаюць, белаваты, сівы, рэткі, з яго ніхто нічога не рабіў* (7). *Глей — гліна такая, не годна к рабоце, не цягнуўся нічога, раставаў у руках, гэта гліна недобра* (13). *Глей — посная гліна, нежырная гліна. Глей можна толькі мяшаць у жырну гліну* (14). Гараднянскія ганчары гліну нязначнай вязкасці завуць таксама *толокно́* (20).

Гліна сярэдняй кансістэнцыі мае спецыяльную назву ў двух ачагах ганчарнай вытворчасці: у в. Гарадная Столінскага раёна такую гліну называюць *саморо́бка,* а

ў г. п. Ружаны — *срэ́дня: Саморобка — попадэш на такі слôй, шо до êê не трэба ніяка гліна,с самое роблять* (20). *Гліна должна́ быць срэдня — і не тугая, і не слаба́я ў гончарской робоці* (17).

Сваю асобную назву ў мове ганчароў некаторых абследаваных ачагоў ганчарнай вытворчасці мае верхні слой гліны ў кар'еры: *верхня́к* — 6; *верхаво́дка* — 14, 17; *ве́рхніца* — 13.

Мае гліна свае спецыяльныя назвы ў ганчароў у некаторых месцах у залежнасці ад яе выкарыстання. У ганчароў г. п. Івянец Валожынскага раёна ганчарная гліна называецца *ганча́рка*, а пячная — *печо́ўка*. Адзначана таксама назва *пячу́га* 'пячная гліна' (12). Акрамя гэтага, у в. Гарадная Столінскага раёна занатавана яшчэ назва *о́піска*. Гэта спецыяльная гліна чырвонага колеру, якой пакрывалі посуд зверху перад абпальваннем. Яна, па словах ганчароў, мае самую лепшую і высокую якасць, надае ганчарным вырабам прыгожы колер. Падобную гліну чырвонага колеру ганчары на Гомельшчыне называюць *ма́ргун*. Але яе не выкарыстоўваюць для паліўкі посуду: *Маргун — гліна такая іржавая, як кірпіч красны, іржавая* (22).

Вельмі тонка дыферэнцыруецца гліна ў беларускіх ганчароў у залежнасці ад прысутнасці ў ёй арганічных і неарганічных дамешак, якія істотна зніжаюць яе якасць. Спецыяльнай апрацоўкай ганчары звычайна імкнуцца пазбавіцца ад іх. Гліна з дамешкамі абазначаецца складанымі назвамі ў выглядзе словазлучэнняў назоўніка *гліна* з прыметнікамі: *бузайна́я* — 7; *зало́зліва, зало́зіста, камэні́ста* — 18; *вапе́льная* — 8; *маргалі́стая* — 5; *брако́ўна — 9; скалі́стая* — 14; *струплі́ва, крупцава́тая, жы́лавіста* — 23, а таксама словазлучэннем двух назоўнікаў: *глі́на сь сьме́цем* — 17. А многія ганчары называюць яе проста *нечы́стая глі́на* — 2, 7, 14, 17; *недо́бра гліна, бру́дна глі́на* — 16.

Назвы гліны з дамешкамі, у прыватнасці прыметнікі ў словазлучэннях, якія выступаюць у якасці назваў, цесна звязаны па асновах са словамі, якімі ганчары называюць самыя дамешкі. Падобныя дамешкі ў ганчароў маюць агульныя і канкрэтныя назвы.

З агульных назваў дамешак найбольш пашыраным з'яўляецца слова *сме́цце*, якое вядома і ў звычайным ужыванні: *сьме́це* — 8, 13, 16, 17; *сьме́цьце* — 23; *сьмяць-*

